


**www.facebook.com/knihizhrodna**

*ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА прысвячаецца той Гародне, якой мы ганарымся.*

*Дзякуем усім, хто з намі.*

---

**Каардынатар кніжнай серыі «ГАРАДЗЕНСКАЯ Б1БЛ1ЯТЭКА»:**

Павал Мажэйка (p.mazheika@gmail.com)

**Ідэя серыі:** Эдвард Дмухоўскі

---

**Аўтар:** Мікалай Быхаўцаў

**Навуковы рэдактар:** Генадзь Семянчук, кандыдат гістарычных навук

**Карэктар:** Алена Садоўская

**Вокладка:** Ірына Саранчукова

**Ілюстрацыі** на вокладцы і ў кнізе, прадстаўлены аўтарам

Даследаванне прысвечана паўстанню 1863-1864 гадоў у Ваўкавыскім павеце і абапіраецца на дакументы з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне, Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Вільні, а таксама на іншыя крыніцы. Большасць з архіўных крыніц апублікавана ўпершыню, што само па сабе з'яўляецца каштоўнасцю для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю.

# АД АЎТАРА

Дадзенае **даследаванне** прысвечана паўстанню 1863-1864 гадоў у Ваўкавыскім павеце, тэрыторыя якога на працягу ўсёй гісторыі Гродзенскай губерні была неад'емнай яе часткай. Тагачасны Ваўкавыскі павет, як спадчына адміністрацыйййных падзелаў часоў Вялікага Княства Літоўскага, быў значна большы за сучасны раён. У перанясенні на сёняшнія межы ён ахопліваў поўнасцю тэрыторыю Ваўкавыскага, Свіслацкага раёнаў, часткова Мастоўскага (Пескі, Бялавічы, Вялікая Рагозніца), Зэльвенскага (Зэльва, Крамяніца, Міжэрычы), Бераставіцкага (Стары Дворац), Пружанскага (Лыскава, Магілёўцы) і гміну Ялоўка Падляшскага ваяводства Польшчы.

Вузкія тэрытарыяльныя рамкі даследавання, на погляд аўтара, маюць пэўную перавагу, бо дазваляюць засяродзіць увагу на самых звычайных дробязях, якія ў выніку і даюць найлепшае ўяўленне аб падзеях. Разам з тым для больш поўнага ўспрымання паўстання аўтару прыйшлося звярнуцца да вядомых падзеяў таго часу. Спадзяюся, што прапанаваная кніга будзе цікавая не толькі жыхарам Ваўкавышчыны, але і ўсім чытачам, якія цікавяцца гісторыяй Беларусі, і ,ў прыватнасці, паўстаннем 1863 года.

Даследаванне абапіраецца на дакументы з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне, Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Вільні, а таксама на іншыя крыніцы. Большасць з архіўных крыніц апублікавана ўпершыню, што само па сабе з'яўляецца каштоўнасцю для чытачоў і гісторыкаў. Усе прыведзеныя ў кнізе даты дадзены па старым стылі, а ў некаторых выпадках паказваюцца дзве даты. Самі дакументы, дзе гэта ўяўляе несумненную цікавасць для чытача, набліжаны да арыгінальнага выкладу. Пераважная большасць крыніц паходзіць з дзейнасці следчых, судовых, паліцэйскіх і вайсковых інстытуцый Расійскай імперыі на тэрыторыі Гродзенскай губерні, таму ў дакументах сустракаецца адпаведная лексіка – “шайкі”, “мяцежнікі”, “бандыты”, “злачынцы” і г.д.

Хоць аўтар над напісаннем кнігі працаваў каля васьмі гадоў, але не абышлося без дапамогі прафесійных гісторыкаў. Асабліва шчырую падзяку аўтар выказвае гродзенскім гісторыкам, кандыдатам гістарычных навук Генадзю Семянчуку і Аляксандру Радзюку. Дзякуючы іх каштоўным парадам і заўвагам па тэксце кнігі аўтару ўдалося пазбегнуць некаторых памылак, а

саму кнігу зрабіць значна цікавейшай. Асобная падзяка супрацоўнікам Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне, якія на працягу ўсяго часу працы аўтара ў архіве з павагай і памяркоўнасцю ставіліся да запытаў правінцыйнага краязнаўцы з Ваўкавыска, дапамагаючы яму ў падборы патрэбных дакументаў. Асаблівыя словы падзякі кандыдату філалагічных навук Алене Садоўскай за цудоўны пераклад рускамоўнага рукапісу на беларускую мову.

Польскі гісторык і метадолаг Ежы Тапольскі ў свой час адзначыў, што мінулае як аб’ектыўную рэчаіснасць, немагчыма адлюстраваць ці нават рэканструяваць, таму нам застаецца гэтае мінулае толькі канструяваць. Прапанаваная чытачам “канструкцыя” падзей студзеньскага паўстання на Ваўкавышчыне з’яўляецца поўнасцю нашай, і за ўсе не выяўленыя намі сюжэты і падзеі, а таксама магчымыя недакладнасці і ўласныя інтэрпрытацыі адказнасць кладзецца толькі на Аўтара.

# НЕПАКОРЛІВЫЯ

Адмена прыгоннага права ў 1861 г. на тэрыторыі Расійскай імперыі прывяла да грунтоўных зменаў у сацыяльным, гаспадарчым і палітычным жыцці насельнітцва Беларусі. Татальны прыгон, як адна з формаў узаконенага рабства, быў перанесены ў наш край расійскай акупацыйнай уладай у канцы XVIII ст. Ён праіснаваў да 19 лютага 1861 года, калі расійскі імператар Аляксандр II падпісаў Маніфест аб вызваленні сялян ад прыгоннай залежнасці. Акрамя «Агульнага палажэння аб сялянах, якія выйшлі з прыгоннай залежнасці», самадзержац зацвердзіў яшчэ 16 заканадаўчых актаў, арганічна звязаных з першым, у тым ліку «Палажэнні» аб пазямельным уладкаванні сялян у Беларусі і Літве. У дзень падпісання Маніфеста 19 лютага на ўсялякі выпадак былі прыняты надзвычайныя меры. Войскам выдалі баявыя патроны, афіцэрам было забаронена адлучацца з казармаў. Да таго ж Маніфест трымалі ў сакрэце ад грамадскасці да пачатку сакавіка, таму што 26 лютага пачыналася ўсенароднае гулянне – Масленіца. Улады баяліся, што як звычайна ў такі дзень у вёсках пачнецца павальнае п'янства, якое можа перарасці ў сялянскія бунты. 2 сакавіка Маніфест, нарэшце, быў абвешчаны ў Сенаце, а 5 сакавіка, у так званую «даравальную нядзелю», быў абнародаваны ў Пецярбургу і Маскве ў цэрквах пасля абедні.

Уладам было за што баяцца, таму што Маніфест не прадугледжваў прынесці сялянам хуткую волю. У ім гаварылася, што сяляне на працягу двух гадоў (да 19 лютага 1863 года) павінны па-ранейшаму адбываць тыя ж самыя павіннасці, што і пры прыгонным праве. З моманту абвяшчэння Маніфеста адмяняліся толькі так званыя дадатковыя, натуральныя зборы (ягадамі, грыбамі, яйкамі, алеем, ільном, палатном, шэрсцю і г.д.), а паншчына абмяжоўвалася двума жаночымі і трыма мужчынскімі днямі з сялянскага двара ў тыдзень.

Паступова за гэтыя два гады павінны былі быць складзены ўстаўныя граматы, якія вызначалі канкрэтныя ўмовы вызвалення сялян. Устаўная грамата – гэта фактычна дамова паміж селянінам і памешчыкам, дзе паказвалася, якая зямля адыходзіла да селяніна, якая да памешчыка, хто і на якіх умовах апрацоўваў памешчыцкія землі, як павінны дзяліцца спрэчныя ўгоддзі. З моманту прыняцця ўстаўных грамат сяляне пераводзіліся на становішча

«часоваабавязаных», г. зн. працягвалі несці рэгламентаваныя «Палажэннямі» феадальныя павіннасці: плаціць чынш ці выконваць паншчыну. Завяршальным актам у ліквідацыі феадальных адносін з'яўляўся перавод сялян на выкуп, пасля чаго яны б называліся сялянамі-ўласнікамі [1, с. 173-176].

У многіх памешчыцкіх маёнтках Ваўкавыскага павета да 1861 года былі адменены натуральныя зборы, паншчына ж была па тры мужчынскія і жаночыя дні ў тыдзень, а таму з'яўленне Маніфеста прынесла малое палягчэнне сялянам. Многія сяляне адмаўляліся верыць у сапраўднасць Маніфеста і «Палажэнняў» да яго, сцвярджаючы, што цар даў «сапраўдную волю», а дваранства і чыноўнікі альбо яе падмянілі, альбо тлумачаць у сваіх карыслівых інтарэсах. Сярод сялян з'явіліся людзі, якія спрабавалі тлумачыць «Палажэнні» з пункту погляду сялянскіх інтарэсаў. Таму ў некаторых маёнтках пасля ўвядзення ўстаўной граматы сяляне пачалі адмаўляцца выконваць запісаныя ў ёй загады, якія па-ранейшаму абавязвалі сялян несці павіннасці на карысць памешчыцкага двара.

Першыя хваляванні сярод сялян Ваўкавыскага павета, якія папярэднічалі паўстанню, пачаліся ў чэрвені 1861 года. З рапарта ад 23 чэрвеня ваўкавыскага земскага спраўніка Фелікса Блажэевіча гродзенскаму губернатара Івану Шпееру вынікае, што ў маёнтках Адамкава і Магілёўцы памешчыкаў Аляксандра і Адама Быхаўцаў колькасцю 205 двароў сяляне адмовіліся адбываць па інвентары пазначаную згонную павіннасць. Згонная павіннасць, або па-іншаму гвалты, выкарыстоўвалася памешчыкамі для тэрміновых работ звыш паншчыны: пасяўная, уборка ўраджаю, сенакос і іншыя працы, якія патрабуюць вялікай колькасці людзей. Павятовы спраўнік, прыехаўшы ў валасны адміністрацыйны цэнтр мястэчка Лыскава, выявіў там натоўп сабраных сялян у колькасці каля 100 чалавек, якія акружылі прystава і «шумелі ва ўвесь голас з лютым азартам», абараняючы завадатараў смуты, якія з'явіліся з розных вёсак згодна з загадам спраўніка. На ўгаворы і тлумачэнні спраўніка, што варта пацярпець яшчэ два гады, натоўп адрэагаваў адмоўна: «Натоўп гучна і дзёрзка з цвёрдасцю адказваў, што яны не будуць адбываць згоннай павіннасці менавіта таму, што ім такая павіннасць з'яўляецца цяжарам», пры гэтым лагічна заяўляючы , што «якое ж гэта вызваленне ад прыгоннай залежнасці, калі няма абсалютна ніякага памяншэння павіннасцяў».

Натоўп разышоўся пасля неаднаразовага звароту з гэтай нагоды спраўніка. У рапарце спраўніка таксама паведамлялася, што сяляне падрыхтаваліся адмовіцца ад павіннасцяў і ў іншых маёнтках, у тым ліку і

маёнтку Лапеніца памешчыка Юрыя Булгарына. У выніку спраўнік папрасіў губернатара для навядзення парадку даслаць адну роту салдат. Прычым ваенны атрад павінен быў з'явіцца неадкладна, таму што на іншыя меры ў спраўніка не было ніякай надзеі. Ён тлумачыў губернатару, што, зжыўшыся з сялянскім саслоўем, на іхняй мове даволі доўга размаўляў з сялянамі і пра ўсё патрэбнае ўжо сказаў. Засталося толькі выкарыстаць сілу [2, с. 216-218].

Пра згаданыя вышэй падзеі свой рапарт губернатару ад 24 чэрвеня адправіў і часова кіруючы пасадай правадыра дваранства (маршалка) Ваўкавыскага павета дэпутат Восіп Ельскі, які таксама прасіў хуткай дапамогі для супакойвання абураных сялян. Ён таксама прасіў у губернатара як мага хутчэй прымяніць для ўціхамірвання абураных сялян ваенную сілу. Восіп Ельскі, як і спраўнік, расказаў губернатару аб прынятых мерах для падпарадкавання сялян: маральныя перакананні і парады, спачатку памешчыкаў і пасрэдніка, а потым і паліцэйскай улады. Да таго ж збунтаваныя сяляне распаўсюджвалі свой уплыў на спакойных суседніх сялян. У выпадку нават нязначных паслабленняў з боку ўлады ўпартасць і непаслушэнства сялян могуць неўзабаве прыняць вялікія памеры.

У свой доказ Восіп Ельскі паведаміў, што ў некаторых сельскіх грамадах у выніку супраціўлення сялян міравыя пасрэднікі не змаглі правесці выбары службовых асоб. У маёнтку Харашэвічы памешчыка Шыраева сабраныя для выбараў сяляне з шумам і нараканнем свавольна разышліся з сельскага сходу [2, с. 219].

Для супакойвання сялян раніцай 26 чэрвеня з Гродна ў Ваўкавыск былі высланы вайскоўцы ў колькасці адной роты. Да таго ж для ўсведамлення абстаноўкі ў Ваўкавыскім павеце сюды быў дасланы памочнік губернатара, віцэ-губернатар Якаў Пятровіч Ражноў. Па шляху ў Лыскава Ражноў распытваў многіх сялян, якія служылі ў бліжэйшых ад дарогі маёнтках. 3 ліпеня Ражноў данёс губернатару, што ўсюды па шляху свайго перамяшчэння ён аб'яўляў сялянам прычыну і мэту сваёй паездкі і прыбыццё ваеннай каманды, тлумачыў марнасць, несправядлівасць і недарэчнасць якіх-небудзь сялянскіх прэтэнзій, няўзгодненых з інвентарнымі пастановамі. Таксама тлумачыў небяспеку для іх усякага свавольства як пану, так земскай паліцыі і міравым пасрэднікам. Усё гэта Ражновым тлумачылася падрабязна з даручэннем перадаваць яго тлумачэнні іншым сялянам. Усюды ад сялян чуў, што ў іх спакойна, а ўсе працы і павіннасці выконваюцца паранейшых парадках.

У Ваўкавыску Ражноў даведаўся, што ў некаторых маёнтках, якія суседнічаюць з маёнткамі памешчыкаў Быхаўцаў, сяляне, якія выйшлі з прыгоннай залежнасці, таксама мелі намер адмовіцца ад згоннай павіннасці. Маючы на ўвазе, што рота для супакойвання сялян павінна знаходзіцца ў дарозе яшчэ цэлыя суткі, Ражноў па дарозе заехаў у маёнтак Сядзельнікі памешчыка, стацкага саветніка Фадзея Владычанскага, размешчанага за тры кіламетры ад Падароскай паштовай станцыі. Тут ён хацеў сабраць звесткі аб намерах і напрамку далейшых дзеянняў сялян як у яго, так і ў прылеглых маёнтках. Аказалася, што і тут паміж сялянамі хадзілі размовы пра згоны, і хоць сяляне не адмаўляліся ад гэтай павіннасці па той прычыне, што яна яшчэ патрабавалася памешчыкамі, але казалі: «Паглядзім, як будуць рабіць іншыя, так і мы», адзначаючы, што іншыя могуць запляваць ім вочы, калі яны будуць рабіць па-іншаму.

27 чэрвеня Ражноў прыбыў у Лыскава, дзе даў даручэнне земскаму спраўніку і станавому прыставу сабраць на наступны дзень усіх незадаволеных сялян з навакольных маёнткаў. Многія сяляне, баючыся рэпрэсій, не з'явіліся на збор. 157 чалавек, якія прыбылі, размясціліся ў Лыскава на прасторным двары будынка, які належыў касцёлу. Сюды ж была прыведзена рота салдатаў са стрэльбамі. Увайшоўшы ў сярэдзіну сялян і павітаўшыся з імі, Ражноў абвясціў ім прычыну і мэту свайго прыезду. Сяляне былі цалкам спакойныя і на ўсё адказвалі паклонамі. На пытанне Ражнова, чаму некаторыя з іх не пайшлі на згонную павіннасць, адказалі: «Людзі казалі, што гэтай павіннасці не варта адбываць, што згонаў ўжо не будзе». Сяляне гаварылі, што згонную павіннасць патрабуюць няправільна, прычым скардзіліся на цяжкасць гэтай павіннасці.

Пасля працяглых тлумачэнняў і ўгавораў Ражнова сяляне як быццам бы пераканаліся ў сваіх памылках адносна згоннай павіннасці. Кланяючыся Ражнову, неаднаразова аб'яўлялі, што яны ўсё зразумелі, прызнаюць, што ім варта адбываць азначаную павіннасць, запэўніваючы Ражнова, што будуць выконваць яе па інвентары і ў ранейшым парадку.

Развітваючыся з сялянамі, Ражноў задаволена абвясціў ім, што сваімі паводзінамі яны пазбавілі яго ад агульнага прымянення сілы і пакаранняў. Аднак ён лічыў, што не мае права вызваліць ад адказнасці завадатараў, якія адказвалі станавому прыставу і спраўніку з дзёрзкасцю і тым самым аказалі непаслушэнства і непавагу да начальства і парушылі парадак. Таму Ражноў даручыў земскаму спраўніку паступіць з завадатарамі згодна з устаноўленым

паліцыянтам парадкам. У адказ сяляне прасілі прабачэння і апраўдваліся, тлумачачы, што нічога грубага начальству не казалі, але Ражноў абвясціў, што свае апраўданні яны могуць прадставіць на меркаванне спраўніка. Як потым было даложана спраўнікам, з азначаных 157 сялян з дапамогай салдат ім было пакарана 17 чалавек розгамі ў залежнасці ад віны ад 5 да 25 удараў [2, с. 220-226].

Зацішша ў Ваўкавыскім павеце атрымалася непрацяглым. У першай дэкадзе ліпеня 1861 года ў процілеглым канцы павета сяляне зноў адмовіліся адбываць згонную павіннасць, прычым хваляванні ахапілі адразу 7 маёнткаў. Аб становішчы ў Ваўкавыскім павеце 7 жніўня 1861 года гродзенскі губернатар даносіў віленскаму генерал-губернатару Назімаву, спасылаючыся на рапарт ваўкавыскага земскага спраўніка. Сяляне, якія выйшлі з прыгоннай залежнасці, маёнткаў Бялавічы – памешчыцы Цеханавецкай, Калядзічы – памешчыка Фадзеева, Парфіновічы – малалетніх памешчыкаў Сухацкіх, Струбніца – памешчыка Біспінга, Пацавічы – памешчыка Стырпейкі, Плішча – памешчыка Камаеўскага і Самуйлавічы – графа Красіцкага (усяго 212 двароў) адмовіліся ад выканання згоннай павіннасці. Акрамя гэтага, супраціўляліся ўладзе міравога пасрэдніка ў абранні службовых асоб. Атрымаўшы гэтыя звесткі 9 ліпеня, земскі спраўнік у той жа дзень зрабіў распараджэнне станавым прыставам аб высылцы ў земскі суд з усіх маёнткаў завадатараў непадпарадкавання для належнай размовы з кожным. Прыстаў 5-га стана загадаў з вёсак маёнтка Бялавічы (78 двароў) з'явіцца ў земскі суд тром часоваабавязаным, найбольш зацятым і дзёрзкім сялянам разам з дзясяцкімі тых вёсак. Але распараджэнне спраўніка не было выканана, таму што замест патрэбных 10 сялян у маёнтак Бялавічы з'явілася каля 100 чалавек. Тут яны аказалі паліцэйскай уладзе супраціўленне, якое суправа-джалася лаянкай, дзёрзкасцю і шумам. Сказалі, што згонную павіннасць адбываць не будуць, падпарадкоўвацца ўладам не хочуць і выкліканых у суд сялян не выдадуць. Магчыма, пойдуць туды толькі разам. Пры гэтым дадалі, што яны не вераць ніякай уладзе, акрамя свайго пісара з Воўпы, за якім пашлюць, каб ім паўтарыў статут.

Станавы прыстаў звярнуўся да натоўпу, у якім былі сяляне, а таксама 5 дзясяцкіх, што выконвалі абавязкі памочнікаў паліцэйскіх, і загадаў ім адразу адправіцца ў земскі суд. Аднак дзясяцкія адмовіліся выконваць патрабаванне прыстава, кажучы, што ад іх патрабуецца выконваць абавязкі, якія не датычацца службы. Нарэшце, абураны натоўп рушыў і, абыходзячы панскі

дом, каля якога стаялі ўладальнік граф Красіцкі з сям'ёй і міравы пасрэднік Ляскоўскі, пачаў выкрыкваць памешчыку: «Ты ўзбагаціўся, паглядзім, хто з нас будзе пан».

Галоўным завадатарам непадпарадкавання сялян, як аказалася пры расследаванні, быў казённы селянін, былы тысяцкі Іван Язерскі, які з'явіўся з мястэчка Воўпа Гродзенскага павета, чытаў і тлумачыў сялянам статут, за што нібыта атрымаў ад іх 14 рублёў. Ён быў злоўлены і заключаны ў ваўкавыскі астрог.

Для супакойвання сялян зноў было вырашана выкарыстаць вайсковую сілу, для чаго гродзенскі губернатар Іван Шпеер паслаў у маёнтак Бялавічы адну роту салдат Пскоўскага імя Кутузава палка. Для расследавання хваляванняў і пошуку вінаватых туды ж быў камандзіраваны жандар капітан Віт. Вярнуўшыся з Ваўкавыскага павета, капітан Віт рапартам ад 23 ліпеня даносіў губернатару, што прыбыў у маёнтак Бялавічы разам з земскім спраўнікам і камандзіраванай у Ваўкавыскі павет ваеннай камандай. У двары маёнтка сабраў 68 чалавек – гаспадароў з вёсак Бялавічы і Міжава. Пасля неаднаразовага тлумачэння ім Палажэння аб сялянах, якія выйшлі з прыгоннай залежнасці, і пасля пераканання аб неабходнасці выконваць ускладзеныя на іх абавязкі, сяляне прызналіся ў сваіх памылках.

Таксама паддаліся на ўгаворы ўладаў і сяляне іншых вёсак. Самыя зацятыя з іх ( а менавіта сяляне з маёнтка Парфяновічы: Антон Новік, Марцін Казан, Андрэй Казан і Іван Мацек) былі падвергнуты ўдарамі розгаў - ад 15 да 45 удараў. З іншых вёсак ад 20 да 60 удараў розгамі за «супраціўленне паліцэйскай уладзе, спалучанае з лаянкай, дзёрзкасцю і шумам» атрымалі сяляне: Павел Крыско, Адам Мамо, Ігнат Данцэвіч, Міхаіл Разанчык, Нарцыз Зубок, Ігнат Мулярчык і дзясяцкі Ігнат Смок. Рота салдат прабыла ў Ваўкавыскім павеце толькі 23 ліпеня, пасля чаго была адпраўлена на ранейшыя кватэры [2, с. 238-241].

У наступным 1862 годзе перад вяснoвымі працамі непадпарадкаванне сярод сялян Ваўкавыскага павета ўспыхнула з новай сілай. 3 сакавіка ад міравога пасрэдніка 4-га ўчастка ваўкавыскаму земскаму спраўніку Феліксу Блажэевічу прыйшло паведамленне, што часоваабавязаныя сяляне Калантаеўскай, Яцвезскай, Гледнявіцкай, Дзенціалавіцкай, Бегянёўскай і Намейкаўскай сялянскіх грамадаў з 1 сакавіка адмовіліся ад выканання павіннасцей, ускладзеных на іх па статутнай грамаце на карысць уладальнікаў. І хоць міравы пасрэднік прыняў неабходныя меры ўнушэння,

але яны аказаліся беспаспяховымі. Таму ён быў вымушаны прасіць спраўніка зрабіць распараджэнне аб прывядзенні сялян згаданых грамадаў да падпарадкавання, таму што пры такіх хваляваннях лёгка магло здарыцца, што і іншыя сельскія грамады Ваўкавыскага павета возьмуць з іх прыклад [3, с. 213].

Прагноз міравога пасрэдніка апынуўся дакладным, таму што 16 сакавіка земскі спраўнік атрымаў падобнае паведамленне ад міравога пасрэдніка 1-га ўчастка, у якім паведамлялася, што ад выканання павіннасцяў адмовіліся сяляне Халстоўскай, Тулаўскай, Косцевіцкай, Шэйкаўскай, Рудзевіцкай і Нізянскай сельскіх грамадаў [3, с. 211].

Аб далейшым развіцці падзей архіўныя дакументы замоўчваюць, а зноў кажуць пачынаючы з 7 ліпеня, калі правадыр дваранства Ваўкавыскага павета Тадэвуш Сегень даносіў губернатару аб адмове сялян маёнткаў Рось і Калантаі прыняць устаўныя граматы, а разам з гэтым яны адмовіліся і ад выканання павіннасцяў [2, с. 272-273].

20 ліпеня 1862 года ваўкавыскаму земскаму спраўніку Блажэевічу з маёнтка Яцвеск паступіў рапарт ад міравога пасрэдніка 3-га ўчастка Ляскоўскага. У рапарце паведамлялася, што ўстаўная грамата маёнтка Вялікая Лапеніца па Вялікалапеніцкай і Камянецкай сялянскім грамадам 8 ліпеня канчаткова ім уведзена. Але памешчык Юрый Булгарын увайшоў да яго з данясеннем, што сяляне гэтых грамадаў ад адбыцця павіннасцей, вызначаных па статутнай грамаце, рашуча адмовіліся. Хоць ён неаднаразова і ўпэўніваў у тым, каб павіннасці гэтыя выконвалі, але яны з азартам адгукнуліся: «Па грамаце выконваць павіннасці не будзем ні ў якім разе, нават калі за гэта нас пакараюць розгамі!». Пасля чаго з шумам разышліся дадому. Усе прагуленыя дні і страты, панесеныя памешчыкам, Ляскоўскі палічыў на грошы. Прытым за беспарадак і непадпарадкаванне свайму памешчыку наклаў штраф па адным рублі на кожны гаспадарскі дом. Пра гэта 19 ліпеня рапартам ён паведаміў прыставу 2-га стана Гарковічу, каб ён спагнаў грошы як за прагуленыя дні на працягу аднаго тыдня, так і штрафныя [4, с. 224].

3 жніўня паступіў рапарт прыстава Гарковіча свайму непасрэднаму начальніку земскаму спраўніку Феліксу Блажэевічу. У ім паведамлялася аб мерах, прынятых у сувязі з непаслушэнствам сялян Вялікалапеніцкай і Камянецкай сялянскіх грамадаў вёсак Грынявічы і Каманіца супраць сельскага і грамадзянскага начальства. Прыставам былі выкліканы сельскія старасты з суседніх грамадаў: Полуянкаўскай, Вердаміцкай, Вялікасвянціцкай,

Маласвянціцкай, Талачманскай і Кабузянскай, а таксама дзясяцкія і поразаўскі тысяцкі.

3 жніўня з усімі імі і мясцовым валасным старшынёю прыстаў Гарковіч адправіўся ў вёску Грынявічы. Патрабавалася запэўніць сяляна адбываць дабаўлены сёмы дзень у тыдзень у летняе паўгоддзе згодна з уведзенай у дзеянне статутнай грамаце. Запатрабаваў ад іх і спагнання штрафу, прызначанага міравым пасрэднікам Ляскоўскім за непаслушэнства супраць начальства і невыкананне па статутнай грамаце павіннасцей. У гэты час у Грынявічы цэлай суполкай з'явіліся камянецкія сяляне. Аб'яднаўшыся з грынявіцкімі сялянамі, з вялікім крыкам і незвычайным азартам сказалі: «Сёмы дзень адбываць і плаціць накладзены штраф рашуча не будзем і што мы ўсе ніякага ўнушэння і ваеннай сілы не баімся!»

Калі ж прыстаў захацеў увайсці ў дом селяніна Вікенція Мікіты, то селянін Васіль Шабат закрычаў: «Хлопцы! Разбоем пойдзем, але не дапусцім браць што-небудзь з дому!» Сяляне ўсім натоўпам кінуліся да прыстава і не дазволілі яму ўвайсці ў дом Мікіты для спагнання штрафу.

Прыставу Гарковічу прыйшлося вярнуцца ў двор маёнтка Вялікая Лапеніца, дзе ён сабраў лапеніцкага старшыню і сельскіх старастаў для дачы ім настаўленняў. Як бліжэйшыя начальнікі сялян, яны павінны былі імкнуцца пазбегнуць далейшай напружанасці, выклікаць і ўгаварыць падначаленых сялян, каб яны ва ўсім выконвалі волю і распараджэнні ўрада. Аднак сюды зноў з'явіўся натоўп сялян з вёсак Малая Лапеніца і Мітроні памешчыка Бернарда Булгарына. Спачатку яны заклікалі выступіць з прамовай свайго старасту Івана Немца, які знаходзіўся ў доме памешчыка. Але калі староста іх не паслухаў, то цэлым натоўпам уварваліся ў пярэдні пакой панскага дома і на руках панеслі старасту з сабой. Селяніна Тамаша Грэся, заклікана прыставам для паказанняў аб адабранні ім ад валаснога старшыні казённай пячаткі, з ганка хаты таксама забралі, каб прыстаў не даведаўся, у каго менавіта знаходзіцца пячатка. Сяляне таксама  пагражалі забіць старшыню і падпаліць яго дом.

У канцы свайго рапарта прыстаў Гарковіч дадаў, што сяляне Малалапеніцкай і Камянецкай сялянскіх грамадаў зусім закаранелі ў непаслушэнстве і непавазе законным уладам. На яго думку, без ваеннай сілы прывесці іх да падпарадкавання няма ніякіх больш сродкаў. Да свайго рапарта прыстаў прыклаў спіс прозвішчаў падбухторшчыкаў [4, с. 222-223].

Згаданы спіс быў азагалоўлены: «Спіс часоваабавязаных сялян Лапеніцкой воласці, якія не падпарадкоўваюцца і не выконваюць распараджэнняў начальства ў дачыненні да адбыцця па статутнай грамаце аднаго дня на летняе паўгоддзе. Таксама дапусцілі самавольнасць і напад на валаснога старшыню і адабралі ў яго пячатку. Прымусілі гвалтоўна аднесці копію ўстаўной граматы ў двор уладальніку маёнтка Вялікая Лапеніца».

Мястэчка Вялікая Лапеніца:

Тамаш Грэсь – галоўны падбухторшчык у адабранні пячаткі ад старшыні. Павел Курыла, Іван Калубай, Іван Немец, Франц Дзенгелеўскі – усё падбухторшчыкі.

Вёска Камяніца:

Кандрат Шукайла, Міхась Біч, Міхаіл Гаравінка, Адам Біч, Фёдар Карась, Павел Біч, Казімір Пяшко, Якаў Грэсь, Восіп Здановіч, Сцяпан Біч, Рыгор Бубла, Тамаш Карась, Сямён Козел, Іван Жылінскі, Іван Карась, Антон Карась – ініцыятар. Васіль Карась, Іван Казей, Восіп Дзенгелеўскі, Аляксей Лявіцкі, Людвіг Бубла, Адам Жылінскі, Рыгор Жылінскі – галоўныя падбухторшчыкі. Астатнія ўсе непаслухмяныя.

Вёска Мітроні:

Павел Агей, Іван Захарчук, Лука Сеньчык, Фёдар Шабат, Лаўрэнцій Мітронь, Васіль Біч, Фёдар Відук, Міхаіл Агей – падбухторшчыкі.

Вёска Грынявічы:

Антон Сноп, Вікенцій Мікіта, Рыгор Мікіта, Рыгор Пекароўскі, Восіп Лукашэвіч – падбухторшчыкі. Рыгор Грэсь, стараста – галоўны ініцыятар. Андрэй Грышко, Раман Ашур, Антон Дзенгілеўскі, Мацвей Козік, Іван Дуніза, Ігнат Сноп, Пётр Чабан, Аляксей Здановіч, Павел Біч, Васіль Чабан, Адам Козел, Антон Шабат, Антон Акунеўскі, Ігнат Здановіч – непаслухмяныя. Васіль Шабат – першы падбухторшчык да нявыплаты штрафу. Сцяпан Навіцкі, Міхаіл Навіцкі, Іван Глушко, Андрэй Здановіч, Восіп Лукашэвіч, Восіп Навіцкі – галоўныя падбухторшчыкі [4, с. 24-25].

17 жніўня з канцылярыі губернатара ваўкавыскаму спраўніку ў адносінах да сялян, якія бунтуюць, паступіла ўказанне аб прыняцці крайніх мер. Для аднаўлення парадку губернатар загадаў камандзіру 1-й сотні Данскога казацкага палка №18 неадкладна камандзіраваць у распараджэнне спраўніка 20 казакоў пры ўрадніку [4, с. 15].

29 жніўня 1862 года з вёскі Грынявічы ад камандзіра казацкага атрада было адпраўлена данясенне спраўніку Блажэевічу. Данясенне без подпісу,

напісана ў палявых умовах алоўкам сіняга колеру. Тэкст у многіх месцах перакрэслены і зменены. Па прыбыцці ўрадніка з камандаю казакоў у Вялікалапеніцкую і Камянецкую сялянскія грамады, ён сабраў сялян па некалькі чалавек з кожнай вёскі. Ураднік пераконваў іх адбываць свайму гаспадару павіннасць, але калі сяляне рашуча адмовіліся, то з ліку завадатараў 6 чалавек былі пакараны. Аднак пасля пакарання сяляне па-ранейшаму ўпарціліся, крычалі пры гэтым: «Мы ўсе ляжам, каб панесці пакаранне, але гэтай павіннасці адбываць не будзем! Пакінем дамы, свае гаспадаркі і іншыя справы!»

Акінуўшы позіркам сялян, ураднік заўважыў ва ўсіх злосна бліскучы погляд, гатовы на адчайны парыў, таму не адважыўся прымяняць далей сілы. Ён быў вымушаны спыніць пакаранне і размясціў каманду казакоў у вёсцы Грынявічы за кошт сялян. Увесь гэты час з дапамогай мясцовага міравога пасрэдніка сялянам пастаянна гаварылі аб падпарадкаванні. Аднак гэта ні да чаго не прывяло – сяляне да канца стаялі на сваім.

У рапарце ўрадніка таксама адзначалася, што непадпарадкаванне сялян распаўсюджваецца па павеце. Сяляне Церашкоўскага, Краснагрудскага і Калантаеўскага сялянскіх грамадаў таксама аказалі відавочнае супраціўленне ўладзе падчас выканання рашэнняў міравога пасрэдніка пры вопісе маёмасці для пакрыцця страт, панесеных памешчыкамі. У Роскай і Нізянскай валасцях сяляне таксама адмовіліся адбываць дабаўленую павіннасць.

30 жніўня міравы пасрэднік паведаміў ураdніку, што сялян Гледневіцкай сялянскай грамады за невыкананне павіннасцей сваім рашэннем ён аштрафаваў. Сяляне, даведаўшыся пра гэта, аблаялі старшыню, з шумам разышліся і нават не сталі слухаць рашэнне. Калі ж міравы пасрэднік запатрабаваў сабраць сялян, то яны не падпарадкаваліся. Падобнае непаслушэнства валасному старшыні аказалі сяляне Нямейкаўскай сялянскай грамады.

У сувязі з такім напружаным становішчам ураднік вырашыў застацца ў Грыневічах. У той жа час паскардзіўся спраўніку, што яго нешматлікая каманда казакоў зусім недастатковая для захоўвання парадку. Таму ён папрасіў замест казакоў камандзіраваць у Грынявічы адну роту салдат Велікалуцкага пяхотнага палка, якая кватаравала ў павеце [4, с. 6-8].

5 верасня 1862 года прыйшло прадпісанне гродзенскага губернатара ваўкавыскаму спраўніку, у якім паведамлялася пра загад камандзіра 1-га батальёна Велікалуцкага пяхотнага палка, размешчанага ў Ваўкавыску, неадклад-

на накіраваць адну роту салдат для размяшчэння ў вёсках Вялікалапеніцкай, Камянецкай і іншых сялянскіх грамадаў, якія не падпарадкаваліся мясцовым уладам у выкананні законных патрабаванняў.

Губернатар даручыў спраўніку камандзіраваць чыноўніка земскай паліцыі для суправаджэння роты да месца прызначэння. Выкарыстанне роты салдат для прывядзення сялян да належнага падпарадкавання адбывалася па меркаванні спраўніка. Аб прынятых мерах было загадана даносіць губернатару своечасова і ў падрабязнасцях [4, с. 3].

Адсутнасць у справе некаторых дакументаў не дазваляе нам цалкам прасачыць храналагічны ланцуг падзей. Наступны дакумент аб супакойванні сялян пазначаны толькі 10 кастрычнікам 1862 годам, калі з губернскага горада Гродна для ўладжвання сітуацыі ў Вялікую Лапеніцу прыбыў старшы чыноўнік па асаблівых даручэннях. Узначаліўшы створаную ім следчую камісію, ён паведаміў спраўніку Блажэевічу вынікі свайго расследавання. На падставе пастановы следчай камісіі, прызначанай па справе лапеніцкіх сялян, якія ўхіляліся ад выканання павіннасцяў па статутнай грамаце, чыноўнік прасіў спраўніка арыштаваць і заключыць у астрог галоўных непаслухмяных: селяніна Вялікалапеніцкай грамады Аляксея Здановіча, селяніна Камянецкай грамады Дамініка Карася і Малалапеніцкай грамады – Франца Дзенгілеўскага і Якава Немца. Кіраўніка іх, адстаўнога салдата Паўла Боўфала, які пражываў у Малой Лапеніцы, трэба было зараз жа пазбавіць волі па вяртанні яго на месца жыхарства [4, с. 33].

Аднак выканаць дадзенае прадпісанне аказалася не так проста. З рапарта губернатару ад 14 кастрычніка камандзіра атрада з Галіцкага пяхотнага палка, накіраванага ў Лапеніцу для арышту сялян, відаць наступнае. Следчая камісія ў Лапеніцы па справе тамашніх сялян запатрабавала арышту галоўных завадатараў: Аляксея Здановіча, Дамініка Карася, Франца Дзенгілеўскага, Якава Немца, а таксама іх кіраўніка адстаўнога салдата Паўла Боўфала. Пры выкананні загаду натоўп сялян, які сабраўся, акружыў завадатараў і не дапусціў салдат да іх. На пытанне камандзіра атрада аб прычынах такога нахабства сяляне патлумачылі яму, што ад былой камісіі і ад усяго начальства яны чакалі абароны, а не пакарання. Тым часам сяляне, якія павінны былі быць арыштаваны, схаваліся. Салдаты пайшлі шукаць іх па дамах, але і там уцекачоў не аказалася. Як даведаўся камандзір атрада, сяляне паслалі прашэнне самому імператару і чакалі на яго рэзалюцыі [4, с. 45].

Другая спроба арышту лапеніцкіх сялян была прадпрынята праз два дні приставам Гарковічам. З рапарта ад 18 кастрычніка пристава Гарковіча

спраўніку вынікае, што ён 16 кастрычніка прыбыў у Лапеніцу. Тут, на мястэчковай плошчы, знайшоў сялян з Вяліка і Малалапеніцкай, а таксама Камянецкай грамадаў. Пасля выбараў новага старшыні Лапеніцкай воласці, праведзеных міравым пасрэднікам Ляскоўскім таго ж дня, сяляне засталіся на плошчы. Заўважыўшы сярод іх галоўных завадатараў, якія былою камісіяй у Лапеніцы былі назначаны для заключэння ў астрог, а менавіта: Аляксея Здановіча, Дамініка Карася, Франца Дзенгілеўскага і Якава Немца, прыстаў загадаў сельскім старастам арыштаваць сялян. У адказ на гэта натоўп з крыкамі і азартам адбіў узятых у палон завадатараў, затым цэлаю грамадою акружылі іх, не дапусціўшы арышту.

На другі дзень 17 кастрычніка, раніцай у 6 гадзін, прыняўшы неабходныя меры да захопу вінаватых, з 10 панятымі, выкліканымі з казённай Поразаўскай сялянскай грамады, прыстаў з'явіўся ў мястэчка Лапеніца і адразу ж паслаў за абвінавачанымі. Аднак нікога ў дамах не знайшоў – усе пахаваліся, акрамя аднаго Франца Дзенгілеўскага, які араў зямлю недалёка ад свайго дома. Ён быў узяты пад варту панятымі, але натоўп лапеніцкіх сялян, які тут сабраўся, адабраў яго. Прыставу ні з чым давялося вярнуцца назад [4, с. 42].

Праз чатыры дні, 22 кастрычніка, той жа прыстаў Гарковіч адправіў спраўніку рапарт з больш падрабязнай справаздачай. Пасля таго, як 16 кастрычніка сяляне вызвалілі з-пад аховы чатырох сялян, былі заўважаны найбольш актыўныя завадатары: селянін з Малой Лапеніцы – Лука Зубрыцкі, з Камяніцы – Іван Карась, Рыгор Жылінскі і з Грыневіч – Вікенцій Мікіта, Іван Грышко, Восіп Кавальчук і Васіль Шабат.

Пры абароне ад паліцыі 17 кастрычніка затрыманага Франца Дзенгілеўскага былі ўстаноўлены завадатары: з Малой Лапеніцы – зноў Лука Зубрыцкі, Павел Сноп, Даніла Курыла, з Камяніцы – Павел Біч, Казімір Пяшко. Пасля ад'езду ўвечары прыстава з Лапеніцы ў Ваўкавыск для асабістага дакладу спраўніку пра тое, што адбылося, усе сяляне Малалапеніцкай і Камянецкай грамадаў тры ночы збіраліся на вуліцы па вёсках грамадою, раіліся паміж сабою. Казалі пра адстаўнога салдата Паўла Боўфала, які хадзіў у Санкт-Пецярбург са скаргаю ад лапеніцкіх сялян і 15 кастрычніка вярнуўся ў Лапеніцу. У той жа дзень яго жонка Фёкла паведаміла прыставу, што,баючыся быць схопленым паліцыяй, ён схаваўся невядома куды. Паведаміў толькі жонцы, што паедзе на заробкі. За домам Боўфала быў устаноўлены паліцэйскі нагляд [4, с. 40].

Чатырох сялян і аднаго адстаўнога салдата паліцыя працягвала шукаць і ў лістападзе, пра што даведаемся з рапарта ад 17 лістапада прыстава Гарковіча спраўніку. 11 лістапада з дапамогай добранадзейных поразаўскага і падароскага тысяцкіх, а таксама з двума падароскімі соцкімі прыстаў Гарковіч вырашыў злавіць Паўла Боўфала. Пасля паўночы, калі ўсе лапеніцкія жыхары адпачывалі, яны прыбылі ў Малую Лапеніцу і ціхенька падышлі да дома салдата Боўфала, акружылі яго і пастукалі ў дзверы. Жонка салдата прачнулася, запаліла агонь і адчыніла дзверы. У доме быў зроблены вобыск, але салдата нідзе не знайшлі. На пытанне, дзе яе муж, жонка адказала, што пасля вяртання пераначаваў у хаце толькі адну ноч. На другі дзень пайшоў у пошуках лясных работ і з 14 кастрычніка дадому не вяртаўся, а таму не ведала, дзе ён цяпер знаходзіцца. У 1-ым стане ў гэты час праводзіліся лясныя работы па высечцы таварнага дрэва ў лясных дачах маёнткаў Пянюга памешчыка Радзевіча і ў Нізянах памешчыка Галібуртона. Прыставу Кавалеўскаму было паведамлена, што сярод работнікаў шукалі Паўла Боўфала, але не знайшлі. У самой Малой Лапеніцы за домам Боўфала быў устаноўлены сакрэтны нагляд [4, с. 38].

Справа, звязаная з непадпарадкаваннем сялян, абвастрылася да такой ступені, што губернатар быў вымушаны размясціць у непаслухмяных вёсках салдат, г.зн. распачаць экзэкуцыю, пры якой утрыманне салдат клалася на плечы сялянскіх грамадаў. На дадзенае рашэнне ў немалой ступені паўплывала агульная сітуацыя ў Каралеўстве Польскім і заходніх губернях Расійскай імперыі, звязаная з насляваннем паўстання. З рапарта ад 2 снежня 1862 года спраўніка камандзіру 11-й роты Калужскага пяхотнага палка вынікае, што па распараджэнні губернатара спраўнік загадаў камандзіру роты перайсці ў Вялікалапеніцкую воласць. У вёсках воласці, а таксама па суседстве з імі размясціць роту для пастаяннага кватаравання да далейшага распараджэння. Для кватаравання неабходна было заняць вёскі: Грынявічы (у вёсцы на расселенне адводзіліся 23 двары), Каменіца (24), Мітроні (22), Бакі (3), Улезлы (10), Магілёўцы (12), Паўлаўшчызна (18), Навасёлкі (10 ). Усяго 122 двары [4, с. 48].

У студзені наступнага 1863 года ўспыхнула паўстанне, а справу з сялянамі Ваўкавыскага павета ўсё ніяк уладзіць не атрымоўвалася. 20 лютага 1863 года губернатар фон Галер з гэтай нагоды даносіў самому міністру ўнутраных спраў. Па прыбыцці губернатара ў горад Ваўкавыск для рэвізіі тамашніх прысутных месцаў і з нагоды аб'езду валасцей сяляне

Вялікалапеніцкай і Камянецкай сялянскіх грамадаў з’явіліся да яго са скаргай. Апранутыя ў старое адзенне, скардзіліся, што не могуць пагадзіцца выконваць павіннасці па статутнай грамаце, таму што адведзеная ім у надзел зямля дрэннай якасці і ў малой колькасці, неадпавядае вылічаным па грамаце павіннасцям. Што яны канчаткова спустошаны экзэкуцыяй, што яшчэ да прызначэння яе знаходзіліся ў цяжкім становішчы з-за ўціску памешчыка. Скардзіліся і на тое, што некаторыя з іх не мелі жывёлы, а ў іншых хаты зусім без дахаў і абсалютна разбураныя. Калі яны з'явіліся да памешчыка прасіць саломы для даху свайго жылля за адпрацоўку, то ўладальнік выгнаў іх са свайго дома. Некаторыя з сялян вось ужо некалькі гадоў не бачылі ў зімовы час на сваіх плячах паўшубкаў. Камандзір роты, якая стаяла ў вышэй значаных вёсках на экзэкуцыі, асабіста далажыў губернатару, што сапраўды быт сялян на нізкім узроўні і што ёсць хаты без дахаў і разбураныя.

Зыходзячы з вышэйсказанага, губернатарам была прызначана следчая камісія з трох высокіх чыноўнікаў. Па выніках праверкі камісіяй быў складзены акт, але сяляне сялянскіх грамадаў падпісаць яго адмовіліся, патлумачыўшы гэта тым, што імі ў канцы верасня 1862 года ў Санкт-Пецярбург з усепадданейшым прашэннем быў пасланы адстаўны салдат Павел Боўфал і таму яны чакаюць новага ўсеміласцівейшага Маніфеста. Камісія прыйшла да высноў, што быт сялян маёнтка Малой Лапеніцы пасрэдны, у кожнага гаспадара знойдзена дастатковая колькасць хлеба, а будынкі звычайныя. З 35 двароў толькі ў 5 гаспадароў няма валоў, 2 хаты сапраўды ў разбураным выглядзе, але ідзе падрыхтоўка да іх рамонту. Пераканаўшыся, што агульнае становішча сялян не зусім бядотнае, камісія зацыклілася на выяўленні галоўных кіраўнікоў непадпарадкавання, якімі ў Вялікалапеніцкай грамадзе аказаліся сяляне Аляксей Здановіч, Франц Дзенгілеўскі, Якаў Немец і ў Камянецкай грамадзе – Даніла Карась. Камісія загадала спраўніку заключыць іх усіх у турму да асобага распараджэння, падвергнуўшы таксама арышту Боўфала па вяртанні яго на месца жыхарства. Аднак выканаць дадзенае распараджэнне спраўніку сяляне зноў не дазволілі, даўшы магчымасць «падбухторшчыкам і завадатарам» схавацца.

У сваім данясенні губернатар адзначыў, што ў выніку ў цяперашні час у Лапеніцкай воласці ўсё ідзе спакойна і сяляне адбываюць паншчыну спраўна. Віну за беспарадкі Галер усклаў наміравога пасрэдніка, які, на яго думку, недастаткова надаваў увагі патрэбам сялян. Тым не менш, таму ж міравому пасрэдніку Галерам было загадана на найбольш вінаватых сялян,

замест турэмнага зняволення, накласці грашовы штраф ці арышт па яго меркаванні [2, с. 291-295].

Здавалася б, што актыўныя сяляне Лапеніцкай воласці абавязкова праявяць сябе ў паўстанні 1863 года. Аднак назіралася зусім іншая карціна. З мяцежных вёсак Камяніца, Мітроні, Грынявічы і мястэчка Малая Лапеніца ў спісе тых, хто быў пакараны за ўдзел у паўстанні, лічыцца толькі адзін Антон Шукайла, які быў узяты пад нагляд паліцыі і застаўся жыць у сваёй вёсцы Грынявічы. Растлумачыць гэта можна двума галоўнымі прычынамі. Першая з іх заключалася ў тым, што кіраўнікі паўстанцкіх атрадаў непасрэдна былі звязаны з памешчыкамі, у якіх сяляне бачылі сваіх нядаўніх ворагаў. Таму і казённых сялян, не звязаных з памешчыкамі, сярод паўстанцаў было значна больш, чым памешчыцкіх. Да таго ж улада і праваслаўная царква распаўсюджвала хлуслівыя чуткі, быццам бы польскія памешчыкі паўсталі супраць рускага цара за тое, што ён вызваліў сялян ад прыгоннага права, а памешчыкі хочуць вярнуць яго. Другая прычына была падрыхтавана самім царом выдачай загада ад 1 сакавіка 1863 года, у якім паншчына часова замянялася грашовымі выплатамі да таго часу, пакуль сяляне не пяройдуць на выкупныя плацяжы.

# ПАЧАТАК ПАЎСТАННЯ

Было некалькі прычын, якія паслужылі паўстанню 1863-1864 гадоў у Каралеўстве Польскім і заходніх губернях Расійскай імперыі, што раней уваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай. Галоўнай з іх з'явілася абвастрэнне нацыянальнага пытання, мэтай якога было аднаўленне незалежнай Польшчы ў межах Рэчы Паспалітай 1772 года. Але, у адрозненне ад папярэдніх часоў, рух гэты не быў суцэльна польскі. Упершыню на поўны голас заявіла пра сябе ўласна беларуская адраджэнцкая ідэя. Яе носьбіты ішлі ўжо змагацца не за аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года, а за вольную Беларусь. І аднаму з першых выразнікаў гэтай ідэі было наканавана стаць Вікенцію Канстанціну Каліноўскаму [5].

Паўстанню папярэднічаў даволі доўгі падрыхтоўчы, ці так званы маніфестацыйны перыяд. З канца паўстання 1831 года з рознай ступенню актыўнасці дзейнічала польская эміграцыя, якая адмыслова трымала ўсё Каралеўства Польскае ў пастаянным напружанні, але да новых узброеных сутыкненняў справа не даходзіла. Калі на рускі прастол уступіў імператар Аляксандр II, жорсткі курс у дачыненні да Каралеўства Польскага прыкметна памякчэў. Была аб'яўлена амністыя ўдзельнікам паўстання 1830-1831 гадоў, знята цэнзура з твораў некаторых рэвалюцыйна настроеных польскіх пісьменнікаў, у тым ліку і паэта Адама Міцкевіча. У 1857 годзе ў Варшаве была адкрыта медыка-хірургічная акадэмія і заснавана Земляробчае таварыства, якое ўзначальваў граф Анджэй Замойскі. З гэтага часу ў Каралеўстве Польскім робяцца спробы арганізацыі новага паўстання.

Хваляванні ў Каралеўстве Польскім пачаліся з першай адкрытай маніфестацыі, наладжанай моладдзю 10 ліпеня 1860 года падчас урачыстага пахавання ўдавы былога паўстанца 1831 года генерала Савінскага. Затым адбылася маніфестацыя 12 лютага 1861 года, якая азнаменавала 30-гадовую бітву пад Граховым у паўстанні 1831 года, калі ў Варшаву з'ехалася больш за 2000 чалавек памешчыкаў на падставе генеральнага пасяджэння Земляробчага таварыства. Маніфестацыя была ра-загнана з асаблівай жорсткасцю жандарамі і казакамі. 15 лютага гэта прывяло да новай масавай дэманстрацыі, якая на гэты раз была расстраляна рускімі войскамі: загінула 5 чалавек, некалькі дзясяткаў людзей паранена. Адбылося ўрачыстае пахаванне загінуўшых. У знак салідарнасці з варшавянамі маніфестацыі абурэн-

ня прайшлі па ўсім Каралеўстве Польскім. У касцёлах заходніх губерняў служылі паніхіды па забітых, а асобныя жыхары сталі насіць вопратку з жалобнымі элементамі ў спалучэнні з эмблемамі ў польскім патрыятычным стылі. Як напамін пра варшаўскую дэманстрацыю, падчас якой у аднаго з удзельнікаў было зламана распяцце, насіліся паясы, брошкі, бранзалеты, гузікі з выявай пераламанага крыжа. Мужчыны, замест капелюшоў, сталі насіць конфедаратkeі і гарыбальдыйкі. У касцёлах выконваліся польскія патрыятычныя гімны. Гэтым відавочна праяўлялася негатыўнае стаўленне да расійскіх уладаў, выказвалася надзея на адраджэнне Рэчы Паспалітай.

Імператар Аляксандр II у сакавіку 1861 года быў вымушаны выдаць загад, які падараваў Каралеўству Польскаму пэўную аўтаномію. Створаўся дзяржаўны савет Каралеўства – вышэйшы дарадчы і кантрольны орган. Фарміравалася польская грамадзянская адміністрацыя і выбарнае мясцовае самакіраванне – губернскія, павятовыя і гарадскія саветы.

У сувязі з апісанымі падзеямі царскі ўрад ўважліва адсочваў палітычную сітуацыю ў рэгіёне, для чаго з павятовых гарадоў штотыдзень земскімі спраўнікамі або гараднічымі дасылаліся рапарты губернатару. Так, напрыклад, 1 кастрычніка 1861 года ваўкавыскі гараднічы Якаў Матусевіч дакладваў: «Маю гонар шаноўна далажыць Вашаму Правасхадзіцельству, што ў даверaным мне горадзе ўсё складаецца паспяхова» [6, с. 13].

Асноўныя падзеі паўстання 1863 года на Беларусі адбываліся ў Гродзенскай губерні, у якую тады ўваходзілі 9 паветаў: Гродзенскі, Брэсцкі, Пружанскі, Слонімскі, Кобрынскі, Ваўкавыскі, Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі. Аднак ў 1861 годзе ва ўсёй Гродзенскай губерні ў палітычных адносінах таксама было спакойна, калі не лічыць два нязначныя выпадкі, зафіксаваныя ўладамі. Першы з іх адбыўся 17 верасня ў Слонімскім касцёле, у якім спявалі недазволены гімн. Вінаватыя не былі выяўлены. Другі такі ж выпадак адбыўся ў касцёле мястэчка Азёры Гродзенскага павета, дзе 8 кастрычніка таксама прагучалі «абуральныя гімны». Пасля пошукаў аказалася, што спявалі забароненую песню служачыя чыгункі, якія апынуліся ў Азёрах праездам [6, с. 40,70].

Між тым, пэўная антыўрадавая дзейнасць назіралася. У Беластоку Браніслаў Шварц стварaў падполле, звязанае з Каралеўствам Польскім, у Саколцы дзейнічаў Валерый Урублеўскі, а ў Гродне – Кастусь Каліноўскі, які неўзабаве аб'яднаў свае сілы з Урублеўскім.

Мал.1. Валеры Антоні Ўрублеўскі



Мал. 2. Вінцэнт Канстанцін Каліноўскі



На працягу 1861 года яны стварылі ў Гродне і Гродзенскай губерні нелегальную рэвалюцыйную арганізацыю. Увосень 1861 года Каліноўскі ўвайшоў у склад камітэта Руху – віленскага цэнтра па падрыхтоўцы ўзброенага паўстання ў беларуска-літоўскіх губернях Расійскай імперыі.

Улетку 1862 года камітэт Руху быў перайменаваны ў Літоўскі правінцыйны камітэт (ЛПК), а з кастрычніка 1862 года Каліноўскі, як старшыня, узначаліў у ім левы рэвалюцыйна-дэмакратычны накірунак «чырвоных».

Вясна 1862 года ў Гродзенскай губерні ў палітычных адносінах знешне было адносна спакойна. Пра гэта 18 мая 1862 года паведамляў рапарт аб стане губерні, пададзены гродзенскім губернатарам віленскаму генерал-губернатару Назімаву. Увага высокага начальніка была звернута на 4 выпадкі, якія адбыліся ў межах Гродзенскай губерні за красавік месяц. Адзін з іх тычыўся Ваўкавыскага павета. У мястэчку Свіслач дзве маладыя ўдавы - Ілаковіч і Савіцкая і сястра першай Крысціна Нарбут - былі заўважаны ў падбухторванні вучняў тамашняй прагімназіі да палітычных маніфестацый. Згодна з распараджэннем Назімава яны былі высланы ў Ваўкавыск з прадпісаннем да гараднічага мець за імі строгі паліцэйскі нагляд [7, с. 69].

Што характэрна, за такое сур'ёзнае злачынства яшчэ не аддавалі пад суд і не высылалі ў ссылку ў аддаленыя губерні Расійскай імперыі. Усяго праз год адпраўляць у Сібір стануць за куды меншыя палітычныя парушэнні.

Тым не менш, канспіратыўная падрыхтоўка да паўстання ішла поўным ходам. Кіраўнікі паўстання раздзяліліся на дзве групы: «чырвоных» і «белых». Першыя прадстаўлялі шматлікую беззямельную і малазямельную шляхту, якую больш за ўсё цікавіла атрыманне ад урада матэрыяльнай карысці, звязанай з адменай прыгоннага права. «Белыя» прадстаўлялі сярэдніх і багатых землеўладальнікаў, буржуазія, якія, наадварот, жадалі зберагчы сваё матэрыяльнае становішча. Аб'ядноўвала абедзве групы тое, што ўсе яны з'яўляліся сапраўднымі патрыётамі, якія жадалі атрымаць незалежнасць ад Расіі.

Не было згоды паміж абедзвюма групамі і ў стратэгіі паўстання. Кіраўніцтва «чырвоных» зыходзіла з прызнання неабходнасці агульнанацыянальнага паўстання супраць царызму, «белыя» разлічвалі дасягнуць сваіх планаў з дапамогай маніфестацыяў і перамоваў з урадам пры дыпламатычнай падтрымцы заходніх дзяржаў, ні ў якім разе не жадаючы перарастання паўстання ў сялянскую рэвалюцыю [8, с. 233 -234].

Трэба сказаць, што сяляне ў Каралеўстве Польскім былі асабіста вольнымі, г.зн. не былі прыгоннымі. Але ў Польшчы ў сельскай гаспадарцы

заставаліся нявырашанымі важныя праблемы: адмена панскіх павіннасцяў і надзяленне сялян зямлёй.

Улетку 1862 года ў Цэнтральным нацыянальным камітэце ў Варшаве «чырвоныя» распрацавалі сваю праграму. Акрамя аднаўлення Рэчы Паспалітай, з уключэннем у яе склад зямель Беларусі, Літвы і Правабярэжнай Украіны, было прынята рашэнне аб сялянскай і памешчыцкай зямлі. Памешчыкам было абяцана захаваць маёнткі, а сялянам перадаць у поўную ўласнасць без выкупу зямельныя надзелы, атрыманыя згодна з зямельнай рэформай 1861 года. Прадугледжвалася ўраўнаванне грамадзянскіх правоў сялян і шляхты, замена падушнага падатку дваровым, а таксама замена 15-гадавой рэкруцкай службы на 3-гадовую службу ў сваім краі. Таксама меркавалася ліквідацыя праваслаўя і аднаўленне ўніяцкай царквы [8, с. 234].

Лідарам радыкальнага крыла «чырвоных» у Літве і Беларусі стаў Кастусь Каліноўскі, абраны ў кастрычніку 1862 года старшынёй ЛПК. Сярод «чырвоных» таксама не было адзінства. Сакратар варшаўскага нацыянальнага ўрада Юзаф Яноўскі ў сваіх успамінах адзначаў пра лідара «чырвоных» Каліноўскага, што ён «не хацеў мець ніякіх адносінаў да шляхты, а абапіраўся толькі на народ. Сувязь Літвы з Польшчаю разумеў толькі як федэратыўную – з поўнай незалежнасцю Літвы. Не прызнаваў спаўна ўлады Цэнтральнага камітэта, не жадаў прымаць адтуль ніякіх загадаў ці даручэнняў. Гэтая пазіцыя Каліноўскага, якую не ўсе ў Камітэце поўнасцю падзялялі, была повадам для непаразуменняў» [9, с. 161].

Тым не менш, многія з «белых» адносіліся да Каліноўскага з павагай. Быў прыхільны да Каліноўскага і Якуб Гейштар, лідар літоўска-беларускіх «белых». «Гэта была натура запальчывая, – успамінаў ён, – але справядлівая, без аніякага ценю крывадушнасці. Адданы душою і сэрцам народу, быў аднак прыхільнікам крайніх рэвалюцыйных тэорый, не спыняўся нават перад развязваннем грамадзянскай вайны і думаў да таго ж аб самастойнасці Літвы. Быў непараўнальным, узорным канспіратарам, душою Камітэта ... Пры першым знаёмстве даказваў мне, што ўдзел шляхты і памешчыкаў у паўстанні не толькі не патрэбны, але і шкодны. Народ сам заваюе сабе свабоду і запатрабуе ўласнасць у памешчыкаў» [9, с. 154].

Погляды левай, рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні «чырвоных», знайшлі адлюстраванне ў газеце «Мужыцкая праўда», якая пачала выдавацца летам 1862 года Каліноўскім, Валерыем Урублеўскім і Феліксам Ражанскім у якасці неафіцыйнага органа ЛПК. У першым жа нумары было абвешчана,

што паўстанне павінна заваяваць свабоду для сялян: «Ад маскаля і паноў няма чаго спадзявацца, бо яны не вольнасці, а глуму і здзерства нашага хочуць. Але не доўга яны нас будуць абдзіраць, бо мы пазналі, дзе сіла і праўда, і будзем ведаць, як рабіць трэба, каб дастаць зямлю і свабоду. Возьмемся, Дзецюкі, за рукі і дзяржэмся разам! А калі паны хочуць трымаць з намі, то няхай жа робяць па святой справядлівасці: бо калі іначай – так чорт іх пабяры! Мужык, пакуль здужае трымаць касу і сякеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе» [9, с. 28].

Аднак і прамых зваротаў да захопу ўсіх памешчыцкіх зямель у газеце не было, як не было шляхоў вырашэння нацыянальнага пытання. У той жа час ідэю аб самастойнасці Беларусі Каліноўскі праводзіў на сходах ЛПК, звязваючы перамогу ў паўстанні з актыўным удзелам у ім сялян. Такім чынам, у задачах паўстання разыходжанне «чырвоных» з «белымі» было ў наяўнасці [8, с. 236].

Між тым, у Каралеўстве Польскім былі здзейснены замахі на вышэйшых чыноўнікаў: намесніка Каралеўства графа Аляксандра Лідэрса, вялікага князя Канстанціна Мікалаевіча і кіраўніка грамадзянскага ўпраўлення маркіза Аляксандра Веляпольскага. З мэтай ізаляваць найбольш небяспечных для расійскай улады падбухторшчыкаў спакою па ініцыятыве Веляпольскага на студзень 1863 года быў аб'яўлены рэкруцкі набор. У спісы прызыўнікоў былі ўнесены 12 тысяч чалавек, якія ўдзельнічалі ў маніфестацыях і падазраваліся ў прыналежнасці да бунтаўшчыкоў. Спісы нядобранадзейных былі даручаны паліцыі, якая цалкам складалася з палякаў, і гэтая сакрэтная мера адразу ж стала шырока вядомай.

Рэкруцкі набор паскорыў пачатак паўстання. Мужчыны, якія ўхіляліся ад набору, схаваліся ў лясах, дзе да іх пачалі далучацца і іншыя паўстанцы. Такім чынам, былі ўтвораны першыя паўстанцкія атрады.

Варшаўскі Цэнтральны нацыянальны камітэт на экстранным пасяджэнні вырашыў пачаць паўстанне да рэкруцкага набору. Пачалося паўстанне ў ноч з 9 на 10 студзеня па старым стылі (з 22 на 23 па новым стылі) у Каралеўстве Польскім. Тады ж камітэт выдаў Маніфест і два аграрныя дэкрэты. Маніфест заклікаў да паўстання, абвясціўшы ўсё насельніцтва Польшчы без розніцы «веры, племя, паходжання і саслоўя» свабоднымі і раўнапраўнымі грамадзянамі. Па першым дэкрэце ва ўласнасць сялян перадаваліся тыя ўчасткі, якімі яны карысталіся па ўстаўной грамаце. Памешчыкі атрымлівалі грашовае ўзнагароджанне ад дзяржавы за аддадзе-

ную зямлю. Па другім дэкрэце беззямельныя сяляне надзяляліся 5 моргамі зямлі (каля дзвюх дзесяцін). Але ўчасткі маглі атрымаць толькі тыя, хто пойдзе ў паўстанцкі атрад і будзе са зброяй у руках абараняць свае правы на зямлю. Да гэтага часу пытанне аб надзяленні шматлікіх беззямельных сялян абыходзілі маўчаннем.

З заходніх губерняў да паўстання адразу далучыліся паўстанцы Беласточчыны. Ноччу 23 студзеня атрад паўстанцаў Уладзіслава Ціхорскага ў колькасці 60 чалавек заняў чыгуначную станцыю Лапы, якая знаходзілася на мяжы Гродзенскай губерні і Каралеўства Польскага. Яны абяззброілі жандарскі ўчастак з 16 жандарамі і перапынілі чыгуначную і тэлеграфную сувязь паміж Варшавай і Пецярбургам. Далей атрад атакаваў мястэчка Сураж і заняў яго.

ЛПК прыняў рашэнне падтрымаць паўстанне. Аднак у сувязі з рознагалоссем паміж ЛПК і Варшаўскім камітэтам паўстанне ў Вільні было абвешчана пазней на 8 дзён. У Літве і Беларусі яно пачалося 18 студзеня (1 лютага), калі ЛПК сваім маніфестам звярнуўся да насельніцтва Літвы і Беларусі падтрымаць паўстанне, пачатае ў Польшчы: «Браты! Каралеўства паўстала. Нашы ўсюды б'юць маскалёў. Кроў, якая льецца за Нёманам, заклікае нас да зброі. Бо і для нас набліжаецца гадзіна барацьбы з захопнікамі за нашы святыя правы, за нашу свабоду! Выступім ж разам і дружна, а Бог нам дапаможа! Божа, выратуй Польшчу!» [10, с. 1].

20.1. (1.2.) 1863 года ЛПК абвясціў сябе Часовым правінцыйным урадам Літвы і Беларусі. 27.2 (11.3) варшаўскае кіраўніцтва паўстаннем пад ціскам «белых» прыняло рашэнне распусціць ЛПК, стварыўшы Выканаўчы аддзел Літвы на чале з Якубам Гейштарам [11, с. 32].

Інтарэсы сялян і памешчыкаў у заходніх губернях у паўстанні не супадалі. Калі сяляне чакалі ў сувязі з адменай прыгоннага права поўнай свабоды ад памешчыкаў і бязвыплатнага атрымання зямлі (г.зн. без выкупу), то многія, калі не большасць памешчыкаў, не жадалі бязвыплатна губляць крыніцу свайго дабрабыту – зямлю. Пра гэта яскрава сведчыць наступная акалічнасць. Калі царскія ўлады пачалі надзяляць сялян памешчыцкай зямлёй, то амаль усе памешчыкі падалі скаргі ў Гродзенскую губернскую па сялянскіх справах прысутнасць на няправільны падзел зямлі, імкнучыся захаваць за сабою як мага большы і лепшы кавалак, пры гэтым адстойваючы нават дробязныя прывілеі. Са свайго боку сяляне таксама жадалі, каб надзеленая ім ад памешчыкаў зямля была лепшай якасці і знаходзілася

недалёк ад іх сядзібаў. Як бачым, інтарэсы памешчыкаў і сялян на момант паўстання былі дыяметральна супрацьлеглымі.

Тым не менш, як і ў Каралеўстве Польскім, так і ў заходніх губернях Расійскай імперыі падрыхтоўкай і кіраўніцтвам паўстання займаліся прадстаўнікі мясцовага дваранства (шляхта). У тыя часы яна было галоўным і адзіным пластом насельніцтва, якое мела для гэтага магчымасці: становішча ў грамадстве, матэрыяльныя рэсурсы, адукаванасць, неабходныя сувязі. Найлепшыя прадстаўнікі дваранства бачылі наспелую неабходнасць у далейшых карэнных пераўтварэннях грамадства, чаго не магла і не хацела зрабіць расійская ўлада. У той жа час шляхта не была аднароднай у маёмасным плане. У пачатку 1860-х гадоў у заходніх губернях толькі каля 14% шляхты былі ўладальнікамі зямлі і сялян. Астатнія 86% або мелі невялікі ўчастак зямлі, або арандавалі яе, або атрымлівалі сродкі за кошт службы ці працы па найме. Выхадцы з Расіі складалі нязначны працэнт мясцовага дваранства [8, с. 232].

Непрадуманасць і палавінчатасць сялянскай рэформы, а таксама сабатаж у яе правядзенні з боку многіх царскіх чыноўнікаў абурылі нават шматлікіх міравых пасрэднікаў у Гродзенскай губерні. У сваёй большасці міравыя пасрэднікі былі з мясцовай шляхты, з'яўляліся адукаванымі і заможнымі людзьмі. Яны былі закліканы ўладжваць рознагалоссі паміж сялянамі і памешчыкамі, якія ўзнікаюць у час падзелу зямель. У сакавіку 1863 года многія міравыя пасрэднікі падалі калектыўны ліст міністру ўнутраных спраў з адмовай ад займаемых імі пасад: «На працягу двухгадовага тэрміну кожны наш крок, – гаварылася ў лісце, – кожнае дзеянне або нават здагадка, што зводзіліся да ўціхамірвання ўсхваляваных розумаў сялян і прымірэння бакоў, незадаволеных ранейшымі адносінамі, сустракалі супрацьдзеянне мясцовых уладаў. А таму наша хадайніцтва аб садзейнічанні апынулася марным, а зламысныя і асмеленыя беспакаранасцю людзі дазволілі сабе падбухторваць сялян да непаслушэнства і нянавісці да ўладальнікаў і, нарэшце, да відавочнага непадпарадкавання [...].

Такім чынам, замест чаканага і неабходнага для земляробчага краю выніку, які заключаецца ў трывалым уладкаванні сялян, мы атрымалі недавер да вышэйшага зацверджанага аб сялянах палажэння, непаслушэнства супраць уладаў, нянавісць і злосць супраць памешчыкаў пры абсалютным разладзе сельскай гаспадаркі» [7, с. 328- 330].

З прычыны нязгоды з палітыкай урада ў адносінах да пераўтварэнняў 16 сакавіка 1863 года падаў у адстаўку нават правадыр гродзенскага губернскага

дваранства, паляк па нацыянальнасці, граф Віктар Старжынскі, накіраваўшы пры гэтым копію свайго пратэстнага ліста да ўсіх павятовых правадыроў дваранства Гродзенскай губерні: «Я на працягу двух мінулых гадоў імкнуўся прымірыць народ з урадам, спадзеючыся, што буду ў стане выклапатаць такія ўстановы і пераўтварэнні, якія кожны, з нават самымі ўмеранымі жаданнямі, грамадзянін лічыць істотнымі і неабходнымі. Пры ўсім гэтым гэтую шчырую і ўмераную праграму не ацанілі належным чынам».

У той жа час Старжынскі заявіў, што дваране Літвы і Беларусі на з'ездзе ў Вільні пастанавілі процідзейнічаць паўстанню. Ён лічыў, што пры першых беспарадках сяляне апынуцца на баку ўрада і адвернуцца супраць паўстанцаў [12, с. 12].

Да гонару павятовых правадыроў дваранства ў сакавіку 1863 года ў знак падтрымкі Старжынскага ад сваіх пасадаў адмовіліся 6 павятовых правадыроў дваранства з 9 існуючых паветаў Гродзенскай губерні, у тым ліку і правадыр дваранства Ваўкавыскага павета Тадэвуш Сегень. Аднак мы бачым Сегеня на гэтай пасадзе да 1865 года. Гэта можна растлумачыць тым, што гродзенскі губернатар яго адстаўку не прыняў [7, с.327-329].

Іншыя правадыры Гродзенскай губерні нават прынялі ўдзел у паўстанні. Так, за дапамогу паўстанцам правадыр з суседняга з Ваўкавыскім Пружанскага павета Валенці Швыкоўскі быў пазбаўлены ўласнае сядзібы і правёў у ссылцы чатыры гады. У 1867 годзе прысуд яму быў скасаваны, і ён здолеў вярнуцца на радзіму. У 2003 годзе ў пружанскім парку было знойдзена вялікае сховішча зброі, якая, як мяркуецца, належала паўстанцам і да якой мог мець дачыненне Швыкоўскі [13].

Віктар Старжынскі прысудам палявога суда быў асуджаны на сібірскую катаргу, а мінскі правадыр дваранства А. Лапа - у ссылку ў Пермскую губерню. Пазней прысуд у адносінах да Старжынскага быў заменены больш мяккім – абмежаваліся адным годам зняволення ў Бабруйскай крэпасці з наступнай высылкай у Варонежскую губерню [9, с. 311].

# ПРАПАГАНДЫСЦКАЯ ПАДТРЫМКА ПАЎСТАННЯ

На першым этапе паўстання прапагандысцкае забеспячэнне з'яўлялася амаль самай галоўнай задачай для яго кіраўнікоў. Ад таго, падтрымае ці не паўстанне асноўная маса простага народа, залежыў і лёс паўстання. Таму як пры падрыхтоўцы паўстання, так і ў яго працэсе кіраўніцтвам быў выдадзены шэраг маніфестаў і пракламацый, у якіх змяшчалі не толькі заклікі да народа, але і тлумачылі сутнасць і задачы паўстання.

Прапагандысцкая дзейнасць у Гродзенскай губерні пачалася пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага з вясны 1861 года, калі пасля заканчэння вучобы ў Пецярбургу ён прыехаў у Гродна з мэтай арганізацыі тайнага таварыства. У таварыства ўвайшлі: губернскі сакратар Эразм Заблоцкі, афіцэр Ян Ваньковіч, каморнікі Фелікс Ражанскі і Ільдэфонс Малевіч, ксяндзы Ян Заржыцкі і Ігнат Казлоўскі, будучы генерал Парыжскай камуны Валерый Урублеўскі і іншыя. Такія ж таварыствы былі створаны і ў павятовых гарадах Гродзенскай губерні [14] .

Пераапранутыя ў даматканае сялянскае адзенне члены тайнай арганізацыі хадзілі ў людныя месцы, дзе збіраліся сяляне: кірмашы, таргі, млыны, карчмы, да цэркваў і касцёлаў, каля якіх пасля набажэнства заўсёды збіралася шмат народу. Тым больш, што стыхійным сходам спрыяў абвешчаны царом Маніфест аб адмене прыгоннага права: сяляне з цікавасцю слухалі кожнага, хто загаворваў на гэтую тэму, хто мог крытычна растлумачыць яго тэкст. У месцах збору народу пад прыкрыццём натоўпу можна было незаўважна для начальства раздаць і агітацыйныя матэрыялы. Нічога, што яны траплялі да непісьменных сялян: хоць адзін на ўсю вёску знойдзецца пісьменны, свой чалавек, які не данясе ўладам пра крамольныя лісткі. У сваіх успамінах Фелікс Ражанскі пісаў, што народ паўсюль ставіўся да агітатараў добразычліва, шматлікія доказы чаго былі дадзены як напярэдадні, так і ў ходзе самога паўстання [14].

Першым агітацыйным матэрыялам у Гродзенскай губерні з'явілася брашура пад назвай «Гутарка старога дзеда», якая восенню 1861 года была выдадзена Браніславам Шварцам у Беластоку ў тайнай друкарні. Тэкст брашуры

быў набраны лацінскім шрыфтам на беларускай мове, а аўтарам хутчэй за ўсё з'яўляўся Вінцэнт Карацінскі. Усяго было выдадзена чатыры нумары брашуры. «Гутаркі» крытыкавалі парадкі ў Расійскай імперыі, якім супрацьпастаўлялі ідэалізаваны вобраз Польшчы [15].

Яшчэ адным агітацыйнымі выданнем, прызначаным для сялян заходніх губерняў, была газета «Мужыцкая праўда», якая выдавалася К. Каліноўскім.

«Мужыцкая праўда» пачала выдавацца ў 1862 годзе. Усяго выйшла 7 нумароў, шэсць з якіх – да канца 1862 года , а апошні – толькі летам 1863 года, калі паўстанне ў заходніх губернях ужо было практычна задушана. Газета была разлічана толькі на сялян. Друкавалася лацінскім шрыфтам на адной або двух баках на беларускай мове і падпісвалася псеўданімам «Яська – гаспадар з-пад Вільні». Газетай яе можна назваць умоўна, таму што па аб'ёме і змесце была больш падобнай на лістоўку.

Газету распаўсюджвалі і сяляне. Селянін з Гродзенскай губерні Казімір Станкевіч, перадаючы знаёмым сялянам лісткі «Мужыцкай праўды», казаў: «Прачытайце самі або хай вам прачытаюць іншыя і будзеце ведаць аб паншчыне. Ці можаце пакінуць іх у сябе, такіх у мяне ёсць больш за сотню» [16, с. 119].

Бадай кожны нумар «Мужыцкай праўды» прысвячаўся нейкай асобнай тэме. Напрыклад, рэкруцкай павіннасці ці абароне ўніяцкай царквы, якая магла б стаць нацыянальнай рэлігіяй беларусаў, тым самым пазбавіўшы іх ад рэлігійнага ўплыву Польшчы і Расіі. Газета выкрывала злоўжыванні расійскіх чыноўнікаў, антынародную палітыку царскага ўрада. Так, «Мужыцкая праўда» № 4 расказвала сялянам, якім павінен быць добры ўрад: «І як добры слуга глядзіць худобы гаспадарскай і слухае свайго гаспадара, так добры ронд (урад) глядзець павінен шчасця людзей, слухаць народу і рабіць так, як народаві лепей. І не дзіва, бо не народ зроблены для ронду, а ронд для народу» [5].

Газета расказвала аб набалелых сялянскіх праблемах, якія павінна было вырашыць паўстанне, адначасова заклікаючы да барацьбы супраць рускіх і паноў: «Ад маскаля і паноў няма чаго спадзявацца, бо яны не вольнасці, а глуму і здзёрства нашага хочуць». А таксама супраць цара і яго чыноўнікаў: «Дзяры з нас, цар, дзярэце з нас, чыноўнікі яго, хаця ды астатняе шкуры, але памятайце, што і на нас прыйдзе пара, памятайце, што калі мужык разгуляецца, то, як свет шырокі, кроў ваша пальецца».

Па данясеннях сакрэтных агентаў улады газета друкавалася на тэрыторыі этнічнай Польшчы, хутчэй за ўсё ў Варшаве. Па звестках палітычнай паліцыі, лістоўкі дастаўляліся з Варшавы ў Гродна па чыгунцы, а далей маглі разыходзіцца па ўсёй тэрыторыі Гродзенскай губерні і за яе межы. Аб пастаяннай перавозцы па чыгунцы агітацыйнай літаратуры і нават зброі было вядома расійскім уладам, аднак з-за таго, што амаль уся чыгуначная адміністрацыя складалася з палякаў, спыніць падобныя перавозкі было праблематычна [17, с. 141].

Стаўленне да газеты «Мужыцкая праўда» сярод сучаснікаў тых далёкіх падзей было неадназначным. Так, удзельнік паўстання, член арганізацыі «чырвоных» шляхціц Е.І. Кучэўскі-Порай успамінаў: «... падпольная рэвалюцыйная газетка ставіла сваей мэтай праз пажары і кроў падбухторыць сялян супраць маскалёў, чыноўнікаў і даўніх паноў ... У гэтай газеце не відаць было здаровай развагі, якой-небудзь сапраўднай гаркаты ад крыўды, глыбокай скаргі, патрэбы адраджэння – адно толькі крывавая помста і злачынствы, якія асвячаліся ў імя гэтай помсты» [9, с. 211].

І сапраўды. Як да кожнага агітацыйнага матэрыялу, да яе таксама можна паставіцца крытычна. Усе прапагандысцкія тэксты ў «Мужыцкай праўдзе» былі заснаваны на ідэалізацыі гісторыі Рэчы Паспалітай. У ёй даваліся заведама нездзяй-сняльныя абяцанні зраўнаваць сялян з панамі, што адштурхоўвала памешчыкаў ад паўстання. Шосты нумар газеты цалкам быў прысвечаны выкрыццю праваслаўнай веры як схізматычнай і прызыву вярнуцца да уніі. Часта ў ёй сустракаюцца чыста філасофскія развагі і экскурсы ў гісторыю. У ёй адсутнічалі канкрэтныя прыклады цяжкага сялянскага жыцця або самаўпраўнасці ўлад, што з большай карысцю падзейнічала б на розумы простага чалавека.

У той жа час «Мужыцкая праўда» адкрывала вочы селяніну на яго горкую долю. Беларускі гісторык Генадзь Кісялёў, вядомы даследчык паўстання 1863 года, пісаў пра «Мужыцкую праўду»: «Гэта было вольнае беларускае слова, якое несла праўду пра тагачасную грамадская-палітычную сітуацыю, давала адказы на самыя вострыя пытанні часу. Газета ў мностве экзэмпляраў распаўсюджвалася па ўсім краі і адыграла значны ролю ў мабілізацыі народных мас на барацьбу з самадзяржаўем» [9,с 9].

Цікавы той факт, што ў канцы першага нумара газеты быў надрукаваны яе кошт: «каштуе грошы 5», хоць распаўсюджвалася яна бясплатна.

Хутчэй за ўсё кошт газеты пісаўся для адводу вачэй, г.зн. дзеля канспірацыі, быццам бы гэта афіцыйна дазволенае выданне.

5 кастрычніка 1862 года, едучы на паштовых конях па шляху са Слоніма ў Ваўкавыск, Каліноўскі раскідваў па вёсках трэці нумар сваёй газеты. Праз два дні прыстаў 2-га стана Слонімскага павета Л. Агацін у вёсцы Шэйнякі выявіў некалькі экзэмпляраў «Мужыцкай праўды», якая была канфіскавана ў сялян мясцовай уладай. Пасля расследавання прыстаў Агацін адаслаў рапарт гродзенскаму губернатару фон Галеру: «Часоваабавязаным сялянам ад некаторага часу падкідваюцца зламыснымі людзьмі экзэмпляры брашур для чытання пад назвай «Мужыцкая праўда». З гэтых брашур сяляне, чытаючы іх паміж сабой, чэрпаюць разнастайныя думкі.

Жадаючы затым адкрыць такія брашуры, адпраўляўся я ўчарашняй датай у вёскі Шэйнякі ў давераным мне стане, па тракце Ваўкавыскім размешчанай, дзе пры садзеянні мясцовага старасты Людвіга Ляўковіча адкрыў 2 экзэмпляры памянёнай брашуры. З ліку сялян вёскі Шэйнякі Марцін Мікуцін, Антон Агіевіч і Міхаіл Лукашэвіч патлумачылі, што 7 кастрычніка ў 5 гадзін пасля абеду праезджы накіроўваўся паштовым трактам праз вёску Шэйнякі ў горад Ваўкавыск на пары паштовых коней. Па шляху выкідваў скруткі папер на дарогу, і памянёныя сяляне, падымаючы, звярталіся да граматных сваіх аднавяскоўцаў прачытаць.

Вышэйадзначаны пасажыр апрануты быў у кароткае футра, пакрытае, здавалася ім, сукном, каўнер якога з доўгіх чорных баранчыкаў, фуражку на галаве меў грамадзянскага ведамства з зорачкай. Сам быў росту сярэдняга, брунэт, вусоў чорных, гадоў каля 36. Калі б у такім касцюме прадставіць вышэйсказанага пасажыра, то сяляне яго апазнаюць. Кучар ж, які вёз яго, быў фурман з Ружанскай паштовай станцыі, бялявы, вусоў русых.

У выніку такога тлумачэння сялян звяртаўся я на Ружанскую паштовую станцыю. Па забранай мною асабіста даведцы выявіў, што праезджым пасажырам быў, як відаць з кнігі, нехта дваранін Вікенцій Каліноўскі, які выехаў у 5 гадзін, па падарожнай ад 5 кастрычніка за № 16668 яму выдадзенай. Ён вяртаўся з горада Слоніма ў горад Ваўкавыск. Наколькі я мог пераканацца, згаданы Каліноўскі служыць у адным з прысутных месц горада Ваўкавыска. Фурман жа паштовай Ружанскай станцыі Талай, сапраўды, такіх прыкмет, як паказалі вышэйзгаданыя сяляне, вазіў Каліноўскага ў Падароск.

Бачачы ў прадстаўленых мною пры гэтым двюх брашурах, што яны маюць мэту мяцежную і супрацьзаконную, лічу за абавязак данесці Вашаму Правасхадзіцельству і паважна далучыць, што за хаджэннем такіх брашур паміж сялянамі маю пільнае назіранне.

27 кастрычніка 1862 года, станавы прыстаў, калежскі асэсар Агацін» [18, с. 477].

Варта сказаць, што Падароск з'яўляўся валасным цэнтрам Ваўкавыскага павета, у якім знаходзілася паштовая станцыя. Меркаванне ж прыстава Агаціна аб службе Каліноўскага ў Ваўкавыску было памылковым.

Прачытаўшы рапарт, губернатар фон Галер даручыў гродзенскаму жандарскаму штаб-афіцэру Лелякову расследаваць справу і затрымаць Каліноўскага. З гэтага часу Каліноўскі вымушаны быў перайсці на нелегальнае становішча. Тым не менш, газета працягвала распаўсюджвацца. 13 мая 1863 года гродзенскі губернатар фон Галер паведамляў ваўкавыскаму ваеннаму начальніку аб з'яўленні «Мужыцкай праўды» ў падуладным яму Ваўкавыскім павеце: «Былы пісар Гарнастаевіцкай воласці, часоваабавязаны селянін Серкучэўскі, які пражывае ў мястэчку Свіслач, па праведзеным маёрам Вітам з корпуса жандармеры дазнанні, аказаўся вінаватым у чытанні старшыні азначанай воласці Антонію Аўсейку і сялянам у валасным праўленні абуральнага лістка пад назвай «Мужыцкая праўда».

Паведамляю пра гэта Ваша Высокаблагароддзе для распараджэння аб адшуканні Серкучэўскага і адданні яго законнай адказнасці» [19, с. 2].

29 мая маёр Віт паведамляў губернатару, што звесткі аб разгалашэнні памянутым пісарам Серкучэўскім брашуры ў «абуральным духу» пад назвай «Мужыцкая праўда» пацвердзіліся. Серкучэўскі сапраўды чытаў газету перад старшынёю Антоніем Аўсейкам і народам у валасным праўленні. Таму Віт адправіўся ў мястэчка Свіслач, дзе жыў Серкучэўскі. Разам са станавым прыставам правялі ў яго доме старанны вобыск, але газеты не знайшлі [19, с. 16-17].

Нягледзячы на агітацыю, сяляне ставіліся да паўстання з падазрэннем. Аб відавочным правале кіраўніцтва паўстаннем на прапагандысцкім фронце разважае беларускі фалькларыст, этнограф і мовазнаўца Адам Багдановіч, бацька вядомага беларускага паэта Максіма Багдановіча: «Сяляне ясна бачылі ці чуццём адгадвалі, што гэты рух, перш за ўсё – класавы, а потым – нацыянальны. Хто фарміраваў атрады або «банды», як іх называлі царскія ўлады? Памешчыкі, учарашнія ўладальнікі прыгонных душ. З каго камплектаваліся атрады? З тых жа памешчыкаў, дробнай шляхты і чэлядзі, г.зн. «подпанкаў» і «панят», – учарашніх непасрэдных і лютых ворагаў сялянства, іх самых жорсткіх прыгнятальнікаў ... Сярод сялян хадзілі чуткі, што рух мае на мэце аднаўленне прыгоннай залежнасці. І па складзе ўдзельнікаў было падобна на тое. Тое, што ішлі дваровыя каманднай часткі, было зразумела: іх інтарэсы былі цесна звязаны з інтарэсамі пана, і з падзеннем

прыгоннай залежнасці сялян яны шмат гублялі ў сваім паўпрывілегіяваным становішчы»[20, с. 53].

Як паведамлялася вышэй, з пачаткам паўстання ў Вільні быў выдадзены маніфест ЛПК, праграмны дакумент паўстання ў беларускіх і літоўскіх губернях. Аддрукавалі яго ў выглядзе невялікага лістка на польскай мове з пячаткай камітэта. Маніфест складаўся з 6 пунктаў:

1. З гэтага дня ўсе сяляне і іншыя жыхары ўсякага паходжання і веравызнання робяцца свабоднымі, як старапольская шляхта.

2. Польскі народны ўрад аддае ўсім аселым сялянам, памешчыцкім і казённым, на вечныя часы ў поўную ўласнасць, без чыншу і выкупаў тую зямлю, якая знаходзілася ў іх, а ўсе распараджэнні маскоўскага ўрада знішчыць, бо гэта зямля польская, а не маскоўская.

3. За гэта сяляне павінны, як шляхта, абараняць польскі край, абывацелямі якога яны робяцца з сённяшняга дня.

4. Парабкі ж, адстаўныя салдаты і ўсе неаселыя, якія пойдуць абараняць польскі край ад маскалёў, атрымаюць ва ўзнагароду самі альбо іх сваякі надзел зямлі не менш трох моргаў.

5. Польскі ўрад узнагародзіць абывацеляў за панесеныя імі ахвяры з народных фундушоў.

6. Хто не будзе падпарадкоўвацца гэтаму маніфесту, ці будзе гэта памешчык ці селянін, чыноўнік ці хто-небудзь іншы, будзе пакараны па польскім ваенным законе [7, с. 276-277].

У адным з архіўных спраў Гістарычнага архіва ў Гродне знаходзіцца яшчэ адзін зварот кіраўніцтва Літоўскага камітэта да паўстанцаў, у якім больш падрабязна апісаны задачы паўстання, дзеянні і тактыка паўстанцаў. Па прычыне таго, што арыгінал дакумента быў напісаны на польскай мове, то для азнаямлення з ім ваенных павятовых начальнікаў Гродзенскай губерні ён быў пераведзены на рускую мову. Дакумент не датаваны (Дадатак 1).

Прысяга, якую прымалі паўстанцы, таксама гучала на польскай мове і давалася не сваёй літвінскай радзіме, а Польшчы: «Прысягаем у імя Найсвяцейшай Тройцы і клянёмся на ранах Хрыста, што нашай радзіме Польшчы будзем служыць верна і выконваць у імя той жа айчыны Польшчы ўсе загады , прадпісаныя нам начальнікамі. Распараджэнняў ж рабаўнічага маскоўскага ўрада слухаць не будзем і, наколькі магчыма і сіл хопіць, мы абавязуемся дапамагаць польскаму войску і паўстанцам. Ды дапаможа нам Бог, у Найсвяцейшай Тройцы Адзіны, Маці Божая і ўсе Святыя. Амэн» [7, с. 349].

Паўстанне супраць цара падтрымала і падпольная расійская рэвалюцыйная арганізацыя «Зямля і Воля», якая да салдат і афіцэраў расійскай арміі, удзельнікаў падаўлення паўстання склала зварот. Так, пад грыфам «сакрэт-

на» 13 сакавіка 1863 года гродзенскі губернатар разаслаў па губерні цыркулярны ліст павятовым ваенным начальнікам: «З Санкт-Пецярбурга ў розныя губерні разасланы друкаваныя заклікі на рускай мове, якія маюць на мэце схіліць рускіх на карысць абураных палякаў і адхіліць салдат і афіцэраў нашай арміі ад выканання службовага іх доўгу.

На аркушах гэтага закліку, надрукаванага ў двух слупках, уверсе маецца круглая пячатка, вакол якой словы «Рускі цэнтральны народны камітэт», а ў сярэдзіне – «Зямля і воля», унізе ж азначана: «Друкарня таварыства З і В».

З прычыны гэтага прашу Ваша Высокаблагароддзе мець асаблівае назіранне за з'яўленнем такіх лісткоў і аб наступным паведаміць мне» [21, с. 8].

Цікавы таксама тэкст звароту кіраўніцтва паўстаннем да рэкрутаў з прычыны іх нялёгкай шматгадовай службы (глядзець тэкст звароту ў дадатку).

У радах паўстанцаў ваявала пэўная частка салдат і афіцэраў расійскай арміі, якія паддаліся на дадзеную агітацыю. Аднак агульны працэнт іх быў мізэрны, і пераход да паўстанцаў прыняў адзінкавы характар. Так, напрыклад, з пяці палкоў царскай арміі, у розны час размешчаных на тэрыторыі Ваўкавыскага павета, да паўстанцаў перайшоў усяго адзін чалавек. Гэта радавы з дваран Карвоўскі Уладзіслаў з Неўскага пяхотнага палка, які ўцёк да паўстанцаў у маі 1863 года. У лістападзе Карвоўскі быў узяты ў палон, а ў красавіку 1864 года расстраляны як здраднік прысязе.

Са Стараінгерманландскага пяхотнага палка адзін толькі прапаршчык Дэўроп наклікаў на сябе падазрэнне ў спачуванні да паўстання. З Сафійскага пяхотнага палка унтэр-афіцэр Трафім Ермалаеў садзейнічаў пабегу «палітычнага злачынца», за што быў асуджаны на 3 гады арыштанцкіх рот. З Пскоўскага пяхотнага палка прапаршчык Нікадзім Дамброўскі падазраваўся ў падрыхтоўцы перадачы боепрыпасаў для паўстанцаў [22].

Больш за ўсё афіцэраў перайшло да паўстанцаў з Лібаўскага пяхотнага палка, раскватараванага ў Беластоку. Ды і то гэта былі выхадцы з заходніх губерняў, якія мелі магчымасць наладзіць кантакты з мясцовымі патрыётамі.

Яшчэ да з'яўлення паўстанцаў у Ваўкавыскім павеце ў некаторых мястэчках і вёсках, дзе на зімовых кватэрах размясціліся падраздзяленні расійскай арміі, на іх пачаўся псіхалагічны ціск. 29 студзеня 1863 года ваўкавыскі спраўнік даносіў губернатару, што прыстаў 3-га стана прадставіў яму аб’яву. Яна была знойдзена дзясяцкімі ў Свіслачы прыбітай на слупе плота каля сада адстаўнога паручніка Вільчынскага. У аб'яве паведамлялася, што ў ноч на 27 студзеня павінен адбыцца напад на раскватараванае ў Свіслачы войска [21, с. 3].

Наогул, агітацыя і прапаганда як сярод мясцовага насельніцтва, так і сярод салдат расійскай арміі хоць і з'яўлялася значным сродкам уплыву на людскую свядомасць, аднак не магла прывесці да вялікага эфекту. Галоўнай прычынай таму была непісьменнасць большасці насельніцтва. Да таго ж лістоўку або газету «Мужыцкая праўда» трэба было чытаць з аглядкай: ці не данясе хто-небудзь з нядобразычліўцаў пра гэта прыставу, вясковаму старасце або валасному старшыні? Таму, каб адукаванаму чалавеку прачытаць пракламацыю сярод непісьменных жыхароў патрабавалася пэўная мужнасць. Калі б аб чытанні агітацыйных матэрыялаў стала вядома паліцэйскаму прыставу, той неадкладна ўзяў бы такога агітатара пад варту з далейшым судом і высылкай у Сібір. Па гэтай жа прычыне не ўсе ксяндзы маглі адкрыта выступіць перад сваімі парафіянамі ў касцёле. Хоць вясной 1863 года невядомыя людзі ўручалі ксяндзам тэкст маніфеста, выдадзеным кіраўніцтвам паўстанцаў, загадваючы чытаць яго вернікам, а ў выпадку адмовы пагражалі смерцю. Такім чынам, ксяндзы апынуліся паміж молатам і кавадлам. Аднак выпадкаў выканання пагроз над ксяндзамі з боку паўстанцаў у Ваўкавыскім павеце не было. Праваслаўныя служыцелі царквы, наадварот, свядома і без усялякіх абмежаванняў заклікалі сваю паству не садзейнічаць паўстанню.

Што датычыцца непісьменнасці салдат, то пра гэта расказвае падпалкоўнік Пірожнікаў, летапісец Новаінгерманландскага палка, які прымаў удзел у падаўленні паўстання ў Гродзенскай губерні. Па сведчанні афіцэраў, якія служылі ў той час, паміж салдатамі пісьменны быў рэдкасцю, а ўстанова ротных школ для навучання непісьменных унтэр-афіцэраў служыць доказам гэтага сведчання [23, с. 281].

У інструкцыі расійскіх уладаў аб ваенным становішчы таксама звярталася асаблівая ўвага на недапушчэнне прапагандысцкай падтрымкі паўстання, якая ў асноўным зыходзіла ад каталіцкага духавенства. Усім ксяндзам у гарадах і сёлах прадпісвалася абвясціць, што за кожнае садзейнічанне паўстанню словам ці справай, за чытанне пракламацый або правядзенне маніфестацый у касцёлах і па-за імі вінаватыя будуць неадкладна ўзяты пад варту і асуджаны на месцы па ўсёй строгасці ваенных законаў. Ксяндзы папярэджваліся, што ўсякія адгаворкі, быццам бы яны садзейнічалі паўстанню пад прымусам, не будуць прымацца, таму што слуга алтара менш за іншых павінен падпарадкоўвацца пагрозам паўстанцаў. На думку ўладаў, абавязкам ксяндзоў з'яўлялася ахвяраванне сабою для супакаення краю. Яны павінны былі вярнуць сваіх вернікаў да выканання святога абавязку вернападданніцкай прысягі свайму гасудару [24, с. 19адв.].

Адпаведную інструкцыю ўсе ксяндзы атрымалі і ад імя свайго галоўнага «начальніка», віленскага біскупа А.С. Красінскага, які 30 студзеня 1863 года разаслаў на месцы па ўсёй Віленскай епархіі цыркулярны ліст: «Каб духавенства не адважвалася аб'яўляць не толькі абуральнага маніфеста, але ніякіх рашучых аб'яў без дазволу епархіяльнага начальства. Каб у казаннях не аддалялася ад царкоўнага і чыста хрысціянскага вучэння, не ўмешвалася ў палітыку, не ўзбуджала азарту і не ўдзельнічала ў іншых якіх-небудзь учынках для вызвалення сябе ад адказнасці за беспарадкі. Дэканам ж даручана назіраць за выкананнем гэтага» [7, с. 250].

З усяго гэтага вынікае, што ўлада мела значна больш магчымасцяў правесці сваю антыпаўстанцкую агітацыю  лепш і больш эфектыўна, чым самі паўстанцы.

Былі прыняты і іншыя меры па недапушчэнні ў заходнія губерні непажаданай друкаванай прадукцыі, а ўсе паштовыя пасылкі праглядаліся на прадмет друкаваных выданняў. Так, 23 красавіка 1863 года віленскі цэнзурны камітэт накіраваў гродзенскаму губернатару вестку аб праверцы замежных кніг, дасланых з заграніцы на адрас памешчыка Ваўкавыскага павета Булгарына. Усе кнігі аказаліся дазволенымі і былі выдадзены ўладальніку [25, с. 3].

Вельмі істотнай прапагандысцкай дапамогай паўстанцам з'яўлялася дыпламатычная падтрымка паўстання заходнімі краінамі. Аляксандр Масолаў, які быў падчас паўстання памочнікам віленскага генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва з канцылярыі, успамінаў, што адначасова з развіццём паўстання на расійскі ўрад уз’елася ўся Заходняя Еўропа. Яго абвінавачвалі ва ўціску няшчасных палякаў і прапаноўвалі пасрэдніцтва, кангрэс.

Усе замежныя газеты шкадавалі палякаў, якія мужна гінулі за бацькаўшчыну. Рускіх называлі варварамі і манголамі, прапаноўвалі адысці далей на Усход, дзе яны сапраўды павінны быць, саступіўшы месца польскай цывілізацыі. Англійскі і французскі двары адправілі расійскаму ўраду патрабавальныя ноты, якія натхнілі паўстанне, тым самым падтрымаўшы надзеі палякаў. Услед за Францыяй і Англіяй паспяшаліся пратэставаць і іншыя дзяржавы [26].

Аднак адной толькі дыпламатычнай падтрымкі паўстання аказалася мала. Паўстанцам патрабавалася істотная матэрыяльная дапамога, а яе аказалася зусім не дастаткова, інакш бы ўсе яны былі ўзброены агнястрэльнай зброяй і забяспечаны адпаведнай амуніцыяй.

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ І ЯГО БРАТ ВІКТАР

Адным з галоўных кіраўнікоў паўстання ў нашым краі, як паведамлялася вышэй, быў Кастусь Каліноўскі. У канцы сакавіка 1863 года ён быў накіраваны на пасаду камісара Гродзенскай губерні. На гэтую пасаду старшынёй Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы Якубам Гейштарам разглядалася некалькі кандыдатур, але ён абраў менавіта Каліноўскага. Аб сваім выбары Гейштар потым успамінаў: «Пры належным прызнанні і павазе да яго характару, я павінен, пішучы шчыра, сказаць, што Каліноўскі быў выдатным, а ў нас, можа, адзіным камісарам, чалавекам вялікай ахвярнасці». Для выканання сваіх абавязкаў Каліноўскі з Вільні выехаў у Гродна, адкуль было зручней кіраваць паўстаннем у губерні [9, с. 156].

Варта адзначыць, што Каліноўскі, які прысвяціў сваё кароткае жыццё барацьбе «за нашу і вашу свабоду», з'яўляецца выхадцам з Гродзенскай губерні. Нарадзіўся ўвечары 21 студзеня (2 лютага) 1838 года ў вёсцы Мастаўляны Гродзенскага павета (цяпер Польшча) у сям'і беззямельнага шляхціца рымска-каталіцкага веравызнання, уладальніка невялікай ткацкай мануфактуры. Хрысціўся ў парафіяльным касцёле мястэчка Ялоўка Ваўкавыскага павета. Пры нараджэнні атрымаў падвойнае імя Вінцэнт-Канстанцін. Маці Каліноўскага – Вераніка Рыбінская памерла маладой, калі Вінцэнту было ўсяго 5 гадоў. У 1849 годзе, калі Кастусю было 11 гадоў, сям'я Каліноўскіх з новай маці Ізабэлай Лазарэвіч перабралася ў Ваўкавыскі павет у фальварак Якушоўка, што побач са Свіслаччу, пры гэтым набыўшы 220 дзесяцін зямлі. Ад двух шлюбаў у бацькі Сямёна (Сымона) было 17 дзяцей, што нават па тых часах лічылася шмат. Праўда, не ўсе яны дажылі да сталага ўзросту. У 1856 годзе Вінцэнт скончыў Свіслацкую прагімназію, а ў 1860 годзе - юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, атрымаўшы званне кандыдата юрыдычных навук.

У падвойным польскім імі Каліноўскага – Вінцэнт-Канстанцін няма нічога дзіўнага, таму што ў каталіцкай царкве нованароджанаму нярэдка даюць і па тры імені. Падобная традыцыя зарадзілася таму, што дзіця было прынята называць па святцах імем таго святога, у чый дзень з'явіўся на свет

Мал.3. Вінцэнт Канстанцін Каліноўскі




дзіця. Але гэта імя не заўсёды падабалася бацькам. І тады бацькі сталі даваць дзецям другое імя.

Захавалася метрычная кніга Ялоўскага касцёла, у якой за 1838 год пад дзвюма датамі 6 лютага і 4 красавіка на польскай мове былі зроблены два запісы, г.зн. абрад хрышчэння паўтараўся два разы па колькасці дадзеных немаўляці імёнаў. У другім абрадзе былі іншыя хросныя бацькі. Беларускі гісторык Язэп Янушкевіч упершыню апублікаваў поўны тэкст запісаў метрычнай кнігі ў перакладзе на беларускую мову: «Року Божага тысяча ва-

семсот трыццаць восьмага, месяца лютага, шостага дня ў Ялаўскім рыма-каталіцкім парафіяльным касцёле вікарыем таго ж касцёла Францішкам Каржанеўскім было ахрышчанае вадою немаўля Вінцэнт Сымона й Веранікі з Рыбіньскіх Каліноўскіх. Нарожаны таго ж года, студзеня дваццаць першага дня ўвечары ў той самай парафіі. Хросныя бацькі: Багуслаў Сузін з радавітай Марыяннай Мацяевічанкай, паннай»

«Року Божага тысяча васемсот трыццаць восьмага месяца красавіка чацвёртага дня ў Ялоўскім рыма-каталіцкім парафіяльным касцёле быў дапоўнены вікарыем таго ж касцёла ксяндзом Францішкам Каржанеўскім абрады хросту над дзіцяткам, названым імёнамі Вінцэсь-Кастусь, сынам Сымона й Веранікі з Рыбіньскіх Каліноўскіх, шлюбных бацькоў, народжаным таго ж года, месяца студзеня дваццаць першага дня ўвечары і ў дзень шосты месяца лютага [праз таго ж самаго ксяндза ... ахрышчаным] ... Хросныя бацькі: Антось Кіткевіч, адміністратар Ялаўскага парафіяльнага касцёла, каплан Свіслацкай гімназіі з Петранэляй, жонкай Канстанціна Крукоўскага. Асіставалі ... Канстанцін Крукоўскі з Эльжбетаю, жонкай Казімера Шыманьскага» [27].

Вядома, што імя, названае па святцы, у побыце шляхцічы выкарыстоўвалі рэдка. У выпадку з Каліноўскім справа ідзе інакш, таму што ў побыце ён выкарыстаў абодва імя: польскія Вінцэнт і Канстанцы, а таксама рускае Вікенцій. Вінцэнтам яго назвалі ў гонар каталіцкіх святых Вінцэнта Сарагоскага і Вінцэнта Палоцці, занесеных у святцы на дзень 22 студзеня. У той жа час імем Канстанцін часцей за ўсё называлі праваслаўных. Язэп Янушкевіч польскае імя Канстанцы, запісанае ў метрыцы, перавёў як беларускае Кастусь. Беларускі гісторык Анатоль Грыцкевіч сцвярджае, што імя Кастусь – прыдумка савецкіх часоў. Упершыню так правадыра паўстання назваў у 1920-х гадах гісторык Усевалад Ігнатоўскі, першы прэзідэнт Інбелкульта (Акадэміі навук). Логіка была такая: Вікенцій – занадта польскае імя, Канстанцін – занадта праваслаўнае. А Кастусь – было «па-народнаму», тое, што трэба! .. [28].

Але беларускае імя Каліноўскага прыжылося ў беларускай гісторыяграфіі, а таму ў дадзенай кніге таксама пішацца Кастусь.

Трэба адзначыць акалічнасць, што, будучы студэнтам Пецярбургскага ўніверсітэта, у афіцыйных дакументах Каліноўскі падпісваўся Вікенцій. Пачынаючы з 1 жніўня 1856 года па 28 ліпеня 1860 года ён 6 разоў пісаў прашэнне рэктару Пецярбургскага ўніверсітэта Пятру Аляксандравічу Плятнёву аб матэрыяльнай дапамозе, падпісаныя як «Вікенцій Каліноўскі» [9, с. 80-84].

Каліноўскі, нарадзіўся ў вёсцы Мастаўляны Гродзенскага павета, а яго бацька Сямён нарадзіўся ў вёсцы Рэпля Ваўкавыскага павета. Такім чынам, карані Каліноўскага ідуць з Ваўкавышчыны. Пра гэта сведчыць архіўны дакумент з тэкстам допыту Сямёна Каліноўскага ад 24 красавіка 1864 года, які быў узяты ад яго Гродзенскай следчай камісіяй №1: «Гадоў мне 70, каталік, родам з Рэплі ў Гродзенскім або Ваўкавыскім павеце і ў гэтым касцёле ахрышчаны. Бацькі мае былі Стэфан і Тэрэзія Каліноўскія, у споведзі бываю штогод, выхавання дамашняга, у дзяржаўнай службе не быў, а займаўся вырабам сурвэтак і абрусаў, пад судом і следствам не быў. Жанаты быў два разы: ад першай жонкі, па прозвішчы Рыбінская, маю 12 дзяцей, а ад другой, па прозвішчы Лазарэвіч, маю 5 дзяцей. З нерухомай маёмасці маю набыты напалову з жонкаю фальварак Якушоўка ў Ваўкавыскім павеце, пры якім лічыцца зямлі 220 дзесяцін.

Сын мой двух імёнаў - Вікенцій і Канстанцін - па прыездзе ў 1861 годзе з Пецярбургскага ўніверсітэта дадому пачаў перш дапамагаць мне ў гаспадарцы. Пасля, пасварыўшыся са сваёю мачахай, абвясціў мне, што хоча шукаць сабе месца, на што я яму адказаў, што гэта проста зрабіць, таму што ты як добра адукаваны чалавек можаш атрымаць месца, а мне трэба імкнуцца, каб быў кавалак хлеба для малых дзяцей. Калі я ж яго спытаў, куды ты думаеш ехаць, адказаў мне, што ў Гродна, чаму я наняў яму фурманку і даў 12 рублёў на дарогу. Па прыездзе ў Гродна ён спыніўся ў заезджым доме, а фурманку адпусціў назад. У 1862 годзе прыехаў каля Вялікадня дадому на нанятай фурманцы і абвясціў мне, што ёсць надзея атрымаць месца, але трэба толькі больш клапаціцца. Сын мой першы раз паехаў у Гродна ў сакавіку месяцы. Другі раз паехаў у Гродна праз тыдзень ці два пасля Вялікадня і загадаў ехаць у Вялікую Бераставіцу, адкуль на зваротнай фурманцы хацеў ехаць у Гродна. Так гэта і атрымалася, таму што фурманку адпусціў назад, а праз два тыдні прыехаў на нанятай фурманцы з Гродна за рэчамі і ложкам, абвясціўшы мне, што маецца на ўвазе месца следчага ў крымінальнай палаце і трэба там служыць да адкрыцця вакансіі. На што я яму сказаў: «Вось і дзякуй Богу, што ты атрымаеш месца, бяры рэчы і едзь з Богам». У месяцы кастрычніку ці пазней прыехаў дадому і скардзіўся, што нельга жыць без жалавання, а даходаў вельмі мала, чаму і прасіў у мяне грошай, і я, заняўшы 25 рублёў, аддаў яму, і ён паехаў назад у Гродна.

5 снежня 1862 года я атрымаў ад яго ліст, які быў напісаны з Пецярбурга, і з гэтага часу, дзе ён знаходзіўся, што рабіў, мне зусім невядома.




Мал.4. План-праэкт сядзібы Каліноўскіх у Якушоўцы

Калі падпалкоўнік Казанлі прыходзіў з атрадам і пытаўся пра майго сына, я яму ўсё расказаў і аддаў ліст, які пісаў з Пецярбурга 5 снежня 1862 года. Заблоцкага я не ведаю і нічога пра яго не магу сказаць. Я, як бедны чалавек, займаўся гаспадаркай і рукадзеллем і з такімі аддаленымі людзьмі знаёмства не заводжу.

Сапраўды падпісаў Сямён Стэфана (Сцяпана) сын Каліноўскі» [29, с. 247-248 адв.].

Якім быў на самай справе фабрыкантам Сямён Каліноўскі? Палатняную фабрыку ў Мастаўлянах Сямён Каліноўскі набыў ў 1835 годзе, г.зн. ва ўзросце 41 год, для чаго давялося прадаць маёнтак, які дастаўся па спадчыне ад бацькі Стэфана. Дапамогу ва ўладкаванні фабрыкі з 12 ткацкіх станкоў аказаў яму фабрыкант Ігнат Бонда з мястэчка Астроленка, размешчанага на рацэ Нараў. Сама фабрыка размясцілася ў маёнтку памешчыка Пятра Радавіцкага. На фабрыцы выраблялiся абрусы, ручнікі, сурвэткі і іншыя ільняныя тавары. Сямён Каліноўскі аказаўся паспяховым прадпрымальнікам, таму што ў 1840 годзе Бонда выдаў яму пасведчанне аб тым, што вырабы фабрыкі па якасці не саступаюць замежным. Мала таго, са справаздачы гродзенскага губернатара аб стане прамысловасці ў губерні за 1847 год сярод некалькіх самых лепшых вытворчасцей была адзначана і мастаўлянская фабрыка, якая вырабляла самыя лепшыя абрусы і сурвэткі, што карысталіся павышаным попытам на кірмашах [16, с. 33].

Таму няма нічога дзіўнага, што праз 14 гадоў працы фабрыкі ў 1849 годзе Сямён Каліноўскі на назапашаны капітал купіў новы маёнтак Якушоўка з

220 дзесяцінамі зямлі, размешчаным у суседняй з Мастаўлянамі Свіслацкай парафіі. Маёнтак быў выкуплены ў апекуна Каліноўскага мастаўлянскага памешчыка Пятра Радавіцкага, які набыў яго ў 1827 годзе.

Мінскі гісторык Андрэй Кіштымаў высветліў, што мастаўлянская палатняная фабрыка ў Гродзенскім павеце двараніна Сымона Каліноўскага да 1840 года складалася з 12 ткацкіх станкоў, якія размяшчаліся ў драўляным будынку. Збыт гатовай прадукцыі, а яе выраблялі на 2693 рублёў срэбрам у год, быў наладжаны ў Гродзенскай, Віленскай, Мінскай губернях і Беластоцкай вобласці. Прадпрыемства было чыста капіталістычным, з адным майстрам і 20 вольнанаёмнымі рабочымі. Неўзабаве пасля пераезду ў Якушоўку даход фабрыкі рэзка ўзрос, а ў 1852 годзе аб'ём яе гадавой вытворчасці ацэньваўся ўжо ў 10 тысяч рублёў, што па тых часах з'яўлялася даволі значным капіталам [31, с. 34].

Падчас пераезду ў Якушоўку Кастусь Каліноўскі ўжо навучаўся ў Свіслачы ў тамашняй гімназіі, куды паступіў у 1847 годзе. У 1851 годзе ўлады пераўтварылі гімназію ў павятовую вучэльню, якую ён закончыў у 1852 годзе. З 1852 года па 1855 год жыве ў бацькоўскім маёнтку Якушоўка, дапамагае ў гаспадарчых клопатах, зай-маецца самаадукацыяй.

У канцы 1855 года Кастусь ад'язджае да старэйшага брата Віктара ў Маскву, жадаючы працягнуць адукацыю. Той ужо тры гады як навучаўся на медыцынскім факультэце Маскоўскага ўніверсітэта. Але ў 1856 годзе Віктар нечакана пакідае вучобу, і браты Каліноўскія накіроўваюцца ў Пецярбург. Там Віктар уладкаваўся на працы ў Імператарскую публічную бібліятэку. Працуючы ў ёй, Віктар Каліноўскі па даручэнні Віленскай археалагічнай камісіі займаўся пошукам ў кнігасховішчах матэрыялаў па гісторыі Рэчы Паспалітай, іх апісаннем і капіраваннем. Малодшы брат падаў прашэнне на імя в.а. рэктара Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта Э.Х. Ленца аб допуску ды прыёмных іспытаў. Кастусь паспяхова здаў экзамены, і ў кастрычнікумесяцы быў залічаны на першы курс юрыдычнага факультэта па разрадзе камеральных навук. Улетку 1860 года ўніверсітэцкі курс быў паспяхова скончаны, а неўзабаве пасля падачы дысертацыі – 4 (17) лютага 1861 года ён атрымаў дыплом кандыдата права [5].

Прычыну раптоўнага пераезду з Масквы ў Пецярбург братоў Каліноўскіх высветліў гісторык Вячаслаў Шалькевіч. У 1855 годзе пасля смерці цара Мікалая I археолагу графу Яўстафію Тышкевічу ўдалося атрымаць дазвол на стварэнне ў Вільні Музея старажытнасцей і адкрыцця пры ім Археалагічнай камісіі. Актыўнейшым дзеячам музея і камісіі стаў вядо-

мы беларускі этнограф і гісторык Адам Кіркор, выдавец газеты «Кур’ер Віленьскі», які і далучыў да работы ў камісіі Віктара Каліноўскага. Віктар прыняў прапанову Кіркора выконваць у Пецярбургу навуковыя даручэнні Віленскай археалагічнай камісіі. У прыватнасці, ён адшукваў і рыхтаваў для публікацыі каштоўныя рукапісы, што датычылі гісторыі Беларусі, Літвы і Польшчы. У імператарскай Публічнай бібліятэцы Віктар Каліноўскі працаваў да самай смерці, на працягу трох год перыядычна перасылаючы А.Кіркору ў Вільню копіі гістарычных матэрыялаў.

Расійскі гісторык Мікалай Кастамараў, які ў адзін час з Віктарам працаваў у бібліятэцы і які пасябраваў з ім, успамінаў пра свайго сябра: «Мой жа прыяцель быў чалавекам іншага гарту (раней Кастамараў узгадваў пра Кастуся Каліноўскага – М.Б.): ён увесь жыў мінулымі стагоддзямі і амаль не цікавіўся сучаснымі падзеямі… Заўсёды ў зацяганым плашчы, харчуючыся нішчэмнаю ядою ў нейкай польскай кухмістаршы, Каліноўскі мала



Мал. 5.
Магіла Віктара Каліноўскага на каталіцкіх могілках у Свіслачы.
Аўтар Юрась Мацко

клапаціўся пра свой жыццёвы камфорт і, можна сказаць, ва ўсіх адносінах быў чалавек «як не з гэтага свету».

Але ў адносінах таго, што Віктар не цікавіўся сучаснымі падзеямі, Кастамараў не быў дакладным. Дзякуючы свайму брату Кастусю ён стаў сябрам канспіратыўнага пецярбургскага рэвалюцыйнага гуртка Серакоўскага-Дамброўскага [32, с. 194-200].

Таксама з дапамогай брата Кастусь Каліноўскі падключыўся да працы над гістарычнымі дакументамі, а таму няма нічога дзіўнага, што ён ведаў гісторыю Беларусі не толькі па ўніверсітэцкіх падручніках. У хуткім часе пазнанне невядомых старонак гісторыі дапамагло яму ў складанні тэкстаў для газеты «Мужыцкая праўда».

Віктар Каліноўскі не дажыў да паўстання, памёршы ў 1862 годзе ў доме бацькоў ад сухотаў на 29-ым годзе свайго жыцця. Магчымай прычынай таго паслужыў яго непатрабавальны лад жыцця ў паўночным Пецярбургу, апісаны гісторыкам Кастамаравым. З ліста сястры Каліноўскіх Казіміры Багушэвіч, напісанага ў 1905 годзе нявызначанаму адрасату ў Вільні, даведаемся пра некаторыя іншыя звесткі пра братоў: «Не ведаю, ці шаноўны пан ведае, што Канстанціна забраў у Пецярбург Віктар і што Кастусь закончыў прагімназію ў Свіслачы, 5 класаў. Паехаўшы ў Пецярбург, падрыхтаваўся і паступіў на праўна-камеральны факультэт, атрымліваў стыпендыю, закончыў кандыдатам. Чытала замежную кніжку пра паўстанне, дзе пераблыталі Віктара і Кастуся, бо ў Маскве быў толькі Віктар і ў публічнай імператарскай бібліятэцы сляпіўся ў Пецярбургу Віктар і скончыў сухотамі. Шмат прывёз папераў сваёй працы, а Эльжбета Данцэвіч прадала іх за некалькі соцен рублёў у Варшаве, а каму не ведаю. У тых паперах было шмат помнікаў старажытнасці. Таксама пра бацьку сказана сын ткача, на самой справе ў Якушоўцы была фабрыка ільняных вырабаў, трымаў работнікаў, а сам імі кіраваў…» [33, с. 19].

Нягледзячы на сваё нелегальнае становішча, Кастусь наведаў у Якушоўцы бацьку з сям'ёй неўзабаве пасля смерці брата Віктара. Пра гэта піша іншая сястра (ці ж блізкая сваячкя) Каліноўскіх Марыя Плаўская ў 1905 годзе невызначанаму адрасату ў Вільні: «Канстанцін быў хрышчаны Ялоўскім пробашчам, бо Мастаўляны належаць да Ялоўскай парафіі. Вінцэнт Канстанцін нарадзіўся 1838 года 21 студзеня. Маці Вераніка Рыбіньска з Янушэўскіх, бацька – Сымон ...

Праз два тыдні пасля смерці Віктара дадому прыехаў Канстанцін і, нягледзячы на ўсе просьбы бацькі, не стаў доўга затрымлівацца. Быў у доме толькі адзін дзень, а пасля яго выезду на другі дзень прыехала свіслацкая паліцыя, шукаючы яго, а разам з ёй нейкая фігура з Гродна.

Другі раз быў у доме толькі некалькі гадзін. Прайшоў вайсковы атрад, а ён прыехаў тады з Ялоўкі з другім маладым чалавекам, якога, відавочна, вельмі паважаў. Маладзён быў прыстойны і меў сівыя валасы. Тады ён апошні раз быў у доме…

Аднойчы таксама прыслаў нам ліст з Пецярбургу, які прадставілі мы вайскому начальніку Казанлі…» [33, с. 21].

Толькі любоў і павага да старэйшага брата маглі падштурхнуць Кастуся на рызыкоўны крок адведаць родных і, магчыма, магілу брата.

Пасля паўстання ўладам спатрэбілася дакументальнае сведчанне пра смерць Віктара Каліноўскага. 23 кастрычніка 1865 года прыстаў 4-га стана Ваўкавыскага павета на гэты кошт узяў у бацькі Сямёна наступнае тлумачэнне: «Згодна з прадстаўленым мне загадам спадара ваеннага начальніка ад 20 кастрычніка маю гонар далажыць, што сын мой Віктар Каліноўскі, брат пакаранага палітычнага злачынца двухімяннога Вікенція Канстанціна Каліноўскага воляю Божай памёр з сухотаў у маёнтку Якушоўка. Пахаваны ў мястэчку Свіслач на парафіяльных рымска-каталіцкіх могілках таму тры гады, 26 ці 25 чысла кастрычніка».

Тут жа маецца тлумачэнне прыстава, узятае з метрычнай кнігі, дзе відаць, што Віктар Каліноўскі памёр 25 кастрычніка 1862 года [34, с. 71].

Разгром многіх паўстанцкіх атрадаў, шматлікія страты ў выніку баявых дзеянняў і арыштаў, пасіўнасць «белых» у падпольных структурах прымусілі Нестара Дзюлерана, які з пачатку сакавіка 1863 года фактычна ўзначальваў Аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы, ізноў запрасіць у Вільню К.Каліноўскага. Разам з ім у канцы мая 1863 года ў склад віленскага паўстанцкага цэнтра, які стаў называцца Выканаўчым аддзелам Літвы, увайшлі Уладыслаў Малахоўскі і Іосіф Каліноўскі. Дзякуючы ім дзейнасць аддзела прыкметна актывізавалася і радыкалізавалася.

Аднак перад сваім ад’ездам у Вільню ў сярэдзіне мая Каліноўскі разам з грамадзянскім начальнікам Гродзенскай губерні Эразмам Заблоцкім здзейснілі паездку па Слонімскім і Ваўкавыскім паветах для навядзення парадку ў падпольнай паўстанцкай арганізацыі. Рускі гісторык генерал Васіль Ратч пісаў пра гэту паездку: «У маі ён палічыў неабходным асабістым сваім

аб’ездам ваяводства аднавіць значэнне рэвалюцыйнай улады ў выглядзе шляхецтва, на якое арышты і пакаранні ў Вільні аказвалі пэўнага роду ўздзеянні. Пагардліва прымаў ён памешчыкаў, якія да яго з’яўляліся, усюды па папярэднім распараджэнні быў для яго падрыхтаваны экіпаж, расстаўлены коні. Мясцовыя ўлады арганізацыі павінны былі сустракаць яго ў межах сваіх участкаў і праводзіць у дарогу. ... Праезд рэвалюцыйнага кіраўніка Гродзенскага ваяводства пакінуў пасля сябе агульны страх» [9, с. 179].

З 5 (18) ліпеня 1863 года К.Каліноўскаму былі перададзены паўнамоцтвы старшыні Выканаўчага аддзела Літвы, а з 28 ліпеня (9 жніўня) – паўнамоцтвы камісара варшаўскага ўрада ў Вільні. Такім чынам, да канца лета 1863 года ў яго руках сканцэнтравалася ўся паўната ўлады ў паўстанцкай арганізацыі на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Аднак выкарыстаць яе для рэалізацыі сваёй праграмы ён ужо не меў ні часу, ні магчымасці, бо, паводле ацэнкі Міхаіла Мураўёва, на пачатку верасня паўстанне ў беларуска-літоўскіх губернях было практычна задушана [35].

Аж да таго часу, пакуль не злавілі К. Каліноўскага, у канцы студзеня 1864 года за домам бацькі Каліноўскага ў маёнтку Якушоўка было ўстаноўлена тайнае назіранне. Сам жа Сямён Каліноўскі быў арыштаваны ў красавіку 1864 годзе і знаходзіўся пад следствам у Гродна да снежня 1864 года. Выпушчаны быў пад строгі паліцэйскі нагляд і паручыцельства.

Пад грыфам «сакрэтна» ў лістападзе 1863 года ваўкавыскі павятовы спраўнік даносіў губернатару Скварцову: «Корпуса жандараў капітан Віт адкліканнем ад 7-га гэтага лістапада за №62 патрабаваў майго распараджэння аб адшуканні і затрыманні двараніна Вікенція Каліноўскага, і хоць на месцы ў яго бацькоў над хутарам Якушоўка маецца сакрэтнае пастаяннае назіранне за з’яўленнем там Каліноўскага, а таксама па павеце ажыццяўляюцца актыўныя спробы па яго адшуканню, да гэтага часу ён у павеце не знойдзены. Між тым даходзяць да мяне чуткі, што ён ужо злоўлены. Пра што Вашаму Правасхадзіцельству пачціва маю гонар данесці. Ці варта пасля затрымання Каліноўскага працягнуць па павеце назіранне, пра што пакорліва буду чакаць дазволу» [36, с. 14].

Рэзалюцыя на рапарт была атрымана 10 лістапада: «Абавязкова. Чуткам верыць няма чаго».

Расійскія ўлады яшчэ доўга не пакідалі без сваёй увагі сям’ю Кастуся Каліноўскага. 11 верасня 1875 года з канцыляры гродзенскага губернатара генерал-маёра Зурава да ваўкавыскага павятовага спраўніка паступіў

запыт аб родным браце Кастуся – Міхаіле, якія пражываў у маёнтку Якушоўка. Спраўніку даручалася даведацца, ці не пазбаўлены той правоў за крымінальныя злачынствы і ці не знаходзіцца за гэта пад судом [37, с. 63].

У адказе 27 верасня спраўнік пісаў, што дваранін Міхаіл Сямёнавіч Каліноўскі правоў маёмасці сілаю закона за крымінальныя злачынствы не пазбаўлены і не знаходзіцца за гэта пад судом [37, с. 63адв.].

Апошняе ўпамінанне пра Міхаіла Каліноўскага як уладальніка маёнтка Якушоўка ў 226 дзесяцін адносіцца да 1890 года [38].

Польскі гісторык Баляслаў Ліманоўскі падкрэсліў велізарную ролю Каліноўскага ў апошні перыяд паўстання: «Ён трымаў у сваіх руках усе ніці арганізацыі. ...Маскалі называлі яго дыктатарам Літвы, і ён сапраўды быў дыктатарам. Толькі дыктатарам маральным сярод нешматлікіх, праўда, аддзелаў патрыётаў, якія не страцілі веры ў поспех нацыянальнай справы» [39, с. 67].

# КІРАЎНІЦТВА ПАЎСТАННЕМ

Грамадзянскім начальнікам Гродзенскага, Ваўкавыскага і Слонімскага паветаў вясной 1863 года быў прызначаны дробны чыноўнік з Гродна Эразм Карлавіч Заблоцкі. У сваіх паказаннях 29 сакавіка 1864 года ў асаблівай следчай камісіі ён расказаў даволі шмат, выдаўшы прозвішчы некаторых памешчыкаў, удзельнікаў паўстання: «Летам 1862 года я прыехаў з Каралеўства Польскага ў Гродна, дзе сустрэў Валерыя Урублеўскага і Канстанціна Каліноўскага ...

Каліноўскі прапанаваў мне пасаду ў арганізацыі таму, каб у ёй было больш людзей аднолькавага з ім становішча, г.зн. не належаць да класа памешчыкаў, інакш апошнія забяруць усю ўладу ў свае рукі, і я прыняў яго прапанову. Неўзабаве пасля гэтага (вясною 1863 года. – М.Б.) прыехаў з Вільні памешчык Гофмейстар (з ім я быў знаёмы раней), сказаў, што ён ваяводскі Гродзенскай губерні, а мне ўручыў мандат на званне яго памочніка, таму што ў кіраванне маё даручаецца тры паветы: Гродзенскі, Ваўкавыскі і Слонімскі, якімі я павінен буду загадваць на падставе інструкцыі. Апошнюю я сапраўды неўзабаве атрымаў ад камісара Гродзенскай губерні Канстанціна Каліноўскага, які жыў тады ў Беластоку. Змест інструкцыі, колькі я цяпер памятаю, быў наступным: 1. Стварыць арганізацыю ў давераных мне паветах, г.зн. прызначыць павятовых начальнікаў, пры іх пяць рэферэнтаў, якіх магло быць і тры, таму што дапушчалася адной асобе сумяшчаць дзве пасады, і акруговых. Зрэшты, прызначэнне апошніх аддадзена было ў распараджэнне павятовых начальнікаў. Рэферэнты былі: ваенны, касір, апекі і камунікацыі. 2. Атрымліваць штотыдзень рапарты ад павятовых і са сваім заключэннем прадстаўляць такія ваяводскаму камісару. 3. Растлумачваць сумненні павятовых, калі яны сустрэнуць якія-небудзь перашкоды ў адпраўленні сваёй пасады.

... У далейшым я звярнуўся да Станіслава Солтана (памешчык), таму што сам не меў ніякіх сувязяў па-за горадам, і Солтан узяў на сябе абавязак сфарміраваць арганізацыю ў паветах Гродзенскім і Ваўкавыскім, а Франц Юндзіл – у Слонімскім, таму што ён быў памешчык таго павета. Ад Солтана я даведаўся, што членамі арганізацыі ім прызначаны наступныя асобы: павятовым Гродзенскага павета – памешчык Станіслаў Сільвестровіч ..., у Ваўкавыскім па-

веце павятовым стаў доктар Мечыслаў Гліндзіч, рэферэнты: апекі і камунікацыі – памешчык Уладзіслаў Тарасовіч, жанаты з дачкой губернскага маршалка Кржывіцкага, ваенным – адстаўны падпаручнік або паручнік Калупайла, касы – Фердынанд Калупайла (Касой). У Слонімскім павеце павятовым быў прызначаны доктар Сімановіч ...

Перапіска ў Ваўкавыскім павеце ішла праз маёнтак Навасёлкі памешчыка Спірыдовіча.

... У далейшым, калі фарміраваліся шайкі, то з прычыны распараджэнняў ваенных начальнікаў арганізацыя расстроілася, тым больш, што ў Ваўкавыскім павеце павятовы Гліндзіч схаваўся, пазбягаючы праследавання з боку ўрада, а ў Слонімскім – павятовы Сімановіч быў арыштаваны. Сувязь паміж паветамі перарвалася, што перашкаджала атрымліваць якія-небудзь звесткі. Таму Каліноўскі прыбыў у Гродна, каб зладзіць арганізацыю, а разам з тым заахвоціць да дзейнасці яе членаў. Для гэтага, як і для таго, каб яшчэ больш пераканацца ў сапраўднай бяздзейнасці чыноўнікаў арганізацыі, прапанаваў мне адправіцца разам з ім у Ваўкавыскі і Слонімскі паветы (канец красавіка. – М.Б.).

Мы паехалі, наколькі памятаю, так: спачатку да памешчыка Спірыдовіча, ад яго ў маёнтак Алексічы памешчыка Завістоўскага, далей да памешчыка Біспінга, маёнтак Вярэйкі, там начавалі, потым, здаецца, у маёнтак Гнезна, да памешчыка Канстанціна Тарасовіча, далей ужо станцыі не памятаю. З вышэйазначаных памешчыкаў не засталі мы дома толькі Завістоўскага, які быў тады рэферэнтам камунікацый, і Каліноўскі напісаў яму і пакінуў вымову, таму што ім, Каліноўскім, паведамлена было загадзя аб нашым прыездзе па гэтым тракце. У той час па дарозе на Ваўкавыск месцамі былі размешчаны войскі, і праязджаць па гэтым тракце было небяспечна, таму мы паехалі ў Слонімскі павет ...

Паветы Гродзенскі, Ваўкавыскі і Слонімскі падпарадкаваны ім (Каліноўскім) ксяндзу Чаповічу, які прызначаны ім памочнікам камісара» [29, с. 1-8].

З маршруту руху Заблоцкага і Каліноўскага выходзіць, што маёнткі Навасёлкі і Алексічы (Алекшыцы) былі размешчаны ў Гродзенскім павеце, маёнткі Вярэйкі і Гнезна – у Ваўкавыскім павеце.

Падрыхтоўку да паўстання павятовы грамадзянскі начальнік Мечыслаў Гліндзіч, сын памешчыка маёнтка Кватэры Ваўкавыскага павета Антона Гліндзіча, праводзіў разам са сваімі братамі Янам, Атонам і Францішкам. З пачаткам паўстання Мечыслаў Гліндзіч далучыўся да аднаго з атрадаў

паўстанцаў, у якім лячыў хворых і параненых. Праследаваўся рускімі войскамі, ведаў, што яго родны брат Антон памёр у ваўкавыскай турме. Гліндзіч перайшоў мяжу і апынуўся ў Францыі.

Антон, брат Мечыслава, быў жанаты з Тэадорай з Ажэшкаў, якая прыходзілася роднай сястрой Пятру Ажэшку – мужу пісьменніцы Элізы Ажэшкі. У 1858 годзе Антон Гліндзіч выступіў у якасці свата Пятра Ажэшкі да 17-гадовай Элізы Паўлоўскай. Разам з жонкай Тэадорай удзельнічаў у паўстанні, за што абодва былі заключаны ў ваўкавыскую турму. Праз два гады затачэння Антон памёр.

Трэці брат - Ян жаніўся з Марыянай з Гораглядаў, якія трымалі маёнтак Навасады на Навагрудчыне. Ён таксама заплаціў смерцю за свой удзел у паўстанні.

Як бачым, кіраўніцтва паўстанцамі (па меншай меры, у Гродзенскім, Ваўкавыскім і Слонімскім паветах) з часам прыйшло ў разлад. Да таго ж з паказанняў Фердынанда Калупайлы не зусім ясна: у сапраўднасці ці толькі на паперы ў Ваўкавыскім павеце была створана паўстанцкая арганізацыя. 30 красавіка 1864 года дваранін Фердынанд Ігнатавіч Калупайла ў Гродзенскай следчай камісіі растлумачыў, што з'яўляецца памешчыкам Ваўкавыскага павета, 35 гадоў, веравызнання рымска-каталіцкага, нарадзіўся ў Ваўкавыскім павеце ў маёнтку Свянціцы. Бацькі Ігнат і Марыя Калупайла памерлі. Да святога прычасця прыступаў штогод, адукацыю атрымаў у гімназіі ў Свянцянах, служыў канцылярскім чыноўнікам у Гродзенскім дэпутацкім сходзе, атрымаў чын тытулярнага саветніка. У 1863 годзе быў зацверджаны дэпутатам дваранства Ваўкавыскага павета. Пад судом і следствам не быў, меў дачку 5 гадоў. З маёмасці меў непадзельныя маёнткі: Свянціцу, Красны Груд і Цярэшкі.

Што ж тычыцца паказанняў, зробленых Заблоцкім, патлумачыў, што яны ілжывыя і несправядлівыя: «Дзіўлюся, якім чынам можна гэтак бессаромна рабіць паказанні на чалавека невінаватага ..., ніякай пасады я не займаў, нікога не ведаю і зусім гэтай справы не разумею. Я мушу яшчэ сказаць, што жыў я ў малым гарадку, за некалькі крокаў ад паліцэйскай і ваеннай улады, і ні ў чым і ніколі не быў заўважаны, і з горада нідзе не выязджаў на працягу 10 месяцаў ...» [40, с. 23] .

Ці былі паказанні Фердынанда Калупайлы праўдзівымі, ці ён аднекваўся ад сваіх сувязяў з паўстанцамі толькі для таго, каб не панесці пакаранне, пра гэта мы не ведаем. Добра вядома толькі тое, што шмат хто з удзельнікаў паўстання падчас следства не даваў добраахвотна шчырых паказанняў, а сваё знаходжанне ў лесе сярод паўстанцаў або дапамогу ім тлумачылі прымусам.

З аднаго боку, Калупайла быў абвінавачаны ўладамі ў тым, што з'яўляўся ваенным рэвалюцыйным рэферэнтам, а таму ў 1864 годзе знаходзіўся пад строгім паліцэйскім наглядам. З іншага боку, аб недатыкальнасці Фердынанда Калупайлы да паўстання (або нязначным удзеле) кажа той факт, што ўсе яго маёнткі не былі канфіскаваны. Пасля іх атрымала ў спадчыну яго дачка Марыя, якая выйшла замуж за графа Іосіфа Міанчынскага, але пасля нараджэння сына Вітольда страціла розум і памерла ў 1907 годзе. Пахавалі яе ў капліцы ў Гнезна, дзе былі пахаваныя яе бацькі Фердынанд і Юлія .

У чэрвені 1864 года ў сувязі з паказаннямі Заблоцкага быў дапытаны і Аляксандр Біспінг, які знаходзіўся ў гэты час у ссылцы ў Арэнбургскай губерні ў горадзе Уфе і дастаўлены з яе ў Гродна для дачы паказанняў (падрабязней у асобнай главе «Справы іншых дваран». – *М.Б.*). З нагоды прыезду да яго ў Вярэйкі Заблоцкага ён расказаў, што спадар Заблоцкі, які сцвердзіў, быццам бы ён праязджаў праз яго маёнтак Вярэйкі са спадаром Каліноўскім, асоба яму цалкам не знаёмая, гэтак жа як і сам спадар Каліноўскі. Абодва прозвішчы першы раз пачуў у камісіі на следстве. Па прычыне таго, што ў яго маёнтку Вярэйкі размешчаны заезны двор, то Заблоцкі з Каліноўскім, можа быць, у ім і начавалі, але ён гэтага не чуў і нічога пра гэта не ведае [29, с. 116].

У якой ступені Каліноўскі меў дачыненне да прызначэння кіраўнікоў паўстання ў паветах Гродзенскай губерні, невядома. Адно можна сказаць, што названыя ваўкавыскія памешчыкі не маглі раздзяляць яго рэвалюцыйных поглядаў. Пра гэта сведчыць член варшаўскага Нацыянальнага ўрада Оскар Авейдэ: «Белыя», атрымаўшы ў свае рукі ўладу, цалкам выкінулі ад удзелу ў кіраванні справамі жывы, малады, уласна рэвалюцыйны элемент. Важныя пасады камісараў, начальнікаў ваяводстваў і паветаў даставаліся амаль выключна вельмі добрым і вельмі спакойным, проста кажучы, гнілым шляхціцам – памешчыкам» [41, с. 542].

15 лютага 1864 года ў тлумачальнай запісцы, дадзенай Кастусём Каліноўскім пасля заканчэння над ім следства, ва ўдзеле гродзенскіх памешчыкаў у паўстанні таксама адзначалася пасіўнасць: «На памешчыкаў і іх сялян я атрымліваў пастаянныя скаргі ад ваенных начальнікаў, якія ў сваю чаргу прадстаўляў па абавязках Дзюлерану. Які ўдзел прымалі гродзенскія памешчыкі ў народнай арганізацыі, мне добра невядома, але вынікаў іх дзейнасці ў дачыненні да ваенных атрадаў амаль зусім не было. Шайкі вымушаны былі ў пераважнай большасці ўласнымі сродкамі набываць усё неабходнае» [9, с. 143].



Мал. 6. Штаб паўстанцаў. Гравюра з французскага тыднёвіка „Le Monde illustre”

Хто ж ажыццяўляў непасрэднае ваеннае кіраўніцтва партызанскімі атрадамі ў Ваўкавыскім павеце? Часткова пра гэта на следстве ў Вільні 28 лютага 1864 года даў паказанні сам Кастусь Каліноўскі, паказаўшы на тых асоб, якія апынуліся ўжо ў эміграцыі і былі недаступнымі для расійскай улады: «Адпраўлены перада мною ў Гродзенскую губерню Ануфры Духінскі, які з'явіўся тут у Вільні з мандатам палкоўніка, дадзеным яму, як я бачыў з подпісу, Высоцкім, распачаў узброенае паўстанне ў Гродзенскай губерні. Меліся паўстаць па распараджэнні Духінскага ў адзін час усе паветы, але ў выніку таго, што ён даў вельмі кароткі тэрмін, то паспелі распачаць паўстанне толькі ў трох паветах – Сакольскім, Беластоцкім і Бельску. Палкоўнік Ландэр (Лянкевіч), які з'явіўся ўжо ў лагер Духінскага, прыняў на сябе абавязак ваеннага начальніка Гродзенскага павета. Ваўкавыскі павет паўстаў па распараджэнні Духінскага, але без прызначанага ад яго ваеннага начальніка – з’явіўся такім Стравінскі, які пасля перайшоў пад кіраўніцтва Ландэра» [9, с. 144].

Аб Духінскім і Стравінскім размова пойдзе ў наступных раздзелах. Што ж тычыцца палкоўніка Лянкевіча, то ён быў прызначаны ваенным

начальнікам Гродзенскага і Ваўкавыскага паветаў 19 красавіка. У гэты час ён камандаваў гродзенскім атрадам у колькасці 25 чалавек. Аляксандр Алаізавіч Лянкевіч (1823 -?), псеўданім Ландэр, служыў да 1861 года падпалкоўнікам у царскай арміі і пасля адстаўкі жыў у сваім фальварку Панюкі Гродзенскай губерні. Палкоўніцкі чын быў падараваны яму кіраўніцтвам паўстання. У верасні 1863 года перайшоў мяжу і потым эміграваў у Амерыку. Па сцвярджэнні царскіх уладаў атрадам Лянкевіча ў Гродзенскім павеце было пакарана смерцю 70 чалавек рознага звання, за што завочна ён быў прысуджаны да смяротнага пакарання. Але, як убачым далей, гэтая лічба была вельмі завышана, бо нават па ўсей Гродзенскай губерні ахвярамі паўстанцаў стала значна меньш асоб.

Узброенае паўстанне патрабавала велізарных грашовых выдаткаў. Частка грошай разам са зброяй і амуніцыяй паступала з-за мяжы, але за аплату пэўнай часткі зброі патрабавалася адшукаць грошы на месцы. Рэвалюцыйнае кіраўніцтва Гродзенскай губерні вырашыла накласці грашовую павіннасць на ўсіх заможных людзей губерні. На падставе дэкрэта народнага ўрада ад 8 красавіка і грашовай інструкцыі ад 10 красавіка сума грашовага падатку налічвалася ў працэнтных вылічэннях ад гадавога даходу і была размеркавана ў залежнасці ад саслоўя.

21 мая 1863 года паўстанцкае грамадзянскае начальства Гродзенскай губерні абвесціла аб грашовым зборы, названым «народным ахвяраваннем». У звароце да грамадзянскіх і ваенных начальнікаў паветаў прапаноўвалася самым хуткім чынам на месцах зацвердзіць грашовыя камітэты. Уносіць грошы былі абавязаны наступныя плацельшчыкі:

а) усе памешчыкі ці ўладальнікі ўсіх закладзеных нерухомых маёнткаў, сельскіх ці гарадскіх, па 10%;

б) капіталісты, банкіры, падрадчыкі і ўладальнікі фабрык, мануфактур і гандлёвых устаноў 1-га класа, па 10%;

в) уладальнікі фабрык, мануфактур і гандлёвых устаноў 2-га класа, па 5%;

г) уладальнікі фабрык, мануфактур і гандлёвых устаноў 3-га класа, па 2%;

д) уладальнікі прыватных навучальных устаноў, артысты, чыноўнікі, урадавыя і прыватныя служачыя, па 2%;

е) рамеснікі і майстры, па 2%;

ж) паверэныя, дактары, аптэкары, архітэктары і інжынеры, па 7%.

Для Ваўкавыскага павета нават была падлічана сума мяркуемых ахвяраванняў. Толькі з аднаго працэнта названых збораў павінна было

паступіць не менш 17780 польскіх злотых. Выклікае здзіўленне, што сума паказвалася не ў расійскіх рублях, а ў злотых, якія хадзілі ў Каралеўстве Польскім. Калі ўлічыць, што 1 злоты быў роўны 15 капейкам, то збор павінен быў складасці 2667 рублёў. Пра тых, хто ўхіляецца ад плацяжу, трэба было неадкладна паведаміць начальству паўстання Гродзенскай губерні [42, с. 72-73адв.].

Дакументаў, якія б пацвярджалі збор грошай з азначаных катэгорый асоб Ваўкавыскага павета, у архіўных дакументах не знойдзена. Затое ў паказаннях сялян, дадзеных ваўкавыскай следчай камісіі, многія адзначалі, што збор грошай адбываўся, а зборшчыкам грошай з'яўляўся Густаў Стравінскі (Млотак).

На месцах паўстанцкія павятовыя ўлады дзейнічалі згодна з атрыманымі інструкцыямі, адну з якіх прыпісваюць Каліноўскаму. Інструкцыя была выдадзена ў канцы вясны, пачатку лета 1863 года. Адзін з экзэмпляраў інструкцыі на польскай мове быў знойдзены расійскімі вайскоўцамі ў патронніку забітага паўстанца 15 ліпеня 1863 года пасля бою ва ўрочышчы Пашкаўшчына Ваўкавыскага павета. На інструкцыі стаяла пячатка камісара Гродзенскай губерні Каліноўскага (Дадатак 2).

Аднак гэтую і іншыя інструкцыі выканаць было цяжка, нават немагчыма, бо гэтаму перашкаджала тая акалічнасць, што горад Ваўкавыск і ўсе мястэчкі ў павеце, як зрэшты і ў іншых паветах, засталіся пад царскай уладай, а не перайшлі пад уладу паўстанцаў. Калі паўстанцы і з'яўляліся на кароткі час у мястэчках і вёсках, то толькі праездам, пакуль аб іх месцы знаходжання не даведваліся расійскія вайскоўцы. Для адкрытага супрацьстаяння з аддзеламі рэгулярнай расійскай арміі ў паўстанцкіх атрадаў не было ні неабходнай колькасці паўстанцаў, ні ўзбраення, ні ваенных навыкаў.

Імкнучыся падкрэсліць свой ідэйны характар, атрады паўстанцаў абзаводзіліся сімваламі ідэйнасці – сцягамі. Пра адзін такі сцяга вядома з рапарта прыстава 3-га стана Івана Радзевіча, пасланага 24 верасеня 1863 года ваўкавыскаму павятоваму спраўніку Рыгору Шаншыне. Ён пераслаў яму бляшаную скрынку, у якой захоўваўся сцяг паўстанцаў. Скрынка са сцягам была знойдзена селянінам Кватэрскай грамады вёскі Гарбачы Іванам Заржэнскім [43, с. 59].

Апісаць, як выглядаў сцяг, не ўяўляецца магчымым. Можа быць, гэта быў сцяг атрада Кабылінскага, аб якім будзе напісана ніжэй і які меў малюнак глобуса на блакітным фоне. Агульным жа сімвалам паўстання з'яўляўся прыняты Нацыянальным урадам герб з выявай Арла, Пагоні і св. Архангела Міхаіла – знакаў Польшчы, Літвы і Украіны.

# КІРАЎНІЦТВА РУСКІМІ ВОЙСКАМІ І РАЗМЯШЧЭННЕ ВОЙСКАЎ

Інструкцыя аб ваенна-грамадзянскім кіраванні, якое было ўведзена ў заходніх губернях, абавязвала заснаваць у кожным павеце пільнае ваенна-паліцэйскае ўпраўленне. Галоўныя начальнікі войскаў, па дамоўленасці з начальнікамі губерняў, абавязаны былі прызначыць ваенных павятовых начальнікаў. Апошнія павінны былі падбірацца з ліку старшых камандзіраў, вядомых сваёю дзейнасцю і распараджэннямі і пераважна са штаб-афіцэраў, якія камандуюць у дадзенай мясцовасці войскамі. Звычайна прызначаліся тыя з афіцэраў, у падпарадкаванні якіх у дадзеным павеце знаходзілася найбольшае вайсковае падраздзяленне. Там, дзе яны аказаліся недастаткова распарадчымі, прапаноўвалася неадкладна абраць іншых. Ваенным павятовым начальнікам падпарадкоўваліся ўсе войскі, якія пастаянна знаходзіліся ў іх паветах, і ўся грамадзянская ўлада. У сваёй дзейнасці ваенныя начальнікі абапіраліся на жандарскія каманды, следчыя камісіі, на павятовых паліцэйскіх спраўнікаў і іншыя органы мясцовага самакіравання. Спраўнікі, станавыя прыставы, гараднічыя і ўсе чыны паліцыі павінны былі знаходзіцца ў непасрэднай ад іх залежнасці. У такой жа залежнасці і падначаленні павятовых ваенных начальнікаў знаходзіліся ўсе без выключэння памешчыкі, дваране, духавенства, шляхта, аднадворцы і ўсё сельскае і гарадское насельніцтва без адрознення званняў і маёмасці [24, с. 19].

Пасада павятовага ваеннага начальніка была ўведзена ў студзені 1861 года. Для дапамогі ваенным начальнікам у сакавіку 1863 года быў уведзены інстытут станавых ваенных начальнікаў, для чаго павет дзяліўся на некалькі частак.

Ваенныя начальнікі месца дыслакацыі войскаў выбіралі самастойна, зыходзячы з абстаноўкі, якая складвалася на дадзены момант. Як правіла, войскі размяшчаліся ў асноўных стратэгічных пунктах дадзенай мясцовасці з улікам кантролю як мага большай тэрыторыі. Галоўнай задачай войскаў было прыняцце прэвентыўных мер з мэтай недапушчэння фарміравання паўстанцкіх атрадаў: агляд лятучымі атрадамі мясцовасці, выяўленне партызанскіх баз, хованак і месцаў збору паўстанцаў.

Згодна з планам дыслакацыі расійскіх войскаў у Гродзенскай губерні, у распараджэнні кожнага ваеннага начальніка павета павінна было знаходзіцца ад 7 да 12 рот пяхоты, ад 50 да 100 казакоў, а таксама па меры неабходнасці – уланы і артылерыя [44, с. 161].

Сувязь паміж асобнымі вайсковымі падраздзяленнямі ў 1863 годзе як у межах Ваўкавыскага павета, так паміж Ваўкавыскам і губернскім горадам Гродна ўсё яшчэ ажыццяўлялася па-старому, г.зн. з дапамогай спецыяльных кур'ераў. У той жа самы час Беласток і Гродна ўжо мелі тэлеграфную сувязь з Вільна, што істотна аблягчала аператыўнае кіраўніцтва войскамі. Паміж Беластокам, Гродна і Вільна да гэтага часу таксама функцыянавала чыгунка, што давала магчымасць хутка перакідваць войскі.

Для падаўлення паўстанцкага руху на тэрыторыю Ваўкавыскага павета расійскія вайсковыя адзінкі пачалі прыбываць у пачатку 1863 года. Першым, у лютым, у Ваўкавыску быў раскватараваны 3-ці батальён Неўскага пяхотнага палка. Размяшчэнне прайшло не цалкам з пажаданнямі камандзіра батальёна фон Крэмера, пра што ён у рапарце ад 23 лютага падрабязна даносіў гродзенскаму ваеннаму губернатару. У рапарце паведамлялася, што камандуючы войскамі генерал-лейтэнант Манюкін загадам ад 16 лютага распарадзіўся раскватараваць батальён у горадзе Ваўкавыску казарменным чынам, для чаго трэба было запатрабаваць ад гараднічага Матусевіча адпаведнае памяшканне. У выпадку, калі такога памяшкання знайсці не атрымоўвалася, размясціць салдат не менш як па паўроты на кватэру. Згодна з вышэйвыкладзеным прадпісаннем фон Крэмер заняў для паўроты памяшканне былога палкавога лазарэта, які ў гэты час пуставаў. Астатнія ж роты былі раскіданы па горадзе ў бедных яўрэйскіх дамах, дзе былі змешчаны па пяць і больш чалавек, церпячы цеснату і звязаныя з гэтым нязручнасці. З гэтай нагоды камандзірам батальёна было пададзена прашэнне губернатару, каб ён паўплываў на гараднічага ў прадастаўленні іншых, больш зручных памяшканняў для салдатаў. Дадаткова быў складзены спіс усіх памешчыкаў, якія нядаўна па невядомых прычынах прыбылі і пражывалі ў горадзе Ваўкавыску, заняўшы ў горадзе самыя лепшыя і шырокія памяшканні. У выніку воінскі пастой усім цяжарам лёг на бедную яўрэйскую грамаду.

Далей фон Крэмер пытаўся ў губернатара, ці могуць названыя ў спісе памешчыкі пражываць у горадзе. Ці можна будзе размясціць на пастой войскі ў каталіцкіх абывацельскіх дамах дваран, мяшчан і іншых. Апошняе пытанне ўзнікла ў фон Крэмера таму, што ваўкавыскі гараднічы забараніў

яму займаць падобнага роду памяшкання для воінскага пастою. Аднак фон Крэмер адзначаў, што калі не размясціць салдат у названых у спісе дамах, то няма ніякай магчымасці размясціць іх не толькі па паўроты на кватэру, але нават па аддзяленнях, г.зн. чацвёртую частку роты.

Нагадаем спіс памешчыкаў, якія расватараваліся ў той час у Ваўкавыску:

1. Кржывіцкі Канстанцін, пражывае ў доме ва ўдавы яўрэйкі Пейсахавай.

2. Радавіцкі Аляксандр, пражывае ў Караеўскай.

3. Ельскі Фадзей, пражывае ў Караеўскай.

4.Тарасовіч, міравы пасрэднік, пражывае ў гарадскога лекара Яльца.

5. Панцяржыцкі, пражывае ва ўдавы Калупайлавай.

6. Хадакоўскі, пражывае ў лекара Кандратовіча.

7. Камаеўская, удава, пражывае ў яўрэя Баруха Галая.

8. Быховец Адам, жыве адзін у доме ў купца Лейзера Галая [45, с. 70].

Па якой прычыне памешчыкі, якія звычайна пражывалі ў сваіх маёнтках, на гэты раз вырашылі заняць самыя лепшыя дамы ў Ваўкавыску, дакладна невядома. Магчыма, па прычыне адсутнасці спакою ў павеце ў сувязі з распачатым паўстаннем. А можа быць, гаспадары вялікіх дамоў спецыяльна аддавалі свае памяшканні для гасцей, каб пазбегнуць размяшчэння ў іх войскаў. Адказ ад губернатара фон Крэмерам быў атрыманы літаральна праз дзень: «Неадкладна прадпісаць гараднічаму заняць лепшыя дамы для вайсковага пастою, выключыўшы менавіта яўрэйскія халупы. Наставіць на розум бесталковага гараднічага, што ён не павінен рабіць выключэнне для дамоў дваран, мяшчан і наадварот, абавязаны для спакою войскаў заняць самыя выгадныя памяшканні» [45, с. 59-60].

З тлумачальнага ліста ваўкавыскага гараднічага Матусевіча губернатару даведаемся, што пад пастой было занята з 30 дваранскіх дамоў – 5, з 79 мяшчанскіх каталіцкіх дамоў – 9, з 400 яўрэйскіх дамоў – 14 [45, с. 78-80].

Ніжэй прыводзіцца расклад занятым дамам у Ваўкавыску пад расквартараванне 3-га батальёна Неўскага пяхотнага палка на 27 сакавіка 1863 года.

1. Камандзір батальёна маёр фон Крэмер – 2 пакоі на Беластоцкай вуліцы ў доме яўрэя Іцка Юдзяловіча.

2. Малодшы штаб-афіцэр маёр Панцяржыцкі – 1 пакой на Касцельнай вуліцы ў доме яўрэя Забландоўскага.

3. Батальённы ад'ютант падпаручнік Ражанскі – на Гродзенскай вуліцы ў доме яўрэйкі Галаевай.

4. Капітан Галянішчаў-Кутузаў – на Шырокай вуліцы ў мешчаніна Шынкевіча.

5. Штабс-капітан Аблашноў, падпаручнік Дамажыраў – на Касцельнай вуліцы ў яўрэя Льва.

6. Штабс-капітан Абрамаў – на Шырокай вуліцы ў мешчаніна Раманоўскага.

7. Поручнік Базанкур і Багданаў – на Ізабелінскай вуліцы ў доме чыноўніка І ... (прозвішча неразборлівае).

8. Штабс-капітан Дамашнеў, паручнік Бакуноў – на Касцельнай вуліцы ў мяшчанкі Карэбавай.

9. Поручнік Яжэўскі – на Ізабелінскай вуліцы ў яўрэя Беластоцкага.

10. Поручнік Андрэеў – на вуліцы Дваранскай у яўрэя Лінцэра.

11. Прапаршчык Блюм і Навіцкі – на вуліцы Шырокай у мяшчанкі Зайковай.

12. Прапаршчык Барсукоў – на Паштовай вуліцы ў яўрэя Галая.

13. Прапаршчык Албуноў – на вуліцы Шырокай у мешчаніна Шумкевіча.

14. Ніжэйшыя чыны 9-й роты – 3 пакоі ў былой яўрэйскай бальніцы, вуліца Шырокая, у доме яўрэйкі Пенкавай; 3 пакоі ў яўрэя Файвель-Гелера па вуліцы Шырокай; 3 пакоі ў яўрэя Пенкава па вуліцы Шырокай.

15. Ніжэйшыя чыны 10-й роты – за Гродзенскай заставай 4 пакоі ў шпітальным будынку.

16. Ніжэйшыя чыны 11-й роты – 2 пакоі ў лазаретным будынку па вуліцы Шырокай; 1 пакой у доме мешчаніна Шэвашэвіча па вуліцы Шырокай; 1 пакой у доме мешчаніна Доўбышава на вуліцы Шырокай; 5 пакояў у доме чыноўніцы Калупаевай за ракой супраць былой фабрыкі.

17. Ніжэйшыя чыны 12-й роты – 4 пакоі ў доме мешчаніна Валоцкага на Ізабелінскай вуліцы; 3 пакоі ў хаце ў яўрэя Фалінсберга на Крэмяніцкай вуліцы; 7 пакояў у аптэкара на Замкавай вуліцы.

18. Ніжэйшыя чыны 3-й стралковай роты – 2 пакоі ў доме яўрэя Фельнберга на Гродзенскай вуліцы; 2 пакоі ў хаце ў яўрэя Носеля на Гродзенскай вуліцы; 1 пакой у доме яўрэя Абеля Цякуса на Сярэдняй вуліцы; 1 пакой у доме яўрэя Шлеймы на Паштовай вуліцы [45, с. 104].

Са спісу вынікае, што расійскія войскі рассяліліся амаль па ўсім горадзе, заняўшы дамы на 10 вуліцах: Шырокай, Касцёльнай, Ізабелінскай, Беластоцкай, Крэмяніцкай, Гродзенскай, Дваранскай, Паштовай, Замкавай, Сярэдняй.

У сувязі са зменай ваеннай абстаноўкі 3-ці батальён Неўскага пяхотнага палка неўзабаве быў на час адкліканы з Ваўкавыска. 14 красавіка гродзенскі

ваенны губернатар загадаў камандзіру фон Крэмеру выступіць з даручаным яму батальёнам у Гродна [46, с. 4].

Аднак 17 мая батальён зноў з'явіўся ў Ваўкавыску. Хутчэй за ўсё, перамяшчэнне дадзенага батальёна, як і другіх войскаў, было выклікана аператыўным рэагаваннем на з'яўленнем паўстанцаў у іншых месцах. Можна толькі здзіўляцца вынослівасці пяхоты таго часу, якая здзяйсняла марш-кідок у сотні кіламетраў. Зрэшты, паўстанцам прыходзілася яшчэ горш, бо яны здзяйснялі шматкіламетровыя пераходы не толькі па палявых дарогах, як салдаты, але і па лясных сцежках, па бездаражжы скрозь бураломы і балоты.

У выніку таго, што ваеннае становішча ў Ваўкавыскім павеце было ўведзена вясной 1863 года, то і прызначэнне першага ваеннага начальніка адбылося 7 сакавіка 1863 года. Ім стаў маёр фон Крэмер, якога сваім распараджэннем прызначыў камандзір 2-й пяхотнай дывізіі генерал Манюкін, размешчанай у горадзе Беластоку, і у якую ўваходзіў Неўскі полк, дзе служыў фон Крэмер [45, с. 84].

На пасадзе ваеннага начальніка фон Крэмер прабыў крыху больш за месяц. 18 красавіка 1863 года, пасля адбыцця яго разам са сваім батальёнам з Ваўкавыска ў Гродна, гродзенскаму губернатару паступіў рапарт ад камандзіра 3-га батальёна Стараінгерманландскага палка маёра Сямёна Марціляновіча Духноўскага, каталіка па веравызнанні. Духноўскі прасіў яго паведаміць, хто будзе прызначаны ваенным начальнікам горада Ваўкавыска [45, с. 110].

Па прычые таго, што маёр Духноўскі ў гэты час апынуўся самым старшым з афіцэраў у Ваўкавыскім павеце, ён і пераняў у фон Крэмера пасаду вайсковага начальніка. На гэтай пасадзе Духноўскі прабыў усяго каля 10 дзён і быў заменены падпалкоўнікам Калакольцавым. Чаму так хутка адбылася замена каталіка Духноўскага на праваслаўнага Калакольцава, асаблівых здагадак ствараць не варта. На такой адказнай і тым больш на самай уладнай пасадзе ў горадзе і павеце падчас «польскага мяцяжу» каталік Духноўскі не мог карыстацца даверам у высокага начальства.

З рапарта падпалкоўніка Калакольцава ад 3 мая 1863 года гродзенскаму губернатару вынікае, што ў Ваўкавыск ён прыбыў 2 мая пасля лячэння ад хваробы. Батальён ад маёра Духноўскага прыняў на падставе прадпісання камандуючага палка ад 24 сакавіка. Разам з батальёнам Калакольцаў прыняў ад Духноўскага і пасаду ваеннага начальніка [42, с. 33].

Аб Духноўскім варта адзначыць і той факт, што ён неаднаразова ўдзельнічаў у праследаваннях і бітвах з паўстанцамі, знаходзячыся на пасад-

зе камандзіра роты Стараінгерманландскага палка. Такім чынам, вышэйшае начальства давярала яму. За сваю стараннасць у змаганнях з паўстанцамі маёр Духноўскі быў узнагароджаны ордэнам св.Ганны 3-й ступені з мячамі і бантам. За баявыя поспехі падчас руска-турэцкай вайны ў 1877 годзе Духноўскі быў узнагароджаны залатой зброяй. Тым не менш, у 1877 годзе ён усё яшчэ заставаўся ў чыне маёра, г.зн. за 14 гадоў, якія прайшлі з часу паўстання, ён не атрымаў павышэння па службе.

Наогул, афіцэры і ніжэйшыя чыны са Стараінгермандландскага палка прынялі самы непасрэдны ўдзел у праследаванні паўстанцкіх атрадаў на тэрыторыі Ваўкавыскага павета. Назву Стараінгерманландскага полк атрымаў у 1703 годзе пры Пятры І, у гонар Інгерманландыі – аднаго з назваў Іжорскай зямлі, якая стала першай тэрыторыяй на Балтыйскім узбярэжжы, заваяванай рускімі ў Паўночнай вайне са Шведамі. Акрамя шматлікіх паходаў і войнаў, полк удзельнічаў у падаўленні паўстання 1831 года, у тым ліку ў штурме Варшавы. Пры гэтым палку былі прысвоены знакі на галаўныя ўборы з надпісам: «За Варшаву 25 і 26 жніўня 1831 года», якія насілі ніжэйшыя воінскія чыны. У пачатку 1863 года штаб палка быў размешчаны ў Навагрnative, 2-гі батальён камандзіраваны ў Вільна, а астатнія батальёны размясціліся ў ваколіцах Наваградка. У пачатку мая 3-ці батальён перабазаваўся ў Ваўкавыскі павет [47].

Але і Калакольцаў пратрымаўся на пасадзе вайсковага начальніка Ваўкавыска ўсяго толькі 17 дзён. Чаму быў зняты з пасады ваеннага начальніка Калакольцаў? Для адказу на гэтае пытанне трэба ўлічыць тую істотную акалічнасць, што май месяц ва ўсе часы быў пачаткам актыўнасці партызанскіх рухаў. Дзеянні ў адказ Калакольцава па нейтралізацыі паўстанцаў, мабыць, не змаглі задаволіць яго начальства.

У архіве знаходзіцца рапарт гродзенскаму губернатару ад 20 мая 1863 года чарговага, чацвёртага па ліку ваеннага начальніка Ваўкавыска – падпалкоўніка Васіля Міхайлавіча Казанлі, кавалера двух ордэнаў – св.Станіслава 2-й ступені і св.Ганны 3-й ступені. Ён таксама быў узнагароджаны срэбным медалём за турэцкую вайну 1828-1829 гадоў і залатым медалём за знаходжанне на Басфоры: «Згодна з распараджэннем камандуючага войскамі Віленскай ваеннай акругі, – пісаў у рапарце Казанлі, – я прызначаны ваенным начальнікам горада Ваўкавыска з паветам, гэтай датай, прыбыўшы ў горад Ваўкавыск, уступіў на пасаду, пра што паведамляю Вашаму Правасхадзіцельству» [45, с. 117].

Энергічны Казанлі ўзяўся за справу адразу ў дзень прызначэння. У рапарце ад 20 мая губернатару ён скардзіўся на тое, што з яго ўступленнем на пасаду ваеннага начальніка горада Ваўкавыска з паветам ён не мае ніякіх грошай не толькі на аплату коней для раз'ездаў, але і на пісьмовыя канцылярскія матэрыялы [45, с. 116].

Казанлі на пасаду ваеннага начальніка быў прызначаны, калі выконваў абавязкі камандзіра 1-га батальёна Стараінгерманландскага пяхотнага палка. Меў вопыт працы ваеннага начальніка, з’яўляючыся ім у іншым павятовым горадзе Гродзенскай губерні – Брэсце, куды атрымаў прызначэнне ў 1861 годзе. Тады ў гродзенскае губернскае праўленне на яго дзеянні ад жыхароў Брэста ішлі шматлікія скаргі, у якіх Казанлі абвінавачвалі ва ўмяшанні ў судовыя справы і ў незаконных грашовых паборах. Для разбору скаргаў у Брэст быў накіраваны віцэ-губернатар, які ў апраўданне Казанлі пісаў губернатару, што «маёр прывык паважаць вайсковую дысцыпліну, а не грамадзянскія законы ..., таму ён дазволіў сабе некаторыя ўмяшанні ў справы, якія да яго не датычацца, што законам апраўдана быць не можа» [48, с. 33].

Аднак маёр Казанлі не быў пакараны за сваё самаўпраўства, таму што ў 1863 годзе мы бачым яго ўжо ў чыне падпалкоўніка. Заўзяты ваенны служака, які насіў прозвішча неславянскага паходжання (хоць і быў праваслаўным з рускім імем, але хадзілі чуткі, што паходзіў з крымскіх татараў), стаў у Ваўкавыскім павеце вяршыцелем жыццяў і лёсаў мясцовых жыхароў, продкі якіх жылі ў тутэйшым краі спакон веку.

Польскі гісторык і былы паўстанец Фердынанд Чапліцкі пісаў пра Казанлі як пра дзікага звера, які атрымліваў асалоду ад смерці ворагаў. Аднойчы, калі ўдалося захапіць у палон некалькіх паўстанцаў, Казанлі загадаў салдатам завесці іх у лес і адсекчы цесакамі галавы. Сам жа з асалодай і з гучным смехам глядзеў, як па зямлі падскаквалі адсечаныя галовы, а абезгалоўленые целы ў гэты час тузаліся ад сутаргі [49, с. 36].

Як успамінаў сведка, былы жыхар Ваўкавыска Фелікс Міхальскі, Казанлі па характары з'яўляўся чалавекам лютым. Будучы ў гневе на насельніцтва нейкага мястэчка, пагражаў спаліць тое. Ад'ютантам у яго быў прапаршчык Станіслаў Чымбаевіч, таксама татарын, але з літоўскіх татараў. Аб ім, наадварот, казалі, што гэта быў чалавек прыстойны і ветлівы [50].

Сапраўды, чацвёрты па ліку ваўкавыскі ваенны начальнік Казанлі аказаўся самай адпаведнай кандыдатурай для дадзенай пасады. Энергія яго здавалася бязмежнай. Указанні падпалкоўніка выходзілі бесперапынку і тычыліся ўсіх бакоў жыцця Ваўкавыска і павета. Ён не заседжваўся ў горадзе, а

пастаянна калясіў па ўсёй падначаленай яму тэрыторыі з аднаго канца ў другі, на свае вочы заўважаючы і аналізуючы становішча на месцах. На яго імклівае перамяшчэнне ў экіпажы па павеце, якое не маглі вынесці нават коні і людзі, на што ў рапарце да Казанлі ад 27 верасня 1863 года звяртаў увагу камандзір Данскога казацкага №5 палка, штаб якога ў гэты час знаходзіўся ў горадзе Кобрыне. Камандзір палка паведамляў, што з часу прыбыцця 3-яй сотні яго палка ў Ваўкавыск казакі два разы прызначаліся суправаджэннем у канвой Казанлі пры яго аб'ездах па павеце. Скакалі без прыпынкаў па 45 і 50 вёрст за экіпажам па чацвёра коней поўнаю рыссю і без адпачынку, ад чаго коні поўнасцю знясільваліся і станавіліся сярод дарогі. Людзі ж ад празмернага знясілення захворвалі. Для захавання здароўя людзей і коней камандзір палка прасіў Казанлі надалей пры яго паездках даваць казакам і коням дастатковы адпачынак. Ці ж выстаўляць на пунктах падстаўных людзей і коней, каб каманды маглі змяняцца на больш кароткіх дыстанцыях. Калі не зрабіць гэтага, то наступная падобная паездка Казанлі па павеце да канца знясіліць казачых коней. У выпадку праследаванняў паўстанцаў або тэрміновага перакідання войскаў 3-яя сотня казацкага палка не будзе на гэта здольна [51, с. 17].

Казанлі прабудзе на пасадзе ваеннага начальніка Ваўкавыска з паветам да 1 мая 1865 года, г.зн. без малога два гады. З яго імем будзе звязана барацьба з паўстанцамі на Ваўкавышчыне, што не застанецца незаўважаным. За сваю верную службу цару і айчыне ў 1864 годзе ён атрымае чын палкоўніка.

Характарызуючы ваенных начальнікаў і іх памочнікаў – ваенных прыставаў, Фердынанд Чапліцкі пісаў, што амаль кожны з іх быў звычайным п'яніцам і злодзеем, якіх у любой іншай арміі даўно ўжо б выгналі. Тут жа яны станавіліся гаспадарамі жыцця і смерці, а таксама маёмасці ўсіх тых, каго падазравалі ў дапамозе паўстанцам. За свае правіны перад мясцовым насельніцтвам такія начальнікі не неслі ніякай адказнасці. Наадварот, чым больш жорстка яны ставіліся да людзей, тым з большай ласкай адносілася да іх начальства: давала чыны, узнагароды, грошы [49, с. 71].

У сувязі з узмацненнем дзейнасці паўстанцаў у Гродзенскай губерні прысутнасць урадавых войскаў павялічвалася. Дыслакацыя войскаў на канец мая, пачатак чэрвеня ў Ваўкавыскім павеце была наступная. У самім горадзе Ваўкавыску знаходзілася 2 роты Стараінгерманландскага палка і 50 казакоў №5 казацкага палка. У мястэчку Поразава – 2 роты таго ж Стараінгермандландскага палка. У мястэчку Свіслач – 1 рота Пскоўскага пяхотнага палка і эскадрон лейб Курляндскага ўланскага палка. У мястэчку Пе-

сках – 2 роты Пскоўскага палка. У мястэчку Лыскава – 2 роты таго ж палка. Разам – 9 рот пяхоты, эскадрон уланаў і 50 казакоў, што складала прыблізна 1500 чалавек [45, с. 163].

Пры пераменах абстаноўкі змянялася і дыслакацыя палкоў, прычым батальёны, роты і штабы размяшчаліся ў розных месцах і нярэдка далёка адзін ад аднаго. Так, напрыклад, у студзені 1863 года 1-ы і 2-і батальёны Пскоўскага палка былі размешчаны ў казармах Брэст-Літоўскай крэпасці для нясення каравульнай службы. Штаб 3-га батальёна размяшчаўся ў мястэчку Клецк, роты – у навакольных вёсках, а палкавы штаб з адной ротай 3-га батальёна – у Навагрудку. У сярэдзіне студзеня дзве лінейныя роты 3-га батальёна перамясціліся ў мястэчка Свіслач, а потым у Ваўкавыск. Аднак і ў Ваўкавыску роты 3-га батальёна прабылі ўсяго месяц, да сярэдзіны лютага, перамясціўшыся спачатку ў Гродна, а адтуль – у Ломжу [52, с. 303-309].

2 жніўня 1863 года новым камандуючым войскамі ў Гродзенскай губерні, замест генерал-лейтэнанта Манюкіна, які разам з 2-й пяхотнай дывізіяй перамясціўся ў Каралеўства Польскае, быў абвешчаны генерал-лейтэнант Гольтгоер, камандзір 3-й пяхотнай дывізіі. Аднак ён неўзабаве быў звольнены з пасады па стане здароўя, а новым камандуючым стаў генерал-маёр Ганецкі Іван Сцяпанавіч [45, с. 193].

У сярэдзіне жніўня ў Ваўкавыскім павеце размясціліся: 3-і батальён Стараінгеманландскага палка, 3-я, 11-я і 12-я роты Сафійскага палка. Усяго 8 рот, колькасцю каля 1200 чалавек [45, с. 218].

Ужо да канца жніўня роты Сафійскага палка былі перамешчаны ў іншы павет, а на іх месца неабходны былі прыбыць 5 рот Смаленскага палка, з якіх да 25 жніўня прыбылі толькі 3 роты. Усяго на гэты момант было 7 рот колькасцю больш за адну тысячу чалавек. Аднак Казанлі гэтага аказалася мала, і ён прасіў губернатара, каб праслалі ў Ваўкавыскі павет яшчэ 2 роты [53, с. 21-22].

8 лістапада 1863 года ў Ваўкавыскім павеце быў раскватараваны 1-ы батальён Пензенскага пяхотнага палка пад камандаваннем барона падпалкоўніка Маркса. 1-й лінейнай ротай камандаваў штабс-капітан Іваноў, 3-й ротай – штабс-капітан Рагоўскі, 4-й ротай – паручнік Рынейскі. Астатнія часткі палка размясціліся ў суседнім Слонімскім павеце [45, с. 261].

Былі прадугледжаны меры і па размяшчэнні хворых і параненых вайскоўцаў. На гэты конт Казанлі рапартам ад 26 чэрвеня 1863 года паведамляў камандзіру Стараінгерманландскага палка, што на падставе за-

гада па войсках Віленскай ваеннай акругі ад 11 ліпеня ў Ваўкавыску павінен быць адкрыты батальённы лазарэт на 20 хворых для размешчаных у павеце войскаў. Для чаго Казанлі прасіў камандзіра палка, каб прыслалі на 20 чалавек адзенне, посуд, медыкаменты, таму што будынак для памяшкання батальённага лазарэта ў Ваўкавыску ўжо быў падрыхтаваны [54, с. 18].

Войскі Страраінгерманландскага палка знаходзіліся ў Ваўкавыскім павеце і ў маі 1864 года, што вынікае з указання ад 5 мая штаба 3-й пяхотнай дывізіі ваўкавыскаму ваеннаму начальніку. Па даручэнні камандуючага войскамі ў Гродзенскай губерні штаб прасіў Казанлі адправіць адну роту са Стараінгерманландскага палка ў горад Гродна, таму што пры скапленні вялікай колькасці арыштантаў у ім каравульная служба аказалася надзвычай цяжкай. У Ваўкавыскім павеце варта было пакінуць 5 рот салдатаў [55,с.95].

Акрамя воінскіх чыноў Стараінгерманландскага палка, у самым Ваўкавыску ў маі 1864 года размяшчаўся батальён 121-га Пензенскага пяхотнага палка. Таксама як і ў Гродне, салдаты ў асноўным былі занятыя каравульнай службай. На 16 мая ў горадзе налічвалася 28 пастоў са 108 каравульнымі: 2 пасты на галоўнай гаўптвахце, 1 пост пад сцягам, 9 пастоў у гарадскім астрозе, 4 пасты ў доме Шчагольскага (тут размяшчалася павятовае казначэйства), 1 пост у доме Пейсоха, 2 пасты ў доме ваеннага начальніка, 2 пасты ахоўвалі абоз, 1 пост ахоўваў цэйхгаўз і 2 пасты ахоўвалі пошту. Акрамя гэтага, на дарогах у горад былі размешчаны 6 застаў, дзе таксама неслі службу салдаты: дарогі на Гродна, Свіслач, Пескі, Ізабелін, Зэльву і на дарозе, якая вяла да касцёла [55, с. 126].

Такое размяшчэнне пастоў захоўвалася аж да 15 мая 1865 года, калі са штаба 3-й пяхотнай дывізіі ваўкавыскаму ваеннаму начальніку паступіла ўказанне прыбраць лішнія пасты ў астрозе і павятовым казначэйстве. Загадвалася пакінуць адзін пост, прызначаючы ў выпадку неабходнасці начных каравульных. Каравул быў адменены і на галоўнай гаўптвахце. Да ваеннага начальніка, у яго ўпраўленне і на пошту веставых і ардынарцаў ад пяхоты таксама было загадана не прызначаць, а браць ад казакоў і жандарскай каманды. У начны раз'езд прызначаць неабходна было толькі казакоў [56, с. 40].

Такім чынам, на працягу 1863 і 1864 гадоў у Ваўкавыску і павеце знаходзілася ад 1000 да 1500 чалавек вайскоўцаў. І калі ў 1863 годзе да жніўня месяца яны прымалі ўдзел у пераследаванні атрадаў і бітве з імі, то ў наступным былі заняты нясеннем вартавой службы. Увесь цяжар пастою ваенных клаўся на мясцовае насельніцтва.

# МЕРЫ ПА НЕДАПУШЧЭННІ ПАЎСТАННЯ

Першае паведамленне аб з'яўленні паўстанцаў у межах Гродзенскай губерні было адпраўлена 14 студзеня 1863 года з канцылярыі віленскага генерал-губернатара Назімава гродзенскаму губернатару фон Галеру. Указвалася на з'яўленне ў межах Каралеўства Польскага атрадаў паўстанцаў, якія са зброяй у руках спрабавалі трапіць у некаторыя памежныя мястэчкі і мясцовасці Гродзенскай губерні. Таму знятае ў кастрычніку 1862 года ваеннае становішча з паветаў Гродзенскага, Сакольскага, Бельскага і Брэсцкага па ўказанні Назімава зноў аднаўлялася на правілах інструкцыі ад 27 верасеня 1861 года [45, с. 1].

Спробы знізіць напал у грамадстве, каб не разраслося паўстанне, былі зроблены на заканадаўчым узроўні. У сакавіку 1863 года з'явіліся чатыры царскія ўказы па заходніх губернях. 1 сакавіка 1863 года Аляксандр II абвясціў ўказ Сенату, азагалоўлены «Аб мерах па палягчэнні і паскарэнні спынення абавязковых адносін паміж памешчыкамі і паселенымі на іх землях часоваабавязанымі сялянамі з дапамогай выкупу імі зямляў». На падставе гэтага ўказа ствараліся праверачныя камісіі, якія павінны былі зноў разгледзець памеры сялянскіх павіннасцяў памешчыкам і вызначыць канчатковы памер выкупных плацяжоў на надзеленую ім памешчыцкую зямлю. З 1 мая 1863 года часоваабавязаныя сяляне пераходзілі ў разрад уласнікаў, а паншчына, г.зн. усякія працоўныя павіннасці, замяняліся грашовай павіннасцю. Грашовыя плацяжы павінны былі ўносіцца ў павятовае казначэйства, з якіх выдаваліся памешчыку, і павінны быць спынены пры наступным налічэнні выкупных зямельных плацяжоў. Пры гэтым сума выкупу была зніжана на 20%.

7 сакавіка выйшаў наступны ўказ, па якім віленскаму генерал-губернатару давалася права асабіста знімаць з пасад міравых пасрэднікаў, валасных старшын і сельскіх стараст, якія недастаткова надзейныя. Першапачаткова дадзеныя пасады з'ўляліся выбарнымі, зараз жа, замест звольненых, новых людзей можна было прызначаць па меркаванні начальства.

15 сакавіка выйшаў указ аб накладанні секвестра на маёмасць асоб, якія ўдзельнічаюць у беспарадках. Секвестру падлягала як нерухомая, так і рухомая маёмасць. Уладальнікі маёнткаў і дамоў, якія падвергліся секвестру, выганяліся з іх разам са сваім сямействам.

Нарэшце, 31 мая з'явіліся адразу два ўказы аб амністыі для жыхароў Каралеўства Польскага і асобна для жыхароў заходніх губерняў аб «усяміласцівейшым дараванні» і поўным прабачэнні тым з уцягнутых у паўстанне, хто не замешаны ў крымінальных злачынствах і добраахвотна складзе зброю [57, с. 197, 209, 222, 290].

Да пачатку Студзеньскага паўстання кіраўніком Літвы і Беларусі на працягу сямі гадоў быў У.І. Назімаў. Пры ім былі прыняты меры і для калектыўнай адказнасці жыхароў вёсак, у якіх адбудзецца насілле ў дачыненні да службовых асоб царскай улады. 17 красавіка па паветах быў разасланы цыркулярны ліст Назімава аб адказнасці за забойства паўстанцамі службовых асоб земскай паліцыі. Калі жыхары паселішча, дзе адбылося забойства, не выдадуць удзельнікаў забойства або тых, хто памагаў ці нават ведаў пра гэта і яўна будуць абвінавачаныя ва ўтойванні такіх, то на ўсё паселішча накладвалася кантрыбуцыя ад 50 капеек да 1 рубля срэбрам з кожнага абывацеля [46, с. 6].

У далейшым кантрыбуцыю меркавалася накладваць і за іншыя правіннасці. Так, 10 мая Назімаў разаслаў на месцы цыркулярны ліст з 7 пунктаў, у якім у першым пункце прадпісвалася на ўсіх жыхароў мястэчак, вёсак, пасёлкаў і памешчыцкіх двароў, якія ўтойваюць ад войскаў перамяшчэнне атрадаў паўстанцаў, накладаць грашовыя кантрыбуцыі, каб гэтым прымусіць іх садзейнічаць войскам [46, с. 24].

Асаблівую ўвагу ўлады надалі кантролю над перамяшчэннем насельніцтва. У першую чаргу гэта датычылася памешчыкаў. Распараджэнне на гэты конт было выдадзена Назімавым яшчэ 16 лютага 1863 года. Калі па сабраных на месцы звестках будзе выяўлена, што адсутнасць некаторых абывацеляў, шляхты і памешчыкаў з'яўляецца падазронай, то ў іх дамы пасылалася паведамленне аб яўцы на працягу 7 дзён у штаб-кватэру атрада або ўпраўленне ваеннага начальніка. Калі ў прызначаны тэрмін яны не прыйдуць і не прадставяць доказаў на прычыну сваёй адсутнасці, то неабходна адносіць такіх да катэгорыі паўстанцаў.

Былі прыняты меры і для матэрыяльнай зацікаўленасці тых сялян, хто дапаможа ўладзе выявіць месцазнаходжанне паўстанцаў. Камандзірам усіх

атрадаў рускіх войскаў, якія пачалі адшукваць паўстанцаў, прадпісвалася абвясціць жыхарам у раёне размяшчэння атрада, што таму, хто навядзе на атрад паўстанцаў колькасцю ў 50-100 чалавек, у якасці ўзнагароды будзе выдадзена 50 рублёў [46, с. 7].

У далейшым меры па абмежаванні перамяшчэння былі скарэктаваны. Найвышэйшым загадам 24 красавіка 1863 года было забаронена ўсім мясцовым абывацелям, акрамя сялян, адлучацца з месцаў жыхарства на адлегласць больш за 30 вёрст без асобага дазволу, выдадзенага губернскім або ваенным павятовым начальствам. За парушэнне гэтага правіла неабходна было мяшчан і аднадворцаў адпраўляць у працоўныя роты ведамстваў шляхоў зносін на тэрмін ад 6 месяцаў да 1 года, а дваран садзіць у турмы на тыя ж тэрміны і штрафаваць ад 50 да 500 рублёў срэбрам. Дадзеная пастанова была апублікавана 5 мая 1863 года ў Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай і Мінскай губернях. З 8 чэрвеня гэтае палажэнне пачало дзейнічаць і для памешчыкаў, якім было загадана не выязджаць са сваіх маёнткаў. Рабілася гэта з мэтай не дапусціць зносін памешчыкаў з паўстанцамі, а таксама для лепшай магчымасці перадачы памешчыкамі прадуктаў і фуражу царскім войскам [58, с. 165].

Нягледзячы на прынятыя Назімавым жорсткія меры, паўстанне задушыць не атрымоўвалася. Падзеі паказалі, што для прыняцця больш жорсткіх мер супраць насельніцтва на пасаду віленскага генерал-губернатара варта паставіць іншага чалавека. У сувязі з гэтым расійскім урадам пачаўся пошук новай фігуры, здольнай да неардынарных і рашучых дзеянняў. Выбар быў зроблены на карысць на 66-гадовага Міхаіла Мікалаевіча Мураўёва, які пабыў да гэтага на розных дзяржаўных пасадах. Ён вельмі добра ведаў Беларусь, таму што з 1826 года па 1835 год служыў спачатку віцэ-губернатарам у Віцебску, а потым губернатарам у Магілёве і Гродна. За гэты час прапанаваў цару Мікалаю І шэраг праектаў рэакцыйных указаў, якія змянілі ўсё мясцовае грамадскае жыццё і вынікі якіх мы адчуваем нават да нашых дзён. У прыватнасці, ён падаў цару ідэю аб закрыцці Віленскага ўніверсітэта (1832), аб адмене на Беларусі і Літве дзейнасці Літоўскага Статута і падпарадкаванні беларусскіх і літоўскіх земель дзеянню агульнарасійскіх законаў (1838, 1840). Мураўёў прычыніўся і да скасавання Брэсцкай царкоўнай уніі. Не без яго намаганняў адбылося далучэнне ўніяцкай царквы да праваслаўнай (1839). Усе праекты Мураўёва былі ўхвалены Мікалаем І і праведзены ў жыццё. Ён стаў членам Дзяржаўнага савета, міністрам дзяржаўнай маёмасці. Сучаснікі

# АТРАД АНУФРЫЯ ДУХІНСКАГА

Самым актыўным і шматлікім з усіх атрадаў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Ваўкавыскага павета, быў атрад пад камандаваннем ваеннага начальніка Гродзенскай губерні палкоўніка Ануфрыя Духінскага. У артыкуле пра яго ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» не ўказваецца нават год нараджэння і смерці. Паведамляецца, што быў родам з Куявіі (Польшча). У час паўстання ў 1831 года ў якасці кавалерыйскага афіцэра ўдзельнічаў у «літоўскай кампаніі» ў атрадзе генерала Дэмбінскага, пасля чаго з 1833 года знаходзіўся ў эміграцыі ў Францыі [70, с. 321]. Зыходзячы з гэтага, можна меркаваць, што ў 1863 годзе яму было больш за 50 гадоў, што даволі шмат для чалавека, які вырашыў весці партызанскі лад жыцця. Той жа артыкул у энцыклапедыі паведамляе, што ён не меў здольнасцяў для вядзення партызанскай барацьбы. Аднак гэта сцвярджэнне не зусім тактоўнае, таму што вынікі партызанскай барацьбы залежаць не ад канкрэтнага чалавека, а ад многіх іншых фактараў.

Атрад Духінскага пачаў фарміравацца 5 красавіка ў Беластоцкім павеце ў вёсцы Зялёная ў лесе маёнтка графа Крузэнштэрна, куды першапачаткова прыбылі афіцэры, якія дэзерціравалі з Лібаўскага пяхотнага палка, расквартараванага ў Беластоку: капітаны Эйтмановіч і Раман, паручнік Брант, падпаручнікі Міцэвіч і Баранцэвіч, юнкер Ятовіч, а таксама адстаўны штабскапітан Завістоўскі і цывільны Валерый Урублеўскі, чыноўнік з Беластока Ляткоўскі. Амаль усе яны сталі камандзірамі падраздзяленняў. Так што недахопу ў вопытных камандзірах атрад Духінскага не адчуваў.

12 красавіка, як хто мог з добраахвотнікаў, вырваліся з горада Беластока і праз Зялёную пушчу дабраліся да вёскі Каменка. Гэта былі выключна грамадзянскія людзі, якія не навучаны ваеннай справе: абшарнікі, шляхта, мяшчане, казённыя сяляне. Да таго ж многія з іх былі ўзброены толькі косамі, за што і атрымалі мянушку «касінеры». А між тым косы з'яўляліся зброяй блізкага бою, да якога справа даходзіла рэдка. У большасці сутычак абодва бакі стралялі адзін у аднаго з агнястрэльнай зброі на адлегласці [42, с. 66].

Аб дзеяннях атрада Духінскага мы даведаемся з падрабязных успамінаў аднаго з партызан гэтага атрада Ігната Арамовіча. Ігнат Мікалаевіч Арамовіч (? -1875), настаўнік гімназіі ў Беластоку, з 12 красавіка 1863 года стаў у атрадзе Духінскага ад'ютантам і адначасова скарбнікам. У студзені 1864 года

эміграваў у Швейцарыю. Калі праз 6 гадоў у 1872 годзе вярнуўся на радзіму, то быў сасланы царскім урадам на пасяленне ў Казань, дзе і памёр.

13 красавіка атрад у колькасці 70 чалавек, узброеных прывезенай зброяй, прыйшоў у лясное ўрочышча Стажынкі, дзе аб'яднаўся з добраахвотнікамі з Бельска ў колькасці 130 чалавек пад кіраўніцтвам Кярсноўскага (Грома). 14 красавіка, у нядзелю, разбіўшыся на дробныя атрады, паўстанцы прыйшлі ў вёску Саколды, дзе прысутным сялянам зачыталі маніфест народнага ўрада.

Нечакана ў лагер паўстанцаў, які знаходзіўся за 4 кіламетры ад Саколдаў, прыбыў Гусціла з 32 жыхарамі Сакольскага павета і стары Кабылінскі з моладдзю са сваёй сям'і, з прадуктамі і амуніцыяй. З надыходам ночы выступілі. Некалькі коннікаў ехалі наперадзе калоны, паказваючы на скрыжаваннях лясных дарог патрэбны кірунак, таму што ноч была бязмесячнай і цёмнай. Калі падышлі да дарогі Беласток-Гладышаў, распалілі вогнішча і пры яго святле зачыталі тром здраднікам прысуд: тры целы павіслі на адным дрэве. Да світання наблізіліся да лясной вёскі Ліпавы Мост, дзе сустрэліся з ваенным камандзірам Гродзенскай губерні Ануфрыем Духінскім, прызначаным народным урадам, а таксама начальнікам штаба той жа губерні Валерыем Урублеўскім, які да гэтага служыў школьным інспектарам у Лясной школе ў Саколцы.

У халодную і снежную ноч з 15 на 16 красавіка ў лагер, арганізаваны ў пушчы, прыйшлі паўстанцы са Свіслачы ў колькасці 48 чалавек, якія прывезлі з сабой падводы з прадуктамі. Калі ўзышло сонца, усе пастроіліся ў шарэнгу, і камандзіры прыступілі да агляду людзей і зброі. Добраахвотнікі, якія не ўмелі набіваць зарады і страляць, атрымалі косы, таму што паляўнічых стрэльбаў не хапала, а вінтовак для тых, хто прыбыў, не было наогул. Аказалася, што нават не хапіла кос. Узброеных добраахвотнікаў падзялілі на тры роты пад камандаваннем Рамана, Баранцэвіча і Кярсноўскага. У першых двух ротах апынулася па 92 стралка, а ў Кярсноўскага – 50 [71, с. 9-10].

Першы бой з «маскалямі» атрад палкоўніка Духінскага прыняў 17 красавіка ў пушчы ў лясным урочышчы пад назвай Каматоўшчына, дзе сярод балота працякае рэчка Слуйка. У гісторыю ён увойдзе пад назвай бой пад Саколдамі. Бой аказаўся для паўстанцаў няўдалым. Праз гадзіну пасля яго пачатку паўстанцам прыйшлося адступаць у розныя бакі, кінуўшы свой абоз з харчаваннем, вопраткай і грашыма ў суме 1800 рублёў срэбрам, а таксама ваеннай пячаткай. Загінула 32 чалавекі. Частка паўстанцаў пасля першай жа няўдачы страціла баявы дух і разышлася па дамах. Астатнія,

разбіўшыся на дробныя атрады, схаваліся ў Сакольскай пушчы. Як адзначае Арамовіч, «маскалёў» у гэтай бітве загінула 305 чалавек, якіх яны пахавалі недалёка ад агульнай магілы паўстанцаў. Аднак названыя страты царскіх войскаў выклікаюць моцны недавер. Але Арамовіч і сам дакладна не ведаў пра колькасць палеглых «маскалёў», бо гэтую лічбу прыводзіў паводле чутак мясцовых жыхароў. Як далей пабачым, такімі ж недакладнымі паведамленнямі пра страты з боку паўстанцаў грашыў і праціўнік [71, с. 15].

Пасля першай няўдачы былыя афіцэры Раман, Брант, Міцевіч і Баранцэвіч паспрачаліся з капітанам Эйтмановічам, падзяліліся і адправіліся ў Каралеўства Польскае, а Эйтмановіч застаўся з Духінскім [42, с. 66].

Духінскі з Урублеўскім не палі духам і з новай энергіяй пачалі збіраць народ пад сваё камандаванне. У хуткім часе было сабрана да 370 чалавек, сярод якіх каля 250 чалавек былі ўзброены косамі. Ваеннай падрыхтоўкай паўстанцаў неадкладна заняліся афіцэры. У ноч на 7-га мая месца базавання атрада ў Сакольскай пушчы выявіў праціўнік, і паўстанцы пачалі адыходзіць, заблытваючы сляды. У дарозе камандзір быў вымушаны адпусціць 80 змучаных чалавек, якія не вытрымалі залішняга напружання сіл. Днём 7-га мая, у царкоўнае свята, астатняя частка паўстанцаў выйшла да мястэчка Ялоўка Ваўкавыскага павета.

«Роты, склаўшы стрэльбы і косы на зямлю, размясціліся на адпачынак на рынку, – успамінаў Арамовіч. – У гэты час конныя патрулі кантралявалі дарогі, якія вялі да мястэчка. Народ, які прыбываў у касцёл, акружыў паўстанцаў. Ім быў зачытаны Маніфест народнага ўрада і акт вызвалення, пасля чаго паўстанцы пастроіліся і строем пайшлі да касцёла. Стоячы на каленях і абапіраючыся на стрэльбы з косамі, праспявалі песню «З дымам пажараў», а ксёндз акрапіў паўстанцаў святой вадой і блаславіў паўстанцаў. Пад уражаннем урачыстасці паўстанцы пакінулі касцёл і зноў размясціліся на адпачынак на рынку. Харчавання хапала, і паўстанцы тут жа ўзяліся за ежу. Афіцэры ж уладкаваліся ў прасторнай хаце заезджага двара. Тым часам у касцёле скончылася імша, і мясцовыя жыхары яшчэ ў большай колькасці, чым раней, акружылі партызан, якія адпачывалі. Па загадзе ад'ютанта Навасельскага ім быў зноў зачытаны Маніфест і акт вызвалення. Народ шчодра частаваў паўстанцаў [71, с. 15].

Калі атрад Ануфрыя Духінскага пакінуў мястэчка Ялоўка і дасягнуў вёскі Вялікія Грынкі, то размясціўся там па хатах на адпачынак. Колькасць атрада Арамовіч не паказвае, але, зыходзячы з папярэдніх указанняў колькасці атра-

да, можна выказаць здагадку, што ў яго склад уваходзіла ад 300 да 400 чалавек. Раніцай 10 мая марш працягнуўся. Прайшлі міма мястэчка Новы Двор, праз фальварак Янін і паглыбіліся ў Ружанскую пушчу, дзе атрымалі вестку пра тое, што «маскалі» знаходзяцца ў мястэчку Лыскава. Далей шлях ляжаў да Бярозавага балота. Падышоўшы да ракі Шчыба, нечакана пачуліся стрэлы: атрад трапіў у засаду. Казакі здолелі раздзяліць паўстанцаў, адцiснуўшы Духінскага з некалькімі партызанамі ад асноўнай калоны. Аднак паўстанцы не разгубіліся, хутка перастроіліся і далі бой «маскалям», якія пайшлі ў атаку. Адной з рот паўстанцаў камандаваў капітан Станіслаў Завістоўскі, які праявіў выключную стрыманасць і здолеў разам з Валерыем Урублеўскім, які прыняў на сябе камандаванне, адбіць тры атакі непрыяцеля, кожная з якіх скончывалася адступленнем. У выніку поле бою засталося за «маскалямі», але, знясілеўшы, яны не змаглі праследваць паўстанцаў і тым самым замацаваць сваю перамогу. Пра страты з боку паўстанцаў Арамовіч піша, што, маючы супраць сябе тры роты пяхоты, паўстанцы страцілі 13 забітых і 8 параненых, сярод якіх былі Савінскі, паранены ў грудзі, Ясінскі – у руку, Манцэвіч і Камянецкі – у галаву. Маскалі пакінулі ў доме ляснога вартаўніка 4 трупы без адзення. Пазней казалі, што гэта былі афіцэры, а 130 забітых сваіх салдат маскалі схавалі пасля бою пад мох каля ракі [71, с. 16-17].

Пра дадзены бой на стыку тэрыторый Ваўкавыскага і Пружанскага паветаў, які адбыўся 13 мая, рускі гісторык А.І.Мілавідаў нічога не паведамляе. Гэта даволі дзіўна, таму што ў сваёй працы Мілавідаў расказвае пра ўсе сутыкненні, якія здарыліся падчас паўстання.

Пасля бою па прычыне, пра якую Арамовіч не згадвае, атрад пакінуў капітан Завістоўскі, схоплены неўзабаве «маскалямі». 18 чэрвеня ён быў дастаўлены ў гродзенскую турму.

Далей атрад паўстанцаў быў падзелены на дзве роты. Першая пад камандаваннем Толкіна складалася з 90 стралкоў і 80 касінераў, а другая, пад камандаваннем Гувальда, - са 112 стралкоў і 80 касінераў. Такім чынам, атрад налічваў 362 чалавекі. Духінскі, які аб’яднаўся з імі, павёў атрад у бок Ружан. 15 мая ў лясным урочышчы Рэпішча паміж Востравам і Шчытнам паблізу вёскі Мілавіды Слонімскага павета атрад Духінскага злучыўся з Ваўкавыска-гродзенскім атрадам Густава Стравінскага (Млотка). Тут жа быў і палкоўнік Лянкевіч (Ландэр), які быў прызначаны ваенным начальнікам Гродзенскага і Ваўкавыскага павета.

# АТРАД ГУСТАВА СТРАВІНСКАГА

У адпаведным томе «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» пра Густава Стравінскага (1837-1905) утрымліваецца вельмі мала інфармацыі. Нават не ўказваецца месца нараджэння. Паказваецца толькі тое, што памёр ён у Ваўкавыскім павеце. Аднак гэта не адпавядае праўдзе, хоць Стравінскія пражывалі ў Ваўкавыскім павеце з даўніх часоў: продкі з роду Стравінскіх з 1747 года па 1814 год валодалі маёнткам Івашкевічы (цяпер вёска ў Зэльвенскім раёне). Сам Густаў у Слонімскім павеце меў маёнткі пад назвай Ржэнічы і Сіротаўшчына. Бацькам Густава быў Адам Стравінскі (памёр у 1885 годзе) – суддзя Слонімскага павета, жанаты на Анелі Шырме. Пры нараджэнні ў 1837 годзе ў Спорава, адкуль была яго маці, Густаў атрымаў трайное імя: Густаў-Матэвуш-Ангел. Вёска Спорава зараз знаходзіцца ў Брэсцкай вобласці ў Бярозаўскім раёне. Стаўшы афіцэрам расійскай арміі, удзельнічаў у ваенных дзеяннях у Крымскай вайне ў якасці паручніка Мурамскага пяхотнага палка. З пачаткам паўстання адлучыўся з часці і перайшоў да паўстанцаў, атрымаўшы псеўданім Млотак. 5 жніўня 1863 года быў прызначаны ваенным начальнікам сярод паўстанцаў Ваўкавыскага павета. Будучы параненым, атрымаў ад кіраўніцтва паўстаннем чын маёра і адначасова быў адпраўлены ў адпачынак на лячэнне. Выехаў у Парыж. Завочна быў пакараны царскім урадам да смяротнага пакарання, а ўся яго маёмасць была канфіскавана. У 1866 годзе прыехаў у Галіцыю ў Гусяцінскі павет, дзе асеў у Нізбарку над Бугам. Пазней набыў маёнтак Шылавічы ў тым жа павеце, дзе і памёр.

З успамінаў Ігната Арамовіча вынікае, што месцам збору для ваўкавыскай ваеннай арганізацыі быў Янінскі лес памешчыка Быхаўца, размешчаны за 15 кіламетраў на поўдзень ад мястэчка Лыскава. Адсюль паўстанцы атрада пад камандаваннем Стравінскага перайшлі ў балота Вялікі Кут (Вугал), сярод якога знаходзіліся невялікія астраўкі, парослыя лесам. Край балота размяшчаўся за 10 кіламетраў на паўднёвы захад ад мястэчка Лыскава. Янінскі лес і недалёкае ад яго цяжкадаступнае балотнае ўрочышча Вялікі Кут стануць для паўстанцаў атрадаў Стравінскага і Духінскага асноўнымі месцамі базавання. На працягу трох дзён колькасць

добраахвотнікаў у атрадзе павялічылася да 200 чалавек, якія былі падзелены на дзве роты: стралкоў і касінераў, а таксама 12 коннікаў. Абоз складаўся з 8 павозак з харчаваннем [71, с. 19].

Пасля атрымання паведамлення аб тым, што рускія войскі выступілі з Ваўкавыска ў кірунку да Лыскава, атрад Стравінскага перамясціўся да фальварка памешчыка Быхаўца Янін, г.зн. зноў у Янінскі лес. Каля пераправы Пераездзік праз невялікую рачулку Цемпру атрад прыняў свой першы бой з «маскалямі», якія надышлі з Ваўкавыска. Падрабязнасцяў аб гэтым баі Арамовіч не паведамляе, а, як вынікае з ніжэйпрыведзенага даклада ад рускага маёра Духноўскага, сутыкненне з атрадам «мяцежнікаў» было выпадковым і невялікім. Таму паведамленне аб гэтай сутычцы ў гісторыка А.І.Мілавідава таксама адсутнічае.

Ваўкавыскі ваенны начальнік маёр Духноўскі пра пераследаванне паўстанцкага атрада Стравінскага даў справаздачу гродзенскаму губернатару. З трыма ротамі 27 красавіка Духноўскі прыбыў у мястэчка Лыскава. Аднак якой-небудзь дапамогі ў пошуку паўстанцаў ад мясцовых уладаў, земскай паліцыі і сялян не было. Так, прыстаў 2-га стана апынуўся ў абсалютным няведанні пра месцазнаходжанне паўстанцаў, за што быў арыштаваны. Ён нават запэўніваў Духноўскага, што ў Янінскім лесе паўстанцаў няма, у той час, як пазней выявілася, што яны там знаходзіліся. Па чутках, фарміраванню атрада паўстанцаў, забеспячэнні яго харчовымі і іншымі прыпасамі спрыяла вялікая колькасць памешчыкаў Ваўкавыскага павета. Духноўскаму было паказана ілжывае месца пражывання паўстанцаў, а таму ён накіраваўся ў процілеглы бок – да мястэчка Новы Двор. Такім чынам, час для пераследавання атрада паўстанцаў, што знаходзіліся ў Янінскім лесе, быў упушчаны.

На другі дзень з паказанняў адпушчанага з атрада паўстанца Духноўскі даведаўся, што атрад у колькасці 300 чалавек пад камандаваннем Стравінскага (Млотка) засяродзіўся ў Янінскім лесе. Наўздагон паўстанцам была выслана 9-я рота, а з астатнімі дзвюма ротамі Духноўскі рушыў услед у Янінскі лес, але не меў верных правадыроў. Узятыя ім сяляне падводнікі, па іх словах, не ведалі ні дарог, ні мясцовасці. Па дарозе зрабілі прыпынак, бо паўстанцы разбурылі мост.

9-я рота, якая ішла наперадзе атрада Духноўскага, заўважыла некалькі коннікаў, якія праскакалі ўдалечыні. Таму рота рассыпалася ланцугом і неўзабаве натыкнулася на паўстанцаў, якія рухаліся на аб’яднанне з

асноўным атрадам. Пасля непрацяглай перастрэлкі паўстанцы адышлі ў сярэдзіну лесу, акружанага балотам, пакінуўшы асядланага каня і адзіную фурманку, нагружаную рознымі рэчамі: адзеннем, бялізнай, порахам, свінцом і ў малой колькасці харчовымі прадуктамі. Таксама паўстанцы кінулі тры старыя шаблі.

Між тым, 10-я рота, прайшоўшы 25 кіламетраў у глыбіню Пружанскага лесу і не знайшоўшы паўстанцаў, накіравалася да двара маёнтка Лубянка, які належаў адстаўному афіцэру Ваге. Тут быў знойдзены паўстанец па прозвішчы Брант, паранены ў левую руку. Як аказалася, ён з'яўляўся галоўным распарадчыкам па гаспадарчай частцы. У двары іншага маёнтка Устронь быў знойдзены яшчэ адзін смяротна паранены куляй у скронь паўстанец – хлопчык гадоў 15-ці. Пасля гэтага рускі атрад вярнуўся ў мястэчка Лыскава.

Колькасць асноўнага атрада паўстанцаў, а таксама колькасць забітых і параненых з іх боку Духноўскі не вызначыў. Пасля наступлення цемры яму давялося адысці на новую пазіцыю, якая знаходзілася за тры кіламетры ад



Мал.12. Лясны адпачынак паўстанцаў. Гравюра з французскага тыднёвіка „Le Monde illustre"

месца, дзе адбылася сутычка. З боку атрада Духноўскага стратаў не мелася. 1 мая атрад вярнуўся ў Ваўкавыск, дзе быў пакінуты ўвесь абоз, які належаў батальёну. Да таго ж у ваколіцах горада, па данясеннях земскага спраўніка, пачалі паказвацца атрады паўстанцаў [72, с. 60], [42, с. 32-33]

Атрад Стравінскага вымушаны быў сысці далей на поўдзень у Ружанскую пушчу, дзе прыняў у свае шэрагі пружанскіх добраахвотнікаў у колькасці 70 чалавек пад камандаваннем Влодка. Тут у лесе пад назвай Гута Міхалінская, размешчаным за 18 кіламетрах на поўдзень ад мястэчка Ружаны Пружанскага павета, 2 мая атрад прыняў бой з царскімі войскамі, якія прыйшлі маршам з Пружанаў. Вынікі бою па ўспамінах Арамовіча склалі: з боку паўстанцаў 5 забітых і 4 параненыя, з боку праціўніка 11 забітых і 65 параненых [71, с. 21].

Гісторык А.І.Мілавідаў аб гэтым баі паведамляе: «2 мая. Справа пры карчме Міхаліны каля мястэчка Сялец Пружанскага павета. 112 чалавек Рэвельскага пяхотнага палка і 20 казакоў пад камандай штаб-капітана Еўдакімава. Забіта – 5, паранена – 23. Шайка пад камандаваннем Влодка дасягала 800 чалавек. Забіта – 50 паўстанцаў» [68, с. 24]. Як бачым, дадзеныя Мілавідава не выклікаюць асаблівага даверу, таму што колькасць атрада Влодка завышана ім больш чым у 10 разоў.

Пасля бою ў Гуце Міхалінскай атрад Стравінскага зноў вярнуўся ва ўрочышча Вялікі Кут. Праз два дні сюды з 25 добраахвотнікамі з Гродзенскага павета прыбыў атрад пад камандаваннем адстаўнога падпалкоўніка расійскай арміі Лянкевіча (Ландэра). Да гэтага часу кіраўніцтвам паўстання яму быў прысвоены чын палкоўніка. Як старшы па званні і пасадзе Лянкевіч узяў на сябе камандаванне над аб'яднаным атрадам. Неўзабаве атрад памяняў месца базавання, здзейсніўшы амаль 40-кіламетровы марш у бок Свіслачы, дзе на чатыры дні спыніўся ў лесе каля вёскі Грынкі. Тут паўстанцы заняліся ваеннай падрыхтоўкай, але вестка пра тое, што набліжаецца праціўнік, прымусіла іх зноў манеўраваць. На гэты раз атрад перамясціўся на паўднёвы ўсход. Праз 20 кіламетраў марша па Белавежскай пушчы знайшоў прытулак ва ўрочышчы Людвінава паміж мястэчкам Новы Двор і вёскай Навасёлкі. 9 мая ў 7 гадзін раніцы дазорцы далі знаць, што «маскалі» ў складзе двух рот пяхоты і 15 казакоў рухаюцца па дарозе да ўрочышча Савіцкія Карчмы. Паўстанцы вырашылі легчы ў засаду і прыняць бой.

Як успамінае Арамовіч, паўстанцы, маючы па левым баку дарогі роту пад камандаваннем Сасуліча, а з правага – роту Стравінскага, а за ёй у рэзер-

ве пружанскі атрад і атрад касінераў пад камандаваннем Млотка з Ельскім, узялі маскалёў пад перакрыжаваны агонь і прымусілі адступіць на ўскраіну лесу . Адтуль маскалі ўдарылі па правым крыле паўстанцаў, але, сустрэўшы шчыльны агонь, паспрабавалі наступаць на левы фланг. Аднак і тут ім давялося адступіць да мастка, які з абодвух бакоў акружала балота. Тут рускія зноў патрапілі ў перакрыжаваны агонь і вымушаны былі адступіць да Савіцкіх Карчмоў, па дарозе ўзарвалі пры гэтым тры мастка. Бой працягваўся ўсяго 15 хвілін. З боку паўстанцаў загінула 2 чалавекі, а маскалёў – 12 [71, с. 22].

Гісторык А.І.Мілавідаў паведамляе, што гэты бой адбыўся 13 мая: «Сутычка каля вёскі Новы Двор Ваўкавыскага павета. Рускі атрад складаўся са 150 чалавек 3-га стралковага батальёна і 40 казакоў пад камандай капітана Куліkoўскага. З нашага боку 4 паранена. Шайка складалася з 300 чалавек, забіта – 12» [68, с. 25].

Пасля бою атрад зноў вярнуўся ва ўрочышча Вялікі Кут, адкуль акружным шляхам праз Івацэвічы пасля шматкіламетровага марша прыбыў пад вёску Мілавіды ў Слонімскім павеце, дзе аб’яднаўся са Слонімскім атрадам Франца Юндзіла ў колькасці 300 добраахвотнікаў.

# ПАДЗЕІ ПАД МІЛАВІДАМІ І ПАСЛЯ ІХ

Праз месяц пасля таго, як ваенным начальнікам маёрам Духноўскім было абвешчана пра пагрозу нападзення паўстанцаў на Ваўкавыск, такая пагроза паўстала ізноў. А хутчэй за ўсё яна і не прападала ўвесь папярэдні месяц. Таму па загадзе генерал-лейтэнанта Манюкіна раніцай 16 мая з Гродна пад камандаваннем маёра фон Крэмера на ўзмацненне ваўкавыскага гарнізона выступіў зводны атрад, які ўключаў у сябе адзін батальён пяхоты і 20 казакоў 33-га Данскога палка. Адначасова атрад суправаджаў да Ваўкавыска чыноўніка, што развозіў жалаванне для войскаў і паштовую грашовую карэспандэнцыю.

Прыбыўшы ў Ваўкавыск увечары 17 мая, фон Крэмер з'явіўся ў распара-джэнне падпалкоўніка Калакольцава, які ў ноч з 18 на 19 мая адправіўся ў Санкт-Пецярбург, не паведаміўшы фон Крэмеру, хто павінен быў заступіць на яго месца, бо ваенны начальнік Казанлі быў у гэты час у раз’ездах. Як старшы пасля Калакольцава па званні фон Крэмер зрабіў распараджэнне аб адпраўленні грашовага транспарту раніцай 20 мая пад канвоем адной роты князя Меньшыкава палка маёра Духноўскага да Слоніма.

Увечары 20 мая, г.зн. за два дні да бітвы пад Мілавідамі, фон Крэмер даведаўся, што атрад паўстанцаў пад камандаваннем Лянкевіча быў падзелены на тры партыі. Атрады накіраваліся па Слонімскім тракце з намерам засяродзіцца ў наваколлі мястэчка Лыскава. Тут яны павінны былі аб’яднацца з атрадам палкоўніка Духінскага, якому Лянкевіч паслаў кур’ера ў мястэчка Хрыпкі. Сумеснымі дзеяннямі атрады паўстанцаў збіраліся адбіць грашовы транспарт, які рухаўся ў Слонім. Фон Крэмер з дапамогай ганца папярэдзіў маёра Духноўскага пра пагрозу, што над ім навісла. Увечары таго ж 20 мая ў Ваўкавыск з раз'ездаў па павеце вярнуўся падпалкоўнік Казанлі. Таму фон Крэмер у ноч з 20 на 21 мая выступіў з атрадам у накірунку мястэчка Зэльва для аб’яднання з атрадам маёра Духноўскага. У Зэльве ён атрымаў звесткі, што Лянкевіч накіраваўся па тракце ў Лыскава, а таму пайшоў туды праз Падароск.

У ваколіцах Лыскава асабіста з казакамі фон Крэмер ажыццявіў рэкагнасцыроўку і даведаўся, што Лянкевіч стаяў лагерам у Янінскім лесе,

адкуль накіраваўся да Слоніма. Прыняўшы рашэнне аб недапушчэнні аб'яднання атрада Духінскага з атрадам Лянкевіча, фон Крэмер рушыў напярэймы паўстанцам.

21 мая ваўкавыскі ваенны начальнік Казанлі са штаба 2-й пяхотнай дывізіі, размешчанай у Беластоку, атрымаў указанні ад камандуючага войскамі ў Гродзенскай губерні генерал-лейтэнанта Манюкіна. Казанлі прапаноўвалася неадкладна перайсці ў наступленне і што б там ні было рассеяць навакольныя атрады паўстанцаў. Для аховы горада варта было пакінуць адну роту і інвалідную каманду, размясціўшы іх у турэмным замку, куды павінны быць здадзены ўсе грашовыя сумы, зарадныя скрыні, што заставаліся.

Казанлі ўведамляўся, што генерал Беклемішаў дзейнічае з заходняга боку Белавежскай пушчы, а таму ў выпадку неабходнасці трэба было ўзгадняць свае дзеянні з атрадам генерала. Манюкін таксама прасіў Казанлі апавяшчаць яго аб руху атрадаў паўстанцаў і дзеяннях Казанлі з дапамогай эстафетнай пошты. Атрымаўшы прадпісанне Манюкіна, Казанлі паведаміў фон Крэмеру неадкладна накіравацца ў мястэчка Новы Двор і чакаць яго прыбыцця, каб разам накіравацца ў мястэчка Свіслач, размешчанае ў супрацьлеглым баку ад Слоніма [17, с. 212, 215].

Як бачым, рускае камандаванне да апошняга моманту не ведала, што атрады паўстанцаў Гродзенскай губерні сцягваюцца да Слоніма пад Мілавіды. Тым часам кіраўнік слонімскіх паўстанцаў Франц Юндзіл знаходзіўся пад Мілавідамі з пачатку мая 1863 года. Сюды да яго са Слонімскага павета збіраліся людзі, якія займаліся ваенным навучаннем. З бліжэйшых вёсак у лагер даставілі абсталяванне для чатырох кузняў, з дапамогай якіх выраблялі косы, вострыя з абодвух бакоў, з лязом на канцы і гакам унізе. Косы насаджвалі на дрэўца і змацоўвалі дротам, знятым з тэлеграфных слупоў. Такой прыладай можна было не толькі наносіць рэзаныя раны, але калоць і сцягваць вершнікаў з коней.

У сярэдзіне мая каля Мілавідаў злучыліся атрады з Гродзенскага, Ваўкавыскага, Слонімскага, Пружанскага і Навагрудскага паветаў агульнай колькасцю каля 800 чалавек (па сцвярджэнні процілеглага боку – каля трох тысяч). Атрады ўзначаліў старшы па званні палкоўнік Аляксандр Лянкевіч, які прыбыў у лагер 20 мая. Лагер паўстанцаў знаходзіўся ў лесе паблізу дарогі Брэст-Бабруйск. Вечарам 21 мая сюды з інспекцыяй прыбыў Кастусь Каліноўскі і агледзеў пастроеных на дарозе паўстанцаў. Раніцай 22 мая паміж

камандзірам пружанскіх паўстанцаў Влодкам і Лянкевічам (Ландэрам) адбылася спрэчка наконт планаў бітвы, якая мелася адбыцца з маскалямі. У выніку гэтага Влодэк забраў сваіх людзей і пакінуў лагер, падаўшыся ў бок Кобрына на аб'яднанне з атрадам Траўгута, якому непасрэдна падпарадкоўваўся.

Супраць паўстанцаў са Слоніма сюды былі накіраваны тры роты Стараінгер-манландскага палка, 30 коннікаў, 4 гарматы і казакі пад агульным камандаваннем падпалкоўніка Булгарына. Засада, якую Лянкевіч пакінуў уздоўж шашы, ноччу 22 мая выдала сябе некалькімі стрэламі нявытрыманых паўстанцаў па варожай разведцы.

22 мая ў 11.30 дня «маскалі» пры падтрымцы артылерыі пайшлі ў атаку. Бой, па ўспамінах Лянкевіча, працягваўся да 21.30 вечара і спыніўся з надыходам цемры. Няўзгодненасць з боку расійскіх войскаў прывяла да таго, што падчас бою частка з іх трапіла пад разрывы сваіх снарадаў. Рускія войскі былі вымушаныя пакінуць поле бою і адысці за вярсту на запасныя пазіцыі. Аднак паўстанцы, даведаўшыся, што з боку Мілавід на дапамогу рускім войскам ідзе свежае падмацаванне, не кінуліся праследаваць праціўніка, а пад прыкрыццём ночы з 22 на 23 мая адступілі самі.

Адступленне паўстанцаў больш было падобнае на ўцёкі, што вынікае з рапарта аб ходзе ўсёй бітвы падпалкоўніка Булгарына ад 26 мая камандзіру 3-й артылерыйскай брыгады. 20 мая Булгарын з 3 ротамі Стараінгерманландскага пяхотнага палка і 4 гарматамі рушыў да Мілавідаў. Пры выхадзе са Слоніма падзяліў атрад на два аддзелы, даручыўшы маёру Ягораву з 1-й ротай, 2 гарматамі і 15 коннымі ісці праз Жыровіцы і Быцень, адкуль праз Дабрамысль і Югалін выйсці да Грудаполя. Сам жа з 2 гарматамі і з 2 іншымі ротамі накіраваўся туды ж, г.зн. да Грудаполя праз Кабовічы. На 6-м кіламетры ад Мілавід да вёскі Чамяры рос густы лісцёвы лес, а сама мясцовасць была топкая. Многія дрэвы, вырваныя з коранем, стваралі на кожным кроку завалы, а вадзяныя ямы яшчэ больш узмацнялі недаступнасць падыходу да лагера паўстанцаў. Прыкладна за адну трэцюю кіламетра да лагера з правага боку знаходзілася паляна, а яшчэ далей справа на ўскрайку стаяў смаляны завод. Паляна дала магчымасць Булгарыну пачаць атаку на лагер паўстанцаў з двух бакоў. Як толькі ўзлесак быў абстраляны карцечнымі стрэламі, 1-я рота пачала наступаць направа ад шашы, а 1-ы ўзвод 3-й роты паглыбіўся ў лес, завязаўшы перастрэлку з боку пляцоўкі. Другому ўзводу гэтай роты Булгарын загадаў ісці з боку смалянога завода з барабанным боем, каб адцягнуць увагу праціўніка. Але гэта не дапамагло: паўстанцы ведалі не-

прыступнасць сваёй пазіцыі і так упарта трымаліся на ўзлеску, што праз дзве гадзіны Булгарын быў вымушаны на месца стомленай 1-й роты выслаць 2-ю, а 1-ю адвесці ў рэзерв. Аднак і 2-я рота не магла пераадолець цяжкасцяў мясцовасці і дайсці да адзінай сцяжынкі, якая злучала шашу з лагерам, хоць і адсунула паўстанцаў настолькі, што сталі бачны баракі іх лагера. Дзеянні 3-й роты таксама былі паралізаваны мясцовымі перашкодамі. Значная змяншэнне людзей (забіта 9 і паранена 40 чалавек), іх стомленасць і цемра, якая надыходзіла, прымусілі Булгарына спыніць бой.

23 мая Булгарын даведаўшыся, што ўначы паўстанцы пакінулі свой лагер і рушылі ў бок Дабрамыслі, загадаў праследваць іх. Аднак да вечара праследаванне скончылася нічым, і ён вымушаны быў вярнуцца назад і пераначаваць у Грудаполі.

24 мая з дзвюма ротамі рускія зноў падышлі да пакінутага лагера паўстанцаў, дзе сабралі мёртвыя целы як сваіх забітых, так і кінутых паблізу выхаду на шашу 9 целаў паўстанцаў. Тых і другіх Булгарын загадаў пахаваць у дзвюх розных магілах. Астатнія забітыя паўстанцы былі пакінуты на месцы і засыпаны або затоплены ў ямах самімі паўстанцамі, таму і колькасць забітых вызначыць не ўяўлялася магчымым.

У пакінутым лагеры паўстанцаў было знойдзена пяць чалавек цяжкапараненых, а таксама быў знойдзены і адзін рускі паранены салдат, які знік без вестак 22 мая. Усе яны былі перавязаны рускімі дактарамі і адпраўлены ў Слонім. У лагеры таксама было знойдзена мноства рассыпанай правізіі, хоць увесь папярэдні дзень мужыкі і яўрэі вывозілі прадукты сабе. Было



Мал.13. Мемарыяльны комплекс у гонар паўстання 1863 г. каля вёскі Мілавіды Слонімскі раён. Капліца ў памяць палеглых паўстанцаў 1863 г. і крыж у памяць загінуўшых у мілавідзкай бітве расейскіх салдат.






Мал.14. Мемарыяльны комплекс у гонар паўстання 1863 г. каля вёскі Мілавіды Слонімскі раён. Камень у гонар беларускіх касінераў.

знойдзена да пяці пудоў пораху, мноства брычак, сёдлаў, паходная кузня, рознага роду косы, колькасцю каля 200, 23 старадаўнія стрэльбы і чацвёра коней. Звярталі на сябе ўвагу рэчы з паходнага касцёла: дошка белага мармуру ў драўлянай аправе з часціцай мошчаў св. Даната, складанае Евангелле і іншыя прадметы, якія ўжываюць пры набажэнстве.

Паўстанцы адступалі малымі партыямі: адны - ў Пінскія лясы, другія - да Беразоўскіх лясоў, а некаторыя - ў бок Слуцка.

Усе косы, а таксама прадметы цяжкія і нязручныя для вывазу з лагера, таксама як і брычкі, па загадзе Булгарына былі спалены [17, с. 190-192].

Аляксандр Лянкевіч паказвае наступныя страты бакоў у гэтым баі: 18 забітых паўстанцаў і 240 рускіх салдат, у пераважнай большасці забітых сваімі снарадамі. У той жа час аб пападанні снарадаў па сваіх войсках у данясенні Булгарына не паведамляецца. Тут больш веры Булгарыну, чым Лянкевічу, таму што паўстанцы кінулі сваіх параненых і нават святыя мошчы. Да таго ж схаваць ад свайго начальства такія вялікія страты падпалкоўнік Булгарын проста не мог. Не паведамляе аб вялікіх стратах сярод рускіх войскаў у сваіх успамінах і Ігнат Арамовіч. Наадварот, ён піша пра разгубленасць і няўзгодненасць паўстанцкіх атрадаў у бітве пад Мілавідамі.

Гісторык А.І.Мілавідаў аб гэтым баі паведамляе наступнае: «Бой у мілавідскіх лясах Слонімскага павета. 3 роты Стараінгерманландскага палка і 30 конных пры 4 гарматах пад камандаваннем палкоўніка Булгарына. Забіта – 10 чалавек, паранена – 40. Шайка дасягала 3000 чалавек пад на-

чальствам Лянкевіча і Лукашэвіча. У паўстанцаў забіта – 9, паранена – 5, у палон узята – 2» [68, с. 25].

На Мілавідскім полі пра бітву зараз нагадваюць ажно тры помнікі. Першы з іх – праваслаўны крыж, пастаўлены ў 1913 годзе для расійскіх салдат. Каталіцкая капліца з'явілася ў 1930-х гадах, калі гэтыя землі перайшлі ды Польшча. А ў 1990-х гадах беларусы ўсталявалі камень у гонар беларускіх касінераў з надпісам «За вашу і нашу свабоду».

Як паведамлялася вышэй, у ноч з 22 на 23 мая паўстанцкія атрады разышліся ад Мілавід па розных напрамках. Ваўкавыскі атрад рушыў у свой павет да ўпадабаных лясных і багністых месцаў каля мястэчка Лыскава. Па дарозе да іх далучыўся атрад палкоўніка Духінскага, які паспеў пасля бітвы пад Мілавідамі пабываць у некалькіх сутычках з праціўнікам.

Атрымаўшы ўказанні ад Казанлі, у 12 гадзін ночы з 23 на 24 мая фон Крэмер выступіў з Лыскава ў накірунку да Новага Двара і, прайшоўшы каля 12 кіламетраў, заўважыў мноства недакураных папяросаў, шалупінне вараных яек і недагарэлыя стэарынавыя свечкі. Зрабіўшы пошукі, даведаўся, што паўстанцы мелі тут прывал. Гэта быў атрад Ануфрыя Духінскага, які адступіў у родныя лясы пасля Мілавідскай бітвы. Даведаўшыся, што паўстанцы накіраваліся ў двор маёнтка Устронь, фон Крэмер адправіў пра гэта з 5-ю казакамі данясенне да падпалкоўніка Казанлі ў мястэчка Новы Двор, а сам пайшоў па слядах паўстанцаў.

Накіроўваючыся за паўстанцамі фарсіраваным маршам да Устроні, фон Крэмер даведаўся, што яны зноў мелі прывал, зрабілі пераклічку і, аддзяліўшы ўсіх хворых і слабых, адправілі іх па адным па дамах. Па сабраных звестках атрад паўстанцаў складаўся з 700 чалавек пешых, узброеных паляўнічымі стрэльбамі, у тым ліку 135 косамі і меў 40 чалавек конных стралкоў. Неўзабаве атрад паўстанцаў змяніў свой маршрут, накіраваўся да двара маёнтка Янін. Фон Крэмер настойліва праследаваў паўстанцаў да маёнтка Янін, дзе даведаўся, што тыя ўзялі тут дзве бочкі гарэлкі, запасліся зброяй, зарэзалі вала. Пасля гэтага разбіліся на часткі і адправіліся па дарозе ў лес.

Даўшы невялікі прывал уласнаму атраду, фон Крэмер адправіўся ўслед за паўстанцамі янінскімі лясамі і, прайшоўшы без адпачынку каля 30 кіламетраў, у 3,5 гадзіны папалудні нарэшце нагнаў паўстанцаў у Слонімскім павеце ў Ружанскай казённай дачы, на ўчастку Пагарэлае. Тут паўстанцамі ў рэдкім лесе быў пастаўлены конны пікет, з якога адзін паўстанец быў схоплены.



Мал. 15. Лясны бой паўстанцаў з расійскім войскам. Гравюра з французскага тыднёвіка „Le Monde illustre”

За тры кіламетры ў градах Чэрчэці, у гразкіх непраходных месцах, за невялікім ручайком, у густой нетры лісцёвых дрэў паўстанцамі быў выстаўлены стралковы ланцуг. Некаторыя стралкі сядзелі на дрэвах. Фон Крэмер выслаў наперад 3-юю стралковую роту з трыма паўзводамі ад 9-й роты, па адным паўзводзе на фланґі і сярэдзіну. У дапамогу флангам былі высланы казакі. Абоз атрада фон Крэмера быў пакінуты пад прыкрыццём астатняга паўзвода 9-й роты. Рускія стралкі, падышоўшы да варожага ланцуга на адлегласці 50 крокаў, былі сустрэты больш частаю стралянінаю пад бадзёрыя выкрыкі камандзіраў паўстанцаў. Раздаваліся галасы: «Панове, адважней! Іх бардзо мала, адна рота стральцоў! Мы іх вшысткіх пабіем!».

Жадаючы выманіць паўстанцаў з гушчару лесу, фон Крэмер загадаў свайму ланцугу адступіць. Паўстанцы, падбадзёраныя гэтым, кінуліся наперад, але былі спынены стрэламі рускіх стралкоў, а таму былі вымушаны адысці і заняць першапачатковую пазіцыю. Не бачачы магчымасці выбіць іх з пазіцый стрэламі, фон Крэмер загадаў ісці сваім стралкам у атаку. Яны з лютасцю кінуліся ў гушчар лесу і прарвалі непрыяцельскі ланцуг. Ад-

нак паўстанцы занялі іншую пазіцыю за невялікай палянай. Тут касінеры распачалі спробу перайсці да бліжняга бою, спрабуючы спыніць рускіх стралкоў, але, сустрэтыя агнём непрыяцеля, паспешліва адступілі за свой ланцуг. Абодва ланцугі залеглі адзін супраць аднаго, парушаючы цішыню адзіночнымі стрэламі.

Раптам раздалася пачашчаная стральба на адным з флангаў рускіх. Казацкі ўраднік прыскакаў да фона Крэмера, патлумачыўшы, што вораг робіць абход з левага боку. Узмацніўшы абодва флангі рэзервамі 9-й роты, фон Крэмер падаў сігнал наступлення. Паўстанцы контратакавалі восем разоў, кідаючыся наперад з крыкамі «Ура!», але кожны раз агонь непрыяцеля прымушаў іх адступаць і хавацца ў густым лесе.

У 7 гадзін вечара паўстанцы пачалі адыходзіць малымі часткамі ад 3-х да 5-ці чалавек у непраходнае балота (дрыгву), прылеглае з левага боку да возера, за 4 кіламетры ад вёскі Ласасіны.

Бачачы, што пераследаванне паўстанцаў нічога не дасць, фон Крэмер палічыў патрэбным даць свайму атраду адпачынак і прывесці яго ў парадак. Пасля адпачынку атрад ішоў 14 кіламетраў у мястэчка Ружаны, дзе меў начлег. Страты рускіх склалі 4 забітыя, у тым ліку адзін юнкер і трое стралкоў, параненых – 15, з якіх цяжка параненых – 8 і адзін кантужаны. Адзін з параненых памёр на другі дзень у Ружанах. Тамсама ў Ружанах з цырымоніяй былі аддадзены зямлі целы забітых ніжэйшых чыноў. Сюды 25 мая са сваім атрадам прыбыў і падпалкоўнік Казанлі.

26 мая абодва атрады выступілі праз Падароск у Лыскава і адтуль у Новы Двор, дзе засталі атрад маёра Марозава, які захапіў чатырох палонных без зброі з разбітага 24 мая атрада паўстанцаў. Прастаяўшы ў Новым Двары каля трох сутак, у ноч на 29 мая атрады фон Крэмера і Казанлі выступілі з Новага Двара ляснымі дарогамі ў накірунку да маёнтка Устронь і далей у Лыскава, куды прыбылі ў 5 гадзін раніцы. Падпалкоўнік Казанлі адправіўся з атрадам далей на мястэчка Поразава, а фон Крэмер застаўся ў Лыскава.

29 мая ў Лыскава прыбыў генерал-маёр Беклемішаў са сваім атрадам, які загадаў атраду фон Крэмера рухацца ў накірунку ў мястэчка Пескі Ваўкавыскага павета, а падпалкоўніку Казанлі з Поразава ў Ваўкавыск.

Далей фон Крэмер апісвае страты паўстанцаў, якія, па яго словах, толькі на адным правам крыле склалі 127 забітых. У іх ліку быў ваенны лекар Каліноўскі і многія іншыя асобы, якія з выгляду і па вопратцы былі з высокага саслоўя. У палон быў узяты беластоцкі памешчык Рафаэль Карыцкі.

Атрад паўстанцаў, па дадзеных фон Крэмера, складаўся з 700 чалавек пешых і 40 конных. У яго ўваходзілі абшарнікі, шляхта, чыноўнікі, мяшчане, гімназісты Беластоцкай, Гродзенскай і Свіслацкай гімназій, адстаўныя салдаты і некаторая колькасць казённых сялян. Галоўным правадыром паўстанцаў з'яўляўся Ануфры Духінскі. Батальёнам у атрадзе Духінскага камандаваў капітан Эйтмановіч, які ўцёк з Лібаўскага палка. Ротай пешых стралкоў камандавалі адстаўны паручнік Завістоўскі і паручнік Урублеўскі. Камандзірамі роты касінераў былі: 1-га аддзялення – чыноўнік Беластоцкага павятовага казначэйства Ляткоўскі і 2-га аддзялення – француз Сіманс. Камандзір конных стралкоў – беластоцкі памешчык Казімір Кабылінскі і яго памочнік - памешчыцкіх сын Уладзіслаў Міхайлоўскі. Акрамя таго, у конных стралках знаходзіліся сыны Кабылінскага – Канстанцін і Адольф і два пляменніка, узятыя ім з вёскі Гародня, а таксама адстаўны ўланскі афіцэр Кілінжынскі, які часам называў сябе Падкова. Скарбнікам быў былы настаўнік Беластоцкай гімназіі Арамовіч. Кватэрамейстарам пры атрадзе быў Усціла, а дактарамі – уцякач, ваенны медык Іван Каліноўскі і яго памочнік Бірарэнт з Беластока. Апошні знаходзіўся ў атрадзе з пачатку фарміравання, а першы прыбыў у атрад у вёсцы Грынкі.




Мал.16. Бой паўстанцаў з расійсікмі войскамі. Гравюра з французскага тыднёвіка „Le Monde illustre”

У паўстанцаў былі ўзяты трафеі: сцяг, кнігі, планы, французскія газеты, шмат стрэльбаў, пік і кос, пісталеты, форменныя шаблі, два цесакі, жалезныя латы, мноства адзення, некалькі фунтаў пораху і свінцу, дзве бочкі гарэлкі, харчовыя запасы: гарох, крупы, соль і салёнае сала, медыкаменты, бінты, тры падводы, шэсць коней, з якіх 4 былі асядланыя, і тры медныя катлы. Акрамя таго, захоплена каляска, якая была пакінута ў балоце па немагчымасці выцягнуць яе адтуль. Зброю, пікі і косы прызначана здаць на склад у Гродна, а коні, павозкі і адзенне меркавалася аддаць у продаж з аўкцыённых таргоў на карысць ніжэйшых чыноў [46, с. 30;42, с. 61-65].

Гісторык А.І.Мілавідаў аб гэтым баі паведамляе: «24 мая. Бой у Ружанскай казённай дачы, ва ўрочышчы Пагарэлае Слонімскага павета. Дзве роты Неўскага палка з 20 казакамі Данскога № 33 палка пад камандай маёра фон Крэмэра. Страты з нашага боку не пазначаны. Шайка дасягала 750 чалавек пад начальствам Лянкевіча і Духінскага. Забіта – 127, 1 узяты ў палон» [68, с. 25].

Варта дадаць, што бітва працягвалася 3,5 гадзіны.

Калі верыць названым стратам паўстанцаў, то ў гэтай бітве яны згубілі шмат жывой сілы і амуніцыі. Нават сцяг і гарэлка дасталіся праціўніку. Напад быў нечаканым для паўстанцаў, таму што яны толькі што пачалі пераправу праз рэчку. Духінскі аказаўся адрэзаным казакамі ад асноўнай масы паўстанцаў і таму ў бітве не прымаў удзелу. Камандаваў паўстанцамі Валерый Урублеўскі, які, нягледзячы на большую колькасць царскіх войскаў (3 роты) і іх перавагу, звязаную з нечаканым з'яўленнем, здолеў некалькі гадзін утрымліваць пазіцыі, тры разы контратакаваў праціўніка і адышоў за раку, не атрымаўшы сур'ёзных страт (па ўспамінах Арамовіча было 13 забітых і 8 параненых). Таму паведамленне фон Крэмера пра 127 забітых паўстанцаў зусім не адпавядала рэчаіснасці. Пасля двухдзённага адпачынку атрад Духінскага рушыў у бок Пружанаў і 28 мая ў Серадова зноў аб'яднаўся са сваім атрадам [10, с. 370].

З успамінаў Арамовіча вынікае, што, адступіўшы з Ружанскай дачы, паўстанцы сабраліся ля Пераездзіка на рацэ Цемра. Доўга тут затрымлівацца не сталі і праз два дня і ў ноч з 2 на 3 чэрвеня перабазаваліся ва ўрочышча Вялікі Кут. Раніцай атрад пакінулі камандзір Юльян Эйтмановіч з 96 добраахвотнікамі, якія падаліся на захад у Сакольскі і Беластоцкі паветы для арганізацыі новых партызанскіх атрадаў. На наступны дзень абоз пакінуў і Лянкевіч з 56 паўстанцамі для ўз'яднання са слонімскімі паўстанцамі і да-

лейшай арганізацыі барацьбы ў Слонімскім і Ваўкавыскім паветах. Затое нечакана ў лагер з 60 коннікамі прыехаў стары паўстанец Кабылінскі, які пасля Мілавід адправіўся ў Ружаны, дзе разграміў мясцовую інвалідную каманду, захапіўшы 23 карабіны. Пасля кароткага адпачынку ў 17.30 Кабылінскі выехаў са сваімі людзьмі ў бок маёнтка Устронь, але праз кароткі час, праследаваны «маскалямі», вярнуўся назад. Камандзір Урублеўскі расставіў людзей па пазіцыях і падрыхтаваўся да сустрэчы непрыяцеля, які не прымусіў сябе чакаць і атакаваў паўстанцаў у лоб. Аднак прарваць лінію абароны паўстанцаў не атрымалася і «маскалі» адышлі, пакінуўшы на полі бою 29 сваіх штуцэраў. Пры спробе падабраць адзін з такіх штуцэраў параненым «маскалём» быў забіты ўсімі любімы паўстанец Пётр Радавіцкі. Бой працягваўся да 21-й гадзіны. Поле бою засталося за паўстанцамі, якія размясціліся на начлег сярод забітых і параненых салдат праціўніка [71, с. 29-32].

Бой, апісаны Арамовічам, адбыўся 4 чэрвеня пад мястэчкам Лыскава, калі паўстанцы атрада Духінскага і Урублеўскага паспяхова змагаліся з некалькімі ротамі пяхоты і казакамі пад камандаваннем падпалкоўніка Блюменталя і маёра Скарабагатава. Афіцыйныя дадзеныя аб стратах царскіх войскаў: 11 забітых, у тым ліку афіцэр, 17 параненых. Выканаўчы аддзел Літвы выдаў па гэтым баі дакумент: «На гэтых днях у ваколіцах Лыскава ў Ваўкавыскім павеце Гродзенскага ваяводства народныя войскі мелі сутычку са значнымі сіламі адабраных войскаў. Наш атрад выйшаў пераможцам. Касінеры, адны сяляне, ахопленыя рыцарскім запалам, завяршылі справу амаль поўнага разгрому маскалёў. Страты Масквы значныя. Бліжэйшыя падрабязнасці будуць апублікаваны ў бюлютэні. Праследаванні Масквы ўздымаюць дух ва ўсіх пластах грамадства, і паўстанне з кожным днём узмацняецца» [9, с. 106].

Раніцай 5 чэрвеня атрад пакідаў нядаўняе поле бітвы. Палкоўнік Духінскі загадаў падаць яму сцяг з выявай глобуса на блакітным фоне, які вазіў з сабой стары Кабылінскі, зламаў дрэўка сцяга і аддаў палотнішча назад, якое загадаў схаваць. Далейшы маршрут атрада пралягаў праз мястэчка Поразава, дзе паўстанцы назапасіліся правіянтам, і на вёску Міхалкі пад мястэчка Свіслач. Даведаўшыся, што ў Міхалках размясціліся тры роты царскіх войскаў, паўстанцы змянілі маршрут і пайшлі на вёску Жаркаўшчына, куды прыбылі ў 9 гадзін раніцы 9 чэрвеня. Неўзабаве пачулі стрэлы – гэта варта давала ведаць, што з’явіўся вораг. Паўстанцы занялі абарону на краі ўрочышча, дзе іх ад «маскалёў» падзяляла толькі невялікае, агароджанае




Мал. 17. Пад час бітвы з расійсікмі войскамі. Гравюра з французскага тыднёвіка „Le Monde illustre"

жэрдкамі поле. Непрыяцель перайшоў поле і, паклаўшы свае штуцары на жэрдкі, пачаў абстрэльваць абарону паўстанцаў. Пасля непрацяглай перастрэлкі паўстанцы пачалі адыходзіць у глыб лесу. Салдаты, якія пачалі іх праследваць, атрымаўшы некалькі залпаў з-за лясных завалаў, вымушаныя былі адступіць. Страты, па ўспамінах Арамовіча, у гэтай кароткай сутычцы склалі: з боку паўстанцаў – двое забітых і пяць параненых, а з другога – двое забітых і 12 параненых, якіх адвезлі ў Свіслач. Трое з іх неўзабаве памерлі. Паўстанцы ж падаліся ў Белавежскую пушчу [71, с. 29-32].

Аб гэтай сутычцы 12 чэрвеня падпалкоўнік Казанлі даносіў губернатару Бобрынскаму наступнае. 5 чэрвеня Казанлі атрымаў звесткі аб фарміраванні вялікага атрада паўстанцаў з рассеяных раней атрадаў. Фарміраванне адбывалася на ўскрайку Белавежскага лесу каля мястэчка Новы Двор. Трыма рознымі дарогамі Казанлі накіраваў туды тры асобныя калоны войскаў. Першая калона пад начальствам самога Казанлі складалася з 9-й і 10-й рот князя Меньшыкава палка і накіравалася на Свіслач і далей праз сяло Дабраволя да мястэчка Новы Двор. Другая калона, якая складалася з 12-й роты таго ж палка, пайшла прама з Ваўкавыска да мястэчка Поразава. Трэцяя калона, якая

складалася з 2-х рот Нясвіжскага палка пад начальствам маёра фон Крэмера, пайшла з мястэчка Пескі праз мястэчкі Зэльву, Лыскава да Новага Двара.

6, 7 і 8 чэрвеня войскі атрада Казанлі знаходзіліся ў пастаянным і амаль няспынным руху, шукаючы паўстанцаў па слядах, якія маскіраваліся імі з выдатным майстэрствам. 9-га чэрвеня ў 8 гадзін раніцы каля ляснога ўрочышча Суботка, што за 0,5 кіламетраў на поўнач ад мястэчка Новы Двор, атрад напаў на свежыя сляды паўстанцаў і хутка рушыў услед па іх ад урочышча Суботка праз вёску Баяры на вёску Рудня. Па слядах было бачна, што паўстанцы, не даходзячы да Рудні, павярнулі да вёскі Вялікія Грынкі. Атрад пастаянна мяняў кірунак, манеўруючы каля ўрочышчаў Пясец і Кацюхоўка. Нарэшце паўстанцаў дагналі каля вёскі Жаркаўшчына, дзе яны занялі моцную пазіцыю ззаду адкрытай паляны на ўскрайку вялікага непраходнага лесу.

У той час, калі салдаты 10-й роты, якія знаходзіліся ў ланцугу, пералазілі праз плот, каб увайсці на палянку і атакаваць паўстанцаў, што залеглі на ўскрайку лесу за паваленымі дрэвамі, паўстанцы зрабілі залп і адкрылі частую страляніну. Тады штабс-капітан Шахаў, які ішоў наперадзе ланцуга сваёй роты, з крыкам «Ура!» кінуўся на паўстанцаў у штыкі, выбіў іх з узлеску, і, перакінуўшы ў лес, праследваў на працягу 5 вёрст, маючы за сабой рэзервы 5-й роты. Лес быў да такой ступені густы, што многія паўстанцы, хаваючыся за вывернутым каранямі ў гушчары лесу, а таксама і на дрэвах, застаўшыся ззаду надыходзячага ланцуга, стралялі па рэзервах з тылу. У 4 гадзіны пасля абеду Казанлі абвясціў адбой, жадаючы даць людзям неабходны адпачынак. У гэты дзень, выступіўшы ў тры гадзіны раніцы, яны прайшлі 47 кіламетраў і ўжо чацвёрты дзень знаходзіліся ў хуткім і пастаянным руху.

Паўстанцы пакінулі на месцы бітвы ў лесе больш за 40 забітых, сярод якіх быў адзін ксёндз, доктар Здзельвацкі і адзін даволі мажны і прыгожы мужчына з барадой, якога казакі, якія былі ў справе 24 мая з маёрам фон Крэмерам, прызналі за Кабылінскага. У Казанлі выбыла са строю 8 радавых параненых і адзін забіты. Па словах Казанлі, атрад паўстанцаў складаўся з 800 чалавек, што быў раней пад правадырствам Духінскага, у якім начальнікам галоўнага штаба з'яўляўся Урублеўскі. У паўстанцаў былі адбіты 11 коней з сёдламі, адзін конь з вупражжу і павозкі, 6 стрэльбаў, 2 пісталеты, 4 касы, порах, кулі і гатовыя патроны, паляўнічыя торбы і розная вопратка. Знойдзены таксама дакумент на прысваенне чыну, які быў прадстаўлены генерал-лейтэнанту Манюкіну.

9 чэрвеня ў 6 гадзін вечара Казанлі выступіў у вёску Дабраволя, аддаленае за 6 кіламетраў ад месца сутычкі, дзе начаваў і на другі дзень, г. зн. 10 чэрвеня. Па прыбыцці атрадаў маёра фон Крэмера і штаб-капітана

Саф'янчыкава ўвечары 10 чэрвеня Казанлі накіраваўся па Свіслацкай дарозе і схаваўся на начлег у лесе ў глыбокай даліне. Так ён хацеў даць магчымасць зноў сабрацца паўстанцам у вядомым яму ўрочышчы Вялікі Кут. 11 чэрвеня пасля дадзеных разведкі Казанлі пераканаўся, што тыя, якія засталіся, разышліся па розных месцах нязначнымі групамі.

Падпалкоўнік Казанлі ў сваім рапарце таксама адзначыў падначаленых з 10-й роты, якія добра сябе праявілі. Камандзір роты штаб-капітана Шахаў шэсць разоў хадзіў у штыкі наперадзе свайго ланцуга. У ланцугу пры праследаванні паўстанцаў вызначыліся батальённы ад'ютант падпаручнік Верашчака, паручнік 10-й роты Адамаў і асабліва юнкер 10-й роты Уладзімір Ясінскі. Праявіў адвагу і батальённы лекар Дзмітрыеў, які пад стрэламі паўстанцаў аказваў дапамогу параненым ніжэйшым чынам [42, с. 76-79].

Гісторык А.І.Мілавідаў аб гэтым баі паведамляе: «9 ліпеня. Справа каля ўрочышча Пясец і Кацюхава. Дзве роты Стараінгерманландскага палка пад камандаю штаб-капітана Шахава. Забіты – 1, паранена – 8. Шайка пад камандай Духінскага дасягала 800 чалавек. Забіта больш за 40 чалавек» [58, с. 26].

І зноў немагчыма не падкрэсліць рознасць ацэнак страт у гэтым баі. Як бачым, страты паўстанцаў забітымі, па ўспамінах Арамовіча, і з рапарта Казанлі адрозніваюцца роўна ў 20 разоў!

Як паведамляе Ігнат Арамовіч, рэшткі ваўкавыскага і іншых атрадаў пасля сутычкі ў Жаркаўшчыне паглыбіліся ў Белавежскую пушчу, дзе, перайшоўшы ўброд раку Нараў, спыніліся на адпачынак каля вёскі Семянуўкі, якая адміністрацыйна ўваходзіла ў Ваўкавыскі павет. Паўстанцы пераначавалі ў лесе паблізу начной стаянкі варожых войскаў, якія іх праследавалі. Раніцай яны працягнулі свой шлях. Без праваднніка, толькі з дапамогай падрабязнай карты, якую меў пры сабе Урублеўскі, паўстанцы прабіраліся праз лясныя цяжкапраходныя кварталы ад аднаго да другога ўрочышча. Па дарогах ісці асцерагаліся, баючыся быць выяўленымі. Па гэтай жа прычыне не разводзілі нават вогнішчы. Згаладалыя і канчаткова змучаныя партызаны дайшлі да вёскі Папялёва, дзе, нарэшце, змаглі трохі перадыхнуць. Тут атрад падзяліўся на чатыры часткі: 60 чалавек пад камандаваннем Вашкевіча адправіліся для працягу барацьбы ў Бельскі павет, 60 чалавек на чале з Толкінам сышлі ў Сакольскі павет, Сасуліч з 120 добраахвотнікамі вырашылі вярнуцца ў паўднёвую частку Ваўкавыскага павета, а Стравінскі таксама з 120 добраахвотнікамі – у паўночную частку Ваўкавыскага павета. Пры Стравінскім засталіся ваенны начальнік Гродзенскай губерні Духінскі і камандзір Урублеўскі.

# АПОШНІЯ БАІ ПАЎСТАНЦАЎ НА ВАЎКАВЫШЧЫНЕ

З другой паловы чэрвеня 1863 года ад ваеннага начальніка Ваўкавыска і павета падпалкоўніка Казанлі штотыдзень гродзенскаму губернатару адпраўляліся рапарты наступнага зместу: «З 18 па 29 чэрвеня ў Ваўкавыскім павеце бунтаўнічыя шайкі не з'яўляліся» [42, с. 81].

Аднак з пачатку ліпеня данясенні пра партызанаў зноў сталі класціся на стол падпалкоўніку Казанлі. З яго рапарта губернатару ад 30 чэрвеня паведамлялася пра чуткі, якія дайшлі да яго. што ў лесе каля маёнтка Масты знаходзіцца значны атрад паўстанцаў. Таму ў ноч на 30 чэрвеня Казанлі з дзвюма ротамі князя Меньшыкава палка выступіў з Ваўкавыска па тракце на мястэчка Пескі, дзе аб'яднаўся з атрадам маёра фон Крэмера.

Паўстанцы выяўлены не былі, і 4 ліпеня падпалкоўнік Казанлі даносіў губернатару, што падчас экспедыцыі «шаек мяцежнікаў» не знойдзена, а таму ён з атрадам вярнуўся ў Ваўкавыск.

Кантроль за даручанай Казанлі тэрыторыяй Ваўкавыскага павета зрабіўся больш жорсткім. У полі яго зроку павінен быў заставацца нават самы нязначны рух насельніцтва. Таму з канца чэрвеня штотыдзень паведамлялася губернатару і пра тое, што «асобаў, адлучаных з месца пражывання па невядомых прычынах, у Ваўкавыскім павеце не было» [42, с. 83-84].

З пачатку жніўня штотыдзень высылаўся яшчэ адзін рапарт: «З 1 па 7 жніўня месяца ў davераным нам павеце ніхто не быў забіты і замучаны мяцежнікамі» [42, с. 101].

Рапарты ў далейшым падпісваліся двума асобамі: ваенным начальнікам падпалкоўнікам Казанлі і павятовым спраўнікам маёрам Раўцкім.

Ад 8 кастрычніка губернатару ў Гродне таксама штотыдзень адпраўляўся рапарт ад павятовага паліцэйскага кіравання: «Ваша Правасхадзіцельства, павятовае паліцэйскае ўпраўленне мае гонар далажыць, што ў Ваўкавыскім павеце з 8 па 16 ка-стрычніка ніхто з чужаземцаў не прыбыў. Павятовы спраўнік маёр Раўцкі» [42, с. 77].

Такім чынам, гродзенскаму губернатару штотыдзень адсылаліся па 4 рапарты. Перасталі пасылацца яны толькі ў студзені 1865 г. Увесь гэты

час ніякіх адхіленняў і парушэнняў спакою ў павеце не было: без дазволу паліцыі і ваеннага начальніка ніхто не адлучаўся, ніхто паўстанцамі не быў забіты ці замучаны і нават не з'явіўся ніводны новы чужаземец.

Што датычыцца з'яўлення ў Ваўкавыскім павеце паўстанцаў, то паведамленні пра іх прыходзілі толькі да канца жніўня 1863 года. Папярэджанне аб з'яўленні на заходняй мяжы Ваўкавыскага павета паўстанцаў 3 ліпеня было атрымана Казанлі ад камандуючага войскамі ў Гродзенскай губерні генерал-лейтэнанта Манюкіна. З атрыманнем дадзенага паведамлення Казанлі прадпісвалася адною ротаю заняць мястэчка Свіслач, а другою – мястэчка Ялоўка. Абедзве гэтыя роты павінны былі пільна ахоўваць шлях да Белавежскай пушчы, таму што невялікі атрад паўстанцаў зноў з'явіўся на рацэ Супрасль. Гэты атрад будзе праследвацца рускімі войскамі і, напэўна, каля 5, 6 ці 7 ліпеня зноў пойдзе ў Свіслацкую пушчу. У выпадку, калі атрад паўстанцаў пойдзе бокам, то Казанлі павінен будзе праследваць яго [54, с. 33].

Казанлі неадкладна даў адпаведныя ўказанні аб перадыслакацыі падпарадкаваных яму войскаў, размешчаных у Свіслачы, але толькі 12 ліпеня атрымаў рапарт ад камандзіра 12-й роты Стараінгерманландскага пяхотнага палка. У рапарце паведамлялася, што рота са Свіслачы выступіла пасля атрымання загада 4 ліпеня. Для праследавання «банды польскіх інсургентаў», якія зноў з’явіліся, рота адправілася па маршруце праз вёскі Грынкі, Дабраволя, Рудню, Заляшаны і іншыя. У вёсцы Бондары сустрэлі рускія войскі з гродзенскага і беластоцкага атрадаў. Пасля распытаў жыхароў і старанных пошукаў месцазнаходжанне паўстанцаў не было выяўлена. Аднак камандзір 12-й роты атрымаў у вёсцы Шурычы данясенне камандзіра 10-й роты паручніка Ліневіча пра паўстанцаў, якія з’явіліся каля вёскі Боркі. Па прыбыцці на месца паўстанцаў там таксама не знайшлі [54, с. 76].

23 ліпеня ў вёсцы Ліхасельцы (цяпер Каліноўская Свіслацкага раёна) былі затрыманы памочнікі паўстанцаў, пра што рапартам 26 ліпеня маёр фон Крэмер, які стаў да гэтага часу пружанскім ваенным начальнікам, даносіў губернатару. Пры фон Крэмеру знаходзіўся канвой з 10 казакоў Данскога №5 палка і 10 радавых пры адным унтэр-афіцэру Стараінгерманландскага палка пад агульнай камандай казацкага юнкера Івана Міхайлава Наследышава. Канвой суправаджаў фон Крэмера ад горада Ваўкавыска да горада Пружаны. На зваротным шляху 23 ліпеня ў вёсцы Ліхасельцы канвой заўважыў трох невядомых асобаў, якія ехалі на параконнай падводзе і наклікалі на сябе падазрэнне. Казакі, выскачыўшы на вуліцу, закрычалі тым асобам, каб яны

спыніліся, але тыя яшчэ хутчэй пагналі коней. Казакі дагналі іх на ўскраіне вёскі каля карчмы. Пры вобыску ў павозцы было знойдзена: злітак свінцу вагой 1 пуд 5 фунтаў, 2 мяшкі з новымі ботамі – усяго 23 пары з доўгімі халявамі, 2 галавы цукру, з якіх адна галава рассечана на кавалкі і кожны кавалак обгорнуты асаблівай паперай, 10 скрыняў сігар, 20 пачкаў папяросаў, тытуню каля трох фунтаў, папяросная і паштовая папера [10, с. 376].

Неўзабаве ў маёнтку Гарнастаевічы былі выяўлены і самі паўстанцы, пра што 29 ліпеня рапартам падпалкоўнік Казанлі даносіў генерал-лейтэнанту Манюкіну. Па словах Казанлі, яны прыйшлі ў Ваўкавыскі павет з суседняга Пружанскага павета. Для іх пераследавання Казанлі накіраваў размешчаныя ў гэтай частцы павета войскі: 10-ю роту Стараінгерманландскага палка пад камандаю паручніка Ліневіча; 10 казакоў з 6-й сотні Данскога казацкага №5 палка пры ўрадніку з дваран Наследышаве; 10 міліцыянтаў ад сельскай варты мястэчка Поразава; 7-ю роту Пскоўскага пяхотнага палка; частка лейб-улан Курляндскага палка. Разам – каля 350 чалавек.

Казанлі даведаўся, што паўстанцы хаваюцца ў лясах паблізу Свіслачы, якія раней належалі гаспадарам мястэчка Свіслачы – Тышкевічам. Таксама паўстанцы сталі з'яўляцца ў дварах маёнткаў і вёсках, размешчаных вакол мястэчка Поразава. Для іх знішчэння Казанлі неадкладна накіраваў войскі, размешчаныя ў мястэчках Свіслач, Поразава і Лыскава. Ім было загадана адначасова з абодвух бакоў хутка накіроўвацца да двара маёнтка Гарнастаевічы і да вёскі Баяры. У выніку гэтага 7-я рота Пскоўскага пяхотнага палка з 40 уланамі Курляндскага палка пад камандай капітана Руткоўскага, якая кватаравала ў Свіслачы, прыбыла 26 ліпеня прыцемкам да вёскі Баяры, дзе ў гэты час паўстанцы размясціліся на начлег і расставілі наглядальныя пасты.

Калі хтосьці з паўстанцаў заўважыў нядобрае і выстраліў, то па сігнале ротнага камандзіра ніжэйшыя чыны імгненна сабраліся і па яго камандзе з двух бакоў кінуліся рассыпным ланцугом на паўстанцаў, пры гэтым адкрыўшы частую страляніну. У выніку гэтага паўстанцы кінуліся да лесу і пераследаваліся на працягу трох кіламетраў да ўскрайку лесу. З левага фланга паўстанцы пераследаваліся рассыпным ланцугом роты, а з правага боку атакавалі ўланы. Прычым адзін салдат з роты быў лёгка паранены ў нагу.

З надыходам цемры капітан Руткоўскі з ротаю і ўланамі спынілі пераслед і вярнуліся ў вёску Баяры, дзе размясціліся біваком, прыняўшы ўсе меры засцярогі.

27 ліпеня камандуючы 10-й ротаю Стараінгерманландскага пяхотнага палка паручнік Ліневіч выступіў з кватэр мястэчка Поразава з ротаю і 10

казакамі 6-й сотні Данскога казацкага №5 палка пры ўрадніку з дваран Наследышаве і 10 міліцыянтамі ад сельскай варты мястэчка Поразава. Паблізу вёскі Навасёлкі яны аб'ядналіся з 7-й ротаю Пскоўскага пяхотнага палка, ротаю Смаленскага палка і часткай лейб-уланаў Курляндскага палка.

Для больш правільнага дзеяння супраць паўстанцаў 26 ліпеня Казанлі ў Поразава быў накіраваны камандзір 3-га батальёна Стараінгерманландскага пяхотнага палка маёр Духноўскі. Па прыбыцці ў Поразава з 20 канвойнымі Духноўскаму было загадана прыняць у сваё распараджэнне 10-ю роту батальёна, які там жа кватараваў, і праследаваць паўстанцаў, маючы беспярэпынныя зносіны з размешчанымі ў тым баку часткамі войскаў. Аднак названай роты ў Поразаве не аказалася. Тады разам з канвоем Духноўскі адправіўся па яе слядах. 27 ліпеня вечарам у лясным урочышчы Цымлева Духноўскі наткнуўся на атрад рускіх, які складаўся з 10-й роты, аднаго ўзвода Пскоўскага пяхотнага палка, паўэскадрона ўланаў і 10 казакоў. У выніку таго, што наступала ноч, з дадзеным атрадам адправіўся ў вёску Баяры, паведаміўшы пра гэта 2-ю стралковую роту Пскоўскага пяхотнага палка, якая кватаравала ў Лыскава, загадаўшы ей неадкладна выступіць і далучыцца да атрада.

На другі дзень 28 ліпеня раніцай Духноўскі выступіў з вёскі Баяры, праследуючы напярэдадні разбіты атрад паўстанцаў. Прабіраючыся лясамі па накірунку да вёсак Боркі і Рудня, праз 10 кіламетраў ён знайшоў пусты лагер паўстанцаў. З прычыны непраходнага для кавалерыі балоты ўланы і казакі, якія знаходзіліся ў атрадзе, былі пакінуты з адным узводам 7-й роты Пскоўскага пяхотнага палка. З 10-й ротай маёр Духноўскі праз балота прабраўся да другога вялікага пакінутага лагера паўстанцаў. Знайшоўшы іх след кругавым абыходам, Духноўскі выйшаў на дарогу, якая вяла назад да Новага Двара. Тут далучыў да сябе пакінутых уланаў і казакоў, а таксама 2-ю стралковую роту Пскоўскага пяхотнага палка, якая прыбыла з Лыскова. З такім атрадам рушыў па слядах паўстанцаў, якія вялі ў розныя бакі, напэўна, для ўтойвання свайго руху. Прайшоўшы ўзмоцненым маршам каля 50 кіламетраў, у 4 гадзіны пасля абеду атрад паўстанцаў быў дагнаны ў тышкевічаўскіх лясах ва ўрочышчы Пашкоўшчына ва ўмацаваным лагеры са ссечанымі і перакуленымі дрэвамі.

Паўстанцы былі выяўлены двума сялянамі з ліку высланых у раз'езд ад Поразаўскай сельскай варты. Лагер паўстанцаў знаходзіўся за 5 кіламетраў ад вёскі Навасёлкі. Паўстанцы спрабавалі схавацца, але былі дагнаны рускімі

войскамі каля лясной варты ўрочышча Цымлева, у густым лесе каля 2 кіламетраў ад згаданага ўрочышча, у вельмі багністых месцах. Узмоцнены ланцуг рускіх войскаў кінуўся ў атаку, выбіўшы паўстанцаў з займаемай імі пазіцыі. Пераследаванне паўстанцаў, якія ўпарта супраціўляліся і адыходзілі ў густы і балоцісты лес, працягвалася на працягу 5 кіламетраў. Толькі змяркан-не, якое набліжалася, не дало магчымасці Духноўскаму далейшае пераследа-ванне. Сабраўшы ўвесь атрад, ён выйшаў з лесу і ў 10 гадзін вечара прыбыў у вёску Навасёлкі. Бой працягваўся каля трох гадзін. З вёскі Духноўскі да-нёс Казанлі, што вызначыць у дакладнасці колькасць атрада паўстанцаў па супярэчлівых паказаннях палонных, узятых напярэдадні, сапраўды немаг-чыма. Адны паказваюць 300, а іншыя 400 чалавек. Аднак ён меркаваў, што атрад быў большы, бо складаўся з трох атрадаў пад кіраўніцтвам Влодка, Духінскага і Стравінскага. Паўстанцаў было забіта 45 чалавек і адзін паране-ны ўзяты ў палон. Узята 7 штук рознай зброі. У гэтай справе з боку рускіх войскаў аказаліся параненымі 9 чалавек ніжэйшых чыноў.

Казанлі адзначыў адвагу ў баі ўсіх афіцэраў, асабліва камандуючага 10-й ротаю паручніка Ліневіча, паручніка Адамовіча, камандзіра 2-й страл-ковай роты капітана Маслечкіна, паручнікаў-братоў Днатоўскіх, а таксама ўрадніка з дваран Наследышава. Ніжэйшыя чыны паказалі ў гэтай справе сваю поўную стараннасць [42, с. 93-96], [54, с. 105-106].

Гісторык А.І.Мілавідаў аб гэтым баі паведамляе: «27 ліпеня. Су-тычка паблізу ўрочышча Цымлева Ваўкавыскага павета. Адна рота Стараінгерманландскага палка, адна рота Пскоўскага палка, 10 казакоў 5-га Данскога палка, 10 міліцыянтаў сельскай варты і атрад уланаў Курляндскага палка пад камандаю паручніка Ліневіча. Стратаў няма. Шайка складалася з 150 чалавек. Забіта – 20, узята ў палон – 1» [68, с. 27].

Апісанне падпалкоўнікам Казанлі бою, які ён склаў з данясен-ня паручніка Ліневіча, не выклікае даверу. Не можа быць, каб за час трохгадзіннага бою ў радах царскіх войскаў не аказалася ні тое што забітых, а нават параненых. І гэта пры тым, што з боку паўстанцаў ім супрацьстаяла каля 300 добра ўзброеных чалавек.

Пасля бою была складзена ведамасць аб зброі, адабранай як у паўстанцаў у час бітвы, так узятай і ад жыхароў, якія не мелі білета на права ўтрымання зброі за ліпень 1863 года:

Зброя, канфіскаваная ў насельніцтва:

стрэльбаў аднастволавых крэмневай сістэмы – 5;




Мал. 18. Атака расійскіх казакоў. Гравюра з французскага тыднёвіка „Le Monde illustre"

стрэльбаў паляўнічых двуstволавых – 2.

Зброя, захопленая ў паўстанцаў:

стрэльбы аднастволавыя ўдарнай сістэмы – 1;

стрэльбаў двухстволавых – 5;

шабляў – 6;

пісталетаў – 2;

косаў – 20.

Акрамя таго, у паўстанцаў каля ракі Супрасль было адабрана адзін пуд пораху, два пуды свінцу, формы для ліцця куль [54, с. 34адв.-35].

Не кожны мог вытрымаць умовы партызанскага жыцця, а тым болей пажылы Духінскі. А таму 2 жніўня 1863 года Духінскі, зусім знясілены цяжкімі партызанскімі паходамі, атрымаў адстаўку і выехаў зя мяжу ў Парыж. Камандуючым усімі паўстанцкімі ўзброеннымі сіламі Гродзенскай губерні афіцыйна становіцца Валерый Урублеўскі. Загад аб яго прызначэнні падпісаў Кастусь Каліноўскі, які да гэта зноў узначаліў беларуска-літоўскі паўстанцкі цэнтр у Вільні [73, с. 204].

Наступнае паведамленне аб сутычцы з паўстанцамі ў Ваўкавыскім павеце зыходзіла ад падпалкоўніка Казанлі ў адрас губернатара толькі 25 жніўня. Па яго звестках «шайка мяцежнікаў» да 1000 чалавек сабралася ў Ваўкавыскім павеце, маючы «прытон» паблізу двара маёнтка Рудаўка памешчыка Казерацкага і аднайменнай вёскі. Па звестках, здабытых Казанлі, паўстанцы мелі намер напасці на часці войскаў, размешчаных у павеце. Таму Казанлі накіраваў у Рудаўку дзве роты Стараінгерманландскага пяхотнага палка, адну роту Смаленскага палка, палову эскадрона ўланаў Курляндскага палка і частку Свіслацкай коннай сельскай варты. Над зводным атрадам Казанлі паставіў маёра Шульжэнку са Смаленскага палка.

Аб далейшых дзеяннях карнага атрада маёра Шульжэнка даведаемся з яго рапарта ваеннаму начальніку Казанлі. У ім паведамлялася аб прыбыцці атрада маёра Духноўскага ў Свіслач 25 жніўня. 26 жніўня маёр Шульжэнка пераняў камандаванне атрадам у маёра Духноўскага і выступіў з ім са Свіслачы.

Першапачаткова Шульжэнка агледзеў навакольныя лясы паблізу Свіслачы, потым лясы Свіслацкай дачы, прайшоўшы праз вёскі Дабраволя і Русіно, пераправіўшыся праз раку Нараў у Пружанскім павеце. Тут, у Белавежскай пушчы, ён думаў знайсці «галоўнае скапленне мяцежнікаў». 27 жніўня пад Краснікі для сумесных дзеянняў супраць паўстанцаў прыбыў Пружанскі атрад пад камандай маёра Грыгор’ева з Велікалуцкага пяхотнага палка, а таксама Белавежскі атрад пад камандай падпалкоўніка Гейсельберга. Аднак да гэтага часу месца сваёй дыслакацыі паўстанцы пакінулі. Разбіўшыся на некалькі частак, яны сышлі за раку Нараў у Ваўкавыскі павет і ў лясы Свіслацкай дачы. Па гэтай прычыне 28 жніўня Шульжэнка пачаў вяртацца назад, робячы пошукі паўстанцаў паблізу ракі Нараў у Пружанскім павеце, прыбыўшы той самай датай у вёску Тушамля, дзе і аб’яднаўся з вышэйазначанымі атрадамі. Атрымаўшы звесткі, што паўстанцы перайшлі раку Нараў, 29 жніўня Шульжэнка выступіў у кірунку Свіслацкай дачы, дзе і выявіў іх сляды. Атрады Грыгор’ева і Гейсельберга пайшлі на перахоп паўстанцаў іншымі маршрутамі.

30 жніўня, неадступна праследуючы паўстанцаў больш за 30 кіламетраў, у тры гадзіны пасля абеду Шульжэнка нарэшце дагнаў атрад паўстанцаў колькасцю да 300 чалавек пад камандаваннем Валерыя Урублеўскага. Гэта здарылася паблізу лясной варты Гарбачы ўрочышча Бярозава. Пасля ўпартага гадзіннага бою атрад паўстанцаў быў разбіты і




Мал. 19. Адыход паўстанцаў. Гравюра з французскага тыднёвіка „Le Monde illustre"

пераследаваўся ў цемры на працягу 6 кіламетраў. На месцы бітвы паўстанцы страцілі забітымі 31 чалавек. У палон было ўзята два чалавекі, адбіты харчовыя запасы, розны посуд, некалькі штук зброі, порах, кулі, формы для вырабу куляў. З боку рускіх войскаў ні параненых, ні забітых не было.

31 жніўня пасля начлегу ў вёсцы Дабраволя атрад Шульжэнка больш за 30 кіламетраў пераследваў рэшткі разбітага атрада паўстанцаў па розных дарогах і ўзяў у палон яшчэ двух чалавек. У прыцемках ён прыбыў у вёску Баяры, дзе аб'яднаўся з атрадам маёра Грыгор'ева. Тут атрымалі звесткі, што атрад паўстанцаў падзяліўся на некалькі партый пад камандай Урублеўскага, Влодка і Млотка. Атрады блукалі living рознымі бакамі па лясах Свіслацкай дачы і мелі намер прабрацца за раку Буг. Таму 1-га верасня Шульжэнка зноў зрабіў пошукі ў Свіслацкай дачы ў падазроных месцах ўрочышча Цымлева, Панкаўшчына і іншых. Не адкрыўшы не толькі слядоў паўстанцаў, але нават і прыкмет іх знаходжання ў Свіслацкай дачы, атрад Шульжэнка вярнуўся назад у мястэчка Свіслач. 2-га верасня, пасля пошукаў за ракой Нарвай, сюды ж прыбылі атрады маёра Грыгор'ева і падпалкоўніка Гейсельберга [42, с. 107-108 адв.].

Таго ж 2-га верасня штаба 3-й пяхотнай дывізіі, размешчаны ў Пружанах, паведаміў ваеннаму начальніку Казанлі аб далейшым перамяшчэнні атрадаў паўстанцаў, якія засталіся. На падставе атрыманых штабам звестак атрады паўстанцаў, што блукалі ў апошні час у Пружанскім і Ваўкавыскім паветах пад камандаваннем Влодка, Стравінскага, Юндзіла і Урублеўскага, пасля 30 жніўня вызначыліся: частка вырашыла ісці за мяжу, частка – раздрабніцца на малыя партыі і працягваць барацьбу, частка запланавала вярнуцца з павіннай да ваеннапавятовага начальніка.

Штаб таксама паведамляў, што хоць гэтыя звесткі маюць падставу, але не варта занадта давяраць намеру паўстанцаў з'явіцца з пакаяннем. Зыходзячы з таго, што яны ідуць праз лясы Пружанскага, Ваўкавыскага і Слонімскага паветаў, штаб прадпісваў Казанлі прыняць самыя дзейныя меры, каб злавіць рэшткі паўстанцаў. Загадвалася дзейнічаць пераважна дробнымі лятучымі атрадамі пры садзейнічанні сельскай узброенай варты, а таксама знішчаць усе сродкі харчавання паўстанцаў [54, с. 1].

Пасля таго як галоўны кіруючы орган паўстаннем – падпольны Нацыянальны камітэт у Варшаве абвясціў аб спыненні ваенных дзеянняў 28 жніўня 1863 года, апошні бой паўстанцы ў Гродзенскай губерні пад камандаваннем Урублеўскага прынялі 28 кастрычніка ў Бельскім павеце. Пасля гэтага Урублеўскі, адціснуты праўзыходзячымі сіламі рускіх войскаў, перавёў свае атрады ў Люблінскую губерню.

Нягледзячы на пастаянныя няўдачы атрадаў паўстанцаў, трэба аддаць належную павагу мужнасці, стойкасці і адвазе партызан. З самага пачатку партызанскага руху паўстанцаў іх перасследавалі няўдачы, а самі партызаны знаходзіліся ў ролі тых, хто перасследуецца, знаходзячы абарону ад праціўніка ў густых гушчарах лясоў і цяжкапраходных балотах. Адзінае, што дазваляла ім пераносіць неймаверныя цяжкасці – вера і надзея на шырокую падтрымку паўстання з боку мясцовага насельніцтва, чаканне паўстання сялян у самой Расіі, чаканне ўплыву на рускага цара з боку заходніх дзяржаў. Аднак прайшло лета, а чаканні не спраўджваліся, а таму напал барацьбы паступова слабеў. Новага прытоку партызан у атрады паўстанцаў не паступала, а таму колькасць іх памяншалася не толькі пасля кожнага бою з праследавацелямі за кошт параненых і забітых, але таксама з прычыны дэзертырства. Рэшткі партызанскіх атрадаў адыходзілі на захад да межаў Каралеўства Польскага. Такім чынам, на тэрыторыі сучаснай Гродзенскай вобласці партызанскі рух паўстанцаў да восені 1863 года фактычна спыніўся.

# СЕЛЬСКІЯ КАРАВУЛЫ

У цэлым у Беларусі асноўная маса сялянства не падтрымала паўстанне і не пайшла партызаніць у лес. Даследчыкамі падлічана, што сярод паўстанцаў сяляне складалі каля 18%. Гісторык Алесь Смалянчук прыводзіць іншую, большую лічбу сялян у паўстанні на Гарадзеншчыне – 22,3%, тлумачачы гэта тым, што «Сяляне Гарадзеншчыны ў параўнанні з сялянствам іншых рэгіенаў Беларусі і Літвы больш актыўна падтрымалі паўстанне. Магчыма, да гэтага прычынілася агітацыя «Мужыцкай праўды», а таксама блізкасць межаў ахопленага паўстаннем Каралеўства Польскага» [74, с. 174].

Адной з прычын такога стаўлення беларускага сялянства да паўстання з'яўляецца непаслядоўнасць аграрнай праграмы кіраўнікоў паўстання. Праграма абяцала знішчыць выкупныя плацяжы, але не абяцала павелічэння сялянскіх надзелаў, захоўвала ў недатыкальнасці памешчыцкае землеўладанне. Таму праграма паўстання для беларускіх сялян была малапрыцягальнай, а ідэя абнаўлення польскай дзяржавы з'яўлялася зусім чужой.

Да таго ж нянавісць да свайго памешчыка многія сяляне гатовыя былі перанесці на паўстанцаў, сярод якіх знаходзіліся служачыя маёнткаў, сыны памешчыкаў. Таму нічога дзіўнага, што сярод сялян, якія ўдзельнічалі ў паўстанні, было больш былых дзяржаўных сялян, чым былых памешчыцкіх.

Пра гэта 28 лютага1864 года ў тлумачальнай запісцы пісаў у віленскай турме і Кастусь Каліноўскі: «З аднаго боку, абцяжараны абавязкамі і збянтэжаны сялянскім пытаннем памешчык, а з другога – селянін, які ва ўяўленні сваім засвоіў паняцце, што ўся зямля ёсць яго здабытак, які аспрэчваецца толькі памешчыкам. Знаходзячыся ў стане чакання і будучы нерашучымі, сяляне не маглі служыць народнай справе адпаведна тымі сродкамі, якія могуць знаходзіцца ў іх руках. Тут трэба таксама згадаць тую акалічнасць, якая замінала паспяховаму ходу справы, наколькі гэта магло быць магчымым, што самыя адданыя народнай справе памешчыкі літоўскія, маючы значны запас славалюбства, у выглядзе чаго ў іх толькі жыве традыцыя, меру народнага ўрада аб аддачы зямлі сялянам стараліся выстаўляць сваім уласным дарам. Селянін, бачачы не абрэзаныя яшчэ кіпцюры сваіх гаспадароў, не мог ім даверыцца і стаў глядзець на справу польскую як на задуму памешчыцкую, органы ж урада паняцце такое селяніна стараліся падтрымліваць» [9, с. 142].

Паўстанцкія атрады на сваім шляху знаёмілі сялян з маніфестам, пісалі акты аб перадачы зямлі ва ўласнасць сялян, прыводзілі іх да прысягі на вернасць рэвалюцыйнаму ўраду. Праследаванне атрадаў царскімі войскамі вымушала паўстанцаў абмяжоўвацца адной толькі аб'явай сваіх законаў. Ажыццяўляць ж свае законы на практыцы не было ні часу, ні магчымасці.

Віленскі генерал-губернатар Мураўёў, які баяўся масавага пераходу сялян на бок паўстання, стараючыся не азлабляць іх, загадваў губернатарам выкарыстоўваць узброеную сілу для барацьбы з сялянскім рухам у выключных выпадках, калі ўсе іншыя сродкі ўздзеяння на сялян будуць вычарпаны.

На вышэйшым узроўні царскай улады прымаецца рашэнне для барацьбы з паўстанцамі падключыць саміх сялян. 24 красавіка 1863 года цар асабіста зацвердзіў правілы для ўтварэння ў заходніх губернях сельскіх узброеных каравулаў. Як вынікала з 1-га параграфа правілаў, каравулы ствараліся для аховы бяспекі асоб, маёмасці і шляхоў зносін. Вось параграфы правіл, якія найбольш уражваюць:

§ 9. Кожны каравул павінен складацца, у залежнасці ад мясцовых умоў, не менш як з 60 і не больш як з 100 чалавек.

Аднак цалкам даверыць каравулы сялянам не наважыліся, таму:

§ 10. Кожным каравулам загадвае унтэр-афіцэр са страявых войскаў. Яму прызначаецца ў дапамогу некалькі добранадзейных і вопытных шэрагоўцаў.

Для надання каравулам манеўранасці ў іх складзе, як вынікае з 11-га параграфа, павінна было знаходзіцца не менш за 10 чалавек конных. Раён дзеянняў каравулаў рэгуляваўся параграфам 14, дзе паведамлялася, што для дзеяння кожнага каравула прызначаецца ўчастак або раён. Месцы гэтыя могуць быць прызначаны ў бліжэйшых сельскіх упраўленнях, лясніцтвах, пры станавых кватэрах і г.д.

Абавязкі каравула заключаліся ў наступным:

а) у заснаванні застаў, у апытванні прахожых і праезджых і перадачы паліцыі падазроных людзей;

б) у ахоўванні сялянскіх паселішчаў і наогул асоб ад нападаў паўстанцаў і іншых зламыснікаў;

в) у пастаянным аглядзе лясоў;

г) у адшукванні і праследаванні паўстанцаў там, дзе яны не паспелі яшчэ ўтварыць значных атрадаў ці дзе яны былі разбіты войскамі, рассеяліся, і для перашкоджвання ім атрымліваць зброю, розныя прыпасы і харчаванне;

д) у выпадку знаходжання атрадаў паўстанцаў, сілы якіх перавышаюць, патрабавалася неадкладна паведаміць аб тым павятовому начальніку.

Міністр унутраных спраў Расійскай імперыі Пётр Валуеў 30 красавіка 1863 года з нагоды сельскіх каравулаў пісаў гродзенскаму губернатару, што галоўная мэта ўстановы сельскіх узброеных каравулаў у заходніх губернях заключаецца ў ахоўванні асобы і маёмасці мірных жыхароў ад рабавання і рознага роду гвалтаў з боку паўстанцаў. Таму губернатар праз сваіх чыноўнікаў павінен запэўніць сялян, што неадкладнае і аднадушнае садзейнічанне начальству ва ўтварэнні сельскіх каравулаў звязана з іх уласнымі патрэбамі. Варта было аб'явіць сялянам, што гэтая мера часовая, выклікана існуючымі абставінамі і пасля ўсталявання парадку сялянскія каравулы будуць распушчаны [75, с. 2].

Таму і інструкцыя ад 24 мая 1863 года аб стварэнні ваенна-грамадзянскага кіравання ў 2-м пункце абавязвала павятовых ваенных начальнікаў прыняць пад сваю апеку ўсіх верных і адданых уладару і ўраду жыхароў, асабліва сялянскае насельніцтва. Ад замаху паўстанцаў сялян патрэбна было засцерагчы з дапамогай саміх сялян, арганізаваных у сельскія каравулы [24, с. 19].

У пункце 4-м інструкцыі больш падрабязна тлумачылася, для чаго павінны былі стварацца сельскія каравулы. Для лепшага ўтрымання парадку ў давераных ім паветах ваенныя начальнікі неадкладна распараджаюцца, каб па ўсіх дарогах, у паселішчах і пры карчмах былі заснаваны абывацельскія каравулы, а дзе трэба і конныя раз'езды. Каравулы і раз'езды абавязаны назіраць за ўсімі, хто праходзіць і праязджае, не даючы нікому пропуску без віда або білета, дадзенага начальнікам павета ці стана. Гэтыя ж каравулы асабліва павінны глядзець, каб не прапускаліся асобы падазроныя і якія ўдзельнічаюць у паўстанні, якога звання яны б ні былі. Усіх такіх браць пад варту і дастаўляць ваенным начальнікам. Гэта не павінна адносіцца да тых абывацеляў з бліжэйшай да каравулаў мясцовасці, якія вядомы сваёй добранадзейнасцю [24, с. 19-20].

Спачатку ўлады не намерваліся ўзбройваць каравулы агнястрэльнай зброяй, абсалютна разумна вырашыўшы, што першапачаткова трэба праверыць, як яны пакажуць сябе. Гэта вынікала з пунктаў 8 і 9 асобнай інструкцыі па фарміраванні сельскіх узброеных каравулаў. Пры фарміраванні каравулаў спачатку яны павінны былі ўзбройвацца наяўнай у сялян халоднай зброяй: сякерамі, косамі, віламі, а дзе можна, і паляўнічымі стрэльбамі. Калі ваенныя начальнікі пераканаюцца, што каравулы сфарміраваны добра, што ся-

ляне, якія ўваходзілі ў іх склад, зразумелі свой абавязак і надзейныя і што ўзбраенне іх стрэльбамі дасць ім вялікую сілу і значэнне, то яны павінны запатрабаваць іх ад ваеннага ведамства, якое выдасць стрэльбы з бліжэйшых складоў з належнай колькасцю патронаў [76, с. 1-4].

Праз месяц пасля прызначэння ў Ваўкавыск ваенны начальнік Казанлі, зыходзячы са свайго азнаямлення абстаноўкі, рапартам ад 29 чэрвеня прапанаваў гродзенскаму губернатару сваю дыспазіцыю па размяшчэнні войскаў і сельскіх каравулаў у Ваўкавыскім павеце. На яго думку, сродкі для прывядзення ў дзеянне адміністрацыйных мер, аховы ўнутранага парадку і ваенных шляхоў павінны былі заключацца ў наступным:

Рэгулярныя часці рускай арміі займаюць населеныя пункты: рэзерв з трох рот і 50 казакоў у Ваўкавыску; у мястэчку Свіслачы – эскадрон уланаў; у мястэчку Новы Двор – адна рота; у мястэчку Лыскава – адна рота; у мястэчку Песках – адна рота; у мястэчку Росі – адна рота.

З прычыны таго, што Ваўкавыск знаходзіцца ў цэнтры павета, а азначаныя пункты размешчаны ад яго на адлегласці ад 20 да 40 кіламетраў, то, на думку Казанлі, з іх зручна было кантраляваць межы павета, а таксама і ўсе яго мясцовасці. Пры падобным размяшчэнні войскаў і пры існуючых ужо ва ўсіх мястэчках і вёсках заставах, а пры іх малых каравулаў, дастаткова будзе на першы час мець у павеце не больш за пяць малых і шасці вялікіх сельскіх каравулаў. Кожны вялікі каравул павінен складацца з 60 пешых і 20 конных сялян. Акрамя таго, у самім горадзе Ваўкавыску варта трымаць 20 коннікаў, прызначэнне якіх складаецца ў падтрыманні сувязі паміж Казанлі і павятовым спраўнікам з сельскімі малымі і вялікімі каравуламі для атрымання войскамі патрэбных звестак аб мясцовасці, жыхарах, для арыштаў у павеце і іншае.

Казанлі прапаноўваў размясціць вялікія каравулы ў мястэчках Свіслач, Поразава, Ізабелін, Пескі, Рось і некалькі пазней у мястэчку Ялоўка.

У выпадку з'яўлення значнай масы паўстанцаў рэгулярны рэзерв рускіх войскаў павінен далучыць суседнія рэгулярныя часці і рухацца да пагрозлівага пункта, пакідаючы сельскія каравулы на месцы для аховы насельніцтва.

На думку Казанлі, сельскія каравулы абяцалі быць вельмі карыснымі не толькі для арганізацыі паведамленняў і сувязі паміж уладай, войскамі і насельніцтвам, не толькі пры ўвядзенні ў дзеянне розных адміністрацыйных мер і знішчэння малых атрадаў паўстанцаў. Самае галоўнае, «каравулы бу-

дуць дабрадзейна ўплываць на павышэнне маральнасці сярод тутэйшага насельніцтва, зусім прыгнечанага доўгатэрміновым прыгнётам памешчыкаў».

Далей Казанлі прасіў губернатара выслаць на 500 чалавек з сельскіх каравулаў стрэльбаў і патронаў. Да 1 ліпеня ён абяцаў арганізаваць вялікія сельскія каравулы ў мястэчку Свіслач, куды ўжо была накіравана адна рота салдат, і мястэчку Поразава. Тым больш, што 25 чэрвеня Казанлі ўжо атрымаў ад жыхароў тых месцаў згоду на стварэнне сельскіх каравулаў. З узбраеннем каравулаў належала пачакаць да ўстаноўкі на месцах войскаў па вышэйрастлумачанай дыслакацыі. Разам з тым Казанлі абяцаў паступова прымаць меры для стварэння вялікіх сельскіх каравулаў у астатніх 4-х пунктах.

Жалаванне конным каравульшчыкам з утрыманнем коней прапаноўвалася ўстанавіць па 10 рублёў у месяц на кожнага [45, с. 186-187].

Бясконным каравульшчыкам таксама плацілі. Праўда, гэта былі невялікія грошы – усяго 10 капеек у дзень [76, с. 52].

Утрыманне каравулаў клалася значным цяжарам на саміх сялян і сельскія грамады, якія павінны былі забяспечваць каравулы харчаваннем, фуражом для коней, самімі конямі, а таксама грашыма на куплю збруі для коней.

У ліпені, як і абяцаў Казанлі, сельскія каравулы былі арганізаваны ў мястэчках Поразава, Свіслач, Пескі, Ізабелін і Рось. Прычым поразаўскія сяляне адмовіліся ўтрымліваць каравулы за свой кошт.

Вядома, сельскія каравулы з'яўляліся істотнай перашкодай у перамяшчэнні паўстанцаў, асабліва гэта тычылася малалікіх груп. Таму 11 чэрвеня Выканаўчы аддзел Літвы вымушаны быў адрэагаваць на стварэнне сельскіх каравулаў сваім спецыяльным загадам, выдадзеным на беларускай мове лацінскімі літарамі. У ім у прыватнасці гаварылася «Не памагаць ужэ больш маскалю ні ў чом, бо ён мусіць ужэ не дужы, калі просіць вашай помачы. А калі гдзе маскаль быў дурны да даў вам стрэльбы, то вы, у ночы закалоўшы салдат маскоўскіх, у лес уцякайце, бо гэта лепш будзе за ўсё. Міліцыі і караўлаў па сёлах каб ніякіх нігдзе не было, бо калі зловяць каго ў караўле або ў міліцыі, то, калі не цяпер, то пазней, без агаворкі павесяць» [9, с. 104].

Тое, што гэта былі не пустыя пагрозы, адчуў на сабе начальнік сельскага каравула ў мястэчку Рось адстаўны салдат Кузьмін, якога паўстанцы павесілі (пра гэта чытаць у главе «Адваротны бок вайны»).

Паўстанцы імкнуліся перашкодзіць стварэнню каравулаў і з дапамогай іншай агітацыі. Так, 26 чэрвеня ваўкавыскі павятовы спраўнік апавяшчаў пристава 5-га стана, што камандзір 6-й роты Пскоўскага пяхотнага палка

пры праходзе праз маёнтак Антопаль выявіў загад з пячаткай рэвалюцыйнага камітэта Гродзенскай губерні. У ім сельскія жыхары заклікаліся аказаць супраціўленне пры стварэнні сельскіх каравулаў. Пры гэтым камітэт стараўся падмануць сялян тым, што сельскія каравулы быццам бы будуць звернуты на службу ў войскі [43, с. 111].

Ваўкавыскі спраўнік рапартам ад 22 чэрвеня даносіў губернатару, што з данясенняў, якія паступаюць з розных бакоў, відаць, што ў вёскі прыходзяць адзінкавыя людзі з атрадаў паўстанцаў. Яны некаторы час хаваюцца, а потым зноў адпраўляюцца ў лес, зрабіўшы пры гэтым у вёсках «розныя бясчынствы». Каб абцяжарыць падобныя дзеянні, спраўнік загадаў пабудаваць па павеце ва ўсіх мястэчках, сёлах і вёсках рагаткі пры ўездах і выездах. Пры рагатках мець каравульных з сялян, на першы выпадак з каламі [42, с. 58].

Рагатка ўяўлялі сабой звычайную жэрдку, якая была падвешана на слупах і перагароджвала дарогу. Каравулы пры рагатках не маглі даць адпор узброеным паўстанцам і прызначаліся для праверкі дакументаў і затрымання адзінкавых падазроных асоб.

У вялікія сельскія каравулы прызначаліся сяляне з розных валасцяў тэрмінам на два тыдні, пасля чаго іх змянялі іншыя. Так, у сельскі каравул, размешчаны ў мястэчку Поразава 29 ліпеня 1863 года, былі прызначаны сяляне з некалькіх валасцей, прычым з кожнай вёскі бралі аднаго-двух сялян. Так, з Гарнастаевіцкай воласці былі прызначаны: з вёскі Гарнастаевічы – Сямён Антонавіч Грышко і Ян Якаўлевіч Савіцкі, з вёскі Міхайлы – Рафаіл Сцяпанавіч Навасад, з вёскі Навасады – Міхаіл Іванавіч Карніловіч, з вёскі Лідзяны – Томаш Іванавіч Арол, з вёскі Хрустава – Антон Іосіфавіч Жэбровіч, з вёскі Крапіўніца – Мікалай Міхайлавіч Станіслаўчык, з вёскі Сакольнікі – Ян Іосіфавіч Вайцешчык, з вёскі Цераховічы – Якім Міхайлавіч Белабокі, з вёскі Грыцкаўшчына – Мікалай Пятровіч Савіцкі [77, с. 20].

Аднак нават двухтыднёвае знаходжанне ў каравуле стварала для сялянскіх гаспадарак праблемы, а таму іншыя сяляне сталі падаваць начальству просьбы аб вызваленні іх ад такой павіннасці. Так, 13 жніўня 1863 года ад селяніна Крэмяніцкай воласці вёскі Шаўлічы Івана Міхайлавіча Сцяпанчыка на імя спраўніка Раўцкага паступіла прашэнне. У ім гаварылася, што валасны старшыня прызначыў у казакі яго роднага брата Міхаіла Сцяпанчыка тады, калі другі родны брат Андрэй Сцяпанчык па наборы 1855 года паступіў рэкрутам на ваенную службу. Згубіўшы яшчэ аднаго брата, Іван Сцяпанчык баяўся, што яго гаспадарка разарыцца. Таму ён прасіў спраўніка

распарадзіцца аб вызваленні яго брата ад службы ў сельскім каравуле, а гэтую павіннасць ускласці на іншых сямейных сялян, якія маюць па некалькі работнікаў у сям'і [78, с. 2].

Казакамі сяляне празвалі тых з сялян, хто быў прызначаны ў сельскі каравул з канём. Тых жа, хто служыў пешымі, празвалі ратнікамі.

У Ваўкавыскім павеце сельскія каравулы цалкам былі створаны да 27 чэрвеня, але стрэльбамі ўзброены не былі. Хоць губернская ўлада і вагалася з гэтай нагоды, у той жа час Казанлі некалькі разоў прасіў гродзенскага губернатара ўзброіць сялян у пяці сельскіх каравулах. У лісце ад 12 жніўня губернатар адказаў, што цалкам падзяляе яго меркаванне пра карысць і своечасовасць гэтай меры, а таму зрабіў распараджэнне аб высылцы 500 стрэльбаў з 20 патронамі на кожную. Губернатар дазволіў узброіць сельскія каравулы, але з абавязковым выкананнем правіл і перасцярог з інструкцыі аб задачах сельскіх каравулаў [79, с. 1].

Транспарт з 500 стрэльбамі быў адпраўлены ў Ваўкавыск 18 жніўня пад прыкрыццём адной роты салдат з Сямёнаўскага палка на чале з паручнікам Вансяцкім [79, с. 3].

Яшчэ раз пра сельскія каравулы Казанлі даносіў губернатару ў рапарце ад 24 жніўня, у якім даў ненайлепшую характарыстыку мясцоваму сялянству. Вялікія сельскія каравулы ў Ваўкавыскім павеце былі размешчаны ў 6 месцах і складаліся кожны з 60 пешых і 20 конных, за выключэннем ваўкавыскага, які па мясцовых абставінах ён прызнаў абмежаваць 20 коннымі.

На думку Казанлі, доўгачасовы прыгнёт, у якім знаходзіўся тутэйшы просты народ ад памешчыкаў польскага паходжання, адбіўся на яго характары самым дрэнным чынам: ён баязлівы, запалоханы, маладушны. Таму ўвядзенне сельскіх узброеных каравулаў для знішчэння паўстанцаў павінна было служыць абнаўленню маральнага духу сялян.

Цяпер жа, за выключэннем Роскага каравула, які ледзь толькі сфарміраваўся і яшчэ неўладкаваны, усе іншыя каравулы ўзброены пікамі, атрымаўшы дастаткова добры дух. Будучы ўзброенымі стрэльбамі, яны прынясуць яшчэ большую карысць.

Адносна раздачы стрэльбаў Казанлі абяцаў прыняць усе неабходныя меры засцярогі. Стрэльбы будуць выдавацца паступова на 20 каравульных. Для таго ж, каб гэтыя стрэльбы маглі ўжывацца з карысцю, Казанлі прасіў губернатара дазволіць хоць бы зрэдку правесці вучэнне каравульных стральбе ў цэль, што запатрабуе некаторую колькасць прыпасаў.

Па перакананні Казанлі, лепшым сродкам супраць невялікіх атрадаў паўстанцаў, якія наведваюць паселішча, будзе выдача цалкам надзейным старшынам і старастам па некалькі стрэльбаў [79, с. 7-8].

Сфарміраваны ў Ваўкавыску конны атрад з сялян губернатар загадаў распусціць, усклаўшы іх абавязкі на казакоў, расквятараваных у горадзе. Што тычыцца навучання ў стральбе, то ён дазволіў на гэта выкарыстоўваць па 5 патронаў на чалавека. Як таго хацеў Казанлі, па некалькі стрэльбаў для абароны ад паўстанцаў былі выдадзены вясковым начальнікам.

Губернатар таксама загадаў сфарміраваць у павеце два ці тры лятучыя атрады з 40-50 салдат пяхоты і 10-20 казакоў. Гэтыя атрады прызначаліся для падтрымання баявога духу ў сельскіх каравулаў і павінны былі пастаянна манеўраваць у месцах размяшчэння каравулаў, сачыць за парадкам у іх, рассейваць дробныя групы паўстанцаў, а пры выяўленні буйных паўстанцкіх атрадаў паведамляць у бліжэйшае месцазнаходжанне войскаў. Акрамя таго, лятучым атрадам рэкамендавалася браць з сабой у паходы узброеных сялян з сельскіх каравулаў для прывучвання іх да службы.

Выдача сельскім каравулам стрэльбаў партыямі па 20 штук з боепрыпасамі пацвярджаецца і рапартам ад 21 верасня 1863 года, які быў пасланы ваенным прыставам 4-га стана мястэчка Рось паручнікам Васільевым да Казанлі [80, с. 133].

Адметна тое, што ўзбраенне сельскіх каравулаў у суседніх паветах адбылося больш чым на паўтара месяцы пазней, чым у Ваўкавыскім, што пацвярджае дакумент, накіраваны да Казанлі 6 кастрычніка з гродзенскага батальёна ўнутранай варты. Па распараджэнні гродзенскага губернатара ад 19 верасня 200 стрэльбаў з патронамі, прызначаных для сельскага каравула, пасылаліся з Гродна ў Ваўкавыск разам з канвоем пры транспартных унтэр-афіцэрах Шатсадзінаве і Вядутчыку. Па 100 стрэльбаў з іх павінны былі быць адпраўлены ў Слонім і ў Пружаны [51, с. 40].

Звычайным людзям, якія праязджалі па сваіх справах, сельскія каравулы і пасты пры ўездзе і выездзе з вёсак прыносілі нямала нязручнасцяў. На кожным пасту праезджага і пешага абшуквалі, правяралі пропуск, які рэдка хто са стражнікаў умеў чытаць. Аднак у многіх вёсках стражнікі з сялян ставіліся да сваіх абавязкаў абыякава: яны не толькі не стваралі перашкод праезджым, але і ішлі на саступкі. Сяляне дакладна выконвалі свае абавязкі толькі пры знаходжанні побач з імі рускіх афіцэраў альбо салдат. Калі ж іх побач не было, то пры выпадку маглі аказаць дапамогу паўстанцам:

забяспечвалі іх прадуктамі, даносілі пра колькасць і месцазнаходжанне рускіх войскаў. Рабілася гэта як з прычыны боязі помсты паўстанцаў, так і з прычыны нелюбові да царскай улады. Для паведамлення аб з'яўленні паўстанцаў вартавыя павінны былі сігналізаваць дымам ад запаленых смаляных дроў. Звычайна рабілі гэта, калі паўстанцы адышлі далёка. Рускаму атраду, які прыбыў, паказвалі няправільны накірунак [49, с. 127].

Сяляне ў каравуле часта парушалі ўстаноўленыя парадкі нясення службы, а таму не абыходзілася і без пакарання вартаўніка-селяніна з боку вайскоўцаў, якія імі камандавалі. Трэба аддаць належнае, што пакаранне сялян з боку вышэйшага начальства каралася на корані, бо пакрыўджаны вартаўнік папросту мог перакінуцца да паўстанцаў. З прадпісанні ад 3-га верасня новага камандуючага войскамі ў Гродзенскай губерні камандзіра 3-й пяхотнай дывізіі генерал-маёра Ганецкага падпалкоўніку Казанлі вынікае, што да яго дайшлі весткі пра загадчыка сельскага каравула ў мястэчку Рось паручніку Васільеве. Паручнік за самыя нязначныя заўвагі па службе падвяргаў сялян, якія знаходзяцца ў гэтым каравуле, пакаранню розгамі. Генерал Ганецкі прызнаў такое самавольнае распараджэнне паручніка Васільева не толькі бескарысным, але нават шкодным. Таму ён загадаў Казанлі пераканацца ў справядлівасці гэтай весткі. Калі яна пацвердзіцца, то падвергнуць спагнанню самога Васільева, пры гэтым строга забараніць яму караць сялян цялесна. Варта было пераканаць паручніка пра неабходнасць ласкавага і паблажлівага абыходжання з сялянамі, выбранымі ў сельскія каравулы, каб не адхіліць у іх цягу да службы [54, с. 27].

12 верасня 1863 года генерал-маёр Ганецкі, спасылаючыся на загад начальніка краю Мураўёва, разаслаў павятовым ваенным начальнікам лісты з указаннем зацвердзіць па паветах пасады ваенных станавых прыставаў. Падзел паветаў на некалькі участкаў ён прадставіў на іх меркаванне, зыходзячы з мясцовых умоў. Пры гэтым не абавязкова было, каб кожны ўчастак супадаў сваімі межамі з існуючымі ў паветах станамі. Што датычыцца Ваўкавыскага павета, то генерал Ганецкі па ўзгадненні з губернатарам рэкамендаваў Казанлі заснаваць пасады ваенных станавых начальнікаў у мястэчках Свіслач, Новы Двор або Лыскава, Крэмяніца або Зэльва, Пескі або Рось [54, с. 53].

Праз тры дні, у дадатак да загада, ад генерала Ганецкага прыйшла падрабязная інструкцыя з тлумачэннем, для чаго гэта робіцца. З падзелам паветаў на ваенныя станы і пры належнай дзейнасці станавых ваенных

начальнікаў у паветах не павінны будуць з'яўляцца нават дробныя атрады паўстанцаў. У ваенных станавых будзе дастаткова сродкаў да знішчэння іх, дзейнічаючы сумесна з сельскімі караўуламі і лятучымі атрадамі.

Сумесным дзеяннем лятучых атрадаў і сельскіх каравулаў павінна забяспечвацца надзейнасць шляхоў паведамлення і ўзвышэнне маральнага духу сельскага насельніцтва. Насельніцтва павінна бачыць у войсках сваіх прамых абаронцаў ад усялякіх крыўдаў і ўціску, а зусім не прыгнятальнікаў. Войскі павінны старацца ўсімі сіламі заслужыць павагу і давер сялян.

Каравулы павінны складацца з людзей, здольных да гэтага. Пажадана, каб сяляне, якія паступаюць у каравулы, рабілі гэта добраахвотна. Старых і малалетак не дапускаць у каравулы, таму што гэта вяло б да марных выдаткаў на іх утрыманне без усякай карысці справе.

Не варта дамагацца ад сельскіх каравулаў, каб яны былі падобны на правільна навучаныя войскі. Іх не павінны вучыць ні маршыраваць, ні іншым прадметам, першапачаткова патрэбным для рэкрутаў.

Абыходзіцца з сялянамі, якія знаходзяцца ў каравуле, як мага больш ласкава і ні ў якім выпадку не ўжываць у дачыненні да іх цялеснага пакарання. Начальнікі каравулаў павінны навучаць каравулы:

а) паспяхова карыстацца той зброяй, якую яны маюць;

б) калі частка каравулаў атрымае стрэльбы, то яе прывучаць да дзеянняў са штыком і прыкладам. Каб лепш паказаць сялянам, як трэба зараджаць стрэльбу, ужываць спачатку замест патронаў пілавінне; дазваляецца таксама расходаваць 5 з 20 адпушчаных на ружжо патронаў для прывучвання да суцэльнай стральбы;

в) навучаць каравулы абавязкова дзеянням рассыпным строем, пры гэтым пераканаць у важнасці ў ланцугу кожнага звяна, якое павінна дзейнічаць як адзін чалавек.

Сялян, якія аказалі стараннасць і адданасць ураду, і тым больш з сялянскіх каравулаў, якія вызначыліся ў дзеяннях супраць паўстанцаў, трэба было зараз жа прадстаўляць да ўзнагарод – грашовых або медалёў [54, с. 53-71].

Усім вясковым старастам было загадана кожны дзень пасылаць ваенным приставам справаздачу аб злоўленых сельскімі каравуламі паўстанцаў. Аднак справаздач аб злоўленых паўстанцаў аказалася маленькая колькасць. 1 жніўня 1863 г. Гарнастаевіцкае валаснoе праўленне апавясціла прыстава 2-га стана Станкевіча пра паўстанца, злоўленага ў вёсцы Гарнастаевічы, якога адразу ж паслалі ў мястэчка Поразава з аховай [43, с. 14].

Наступную вестку аб схопленым паўстанцы знаходзім у рапарце ад 15 верасня прыстава 1-га стана павятоваму спраўніку. Рапарт паведамляў аб злоўленым без зброі Базылю Гузіку. Стараста 2-га стана вёскі Сабалькі Антон Пісараў перадаў яго камандзіру 12-й роты Стараінгерманландскага палка [43, с. 18].

У той жа час штотыднёвымі рапартамі приставы паведамлялі павятоваму ваеннаму начальніка, што ў іх станах паўстанцы не траплялiся.

Трэцяя і апошняя інфармацыя аб злове паўстанца знаходзім у паведамленні ад 1 кастрычніка 1863 года ваеннага начальніка павятоваму спраўніку. Казанлі паведамляў свайму падначаленаму, што раней 18 верасня ён данёс губернатару аб подзвігу селяніна Рыгора Касцюка. Калі ён знаходзіўся ў свіслацкім конным сельскім каравуле, то заўважыў узброенага паўстанца. Падчас праследавання адабраў у таго стрэльбу, але самога паўстанца схапіць не змог з прычыны падзення з каня. Казанлі прасіў губернатара аб узнагароджанні Касцюка. 23 верасня гродзенскі губернатар загадаў прадставіць Касцюка да ўзнагароднага ліста [78, с. 82].

Між тым, дзеянні сельскіх каравулаў пры рагатках (заставах) не заўсёды былі эфектыўнымі, асабліва ў начны час, калі малалікія і няўзброеныя каравулы проста не ў сілах былі нешта зрабіць супраць узброеных паўстанцаў. Аб гэтым можна меркаваць з рапарта ад 30 жніўня 1863 года яцвескага валаснога пісара ваўкавыскаму спраўніку. У ім паведамлялася аб селяніне Яцвескай воласці Пацуеўскай сельскай грамады вёскі Ганчары Іване Шывелю, які разам з селянінам Восіпам Габцэвічам ноччу з 29 на 30 жніўня быў у каравуле пры заставе каля карчмы Ганчары. Сярод ночы яны здалёк убачылі трох чалавек, якія падыходзілі да заставы. Падазраючы ў іх паўстанцаў, спалохаліся і схаваліся [43, с. 64].

Разам з тым, заставы не былі пастаўлены пры дробных населеных пунктах, куды паўстанцы наведваліся без асаблівых перашкод. Так, 6 верасня 1863 года павятовы спраўнік даносіў ваеннаму начальніку Казанлі, што па звестках кіраўніка маёнткам Крэмяніца двараніна Раткоўскага, на хутары Тадзін, разам з маёнткам, які належаў памешчыку Сегеню, 5 верасня былі два паўстанцы і пілі малако [80, с. 34].

8 верасня той жа спраўнік даносіў, што, па звестках старшыні Талачманскага праўлення, 2 верасня сяляне вёскі Сідоркі спрабавалі злавіць двух паўстанцаў, якія праходзілі праз іх вёску. Але яны паспелі ўцячы ў лес, які належыў памешчыку Калупайле [80, с. 15].

Там, дзе камандаваць вялікімі сельскімі каравуламі былі прызначаны старэйшыя з саміх сялян, нярэдкай з'явай было злоўжыванне ўладай, растрата выдаткаваных на ўтрыманне каравулаў сродкаў, нядбайнае стаўленне да грамадскай маёмасці, п'янства і непадпарадкаванне мясцовай уладзе. Пра гэта 24 верасня 1863 года ваўкавыскі спраўнік даносіў ваеннаму начальніку Казанлі. Выпадкі злоўжыванняў паведамілі яму сельскія грамады праз сваіх старшынь.

Старшыя каравулаў дазвалялі сабе прадаваць сена, авёс, патрабуючы такія харчы ад грамады ў памеры, неадпаведным патрэбам. Пры гэтым адмаўляліся даваць справаздачу аб сваіх выдатках. Сёдлы, потнікі і збруя захоўваліся ў каравулах вельмі нядбайна. Так, напрыклад, у Роскай варце грамадой былі набыты ўжо другія потнікі, ды і тыя прыйшлі ў непрыдатнасць. На коней вартаўнікі не звярталі належнай увагі, а таму ў кожным конным каравуле было па некалькі зусім скалечаных коней. Напрыклад, у Роскім каравуле такіх мелася чатыры. Старшыя па каравулах дазвалялі сабе часта напівацца і ў п'яным выглядзе пасля вяртання ў вёску пагражалі старшынам непадпарадкаваннем.

На ўтрыманне каравулаў, акрамя хлеба, крупы, сена і аўса, было ўнесена жыхарамі да аднаго рубля з душы. Гэта пры беднасці тутэйшага насельніцтва былі даволі вялікія сродкі. Таму сяляне патрабавалі ад уладаў, каб іх грошы выдаткоўваліся на сапраўдныя патрэбы каравулаў.

Павятовы спраўнік з гэтай нагоды прасіў ваеннага начальніка паўплываць сваёй уладай на каравулы. Трэба, каб насельніцтва бачыла ў каравулах «ахоўнікаў парадку і абарону ад паўстанцаў», інакш каравулы робяцца «варожай сілаю, якая парушае спакой краіны» [80, с. 155].

Разам з аслабленнем паўстанцкага руху патрэба ў вялікіх сельскіх каравулах таксама паступова адпадала. Да 16 кастрычніка 1863 года з пяці сельскіх каравулаў у Ваўкавыскім павеце засталося тры: у Песках, Ізабеліне і Росі. Пасля адыходу казакоў з Ваўкавыска тут была арганізавана конная варта з 15 коннікаў. На скарачэнне сельскіх каравулаў таксама паўплывалі вялікія выдаткі на іх утрыманне. Так, на 1 кастрычніка 1863 года толькі грашыма вартаўнікам было выплачана 5300 рублёў, не кажучы ўжо пра выдаткі на пражытак, фураж і іншыя патрэбы. Да таго ж сяляне, задзейнічаныя ў каравулах, адрываліся ад сваёй асноўнай працы.

Трэба адзначыць тую акалічнасць, што ў пераважнай большасці сельскія каравулы складаліся з дзяржаўных сялян, а не былых памешчыцкіх.

Мабыць, улады лічылі першых больш надзейнымі. Так, на 16 кастрычніка з 244 каравульных 173 былі дзяржаўнымі сялянамі [79, с. 16].

Між тым, у губернях, ахопленых паўстаннем, царскім урадам былі прыняты экстранныя меры па далейшым прасоўванні сялянскай рэформы. 19 лютага 1864 года выйшаў указ «Аб эканамічнай незалежнасці сялян і юрыдычным раўнапраўі іх з памешчыкамі». Надзелы беларускіх сялян павялічваліся амаль на чвэрць, а іх падаткі сталі на 64,5% ніжэй у параўнанні з астатнімі расійскімі сялянамі. Найбольшыя прэферэнцыі атрымалі сяляне у заходніх губернях Расійскай імперыі. Так, у Гродзенскай губерні сялянскія надзелы сталі на 12% большымі ў параўнанні з нормай, замацаванай статутнымі граматамі, у Віленскай – на 16%, у Ковенскай – на 19%. Выкупныя плацяжы беларускіх сялян былі зменшаны на 20%. У Гродзенскай губерні выкупныя плацяжы былі паніжаны з 2 рублёў 15 капеек за дзесяціну да 67 капеек.

Да вясны 1864 года патрэба ў сельскіх каравулах паменшылася яшчэ больш. 5 красавіка 1864 года штаб 3-й дывізіі разаслаў цыркулярны ліст усім воінскім начальнікам, падпісаны камандуючым войскамі ў Гродзенскай губерні генерал-лейтэнантам Ганецкім. У ім паведамлялася, што пры існуючым становішчы спраў у Гродзенскай губерні не варта чакаць у ёй з'яўлення і фарміравання атрадаў паўстанцаў, а таму ў сельскіх каравулах няма такой патрэбы, як раней. Акрамя таго, з роспускам некаторых сельскіх каравулаў і памяншэннем складу іншых, зменшацца і выдаткі на іх утрыманне, а сяляне атрымаюць магчымасць заняцца палявымі працамі ў вясенні перыяд. Таму Ганецкі прапаноўваў некаторыя з сельскіх каравулаў скасаваць зусім, іншыя ж паменшыць [81, с. 51].

У сувязі з дадзеным указаннем ваенным начальнікам Казанлі былі аддадзены адпаведныя распараджэнні. 20 красавіка 1864 года ваенны прыстаў 1-га стана паручнік Усцімовіч даносіў з Ізабеліна ваеннаму начальніку, што паводле яго загада ад 14 красавіка ратнікі Ізабелінскага сельскага каравула распушчаны па хатах. Стрэльбы і пікі ў вартаўнікоў былі адабраны і захоўваліся ў паручніка [82, с. 82].

26 красавіка падобны рапарт паступіў Казанлі ад ваеннага прыстава 3-га стана са Свіслачы. Свіслацкі сельскі каравул складаўся з 80 чалавек, узброеных пікамі і 20 стрэльбамі. Каравул быў распушчаны напалову: засталося 40 чалавек са стрэльбамі і пікамі [83, с. 100].

Расходы на ўтрыманне пакінутых сельскіх каравулаў у 1864 годзе ўлада пераклала на памешчыкаў. Так, 29 ліпеня 1864 года Казанлі рапартаваў гу-

бернатару аб выкананні яго загада ад 12 чэрвеня аб зборы грошай з маёнткаў польскіх памешчыкаў. З 17707 рублёў срэбрам Казанлі спагнаў 16696 рублёў, якія былі ўнесены ў ваўкавыскае павятовае казначэйства [79, с. 27].

Пасля скасавання вялікіх сельскіх каравулаў каравульную павіннасць працягвалі адбываць сяляне пры рагатках (заставах), якія знаходзіліся ў кожнай вёсцы пры ўездзе і выездзе з яе. Цяпер у асноўным яны павінны былі назіраць за падазронымі людзьмі, якія падарожнічалі без пісьмовых відаў на жыхарства. Аднак у некаторых вёсках заставы нікім не ахоўваліся. 7 верасня 1864 года ваўкавыскі ваенны начальнік Казанлі ў сувязі з дрэнным нясеннем службы на заставах вымушаны быў разаслаць указанні прыставам. У іх ён прадпісваў станавым прыставам весці строгае назіранне, каб у вёсках пры заставах абавязкова знаходзіліся вартаўнікі. У адваротным выпадку ўся адказнасць падала на саміх прыставаў, за што Казанлі абяцаў падвергнуць іх строгаму спагнанню [84, с. 21].

Ці была вялікая карысць расійскай уладзе ад сельскіх каравулаў? У якой ступені яны дапамаглі ў падаўленні паўстання? Вядома, каравулы перашкаджалі перамяшчэнню паўстанцаў, забеспячэнню іх харчовымі і іншымі прыпасамі. У той жа час, баючыся помсты паўстанцаў, вартаўнікі з сельскіх каравулаў не праяўлялі вялікай актыўнасці і ініцыятывы, пра што сведчыць факт, што ў Ваўкавыскім павеце каравуламі было злоўлена ўсяго некалькіх паўстанцаў. У архіве не знойдзена дакументаў, якія б сведчылі аб узброеных сутычках каравулаў з паўстанцамі. Не паведамляецца і пра параненых, а тым больш забітых вартаўніках, акрамя аднаго. На думку аўтара дадзенага даследавання, сельскія каравулы не адыгралі той ролі, якая прызначалася ім уладай, а падаўленню паўстання калі і садзейнічалі, то ў малой ступені.

# МЕРЫ ЎЛАДАЎ ПА ДАЛЕЙШЫМ СПЫНЕННІ ПАЎСТАННЯ

Увосень 1863 года шэф корпуса жандараў князь Даўгарукі, аналізуючы па сваім ведамстве абстаноўку ў заходніх губернях, адзначаў, што нягледзячы на ўсе поспехі і на строгія распараджэнні генерала Мураўёва, заходнія губерні прымiранымі прызнаны быць не могуць. Трывожнае становішча працягвалася, злосць супраць урада значнай часткі насельніцтва несумненная. Адміністрацыя далёка яшчэ не дасягнула нармальнага ўпарадкавання, варожы ўплыў ксяндзоў на сваю паству падтрымліваўся, а надзея на знешнюю дапамогу не знікае. Усё гэта ўяўляе будучыню краю на доўгі час у змрочным выглядзе, тым больш што сялян каталіцкага веравызнання нельга лічыць цалкам адданымі ўраду. Што да праваслаўных, то «пры дабрачынствах, якія яны атрымалі», яны павінны заставацца вернымі ўраду. Аднак і ў іх князь Даўгарукі не быў цалкам упэўнены: калі яны адчуваюць сваю сілу, то часта выходзяць з-пад кантролю уладаў [69, с. 495].

У пачатку верасня 1863 года штаб 3-й пяхотнай дывізіі на чале з камандуючым войскамі ў Гродзенскай губерні генерал-лейтэнантам Ганецкім перабраўся з Пружанаў у Гродна, адкуль ад камандуючага ва ўсе павятовыя гарады ваенным начальнікам цыркулярным лістом была накіравана інструкцыя. Спасылаючыся на атрыманыя ад камандуючага войскамі Віленскай ваеннай акругі данясенні, Ганецкі адзначаў, што паўстанцы з атрадаў, якія распускаюцца, хаваюць у зямлю сваю зброю і баявыя прыпасы ў скрытых месцах, пераважна ў вялікіх лясах. Такія склады зброі і пораху ўжо былі адкрыты ў некаторых частках краю. А таму на падставе прадпісання Мураўёва ад 31 жніўня варта было ўзмоцнена шукаць падобныя склады, каб у будучым пазбавіць паўстанцаў зноў скарыстацца схаванай зброяй [54, с. 3].

Нягледзячы на тое, што паўстанцкі рух на зыходзе лета 1863 года стаў менш актыўным, паўстанцы трымалі царскія ўлады ў напружаным стане, а для абароны ад іх нападаў прымаліся самыя рашучыя меры. Асабліва па забеспячэнні захаванасці грузаў, пошты і грошай, якія перавозіліся па дарогах губерні. Каштоўныя грузы ахоўваліся не менш чым адной ротай

салдат. 25 жніўня з крэпасці Брэст-Літоўск быў адпраўлены штабс-капітан Пракоф'еў з 138000 рублямі срэбрам па маршруце: Бельск, Беласток, Гродна, Ваўкавыск, Слонім, Наваградак, Слуцк, Пінск, Кобрын. 2 верасня Ганецкі загадаў ваеннаму начальніку Казанлі забяспечыць дастаткова моцны канвой для суправаджэння грошай у яго павеце. Канвой з Ваўкавыска павінен быў пераняць ахову грошай на паштовай станцыі Манкаўцы і далей накіроўвацца праз Ваўкавыск да Зэльвы. Калі менавіта Пракоф'еў выедзе з Гродна, Казанлі абяцалі паведаміць дадаткова [54, с. 26].

15 жніўня Мураўёў адправіў гродзенскаму губернатару Скварцову ліст з паметкай «сакрэтна». У ім звярталася ўвага на больш маштабнае паўстанне ў Ваўкавыскім павеце, чым у іншых паветах Гродзенскай губерні. У лісце са спасылкай на папярэдняга гродзенскага губернатара Бобрынскага прыводзіўся аналіз сітуацыі паўстанцкага руху ў павеце. «Прадмеснік Вашага Правасхадзіцельства ў бытнасць сваю ў Вільні прадставіў мне запіску аб становішчы спраў у Ваўкавыскім павеце, у якой растлумачыў, што павет гэты па сваім цэнтральным становішчы ў губерні меў важнае значэнне ў цяперашні смутны час, у асаблівасці па забеспячэнні мяцежнікаў харчаваннем, якое нарыхтоўвалася там у вялікай колькасці. Адзначана, што ўсе памешчыкі гэтага павета, ксяндзы і чыноўнікі прымалі актыўны ўдзел у мецяжы і што ў павеце няма амаль ні адной мызы, з якой дваровыя людзі і маладыя дваране не пайшлі б у шайкі. Адны толькі сяляне, запалоханыя мяцежнікамі, цалкам адданыя ўраду.

Прычынаю такога моцнага развіцця бунту ў павеце было, на думку графа Бобрынскага, з аднаго боку – умелыя дзеянні рэвалюцыйных агентаў, а з другога – патуранне, няздольнасць або слабасць былых мясцовых ваенных уладаў, асабліва маёра Духноўскага і падпалкоўніка Калакольцава. Зрэшты, пасля, калі пачалося праследаванне новым начальнікам маёрам Крэмерам, то мяцежнікі амаль ачысцілі павет, аддаліўшыся ў суседнія паветы: Пружанскі, Бельскі, Беластоцкі і за раку Нёман. Пасля прыезду ж падпалкоўніка Казанлі далейшае развіццё бунту ў Ваўкавыску спынілася, так што неўзабаве пасля гэтага пайшлі чуткі, што памешчыкі хочуць прадставіць адрас гасудару, а шляхта, дваровыя людзі і сяляне, якія знаходзліся ў шайках, выяўляюць жаданне пакласці зброю і прадставіць доказы таго, што яны былі ўцягнуты ў мяцеж памешчыкамі.

Да гэтага граф Бобрынскі дадаў, што з памешчыкаў Ваўкавыскага павета больш за іншых прымаюць удзел у мецяжы наступныя асобы: правадыр

дваранства Тадэвуш Сегень і яго жонка Аляксандра, былы міравы пасрэднік Ігнат Ляскоўскі, Адам Быхавец, граф Вацлаў Красіцкі, Булгарын і іншыя. Што сын маршалка Сегеня знаходзіцца ў шайцы, а сам Сегень, магчыма, вярнуўся з-за мяжы і пражывае ў Гродзенскай губерні або Каралеўстве Польскім. Што ў ліку агентаў Ваўкавыскага рэвалюцыйнага камітэта, між іншым, знаходзяцца ваўкавыскі павятовы казначэй Альберт Кульбіцкі і павятовы страпчы Сцяпан Сержпутоўскі, з якіх апошняму вельмі шмат садзейнічае жонка яго і дачка.

Паведамляючы аб усім вышэйзгаданым Вашаму Правасхадзіцельству, прапаную Вам звярнуць асаблівую ўвагу на Ваўкавыскі павет і прыняць самыя рашучыя меры для ўсталявання ў ім парадку і строгага праследавання як галоўных дзеячаў, так і памагатых і ўдзельнікаў бунту. Названых жа графам Бобрынскім у ліку агентаў рэвалюцыйнага камітэта скарбніка Кульбіцкага і страпчага Сержпутоўскага неадкладна вызваліць ад займаемых імі пасад і падвергнуць следству. Зрабіць у той жа час распараджэнне аб камандзіраванні для выпраўлення іх пасад, надалей да прызначэння штатных чыноўнікаў, асаблівых добранадзейных асоб» [54, с. 112-113].

З прычыны таго, што набліжалася зіма, праход праз суцэльныя лясныя зараснікі рабіўся для паўстанцаў больш праблематычным, чым у летні сезон. Жадаючы зрабіць лясы Ваўкавыскага павета менш зручнымі для ўкрывання паўстанцаў і больш лепшымі для праходжання і кантралявання атрадамі царскіх войскаў, Мураўёў распарадзіўся зрабіць у іх прасекі. Рапартам ад 27 жніўня Казанлі прасіў дазволу генерала Ганецкага аб высечцы лесу прасекамі шырынёю ад 50 да 200 сажань, дзе ў гэтым будзе неабходнасць. 5 верасеня 1863 года Ганецкі дазволіў прыступіць да высечкі лесу. Пры гэтым звярнуў увагу Казанлі, каб высечку рабіць не паўсюль, а прарэдзіць лес, пакідаючы дрэвы, якія не перашкодзяць руху войскаў, так як гэта робіцца ў месцах, прылеглых да чыгункі [54, с. 48].

Такія прасекі або трыбы сярод мясцовых жыхароў атрымалі назву «мураўёўскіх». Праца лесарубаў павінна была аплачвацца самімі абывацелямі. Дзелавую драўніну ваенныя начальнікі прадавалі купцам або вывозілі для ацяплення. Рэшткі дазвалялася выкарыстоўваць сялянам для ўласных патрэб. Што тычыцца адходаў – галінак і сукоў, то пад пагрозай штрафу яны павінны былі вывозіцца сялянамі на працягу тыдня. Да таго ж павінны былі выкарчоўваць пні, якія замінаюць праезду артылерыйскіх гармат. На высечцы прасек пагрэлі рукі многія расійскія афіцэры [49, с. 125].

З пачаткам верасня 1863 года данясенні пра з'яўленне на тэрыторыі Ваўкавыскага павета паўстанцаў амаль адсутнічаюць. Адно з нешматлікіх такіх паведамленняў зафіксавана 2 верасня ў рапарце Магілёўскага валаснога праўлення прыставу 2-га стана. У рапарце паведамлялася, што з 31 жніўня на 1 верасня ноччу з'явілася партыя паўстанцаў колькасцю 50 узброеных чалавек. У маёнтку Янін яны набралі 5 гарцаў гарэлкі, а пасля пайшлі ў маёнтак Ліберполь, дзе патрабавалі хлеба, сала і іншыя рэчы, якія належаць памешчыку Аляксандру Быхаўцу [43, с. 72].

Больш падрабязна аб гэтым атрадзе паўстанцаў даносіў прыставу прыказчык маёнтка Ліберполь Байкоўскі. Уначы з 31 жніўня на 1 верасня на Ліберполь напаў атрад колькасцю да 30 чалавек. З маёнтка Янін прывелі з сабой прыказчыка Грыневіча, яго памочніка – адстаўнога салдата Стэфана Дзеркача і прыказчыка маёнтка Разалін Івана Лянкоўскага. Байкоўскага звязалі і разам з астатнімі пачалі палохаць павешаннем і нават накінулі на шыю Байкоўскага пятлю, патрабуючы ключы ад свірна і панскага двара, дзе захоўваліся харчы і адзенне. Ключоў не аказалася, і тады паўстанцы ўзламалі свіран, адкуль забралі саланіну і частку вяндліны ды тры булкі хлеба. Таксама ўзламалі пакой у жылым панскім доме, але, не знайшоўшы адзення, нічога не ўзялі. Пасля чаго загадалі дваровому чалавеку Кляменскаму падрыхтаваць каня і адвезці паўстанцаў да лесу, дзе стаяў цагляны завод [43, с. 73].

Здараліся і ўзброеныя сутычкі паміж паўстанцамі і рускімі войскамі, але цяпер яны насілі нязначны характар. Так, апошняе сутыкненне на тэрыторыі Ваўкавыскага павета гісторыкам А.І.Мілавідавым было адзначана 4 верасеня 1863 года каля маёнтка Уласаўшчына, што побач з вёскай Пічукі цяперашняга Зэльвенскага раёна: «4 верасня. Перастрэлка паблізу маёнтка Уласаўшчына Ваўкавыскага павета. 28 чалавек Стараінгерманландскага палка пад камандаю прапаршчыка Чымбаевіча. Стратаў няма. У мяцежнікаў забіта 3, паранена 3»[68, с. 29].

Аднак архіўныя дакументы паведамляюць яшчэ аб адным сутыкненні, якое адбылося 7 верасня. З рапарта ад 10 верасня прыстава 1-га стана ваўкавыскаму ваеннаму начальніку вынікае, што камандзір 12-й роты Стараінгерманландскага пяхотнага палка, праследуючы паўстанцаў, меў сутычку ў лесе маёнтка Тулава. Пасля нядоўгай перастрэлкі было ўзята ў палон 10 чалавек паўстанцаў, якія ў той жа дзень былі дастаўлены ў Ваўкавыск [43, с. 25].

Пра тое, што з пачаткам верасня актыўнасць паўстанцаў у Ваўкавыскім павеце значна паменшылася, а то і знікла зусім, ускосным чынам пацвярджае

і той факт, што на абарону транспарту цяпер вылучалася значна меншая колькасць аховы, чым усяго пару тыдняў таму. Так, 18 верасня ваўкавыскаму ваеннаму начальніку прыйшло распараджэнне са штаба 3-й дывізіі, размешчанай у Гродне. Паведамлялася, што 19 верасня пры служыцелю Ляхавецкім з Гродна ў горад Кобрын і далей у Кіеў адпраўляецца транспарт з гадавымі рэчамі Вялікалужскага пяхотнага палка. Казанлі прадпісвалася для суправаджэння гэтага транспарту на ўчастку маршруту ад Свіслачы да Шарашова выдзеліць дастатковы канвой не менш за 20 чалавек [54, с. 88].

Раней на ахову падобнага транспарту вылучалася не менш роты, г.зн. каля 150 чалавек.

З прычыны таго, што надыходзіў зімовы сезон, калі паўстанцам над галавой неабходны быў хоць нейкі дах, гродзенскі губернатар прадбачліва 20 верасня загадаў ваенным начальнікам усіх паветаў выканаць наступныя мерапрыемствы:

1. Жыллё тых паўстанцаў, якія будуць выселены часова ў вёскі ці ва ўнутраныя губерні, неадкладна прывесці ў нежылы выгляд, г.зн. разабраць дах, печы, вокны і дзверы, каб на працягу восені і зімы атрады паўстанцаў не маглі знаходзіць у іх прытулак.

2. Дадзеную меру варта было распаўсюдзіць, дзе яна акажацца патрэбнай, і на тую шляхту, аднадворцаў, сялян, якія жывуць унутры лясоў асобнымі засценкамі.

3. У лясах, якія служаць пастаянным прытулкам атрадам паўстанцаў, неадкладна зрабіць у неабходных месцах дастатковыя прасекі для зручнага руху войскаў, аднёсшы выдаткі на рахунак уладальнікаў тых лясоў [54, с. 107].

24 верасня гродзенскі губернатар разаслаў чарговы цыркулярны ліст павятовым ваенным начальнікам з новымі ўдакладняльнымі інструкцыямі па барацьбе з рэшткамі паўстанцкіх атрадаў. Паказвалася, што канчатковае знішчэнне дробных атрадаў паўстанцаў, якія хаваюцца яшчэ па лясах, больш за ўсё залежыць ад руплівага садзейнічання таго сельскага насельніцтва, у якога паўстанцы забяспечваліся харчаваннем. Адсюль рабіліся высновы. Па-першае, усюды, дзе гэта неабходна, трэба было ствараць новыя пункты моцнай сельскай варты, якія пры садзейнічанні войскаў маглі разбіць дробныя атрады паўстанцаў. Па-другое, трэба было зрабіць больш жорсткім кантроль за харчаваннем, як пра гэта неаднаразова прадпісвалася. Па-трэцяе, каб не дапускаць лясную варту садзейнічаць паўстанцам, неабходна было часова выселіць яе з сямействамі з лясной варты. Хто з варты будзе

заўважаны ў дапамозе паўстанцам, неадкладна браць такіх пад арышт, праводзячы над імі следства [54, с. 119].

З пачаткам кастрычніка 1863 года паўстанцкі рух у Ваўкавыскім павеце заціхае зусім, пра што сведчыць сумесны рапарт ад 26 кастрычніка ваўкавыскага ваеннага начальніка і павятовага спраўніка губернатару: «Маем гонар данесці Вашаму Правасхадзіцельству, што з 18 па 26 кастрычніка ў давераным нам павеце адлучаных у мяцеж не было» [53, с. 38].

Падобныя рапарты ў далейшым будуць пасылацца штотыдзень. Апошні з іх быў адпраўлены 2 жніўні 1864 года. І ўвесь гэты час «адлучаныху мяцеж не было».

Баючыся, што актывізацыя паўстанцкага руху наступіць з надыходам вясны 1864 года, 3 сакавіка 1864 года генерал-лейтэнантам Ганецкім усім ваенным начальнікам было разаслана цыркулярнае паведамленне пра паўстанцаў, якія з'явіліся ў лясах. Па атрыманых ім звестках ад захопленага каля Седліц паўстанца было ўстаноўлена, што зборным пунктам паўстанцаў у Гродзенскай губерні прызначана Белавежская пушча. Адзінкавыя паўстанцы імкнуліся прабрацца ў пушчу праз сямяціцкія лясы. Таму Ганецкім прадпісвалася прыняць належныя меры, а менавіта: пасылаць лятучыя атрады і часцей рабіць агляд у лясістых месцах [85, с. 6].

У дадатак да дадзенага ўказання ваўкавыскім ваенным начальнікам Казанлі 23 сакавіка быў выдадзены загад, які прадпісваў ваенным прыставам рэгулярна праводзіць пошукавыя мерапрыемствы на тэрыторыі сваіх станаў з мэтай выяўлення падазроных дзеянняў, робячы пры гэтым вобыскі. Так, 4 красавіка 1864 года ваенны станавы прыстаў 5-га стана паручнік Гасар, атрад якога размяшчаўся ў мястэчку Пескі, даносіў Казанлі, што яго лятучым атрадам агледжаны мызы, фальваркі і лясы, якія сустракаліся па шляху, а менавіта: Монькаўцы, Асаўляны, Самуйлавічы, Ліхінічы, Парфяновічы, Забалоцце, ваколіца Лаўры, Рагозніца казённая, Рагозніца памешчыцы Шабанскай. Нічога не знойдзена і не заўважана. У памешчыка Стырпейкі ў маёнтку Пацавічы ў пакоі эканома была знойдзена толькі шапка канфедэратка, якую паручнік выслаў Казанлі [83, с. 15].

4 красавіка такое ж паведамленне ваеннаму начальніку было адпраўлена ваенным прыставам 1-га стана паручнікам Усцімовічам, які таксама далажыў аб безвыніковых пошуках [83, с. 35].

Самае маштабнае мерапрыемства з выкарыстаннем больш за тысячу сялян адбылося ў канцы сакавіка 1864 года прыставам 3-га стана, атрад якога

размяшчаўся ў Свіслачы, кантралюючы самыя шырокія лясы на тэрыторыі Ваўкавыскага павета. Зыходзячы з прадпісання Казанлі ад 25 сакавіка аб правядзенні ўважлівага агляду казённых і памешчыцкіх лясоў для пошуку зброі, кінутай і схаванай паўстанцамі, прыстаў адправіўся з атрадам у лясы. З валасцей і сялянскіх грамадаў на дадзеную аперацыю было сабрана 1100 чалавек сялян. Пасля дбайнага вобыску, які цягнуўся некалькі дзён і скончыўся 31 сакавіка, ніякай зброі знойдзена не было [83, с. 36].

Мерапрыемствы па пошуку схаванай зброі працягваліся і далей, пра што сведчыць рапарт паручніка Гасара ад 8 мая 1864 года [83, с. 132].

Падводзячы вынікі паўстанцкага руху на тэрыторыі Ваўкавыскага павета, можна адзначыць наступныя акалічнасці. Паўстанцкія атрады з'явіліся тут у другой палове красавіка 1863 года. Усе яны засяродзіліся ў Белавежскай пушчы ў раёнах вакол мястэчак Лыскава, Свіслач і Поразава. Першая невялікая сутычка паўстанцаў з атрада Густава Стравінскага з рускімі войскамі адбылася 29 красавіка ў лесе каля маёнтка Янін, што размясціўся на паўднёвы ўсход ад мястэчка Лыскава, а апошняя – 10 верасня каля маёнтка Пянюга. З 58 баёў паўстанцаў з расійскімі войскамі ў Гродзенскай губерні, зафіксаваных рускім гісторыкам Мілавідавым, у Ваўкавыскім павеце адбылося 5 баёў: 30 красавіка – каля мястэчка Лыскава, 13 мая – каля мястэчка Новы Двор, 9 чэрвеня – каля вёскі Жаркаўшчына, 27 ліпеня – каля вёскі Навасёлкі , што побач з мястэчкам Новы Двор, 4 верасня – каля вёскі Пічукі. Акрамя згаданых баёў, адбылося яшчэ некалькі дробных сутычак.

Тым не менш, нягледзячы на малую колькасць баёў, на думку генерал-губернатара Мураўёва, як паведамлялася раней, з усёй Гродзенскай губерні ў Ваўкавыскім павеце паўстанне прыняло найбольш маштабны характар.

# ПАРАДКІ

Хоць ваеннае становішча ў некаторых паветах Гродзенскай губерні было ўведзена яшчэ ў студзені 1861 года, але ў Ваўкавыскім павеце яго ўвялі ў канцы мая 1863 года. Аднак новыя парадкі ў заходніх губернях пад назвай «Інструкцыя для ўстройства ваенна-грамадзянскага кіравання» пачала дзейнічаць да ваеннага становішча на падставе правілаў, прынятых урадам 9 жніўня 1861 года. Абстаноўка, якая мянялася, патрабавала ад уладаў унясення новых зменаў, а таму 2 чэрвеня 1863 года да дзеючай інструкцыі аб ваенным становішчы быў прыняты дадатак. У першым пункце дапаўнення прадпісвалася прыняць належныя меры для спынення маніфестацыяў, у якім бы родзе для паказання спагады рэвалюцыйнаму руху яны не выяўляліся. На гэтай падставе варта было абвясціць па гарадах і паветах, што жалобу і наогул нашэнне асобамі жаночага полу чорных сукенак і рэвалюцыйных знакаў, як і раней, не дапускаецца. Тых чыноўнікаў, у сямействе якіх жанчыны публічна будуць з'яўляцца ў чорных сукенках і іншых жалобных уборах, а таксама насіць рэвалюцыйныя знакі, выключаць са службы. Асоб жаночага полу без уліку звання, стану і нацыянальнасці, якія з'явіліся публічна ў жалобным уборы або з умоўнымі рэвалюцыйнымі прыкметамі туалета, падвяргаць штрафу: у першы раз – 25 рублёў, у другі – 50, а ў трэці – арыштоўваць і паступаць з імі як з саўдзельніцамі паўстання. Асобы, якія носяць жалобу па самых блізкіх сваіх родных, павінны прад'яўляць паліцыі законныя доказы аб сапраўднай смерці гэтых родных.

Усе вышэйсказанае адносілася і да тых з асоб мужчынскага полу, якія будуць з'яўляцца публічна са знакамі жалобы ў вопратцы, агульнапрынятымі для мужчынскага ўбору, а таксама насіць чамаркі, канфедэраткі, доўгія боты або іншыя ўмоўныя знакі паўстання [24, с. 21].

Як паведамлялася вышэй, нашэнне жалобнага адзення і іншых атрыбутаў увайшло ў моду пасля крывавага разгону 15 лютага 1861 года дэманстрацыі ў Варшаве. Такая мода прадоўжылася і ў 1863 годзе. Цяпер нашэнне жалобы сімвалізавала пратэст царскім уладам супраць іх дзеянняў па падаўленні паўстання. Дваранкі і мяшчанкі ўносілі ў свой гардэроб і іншыя элементы, якія выказвалі пратэст. Так была ўведзена новая мода – чорныя сукенкі з чырвонымі хусткамі. Такі ўбор хутка ахрысцілі «крывавай жалобай» і таксама забаранілі. Акрамя таго, было забаронена дэманстратыўнае нашэн-




Мал.20. Жалобны строй. Фатаздымак 60-я гады XIX ст.

не жанчынамі і мужчынамі медальёнаў з гербам Рэчы Паспалітай, партрэтамі Тадэвуша Касцюшкі або Адама Міцкевіча ў цярновым вянку. Былі забаронены і медальёны са зламаным крыжам – сімвал ганенняў каталіцкай царквы ў Расійскай імперыі. Сам жа Міхаіл Мураўёў атрымаў пры расійскім двары кур'ёзную славу «змагара з жаночымі брошкамі».

27 мая 1863 года падчас знаходжання Казанлі ў мястэчку Лыскава адбыўся цікавы эпізод, што вывеў з раўнавагі ваеннага начальніка. Рапартам

ад 5 чэрвеня ён даносіў пра гэта губернатару. Служачы па акцызе Астроўскі знаходзіўся ў мястэчку, чаму Казанлі і захацеў атрымаць ад яго некаторыя звесткі. Астроўскі з'явіўся да яго ў польскім нацыянальным галаўным уборы - чамарцы. Да таго ж на грудзях у яго вісеў чыгунны ланцужок, які сімвалізаваў кайданы і быў прымацаваны да кішэннага гадзінніка. Казанлі прыйшоў у лютасць і ўласнаручна сарваў ланцужок разам з гадзіннікам і чамаркай. Прыбыўшы ў Ваўкавыск, Казанлі перадаў наглядчыку акцызнага водкупу начальніку Астроўскага канфіскаваныя рэчы і пераканаў яго, каб не дазваляў сваім падначаленым насіць забароненае адзенне і атрыбуты [42, с. 47].

Адной з мер ваеннага становішча з'яўлялася ўзмацненне кантролю над жыхарамі горада, для чаго Ваўкавыск быў разбіты на ўмоўныя кварталы, патруляванне якіх ажыццяўлялася сіламі вайскоўцаў. Уводзіўся каменданцкі час – жыхарам забаранялася перамяшчацца па горадзе пасля 9 або 10 гадзін, у залежнасці ад пары года. Калі ж пасля каменданцкага часу паўстала неабходнасць у цёмны час выйсці на вуліцу, то чалавек павінен быў трымаць у руках запалены ліхтар. Пры выездзе і ўездзе з горада і іншых населеных пунктаў ставіліся рагаткі і шлагбаумы, дзе ваенныя спынялі праезджых, патрабуючы ў іх пасведчанне асобы і дазвол на паездку.

Вобыскі ў дамах абывацеляў сталі штодзённай з'явай. Салдаты пад кіраўніцтвам афіцэраў правяралі ўсё: склады, падвалы, крамы, аптэкі, кожны кут у дамах. Калі ж нічога падазронага не знаходзілі, сваю ўвагу пераключалі на гардэроб і біжутэрыю. Калі яны былі чорнага, бела-чорнага, фіялетавага або папялістага колеру, то тут жа станавіліся доказамі злачынства. Жаночае або мужчынскае чорнае адзенне, сукенкі ці галаўны ўбор, чорнага колеру камея, кальe, брошку, пярсцёнак і нават гузік з чорнай эмаллю – усё прызнавалася за атрыбуты пратэстнай жалобы. Іншы начальнік мог прычапіцца да чырвонага колеру, які сімвалізаваў рэвалюцыю. Такія рэчы не толькі канфіскоўваліся, але за іх захоўванне на вінаватага накладваўся штраф памерам 25 рублёў. За выяўленне нацыянальнага галаўнога ўбору чамаркі, наогул, можна было трапіць на высылку ў Сібір. Калі грошай заплаціць штраф не мелася, апісвалася маёмасць. У многіх абывацеляў падчас вобыскаў забіралі ўсё, што ўяўляла гістарычную каштоўнасць: старыя манеты, карціны, абразы, старую зброю, каралеўскія граматы і г.д. Праз некаторы час каштоўнасці прапаноўвалася выкупіць.

Штрафы прысуджалі літаральна за ўсё: за парушэнне каменданцкага часу, калі з'явіўся на вуліцы пасля 9 гадзін вечара, за несвоечасова падад-

зеную па разнарадцы фурманку з канём, за адсутнасць патрэбнага дакумента на перамяшчэнне, за партрэты польскіх каралёў, Касцюшкі альбо Панятоўскага, якія вісяць у доме. Нават за партрэт дзеючага рымскага папы Піуса IX.

Мала хто з вялікіх і малых начальнікаў, хто прысуджаў штраф, афармляў яго законным чынам, што дазваляла пакласці грошы ў сваю ўласную кішэню [49, с. 102-103, 130].

У адной з архіўных спраў Гістарычнага архіва ў Гродне маецца некалькі дакументаў, якія пацвярджаюць дзеянне рэпрэсіўных мер у дачыненні да асоб з Ваўкавыскага павета, што насілі забароненае адзенне. Загадам ад 22 ліпеня 1863 года ваўкавыскага ваеннага начальніка Казанлі павятоваму спраўніку неабходна было зрабіць пэўнае спагнанне за нашэнне чорных суквенак цывільнай дарадчыцы Владычанскай і падпалкоўніцы Альшэўскай, што асабіста было заўважана Казанлі, калі жанчыны былі ў яго на прыёме [43, с. 192].

На гэта прадпісанне паступіла ўказанне спраўніка Івана Кісялеўскага свайму падначаленаму гарадскому прыставу аб неадкладным спагнанні са згаданых жанчын па 25 рублёў срэбрам. Пры гэтым варта было ўзяць з іх распіску ў тым, што больш такіх сукенак насіць не будуць [43, с. 192адв.].

Падобны выпадак з нашэннем жаночай жалобы быў зафіксаваны ў рапарце прыстава 2-га стана Станкевіча павятовому спраўніку Кісялеўскаму ад 22 кастрычніка 1863 года. Дваранка Лізавета Пукшта, якая жыла ў мястэчку Лыскава, 14 верасня была заўважана Станкевічам на вуліцы ў жалобнай сукенцы. Прыстаў неаднаразова дасылаў Пукшце павесткі аб выплаце штрафу, але тая, спаслаўшыся на хваробу, ад выплаты штрафу ўхілялася. Яшчэ адну прычыну ўхілення ад штрафу прыстаў бачыў ва ўплыве на тое камандзіра 3-й стралковай роты Сафійскага пяхотнага палка штаб-капітана Плеца, рота якога размяшчалася ў мястэчку Лыскава. У доказ гэтага прыстаў прадставіў спраўніку падпісаную штабс-капітанам Плецам сваю запіску ад 15 верасня, у якой паведамлялася аб адмове садзейнічаць Станкевічу ў гэтай справе.

Акрамя таго, станавы прыстаў Станкевіч абвясціў штабс-капітану Плецу, што Лыскаўскі валасны пісар Шарэйка ў пакоі прысутнасці валаснога кіравання чытаў і тлумачыў польскі маніфест. Даведаўшыся пра гэта, прыстаў некалькі разоў прасіў Плеца даць гэтай справе законны ход, але за два тыдні нічога не было зроблена [43, с. 16].

Тут адчуваецца відавочна адмоўнае стаўленне штаб-капітана з нярускім прозвішчам Плец да тых парадкаў, якія былі ўведзены генерал-губерната-

рам Мураўёвым. Нягледзячы на магчымыя непрыемнасці па службе і нават звальненне з яе за спачуванне і патаканне «бунтаўнічым» настроям, Плец свой афіцэрскі гонар даносамі не запляміў.

Затое паліцэйскія прыставы пра афіцэрскі гонар не клапаціліся, хоць і рабілі ў сваіх рапартах прыпіскі «гонар маю». Так, 14 красавіка 1864 года прыстаў 3-га стана падаў рапарт новаму ваўкавыскаму павятоваму спраўніку Рыгору Шаншыну, што дваранка Ганна Бабінская, якая прыбыла з двара маёнтка Косіна ў мястэчка Свіслач, была заўважана ім у нашэнні чорнага адзення. На падставе цыркулярнага прадпісання галоўнага начальніка краю была абкладзена штрафам у першы раз 25 рублёў срэбрам. Прыставам таксама паведамлялася, што штрафныя грошы з Бабінскай узяў, якія і пераслаў спраўніку [86, с. 1].

Пра парадкі і атмасферу таго часу, якія склаліся ў самім горадзе Ваўкавыску, аб адносінах размешчаных у горадзе войскаў да яго карэнных жыхароў ёсць цікавае сведчанне ваўкавыскага вікарыя, ксяндза Іосіфа Дзіякевіча да свайго калегі поразаўскага ксяндза Баніфацыя Пісанкі, які пасля за ўдзел у паўстанні быў высланы ў Сібір: «У Ваўкавыску, як табе вядома, кватаруе 4 роты пяхоты, а яе салдаты абмацваюць тых, хто праходзіць па вуліцах, або аглядаюць тых, хто прыязджае або выязджае з горада. Аглядаюць і нават не давяраюць Богу, баючыся, каб ён (Бог) не адправіўся да мяцежнікаў: рускія салдаты стаяць пры касцёле на варце і нават абшукваюць ксяндза, калі ён ідзе да хворага. Але цяпер яны пасаромеліся гэтай незвычайнай сквапнасці і з прычыны ліста благачыннага перасталі турбаваць Бога. Такім чынам, Ваўкавыск у асадзе і заўсёды праклінаеш салдат, калі ідзеш па вуліцы непадалёк ад патруля, таму што пры аглядзе псуюць і ламаюць рэчы і незадаволены па ўсякіх дробязях. З Каралеўства Польскага атрымліваем добрыя весткі, шкада, што не ў нас» [87, с. 30].

Абшуквалі нават жанчын, апранутых у крыналін – шырокая сукенка на тонкіх абручах, модная ў 19-м стагоддзі. Салдаты падазравалі, што пад такімі сукенкамі жанчыны маглі хаваць забароненыя прадметы: зброю, боепрыпасы, медыкаменты, лістоўкі.

Сваё выказванне аб паводзінах салдат вікарый Дзіякевіч пазней растлумачыў у следчай камісіі: «Некаторыя салдаты вельмі нявеглівыя і злосныя. Неаднаразова здаралася, што яны прыходзілі ў дом і прасілі грошай, а калі атрымлівалі адмову, то, будучы пад хмяльком, абзывалі нас мяцежнікамі.

Многіх прахожых людзей спынялі на вуліцы п'яныя салдаты і рабілі над імі вобыск» [87, с. 72адв.].

Аднак такія вобыскі мелі падставу. Пра дапамогу паўстанцам ваўкавыскіх жыхароў расказвае Фелікс Міхальскі: «Ведаю, што мая маці Рэгіна Міхальская з роду Макарэвічаў, тады яшчэ маладая, таксама ўдзельнічала ў паўстанні. Апранутая ў мужчынскую вопратку, яна дастаўляла ваўкавыскім паўстанцам прадукты харчавання, адзенне, абутак, якія збіраліся мясцовымі патрыятычнымі жыхарамі. Збіралі нават порах з кулямі і іншую амуніцыю. Памятаю, як мы, дзеці, павінны былі прыгатаваць павязкі з матэрыі для перавязкі ран. Часцей за ўсё маме ў яе паходах да паўстанцаў дапамагалі жыхары Ваўкавыска Войцех і Ежы Каласоўскія, а таксама нейкі селянін Бярдун з вёскі Зарэчча.

Пры сустрэчы на дарозе праз Замкавы лес з казакамі мама захоўвала поўны спакой. У гэты час у яе павозцы, на якой ехала, ляжала бочка з порахам, прадукты харчавання і абутак. Сітуацыя была даволі небяспечная, аднак мама адважна працягвала ехаць насустрач казакам, тым самым не разбудзіла ў іх падазрэнні. Казакі былі вельмі стомленыя, таму што надакучала спякота, і яны толькі марылі здаволіць смагу. Калі казакі ўбачылі на возе кошык з яблыкамі, які мама спецыяльна паклала на бачным месцы, то іх увага пераключылася на яблыкі. Адзін з казакоў падчапіў кошык на сваю піку, і іх атрад паехаў па дарозе далей.

Калі аднойчы мама вярталася з лесу, то паблізу Ваўкавыска яе спынілі каля рагаткі, якія ў той час усталявалі пры ўсіх вёсках і мястэчках. Рагатку пільнавалі рускія салдаты, і без пропуску ад ваенных уладаў праезд быў немагчымы. У той час атрымаць такі пропуск было вельмі цяжка, і мама паехала з пратэрмінаваным пропускам. Доўга не думаючы, яна паказала стары пропуск з пячаткай у выглядзе двухгаловага арла. Вартавы на рагатцы, напэўна, быў непісьменным і не меў да гэтага справы з падобнымі дакументамі. Агледзеў пропуск з усіх бакоў і нічога не зразумеў. На пытанне мамы: «Ну што, шаноўны? Чытаць не ўмееш?» вельмі засаромеўся, вярнуў дакумент і грозна выгукнуў: «Ну! Едзь хутчэй!» Наш бацька заўсёды хваляваўся, чакаючы маму з такіх паездак» [50].

У час паўстання, каб залішне не гнявіць сялян, гродзенскі губернатар Уладзімір Бобрынскі цяжар падводнай павіннасці пераклаў на памешчыкаў і мяшчан. Новы гродзенскі губернатар Іван Скварцоў 17 жніўня 1863 года з гэтай нагоды зрабіў Мураўёву запыт. У ім адзначаў, што яго папярэднік

зрабіў распараджэнне, каб увесь цяжар падводнай павіннасці ляжаў выключна на гарадскіх жыхарах, памешчыках і шляхце польскага паходжання. Пры гэтым варта было пазбягаць ускладання гэтай павіннасці на сялянскае саслоўе.

Скварцоў таксама са свайго боку знаходзіў такую меру карыснай. Аднак, прымаючы пад увагу, што на падставе існуючых законаў дваранскае саслоўе пазбаўлена ад выканання падводнай павіннасці, ён прасіў дазволу на пакіданне ў сіле зробленага графам Бобрынскім распараджэння. Мураўёў дазволіў працягнуць выкананне падводнай павіннасці памешчыкамі і мяшчанамі ў якасці часовай меры, да асобага распараджэння. Пры гэтым адзначыў ускласці на названыя саслоўі не толькі падводную, але і іншыя павіннасці, імкнучыся па магчымасці палегчыць павіннасці сялян [45, с. 221-222].

За выкарыстанне фурманак камандзірамі воінскіх падраздзяленняў іх уладальнікам выдаваліся контрамаркі, якія ў далейшым павінны былі быць аплачаны ўладамі. Так, у дачыненні да карыстання конным транспартам камандзір Стараінгерманландскага палка 30 верасня накіраваў камандзіру 3-га батальёна 500 нумарных лістоў контрамарак для аплаты абывацельскіх фурманак, якія браліся падчас праследавання паўстанцаў. Прадпісвалася расходаваць контрамаркі на законнай падставе, не ўжываючы іх на іншыя патрэбы батальёна [51, с. 14].

У архіўных справах, пачынаючы з кастрычніка месяца 1863 года, маецца шмат распісак-квітанцый, якія даваліся камандзірам ваенных атрадаў ад імя мясцовых начальнікаў пра непрычыненне шкоды жыхарам у месцы пастою атрада. Так, 13 кастрычніка 1863 года тысяцкі Антон Паплаўскі з мястэчка Поразава выдаў унтэр-афіцэру 10-й роты Стараінгермаландскага пяхотнага палка распіску. У ёй паведамлялася, што падчас накіравання з даручанай яму камандай з Ваўкавыска да Пружанаў у мястэчку Поразава Ваўкавыскага павета з 13 на 14 кастрычніка атрад спыніўся на начлег. Жыхарам крыўдаў і ўціску ніякіх не было. Безграшова нічога ні ў кога не ўзята. Ніжэйшыя чыны харчаваліся казённым правіянтам, а таксама закуплялі прадукты ў абывацеляў за ротныя грошы [51, с. 142].

Асабліва вялікія нязручнасці ў жыхароў выклікала абмежаванне перамяшчэння па павеце. У выпадку неабходнасці адлучыцца ў іншыя месцы памешчык абавязаны быў прасіць на тое дазволу ў ваеннага начальніка. Так, памешчык маёнтка Тарнопаль адстаўны маёр Бялінскі лістом ад 24 ліпеня

1863 года паведамляў Казанлі, што яго жонка доўгі час пакутуе грудной хваробай. Лекары парадзілі ёй з мая месяца карыстацца мінеральнымі водамі. У сувязі з тым, што лячэнне павінна працягнуцца доўгі час, Бялінскі прасіў Казанлі дазволіць яму перавезці жонку ў мястэчка Свіслач, дзе меўся патрэбны спецыяліст. Да таго ж Бялінскаму трэба было самому знаходзіцца пры жонцы, перыядычна наведваючы свой маёнтак для назірання за гаспадаркай [54, с. 17].

А вось іншае прашэнне свіслацкага 2-й гільдыі купца Лейбы Слуцкага да самога гродзенскага губернатара. Прашэнне заключалася ў атрыманні дазволу ажыццяўляць вінакурэнне ў маёнтку Яцвеск памешчыка Ляскоўскага. 14 верасня губернатар даў з гэтай нагоды ўказанне Казанлі, у якім яму прапаноўвалася зрабіць адпаведнае распараджэнне [54, с. 75].

Дазвол неабходна было атрымаць і жонцы радавога, ваенная часць якога размяшчалася ў Ваўкавыску. 13 кастрычніка 1863 года камандзір 11-й роты Стараінгерманландскага палка звярнуўся рапартам да Казанлі з нагоды жонкі радавога Арона Товіна з яго роты – яўрэйкі Бейлі Товінай. Жонцы тэрмінова трэба было паехаць да сябе на радзіму ў Мінскую губерню ў горад Слуцк, для чаго ад ваеннага начальніка патрабавалася даць распараджэнне на выдачу яўрэйцы білета на свабодны праезд як да Слуцка, так і назад [51, с. 58].

З гэтага дакумента вынікае цікавы факт, які паказвае, што разам з жанатымі радавымі салдатамі ў месцах кватаравання вайсковай часці знаходзіліся і іх жонкі.

Абмежаванні наступілі і для навучэнцаў, з асяроддзя якіх было шмат тых, хто спачуваў паўстанню і нават удзельнічаў у ім. Толькі са Свіслацкай прагімназіі за ўдзел у паўстанні было выключана 11 навучэнцаў. 19 жніўня 1863 года гродзенскім губернатарам наконт навучэнцаў выдаецца стражайшая інструкцыя па наглядзе за кожным крокам вучняў. Выканаць такую інструкцыю не кожнаму вучню і яго бацькам было пад сілу. Цяпер у месцах вучобы ўсталёўвалася кругавая парука і кругласутачны кантроль.

Інструкцыя абавязвала як саміх бацькоў навучэнцаў, так і выхавальнікаў па месцы пражывання падчас вучобы, каб яны далі начальству навучальнай установы падпіску. У выпадку, калі іх дзеці або выхаванцы акажуцца вінаватымі ў правядзенні якіх-небудзь беспарадкаў ці ўдзеле ў палітычных хваляваннях, то бацькі або выхавальнікі абавязваліся выплаціць штраф за кожнага з вінаватых у памеры ад 100 да 200 рублёў срэбрам па меркаванні мясцовай улады і ступені віны вучня.

Бацькі і апекуны, якія прывозілі дзяцей у навучальную ўстанову з іншых мясцовасцей, абавязаны былі даць начальству той установы паручыцельскую падпіску адной з добранадзейных асоб, якая мела нерухомую ўласнасць у тым, што асоба гэта прымае на сябе адказнасць за вызначанага вучня. У выпадку, калі апошні акажацца вінаватым ва ўдзеле ў палітычных беспарадках, то паручыцель абавязваецца выплаціць штраф ад 100 да 200 рублёў срэбрам.

Што да прыватных асоб, якія прымалі да сябе на кватэру вучняў, то начальства з вучылішча было абавязана дазваляць ім утрыманне вучняў не інакш, як па прад'яўленні такімі гаспадарамі ад мясцовых паліцэйскіх упраўленняў пасведчання ў палітычнай іх добранадзейнасці. Калі ж у іх кватэры будуць адбывацца якія-небудзь недазволеныя сходы або змовы, то гаспадар кватэры пад страхам штрафу ў 50 рублёў срэбрам за кожнага, які знаходзіцца ў яго на кватэры вучня, быў абавязаны паведаміць пра гэта ў паліцыю [62, с. 54-56].

9 ліпеня 1864 года ваўкавыскі ваенны начальнік паведаміў павятоваму спраўніку аб вучню Варшаўскай гімназіі Стэфане Зомеру, які з дазволу намесніка Каралеўства Польскага быў звольнены на канікулы ў вёску Зэльзін Ваўкавыскага павета. Спраўніку загадвалася падчас канікулаў ажыццяўляць за згаданым гімназістам строгі нагляд. Пры вяртанні яго назад у Варшаву спраўніку варта было данесці аб гэтым ваеннаму начальніку, каб той у сваю чаргу данёс пра гэта начальніку губерні [86, с. 32].

Другі падобны загад памочніка павятовага спраўніка маёра Гарбатоўскага быў накіраваны прыставу 4-га стана 17 ліпеня 1864 года. У ім над вучнямі Гродзенскай гімназіі, звольненымі на канікулы, прапаноўвалася замацаваць строгі паліцэйскі нагляд. Пры гэтым прыкладваўся спіс вучняў:

1. Грэнкевіч Эдмунд у Рэплю да бацькоў, вучань 1-га класа
2. Рушчыц Міхась у Нямейкі да дзядзькі, вучань 4-га класа
3. Вяржбіцкі Баляслаў да бацькоў у Рэплю

Акрамя таго, кожнаму з вучняў было выдадзена даручальніцтва:

Грэнкевічу – калежскім рэгістратарам Людвігам Казлоўскім, сваяком

Рушчыцу – тытулярным дарадцам Хадакоўскім

Вяржбіцкаму – Ксаверыем Вяржбіцкім [86, с. 35-36].

Пакаранню падвяргаліся і тыя, хто меў неасцярожнасць пры непажаданых сведках дрэнна выказацца нават пра рускіх. З распараджэння генерала Ганецкага ад 7 верасня 1863 года Казанлі вынікае, што адстаўны ун-

тэр- афіцэр Казімір Сарокін данёс яму ў ліпені месяцы 1863 года пра словы, сказаныя былым старшынёю Роскай воласці Батко яшчэ вясною 1862 года: «Вас, маскалёў, шмат у мястэчку напладзілася. Вас усіх з мястэчка Росі вон паганю». Нягледзячы на тое, што гэтыя словы былі сказаны больш за год таму назад, Ганецкі загадаў былога старшыну Батко пасадзіць пад арышт на два тыдні. Пры гэтым варта было ўнушыць яму належную павагу да рускага салдата [54, с. 41].

Практычных мер для супакойвання насельніцтва, на думку ўладаў, аказалася мала, а таму ўлада прыдумала ідэалагічныя меры, адной з якіх з'явілася падпісанне вернападданіцкіх адрасоў на імя цара. Першы адрас быў адпраўлены цару 27 ліпеня 1863 года з Вільні мясцовым дваранствам. Па ўспамінах памочніка Мураўёва, з канцылярыі Аляксандра Масолава з нагоды дня нараджэння жонкі цара, быў прыём у палацы генерал-губернатара. У гэты дзень віленскае дваранства праз дэлегацыю з 15 чалавек на чале з губернскім маршалкам прасіла Мураўёва прадставіць імператару ліст з выражэннем раскаяння і з заявай вернападданіцкіх пачуццяў. Хвіліна была ўрачыстая. Генерал-губернатар прыняў адрас, падпісаны 230 ганаровымі дваранамі і пагадзіўся прадставіць яго гасудару. Разам з тым нагадаў дваранству, што ім сваімі дзеяннямі варта даказаць аб адрачэнні ад рэвалюцыйнай партыі, што яны маюць намер садзейнічаць ураду для аднаўлення спакою ў краі. Губернскі прадвадзіцель дваранства заявіў пры гэтым, што падпіска на асобных лістах працягваецца па паветах і ідзе паспяхова.

Імператару ў Царскае Сяло неадкладна была адпраўлена тэлеграма з паведамленнем аб гэтай падзеі і са зместам адраса. Сам жа адрас быў адпраўлены ў той жа вечар з ротмістрам Кавалергардскага палка, князем Шахоўскім. Тэлеграмай у той жа дзень быў атрыманы добразычлівы адказ гасудара. Затым праз некаторы час з гэтай нагоды імператар адзначыў генерала Мураўёва міласцівым рэскрыптам, а князь Шахоўскі быў прызначаны флігель-ад'ютантам [26].

20 верасня 1863 года прыйшоў услед вернападданіцкі адрас і ад дваран Гродзенскай губерні, падпісаны 1600 асобамі: «Усеміласцівейшы гасудар! Паўстанне ў Каралеўстве Польскім, на вялікі жаль, адбілася і ў Гродзенскай губерні, з нагоды рэвалюцыйных дзеянняў, якія адбываюцца, краіна ўведзена ў цяжкае становішча, асабліва дваране, якія валодаюць нерухомымі маёнткамі. Складаючы адзінае цэлае і непадзельнае з Расіяй, пад дзяржаўным тваім, гасудар, скіпетрам, дваранства Гродзенскай губерні адхіляе ўсякі ўдзел

у рэвалюцыйных дзеяннях і адважваецца прасіць тваёй, аўгусцейшы манарх, міласэрнасці.

Падвяргаючы лёс наш на ўсеміласцівейшае меркаванне, заяўляем шчыра табе, вялікі гасудар, пачуцці нашай вернападданніцкай вернасці» [69, с. 540].

У верасні 1863 года масавая кампанія па зборы подпісаў пад вернападданніцкімі адрасамі цару пачалася і ў Ваўкавыскім павеце. Сялян у прымусовым парадку збіралі на мірскія сходы, на якіх патрабавалі галасаваць і падпісвацца пад складзеным валасным старшынёю тэкстам з хвалой цара. Святар з амбона вымаўляў малітву за рускіх воінаў, якія змагаюцца з бунтаўшчыкамі, таксама заклікаў паству падпісаць клятвенную паперу ў вернасці цару і айчыне. Мала таго, людзей прымушалі збіраць грошы пацярпелым ад паўстання. Так, 28 верасня 1863 года свецкі прысуд быў пасланы ад сялян усёй Крэмяніцкай воласці: «Мы, ніжэйпадпісаныя, валасны старшыня і стараста, а таксама гаспадары Крэмяніцкай воласці, якія выйшлі з прыгоннай залежнасці, былі сабраны гэтай датай на свецкі сход у наша праўленне. На сходзе аднадушна ўзносілі да Усявышняга Стваральніка цёплыя малітвы аб здароўі Яго Імператарскай Вялікасці за выратаванне нас і радзімы нашай ад бедстваў сапраўднай вайны, напускаемай крамольнікамі. З прычыны гэтага прысудзілі: скласці па гэтым прадмеце сапраўдны прысуд і адрас да Яго Імператарскай Вялікасці, якія з ахвяраванымі грашыма 21 рубля 92 ½ капеек прадставіць ваўкавыскаму павятоваму спраўніку для перадачы такіх да паднясення Яго Імператарскай Вялікасці. У тым уласнаручна падпісалі: старшыня, усе старасты і гаспадары, якія былі на сходзе [24, с. 86].

Падобны ліст 21 лістапада 1863 года быў прыдуманы і Біскупцоўскім сельскім праўленнем за подпісам старшыні Якава Рабазэля. Ліст разам з сабранымі грашыма быў перададзены ваўкавыскаму ваеннаму начальніку. Было ахвяравана 11 рублёў 56 і ½ капейкі, якія прызначаліся сямействам «нявінна і пакутніцка мяцежнікамі забітых, верных слуг царскага трона і айчыны» [88, с. 1].

Падобна на тое, што вернападданніцкія лісты абавязаны былі напісаць усё сялянскія грамады без выключэння. Так, 3 снежня 1863 года Казанлі адправіў гродзенскаму губернатару пяць «усепдданейшых лістоў з выражэннем пачуццяў адданасці да трона і ўрада», напісаных 28 лістапада Ізабелінскай, Лапеніцкай, Галоўчыцкай, Магілёўскай і Вільчукоўскай сялянскімі грамадамі [89, с. 285].

З пакаянным лістом да імператара Аляксандра II звярнуліся жыхары мястэчка Новы Двор, у якім здарылася забойства салдаткі Клары Радкевіч: «Падчас бурнага хвалявання мяцежных палякаў, якія хацелі растаптаць усё для нас дарагое і святое, крамольнікі хлуснёй і каварствам паспелі падмануць і ўцягнуць у свае сеткі некаторых легкадумных асоб з нашага маленькага мястэчка, якое, будучы акружаным з усіх бакоў лясамі, удалечыні ад гарадоў, дзе стаялі войскі, было мяцежнікам прытонам і пунктам пераходу з адной пушчы ў іншую.

... Мы цалкам цяпер ўсведамляем гэтае злачынства, цалкам адчуваем наколькі мы ўхіліліся ад тых абавязкаў, якія ўскладала на нас вернападданніцкая прысяга. Без літасцяў Вашых Гасудар, якія праліваюцца на ўсіх верных Трону і Айчыне, мы бачым сябе ў бязвыхадным і бязрадасным становішчы. Ты надзея наша Гасудар і Айцец наш! [...] Мы ведаем, што сэрца Тваё гатова прыняць усякага грэшніка, які каецца, а таму і асмельваемся каля ног Тваіх, Дзяржаўны Гасудар, маліць аб памілаванні. Па адным слове Тваім мы усе ад малога да вялікага станем грудзьмі за Расію мілую Айчыну нашу і не пашкадуем ніякіх ахвяр, калі каварны вораг надумае зноў падняцца супраць Цябе».

Вернападданіцкі адрас навадворцаў быў падпісаны 8 сакавіка 1864 года. У Вільню яго адвозілі валасны старшыня Мацвей Грушэўскі і Рыгор Ботвіч. 10 сакавіка гродзенскі губернатар загадаў выдаць ім білет на праезд у Вільню.

У гэты ж дзень на Лукішскай плошчы на шыбеніцы загінуў Кастусь Каліноўскі… [90, с. 21].

Лісты з вернападданніцкімі абяцаннямі і спісамі ахвярадаўцаў публікаваліся на старонках «Гродзенскіх губернскіх ведамасцяў». У №1 за 1864 год была змешчана нататка з паведамленнем аб ахвяраванні жыхароў Ваўкавыскага павета на карысць параненых ніжэйшых чыноў і на карысць сямействаў, якія засталіся пасля смерці іх родных, забітых паўстанцамі. Павятовы казначэй Малевіч ахвяраваў 3 рублі, бухгалтар Жаўрыд – 1 рубель 20 капеек, памочнік бухгалтара Абрамовіч – 50 капеек, Антон Пахнеўскі – 30 капеек, Якаў Халецкі – 30 капеек, Жыгімонт Каравай – 60 капеек, журналіст Грынкевіч – 30 капеек, казённыя сяляне Самаровіцкай сялянскай грамады – 20 рублёў 43 капейкі.

Іншы раз у адказ на такія лісты сам імператар выносіў падзяку. Так, у №2 за 1864 год «Гродзенскіх губернскіх ведамасцяў» сялянам Пенюгоўскай і

Зэльвенскай валасцей Ваўкавыскага павета цар «Найвысачэйша загадаў падзякаваць ім за вернападданніцкія пачуцці».

Да мясцовай кампаніі публічнага выяўлення насельніцтвам вернападданніцкіх пачуццяў падключылася і вышэйшая духоўная іерархія Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. 24 верасня гродзенскі губернатар разаслаў па ўсім павеце ваенным начальнікам цыркулярны ліст, якім паведамляў, што М. Мураўёў пераслаў яму ў рускім перакладзе паведамленне рымска-каталіцкай Духоўнай Кансісторыі да паствы Віленскай дыяцэзіі для яго апублікавання. Кожнаму ўезду высылалася па 100 экзэмпляраў гэтага дакумента. Ваенным начальнікам прапаноўвалася прасачыць, каб яно было прачытана з амбона ва ўсіх касцёлах, а таксама ва ўсіх сёлах, вёсках і гарадах у першы ж нядзельны або святочны дзень [54, с. 123].

Не адставалі ад паказнога праяўлення рускага патрыятызму і чыноўнікі Ваўкавыска. Шмат хто выкарыстаў сітуацыю для хутчэйшага прасоўвання па службовай лесвіцы. 4 кастрычніка 1863 года акруговы акцызны наглядчык пісаў да ваўкавыскага ваеннага начальніка: «Кіруемы пачуццём бязмежнай адданасці да ўрада і глыбокага абурэння да палякаў-крамольнікаў, я з прычыны цяперашніх палітычных абставінаў палічыў святым абавязкам прынесці пасільны ўклад на алтар маёй радзімы. Служачыя ў давераным мне ўпраўленні не пакінулі мяне ў гэтым выпадку. Былі сабраны грошы, якія па агульнай нашай згодзе мы вызначылі накіраваць на пакрыццё расходаў ўрада, прычыненых цяперашнім польскім мецяжом.

Адпраўляю пры гэтым азначаныя грошы ў колькасці 293 рублёў 50 капеек са спісам ахвярадаўцаў на залежнае з Вашага боку распараджэнне. Лічу патрэбным дадаць, што для карысці Расіі пры першай патрэбе я аддам усю маю маёмасць і само жыццё. Многія з маіх падначаленых, спадзяюся, не адмовяцца узяць з мяне прыклад. Акруговы наглядчык Мікалай (подпіс неразборлівы)» [51, с. 12].

Хто не жадаў ісці супраць свайго сумлення і адмаўляўся падпісваць такія адрасы, цярпелі рэпрэсіі. Каб не падстаўляцца пад іх, 2 верасня Кастусь Каліноўскі выдаў цыркулярны ліст, у якім заклікаў падпісвацца пад такімі адрасамі. У ім, у прыватнасці, гаварылася: «…адрас, які вымагаецца маскоўскімі ўладамі на карысць цара, не з’яўляецца актам законным і дабравольным, бо здзясняецца канфіскацыяй уласнасці, ссылкамі і самымі жорсткімі праследаваннямі, а подпісы патрабуюцца не ў агульным парадку, а індывідуальна ад асоб, якім пагражаюць турмой, ссылкай і шыбеніцай…

Таму Нацыянальны ўрад верыць, што тыя, хто пад націскам былі або будуць вымушаны падпісаць вернападданіцкі адрас цару, настойлівай працай для айчыннай справы, словам і дзеяннем змыюць з сябе ўяўную ганьбу адступніцтва…» [9, с. 111-112].

Свае вернападданніцкія пачуцці імкнуліся выказаць і данесці да начальства некаторыя яўрэі і нават цэлыя яўрэйскія грамады. Так, 16 верасня 1863 года ваўкавыскі ваенны начальнік даносіў Мураўёву, што яўрэйская грамада даручанага яму горада Ваўкавыска, жадаючы адзначыць вялікі ўрачысты дзень каранавання яго імператарскай вялікасці, раніцай частавала ніжэйшых чыноў войскаў, размешчаных у горадзе Ваўкавыску. Кожнаму салдату давалася па 0,5 фунтаў мяса, адной булцы і па чарцы гарэлкі. Увечары яўрэйскім грамадствам былі праведзены малітвы аб здароўі гасудара імператара [89, с. 56].

У справе пачастунку салдат вызначыўся яўрэйскі купец Хазацкі з мястэчка Лыскава. Ці то ён быў удзячны ваенным за нейкую паслугу па абароне яго ад паўстанцаў, ці то разлічваў сваёй шчодрасцю ўмацаваць свой бізнэс, пра тое дакументы не паведамляюць. Тым больш, падобны пачастунак з боку купца быў і раней. Камандзір 2-й роты Стараінгерманландскага пяхотнага палка, раскватараванага ў гэты час у Лыскава, пісаў з гэтай нагоды ваўкавыскаму ваеннаму начальніку ў рапарце ад 29 студзеня 1864 года. Купец 2-й гільдыі яўрэй Хазацкі, які знаходзіцца ў яго распараджэнні ў мястэчку Лыскава, падчас святога Хрышчэння ахвяраваў на карысць ніжэйшых чыноў 2-й роты і палавіне эскадрону ўланаў Курляндскага палка дзённыя прадукты харчавання на 254 чалавек: 4 вядры гарэлкі, па 1 фунце ялавічыны на кожнага чалавека, па адной белай булцы, 22 фунта сала, 1,5 чвэрці бульбы, 5 чацвярыкоў розных круп, 30 фунтаў солі. Акрамя таго, для ўсіх падрыхтаваў пачастунак каля свайго дома, для чаго накрыў сталы з белым хлебам і гарэлкай. Сам жа купец Хазацкі ў прысутнасці камандзіра ўзяў чарку віна і звярнуўся да ўсіх воінскіх чыноў, абвясціўшы тост за здароўе гасудара імператара і ўсёй аўгусцейшай сям'і. Таксама піў за начальніка краю і ўсіх падпарадкаваных яму начальнікаў. Камандзір 2-й роты прасіў па гэтым выпадку ваеннага начальніка зрабіць са свайго боку прадстаўленне па начальстве за адданасць Хазацкага ўраду і пачастунак усіх войскаў як цяпер, так і падчас паўстання ў 1863 годзе [89, с. 265].

Новыя парадкі з боку расійскай улады з асаблівай строгасцю выявіліся ў дачыненні да рымска-каталіцкага касцёла. Прычым парадкі былі выключна рэпрэсіўнага і дыскрымінацыйнага характару. Дадзеная шырокая тэма разглядаецца аўтарам гэтай кнігі ў асобным даследаванні.

# АДВАРОТНЫ БОК ВАЙНЫ

У час паўстання сярод мясцовага насельніцтва былі тыя, хто спачуваў паўстанцам, нейтральныя і праціўнікі паўстанскага руху. Нельга сказаць, што раскол насельніцтва абвастрыў запал да стану жорсткай грамадзянскай вайны, але прыкметы такой вайны меліся. У звароце кіраўніцтва Літоўскага камітэта да паўстанцаў прамым тэкстам заклікалася да таго, каб пакараць смерцю тых людзей з ліку ўлады або мясцовых жыхароў, якія з'явяцца «шкоднымі для народнай справы», а таксама знішчаць шпіёнаў і даносчыкаў. Для карных мер камандзірамі паўстанцаў вылучаліся невялікія спецыяльныя атрады.

Экстрэмальная сітуацыя, якой з,яўляецца вайна, змушае абодва бакі, якія ваююць, звяртацца да надзвычайных і недазволеных учынкаў, нават калі гэта будзе расправа над палоннымі або мірнымі грамадзянамі. Робіцца гэта па дзвюх асноўных прычынах: для запалохвання насельніцтва і дзеля звычайнай помсты. Не было выключэннем і паўстанне 1863 года, калі з абодвух бакоў, якія варагавалі, хапала неапраўданага насілля.

Першым, хто здзейсніў масавае і асабліва жорсткае забойства палонных, што прыраўноўваецца да воінскіх злачынстваў, быў камандуючы войскамі ў Гродзенскай губерні генерал-лейтэнант Манюкін. У пачатку лютага 1863 года частка войскаў у колькасці 2000 чалавек пад яго камандаваннем знаходзілася ў мястэчку Цехановец Гродзенскай губерні, размешчаным каля мяжы з Каралеўствам Польскім. Тут Манюкін атрымаў вестку, што за пяць кіламетраў ад Цеханоўцаў у мястэчку Семятычы знаходзіўся атрад паўстанцаў колькасцю каля 1500 чалавек. Увечары 6 лютага паміж мястэчкам Цехановец і вёскай Чартаева адбылася адна з самых вялікіх бітваў у гісторыі паўстання, у якой з боку царскіх войскаў ужывалася артылерыя. Поле бітвы засталося за паўстанцамі. Па сцвярджэнні паўстанцаў было забіта 260 рускіх, захоплены вялікія трафеі, у тым ліку 4 гарматы. Паўстанцы страцілі забітымі 63 чалавека і 26 атрымалі цяжкія раненні. У ноч на 7 лютага параненыя былі перавезены ў двор маёнтка памешчыка Фенча каля мястэчка Цехановец. З параненымі засталося некалькі дзясяткаў паўстанцаў, разлічваючы днём перавезці іх у больш бяспечнае месца. Аднак Манюкін апярэдзіў паўстанцаў, нечакана з'явіўшыся раніцай у Цехановец. Даведаўшыся пра параненых паўстанцаў, ён загадаў сваім афіцэрам спаліць

дом. Каб ніхто з іх не выбраўся, пад кожнае акно загадаў паставіць салдат са штыкамі, якія калолі кожнага, хто набліжаўся да вокнаў. Пяць чалавек, якія здолелі вылезці на вуліцу, салдаты закалолі штыкамі, а іх цела кінулі ўнутр пылаючага дома.

На гэтым злачынстве Манюкін не спыніўся. У той жа дзень 7 лютага, разрабаваўшы маёнтак Фенча, войска пад яго камандаваннем з'явілася перад мястэчкам Семяцічы. Атрад паўстанцаў, які ў ім знаходзіўся, зрабіўшы некалькі стрэлаў па праціўніку, адступіў пад абарону бліжэйшага лесу. Салдатам, якія ўступілі ў яўрэйскае мястэчка, Манюкін дазволіў «пагуляць», што ў перакладзе на звычайную мову азначала рабаваць. Пасля «гулянкі», падчас якой было застрэлена дзевяць чалавек яўрэяў, генерал-лейтэнант Манюкін загадаў казакам падпаліць мястэчка. Згарэла 300 двароў, што склала большую частку мястэчка. У агні загінула яшчэ некалькі ні ў чым невінаватых жыхароў [49, с. 13-21].

Між тым, выканаўцаў смяротных прысудаў сярод паўстанцаў царская ўлада адносіла да ліку самых небяспечных, прзвалі іх «жандарамі-вешальнікамі», або «кінжальшчыкамі». Самым вядомым «вешальнікам» у Гродзенскай губерні, па вызначэнні уладаў, быў адстаўны падпалкоўнік царскай арміі Аляксандр Лянкевіч, за што быў завочна прысуджаны да смяротнага пакарання. Лянкевічу пашанцавала – ён не трапіў у рукі рускім уладам, апынуўшыся ў эміграцыі. Як жорстка распраўляліся царская ўлада з «вешальнікамі» можна меркаваць на прыкладзе забойства паўстанцамі святара Данііла Канапасевіча з мястэчка Багушэвічы Ігуменскага павета Мінскай губерні. За тое, што ён быў павешаны на варотах уласнага дома, чатырох чалавек палявы ваенны суд прыгаварыў да расстрэлу, а аднаго да катаржных прац. Аднак па распараджэнні генерал-лейтэнанта В.І. Заблоцкага, які сцвярджаў прысуд, тром з асуджаных да смяротнага пакарання расстрэл быў заменены на павешанне з выкананнем прысуду там, дзе быў павешаны святар. Пазней трапіў пад суд яшчэ адзін удзельнік забойства, пакараны смерцю ў Мінску ў студзені 1864 года Такім чынам – за адну смерць панеслі смерць чатыры чалавекі [91, с. 27-58].

Адзначым той факт, што забойствы праваслаўных святароў не прынялі масавы характар. Усяго ў час паўстання загінулі 3 святары. Трэба аддаць «належнае» і расійскай уладзе, калі па прыгаворы суда і са згоды генерал-губернатара Мураўёва ў заходніх губернях былі пакараны 7 ксяндзоў, а яшчэ 177 былі высланы на пасяленне ў Сібір. Менавіта ў вайне Мураўёва

з ксяндзамі найбольш за ўсё раскрылася сутнасць яго антычалавечай натуры, куды страшнейшая, чым у тых жа «жандараў-вешальнікаў». Звычайна ксяндзоў абвінавачвалі ў антыўрадавай агітацыі, а таму часам каралі смерцю ад імя дзяржавы за іншадумства, што з'яўляецца найвялікшым злачынствам. Так, з данясення палкоўніка Лосева аб расстрэле ў горадзе Ліда Віленскай губерні вынікае, што ксёндз Лідскага павета Райманд Зямацкі і памешчыцкі сын Альберт Ляскавіч былі абвінавачаны ў чытанні сялянам маніфеста і ў падбухторванні да паўстання. Па загадзе генерал-губернатара Мураўёва 24 мая 1863 года ў 11 гадзін раніцы на базарнай плошчы абодва былі расстраляны.

У час руху асуджаных на месца пакарання сабралася шмат народу, асабліва жанчын, якія крычалі, плакалі і трацілі прытомнасць [69, с. 524].

Нельга сказаць, каб зварот Літоўскага камітэта з нагоды пакарання ворагаў паўстання знайшоў шырокае прымяненне на тэрыторыі Ваўкавыскага павета, але ахвяры былі. 15 мая 1863 года ваўкавыскі ваенны начальнік падпалкоўнік Калакольцаў загадаў ваўкавыскаму спраўніку скласці спіс ахвяраў пад назвай «Аб пацярпелым народанасельніцтве ад пажару і бунтаўнічых дзеянняў». У спісе гэтым варта было пазначыць:

1. Званне і маёмасць пакаранага.

2. Звесткі, калі, за што і кім ён пакараны, заслугі, аказаныя рускаму войску.

3. Падрабязны стан сямейства пакаранага, якое засталося, узрост, пол, званне, маёмасць.

4. Сродкі да жыцця гэтых сямействаў. Калі гэтыя асобы належаць да часоваабавязаных сялян, то пазначыць, колькі павінны плаціць выкупнога чыншу і ці ёсць у іх дастаткова рук для апрацоўкі зямлі.

Усе гэтыя звесткі былі неабходны для прадастаўлення гэтых сямействаў да матэрыяльнай дапамогі ад казны [92, с. 11].

Складанне спісу працягвалася да 26 жніўня 1863 года. Усяго было зафіксавана 13 выпадкаў помсты паўстанцаў:

1. 22 красавіка на плошчы ў мястэчку Лыскава быў застрэлены настаўнік Лыскаўскага вучылішча Фрыдрых Вышгольц.

2. У вёсцы Жалудчаны 27 красавіка былі спалены ўсе будынкі і маёмасць сялян: Міхаіла Краўчука, Мацвея Дзярнэйкі, Сцяпана Сцепанчука, Язэпа Барташэвіча, Сцяпана Кашлявіна, Міхаіла Пілецкага, Крыштопа Дзярнэйкі, Язэпа Дзярнэйкі, Лявона Ясюкевіча, Івана Краўчука [92, с. 86-91].

3. 2 ліпеня ў лесе каля мястэчка Лыскава быў павешаны селянін Галавіцкай воласці Ігнат Кулеша. Пры ім знойдзена запіска, у якой на польскай мове паведамлялася, што павешаны за здраду дзяржаве.

4. 4 чэрвеня быў павешаны палясоўшчык Дзяшкоўскай дачы Мікалай Горбач, рымска-каталіцкага веравызнання.

5. 5 ліпеня была павешана салдатка (жонка адстаўнога салдата) у Новым Двары Клара Міхайлаўна Радкевіч, рымска-каталіцкага веравызнання.

6. 5 ліпеня быў павешаны адстаўны унтэр-афіцэр Восіп Міхайлаў Грышчук. Пры ім знойдзена запіска на польскай мове, што такая доля напаткае кожнага шпіёна.

7. 20 ліпеня дваровым чалавекам у маёнтку Калядзічы быў забіты адстаўны штабс-ротмістр Фадзееў, 38 гадоў.

8. У вёсцы Дашкевічы 16 жніўня былі павешаны валасны пісар Альбін Валачкевіч (Валчкевіч) і стараста Кандрат Навіцкі (у іншым спісе фігуруе як селянін Іван Навіцкі).

9. У вёсцы Гнезна 18 жніўня былі павешаны пісар Бажок і адстаўны радавы Франц Верабей.

10. У вёсцы Пянюга 22 жніўня была спалена ўся маёмасць Міхаіла Іванова Юхно, Міхаіла Бусько і Мікалая Бусько.

11. У вёсцы Сідоркі з 4 на 5 верасня былі спалены будынкі з маёмасцю дзясятніка Станіслава Цівунчука, Сымона Талстых, Антона Рыбака (сын яго 12 гадоў згарэў падчас пажару), Антона С ... (прозвішча неразборліва), Антона Гаўрыліка, Якава Гаўрыліка, Томаша Гаўрыліка, Івана Шлыка. Дамы былі падпалены за тое, што Станіслаў Цівунчык, Сымон Талстых і Антон Рыбак злавілі каля ваколіцы Карэвічы мяцежніка. Астатнія дамы згарэлі ад агню, які перакінуўся [92, с. 19адв.-21].

12. 17 жніўня ў мястэчку Рось быў павешаны адстаўны фельдфебель Пётр Сцяпанаў Кузьмін, 65 гадоў.

13. Да ліку ахвяраў быў аднесены і святар Свіслацкай праваслаўнай царквы Аляксандр Гамаліцкі, 50 гадоў. 28 мая яго хацеў павесіць атрад паўстанцаў колькасцю 30 чалавек, але святар быў выратаваны ў мястэчку Свіслач настаўнікамі мясцовай гімназіі.

Паспрабуем разабрацца з некаторымі з гэтых выпадкаў асобна.

22 красавіка першай ахвярай паўстанцаў у Ваўкавыскім павеце стаў настаўнік з мястэчка Лыскава Вышгольц. Пацярпеў за данясенне ў Ваўкавыск аб з'яўленні ў Лыскаве паўстанцаў. 24 красавіка 1863 года ваўкавыскі земскі

спраўнік даносіў ваеннаму начальніку, што ў мястэчку Лыскава на плошчы са стрэльбы быў забіты Лыскаўскі парафіяльны настаўнік Вышгольц. Забіты адным з двух паўстанцаў, якія прыбылі ў гэта мястэчка і пасля выстралаў з'ехалі ў Янінскі лес, праз які тады праходзіў атрад паўстанцаў. Янінскі лес ад мястэчка Лыскава знаходзіўся на адлегласці 8 кіламетраў і належаў памешчыку Аляксандру Быхаўцу [93, с. 59].

Застрэліў Вышгальца ў Лыскаве на рынкавай плошчы памешчык Засуліч з паўстанцаў за тое, што выкладаў па-расейску і не зняў партрэты імператарскіх асобаў. Цела ягонае праляжала там тры дні, бо паўстанцы забаранілі чапаць і хаваць забітага пад пагрозай смерці. Толькі на чацверты дзень удава Вышгальца здолела пахаваць мужа на полі за мястэчкам, як загадаў кіраўнік паўстанцкага аддзелу, мясцовы памешчык Здзіслаў Быхавец: «Закапайце там, дзе сабакі скавычуць» [94, с. 168].

Селянін Ігнат Кулеша служыў пры вінакурным заводзе ў маёнтку Хароўшчына. Быў павешаны па даносе, які паступіў паўстанцам ад кіраўніка броварам. За што канкрэтна, незразумела.

Пра акалічнасці забойства адстаўнога штабс-ротмістра Фадзеева вядома з данясення ваеннаму начальніку ад 20 чэрвеня 1863 года камандзіра 3-га батальёна Неўскага пяхотнага палка, штаб якога размяшчаўся ў мястэчку Пескі. У 6 гадзін пасля абеду садоўнік маёнтка Калядзічы ваўкавыскі мешчанін Франц Цыбульскі прыехаў да фон Крэмера ў мястэчка Пескі і расказаў, што дваровы чалавек (камердынер) Нічыпар Ганчарук забіў свайго пана, памешчыка, адстаўнога штабс-ротмістра Фадзеева, параніў яго жонку і запаліў панскі дом. Фон Крэмер адразу пасадзіў 12 чалавек стралкоў на падводы і з 4 казакамі прыскакаў на месца здарэння. На ўсялякі выпадак па трывозе была паднята цэлая стралковая рота, якой было загадана прытрымлівацца ззаду фарсіраваным маршам. Па прыбыцці на месца ў маёнтак Калядзічы фон Крэмер застаў дом, які згарэў дашчэнту. Побач без ног ляжаў згарэлы труп памешчыка Фадзеева. Нічыпар Ганчарук, які здзейсніў забойства, схаваўся ў лесе з шабляй у руках. Параненая жонка Фадзеева з'ехала да памешчыка Алендскага ў маёнтак Мачуліна. Слядоў паўстанцаў выяўлена не было [54, с. 7].

На наступны дзень фон Крэмер выслаў Казанлі іншы рапарт. У ім паведамлялася, што, пераначаваўшы ў маёнтку Калядзічы, раніцай 21 чэрвеня з прыставам 5-га стана і 4 казакамі, а таксама палясоўшчыкам Фёдарам Ганчаруком і Юрыем Андржэеўскім рабіў раз'езд вакол маёнтка Калядзічы. У

лесе Станавіска каля сцяжынкі на адлегласці 3 кіламетры знайшоў чалавека, які вісеў на дрэве і якога палясоўшчыка прызналі за камердынера Нічыпара Ганчарука. Каля іншага дрэва знайшлі вострую скрываўленую без ножнаў кавалерыйскую шаблю. Фон Крэмер загадаў казакам зняць яго, прычым труп быў агледжаны і ніякіх прыкмет гвалтоўнай смерці не знойдзена, а больш было падобна на самагубства. Ганчарук пасля зробленага ім злачынства, уцякаючы ў лес, захапіў з сабою раменныя лейцы, на якіх і вісеў. У кішэнях яго было знойдзена партманэ, якое належала памешчыку Фадзееву, у якім апынулася 55 рублёў крэдытнымі квіткамі і разарваны пацеркавы кашалёк з 24 ½ капейкамі меднымі грашыма і яўрэйскімі маркамі 55 капеек [54, с. 9-10].

З усяго вышэйсказанага можна зрабіць выснову, што забойства памешчыка Фадзеева яго слугой было не чым іншым, як звычайнай помстай, а сам ён не належаў да паўстанцаў. Хутчэй за ўсё слуга здзейсніў забойства ў безразважным парыве, а можа і ў нецвярозым стане. Прыйшоўшы ў сябе пасля зробленага і ўсвядоміўшы наступствы, наклаў на сябе рукі.

У загінулага Фадзеева апынуўся сваяк палкоўнік Фадзееў, які камандаваў палком і займаў пасаду вайсковага начальніка горада Гродна і павета. Ён накіраваў Казанлі пасланне, у якім заклікаў яго прыняць меры да засцярогі маёнтка памешчыка Алендскага, дзе на лячэнні знаходзілася ўдава Фадзеева, ад разграблення паўстанцамі і ад нанясення крыўд параненай удаве суседнімі памешчыкамі [54, с. 16].

Што датычыцца пажару ў вёсцы Жалудчаны, то 27 ліпеня 1863 года Казанлі даносіў губернатару, што пры пажары згарэла 8 сялянскіх хат. Следчым Тулаўскім справа была скончана і прадстаўлена на вырашэнне ў павятовы суд. Са справы бачна, што спачатку агонь з'явіўся на даху хлебнай адрыны селяніна той жа вёскі Міхаіла Краўчука.

У дзень пажару па распараджэнні ваеннага начальніка тамашнія сяляне даставілі з фальварка Рэпелька ў Ваўкавыск прыказчыка Эйсымонта і дваровага млынара. Абодва абвінавачваліся ў дапамозе паўстанцам. Сяляне лічылі, што пажар адбыўся ад падпалу паўстанцамі з-за помсты. Жыхарам вёскі Жалудчаны ад казны было выдадзена дапамога – 495 рублёў [42, с. 84].

Варта сказаць, што вёска Жалудчаны адноўлена на была, а пагарэльцы пабудаваліся ў суседняй вёсцы Залучаны.

Прычына пажару, які ўзнік, расследавалася і ў вёсцы Сідоркі Талачманскай воласці, аб чым 13 верасня ад гарадзенскага ваеннага губернатара

паступіла ўказанне Казанлі. Пры гэтым паведамлялася, што аб пажары губернатару данёс ваўкавыскі павятовы спраўнік. Сяляне Сідоркаў падазравалі ў падпале іх вёскі шляхцічаў ваколіцы Карэвічы, таму што пажар пачаўся з дамоў сялян Станіслава Цівунчыка, Антона і Восіпа Талстых. 1 верасня менавіта яны злавілі аднаго паўстанца і перадалі ўладам, тым больш, што сведкамі таму былі таварышы паўстанца, якія здолелі ўцячы. Па сведчаннях сялян, шляхта ваколіцы Карэвічы вельмі часта прымала ў сябе паўстанцаў. Губернатар Скварцоў з гэтай нагоды пытаўся ў Казанлі, ці не патрабуе ваколіца Карэвічы прыняцця супраць яе асабліва строгіх мер [54, с. 84].

Жыхары ваколіцы Карэвічы, якія наклікалі на сябе падазрэнні ў дапамозе паўстанцам, былі абкладзены грашовай кантрыбуцыяй, пазбегнуўшы куды больш суровага лёсу іншых ваколіц Гродзенскай губерні, калі іх жыхары былі высланы ў Сібір, а самі ваколіцы спалены.

У дачыненні да павешаных людзей у вёсцы Дашкевічы і вёсцы Гнезна аб падрабязнасцях даведаемся з сумеснага рапарта ваеннага начальніка і павятовага спраўніка, пасланага 19 жніўня гродзенскаму губернатару. У ім паведамлялася, што мінулай ноччу ў Дашкевічах паўстанцамі былі павешаны два чалавекі: адстаўны унтэр-афіцэр Альбін Валачкевіч і яго стрыечны брат Кандрат Навіцкі. Валачкевічу ад роду было 54 гады, служыў валасным пісарам у Падароску. Кандрат (па іншых дадзеных Іван) Навіцкі ад роду меў 37 гадоў, служыў сельскім старастам.

У Гнезна былі павешаны таксама два чалавекі: валасны пісар Гнезненскай воласці, адстаўны унтэр-афіцэр Вікенцій Бажок і радавы князя Меншыкава палка Франц Варабей, жыхар вёскі Гнезна, які знаходзіўся ў хатнім адпачынку на лячэнні. Па мясцовым дазнанні аказалася, што атрад у Дашкевічах складаўся з 10 чалавек, а ў Гнезна – з 30 чалавек добра ўзброеных паўстанцаў.

Валачкевіч і брат яго былі павешаны за дастаўку ў горад Ваўкавыск двух паўстанцаў. Бажок – за адданасць ураду, якая выявілася ў яго ўчынках і дзеяннях, а Варабей – за падачу скаргі на няправільнае завалоданне памешчыкам Тарасовічам яго зямлі. Маёнткам Гнезна загадваў брат Канстанціна Тарасовіча, які знаходзіўся ў той час у Варшаве, Уладзіслаў Тарасовіч, памешчык маёнтка Конна, які часта прыязджаў у маёнтак Гнезна. Аднак за адсутнасцю прамых доказаў Уладзіслаў Тарасовіч не быў арыштаваны, хоць ваенны начальнік прапаноўваў губернатару выслаць яго ў Сібір па адным толькі падазрэнні [95, с. 1].

Па справе аб павешаным Пятру Кузьміне з мястэчка Рось па гарачых слядах было праведзена дазнанне, якое ў рапарце за 19 жніўня было дакладзена гродзенскаму губернатару. Пакаранне смерцю адбылося ўначы з 16 на 17 жніўня. Адстаўны фельдфебель Пётр Кузьмін карыстаўся вялікім даверам ва ўладаў, таму што быў прызначаны імі загадваць сельскай вартай. Ён навучаў каравульных вайсковай справе, а на заклік паўстанцаў перайсці на іх бок адказаў адмовай.

Караліна Шаўчукова, родная сястра Кузьміна, расказвала дазнаўцам, што яе брат Кузьмін прыехаў з мястэчка Мсцібава 16 жніўня ў 11 гадзін вечара і лёг спаць у адрыне. А другой гадзіне ночы нехта падышоў да хаты, пастукаў у акно і спытаў па-польску, ці не жыве тут Кузьмін. Потым знайшлі спячага Кузьміна і забралі яго з сабою на плошчу, дзе і павесілі на таполі. Пасля паўстанцы пайшлі на двор да ксяндза Роскага касцёла, які іх прыняў у доме. Да Караліны даносілася іх гучная размова і рогат.

Анэля Пракапчук, пляменніца Кузьміна, паказала, што калі паўстанцы вялі Кузьміна, то гаварылі з ім, што пойдуць аглядаць варту, а пасля абвясцілі, што яго неабходна павесіць як начальніка варты.

Сельскія каравульныя і Якуб Казак, Томаш Макоўскі, Міхаіл Кашуля, Гаўрыіл Казак і Антон Жук, якія стаялі каля рагаткі, засведчылі, што паўстанцы колькасцю 8 чалавек, узброеныя стрэльбамі і пісталетамі, з'явіліся раптоўна з двух бакоў з саду двара Патоцкага. Яны акружылі 7 чалавек каравульных, што стаялі каля рагаткі, загналі іх у будку і паставілі каля яе двух сваіх вартавых. Іншыя 6 чалавек пайшлі ў мястэчка і зайшлі ў карчму. Гаспадар карчмы яўрэй Сроль Лампер свяціў ім і паказваў, дзе стаяць коні сельскай варты. Паўстанцы ўзялі 8 коней і выправіліся да цэнтра мястэчка.

Кіраўнік маёнткам графа Патоцкага Попэ паказаў, што нічога не чуў і не бачыў.

Следству ўдалося высвятліць, што за суткі да нападу на Роскі каравул з 15 на 16 жніўня тры ўзброеныя паўстанцы былі ў двары суседняга маёнтка Мачуліна. Па паказаннях карчмара Беньяміна Вельфы, яны пілі віно, за якое плаціў сын эканома таго двара Іван Альшэўскі, які даўно быў звязаны з паўстанцамі і наведваў свайго бацьку. Сяляне вёскі Мачуліна хацелі злавіць паўстанцаў, але яны схаваліся.

19 жніўня стараста вёскі Мачуліна прывёў сына мачулінскага эканома Івана Альшэўскага. Па словах Альшэўскага, ён з'явіўся да старасты з

выяўленнем пакоры і абвясціў, што добраахвотна пакінуў атрад паўстанцаў. Аднак на самай справе хацеў схавацца.

У мястэчку Рось на карысць сямейства Кузьміных быў накладзены штраф па 5 рублёў срэбрам на дом. З маёнткаў Рось і Мачуліна былі забраны па 4 каня замест забраных паўстанцамі. З сялянскай грамады вёскі Мачуліна за несвоечасовае данясенне аб з'яўленні паўстанцаў было спагнана па 50 капеек срэбрам з двара на карысць сямейства Кузьміных [95, с. 2-6].

Акрамя таго, па справе Кузьміна былі арыштаваныя ксёндз Роскага касцёла Гіляр Ракаўскі, карчмар Сроль Лампер, эканом мачулінскага маёнтка Альшэўскі (за тое, што своечасова не паведаміў аб з'яўленні паўстанцаў) і былы пісар Роскага валаснога праўлення Леанеўскі. Справа была перададзена ў ваенна-следчую камісію [95, с. 7].

10 красавіка 1864 года ксёндз Гіляр Ракаўскі быў вызвалены з-пад арышту пад паручыцельства. Селянін Іван Альшэўскі быў адпраўлены ў Тульскую арыштанцкую роту [95, с. 37].

5 ліпеня 1863 года ў мястэчку Новы Двор была павешана жонка адстаўнога салдата Клара Міхайлаўна Радкевіч. Гэтая смерць пацягнула за сабой шэраг пакаранняў, у тым ліку быў асуджаны былы станавы прыстаў Аляксандр Гарковіч.

11 мая 1864 года адбыўся ваенна-палявы суд над Аляксандрам Гарковічам, 43 года. На дзяржаўную службу Гарковіч уступіў пісцом у гродзенскае губернскае праўленне ў 1838 годзе, жанаты, меў дзяцей. Разам з ім судзілі 10 сялян з мястэчка Новы Двор: Антона Грушэўскага, 38 гадоў; Міхаіла Ганчарэвіча, 70 гадоў; Восіпа Грушэўскага, 30 гадоў; Франца Раманоўскага, 38 гадоў; Лаўрэнція Шаршунова, 50 гадоў; сына Шаршунова – Лаўрэнція, 20 гадоў; Франца Шэрынга, 30 гадоў; Станіслава Грушэўскага, 70 гадоў; Фёдара Кулікоўскага, 50 гадоў; Франца Ярашэвіча, 35 гадоў.

Некалькі чалавек з падсудных, уключаючы прыстава Гарковіча, праходзілі па адной справе аб павешанні паўстанцамі жонкі адстаўнога салдата Радкевіча. Астатнія падсудныя абвінавачваліся ў дапамозе паўстанцам. Са следчай справы вынікае, што ўсе згаданыя падсудныя, за выключэннем прыстава Гарковіча, Раманоўскага і абодвух Шаршуноў, былі праваслаўнага веравызнання.

6 ліпеня 1863 года прыстаў Гарковіч данёс ваўкавыскаму павятоваму спраўніку, што ўначы з 4 на 5 ліпеня солдатка Клара Радкевіч, якая пражывала ў мястэчку Новы Двор, была павешана ў той час, калі яе муж, адстаўны ра-

давы, знаходзіўся ў горадзе Ваўкавыску. Між тым, адстаўны радавы Радкевіч, з'явіўшыся 6 ліпеня да вайсковага начальніка Ваўкавыскага павета Казанлі, паказаў, што яго жонка была павешана паўстанцамі, якія знаходзіліся каля Новага Двара ў лесе. У мястэчка яны прыйшлі 5 ліпеня, але колькі менавіта чалавек, Радкевіч не ведаў. У той час яго не было дома, таму што, папярэджаны яўрэем з Новага Двара, схаваўся. Падсудны Гарковіч, ведаючы пра ўкрывальніцтва паўстанцаў у лесе паблізу Новага Двара, не данёс пра гэта начальству.

У верасні 1863 года падчас следства паўстанец з атрада Влодка Севярын Пацэвіч на допыце згадаў, што ў Новым Двары па загаду камандзіра атрада была павешана «нішчая жанчына». Пацэвіч не здолеў растлумачыць прычыны гэтага забойства, але прыпомніў, што сярод забойцаў знаходзіўся паўстанец Кісялеўскі. Наогул, паказанні былых паўстанцаў ствараюць вобраз Влодка як аднаго з найбольш жорсткіх камандзіраў. Той жа Пацэвіч прыгадаў, што паўстанцы Влодка ў Пінскім павеце павесілі адстаўнога салдата і селяніна, якія лавілі інсургентаў. У вёсцы Котра Пружанскага павета імі быў павешаны святар. Дарэчы, у забойстве святара, паводле Пацэвіча, таксама ўдзельнічаў Кісялеўскі.

Пытанне пра матывы забойства Клары Радкевіч застаецца адкрытым. Сцвярджэнне Радкевіча, што паўстанцы прыйшлі з мэтаю забіць яго, Севярын Пацэвіч адверг. Ён засведчыў, што жанчына была павешаная па загадзе Влодка [96, с. 76].

Пры вядзенні следства адстаўны радавы Восіп Радкевіч паказаў, што ўначы 4 ліпеня ён выпадкова даведаўся аб меркаваным прыходзе ўвечары надыходзячага дня ў мястэчка Новы Двор атрада паўстанцаў. Паўстанцы праследвалі яго за давер ўраду і за тое, што ў гутарках ён неаднаразова асуджаў іх. Таму ён вырашыў схавацца. Мяркуючы, што яго жонцы паўстанцы нічога не зробяць, ён развітаўся з ёю, пакінуўшы разам з ёй дачку. Сам, калі пачало змяркацца, разам з сынам Іванам адправіўся ў карчму яўрэя Лейзера Когана, якая знаходзіцца на адлегласці 1 кіламетр ад мястэчка Новы Двор. Раніцай яўрэй Лейзер Коган улез да яго на гарышча і абвясціў, што жонку яго палякі павесілі, пра што ён Лейзер даведаўся ад іншага – хлопчыка яўрэя Еля, які прыходзіў да яго пасвіць каня. Пачуўшы пра гэта, Радкевіч схаваўся з карчмы ў кусты, паслаўшы дадому свайго сына, які быў пры ім, даведацца аб тым, што здарылася. Калі сын вярнуўся, дык расказаў, што паўстанцы яшчэ знаходзяцца ў Новым Двары і што яго жонка сапраўды павешана. Калі

ж ён вяртаўся назад, праходзячы міма млына Раманоўскага, то з яе выскачыў і пагнаўся за ім адзін паўстанец, аднак ён паспеў схавацца паміж будынкамі. Пачуўшы пра гэта, Радкевіч з сынам адправіўся ў Ваўкавыск шукаць абароны ў начальства.

Агаф'я Радкевіч, дачка 8 гадоў, расказала следству, што, прачнуўшыся ноччу ад плачу маці, яна ўбачыла чатырох паўстанцаў, адзін з якіх трымаў маці за руку, а другі шукаў вяроўку. Не знайшоўшы яе, разарвалі кавалак палатна, а астатнія паўстанцы прынеслі казлы, прыставілі іх да дрэва і павесілі на ім маці. Пасля чаго адправіліся ў свіран і там забралі 5 пудоў сала і сухары ў мяшках.

Яўрэй Коган аб'явіў, што паўстанцы даволі часта бываюць у мястэчку, асабліва ўначы, прыходзячы за харчамі, але ад каго атрымліваюць такія, не ведае, бо жыве за мястэчкам. Аднак мяркуе, што наогул жыхары мястэчка маюць зносіны з паўстанцамі.

Станавы прыстаў Гарковіч быў абвінавачаны ў няправільным данясенні аб павешанай салдатцы Радкевіч, як быццам бы сяляне яму расказвалі, што яна павесілася сама на сваім двары. І калі гэта здарылася, то паўстанцаў у мястэчку не было. Між тым, павятовы спраўнік паказаў, што па праведзеным ім на месцы дазнанні выяўлена, што атрад паўстанцаў сапраўды знаходзіўся ў Новым Двары ў той дзень, калі была павешана салдатка. Пры гэтым спраўнік сведчыў аб розных недаглядах Гарковіча па службе і ў доказ яго нядобранадзейнасці прадставіў копію з прадпісаннем былога ваеннага начальніка Ваўкавыска маёра Духноўскага да былога пісьмавода падсуднага Гарковіча ад 28 красавіка 1863 года. У прадпісанні пісьмаводу загадвалася ўступіць на пасаду станавога прыстава 2-га стана замест Гарковіча, таму што прыстаў Гарковіч быў ім арыштаваны за пакрывальніцтва паўстанцаў. Аднак у той раз Гарковіч здолеў апраўдацца і пазбегнуць пакарання.

Палявы ваенны суд, які адбыўся 11 мая 1864 года, абвінаваціў падсуднага Гарковіча ў ілжывым данясенні па справе аб павешанай салдатцы Радкевіч, а таксама аб неданясенні начальству пра паўстанцаў, чым навёў на сябе падазрэнне ў саўдзеле з імі. У выніку Гарковіча прысудзілі да высылкі ў аддаленыя губерні Расіі.

Усе астатнія навадворскія сяляне былі прыцягнуты да суда па ўказанні Радкевіча як памагатыя паўстанцаў. Прамыя доказы ў суда былі толькі супраць млынара Франца Раманоўскага, які малоў на сваім млыне крупы і адвозіў іх паўстанцам на сваіх конях. Сам Раманоўскі поўнасцю ўсё

адмаўляў. Астатнія ж сяляне, па словах Радкевіча, дрэнна да яго ставіліся за тое, што не кантактуе з імі і не дастаўляе, як яны, прадуктаў паўстанцам. Запытаныя па справе некалькі сялян з Новага Двара паказанняў ні на каго са сваіх аднавяскоўцаў не далі і толькі сказалі, што калі і прыходзілі паўстанцы ў мястэчка, то прадукты забіралі ў сялян сілком.

Быў дапытаны і святар Навадворскай царквы Марцін Пракаповіч, які сказаў пра сялян Антона Грушаўскага, Міхаіла Ганчарэвіча, Восіпа Грушаўскага і Франца Раманаўскага, «што яны маюць нешта агульнае з мяцежнікамі». Той жа святар паказаў, што паўстанцы былі ў Новым Двары ў 10 гадзін раніцы, што адмаўлялі арыштаваныя сяляне. Следчая камісія прызнала сялян вінаватымі. Уражвае фармулёўка віны сялян: «упартае адмаўленне» сялянамі з'яўлення паўстанцаў у Новым Двары ў 10 гадзін раніцы. Акрамя таго, яны абвінавачваліся «за падгавор мяцежнікаў павесіць Радкевіча».

Па паказаннях Радкевіча абодвух сялян Шаршуноў судзілі за тое, што яны ў сябе дома прымалі паўстанцаў. У сваё апраўданне Шаршуны казалі пра наведванне іх паўстанцамі адзін раз і што хлеб і сала былі ўзятыя ў іх сілаю, таму што паўстанцы былі пры зброі. Суд прысудзіў сялян Грушэўскага, Ганчарэвіча, Раманоўскага і Шаршуноў да пазбаўлення правоў на маёмасць і аддачы ў арыштанцкія роты грамадзянскага ведамства кожнага на два гады. З прысудам суда пагадзіўся і губернатар Скварцоў, аднак у дачыненні да 70-гадовага Міхаіла Ганчарэвіча палічыў магчымым змяніць пакаранне і саслаць яго ў адну з бліжэйшых губерняў Сібіры.

Сялян Франца Шэрынга, Станіслава Грушэўскага, Фёдара Кулікоўскага і Франца Ярашэвіча судзілі па даносе яўрэяў Янкеля Келера і Гірша Ляйбовіча. Яўрэі паказалі паручніку Адамаву, які праходзіў са сваёй ротай у пачатку верасня 1863 года праз Новы Двор, што Шэрынг з'яўляўся праваднікам у паўстанцаў, а Грушэўскі, Кулікоўскі і Ярашэвіч дастаўлялі ім правіянт. Усе сяляне начыста адмаўлялі сваю віну, прыводзячы свае довады. Суд прыйшоў да высновы, што яны невінаватыя, аднак Мураўёў пасля азнаямлення са справай загадаў выслаць усіх чатырох у Сібір.

Да ўсёй гэтай гісторыі варта дадаць, што, знаходзячыся ў зняволенні каля 10 месяцаў, былы станавы прыстаў Гарковіч сур'ёзна падарваў сваё здароўе. Будучы ў маі 1864 года адпраўленым па этапе ў Сібір у Табольску губерню, памёр у перасыльнай маскоўскай турме [97, с. 1-136].

Між тым, несумненную цікавасць уяўляе асоба адстаўнога салдата Восіпа Радкевіча, якую даследаваў гродзенскі гісторык Алесь Смалянчук.

Восіп Астаф'евіч Радкевіч нарадзіўся на Палессі ў Кобрынскім павеце ў 1818 або 1819 годзе. Трапіў пад рэкруцкі набор і стаў салдатам расійскага войска. У 1847 годзе ён па стане здароўя быў адпраўлены ў адстаўку. У гэтым жа годзе з'явіўся ў Новым Двары як інвалід, які знаходзіўся на ўтрыманні гродзенскага прыказу Таварыства грамадскай апекі. У дакументах Радкевіча часта называюць «сляпым інвалідам». Аднак уся гісторыя канфлікту ў Новым Двару сведчыць, што сляпым адстаўны салдат не быў [96, с. 41].

Па складзе свайго характару Радкевіч быў не толькі авантурыстам, але вылучаўся агрэсіўнасцю і нават часта «распускаў рукі», што наводзіла на думку аб сімуляцыі яго здароўя. Сам Навадворскі, праваслаўны святар, ахарактарызаваў Радкевіча як «чалавека з неспакойным характарам і п'яніцу».

Далей Алесь Смалянчук расказвае пра Радкевіча: «22 ліпеня 1852 года ён ва ўзросце 33 гады ўступіў у шлюб з мяшчанкай мястэчка Новы Двор 30-цігадовай Кларай Міхайлаўнай Катkоўскай, якая таксама не належала да карэнных жыхароў. Метрычныя кнігі сведчаць, што Радкевіч жаніўся на ней, калі яна была ўжо цяжарнай. У лістападзе 1854 года жонка атрымала права апекі над сваім мужам у сувязі з яго хваробай, што, хучэй за ўсё трэбо было зрабіць каб атрымліваць нейкія казённыя грашовыя выплаты.

Авантурны і нават крымінальны характар адстаўнога салдата выявіўся пасля забойства ягонай жонкі. Следства над ім, якое ў 1867-1868 гадах вёў Гродзенскі крымінальны суд, высветліла, што Восіп Радкевіч пачаў шантажыраваць новадворцаў, заяўляючы ім, што калі захоча, то адправіць іх у Сібір і нават пагражаў падпаліць мястэчка. Але найбольш палохала новадворцаў пагроза паведаміць Радкевічам начальства пра адсутнасць у рэвізскіх кнігах некаторых хлопчыкаў, народжаных пасля 1854 года, што было зроблена, каб зменьшыць падушны падатак. За маўчанне Радкевіч патрабаваў ад аднасяльчан 500 рублёў, што на той час былі вельмі вялікія грошы, за якія можна было купіць каля 25 кароў. Жыхары сабралі толькі 300 рублёў, а таму Радкевіч пачаў патрабаваць аказання яму цэлага шэрага паслуг: дастаўляць дровы, сена, хлеб, даваць пры патрэбе падводу з канём і работнікаў.

Суд вынес сваё рашэнне ў лютым 1868 года. Радкевіч не панёс ніякага пакарання, бо яшчэ раней вярнуў грошы суду, і па рашэнню суда яны былі вернутыя сялянам, а самі сяляне не дамагаліся, каб за гэта яго асудзілі. Апошні раз у дакументах Восіп Радкевіч узгадваецца ў 1881 годзе, а да гэтага ён яшчэ шмат «папіў крэві» аднасяльчанам, чаму і апынуўся ізгоем сярод новадворцаў. Аб гэтым і дагэтуль памятаюць нашчадкі тых жыхароў» [96, с. 43-49].

У Ваўкавыскім павеце паміж паўстанцамі і праваслаўнымі святарамі быў зафіксаваны ўсяго адзін канфлікт. Даследчык Гродзеншчыны гісторык Яўстафій Арлоўскі з гэтай нагоды пісаў у 1903 годзе, што за некалькі тыдняў да прыходу паўстанцаў у Свіслач на вуліцах мястэчка раскідваліся пагрозлівыя пракламацыі. На дзвярах праваслаўных жыхароў мястэчка, як і асоб, якія не спачувалі паўстанню, з'явіліся выявы шыбеніц з надпісам, хто з жыхароў будзе павешаны і іншае. 17 мая паўстанцы ў колькасці 36 чалавек упершыню з'явіліся ў мястэчку. Мясцовы святар Аляксандр Гамаліцкі ў гэты дзень служыў літургію ў Лашэвіцкай прыпісной царкве, пасля чаго спакойна вяртаўся дадому. Ледзь ён выехаў на сярэдзіну плошчы, як некалькі ўзброеных паўстанцаў перакрылі яму шлях, затрымалі яго коней, а яго самога прымусілі выйсці з воза і павялі на касцельную плошчу, дзе былі сабраны ледзь не ўсе жыхары Свіслачы. Начальнік паўстанцаў звярнуўся да святара з прамовай, у якой папракаў яго ў «распаўсюджванні маскоўскай прапаганды», у супрацьстаянні справе паўстання. Маўляў, яго, Гамаліцкага даўно трэба было выключыць з ліку жывых, але ён, начальнік, змякчае свой прысуд у надзеі, што ў яго з гэтага часу будзе зменены вобраз думак і іншае. Адзін з паўстанцаў разгарнуў паперы, якія ў яго былі, з рэвалюцыйнымі пракламацыямі на рускай і польскай мовах, гучна прачытаў іх народу, што сабраўся, робячы пры гэтым свае каментарыі.

Па прыбыцці ў Свіслач батальёна пяхоты расійскіх войскаў разам з ваенным начальнікам апошні абвясціў жыхарам Свіслачы, што за кожную шкоду, прычыненую святару Гамаліцкаму, будзе адказваць ксёндз і жыхары-каталікі мястэчка, прычым само мястэчка будзе разбурана дашчэнту. Пасля адбыцця войскаў раніцай 21 мая паўстанцы зноў з'явіліся ў Свіслач, выцягнуўшы святара з яго дома і зноў папярэдзілі яго пра адказнасць. Пасля гэтага Гамаліцкі стаў хавацца, але, відаць, і далей працягваў «маскоўскую прапаганду», таму што быў схоплены ў трэці раз і мог быць павешаным на плошчы. Але жыхары мястэчка прасілі паўстанцаў пашкадаваць яго з прычыны абяцанай помсты ваеннага начальніка Казанлі. Па сцвярджэнні гісторыка Арлоўскага, выратавала святара Гамаліцкага толькі тое, што нехта з сабранага натоўпу выгукнуў: «маскалі ідуць!», што прымусіла паўстанцаў уцякаць [98, с. 202-203].

Аднак гэта больш падобна на выдумку, таму што паўстанцы былі далёка не бестурботнымі людзьмі і пры ўваходжанні ў населены пункт заўсёды выстаўлялі караульных. У сваёй справаздачы пра стан царквы і прыхода,

напісанай у 1871 годзе, сам святар Гамаліцкі таксама ўспамінаў пра тыя часы. На зыходзе студзеня 1863 года палове батальёна стралкоў, якія кватаравалі ў Свіслачы, дзеля іх бяспекі пастуміла распараджэнне перасяліцца з сялянскіх дамоў у яўрэйскія. Сяляне гэтым не толькі не засмуціліся, але і заганарыліся такому недаверу ўрада. Аб папроках, перасцярогах і духоўных настаўленнях, якія рабіў Гамаліцкі, сяляне паведамлялі падпольнаму рэвалюцыйнаму свіслацкаму камітэту, які ў падкінутых пісьмах пагражаў пазбавіць святара жыцця. З-за гэтых пагроз на працягу чатырох зімовых месяцаў Гамаліцкі пры суровай атмасферы сыходзіў са свайго дома і хаваўся па ярах, у адкрытым полі і ў царкоўнай вежы.

Па ўспамінах Гамаліцкага, тыя ж свіслацкія прыхаджане падчас паўстання яшчэ больш выказалі сваю нелюбоў да ўсяго рускага праваслаўя і відавочную схільнасць да паланізму, калі з надзвычайнай гасціннасцю і захапленнем сустракалі паўстанцаў, якія зрабілі напад на Свіслач. Яны за некалькі дзён наперад ведалі, што паўстанцы прыйдуць у Свіслач і дзеля іх пачастунка шматлікім ахвяравалі са сваіх гаспадарак, даючы паўстанцам, якія кватаравалі ў іх, розныя прадукты. Калі ж «злачыннае скапленне падбухторшчыкаў пачало апублікоўваць свой ілжэманіфест, то ўсе сяляне ў адзін голас усклікнулі: «Віват!», пры гэтым кідаючы ўверх свае шапкі. Калі ж услед за паўстанцамі на другі дзень у Свіслач прыйшоў атрад рускіх войскаў, то ніхто з сялян не вынес змарнелым паходам і жарою салдатам ні адной шклянкі вады.

Далей Гамаліцкі паведамляў, што ў цяперашні час жыхары Свіслачы, на яго думку, раскайваюцца ў мінулых сваіх злачынных дзеяннях, але не ўсе з іх. Многія і па цяперашні час занятыя думкамі аб ранейшых хітрасцях, а калі і выконваюць што-небудзь для царкоўнай або грамадзянскай улады, то заўсёды з крывадушнасцю, прытворствам, толькі дзеля асабістых сваіх выгод [99].

Святар Гамаліцкі да такой ступені зненавідзеў каталікоў, што самым актыўным чынам з дапамогай дазволеных і недазволеных метадаў прымушаў іх пераходзіць ў праваслаўе. Яго празмернасцяў не вытрымала нават сама расійская ўлада. Па патрабаванні віленскага генерал-губернатара А.Л.Патапава ў 1872 годзе Гамаліцкі быў пазбаўлены Свіслацкай парафіі і на некаторы час наогул адхілены ад службы.

Для пацярпелых ад дзеянняў паўстанцаў гродзенскім губернатарам па ініцыятыве самога Мураўёва была выдзелена грашовая дапамога, якая вы-

давалася сваякам загінуўшых ва ўсёй Гродзенскай губерні. Так, 20 верасня ваўкавыскаму ваеннаму начальніку прыйшло паведамленне, каб губернатару быў высланы спіс тых, якія пацярпелі ад паўстанцаў у яго павеце з пазначэннем ім грашовай дапамогі.

Пры гэтым высылалася 650 рублёў, якія павінны былі атрымаць пацярпелыя [54, с. 114].

Згодна з прыкладзеным спісам дапамогу атрымалі:

1. Жонка настаўніка Лыскаўскага парафіяльнага вучылішча Фрыдрыха Вышгольца – 100 рублёў.

2. Жонка селяніна Галавіцкай воласці Ігната Кулеша – 100 рублёў.

3. Жонка палясоўшчыка (лесніка) Мікалая Горбача – 250 рублёў.

4. Муж за жонку Клару Радкевіч – 100 рублёў.

5. Бацька адстаўнога унтэр-афіцэра Восіпа Грынчука – 100 рублёў [54, с. 115].

Ахвяраванні для пацярпелых ад паўстання збіраліся па ўсёй Расіі. Так, 15 лютага 1864 года камандуючы войскамі Ганецкі паведамляў Казанлі, што 30 верасня 1863 года для дапамогі сялянам і асобам з праваслаўнага духавенства, найбольш пацярпелым у Гродзенскай губерні ад «лютасці і свавольства польскіх мяцежнікаў», ім атрымана 527 рублёў. 58 рублёў з іх прызначаліся для Ваўкавыскага павета. Пры гэтым Ганецкі рэкамендаваў ваеннаму начальніку пры раздачы грошай растлумачыць пацярпелым, што ад Польшчы і Варшавы ім няма чаго чакаць, акрамя смерці і спусташэння, а з усходу, з боку Расіі і Масквы, пасылаецца ім святло, свабода і дабрабыт [85, с. 3-5 ].

Для падліку грамадскіх матэрыяльных страт, панесеных праз паўстанне ў Ваўкавыскім павеце, 7 лістапада 1863 года ваўкавыскі ваенны начальнік Казанлі па ўказанні губернатара накіраваў указанні станавым прыставам. У самы бліжэйшы час патрабавалася прадаставіць Казанлі ведамасці аб стратах, нанесеных паўстанцамі пры знішчэнні грамадскіх збудаванняў, такіх як: мастоў, паромаў і іншых, пабудаваных на капіталы земства, а таксама аб іншых стратах урада ад паўстання з прыблізным падлікам колькасці тых страт [43, с. 6].

25 лістапада ад прystава 1-га стана прыйшоў адказ, што пасля дасканалых роспытаў аказалася, што атрадамі паўстанцаў падобных пашкоджанняў у яго стане прычынена не было [43, с. 5].

Такія ж адказы прыйшлі і ад іншых чатырох прыставаў. Як бачым, паўстанцы не імкнуліся пакінуць пасля сябе выпаленай зямлі. Разбурэнняў і

спалення маёмасці, акрамя згаданых вышэй вёсак, у Ваўкавыскім павеце па віне паўстанцаў не было. Галоўны ж цяжар матэрыяльных страт прыйшоўся на некаторыя памешчыцкія маёнткі і фальваркі, з якіх паўстанцы і расійскія войскі забіралі харч, фураж, адзенне і коней.

У заключэнне главы адзначым, што за час актыўнай дзейнасці паўстанцаў у Ваўкавыскім павеце імі былі пазбаўлена жыцця 10 жыхароў. У 1909 годзе ў Гродне выйшла брашура пад назвай «Пакутнікі і мучанікі за веру праваслаўную і народнасць рускую ў Заходняй Русі, у прыватнасці ў Гродзенскай губерні». Усяго ў ёй зафіксавана 43 выпадкі пакарання смерцю паўстанцамі жыхароў Гродзеншчыны ў 1863 годзе. Па саслоўі з іх былі: святары – 2, мяшчане (настаўнікі) – 2, дваране (прыстаў) – 1, адстаўныя салдаты – 5, сяляне – 33.

Многа гэта ці мала – хай кожны з чытачоў зробіць выснову сам. Ва ўсякім выпадку, палічаная колькасць ахвяр сведчыць аб немалой цярплівасці паўстанцаў да тых асобаў, якія варожа ставіліся да іх. Можна сказаць па-іншаму: для кроўнай помсты з боку паўстанцаў асаблівых прычын не было, таму што большасць жыхароў адносілася да паўстання нейтральна, імкнучыся ні ў што не ўмешвацца, жывучы па прынцыпе «мая хата з краю».

# ВАЕННА-СЛЕДЧАЯ КАМІСІЯ

Арышты людзей, якія падазраваліся ў дапамозе паўстанцам, пачалі праводзіцца ўладамі яшчэ вясною 1863 года са з'яўленнем у Ваўкавыскім павеце першых паўстанцкіх атрадаў. Іх колькасць дасягнула такой велічыні, што следства зацягвалася на доўгія тыдні і месяцы, а таму сваякі арыштаваных пачалі шукаць справядлівасці ў ваеннага начальніка падпалкоўніка Калакольцава. Рапартам ад 6 мая ён паведамляў ваўкавыскаму земскаму спраўніку, што ў гэты дзень да яго прыходзіла шмат сялян са скаргамі. Некаторыя іх сваякі даўно ўжо арыштаваны, а між тым, ніякіх следчых дзеянняў з імі не праводзіцца. Таму Калакольцаў прасіў спраўніка неадкладна прыступіць да разгляду спраў арыштаваных, і хто будзе невінаватым, таго адразу вызваліць. У адваротным выпадку Калакольцаў абяцаў прыняць меры, прадстаўленыя яму па званні ваеннага начальніка [100, с. 40].

Якім чынам было вырашана гэта пытанне – невядома, аднак неўзабаве 20 мая новым ваенным начальнікам быў прызначаны падпалкоўнік Казанлі, які ў дачыненні да арыштаваных і ў цэлым да паўстанцаў заняў непрымірымую і жорсткую пазіцыю. А яшчэ праз месяц, г.зн. 23 чэрвеня 1863 года ў Ваўкавыску была створана ваенна-следчая павятовая камісія па палітычных справах. Камісія з'яўлялася органам папярэдняга следства, якая прымала рашэнне аб ступені віны падследнага. Адной з галоўных задач камісіі таксама з'яўлялася выяўленне і арышт тых удзельнікаў паўстання, імёны якіх ўсплывалі ў ходзе следства. На допытах падследных часта прысутнічаў сам Казанлі, чый подпіс маецца на многіх пратаколах паказанняў дапытваных. Ён жа з'яўляўся і старшынёй камісіі.

Падследныя ўтрымліваліся ў турэмным замку (астрозе), пабудаваным у 1820 годзе. Аб колькасці людзей, якія прайшлі праз дадзеную камісію, перыядычна даносілася гродзенскаму губернатару. Так, па ведамасці на 17 верасня 1863 года з 23 чэрвеня ў камісію паступіла 67 спраў, з якіх следства было скончана па 36 справах і 31 знаходзілася ў працэсе. За перыяд з 17 верасня па 5 кастрычніка паступіла ўсяго толькі 6 спраў [101, с. 2, 5].

Пачынаючы з кастрычніка месяца 1863 года справаздачы следчай камісіі аб разглядзе спраў па палітычных злачынцах пачалі пасылацца губернатару штомесяц. Справаздачная ведамасць складалася з 5 графаў, у якіх

адзначалася: імя, імя па бацьку, прозвішча арыштаванага і колькі гадоў ад роду; з якога часу пад следствам, за што менавіта і па чыім распараджэнні; дзе абвінавачваны ўтрымліваецца пад вартаю; што менавіта на працягу месяца зроблена па разглядзе справы і калі справа не можа быць скончана, то па якіх прычынах, а калі справа прадстаўлена да рашэння, то да каго і калі.

Так, пад нумарам 7 у справаздачы за кастрычнік месяц лічыўся дваранін Іосіф Вікенцьевіч Сімашко, 26 гадоў. Следчая справа на яго была заведзена 24 жніўня па распараджэнні ваўкавыскага ваеннага начальніка. Разам з ім па справе праходзілі ксёндз Коцык, яўрэй Салуцкі і дваранін Стравінскі. У Сімашко і ксяндза Коцыка было знойдзена 20 фунтаў свінцу, а Салуцкі і Стравінскі падазраваліся ў дастаўцы паўстанцам харчоў. Сімашко ўтрымліваўся пад вартаю ў астрозе, а астатнія трое былі адпушчаны па месцы жыхарства пад паручыцельства. Справа да гэтага часу была скончана і прадстаўлена да вырашэння ваеннаму начальніку 11 кастрычніка [101, с. 7].

Усяго за 1863 год па Ваўкавыскім павеце было праведзена 104 следчыя справы. Прычым трэба адзначыць, што па большасці следчых спраў праходзіла больш за аднаго чалавека. Для параўнання прывядзём колькасць спраў, расследаваных усімі ваенна-следчымі камісіямі за той жа перыяд па ўсёй Гродзенскай губерні. Гродзенскай камісіяй было праведзена 136 спраў, Брэсцкай – 154, Кобрынскай – 82, Пружанскай – 133, Сакольскай – 131, першай Бельскай камісіяй – 92, другой Бельскай камісіяй – 217, Слонімскай – 80, Беластоцкай – 299. Усе справы следчымі камісіямі былі разгледжаны на працягу 1-4 месяцаў [102, с. 32адв.-35].

Трэба сказаць, што многія паўстанцы пазбеглі пакаранняў за ўдзел у паўстанні. 26 жніўня цыркулярам начальніка краю, паўсюдна апублікаваным, было абвешчана ўсяміласцівейшае прабачэнне паўстанцам, якія са зброяй добраахвотна з'явяцца да мясцовых паліцыянтаў або ваенных уладаў. Калі на іх не падалі падазрэнні ў здзяйсненні асабліва цяжкіх злачынстваў, то са згоды сялянскай грамады і па прывядзенні да прысягі былыя партызаны вярталіся на ранейшае месцы жыхарства.

Па ўспамінах сакратара Мураўёва Аляксандра Масолава, першая прысяга, прынесеная некалькімі шляхціцамі і адным ксяндзом ў Вільні, была арганізавана з асаблівай урачыстасцю: прэлат Нямекша здзяйсняў літургію ў Свята-Янскім касцёле, на якой прысутнічалі вышэйшыя службовыя асобы. Некаторыя з «заблуджаных» былі ўзрушаны да слёз. Па словах Масолава, добраахвотна вярнуліся з «мецяжу» ў заходніх губернях звыш 3000 чалавек,

якіх адправілі на ранейшае месца жыхарства. Звыш таго да 300 чалавек не былі прыняты сваімі грамадамі на паручыцельства, а таму адпраўлены на размяшчэнне ў сібірскія губерні адміністрацыйным парадкам [26].

Яшчэ да стварэння ваенна-следчай камісіі ў ваўкавыскай гарадской турме ўтрымліваліся падазраваныя ў парушэнні законаў ваеннага становішча. Мясцовы земскі суд быў вельмі загружаны працай, і таму некаторыя з падследных чакалі разбору сваёй справы па некалькі месяцаў. Так, у лютым 1863 года за незаконнае захоўванне паляўнічай стрэльбы быў затрыманы мешчанін Ваўкавыска Антон Радзевіч. Па заканчэнні трох месяцаў, так і не дачакаўшыся суда, яго жонка Кацярына напісала прашэнне на імя гродзенскага губернатара. У заяве Кацярына тлумачыла, што яе муж, мешчанін Ваўкавыска Антон Радзевіч раней знаходзіўся на службе фурманам у былога кіраўніка акцызным зборам па Ваўкавыскім павеце. Цяпер жа ён перайшоў служыць да памочніка наглядчыка піцейнага акцызнага збору 7-й акругі Малахоўскага. Пры ачыстцы стайні знайшоў у гноі пад жолабам дарагое двухствольнае ружжо, якое схаваў у сваім ложку.

Неўзабаве Малахоўскі звольніў Антона Радзевіча, які знойдзеную стрэльбу пакінуў у ложку, а на 8-мы дзень ён быў узяты і пасаджаны ў турму. Па заканчэнні трох месяцаў зняволення Радзевіч ні разу не быў дапытаны. Жонка растлумачвала губернатару, што такую дарагую стрэльбу яны па сваёй беднасці купіць не маглі, а таму віна яе мужа заключаецца толькі ў неданясенні паліцыі аб дадзенай знаходцы.

Пасля арышту мужа Кацярына засталася з пяццю малалетнімі дзецьмі і была пазбаўлена магчымасці забяспечыць сябе і дзяцей. Таму яна «пакорліва» прасіла губернатара загадаць, каму трэба, хутчэй правесці следства, каб захаваць яе і 5 дзяцей ад галоднай смерці, вызваліўшы мужа хоць бы пад паручыцельства [103, с. 2-3]. Граматна і жаласна складзенае пісарам прашэнне дало вынік, і 6 мая 1863 года гродзенскі губернатар напісаў у сваю чаргу прашэнне віленскаму ваеннаму губернатару аб вызваленні Радзевіча на парукі з аддачай пад строгі паліцэйскі нагляд [103, с. 6].

Падобнае прашэнне з турмы 11 снежня 1863 года было пададзена павятоваму спраўніку ад селяніна Гнезненскай грамады Ігната Шаршунова, які без якога-небудзь следства прасядзеў у турме цэлых 9 месяцаў. У сакавіку 1863 года ён быў арыштаваны маёрам фон Крэмерам і заключаны ў ваўкавыскі турэмны замак. За ўвесь гэты час яго ні разу не дапытвалі. «І, як я не маю рашуча нікога такога, – пісаў Шаршуноў, – хто б мог за

мяне пахадайнічаць або абараніць, то асмельваюся звярнуцца пад абарону і заступніцтва Вашага Высокаблагароддзя, як адзінага свайго начальніка і заступніка. Шчыра прашу зрабіць распараджэнне аб вызваленні мяне з-пад арышту і вяртання мяне на радзіму».

Па просьбе Ігната Шаршунова, як непісьменнага, пад прашэннем за яго распісаўся нехта Іван Салаўевіч [88, с. 52].

Пра ўмовы ўтрымання падследных у турэмным астрозе расказваецца ў рапарце павятовага спраўніка ад 7 верасня 1863 года да ваеннага начальніка. З прычыны шматлікай колькасці асоб, якія ўтрымліваліся пад арыштам, у камерах узнікла вялікая задуха, ад чаго лёгка можна было захварэць. Таму спраўнік прасіў Казанлі зрабіць распараджэнне аб размяшчэнні арыштаваных у прасторным доме паручыцы Шчагельскай, які стаяў паблізу ад астрога, і паручыца пагадзілася перадаць яго ў арэнду [80, с. 24].

Па заканчэнні следства справа накіроўвалася ў ваенна-палявы суд, размешчаны ў Гродне, які выносіў прысуд. З вынесеным прысудам знаёміўся гродзенскі губернатар. У многіх выпадках канчатковае рашэнне аб меры пакарання падсудных выносіў непасрэдна сам Мураўёў, які мог зрабіць больш жорсткім або змякчыць пакаранне.

Акрамя ваўкавыскай следчай камісіі, справы жыхароў Ваўкавыскага павета часам разглядаліся гродзенскай або віленскай следчымі камісіямі. Ніжэй прыводзяцца выпіскі з некаторых следчых спраў, якія ўяўляюць сабой найбольшую цікавасць.

# СПРАВА ВЛАДЫЧАНСКІХ

У гісторыю паўстання 1863 года ўнеслі свой уклад многія памешчыкі. Гісторык Алесь Смалянчук піша, што ў Гродзенскай губерні галоўнай сілай паўстання была шляхта, у якой саслоўе ўваходзілі памешчыкі. Так, у гродзенскай турме прадстаўнікі гэтага саслоўя складалі сярод арыштаваных 48,6%. Прычым сярод «мяцежнікаў» аказалася 13 прадстаўнікоў мясцовага чыноўніцтва – ад калежскага асэсара ды надворнага радцы. Мяшчане складалі 7,4%, а духавенства было прадстаўлена толькі двума каталіцкімі ксяндзамі [74, с. 174].

Сярод памешчыкаў у Ваўкавыскім павеце асабліва вылучалася сям'я Фадзея (Тадэвуша) Мамантовіча Владычанскага (1793-1862), з якой удзел у паўстанні прынялі 4 сыны. Таму на сям'ю Владычанскіх звернем асаблівую ўвагу.

Продкі Владычанскіх перасяліліся з ускраін Літвы на тэрыторыю сучаснай Беларусі ў 18-ым стагоддзі, уладкаваўшыся ў Аршанскім павеце. Ад назвы маёнтка Уладычын, у якім жылі перасяленцы, і пайшло прозвішча Владычанскі. У першай палове 19-га стагоддзя галоўная галіна роду Владычанскіх перабралася ў Гродзенскую губерню, у Ваўкавыскі павет [105].

Тут, у Ваўкавыскім павеце, у 1845 годзе Фадзей Владычанскі выкупіў у наследнікаў Фадзея Фаміча Корчыца маёнтак Сядзельнікі плошчай 843 дзесяціны, да якога належалі вёскі Канюхі, Тадросы і Архімовічы. Другую частку маёнтка Сядзельнікі з вёскай Сявашка, якая належала губернскаму сакратару Тамашу Антонавічу Рэвінскаму, у 1849 годзе выкупіла жонка Владычанскага – Іаана Аляксандраўна з дваранскага роду Анікевічаў.

Фармулярны паслужны спіс Фадзея Мамантовіча Владычанскага выглядаў унушальна:

1816.09.6 – па заканчэнні поўнага курса навук у Аршанскім вучылішчы езуітаў быў назначаны ў Полацкую грэка-ўніяцкую кансысторыю канцылярыстам з чынам губернскага рэгістратара;

1819.12.31 – калежскі рэгістратар са старшынствам;

1820.05.24 – сакратар пры полацкім архіепіскапе;

1824.12.31 – губернскі сакратар са старшынствам.

У 1829 годзе выкліканы грамадзянскім губернатарам Мураўёвым у горад Магілёў для навядзення адзінага па губерні канцылярскага парадку і справаводства, дзе ён праявіў сябе асаблівым веданнем і розумам.

1829.12.14 – указам Магілёўскага губернскага праўлення за № 98812 з павагі да руплівасці, дасведчанасці і кемлівасці па службе быў назначаны спраўнікам Бабінавіцкага павета;

1831.04.1 – пераведзены спраўнікам у Капыскі павет;

1832.07.12 – гродзенскі паліцмайстар;

1830.12.31-1834.7.23 – тытулярны саветнік са старшынствам;

1836.11.15-1838.09.29 – калежскі асэсар;

1839.05.19 – звольнены ў адстаўку па ўласным прашэнні;

1840.01.15 – назначаны ў Варшаўскі Будаўнічы камітэт членам па эканамічнай частцы;

1842.05.1 – назначаны ва ўпраўленне Заходняй Інжынернай акругі членам па гаспадарчай частцы;

1841.07.12 – надворны саветнік са старшынствам;

1847.07.12 – калежскі саветнік;

1860.05.23 – па просьбе звольнены ў адстаўку [106, с. 1-6].

Многія з памешчыкаў не былі пастаянна прывязаны да сваіх маёнткаў, а знаходзіліся на дзяржаўнай службе, тым самым прыносячы сваёй сям'і дадатковы заробак. Падчас адной такой службы адны памешчыкі свае маёнткі здавалі ў арэнду на пэўны тэрмін, іншыя наймалі кіраўніка, трэція перадавалі кіраванне гаспадаркай сваім сваякам.

Знаходзячыся з 1840 года на службе ў Варшаве, Фадзей Владычанскі большую частку часу праводзіў па-за сваім домам у Сядзельніках, дзе ў гэты час маёнтак знаходзіўся пад наглядам жонкі Іаанны. Калі ж жонка разам з дзецьмі на некалькі месяцаў у год прыязджала да мужа ў Варшаву, то маёнткам кіраваў наняты кіраўнік. Не ўсё ў гаспадарцы ішло гладка: прыгонныя сяляне, не адчуваючы над сабой моцнай рукі паўнаўладнага гаспадара, часам станавіліся некіруемымі і дзёрзкімі, пачыналі «даказваць» свае правы.

У канцы мая 1860 года, аддаўшы дзяржаўнай службе 45 гадоў, Фадзей Владычанскі па ўласным жаданні быў звольнены ў адстаўку, назаўжды пераехаўшы ў Сядзельнікі. Атрымаць асалоду ад жыцця ў сваім маёнтку сярод сям'і яму перашкодзіла цяжкая хвароба: на наступны 1861 год здарыўся інсульт, у выніку якога былі паралізаваны левыя рука і нага. Не прынесла належнага палягчэння і лячэнне за мяжой у дасведчаных лекараў. Да таго ж на далейшае лячэнне не хапала грошай. Паводле існуючага закона аб пенсіях Владычанскі меў права на атрыманне пенсіі ў памеры поўнага акладу, які ён атрымліваў за апошнія 10 гадоў службы, г.зн. 428 рублёў у год. Нечака-

ная хвароба перашкодзіла своечасова аформіць пенсію, таму да яе атрымання ў кастрычніку 1861 годзе Камітэт Догляду заслужаных грамадзянскіх чыноўнікаў для афармлення фінансавай падтрымкі папрасіў паведаміць Владычанскаму звесткі пра сваё асабістае жыццё. Аднак з-за цяжкага стану ён змог выказаць іх на паперы толькі 15 студзеня 1862 года. У звестках пералічыў узнагароды, якімі яго ўзнагародзіў урад за 45 гадоў бездакорнай службы. Гэта чатыры ордэны: святой Ганны 3-й ступені, святой Ганны 2-й ступені з каронай, святога Станіслава 2-й ступені з каронай, святога Уладзіміра 4-й ступені, знак адрознення бездакорнай службы.

Аб наяўнасці маёмасці паведаміў, што мае маёнтак у Ваўкавыскім павеце, які называецца Сядзельнікі, які складаецца з 1251 дзесяціны зямлі. З гэтай колькасці зямлі з нагоды падараванай сялянам свабоды адышло ў іх незалежнае карыстаннее 515 дзесяцін. Такім чынам, у яго валоданні засталося 736 дзесяцін зручнай і нязручнай зямлі. З прычыны таго, што гаспадарка была трохпольнай, а зямля пасрэднай якасці, то пад азімыя адводзілася 100 дзесяцін, пад яравыя – 100 дзесяцін і 100 дзесяцін заставалася пад парамі. З астатніх 436 дзесяцін частка знаходзілася пад дроўным лесам, хмызнякамі і вадою, а частку зямлі складалі няўдобіцы.

Фадзей Мамантовіч Владычанскі, так і не акрыяўшы ад цяжкай хваробы, памёр 18 красавіка 1862 года. Пасля сябе пакінуў шасцёра сыноў і трох дачок: глуханямога Аляксандра (1826-?), які пасля заканчэння курса навук у Пецярбургскім вучылішчы глуханямых служыў у канцыляры маскоўскага генерал-губернатара; Феафіла (1834-?) – капітана Генеральнага штаба, які служыў старшым ад'ютантам у 2-ім аддзяленні ўпраўлення генерал-кватэрамейстра Каўказскай арміі; Ігната (1836-?) – паручніка корпуса ваенных інжынераў, які служыў у Брэсце; Антона (1843-1863), Восіпа (1842-1884) і Юлія – студэнтаў Беластоцкай гімназіі; дачок Францішку (1837-?) і Мар'яну (1834-?), якія да гэтага часу былі замужам і пражывалі ў Магілёўскай губерні; дзяўчыну Вікторыю (1845-1894), якая пасля заканчэння Марыінскага інстытута ў Варшаве з 1861 годзе знаходзілася пры бацьках у Сядзельніках [107, с. 93-95].

16 жніўня 1863 года ў вёсцы Дашкевічы Падароскай воласці паўстанцамі былі павешаны валасны пісар Валачкевіч і старшыня той жа воласці Навіцкі. Гэта была помста за аддачу злоўленага імі паўстанца ў рукі ўладаў. Ваўкавыскі ваенны начальнік, атрымаўшы аб гэтым выпадку данясенне, прызначыў следства, якое раскрыла наступныя акалічнасці.



Мал.21. Вікторыя Владычаньска. Фатаздымак. Дата невядомая.

Па паказаннях сведак высветлілася, што аднойчы ў двары памешчыцы вёскі Сядзельнікі 64-гадовай Іаанны Владычанскай, калі зайшла размова аб узяцці пісарам і старшынёй паўстанца, то яе дачка 17-гадовая Вікторыя пры сялянах Міхаіле Жмаліку, Іване Прымакову і Іване Гарчычку выказалася: «Я гатовая даць у заклад 100 рублёў, калі праз тры тыдні пісара і старшыню не павесяць». Затым праз месяц пасля гэтай размовы, а менавіта 16 жніўня 1863 года памешчыца Іаанна Владычанская, праязджаючы праз вёску Краскі Падароскай воласці, спынілася каля Падароскага сельскага праўлення. Выклікаўшы адтуль праз свайго фурмана Пратасевіча пісара Валачкевіча, загадала яму ў гэты дзень не адлучацца, таму што хоча пабачыцца з ім на

зваротным шляху. Але пасля гэтага яна не заязджала ў вёску Краскі. Пасля 4 гадзін папаўдні той самай даты атрад паўстанцаў з'явіўся ў вёсцы Краскі і, схапіўшы пісара Падароскай воласці Валачкевіча, адправіўся ў панскі маёнтак вёскі Краскі да аканома Хмялеўскага. Тут, захапіўшы вяроўкі, паўстанцы павялі з сабою Валачкевіча, прыйшлі ў вёску Дашкевічы, у якой сказанага Валачкевіча і брата яго, старасту Навіцкага, павесілі на віду амаль усіх жыхароў.

Жонка павешанага Валачкевіча патлумачыла, што атрад паўстанцаў прыводзіў былы лёкай памешчыка Булгарына з вёскі Дашкевічы селянін Сцяпан Патрэба. Памешчыца Іаанна Владычанская ў сваё апраўданне паказала, што 16 жніўня яна адправілася ў вёску Краскі, каб даведацца ад старшыні, ці паехаў ён у яе маёнтак аддаць сена, забранае сялянамі на яе лугах, але старшыні не было дома. Праязджаючы каля канцылярыі, яна выклікала пісара спытаць пра старшыню. Ён сказаў, што старшыня паехаў у маёнтак аддаць сена. Калі ж Владычанская папрасіла пісара паехаць з ёю ў Сядзельнікі, каб хутчэй вырашыць гэтае пытанне, то пісар сказаў, што прыйдзе пасля таго, як скончыць свае справы. Прыехаўшы дадому ў 10 гадзін раніцы, Владычанская спытала, ці ёсць старшыня, якога не аказалася. Наконт жа закладу, быццам бы прапанаванага яе дачкой, яна палічыла гэта паклёпам.

Сама ж Вікторыя Владычанская патлумачыла на следстве, што адзін раз, калі пісар не хацеў выканаць просьбы яе маці, яна жартам сказала: «Вешаюць ж сумленных людзей, лепш бы павесілі такога клапатлівага». З прычыны супярэчнасцяў паказанняў Вікторыі і трох сялян з іх узялі прысягу і зноў пад прысягай дапыталі. Усе тры селяніна пацвердзілі ранейшыя паказанні. Таму маці і дачка Владычанскія, а таксама фурман Іван Пратасевіч былі арыштаваны і дастаўлены ў Ваўкавыск [108, с. 3-7].

8 верасня 1863 года з лесу добраахвотна з’явіўся да ўладаў адзін з паўстанцаў, які прымаў удзел у забойстве пісара і старшыны – Сцяпан Патрэба. У прысутнасці ваеннага начальніка Ваўкавыскага павета ён паказаў, што мае ад роду 24 гады, веравызнання праваслаўнага, у споведзі і святым прычасці бываў штогод, непісьменны, халасты, часоваабавязаны селянін з маёнтка Краскі памешчыцы Булгарынавай Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні, маёмасці ніякай не меў.

З’яўляўся на службе лёкаем у памешчыкаў у двары Краскі. Падчас адсутнасці гаспадароў дома (яны выехалі зімою за мяжу і яшчэ не вярнуліся)

памешчык Ільдэфонс Хадакоўскі, які жыў недалёка ад Красак за два кіламетры ў маёнтку Харашэвічы памешчыка Шадурскага, падгаварыў яго ісці і далучыцца да атрада паўстанцаў.

У канцы красавіка ён адправіўся ў Лыскаўскі лес, дзе знайшоў ужо сфарміраваны атрад, у якім яму выдалі аднастволавае ружжо. Разам з іншымі паўстанцамі быў прыведзены да прысягі маладым вікарыем, ксяндзом з Лыскава, прозвішча якога не ведае. Бадзяўся з атрадам з месца на месца. Камандзірамі ў ім былі Млотак, Урублеўскі, а таксама памешчык Пётр Радавіцкі.

У пачатку жніўня месяца з атрада была выдзелена невялічкая група з 10 чалавек пад камандаваннем Малевіча і яго намесніка Оспара. У гэты атрад быў прызначаны і Сцяпан Патрэба. Выйшаўшы з лесу, атрад прыйшоў у маёнтак Краскі, дзе старшы атрада Малевіч спыніў усіх каля дома, які стаяў за 1 кіламетр ад двара. У гэтым доме размяшчалася канцылярыя сельскага праўлення. Тут, у сельскага пісара, Малевіч і Оспар распыталі пра пайманне паўстанцаў, у чым пісар абвінаваціў селяніна Емельяна Брыша. З'яўляючыся каравульным на заставе, Брыш затрымаў аднаго паўстанца, а адстаўны салдат збіў таго паўстанца вяроўкаю. Селянін Брыш, сельскі пісар і сельскі стараста Іван Кулік былі затрыманы і ўзяты паўстанцамі пад ахову. Сцяпан Патрэба, які здагадаўся, што траіх затрыманых збіраюцца караць смерцю, пачаў прасіць Малевіча і Оспара не рабіць гэтага. Камандзіры паслухаліся яго часткова: селяніна, пакараўшы некалькімі ўдарамі дубцом, адпусцілі, а да адстаўнога салдата ў вёску вырашылі не ісці.

Пісара і старасту адгаварыць ад пакарання Патрэбу не ўдалося, а сілаю дзейнічаць ён не мог, таму што сам падвергнуўся б смяротнаму пакаранню за здраду. Каб не стаць саўдзельнікам пакарання, Патрэба адышоў ад месца забойства на некалькі соцень метраў. Праз паўгадзіны Малевіч і іншыя паўстанцы завяршылі сваю брудную справу, паведаміўшы Патрэбе, што пісара і старасту павесілі. Пры гэтым атрадныя начальнікі зрабілі яму вымову за ўмяшанне не ў сваю справу і за невыкананне загаду, пастрашыўшы па прыбыцці ў атрад пакараць яго. Баючыся пакарання, Патрэба стараўся збегчы з атрада да вяртання ў лагер паўстанцаў. Яму ўдалося гэта зрабіць, калі праходзілі праз Свіслацкую пушчу. Тыдзень бадзяўся па лясах, не ведаючы, куды яму дзявацца. У Свіслацкім лесе аб'яднаўся з уцекачамі з таго ж атрада, паўстанцамі Восіпам і Людвікам Сасноўскімі ды Іосіфам Бурбою. Усе разам прынялі рашэнне з'явіцца да законнай улады і прасіць прабачэння, для чаго

лясамі рушылі ў накірунку да Ваўкавыска. У верасні прыбылі ў горад, дзе з'явіліся прама да вайсковага начальніка. Па шляху ні да каго не заходзілі, харчуючыся бульбай з палёў [108, с. 585-586адв.].

Владычанскія маці з дачкой прабылі пад арыштам цэлых 8 месяцаў, частку з якіх правялі ў гродзенскай турме. Палявы суд адбыўся 29 красавік 1864 года. З прычыны таго, што ў справе аб павешанні пісара і старасты адсутнічалі выразныя юрыдычныя доказы іх вінаватасці, то суд вырашыў «пакінуць падсудных у моцным падазрэнні». Сцяпана Патрэбу прысудзілі да пазбаўлення ўсіх правоў і ссылцы на катаржныя работы на заводы тэрмінам на 6 гадоў. Селянін Іван Пратасевіч ад суда і арышту быў вызвалены [108, с. 8].

Далей пра лёс Вікторыі даведаемся з апавядання Януша Владычанскага, які цяпер пражывае ў Беластоку, аднаго з нашчадкаў вялікай сям'і Фадзея Мамантовіча Владычанскага. Вікторыю арыштавалі і пасадзілі пад следства ў гродзенскую турму. Тут яна сустрэла Людвіга Пянькоўскага, камісара паўстанцаў у Бельскім павеце, асуджанага судом да пажыццёвай ссылкі. Абодва падалі на імя Мураўёва просьбу аб злучэнні іх шлюбам, на што атрымалі дазвол. Звянчаліся ў турме 13 красавіка 1867 года. У ссылцы Людвіг падпрацоўваў маляваннем партрэтаў. Праз восем гадоў, дзякуючы клопатам сваяка з Пецярбурга, дамагліся дазволу пераехаць у Еўропу: Людвіг – у Варшаву, а Вікторыя – у маёнтку Пянькоўскага Далубава на Падляшшы. Аб'яднацца змаглі праз 4 гады, мелі чатыры сыны і дзве дачкі. Вікторыя памерла ва ўзросце 49 гадоў, а Людвіг праз 11 гадоў пазней. Абодва пахаваны на могілках у Далубаве.

Януш Владычанскі таксама паведаміў, што, акрамя Вікторыі, у паўстанні прымалі ўдзел чатыры яе браты з шасці. Так, Тэафіл (Феафіл) 1834 года нара-джэння, выпускнік Брэсцкага кадэцкага корпуса, у 1856-1857 гадах вучыўся ў Генеральным штабе ў Пецярбургу, адкуль у чыне капітана быў адпраўлены служыць на Каўказ, дзе дaслужыўся да падпалкоўніка. У красавіку 1863 года падаў у адстаўку. Калі пачалося паўстанне, прабраўся на Гарадзеншчыну, дзе змагаўся пад камандаваннем Ануфрыя Духінскага. Меў псеўданім Зарэмба. Пасля паражэння пад Валіламі з групай добраахвотнікаў у колькасці 120 чалавек з Сакольскага павета працягваў барацьбу. Быў адкамандзіраваны Народным урадам у раён Кракава. 30 верасня 1863 года ў бітве пад Мельховым атрады пад кіраўніцтвам Зыгмунта Хмяльніцкага, якія аб'ядналіся, далі бой рускаму войску. У гэтым баі Тэафіл загінуў.

Ігната 1836 года нараджэння паўстанне заспела ў Брэсцкай крэпасці, дзе ён служыў ваенным інжынерам. Далучыўся да паўстанцаў, быў схоплены і высланы ў Сібір. У 1868 годзе пераехаў у Варшаву.

Антон 1843 года нараджэння, студэнт універсітэта, камандаваў аддзелам у атрадзе ў Густава Стравінскага, які ваяваў на тэрыторыі Ваўкавыскага і Слонімскага паветаў. Быў паранены ў баі пад Гутай Міхалінскай у Слонімскім павеце. Памёр ад ран у чэрвені 1863 года.

Іосіф (Восіп), 1842 года нараджэння, студэнт Беластоцкай гімназіі, ваяваў у якасці камандзіра аддзела ў атрадзе Казіміра Кабылінскага ў Гродзенскай губерні. У студзені 1864 года перабраўся з атрадам у Люблінскую губерню. Вымушаны быў эміграваць у Парыж, дзе вывучыўся на інжынера. Пасля вярнуўся на радзіму ў Сядзельнікі. Ажаніўся на Аліне з роду дэ Ліпэ Ліпскай. Нарадзілі сына Міласлава, які прыходзіцца дзедам Янушу Уладычанскаму.

Нягледзячы на вялікую сям'ю Уладычанскіх (9 дзяцей), у 1865 годзе на гаспадарцы ў маёнтку Сядзельнікі засталася адна хворая маці – Іаанна. Для таго, каб вырашыць свае матэрыяльныя праблемы, сыну Ігнату, які пражываў у ссылцы ў Сібіры, часова было дазволена прыехаць на радзіму [109, с. 30].

Паўстанне 1863 года дорага абышлося сям'і Уладычанскіх не толькі стратай сыноў і ссылкай дачкі Вікторыі, але і ў матэрыяльным плане. Указам ад 15 лютага 1864 года маёнтак Сядзельнікі часткова падвергнуўся секвестру, па якім з 736 дзесяцін зямлі засталося 486. Тым не менш, маёнтак не прыйшоў у заняпад. У 1872 годзе з эміграцыі ў Сядзельнікі вярнуўся Іосіф Уладычанскі, узяты пад нагляд паліцыі. Дзякуючы ўмеламу гаспадаранню Іосіфа і яго сына, выпускніка сельскагаспадарчай акадэміі ў Дублянах – Міласлава Уладычанскага, у 1897 годзе быў пабудаваны вялікі ў два паверхі каменны дом са шматлікімі гаспадарчымі пабудовамі. Новы маёнтак атрымаў назву Скарбец. У міжваеннай Польшчы сям'я Уладычанскіх у Ваўкавыскім павеце, як і раней, мела дастатак і ўплыў. Міласлаў Уладычанскі да верасня 1939 года меў 65 гадоў, што не выратавала яго ад арышту новай бальшавіцкай уладай. З фармулёўкай «сацыяльна небяспечны элемент» быў прызнаны вінаватым у тым, што з'яўляўся буйным памешчыкам і меў сувязь з польскай паліцыяй. За што быў асуджаны на 8 гадоў выпраўленчапрацоўных лагераў. 28 жніўня 1941 года памёр у Какандзе Ферганскай вобласці ад знясілення.

# СПРАВА ДВАРАН ТУШЫНСКАГА І ЛАПІНСКАГА

Адной з самых шматлікіх грамадскіх груп, якія адыгралі ў паўстанні не апошнюю ролю, былі чыноўнікі мясцовага паходжання. Зыходзячы з гэтага, Мураўёў стаў ставіцца да іх з вялікім падазрэннем, іх сталі звальняць са службы за малейшае, нават ускоснае падазрэнне ў прыналежнасці да паўстання.

14 жніўня 1863 года ваўкавыскі ваенны начальнік Казанлі данёс гродзенскаму губернатару Скварцову пра палітычна нядобранадзейных чыноўнікаў мясцовага павятовага суда. Па сабраных ім звестках у засядацеля суда Тушынскага Івана Пятровіча і сакратара Лапінскага Івана Сямёнавіча, якія знаходзяцца на службе ў Ваўкавыскім павятовым судзе, сыны знаходзіліся ў атрадзе паўстанцаў. На думку Казанлі, спрыялі гэтаму іх бацькі, а таму апошніх трэба было выключыць са службы з высылкай на жыхарства ў вялікарасійскія губерні [110, с. 15].

З чалавечага пункту погляду дадзены данос не ўпрыгожваў надзеленага вялікай уладай ваеннага начальніка. Як можна, нават не правёўшы следства, так з ходу ламаць людскія лёсы? Напэўна, трэба было яшчэ пераканацца ў тым, ці сапраўды з дазволу бацькоў іх дзеці далучыліся да паўстанцаў. Ды і за паўналетніх сыноў бацькі не павінны адказваць. Яшчэ ў Статуце Вялікага Княства Літоўскага за 1588 год наконт гэтага гаварылася: «Таксама ўсталёўваем, што ніхто ні за чый учынак не павінен быць асуджаны і пакараны. ... Ні бацька за сына, а ні сын за бацьку» [111, с. 355].

Данос Казанлі 20 жніўня слова ў слова перапісалі ў гродзенскай канцылярыі сакрэтнага аддзялення МУС і выслалі ў выглядзе рапарта яшчэ аднаму, згодна з іерархічнай лесвіцай, больш высокаму начальніку «спадару Віленскаму, Гродзенскаму, Ковенскаму, Мінскаму ваеннаму генерал-губернатару, з падначаленнем Віцебскай і Магілёўскай губерняў», а менавіта генерал-маёру Мураўёву. Толькі ён адзін поўнаўладна вяршыў людскія лёсы з дазволу цара Расійскай імперыі. Ад яго волі і настрою залежала караць або мілаваць удзельнікаў паўстання. Адсюль 31 жніўня рашэнне ўсемагутнага Мураўёва пра далейшы лёс Тушынскага і Лапінскага вярнулася назад да начальніка Гродзенскай губерні Скварцова. У ім паведамлялася, што за-

сядацеля суда Тушынскага і сакратара таго ж суда Лапінскага вызваліць ад займаных імі пасад. Пасля чаго без усялякага суда неабходна выслаць з краю як людзей шкодных і цалкам нядобранадзейных у палітычных адносінах на жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд: Тушынскага – у Арэнбург, а Лапінскага – у далёкія паветы Кастрамской губерні. Патрабавалася паведаміць тамашнім губернатарам аб прычынах высылкі чыноўнікаў з краю. І, вядома, згодна з існуючым парадкам, аб выкананні рашэння варта было паведаміць Мураўёву [110, с. 17].

І так лёс двух, далёка не апошніх па пасадзе людзей Ваўкавыскага павета, быў вырашаны завочна, без якога-небудзь судовага разбору і доказу віны. Але ж трэба было хоць бы даведацца, якім чынам сыны Тушынскага і Лапінскага трапілі да паўстанцаў. А можа быць, як было ўжо неаднойчы, яны туды трапілі сілком? Але справе быў дадзены ход, і спыніць яго бюракратычны механізм не мог. 5 верасня 1863 года гродзенскі губернатар аддаў распараджэнне губернскаму праўленню аб выключэнні азначаных асоб са службы [110, с. 1].

Акрамя таго, згодна з указаннем Мураўёва, 5 верасня начальніку Кастрамской губерні было адпраўлена апавяшчэнне аб маючай адбыцца высылцы ў яго край Лапінскага. Такое ж паведамленне высылаецца і ў Арэнбург.

Тым часам, як толькі засядацелю павятовага суда 70-гадоваму Івану Тушынскаму стала вядома аб небяспецы, што навісла над ім, ён падаў рапарт у павятовы суд аб сваёй адстаўцы. Тым самым спадзяваўся хоць бы атрымаць заслужаную пенсію. Павятовы суд 9 верасня перапраравіў прашэнне Тушынскага ў губернскае праўленне. У заяве паведамлялася, што засядацель суда, калежскі асэсар Іван Пятровіч Тушынскі, па старасці гадоў і ў сувязі з пагоршаным на службе здароўі не ў стане працягнуць службу на пасадзе засядацеля суда. Павятовы суд прасіў губернскае праўленне прызначыць яму заслужаны Тушынскім поўны пенсіён. Пры прашэнні прыкладалася копія фармулярнага спісу Тушынскага [110, с. 3].

Уверсе на рашэнні павятовага суда стаіць чарнільны штамп аб атрыманні гродзенскай губернскай канцылярыяй дадзенага рапарта 13 верасня 1863 года.

Думаецца, што чытачу будзе цікава прасачыць біяграфію Івана Пятровіча Тушынскага, прадстаўленую ў выглядзе копіі з фармулярнага спісу, падшытую ў справе і такім чынам захаваную разам са справай да нашых часоў.

Калежскі асэсар Іван Пятровіч Тушынскі, засядацель ваўкавыскага павятовага суда ад кароны, меў ад роду 70 гадоў, веравызнання рымска-каталіцкага. Узнагаро-джаны бронзавымі медалямі ў памяць вайны 1812 года, таксама 1853 і 1856 гадоў, знакам адрознення за бездакорную 30-гадовую службу – ордэн Святога роўна Апостальнага князя Уладзіміра 4-й ступені. Жалаванне атрымліваў у год 350 рублёў. З дваран, зацверджаных геральдыкай, маёнткаў не меў. У паходах супраць непрыяцеля і ў бітвах не быў. У штрафах, пад следствам і судом не быў. У адпачынках не быў. У адстаўцы знаходзіўся з 16 верасня 1835 года па 19 ліпеня 1840 года.

Жанаты другі раз з дачкой надворнага саветніка Петранэле Астроўскай. Меў дзяцей ад першага шлюбу: Леанарда – 20 лютага 1830 года, а з другога: Яраслава – 27 кастрычніка 1844 года і дачок: Феадосію – 17 лістапада 1848 года, Луцыю – 13 снежня 1849 года. Леанард знаходзіўся ў ваеннай службе, а Яраслаў у грамадзянскай – пры бацьках. Усе веравызнання рымска-каталіцкага [110, с. 6-11].

З паслужнога спісу перад намі паўстае абсалютна салідны служачы Расійскай імперыі, які верай і праўдай праслужыў ёй усё сваё свядомае жыццё. І вось цяпер за сваю бездакорную службу такая чорная няўдзячнасць ад той самай імперыі ў асобе царскага стаўленіка генерала Мураўёва.

12 верасня 1863 года павятовы суд аформіў загад Мураўёва належным чынам і падаў яго ваеннаму начальніку Казанлі. У даведцы суда паведамлялася, што рашэнне Мураўёва аб звальненні ад займаных пасадаў і высылцы засядацеля Тушынскага і сакратара Лапінскага, абодвум чыноўнікам абвешчана. Выконваць абавязкі сакратара даручана століначальніку Нясецкаму. Пра вакантную пасаду засядацеля, якая адкрылася ў павятовым судзе, ад урада варта данесці гродзенскаму губернскаму праўленню з першай поштай. Засядацелю Тушынскаму і сакратару Лапінскаму было прапанавана: першаму – справы, якія ў яго знаходзяцца, і іншыя даручэнні перадаць засядацелю суда Булгарыну, а Лапінскаму – свае справы і паперы перадаць століначальніку Нясецкаму [110, с. 32].

Сакратар суда Лапінскі адразу ж напісаў генерал-губернатару Мураўёву прашэнне аб сваім памілаванні, тым больш у яго з'явіўся салідны козыр – яго сыны пакінулі паўстанцаў і з павіннай галавой здаліся мясцовым уладам. Мураўёў на прашэнне зрэагаваў даволі хутка. Ужо 14 верасня ад яго паступіла паведамленне гродзенскаму губернатару, у якім ён загадаў устрымацца ад высылкі сакратара Лапінскага. Неабходна было запатрабаваць ад

Лапінскага прадстаўлення добранадзейных і заможных паручыцеляў як за яго самога, так і за яго сыноў. Мураўёў таксама прапаноўваў губернатару самому асабіста зняць з сыноў Лапінскага паказанні. І калі ён пераканаецца ў тым, што яны шчыра раскайваюцца ў сваіх злачынствах, данесці Мураўёву для далейшых распараджэнняў з прадстаўленнем іх паказанняў [110, с. 23].

У Ваўкавыску сыноў Лапінскага, якія вярнуліся, тут жа заключылі пад варту і знялі з іх паказанні. Дапытваў братоў 19 верасня сам ваенны начальнік Казанлі.

Уладзіслаў Лапінскі паказаў, што мае ад роду 19 гадоў, веры каталіцкай, у споведзі і святым прычасці штогод бываў, ураджэнец Гродзенскай губерні з горада Ваўкавыска, жонкі не меў. Вучыўся ў Свіслацкай прагімназіі ў 5-ым класе. Калі 19 красавіка з'явіўся ў Свіслач, то камандзір атрада паўстанцаў Кабылінскі, пагражаючы яму пакараннем смерцю, загадаў кіравацца за ім. Ён пагадзіўся на гэта, а таму трапіў у партызанскі атрад без усялякага дазволу бацькоў і настаўнікаў. Са Свіслачы атрад паўстанцаў накіраваўся ў мястэчка Валілы, дзе далучыўся да атрада Урублеўскага. Калі ж праз некалькі дзён атрад быў разбіты, то паўстанцы далучыліся да ваўкавыскага атрада пад начальствам Стравінскага (Млотка). Атрадных афіцэраў Лапінскі не ведаў. У атрадзе знаходзіўся малады святар, прозвішча якога таксама не ведаў. Порах, кулі і стрэльбы прымаў памешчыцкіх сын Пётр Радавіцкі, але адкуль усё гэта дастаўлялася, не ведаў, бо калі хто-небудзь прыязджаў у атрад, то ноччу адразу накіроўваўся да начальнікаў. Паведамляў аб расійскім войску Малевіч, а харчаванне прыносілася з тых месцаў, дзе ў гэты час знаходзіўся атрад.

Калі не стала магчымасці даставаць харчаванне, то ўвесь атрад быў раздробнены на некалькі частак. Уладзіслаў Лапінскі з групай у колькасці 16 чалавек, г.зн. двух братоў Корсакаў, Ундыуса, Навіцкага і іншых, прозвішчаў якіх не памятаў, адсталі ад атрада, даведаўшыся пра вышэйшы маніфест аб памілаванні. Сваю зброю кінулі ў лесе, таму што баяліся сустрэцца з ёй з рускімі воінамі. Блукалі па лесе тры дні без усялякага харчавання, але пад вечар на палях капалі бульбу, там жа яе пяклі. На чацвёрты дзень прыбылі ў вёску Корнадзь, адкуль адправіліся да Лыскаўскага ваеннага начальніка.

Лапінскі прызнаўся, што ўдзельнічаў у бітвах пад Савіцкімі Карчмамі каля Яніна і Пашкоўшчыны. Быў яшчэ ў двух бітвах, але месцаў іх не запомніў. Раскайваўся, шчыра прасіў літасці свайго цара.

Далей ішлі ўдакладненні. На пытанне Казанлі адказаў, што ў атрадзе было чатыры секцыі. Начальнікам той, у якой ён знаходзіўся, быў нехта

Муха, а камандзірам спачатку Духінскі, а потым Урублеўскі. Сам ён сведкам якіх-небудзь пакаранняў смерцю не быў, але чуў у атрадзе пра два забойствы [110, с. 30].

У гэты ж дзень 19 верасня былі зняты паказанні і з другога сына сакратара Лапінскага – Казіміра. Ад роду меў 17 гадоў, веры каталіцкай, у споведзі і святым прычасці штогод бываў, ураджэнец горада Ваўкавыска, жонкі не меў. Са Свіслацкай прагімназіі, дзе ён вучыўся, быў адпраўлены бацькам у аптэку Календы ў горад Нясвіж Мінскай губерні, у якой знаходзіўся 4 месяцы. На свята Хрыстовага ўваскрасення прыехаў да бацькі ў Ваўкавыск. Замест таго, каб адправіцца назад у Нясвіж, па намове Густава Стравінскага, Чэслава Калупайлы і Пятра Радавіцкага адправіўся ў Свіслач. Са Свіслачы быў дастаўлены да Стравінскага ў маёнтак Рэпелька, а адтуль у Лыскаўскі лес. Начальнікам у атрадзе быў той жа Густаў Стравінскі. З афіцэраў быў нехта Дамброўскі, з маёнтка Шніпава – адстаўны афіцэр Акінчыц, капітан Хадакоўскі, Іван Калупайла, з юнкераў – Канеўскі. З памешчыкаў былі: Пётр Радавіцкі, Іван і Чэслаў Калупайлы, Іван Ельскі і Напевіч, «вешальнікамі» з'яўляліся: Махвіц, Болтуць, Карл Сасуліч, Іван Хундзіюс. У атрадзе знаходзіўся святар з Лыскава – Манюшка. Хто дастаўляў правізію, не ведаў. У атрад наведваліся памешчыкі Сасуліч і Вага. Зброяй і боепрыпасамі загадваў Радавіцкі.

Казімір расказаў, што прысягу не прымаў і пасля прыбыцця ў атрад жадаў як-небудзь вярнуцца дадому і прасіць ва ўладаў прабачэння. Як толькі з'явіўся зручны выпадак, то 16 чалавек адлучыліся з атрада і прыйшлі ў Лыскава. Зброю пакінулі на мяжы Белавежскай і Свіслацкай пушчаў пры атрадзе. Чатыры дні нічога не елі, акрамя печанай бульбы. На 4-ы дзень прыбылі ў вёску Корнадзь, дзе ім далі кіслага малака, і адтуль прыйшлі прама ў Лыскава.

У сваім непрадуманым паступку Казімір, як і яго брат Уладзіслаў, чыстасардэчна раскаяўся, аддаўся волі свайго манарха і прасіў яго міласці [110, с. 32-33].

Допыты братоў Лапінскіх, як зрэшты, і іншых паўстанцаў, падпалкоўнікам Казанлі пакідаюць даволі дзіўнае ўражанне. Перш за ўсё, яго цікавілі імёны і прозвішчы ўсіх, хто якім-небудзь чынам удзельнічаў або дапамагаў паўстанцам. А між тым, усякага ваеннага чалавека павінна цікавіць і ваенны бок справы: наяўнасць і род зброі паўстанцаў, як адбывалася іх навучанне вайсковай справе і абавязкова – характар і ход ваенных сутыкненняў

з атрадамі расійскай арміі, перамяшчэння і месцы базавання. Нічога такога ў паказаннях няма.

Між тым, у дачыненні да былога засядацеля суда Тушынскага ніякага паслаблення не адбывалася. Яго сын, у адрозненне ад сыноў Лапінскага, не пайшоў здавацца на ласку царскім уладам. Прашэнне аб літасці да сябе, 70-гадовага чалавека, сам Тушынскі таксама не напісаў.

30 верасня 1863 года падпалкоўнік Казанлі паслаў рапарт гродзенскаму губернатару аб высылцы Тушынскага ў Гродна ў распараджэнне гродзенскага жандарскага штаб-афіцэра для адпраўлення па прызначэнні. Па сабраных звестках аказалася, што Тушынскі ўласнай маёмасці не меў, але ў горадзе Ваўкавыску яго жонка з дзвюма дочкамі мела драўляны дом з пазыкамі. Сваякоў, якія маглі б утрымліваць Тушынскага ў ссылцы за свой кошт, не меў.

Сакратар Лапінскі, прызначаны да высылкі ў Кастрамскую губерню, паводле загада ад 22 верасня, быў пакінуты ў Ваўкавыску [110, с. 34].

У Гродне Тушынскага доўга не затрымалі і накіравалі па этапе ў ссылку. Упраўленне жандармерыі 3 кастрычніка 1863 года данесла губернатару, што засядацель Тушынскі пры адным жандары быў адпраўлены таварным цягніком у Санкт-Пецярбург у распараджэнне тамашняга генерал-губернатара [110, с. 37].

Між тым, следства па справе яго сыноў працягвалася. 9 кастрычніка 1863 года падпалкоўнік Казанлі атрымаў з Гродна ўказанне аб этапаванні братоў Лапінскіх у Гродзенскую турму з узятымі ў іх паказаннямі [110, с. 35].

Як раней згадвалася, разам з братамі Лапінскімі з партызанскага атрада Стравінскага ўладам здалося 16 чалавек. Сярод іх быў дваранін Уладзімір Навіцкі. Яшчэ адзін дваранін Генрык Калупайла з'явіўся асобна ад дадзенай групы. Іх паказанні былі ўзяты 20 верасня, г.зн. на наступны дзень пасля зняцця паказанняў у братоў Лапінскіх.

Дваранін Уладзімір Каятанавіч Навіцкі паказаў у прысутнасці ваеннага начальніка Казанлі, што яму ад роду 21 год, веры рымска-каталіцкай, у споведзі і святым прычасці штогод бываў, граматны, халасты, пад судом не быў, ураджэнец Гродзенскай губерні, служыў у ваўкавыскім павятовым казначэйстве, маёмасці ніякай не меў.

19 красавіка 1863 года, паддаўшыся ўгаворам з пагрозамі смерці адстаўнога штабс-капітана Завістоўскага, які прыбыў у Ваўкавыск, дазволіў адвесці сябе ў мястэчка Лыскава. Тут быў перададзены камандзіру

Стравінскаму, атрад якога фарміраваўся ў Лыскаўскі лясах. Да прысягі яго не прыводзілі. З памешчыкаў Навіцкі пазнаў толькі Владычанскага, Хадакоўскага, Гундуса, Радавіцкага і Махвіца. У атрадзе быў святар па прозвішчы Манюшка. Хто дастаўляў прадукты харчавання і зброю – не ведаў. Сказаў, што яму толькі вядома, што часта правізію закуплялі пасыланыя з атрада паўстанцы за грошы, адпушчаныя Стравінскім, але адкуль ён іх атрымліваў – невядома. Хто быў вярбоўшчыкам людзей у атрад, акрамя Завістоўскага, і зборшчыкам грошай – не ведаў. Аб руху войскаў звесткі, на яго думку, ніхто ў атрадзе не атрымліваў, бо ўвесь час іх атрад пераследвалі рускія войскі. Шляхі маршруту атрада па карце паказваў Стравінскі. Часам у якасці правадыроў прымушалі паказваць дарогу сялянам, якія сустракаліся, не пытаючыся іх прозвішчы. Сваё ружжо Навіцкі кінуў у лесе, але дзе, не памятаў. Са стрэльбай ж ісці здавацца баяўся, бо мог быць затрыманы не як той, які добраахвотна з'явіўся, а як злоўлены сілаю. Да таго ж яго стрэльба было амаль непрыдатная да выкарыстання. Дзе астатнія паўстанцы падзелі сваю зброю, ён не ведаў. Якой датай пакінуў атрад – не памятаў. Тры дні блудзіў па лесе і харчаваўся печанай бульбай, але страты нікому не прычыніў. На чацвёрты дзень прыбыў да Лыскаўскага ваеннага начальніка. Паводле яго распараджэння быў дасланы да ваўкавыскага ваеннага начальніка.

На пытанне дадаў, што ўдзельнічаў у сутычках з рускімі войскамі пад Міхалінам, Жаркаўшчынай і пад Глыбокім Кутом [110, с. 40-41].

Свае паказанні дваранін Генрык Антонавіч Калупайла, які добраахвотна з'явіўся з «шайкі мяцежнікаў», таксама даваў у прысутнасці ваеннага начальніка Ваўкавыскага павета. Паведаміў, што яму 18 гадоў, веравызнання рымска-каталіцкага, у споведзі і прычасці штогод бываў, пад судом і следствам не знаходзіўся, халасты, дваранін Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні, маёмасці ніякай не меў.

Выхоўваўся ў Свіслацкай прагімназіі пры маці ў 5 класе. Вясною 1863 года знаёмы яму памешчык Пётр Радавіцкі, які жыў блізка ад Свіслачы на ферме Міжэвічы, заўсёды пры сустрэчы з ім тлумачыў сутнасць паўстання, якое ўспыхнула. Казаў, што абавязкова ўсё тут пойдуць у лес партызаніць, а хто не пойдзе – будзе павешаны. Калі ж разнесліся чуткі, што ў Ваўкавыскім павеце сфарміраваўся атрад паўстанцаў, то Радавіцкі зноў ўбачыўся з ім, прадставіўшы партызанскае жыццё вясёлым і сытным. Сказаў, што пара спяшацца ў шэрагі паўстанцаў, а то пасля возьмуць сілаю і будзе сорам-

на, а можа і небяспечна. Пры гэтым не адпускаў Генрыка ад сябе і нават не дазволіў заехаць у дом развітацца з бацькамі. Загадаў падсесці да яго на павозку для недалёкай паездкі. Пры выездзе са Свіслачы абвясціў, што адвязе яго ў атрад, абяцаючы даставіць са Свіслачы вопратку і грошы, а таксама паведаміць яго маці аб адлучцы яе сына ў партызаны. На другі дзень прыбылі ў Лыскаўскі лес прама ў атрад паўстанцаў.

Да прысягі Генрыка не прыводзілі. У атрадзе ён даволі часта бачыў ксяндза Манюшку з Лыскава. Начальнікам атрада быў Стравінскі, ён жа Млотак. З памешчыкаў бачыў Владычанскага. Другіх знаёмых тут не сустракаў. Праз два ці тры тыдні камандаванне атрадам пераняў Ландар, які прыбыў са сваім атрадам з Гродзенскага павета. Потым прыбыў атрад Духінскага, які прыняў галоўнае камандаванне, а пасля адбыцця яго начальнікам стаў Урублеўскі. Вярбаваў людзей і дастаўляў усё патрэбнае ў атрад, спачатку згаданы Радавіцкі, а хто гэтым займаўся потым – не ведаў. Леснікоў, якія паказваюць дарогу, прыходзілася бачыць некалькі разоў, але яны гэта рабілі па прымусе. Адлучыцца з атрада не было магчымым. А калі з-за хваробы яго пакінулі без нагляду, ён пакінуў атрад з намерам з'явіцца да законнай улады і прасіць прабачэння, што быў легкаверны і даў магчымасць уцягнуць сябе ў дрэнную справу.

Прабіваючыся лесам, на чацвёрты дзень сустрэўся з Мікалаем Корсакам, які адстаў ад атрада і з якім прыбыў у Лыскава 12 верасня. З'явіўся да ротнага камандзіра, аддаў яму пісталет. Накіроўваючыся ў Лыскава, ні да каго не заходзіў, а харчаваўся тым, што меў з сабою, і бульбай, што знаходзіў на палях. Аб здзейсненых забойствах, рабаваннях і падпалах у атрадзе не чуў і пра гэта даведаўся першы раз у Лыскава з размовы салдат. Ці схавалі паўстанцы дзе-небудзь зброю і іншыя ваенныя прыпасы – не ведаў. У сутычках першы раз удзельнічаў пад Міхалінам, у другі раз - каля Савіцкіх Карчмоў, у трэці – пад Мілавідамі і ў чацвёрты – у Вялікім Вугле [110, с. 42-43].

У гэты час у Вільні генерал Мураўёў аднаасобна і канчаткова вырашаў лёс бацькі і сыноў Лапінскіх. 30 кастрычніка 1863 года да Казанлі з Гродна прыйшло ўказанне. Па ім былы сакратар суда Лапінскі і сыны Уладзіслаў і Казімір, якія добраахвотна з'явіліся з лесу, па спецыяльным распараджэнні Мураўёва былі пакінуты на ранейшым месцы жыхарства за паручыцельствам добранадзейных і заможных асоб. З прычыны чаго ад Лапінскага спатрэбілася атрымаць паручыцельства не менш ад трох асоб за сябе самога і па столькі ж за кожнага з двух сыноў. Яны абавязваліся ў выпадку

самай нязначнай нядобранадзейнасці з боку Лапінскіх унесці штраф па 100 рублёў срэбрам [110, с. 44].

Патрабаванае паручыцельства ад трох асоб Лапінскі знайшоў. Да гонару тагачасных памешчыкаў Ваўкавыскага павета яны не пабаяліся ў цяжкі час узяць на сябе адказнасць і тым самым выратавалі сям'ю Лапінскіхх ад рэпрэсій уладаў: «Паручыцельства. Мы, ніжэйпадпісаныя памешчыкі Ваўкавыскага павета Іван Ігнатавіч Зубялевіч, Эмерык Андрэевіч Калянкевіч і Фелікс Ігнатавіч Бронец даём паручыцельства за былога сакратара ваўкавыскага павятовага суда Івана Сямёнавіча Лапінскага і ручаемся ў тым, што ён, Лапінскі, ніколі не будзе прымаць удзел у мецяжы. У адваротным жа выпадку, калі Лапінскі заўважаны будзе ў якіх-небудзь учынках, то мы абавязуемся выплаціць штраф у памеры 300 рублёў срэбрам, які гарантуецца нашай маёмасцю. 4 снежня 1863 г.» [110, с. 74].

Да дакумента былі прыкладзены сургучныя дваранскія пячаткі-гербы і подпісы. Такое ж паручыцельства было дадзена і для двух сыноў Лапінскага – Уладзіслава і Казіміра. З гродзенскай турмы за кампанію з Уладзіслававам і Казімірам Лапінскімі былі вызвалены дваранскія сыны Уладзімір Навіцкі і Генрык Калупайла.

Здавалася б, што для сям'і Лапінскіх больш чым паўгадавы неакрэслены стан, звязаны са знаходжаннем сыноў у паўстанні, закончыўся. Навучаныя горкім вопытам сыны будуць паводзіць сябе асцярожна, згодна з прыказкай: «апёкшыся на малацэ, станеш дзьмуць на ваду». Тым больш стаў больш жорсткім палітычны вышук і пакаранні нават за дробныя нязначныя правіны, звязаныя з польскім патрыятызмам і крытыкай існуючага ладу. Дайшло да абсурду – на вуліцах гарадоў было забаронена ўжываць польскую гаворку. І вось у такі строгі час, калі па вуліцах варта было хадзіць з аглядкай і баяцца ўголас сказаць лішняе слова, былых паўстанцаў выпусцілі з гродзенскай турмы на волю. Юнакі, захмялеўшы ад салодкага паветра свабоды, вырашылі як трэба адзначыць сваё вызваленне, выбраўшы для гэтага цалкам падыходную для іх узросту ўстанову, а менавіта публічны дом. І тут лёс зрабіў у іх жыцці нечаканы круты паварот, пра што даведаемся са следчай справы, закончанай гродзенскай следчай камісіяй 7 лютага 1864 года і прадстаўленай гродзенскаму губернатару. Справа тычылася дваран: Віктара Талочка, Станіслава Смаленскага, Тамаша Шродэра і дваран, якія добраахвотна з’явіліся з партызан: Генрыка Калупайлы, Казіміра Лапінскага, Уладзіміра Навіцкага і Уладзіміра Галавацкага [110, с. 46].

Далей следчы падрабязна апісваў ступень віны кожнага з вышэйпералічаных дваран. Казімір Іванавіч Лапінскі абвінавачваўся ў тым, што пасля выхаду з гродзенскай турмы быў арыштаваны там жа ў Гродне ў доме «непатрэбных жанчын», дзе спяваў «абуральныя песні». Па тым жа абвінавачванні быў арыштаваны і выпушчаны на свабоду Уладзімір Каятанавіч Навіцкі.

А было ўсё так. 12 студзеня 1864 года былы ваенны царскай арміі, выключаны са службы, нехта Уладзімір Іваноў, разам з обер-кандуктарам з Чыжава Тэнферам і яшчэ трыма машыністамі гродзенскай чыгуначнай станцыі, прыйшлі на кватэру Вяржбіцкай, якая ўтрымлівала прастытутак. Гаспадыняй дома, які стаяў паблізу чыгункі, з'яўлялася унтэр-афіцэрыха Дарота Ягорава. У кватэры Вяржбіцкай засталі 7 чалавек кліентаў, з якіх адзін быў з шашкай. Калі паміж імі выйшла сварка за дзеўку, то Тэнфер і машыністы сышлі, а ён, Іваноў, застаўся. Неўзабаве пачаліся спевы непрыстойных песень, а пасля заспявалі забаронены гімн «Божа цось Польска». Калі ж Іваноў хацеў запісаць тыя песні, то яму не дазволілі і ён, адправіўшыся, абвясціў пра гэта караулу, які знаходзіўся на чыгуначнай станцыі. Гэтым караулам усе 7 чалавек былі арыштаваны: Віктар Талочка, Фёдар Шродэр, Станіслаў Смаленскі, Генрык Калупайла, Казімір Лапінскі, Уладзімір Навіцкі і Уладзіслаў Галавацкі. Першыя тры з іх паказалі, што з'яўляліся акцызнымі служачымі, праследуючы карцёжнікаў, зайшлі ў хату да Вяржбіцкай [110, с. 54адв.-56].

На вочнай стаўцы Іваноў выкрыў усіх затрыманых, але яны ў спевах польскага гімна не прызналіся. Лізавета Вяржбіцкая пацвердзіла, што спявалі толькі непрыстойныя песні, а польскага гімна не спявалі. Паказанні Вяржбіцкай пацвердзіла гаспадыня дома Дарота Ягорава. Тым не менш, нягледзячы на паказанні ў абарону абвінавачаных двух сведак, «суд» у выглядзе аднаго чалавека больш паверыў паказанням аднаго сведкі - Іванова. Гэты чалавек – генерал-ад'ютант, які часова замяшчаў генерала Мураўёва. Менавіта ён прыняў канчатковае рашэнне аб лёсе «спевакоў». 20 мая 1864 года генерал-ад'ютант накіраваў указанне па гэтай справе гродзенскаму губернатару. Казімір Лапінскі, Уладзімір Навіцкі і прускі падданы Фёдар Шродэр былі прызнаны ім вінаватымі. У выніку гэтага, прызнаючы іх нядобранадзейнымі ў палітычных адносінах і шкоднымі для знаходжання ў краі, было вызначана: Лапінскага і Навіцкага выслаць па этапе за іх кошт на пастаяннае жыхарства. Першага – у Пермскую, а другога – у Арэнбургскую губерні пад строгі нагляд паліцыі. Шродэра – за мяжу з забаронай

яму назаўжды вяртацца ў межы Расійскай імперыі. Маёмасць Навіцкага і Лапінскага варта было падвергнуць секвестру, калі такое ёсць [110, с. 75].

Як бачым, зноў аднаасобным рашэннем, грунтуючыся толькі на падазрэнні, быў вырашаны і канчаткова зламаны далейшы лёс двух маладых людзей. Не паспеўшы пабыць на волі і адных сутак, юнакі зноў апынуліся ў астрозе. Пра астатніх удзельнікаў забароненых спеваў нічога не паведамляецца.

Чамусьці рапарт аб выкананні загада на высылку Лапінскага і Навіцкага зацягнуўся, і толькі праз 4 месяцы, г.зн. 27 верасня 1864 года ад каменданта Гродна губернатару паступіла адпаведнае данясенне. У ім паведамлялася, што дваране Казімір Лапінскі і Уладзімір Навіцкі адпраўлены ім з Гродна. Першы – 29 ліпеня этапным парадкам у горад Перм, другі, які застаўся праз хваробу ў горадзе Гродна – 7 верасня такім жа парадкам у горад Уфу, а апошні, Шродэр – 26 ліпеня з жандарам да начальніка Вержбалоўскай станцыі [110, с. 90] .

Аб гаротным лёсе былога засядацеля суда Івана Тушынскага, які пацярпеў праз сына-паўстанца, вядома з рапарта начальніка Арэнбургскай губерні ад 4 мая 1865 года, высланым з горада Уфы гродзенскаму губернатару. Арэнбургскі губернатар паведамляў, што Іван Тушынскі ў пададзеным яму прашэнні прасіў аказаць садзейнічанне для атрымання выслужанай ім пенсіі. Тлумачыў гэта крайняй неабходнасцю, таму што без яе ён не можа ўтрымліваць як сябе, так і двух дачок, якія засталіся без апекі на радзіме.

Арэнбургскі губернатар таксама звяртаў увагу на тое, што па распараджэнні Мураўёва Тушынскі высланы ў Арэнбургскую губерню без следства і суда. Сам Тушынскі выказаў у заяве, што, акрамя доўгачасовай службы, ён меў выпадак даказаць непахісную сваю адданасць ураду і сумленнасць, як гэта відаць у выкананні ім у 1830 і 1831 гадах даручэнняў аб развозе грошай. Таму, калі ў лепшы час жыцця ён не стаў злачынцам, то ў цяперашні час, дасягнуўшы 73 гадоў, ён зусім не ведае тых падстаў, па якіх падвергнуўся падазрэнням, шчыра праслужыўшы расійскаму ўраду больш за 40 гадоў [110, с. 91] .

Успамінаючы аб развозе грошай у 1830 і 1831 гадах, Тушынскі меў на ўвазе той адрэзак сваёй ваеннай службы, калі з Вільні вазіў значныя грашовыя сумы для выплаты грашовага забеспячэння цэлай дывізіі. Для такой адказнай працы патрэбен быў прыстойны ва ўсіх адносінах чалавек, у якога б не прыліплі пальцы да казённых грошай.

Тым не менш, 14 верасня 1865 года ад гродзенскага губернатара на прашэнне Тушынскага прыйшоў адмоўны адказ: «Прызнаю нязручным да задавальнення хадайніцтва аб прызначэнні яму пенсіі ад урада, супраць якога ён аказаўся нядобранадзейным» [110, с. 98]

На жаль, пра далейшы лёс Івана Тушынскага ў справе нічога не паведамляецца. Для яго шаноўнага ўзросту было невыносна цяжка пражываць у ссылцы ў адрыве ад жонкі і дачок. Ці дачакаўся ён вызвалення і вярнуўся на радзіму ў Ваўкавыск або памёр у далёкім краі – невядома. А вось пра далейшы лёс бесшабашнага Казіміра Лапінскага даведаемся, што, прабыўшы ў ссылцы менш за тры гады, збег адтуль у Ваўкавыск, дзе 14 мая 1868 года быў схоплены. 15 мая 1868 года павятовае паліцэйскае ўпраўленне накіравала губернатару рапарт з паказаннямі затрыманага Казіміра Лапінскага. Да рапарта прыкладалася і прашэнне бацькі Івана Лапінскага, які дамагаўся высылкі яго сына ў аддаленыя губерні або аддачы на ваенную службу. Неўзабаве Казімір Лапінскі быў адпраўлены па этапе ў горад Гродна. Праз два тыдні пасля заканчэння следства яго адправілі на два з паловай гады ў астрог горада Сувалкі, пасля чаго 31 снежня 1870 года выслалі ў Архангельскую губерню пад паліцэйскі нагляд. Яшчэ праз паўгода ў справе з'явілася апошняе паведамленне аб Казіміру Лапінскім, пададзенае 24 ліпеня 1871 года ад ваўкавыскага павятовага спраўніка губернатару. У ім на запыт губернатара паведамлялася, што маёмасці, якая належыць палітычнасасланаму Казіміру Лапінскаму, па пошуках у Ваўкавыскім павеце не аказалася. Сваякі Лапінскага, якія пражываюць у горадзе, не выказалі жадання забяспечыць яго ўтрыманне на месцы ссылкі.[110, с. 105, 109].

Як бачым, родны бацька Казіміра Лапінскага адрокся ад сына, які даставіў яму шмат гора і пакут.

# СПРАВА СЯМ'І АНДРЖЭЙКОВІЧАЎ

Памешчыкі Андржэйковічы паходзілі са шляхетнага роду і ў Ваўкавыскім павеце лічыліся адным з найбольш заможных і ўплывовых. Іх продак Бутаўт-Андржэйковіч Міхаіл Фадзеевіч (1778-1830) у мінулым з'яўляўся адным з трох гродзенскіх губернатараў мясцовага паходжання, які знаходзіўся на пасадзе з 22 лістапада 1817 года па 30 кастрычніка 1824 года. Ён быў выхадцам з дваран Гродзенскай губерні, фамільнага герба «Грыф», каталіцкага веравызнання. Прыстаўку Бутаўт да свайго прозвішча Андржэйковічы тлумачылі тым, што род іх меў паходжанне ад вялікага князя літоўскага Міндоўга, трэці сын якога называўся Бутаўт. Пасаду гродзенскага губернатара Міхаіл атрымаў па пратэкцыі тагачаснага віленскага генерал-губернатара Лявонція Бенігсэна, жанатага на сястры Міхаіла – Кацярыне, і які ў свой час актыўна ўдзельнічаў у змове і забойстве рускага цара Паўла І.

Бацька Міхаіла – Тадэвуш (Фадзей) у 1810 годзе купіў маёнтак Стары Дворац у Ваўкавыскім павеце, а яго брат Фелікс – маёнтак Жэрдна ў гэтым жа павеце. З 1820 года Андржэйковічы валодалі ў Ваўкавыскім павеце маёнткам Гарнастаевічы. У 1858 годзе ён належаў дачцэ былога губернатара Міхаіла Андржэйковіча – Леанціне (1817 года нараджэння), якая была замужам за сваім стрыечным братам Рычардам Андржэйковічам, уладальнікам маёнтка Жэрдна.

27 ліпеня 1863 года камандзір 10-й роты Стараінгерманландскага пяхотнага палка паручнік з беларускім прозвішчам Ліневіч напісаў рапарт ваўкавыскаму ваеннаму начальніку Казанлі з мястэчка Поразава, дзе размясцілася на адпачынак яго рота, пасланая для пошуку і знішчэння паўстанцаў. Разам з рапартам у Ваўкавыск пад аховай было дастаўлена 7 чалавек, арыштаваных Ліневічам у памешчыцкім двары Гарнастаевічы памешчыка Андржэйковіча. У гэты час у гасцях у сваякоў знаходзіўся адстаўны чыноўнік з горада Гродна Яраслаў Міхайлавіч Андржэйковіч, уладальнік маёнтка Беландзічы Кобрынскага павета (48 гадоў), які прыехаў са сваёй сям'ёй (жонка і чацвёра дзяцей) пагасціць да сястры Леанціны.

У рапарце паручнік тлумачыў абставіны арышту людзей, якія падазраюцца ў дапамозе паўстанцам. 25 ліпеня ў 8 гадзін вечара атрад паўстанцаў

прыбыў у памешчыцкі двор маёнтка Гарнастаевічы. У гэты час рота паручніка Ліневіча падыходзіла да вёскі Гарнастаевічы, размешчанай побач з памешчыцкіх дваром. Калі рота ішла міма заставы, то вартавыя Людвіг Мазур і Восіп Левасевіч не паведамілі паручніку пра паўстанцаў, хоць яны праходзілі міма іх заставы. Калі жонка селяніна Тамаша Кручка прыбегла з памешчыцкага двара і паведаміла свайму мужу, што прыйшлі паўстанцы, то Кручок хацеў перадаць пра гэта паручніку. Аднак яго адгаварылі жонка старасты і маці старшыні. Калі ж рота вярталася назад, то пра паўстанцаў паручніку данёс старшыня вёскі Гарнастаевічы Яўсейка.

Паручнік арыштаваў лёкаяў Томаша Ганікоўскага і Міхаіла Савіцкага, што пражывавалі ў памешчыка без пашпартоў. Пры допыце яны патлумачылі, што яны бачылі паўстанцаў у вёсцы Гарнастаевічы да прыбыцця туды роты салдат. Дваровую ключніцу Паўліну Невяроўскую арыштаваў за тое, што выдала паўстанцам гарэлку. Былі арыштаваны і трое каравульных, якія знаходзіліся на заставе пры рагатцы і не паведамілі паручніку пра паўстанцаў [112, с. 18].

Перш чым даць справе ход, ваўкавыскі ваенны начальнік Казанлі сам вырашыў у ей разабрацца, а таму 1 жніўня дапытаў арыштаваных. Паўліна Францаўна Невяроўская паказала, што ёй 19 гадоў, веры каталіцкай, у споведзі і святыма прычасці штогод бывала. Народжаная ў Гродзенскай губерні, Бельскага павета, двара маёнтка Туронь, не замужам, грамату папольску ведае, а па-руску не ведае, штрафаў не мае. Пражывала ў маёнтку Гарнастаевічы ў памешчыка Андржэйковіча, дзе працавала ключніцай. Паведаміла, што паўстанцы прыходзілі да Андржэйковічаў і раней. Месяцы два таму назад у двор маёнтка Гарнастаевічы прыходзілі каля 30 чалавек паўстанцаў, якія заходзілі ў пакоі да памешчыка, дзе прабылі каля гадзіны. Затым памешчыца Леанціна Андржэйковіч загадала выдаць ім гарбату і цукру, што ключніца і выканала. Паабедаўшы, да 10 гадзін вечара паўстанцы пайшлі назад у лес, узяўшы па загадзе памешчыка трох коней з вазамі, авёс і 16 бутэлек гарэлкі.

Другі раз атрад паўстанцаў каля 15 чалавек прыйшоў у маёнтак Гарнастаевічы 25 ліпеня, дзе не прабыў і паўгадзіны. Калі паўстанцы пачулі, што праз вёску ідуць рускія войскі і спяваюць песню, то адправіліся ў лес. Пасля таго, як войска прайшло, два паўстанца вярнуліся ў маёнтак, папрасіўшы ў ключніцы 4 бутэлькі гарэлкі, якія яна ім выдала.

Лёкай Томаш Ганікоўскі паказаў, што ад роду меў 36 гадоў, веры каталіцкай, у споведзі і святым прычасці штогод бываў, ураджэнец

Ваўкавыскага павета, маёнтка Гарнастаевічы, халасты, грамату па-польску ведае, штрафаў не меў.

Знаходзячыся ў маёнтку Гарнастаевічы ў памешчыка Андржэйковіча, бачыў, як два месяцы таму назад туды прыбыў атрад паўстанцаў у колькасці 40 чалавек. Пасадзіўшы пад замок кіраўніка маёнтка, расставілі ланцуг вакол двара маёнтка і заказалі ключніцы зрабіць ім гарбату. Выпіўшы яе, узялі трох коней, некалькі авечак і адправіліся ў лес. У гэты час памешчык Рычард і яго жонка Леанціна былі дома.

25 ліпеня ў 8 ці 9 гадзін прыбыў атрад паўстанцаў у колькасці 15 чалавек, з якіх шасцёра адправіліся ў вёску за падводамі. Тыя паўстанцы, што засталіся ў маёнтку, пачуўшы, што праз вёску праходзіць рота з песняй, адправіліся ў лес, які знаходзіўся адразу за дваром Гарнастаевічы. Потым, як рота прайшла, двое з іх зноў пайшлі ў вёску за падводамі. Не дастаўшы там падводаў, прыйшлі ў маёнтак, узялі чатыры бутэлькі гарэлкі ў ключніцы і затым адправіліся ў лес. Памешчык Рычард Андржэйковіч у гэты час быў дома і сам выдаваў паўстанцам харчовыя запасы без усялякага з іх боку прымусу.

Падобныя паказанні даў і трэці сведка Міхаіл Савіцкі.

2 жніўня Казанлі пераправіў рапарт Ліневіча ў ваенна-следчую камісію для праверкі, прыклаўшы пры гэтым тры паказанні: лёкаяў памешчыка Андржэйковіча – Томаша Ганікоўскага, Міхаіла Савіцкага і ключніцы Паўліны Невяроўскай. У той жа час усіх траіх Казанлі загадаў з-пад варты вызваліць. Сяляне Мазур, Леванасевіч і Кручок былі пакінуты ў ваўкавыскім астрозе [112, с. 7-9,23].

Па гэтай справе 5 жніўня быў дапытаны і селянін вёскі Гарнастаевічы Антон Іванавіч Грыгаровіч, які ў прысутнасці ваеннага начальніка паказаў, што яму ад роду 48 гадоў, веры каталіцкай, у споведзі і святым прычасці штогод бываў, ураджэнец Ваўкавыскага павета вёскі Гарнастаевічы, жанаты на Ганне П ...?, мае сына Сцяпана 17 гадоў і трох дачок, граматы не ведае, у штрафах не быў.

25 ліпеня ў маёнтак Гарнастаевічы з лесу да памешчыка Андржэйковіча прыбыў атрад паўстанцаў каля 20 чалавек. Узялі хлеба, сала і гарэлкі і, пачуўшы, што праз вёску праходзіць рота салдат з песнямі, уцяклі ў лес. Ён у гэты час працаваў у маёнтку. Калі рота салдат прайшла, паўстанцы вярнуліся ў маёнтак, расставілі ланцуг і нікога з двара не выпускалі. Як толькі ланцуг знялі, Антон Грыгаровіч адразу ж пабег даганяць роту, каб паведаміць пра паўстанцаў. Але, калі рота вярнулася, паўстанцаў ужо ў маёнтку не было.

У той час, калі паўстанцы былі ў вёсцы, каля рагаткі стаялі тры мужыкі: Восіп Левасевіч, Людвіг Мазур і Тамаш Кручок. Калі рота, якая прыбыла, стала іх пытацца, чаму яны не паведамілі ім, што ў маёнтку знаходзіўся атрад паўстанцаў, то згаданыя сяляне ім адказалі, што паўстанцаў не бачылі, таму што яны праз вёску не праходзілі. Антон Грыгаровіч пацвердзіў, што сапраўды праз вёску паўстанцы не праходзілі, а прыйшлі ў маёнтак прама з лесу [112, с. 13].

10 жніўня ваенна-следчая камісія ў складзе следчага, памочніка павятовага спраўніка штабс-капітана Шахава, паручніка Чымбаевіча і прапаршчыка Санкт-Пецярбургскай паліцыі Бабкіна дапытвала сялян, якія ўтрымліваліся пад вартаю, што стаялі ў каравуле.

Восіп Левасевіч, 20 гадоў, каталік, жанаты, часоваабавязаны селянін маёнтка Гарнастаевічы расказваў камісіі, што 25 ліпеня ён з селянінам Людвігам Мазурам стаяў у каравуле ў Гарнастаевічах. Пад вечар міма іх праходзіла рота, і, калі яна ўжо ўвайшла ў другую вёску Кавалі, размешчаную ад Гарнастаевіч больш чым за вярсту, тады ў вёску з маёнтка прыйшлі 4 паўстанцы, каб узяць фурманкі. Пра гэта вартаўнікі адразу ж паведамілі старшыне Яўсейку, які ў сваю чаргу паведаміў пра гэта ротнаму камандзіру. Да прыходу роты салдат паўстанцаў у вёсцы ўжо не аказалася, а паўстанцаў, якія прыйшлі ў маёнтак, яны заўважыць не маглі, таму што двор маёнтка размешчаны паблізу лесу і быў ужо змрок [112, с. 20].

Тое ж самае пацвердзіў і Людвіг Мазур.

Тамаш Кручок, 40 гадоў, праваслаўны, непісьменны, жанаты на Марыі, меў двух дзяцей – сына Івана 10 гадоў і дачку Праксеву 4 гадоў. Паказаў, што 25 ліпеня, у той час, калі рота салдат праходзіла праз вёску Гарнастаевічы, яго жонка, прыбегшы з маёнтка, сказала, што там знаходзяцца паўстанцы. Асцерагаючыся аб тым данесці ротнаму камандзіру, далажыў валасному старшыне. Калі рота выступіла з вёскі Кавалі назад у Гарнастаевічы, то да прыходу яе паўстанцаў у вёсцы ўжо не было. Маці старшыні Антона Яўсейкава і жонка старасты не забаранялі яму паведамляць пра паўстанцаў, а толькі сказалі, што, можа быць, жонка сказала няпраўду [112, с. 21адв.-22]. Тут варта ўдакладніць, што, хоць Тамаш Кручок у той злапомны дзень стаяў на варце ў рагатцы ў ліку траіх каравульных сялян, але ў момант наведвання паўстанцамі Гарнастаевіч адлучыўся дадому, куды і прыбегла яго жонка.

Пасля ўзяцця паказанняў усе тры селяніна-вартаўніка былі адпушчаны дадому.

Нягледзячы на выкрывальныя паказанні сведак, гаспадара маёнтка Рычарда Андржэйковіча адразу не арыштавалі, бо на той час ён хварэў. Затое быў арыштаваны яго сваяк Яраслаў Андржэйковіч. Гродзенскі губернатар Скварцоў пацвердзіў правільнасць арышту Яраслава Андржэйковіча, матывуючы сваю згоду тым, што, знаходзячыся ў маёнтку сястры, Андржэйковіч загадзя не паведаміў пра паўстанцаў вайскоўцам, якія тады праходзілі. Тым больш, ён меў такую магчымасць. Губернатар загадаў Казанлі накласці на маёнтак Гарнастаевічы паліцэйскі нагляд. Але калі Казанлі знойдзе, што дадзеная мера не адпавядае інструкцыі Мураўёва, то варта было накласці арышт на нерухомасць да канчатковага вырашэння справы [112, с. 23].

Для аддачы пад суд вядомых і ўплывовых Андржэйковічаў патрабавалася выканаць хоць бы мінімальныя фармальнасці, а таму ўсе раней дапытаныя сведкі паўторна былі выкліканы ў Ваўкавыск для прыняцця прысягі: «Я, ніжэйпайменаваны, абяцаю і клянуся ўсемагутным Богам і жыватворным крыжам Гасподнім у тым, што па справе, па якой прызваны і дапытаны буду, нікому не дагаджаючы і ні на каго не замахваючыся, ні для дружбы, ні для схільнасці, ні падарункаў, ні за страху дзеля, ні для зайздрасці або не дружбы, але ўсё так чыста і выразна, як стаяць мне на страшным судзе Хрыстовым, у чым хай дапаможа мне Гасподзь Бог душэўна і цялесна. У заключэнне гэтай прысягі цалую волава і крыж выратавальніка майго. Амэн».

З прычыны непісьменнасці сялян пад прысягаю падпісаліся: за каталікоў – прысутны пры клятвенным абяцанні ваўкавыскі ксёндз, а за праваслаўных – святар Марцін Каспяровіч. Таксама распісаўся следчы штабс-капітан Шахаў [112, с. 14адв.].

З-за таго, што памешчык Рычард Андржэйковіч хварэў, следчая камісія прапанавала яму адказаць на пісьмовыя пытанні па месцы жыхарства. Пытанні ў анкеце былі складзены на рускай мове, а адказы насупраць кожнага пытання Андржэйковіч уласнай рукой напісаў па-польску.

Пытанне. Якія Вашы імя, імя па бацьку і прозвішча?

Адказ. Рычард Андржэйковіч.

Пытанне. Колькі Вам ад роду гадоў, з якога звання паходзіце, жанатыя або халастыя, ці маеце дзяцей, якіх імёнаў і дзе яны знаходзяцца?

Адказ. Маю 56 гадоў, шляхціц, жанаты, дзяцей не маю.

Пытанне. Якой Вы веры і вызнання, ці бываеце на споведзі і св. прычасці штогод? Калі бываеце, то дзе менавіта?

Адказ. Каталік, спавядаюся штогод у Поразаўскім касцёле.

Пытанне. Дзе Вы выхоўваліся і куды паступілі на службу?

Адказ. Выхоўваўся ў Варшаве ў гімназіі. Паступіў на службу старшынёй суда Ваўкавыскага павета.

Пытанне. Ці былі пад судом?

Адказ. Не быў.

Пытанне. Ці не маеце за сабой або за жонкай нерухомы маёнтак? Калі маеце, то дзе ён знаходзіцца?

Адказ. Мой асабісты маёнтак – Жэрдна ў Ваўкавыскім павеце і Мілейшы ў Брэсцкім павеце, а жонкі – Гарнастаевічы ў Ваўкавыскім павеце.

Пытанне. Ці ведаеце расійскія законы?

Адказ. Не ведаю.

Пытанне. Два з паловай месяцы таму назад на Вашай мызе Гарнастаевічы была шайка мяцежнікаў, якой Вы, пачаставаўшы гарбатай, далі трох коней, тры сядлы і аўса, а таксама 16 бутэлек гарэлкі. Патлумачце, якой была Ваша мэта дапамагаць паўстанцам і тым падтрымліваць мяцеж?

Адказ. Аб прыбыцці шайкі паведаміў кіраўнік. Усё гэта яны ўзялі сілаю.

Пытанне. Калі ў іншы раз 25 ліпеня ў Вас была шайка мяцежнікаў, у той час праз вёску Гарнастаевічы праходзіла рота салдат з песняй, а таму мяцежнікі сышлі з мызы ў лес. Маючы такі зручны выпадак, чаму Вы адразу ж не паведамілі пра мяцежнікаў, якія знаходзіліся ў Вас, а наадварот, пасля таго, як войскі адышлі, двум мяцежнікам, якія прыбылі на мызу, распарадзіліся даць чатыры бутэлькі гарэлкі? Ці было данесена пра тое адразу мясцовай уладзе?

Адказ. Тады я быў хворы, не выходзіў з пакоя і гэтай шайкі не бачыў. Кіраўнік казаў мне, што ён адразу данёс пра гэта.

Пытанне. Ці ўсё Вы справядліва паказалі і не знойдзеце апрача гэтага што-небудзь дабавіць да Вашага апраўдання?

Адказ. Усё паказаў справядліва.

Подпіс: грамадзянін Рычард Андржэйковіч [112, с. 28-30].

17 жніўня была дапытана 52-гадовая жонка Рычарда Андржэйковіча – Леанціна. Яе паказанні з польскай мовы, запісаныя ўласнаручна на асобным лісце, перавёў настаўнік Н. Вінаградаў. Леанціна расказвала, што першы раз да іх у маёнтак з'явіўся атрад Кабылінскага, сілаю узяўшы са стайні трох коней і тры сядлы, а таксама дзве бочкі аўса, пасля чаго загадалі людзям даць яму чаю, вячэру і гарэлкі без усякага з яе боку распараджэння.

25 ліпеня 25 узброеных паўстанцаў з'явіліся ў іх маёнтку, патрабуючы выдачы харчовых прыпасаў, але, атрымаўшы адмову, нічога не

забралі і сышлі. Ніхто з дваровых людзей не мог выйсці, бо навокал былі расстаўлены пікеты, а таму пакуль паўстанцы не сышлі, нельга было паслаць рапарта да вайсковага начальства. Адразу пасля адыходу паўстанцаў такі рапарт быў дасланы. Гарэлка была дадзена без яе ведама ключніцай, якую яны прымусілі гэта зрабіць сілаю [112, с. 30адв.].

Яраслаў Андржэйковіч, дапытаны ўслед за сваёй сястрой, у сваіх паказаннях нічога новага следчай камісіі не паведаміў, а толькі сказаў, што пасля адыходу паўстанцаў паслаў кіраўніка маёнткам ў Поразава паведаміць аб іх з'яўленні ротнаму камандзіру. Аднак у данясенні ротнага камандзіра Лінявіча пра гэта нічога не гаварылася. Наогул звесткі, узятыя ў Яраслава Андржэйковіча, змясціліся ўсяго ў некалькі радкоў. Адчуванне такое, што падрабязныя паказанні памешчыкаў у сваё апраўданне следчую камісію ў Ваўкавыску мала цікавілі. Атрымаўшы на памешчыкаў выкрывальныя клятвенныя паказанні ключніцы, лёкаяў і іншых сялян, следчая камісія палічыла віну памешчыкаў цалкам даказанай.

17 жніўня следчая камісія справу аб памешчыках Андржэйковічах і сялянах скончыла, перадаўшы яе на разгляд ваеннаму начальніку Казанлі. У рапарце аб заканчэнні следства следчая камісія прасіла вызваліць з-пад арышту сялян Левасевіча і Мазура.

Далей лёс памешчыкаў і сялян павінен быў вырашаць суд. 5 верасня губернатар Скварцоў паведаміў Казанлі рашэнне Гродзенскай ваенна-судовай камісіі. Памешчыкі Рычард і Яраслаў Андржэйковічы, памешчыца Леанціна Андржэйковічава і часоваабавязаны селянін Тамаш Фёдаравіч Кручок за саўдзел з паўстанцамі былі перададзены палявому ваеннаму суду. Суд павінен быць скончаны ў самы непрацяглы час, а рашэнне прадстаўлена губернатару. Падсудныя, якія знаходзяцца пад арыштам у Ваўкавыску, павінны быць адпраўлены ў Гродна [112, с. 37].

8 верасня 1863 года камісія палявога ваеннага суда прыняла справу да разгляду, а ўжо 10 кастрычніка таго ж года ў 9 гадзін раніцы адбылося паседжанне дадзенага суда ў Гродне пад старшынствам падпалкоўніка Васіліцкага, асэсараў паручніка Самбурскага, паручніка Чэкмарова, прапаршчыка Смірнова, прапаршчыка Успенскага, карнета Благадарава, карнета Даламанава.

У залу суда пад канвоем былі прыведзены падследныя, і суд спытаў у кожнага, ці няма на каго-небудзь з прысутных суддзяў падазрэнняў. Пасля сцвярджальнага адказу пад складам суда падпісаліся ўсе падсудныя, а за

непісьменнага селяніна Кручка подпіс паставіў радавы канвойнай каманды Ператорaў.

Справа была зачытана вытворцам у прысутнасці палявога ваеннага суда і падсудных. У тым ліку былі зачытаны паказанні падследных, пасля прачытання якіх старшыня суда прапанаваў падсудным зрабіць шчырае прызнанне ў сваіх злачынствах і паведаміць суду аб саўдзельніках. Падсудныя пад гэтым паведамленнем таксама паставілі свае подпісы, прыпісаўшы пры гэтым, што «прачытаныя мне паказанні пацвярджаю, і дадаць нічога не маю» [112, с. 39адв.].

Калі падсудных вывелі з залы суда, старшыня суда папрасіў членаў суда адказаць па кожнаму з падсудных на пытанне: «Ці не маюць яны прадставіць якіх-небудзь заўваг?», на што пасля грунтоўнага абмеркавання справы ўсе члены суда прыйшлі да сцвярджэння, што заўваг не маюць і могуць прыступіць да рашэння суда. Тады старшыня суда вынес на абмеркаванне пытанне «Ці вінаваты падсудныя ў саўдзеле мяцежнікам?» Пасля сумеснага абмеркавання ўсіх абставін справы суддзі пастанавілі, што трох памешчыкаў варта прызнаць вінаватымі, а селяніна Тамаша Кручка з прычыны разумовай яго неразвітасці яны вінаватым не знаходзяць [112, с. 40].

Затым старшынёй суда было прапанавана вытворцу справы зачытаць падзел палітычных злачынцаў па катэгорыях, што вызначаюцца па зацверджаных царом правілах ад 11 мая 1863 года. Трое падсудных былі прызнаны старшынёй суда вінаватымі па 4-й катэгорыі, а Тамаш Кручок не быў аднесены ні да адной з катэгорый. Старшыня суда зноў задаў пытанне членам суда «Ці правільна ім была вызначана катэгорыя вінаватасці падсудных?», на што ўсе члены суда пагадзіліся, а Тамаша Кручка было вырашана вызваліць.

Прысуд ваенна-палявога суда 10 кастрычніка 1863 года абвяшчаў, што па ўказу яго імператарскай вялікасці ад 11 мая 1863 года ваенны суд прысудзіў падсудных: памешчыка Рычарда Андржэйковіча, 56 гадоў, і Яраслава Андржэйковіча, 48 гадоў, за спачуванне паўстанцам, выказанае пачастункам іх у сябе ў доме, і за несвоечасовае данясенне аб прыходзе паўстанцаў саслаць на пасяленне ў менш аддаленыя месцы Сібіры.

Леанціну Андржэйковіч, 52 гадоў, за спачуванне да паўстанцаў, выказанае добраахвотным пачастункам іх у сябе ў доме, саслаць на пасяленне ў аддаленыя губерні Расіі.

Селяніна Тамаша Кручка, 40 год, які не данёс своечасова аб знаходжанні паўстанцаў у маёнтку Андржэйковічаў, пра што паведаміла яму жонка яго,

пад уплывам страху і няведання строгай за тое адказнасці і па разумовай яго неразвітасці ад суда і арышту вызваліць [112, с. 42 адв.-43].

Услед за абвяшчэннем прысуду ўсіх чатырох чалавек на стан здароўя агледзеў малодшы ардынатар гродзенскага ваеннага шпіталя. Агляд праводзіўся ў прысутнасці камісіі палявога ваеннага суда. Усе трое мужчын былі прызнаны здаровымі і не мелі цялесных недахопаў, балючых прыпадкаў і былі здольны да прыгонных і іншых прац [112, с. 44].

Губернатар Скварцоў пагадзіўся з прысудам суда аб ссылцы памешчыкаў у Сібір, але без пазбаўлення іх правоў маёмасці. Незалежна ад гэтага прапанаваў з маёнтка Андржэйковічы спагнаць 10% кантрыбуцыю звыш агульнай кантрыбуцыі, накладзенай на ўсіх памешчыкаў-каталікоў.

16 кастрычніка 1863 года справа па памешчыках Андржэйковіча было прадстаўлена ў канцылярыю віленскага генерал-губернатара Мураўёва.

Тым часам, даведаўшыся пра вынесеныя ваенна-палявым судом пакаранні, за Андржэйковічаў з Санкт-Пецярбурга пачаў хадайнічаць граф Уладзімір Фёдаравіч Адлерберг, які папрасіў аднаго са сваіх знаёмых у палявым аўдытарыяце, Дзмітрыя Іванавіча Фаміна, звярнуць увагу на справу Андржэйковічаў. Да заявы прыклаў запіску з выкладаннем абставінаў наведвання памешчыцкага двара (мызы) Андржэйковічаў паўстанцамі. З дапамогай Фаміна запіска з прашэннем была перададзена губернатару Скварцову. Той, у сваю чаргу, азнаёміўшыся з утрыманнем запіскі, палічыў магчымым перадаць яе самому Мураўёву [112, с. 26].

З'яўленне паўстанцаў на мызе Гарнастаевічы ў запісцы трактавалася графам зусім у іншым святле. Першы раз атрад конных паўстанцаў у маёнтак Гарнастаевічы прыбыў у чэрвені 1863 года. Яны паставілі вакол маёнтка свае патрулі, арыштавалі спачатку кіраўніка маёнткам, а потым Рычарда Андржэйковіча. Не выпускаючы нікога з хаты, захапілі трое коней, некалькі чвэрцяў аўса і іншыя харчовыя прыпасы. Калі атрад пакінуў маёнтак, неадкладна было паслана данясенне бліжэйшай мясцовай уладзе. У той самы час, калі з гэтым данясеннем адпраўляўся кіраўнік, з'явіўся атрад войскаў з афіцэрам Саф’яннікавым. Прачытаўшы данясенне, той зрабіў на ім пазнакі і вярнуў кіраўніку, загадаўшы даставіць данясенне ў ваўкавыскі земскі суд. У гэты час Яраслаў Андржэйковіч са сваім сямействам знаходзіўся ў Гродне. Да сястры ж прыбыў у ліпені па білеце, выдадзенаму мясцовым начальствам.

З прычыны таго, што маёнтак Гарнастаевічы знаходзіўся ў лясной мясцовасці, злучанай з Белавежскімі лясамі, то 25 ліпеня ў маёнтак

зноў прыйшоў атрад пешых узброеных паўстанцаў. Прыбыўшы на двор і паставіўшы свае патрулі, паўстанцы абвясцілі ўсім: «Хто адважыцца выйсці з двара, таму куля ў лоб». Стары і хворы Рычард Андржэйковіч схаваўся, баючыся падвергнуць сябе небяспецы. Спалоханая жонка Леанціна разгубілася і не ведала, што рабіць. Яраслаў Андржэйковіч, які толькі што прыехаў з Гродна, таксама быў ўсхваляваны раптоўным з'яўленнем паўстанцаў, таму што разам з ім у Гарнастаевічы прыбыла цяжарная жонка і чацвёра малалетніх дзяцей. Знаходжанне паўстанцаў у маёнтку працягвалася не больш за чвэрць гадзіны, таму што з'явіўся невялікі атрад рускіх войскаў, які прымусіў паўстанцаў паспешліва выдаліцца з двара ў лес, які знаходзіўся паблізу. Пры гэтым яны не паспелі захапіць з сабою якое-небудзь харчаванне. Па выхадзе паўстанцаў адразу ж было паслана данясенне да бліжэйшай вайсковай каманды, якая кватаравала ў мястэчку Поразава, які знаходзіўся ад Гарнастаевіч за тры вярсты.

Неўзабаве Рычард Андржэйковіч з жонкаю і братам апошняй Яраславам былі запатрабаваны ў горад Ваўкавыск, дзе па распараджэнні ваеннага начальніка Рычард Андржэйковіч быў адразу ж арыштаваны. Утрымліваўся на кватэры пры ахове чатырох салдат з забаронай жонцы быць з ім. Толькі раз у дзень на кароткі час ёй дазвалялася бачыцца з хворым мужам. Яраслаў Андржэйковіч быў пакінуты на волі з забаронай выезду з горада. Утрымлівалі іх так некалькі тыдняў. Пасля Рычард Андржэйковіч з жонкай і Яраслаў Андржэйковіч былі дастаўлены пад вартай у Гродна, дзе мужчын пасадзілі ў турму, а жонка Рычарда знаходзілася пад арыштам на кватэры [112, с. 67-68].

Як бачым, дзеянні паўстанцаў і саміх памешчыкаў у запісцы былі выкладзены інакш, чым следчай камісіяй. Аднак хадайніцтва графа Адлерберга, а таксама самога гродзенскага губернатара перад Мураўёвым нічога не дало. Наадварот, Мураўёў загадаў зрабіць больш жорсткім пакаранне, а таму адбыўся новы прысуд.

Нягледзячы на пажаданні губернатара Скварцова не пазбаўляць памешчыкаў правоў маёмасці, а таксама на рашэнне суда аб вызваленні селяніна Тамаша Кручка ад пакарання, канчатковы прысуд суда ад 15 лістапада 1863 года пазбавіў памешчыкаў Рычарда і Яраслава Андржэйковічаў усіх прысвоеных правоў і пераваг. Рычард быў сасланы на жыхарства ў Табольскую, а Яраслаў – у Пензенскую губерні. Селянін Тамаш Кручок быў аддадзены ў Яраслаўскую арыштанцкую роту грамадзянскага ведамства на два гады. Памешчыцы Леанціне Андржэйковіч была прадастаўлена магчымасць

ісці за сваім мужам. Калі яна гэтага не пажадае, то варта было выслаць яе на жыхарства ў Варонежскую губерню пад строгі нагляд паліцыі [112, с. 52адв.].

У справе памешчыкаў Андржэйковічаў маецца падрабязная тлумачальная запіска Яраслава Андржэйковіча, якая не датавана па часе, але, мяркуючы па змесце, была напісана ім, калі ён ужо знаходзіўся ў ссылцы. З дадзенай запіскі сутнасць справы ўяўляецца больш зразумелай. Да таго ж, Яраслаў Андржэйковіч падрабязна апісаў, якія на яго долю выпалі несправядлівыя суды і турэмныя выпрабаванні. У ліпені 1863 года ён выехаў з Гродна з жонкаю і дзецьмі да сваёй сястры Леанціны Андржэйковіч. Прабыўшы ў сястры больш за тыдзень, ён вырашыў пакінуць у яе на некаторы час жонку і дзяцей, а самому вярнуцца ў Гродна для заканчэння сваіх спраў. 25 ліпеня, вечарам, паміж 8 і 9 гадзінамі, калі Яраслаў з сястрою сядзеў на ганку дома, з'явіўся натоўп узброеных людзей. Частка з іх спынілася каля дома кіраўніка маёнткам, а іншая частка падышла да ганка, адразу акружыўшы ўвесь дом. Калі Яраслаў з сястрой запыталіся ў іх, чаго яны жадаюць, яны адказалі, што прыйшлі за правіянтам для паўстанцаў. Акрамя правіянту, паўстанцы патрабавалі тры верхавыя кані. Калі Яраслаў з сястрою пачаў ім казаць, што за дапамогу паўстанцам іх чакае строгая адказнасць, то тыя адказалі, што гэта іх нікольки не турбуе. У выпадку ж нежадання добраахвотна даць ім патрабаванае – адбяруць сілаю, бо не жадаюць паміраць у лесе ад голаду. Той, які называў сябе начальнікам атрада, запатрабаваў чатыры падводы, на якіх можна б было весці правіянт. Але калі яму сказалі, што ў двары ніякіх фурманак няма, загадаў некалькім паўстанцам адправіцца за імі ў вёску, што яны адразу выканалі. Не даходзячы да вёскі, аддаленую ад двара за чвэрць вярсты і раздзеленай ракою, паўстанцы пачулі спевы салдат, якія праходзілі праз вёску. Таму звярнулі з дарогі і спыніліся ля моста. Памешчыкам жа пад пагрозай жыцця загадалі са двара не выходзіць.

Для паведамлення аб з'яўленні паўстанцаў кіраўнік маёнткам накіраваўся з рапартам Яраслава ў вёску Гарнастаевічы да валаснога старшыні, але тады яго дома не знайшлі. Як казалі, ён быццам бы ад паўстанцаў схаваўся. Неўзабаве ў Гарнастаевічы прыехаў станавы прыстаў, якому і перадалі рапарт. Далей рапарт быў адпраўлены з дваровым слугой у мястэчка Поразава, дзе кватаравала 10-я рота Стараінгерманландскага палка.

Пасля таго, як усе леглі спаць, у гадзіну ночы да Яраслава ў спальню прыбегла сястра Леанціна і разбудзіла яго: нехта стукаў у дзверы і вокны. Надзеўшы халат, Яраслаў выйшаў у залу, дзе сустрэў двух афіцэраў з

салдатамі і казакамі. Ведаючы балючы стан свайго зяця, ён сказаў афіцэру, што замест зяця сам дасць неабходныя тлумачэнні. Спытаўшы Яраслава, ці няма ў доме паўстанцаў і не задавальняючыся яго адказам, што іх няма, камандзір атрада паручнік Ліневіч пачаў рэвізію ўсяго дома. Не знайшоўшы нічога, вярнуўся ў залу. Хвораму зяцю паручнік Ліневіч загадаў устаць з ложка. У яго прысутнасці пачаў вінаваціць Яраслава ў неданясенні пра паўстанцаў вайскоўцам, калі тыя праходзілі праз вёску Гарнастаевічы. Ліневіч таксама абвінавачваў Яраслава ў тым, што ён паслаў з рапартам пешага, а не вершніка. Яраслаў запярэчыў, што паміж Гарнастаевічамі і мястэчкам Поразава пастаўлены тры рагаткі, на якіх вартавыя не маюць права прапускаць без пропуску нават днём, а тым больш уначы.

Цэлую гадзіну пасля допыту Яраслава паручнік Ліневіч пісаў рапарт ваўкавыскаму ваеннаму начальніку, а потым сказаў, што вымушаны арыштаваць яго. Прабыўшы на мызе яшчэ каля паўгадзіны, Ліневіч узяў пад варту Яраслава і са сваім атрадам адправіўся ў вёску. Каля гарнастаевіцкай карчмы спыніліся. Неўзабаве з маёнтка сюды прывезлі ключніцу і двух лёкаяў, з якіх адзін атрымаў некалькі ўдараў казацкім нагайкамі за тое, што павольна падымаўся з ложка, калі яму пастукалі ў дзверы. Да чацвярых арыштаваных далучылі селяніна Тамаша Кручка і яго жонку. Усіх затрыманых Ліневіч аддаў пад варту валасному старшыні і загадаў адвезці ў Поразава, дзе здаў камандзе вайскоўцаў, якія там кватаравалі. Далей Ліневіч з атрадам вярнуўся ў двор Гарнастаевічы. Адсюль а 5-й раніцы пачаў праследаванне паўстанцаў, страціўшы пры гэтым праз валтузню з затрыманымі некалькі гадзін.

Па прыбыцці ў мястэчка Поразава затрыманых пасадзілі ў нейкім разбураным будынку, куды нікога не дапускалі і не давалі есць. На трэці дзень знаходжання ў Поразаве да затрыманых падсадзілі некалькі ўзятых у палон паўстанцаў. Нарэшце, на чацвёрты дзень увечары Яраслава пад канвоем адправілі ў Ваўкавыск да вайсковага начальніка Казанлі [112, с. 79-83]

Казанлі загадаў Яраславу Андржэйковічу даць паказанні пра тое, што адбылося ў Гарнастаевічах на паперы, сказаўшы, што адпусціць яго толькі пасля атрымання адказу па ім ад гродзенскага губернатара. Пасля чатырох дзён знаходжання Андржэйковіча ў Ваўкавыску пад вартай Казанлі выклікаў яго да сябе і абвясціў, што той свабодны.

Праз дзень усё сямейства Андржэйковічаў разам з мужам і жонкай Рычардам і Леанцінай Андржэйковічамі выехалі ў Гродна. Прыкладна праз два тыдні пасля прыбыцця ў Гродна Яраслаў Андржэйковіч атрымаў ад паліцыі

павестку з патрабаваннем прыехаць у Ваўкавыск да Казанлі. Яго сястра Леанціна з мужам, маючы дазвол аб знаходжанні ў Гродне на працягу толькі 10 дзён, два дні таму вярнуліся ў свой маёнтак Гарнастаевічы.

Прыбыўшы за пропускам для паездкі ў Ваўкавыск да вайсковага начальніка Гродзенскага павета Бранта, Яраслаў са здзіўленнем даведаўся, што ён падлягае арышту і будзе дастаўлены ў Ваўкавыск пад канвоем. У Ваўкавыску выявілася, што і яго зяць Рычард таксама знаходзіцца пад аховай. Яраслава ваенны начальнік Казанлі не арыштаваў, загадаўшы яму не пакідаць Ваўкавыск. Аднак 8 верасня Яраслаў разам са сваёй сястрой Леанцінай аказаліся заключанымі пад варту.

На другі дзень быў складзены этап з арыштантаў, якія знаходзіліся ў ваўкавыскай турме, куды ўключылі трох памешчыкаў Андржэйковічаў. Этап пад канвоем адправілі ў Гродна. Мужу Рычарду і жонцы Леанціне было дазволена ехаць у сваім экіпажы. Каля дзесятка чалавек арыштантаў канваявала цэлая рота салдат Сямёнаўскага палка пад камандай капітана Меншыкава з атрадам уланаў. Па ўсім было відаць, што этап падгадалі спецыяльна пад пераход роты з Ваўкавыска ў Гродна. Пешы пераход у Гродна доўжыўся два дні. Па прыбыцці ўсіх арыштантаў змясцілі ў гродзенскую турму. Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што на наступныя суткі пасля знаходжання ў турме Леанціне дазволілі пад вартай пражываць у жонкі яе брата Яраслава.

А вось як расказваў Яраслаў Андржэйковіч у тлумачальнай запісцы пра суд, які над ім адбыўся. Старшыня палявога суда палкоўнік Весяліцкі спачатку прачытаў яму паперу губернатара Скварцова ад 5 верасня, на падставе якой Скварцоў у ліку іншых аддаваў яго ваеннаму суду. Потым Весяліцкі спытаў Яраслава, ці не мае ён што сказаць супраць тых, хто засядае ў судзе. На гэта Яраслаў адказаў, што не мае. Нарэшце яго спыталі, ці не мае што-небудзь дадаць у сваё апраўданне. І на гэта ён адказаў, што не мае. Пасля некалькіх хвілін знаходжання ў судзе, Яраслаў быў адведзены назад у турму.

Як бачым, пасяджэнне ваенна-палявога суда было чыста фармальным і заняло па працягласці ўсяго некалькі хвілін. Пасля суда для асуджаных былі зроблены некаторыя паслабленні. Яраславу было дазволена пабачыцца з жонкаю і дзецьмі, якіх ён не бачыў з часу свайго зняволення. Спатканні дазволілі два разы на тыдзень па паўгадзіны кожнае. Падчас сядзення ў турме жонка ад усяго перажытага нарадзіла хворае дзіця. Рычарда перавялі ў адну камеру да яго зяця Яраслава, а жонку Леанціну вызвалілі ад варты, і ёй было дазволена наведваць мужа ў турме.

9 снежня ў палявы суд з камеры першым быў выкліканы Рычард Андржэйковіч. Праз паўгадзіны ён вярнуўся адтуль моцна засмучаным. Ведаючы сваю невінаватасць, Рычард ніколі не падумаў пра тое, што яго па гэтай справе могуць так строга пакараць.

Услед за сваім зяцем у суд быў выкліканы і Яраслаў, дзе абвешчаны яму прысуд стаў такім жа нечаканым, як і для Рычарда. Яраслаў быў упэўнены, што ўсе яны, у тым ліку і селянін Тамаш Кручок, сталі ахвярамі судовай нядобрасумленнасці і саміх суддзяў, якія ў судзе бачылі толькі прыладу кары, а не правасуддзе і якія кіраваліся не законамі, а самаўпраўнасцю.

Яраслава чакаў яшчэ адзін удар лёсу: праз пяць дзён пасля абвяшчэння прысуду памерла яго дзіця, якое нядаўна нарадзілася, а жонка сур'ёзна хворая не ўставала з ложка. Губернатар Скварцоў не даў магчымасці выехаць ёй з Гродна і пахаваць памерлага ў сваім фамільным склепе, дзе былі пахаваны продкі Андржэйковічаў. Затое Яраславу было дазволена на працягу трох дзён па дзве гадзіны пад вартай наведваць сваю сям'ю.

1 студзеня Яраслаў развітаўся са сваім сямействам, а на наступны дзень раніцай наступіла адпраўка. Яму далі верхнюю казённую арыштанцкую вопратку з літарамі «ГГ», што азначала Гродзенская губерня, і такую ж арыштанцкую шапку. Пераапранутых арыштантаў пешшу пагналі па вуліцах горада да чыгуначнай станцыі. Партыя складалася з 50 чалавек, у ліку якіх больш за ўсё было жанчын і дзетак, якіх везлі на фурманках.

У 10 гадзін вечара таго ж дня арыштанты прыбылі ў Вільню. Тут усіх загналі ў нейкую казарму, пабудаваную пры чыгунцы. Сюды прыйшоў пісар, перапісалі арыштантаў і іх казённыя рэчы, пасля чаго ў 12 гадзін ночы мужчын праз горад пагналі ў цытадэль, а жанчын з дзецьмі ў гарадскую турму. У цытадэлі іх змясцілі ў вялікі пакой, які служыў памяшканнем для арыштанцкіх рот. На другі дзень прыгналі яшчэ 80 палітычных арыштантаў рознага саслоўя. Цесната была неверагодная. Замест ложкаў былі ўладкаваны нары з матрацамі, набітымі саломаю. Але і колькасць нараў была ў два разы меншай, чым арыштантаў, таму спалі хто на нарах, а хто на падлозе. Паветра нясцерпнае, сырасць нечуваная, вакол бруд і невыносны смурод ад бака, куды адпраўлялі свае патрэбы зняволеныя. На пражытак кожнаму давалі па 10 капеек у дзень са словамі: «спраўляйцеся, як ведаеце».

У такім становішчы арыштанты прабылі тыдзень. Адчуваючы, што яму такое катаванне не вытрымаць, Яраслаў упрасіў, каб яго перавялі ў горад у манастыр францысканцаў, пераўтвораны ў турэмны замак, дзе ўмовы

ўтрымання зняволеных былі лепшымі. Аднак цераз тыдзень яго зноў вярнулі ў турму. На другі дзень у 2 гадзіны пасля абеду ўсіх арыштантаў, прызначаных да высылкі, сабралі на турэмным двары. Пасля пераклічкі і праверкі казённага адзення кожнаму раздалі на тры дні харчавання, якое складалася з 7-8 фунтаў хлеба і ялавічыны, парэзанай на дробныя кавалачкі. Уся гэтая аперацыя працягвалася да 10 гадзін вечара пры сталым шуме, плачы, стогне жанчын і дзяцей, пры невыносных лаянках з боку салдат і г.д. Нарэшце ўсю партыю арыштантаў, якая складалася з 360 чалавек рознага ўзросту, пагналі на чыгуначную станцыю. Тут, хто дзе мог, змясціліся ў вагонах 3-га класа, а ў 12 гадзін ночы з пятніцы на суботу 17 студзеня цягнік крануўся з месца. Праз двое з паловай сутак ён прыбыў у Пецярбург [112, с. 84-91].

Для перавозкі арыштаваных з Вільні ў Пецярбург выкарыстоўваліся спецыяльныя вагоны, у якіх арыштаваных змяшчалі разам з канвойнымі ніжэйшымі чынамі. Усяго ў вагоны набівалі па 60 чалавек. Арыштанцкія цягнікі на Пецярбург адпраўляліся з Вільні па пятніцах, прыбываючы на канцавую станцыю ў нядзелю.

Нягледзячы ні на што, прысуд Андржэйковічам быў пакінуты ў сіле. Толькі праз два гады жонка Яраслава дамаглася дазволу на перагляд справы свайго мужа, аднак і гэта нічога не дало. Тым часам хваравіты стан Рычарда Андржэйковіча дазволіў яму дамагчыся ў 1866 годзе перамяшчэння з Табольскай губерні ў горад Старую Русу Наўгародскай губерні для карыстання мінеральнымі водамі. Стан здароўя не паляпшаўся, і тады па медыцынскай даведцы Рычард хадайнічае перад Міністэрствам унутраных спраў аб дазволе лячэння за мяжой, на што 20 ліпеня 1867 года была дадзена згода [86, с. 188]. Муж і жонка Рычард і Леанціна Андржэйковічы пераехалі ў Варшаву.

4 кастрычніка 1869 года рыжскі генерал-губернатар граф Алабедзінскі пачаў хадайнічаць перад віленскім генерал-губернатарам пра Яраслава Андржэйковіча, які да гэтага часу быў перамешчаны ў Рыгу. Высланы на жыхарства ў Пензенскую губерню ў 1867 годзе, па распараджэнні начальства Яраслаў быў перамешчаны ў Рыгу пад паліцэйскі нагляд. Граф прасіў садзейнічання віленскага губернатара дазволіць Яраславу прыбыць у Вільню для асабістага тлумачэння абставінаў сваёй справы [112, с. 190].

Адказ, які з'явіўся 1 лістапада таго ж года, паведамляў, што галоўны начальнік краю на то сваёй згоды не праявіў [112, с. 191].

17 красавіка 1871 года дэпартамент выканаўчай паліцыі пры міністэрстве ўнутраных спраў з паметкай «Па Найвышэйшым загадзе»

накіраваў сваё прадпісанне віленскаму генерал-губернатару. У загадзе паведамлялася, што гасудар імператар усеміласцівейша дазволіў вярнуць правы стану палітычнаму ссыльнаму Яраславу Андржэйковічу, але без правоў на ранейшую маёмасць. Яму было дазволена жыць паўсюдна, за выключэннем сталіц, сталічных губерняў і заходніх губерняў. Таксама ён не вызваляўся ад нагляду паліцыі [112, с. 196].

Такім чынам, Яраславу было адмоўлена ў пражыванні ў Гродзенскай губерні. Таму ён застаўся пражываць у Рызе.

Што тычыцца Леанціны і яе мужа Рычарда, то да 1873 года ім было дазволена перабрацца з ссылкі ў Варшаву. 22 сакавіка 1873 года родны брат Леанціна і Яраслава – Аляксандр, які пражываў ў Гродне, з прычыны сваёй цяжкай хваробы папрасіў гродзенскага губернатара дазволіць сястры з мужам прыехаць да яго з Варшавы. Ужо 5 красавіка дазвол пра паездку ў Гродна тэрмінам на два тыдні быў атрыманы і выдадзены пашпарты. Такі ж дазвол тэрмінам на два месяцы для спаткання з родным братам атрымаў і Яраслаў.

26 студзеня 1875 года жонка тайнага саветніка Адольфа Рамуальдаўна Навіцкая, сваячка Рычарда Андржэйковіча, якая і раней прымала ўдзел у яго лёсе, пасля абвяшчэння ўрадам 9 студзеня некаторых ільгот палітычным злачынцам, напісала хадайніцтва ў міністэрства ўнутраных спраў аб дазволе Рычарду і Леанціне з прычыны іх сталых гадоў вярнуцца з Варшавы ў Гарнастаевічы. 8 красавіка таго ж года дазвол аб вяртанні на радзіму, падпісаны самім расійскім імператарам, быў атрыманы. Аднак пажылыя і бяздзетныя муж і жонка Андржэйковічы не спяшаліся вяртацца ў Гарнастаевічы, даручыўшы па даверанасці распараджацца маёнткам памешчыку Станіславу Аніхімоўскаму.

Нарэшце, 20 верасня 1875 года забарона аб пражыванні ў заходніх губернях і ў сталіцах была знята і з Яраслава. Вярнуцца ў свой маёнтак Беландзічы ў Кобрынскі павет ён не мог, таму што той ужо належаў іншаму гаспадару. Аднак «манаршым наказам» за страчаны маёнтак яму была выдадзена грашовая кампенсацыя ў суме 3000 рублёў.

На гэтым справа аб памешчыках Андржэйковічах скончылася. Пра лёс селяніна Тамаша Кручка нічога больш не паведамлялася. Маёнткам Гарнастаевічы пасля смерці бяздзетных мужа і жонкі Рычарда і Леанціны валодалі іх пляменнікі – дзеці Яраслава Андржэйковіча.

# СПРАВА КСЯНДЗА ПІСАНКІ

Адным з найбольш актыўных інстытутаў прапаганды паўстання ў заходніх губернях з'яўляўся каталіцкі касцёл. Уладам сталі вядомы шматлікія выпадкі агітацыі ксяндзамі сваёй паствы. Таму з пачаткам паўстання з боку ўладаў да ксяндзоў і касцёла была звернута павышаная ўвага.

Паводле афіцыйных звестак садзейнічалі паўстанцам тым ці іншым чынам альбо проста спачувала ідэям паўстання 447 прадстаўнікоў духавенства Літвы і Беларусі [10, с. 586]. Адны з іх былі рэпрэсаваны, іншыя эмігравалі альбо загінулі ў баях. Падставай да рэпрэсій магло служыць любое з абвінавачванняў: у агітацыі да паўстання праз чытанне маніфеста цэнтральнага рэвалюцыйнага камітэта, у чытанні іншых пракламацый, у чытанні адпаведных малітваў, у агітацыі і вярбоўцы людзей для партызанскіх атрадаў, у арганізацыі паніхід па забітых паўстанцах, у захоўванні пракламацый і папер антыўрадавага зместу. У Ваўкавыскім павеце за ўдзел у паўстанні арышту падвергліся 9 духоўных асоб каталіцкага веравызнання. А ксёндз Манюшка з мястэчка Лыскава прыняў непасрэдны ўдзел у паўстанні ў ваўкавыскім партызанскім атрадзе Густава Стравінскага.

Асаблівая ўвага ўладаў у Ваўкавыскім павеце была нададзена Поразаўскаму касцёлу і яго ксяндзу, пробашчу Поразаўскай парафіі Баніфацыю Пісанку. Яшчэ былі свежыя ў памяці падзеі 1858 года, калі многія ўніяты, пераведзеныя гвалтоўна ў праваслаўе, перайшлі ў каталіцтва і ні на якія ўгаворы ўладаў вярнуцца ў ранейшую веру не паддаваліся. У Поразава былі накіраваны войскі, якія секлі непакорлівых сялян розгамі.

28 мая 1863 года па загадзе гродзенскага жандарскага маёра Ленякова ад’ютант-прапаршчык Зыкаў, які знаходзіўся пры ім, разам з паліцыянтам, губернскім сакратаром Юльянам Калупайлам і паручнікам Вікірдам, адправіліся з канвоем у мястэчка Поразава ў кватэру настаяцеля Поразаўскага касцёла Баніфацыя Пісанкі. Прыбылі ў 4 гадзіны раніцы, калі сам Пісанка і яго пляменніца Ядвіга Пісанка, якая жыла пры ім у плябанні, яшчэ знаходзіліся ў ложках. Мэтай гэтак ранняга і нечаканага візіту быў падрабязны і глыбокі вобыск. Прадстаўнікі ўладаў, якія прыбылі, сабралі ўсе



Мал.22. Касцёл Св. Міхала ў Поразава. Пабудаваны ў 1825-1829 гг.

паперы, апячатаўшы іх агульнымі пячаткамі, а ксяндза Баніфацыя і Ядвігу ўзялі пад арышт [87, с. 6].

Падставай для арышту паслужыў адзін з лістоў, знойдзеных пры вобыску. Ліст быў адпраўлены з Парыжа ў Вільню Марыяй Свянткоўскай да сваёй маці і перасланы апошняй сваёй пляменніцы Ядвізе ў мястэчка Поразава: «Дарагая мая матуля! Як жа я ўзрадавалася, атрымаўшы Ваш ліст. Але чаму ж Вы так коратка пішаце мне, для чаго пакідаеце пустую паперу! Няўжо Вам няма чаго сказаць мне! О! Напэўна, не! За ліст спадарыні Яўлонскай я вельмі ўдзячная і прашу Вас кланяцца ад мяне гэтай шаноўнай даме і сказаць ёй, што ў мяне ёсць да яе ліст, але я не магу зараз аддаць яго на пошту [...].

О! Калі б я магла даць поўную волю маім пачуццям! Ядвізе адказваю ў гэтым лісце. Дзякую Вам, матуля, за кветку і два лісты, дасланыя з Літвы – яны мне прынеслі вялікую радасць. Можа быць, кветкі бачылі нашых адважных герояў ... і Каліноўскага. Матуля, не падай духам і маліся толькі за нашу айчыну, таму што жанчына не можа быць на полі славы, бо яе рукі занадта слабыя, але сэрца можа змагацца малітваю [...]. Мацуй тых, хто падае духам, суцяшай тужлівых і прыгнечаных пад мангольскім ігам» [87, с. 8].

Са зместу ліста следчая камісія зрабіла выснову аб адносінах Ядвігі Пісанкі да палітычных справаў, тым больш у ім ўзгадваўся нехта Каліноўскі. Не выключана, што гэта быў Кастусь Каліноўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання на Літве. Таму і захваляваліся ўлады. А тым болей, Расійская імперыя ў лісце параўнаўвалася з мангольскім ігам.

30 мая арыштаваныя Ядвіга і Баніфацый Пісанкі былі адпраўлены для далейшага следства ў Вільню, а ўжо 31 мая было ўказанне Мураўёва віленскай следчай камісіі па палітычных справах. У ім паведамлялася, што вобыск у Пісанкі ў Поразаве быў зроблены па падазрэнні яго аб удзеле ў паўстанні па распараджэнні самога Мураўёва. Ксяндза Пісанку і дзяўчыну Ядвігу разам са ўзятымі ў іх паперамі варта было даставіць да віленскага каменданта, дзе над імі меркавалася правесці дбайнае расследаванне [87, с. 5].

Ядвіга Фёдараўна Пісанка следчай камісіі аб сабе паведаміла, што ёй 21 год, веравызнання рымска-каталіцкага, дваранскага паходжання, дачка служачага Валынскага павятовага суда, пражывае ў Ваўкавыскім павеце ў мястэчку Поразава ў дзядзькі, ксяндза Баніфацыя Пісанкі, дзе давала ўрокі двум тутэйшым дзяўчынкам з парафіі свайго дзядзькі. За што арыштаваная – не ведала і віны за сабой не адчувала [87, с. 10].

Пра тое, што справе надавалася вялікае значэнне, сведчыць зацікаўленасць у ім самога Мураўёва, а таксама тое, што допыт Ядвігі праводзіўся самім старшынёй віленскай следчай камісіі ў чыне генерал-лейтэнанта (подпіс неразборлівы). У сваіх тлумачэннях з нагоды перапіскі са сваёй стрыечнай сястрой у Парыжы Ядвіга прызналася, што пісала ёй усяго два разы кароценькія лісты, у якіх ні пра палітыку, ні пра паўстанні нічога не паведамлялася па той простай прычыне, што сястры Марыі ўсяго 13 гадоў.

З пратаколу допыту следчай камісіяй ксяндза Баніфацыя, 34 гадоў, вынікае, што падставай для вобыску ў яго плябаніі паслужыў данос яўрэяў аб яго кантакце з паўстанцамі. Пісанка ж лічыў, што яўрэі помсцілі яму за выкананне пісьмовага прадпісання віленскага біскупа Адама Красінскага [87, с. 16].

Згаданы ліст Красінскага ад 6 кастрычніка 1860 года быў разасланы ўсім дэканам, у тым ліку і ваўкавыскаму дэкану Іосіфу Абелевічу. У лісце гаварылася, што духоўныя пастыры, якія не клапоцяцца пра цвярозасць сваёй паствы, адкажуць за гэта на страшным судзе і што такія ксяндзы будуць стаяць на вельмі кепскім рахунку ў епархіяльнага начальства: «З сардэчным сумам атрымліваем мы весткі, што ў некаторых прыходах (дзякуй Богу – не ва ўсіх) Божы народ схіляецца да зла – зноў пачынае піць [...]. Каб слугі ал-

тара не гублялі рэўнасці, самі давалі прыклад цвярозасці народу, вучылі яго, што п’янства ёсць грэх, што ні адзін п’яніца не будзе збаўлены» [87, с. 26].

Ні для каго не было сакрэтам, што менавіта яўрэі амаль паўсюдна арандавалі ў памешчыкаў карчмы, былі больш за ўсё зацікаўлены ў продажы гарэлкі сялянам. І , як тлумачыў на следстве ксёндз Пісанка, ён пачаў рашуча змагацца з п’янствам, за што яго і неўзлюбіла яўрэі. Усе абвінавачванні ў дапамозе паўстанцам ксёндз Пісанкі рашуча адхіліў. Тым не менш з лістоў, знойдзеных у ксяндза, вынікала, што сярод яго адрасатаў пераважалі антырасійскія настроі. Так, у адным з лістоў ваўкавыскі вікарый Іосіф Дзіякевіч паведамляў Пісанку: «Не маю больш пра што пісаць табе, таму што няма часу. Хоць гэта час і пасляабедзены, але я павінен спяшацца на маскоўскую інквізіцыю (маецца на ўвазе следчая камісія. – М.Б.). Ты добра ведаеш, як мне «прыемна» слухаць, калі адзін каталік у прысутнасці рускіх зрывае галаву ў іншага каталіка з прычыны даносу людзей з вёсак Калантаі і Яцвезь на Гнезненскага старшыню, якога вінавацяць за тое, што быццам бы ён непрыстойна адазваўся аб гаспадару і пра будучае праўленне Польшчы» [87, с. 30].

У наступным лісце Іосіф Дзіякевіч пісаў Пісанку аб тым, як паводзяць сябе салдаты ў Ваўкавыску, дзе было ўведзена ваеннае становішча (дадзены ліст апублікавана ў главе «Парадкі». – М.Б.).

Сабраных доказаў для асуджэння ксяндза Пісанкі аказалася недастатковым нават для Мураўёва, а таму 20 ліпеня 1863 года ён напісаў у следчую камісію, каб у Вільню для допыту былі дастаўлены вікарый Поразаўскага касцёла Уладзіслаў Байкоўскі і вікарый з Віленскай губерні Леапольд Качынскі, імёны якіх згадваліся ў лістах, знойдзеных пры вобыску ў Пісанкі [87, с. 49].

Праз тры тыдні пасля арышту ксяндза Пісанкі ў плябаніі быў праведзены паўторны вобыск, і ў хаце за касцёлам, якая служыла прытулкам для жабракоў, было знойдзена шмат сухароў, што ўладам паказалася падазроным. Была выказана здагадка, што сухары прызначаліся для паўстанцаў. Вікарый Байкоўскі патлумачыў ў следчай камісіі што Поразаўскі прыход складаецца без малога з 6 тысяч душ, з якіх большасць сяляне. Яны па даўняй традыцыі, ідучы ў касцёл, прыносяць з сабой кавалак хлеба для жабракоў, якія з лішкаў хлеба сушаць сухары. За некалькі гадоў такіх сухароў набралася значная колькасць, таму што жабракі не маглі з’есці вялікай колькасці ахвяраванага ім хлеба, а сухары сушылі на выпадак голаду ці выдалення іх з прытулку. Сухары былі канфіскаваны і аддадзены салдатам. Аднак аказалася, што большая частка сухароў была сапсаванай, і салдаты есць іх адмовіліся [87, с. 64-65].

26 чэрвеня 1863 года ваўкавыскай следчай камісіяй быў дапытаны мешчанін мястэчка Поразава, каталік Фадзей Іванавіч Крыцкі, 23 гадоў, які быў раней арганістам, але звольнены ксяндзом Пісанкам. Фадзей Крыцкі паказаў не толькі на ксяндза Пісанку, але і на ўсіх, пра каго ведаў нешта крамольнае. Паводле яго слоў, у кватэры ксяндза ў мястэчку Поразава пастаянна збіраліся памешчык Сасуліч, які пражывае на мызе Харашэвічы, валасны пісар Леванчук, эканом з фальварка Лескі – Краснік і дамы: удава, памешчыца Шышкевічава, якая пражывае на мызе Масушын, пляменніца ксяндза Пісанкі – Ядвіга, сястра ксяндза Пісанкі – Караліна Пісанка, якая пражывае ў ксяндза. Спявалі разам з ксяндзом днём і па вечарах абуральныя гімны, а Караліна і Ядвіга Пісанкі шылі чырвоныя кашулі і дастаўлялі ў атрад паўстанцам ў вёску Грынкі. Камандаваў зборам рэчаў памешчык Каспер Высоцкі. Сын яго Уладзіслаў знаходзіўся ў паўстанцаў і у цяперашні час хворы хаваўся ў мызе Валіскаўшчына. Для гэтага атрада ў доме Высоцкіх збіралі прадукты. Вазілі іх да паўстанцаў памешчык Талішэўскі, які пражывае на мызе Рыскаўшчына, і Караліна Пісанка з ксяндзоўскім фурманам Іванам Казімірчыкам. Казімірчык хацеў застацца ў атрадзе, але яго па маладосці гадоў не прынялі. Памешчык Сасуліч абдумана купляў у мястэчку Поразава косы і загорнутыя ў цюк у рагожу дастаўляў у згаданы атрад, дзе знаходзіўся яго брат.

Па словах Фадзея Крыцкага, жонка памешчыка Сегеня, якая пражывае каля Ваўкавыска, апавясціла ксяндза Пісанку за дзве гадзіны да меркаванага ў яго вобыску, таму ксёндз Пісанка ўсе паперы, якія кампраментуюць яго, спаліў.

Старшыня Франц Крыцкі, які пражываў у мястэчку Поразава, і доктар Талашмянскі пра ўсё, што робіцца і калі праходзяць войскі, апавяшчалі паўстанцаў, таму што два браты Талашмянскія – Кароль і Вікенцій далучыліся да паўстанцаў. Калі ж ваенны начальнік апытваў старшыню Крыцкага, ці не пайшоў хто з мястэчка ў лес да паўстанцаў, то старшыня абманваў, што не. Між тым, з мястэчка да паўстанцаў сышлі чатыры чалавекі, а менавіта: Восіп Дмухоўскі, Ян Дмухоўскі, Казімір Шалкевіч і Іван Масюкевіч.

Згаданы вышэй эканом Краснік пастаянна хаваў у сябе паўстанцаў. Аднак калі яго хацелі ўзяць у лес, то ён папрасіў яго не браць, за што абяцаў даваць паўстанцам грошы. Пасля таго, як атрад паўстанцаў разбілі, то ў яго хаваліся ўцекачы з гэтага атрада. Калі казакі прыехалі шукаць Красніка, то ён у гэты час хаваўся на гарышчы ў саломе, і таму яго не знайшлі.

Сын памешчыка Зубялевіча – Восіп, які пражываў у Вілейшы, быў у лесе ў паўстанцаў два тыдні, але яго адтуль выгналі, сказаўшы, што няздольны партызаніць, і цяпер ён знаходзіцца ў сваім маёнтку.

Малады ксёндз Байкоўскі падбухторваў народ напісаць прашэнне аб узяцці на парукі арыштаванага ксяндза Пісанку. У самога Байкоўскага знаходзіліся розныя паперы. Калі забралі Пісанку, то пры вобыску знайшлі і паперы Байкоўскага, таму ён і пасылаў у Вільню селяніна Восіпа, які знаходзіўся пры ім, даведацца аб усім.

Дзесяць дзён таму назад прыязджаў з маёнтка Палонка ў Поразава да ксяндза Байкоўскага пісар. Ён прывёз да ксяндза ліст і клікаў яго да сябе ў Палонку, каб ахрысціць нованароджанае дзіця. Аднак дзіцяці, як было вядома Фадзею Крыцкаму, зусім не было, але ксёндз Байкоўскі меў намер ехаць. Яму перашкодзіла русскае войска, якое начавала ў гэты час у Поразаве і не дазволіла пісару ехаць назад, узяўшы яго пад арышт [87, с. 119-120].

Характарыстыку на ксяндза Пісанку ўлады запатрабавалі ў мясцовага праваслаўнага святара Поразаўскай праваслаўнай царквы Аляксандра Казлінскага. У сваім першым лісце на імя ваеннага начальніка Казанлі, напісаным 20 ліпеня 1863 года, бацюшка ў адносінах да свайго калегі быў прыязны і даваў яму цалкам станоўчую характарыстыку. Паведамляў, што яны не з'яўляюцца блізкімі суседзямі з ксяндзом, а таму заўважаць яго дзеянні і сачыць за яго ўчынкамі ён не мог. Што ж тычыцца дрэнных чутак пра яго, то такія да бацюшкі не даходзілі. Наогул яго меркаванне пра ксяндза самае добрае з прычыны спакойнага характару Пісанкі і шчырага ладу думак, якія выявіліся ва ўзаемных здзелках па парафіях. Прыход Поразаўскай царквы даўно вядомы частым ў ранейшы час спакушэнні праваслаўных у лацінскі абрад, што было прычынай многіх смут і спакус. З часу ж прызначэння ў Пора-зава ксяндза Пісанкі ўсе рэлігійныя смуты спыніліся, і спакушэнні больш ужо не аднаўляліся. Процідзеянняў праваслаўю з боку ксяндза не было. Таму супакаенне Поразаўскіх праваслаўных вернікаў і ўз'яднанне іх з рускай царквой бацюшка прыпісваў і садзейнічанню ксяндза Пісанкі [87, с. 102 адв.].

Праз два месяцы, у другім лісце ад 21 верасня 1863 года Аляксандр Казлінскі паведамляў Казанлі зусім іншае. Па словах бацюшкі, пра святара Поразаўскага касцёла Пісанку яму вядома толькі тое, што ён меў дачыненне да паўстання супраць законнага ўрада. Пра яго палітычныя дзеянні бацюшка не мог у свой час ведаць з прычыны ўтоенасці дзеянняў паўстанцаў. Бацюшка Казлінскі прасіў Казанлі лічыць свой першы ліст са станоўчай характарыстыкай Пісанкі памылковым. Тлумачыў сваю двудушнасць тым, што раней меў пра яго зусім іншыя паняцці, чым цяпер, калі ксяндза выкрылі [87, с. 108].

6 снежня 1863 года віленская следчая камісія скончыла следства па ксяндзу Пісанку, заключыўшы, што настаяцель Поразаўскага касцёла

вінаваты ў тым, што не прадаставіў начальству двух лістоў вікарнага ксяндза Ваўкавыскага касцёла Іосіфа Дзіякевіча, якія выказваюць нянавісць яго да Расіі і насмешкі над дзеяннямі ўрада. Лічачы сястру сваю нядобранадзейнай у палітычных адносінах, належным чынам не наглядаў за ёю і дазваляў браць коней, на якіх яна адвозіла паўстанцам харчовыя запасы. Аднак камісія выказала недавер нічым не пацверджаным паказанням Крыцкага. Усе згаданыя ў паказаннях Фадзея Крыцкага асобы далі следству свае тлумачэнні, па выніках якіх большасць падзей не пацвердзілася.

Камісія прыняла пад увагу, што ксёндз Пісанка з'яўляўся чалавекам нясмелым і нерашучым, дзейнічаў пад уплывам сваёй сястры, жанчыны вельмі ўпартай і рашучай. Было ўлічана і сведчанне Поразаўскага праваслаўнага святара Казлінскага, што Пісанка садзейнічаў прымірэнню спакушаных раней да лацінства праваслаўных вернікаў.

Зыходзячы з усяго гэтага, камісія прапанавала прыдаць Пісанку суду з прылічэннем да 4-й катэгорыі пакаранняў [87, с. 140-141].

Пляменніца Пісанкі – Ядвіга, арыштаваная па справе следчай камісіяй, была апраўдана і пасля 6-месячнага зняволення, праведзенага пад следствам, была адпушчана на волю.

Сястра Пісанкі – Караліна, акрамя паказанняў Крыцкага, абвінавачвалася фурманам Літовічам і пастухом Казімірчыкам у дастаўцы харчовых прыпасаў паўстанцам. Да таго ж сам Пісанка за паводзіны і ладам думак сваёй сястры ў палітычных адносінах не мог паручыцца. Таму, нягледзячы на нязгоду Караліны Пісанкі, следства прызнала яе вінаватай у дастаўцы прадуктаў паўстанцам і неабходнасці прыдання суду па 4-й катэгорыі.

Пастуха Івана Казімірчыка па сваім малалецтве і ў сувязі з тым, што ён адвозіў у лес прадукты па загадзе сваёй гаспадыні Караліны Пісанкі, ад пакарання камісія вырашыла вызваліць.

Быў асуджаны і дапаможны ксёндз Поразаўскага касцёла Уладзіслаў Байкоўскі. З яго лістоў было ўстаноўлена, што ён стараўся перашкаджаць шлюбу дзвюх сясцёр каталічак Карвоўскіх з праваслаўнымі, пагражаў праклёнам іх будучыні нашчадкам і пякельнымі пакутамі. Незалежна ад згаданых лістоў у Байкоўскага быў знойдзены запячатаны ліст, які пісаў ксёндз Леапольд Качынскі да свайго далёкага сваяка ксяндза Напалеона Качынскага. У ім паведамлялася аб намеры ксяндза Леапольда далучыцца да паўстанцаў. Ксёндз Леапольд Качынскі шчыра прызнаўся, што не толькі даў Байкоўскаму ў семінарыі для адпраўлення гэты ліст, але нават пісаў яго

па падгаворванні Байкоўскага. Звыш таго, у камісіі ўзнікла падазрэнне, што паездкі Байкоўскага да ўпраўляючага маёнткам Палонка і ў Брэст мелі папераджальную мэту. За гэтыя ўчынкі ксяндза Байкоўскага, які вызначыўся на следстве асаблівай упартасцю і замыканнем, камісія прапанавала аддаць яго пад суд з прылічэннем да 2-й катэгорыі пакаранняў.

Па гэтай справе праходзіў і дапаможны ксёндз Ваўкавыскага касцёла Іосіф Дзіякевіч. Ён абвінавачваўся следчай камісіяй у тым, што даў сваёй сястры для мыцця белую канфедэратку з чорным аколышам. Дзіякевіч быў прызнаны вінаватым і ў напісанні да ксяндза Пісанкі двух лістоў, якія выказваюць не толькі нянавісць да Расіі і насмешкі над дзеяннем урада, але і выяўляюць прамы саўдзел яго ў паўстанні. У адным з гэтых лістоў ён шкадаваў, што ў яго на радзіме весткі не такія добрыя, як у Каралеўстве Польскім, хоць ксёндз Дзіякевіч, на думку камісіі, у сваіх тлумачэннях перад ёй стараўся перайначыць сапраўдны сэнс сваіх лістоў. Камісія прапанавала ксяндза Дзіякевіча аддаць пад суд з ужываннем 2-й катэгорыі пакаранняў [87, с. 142].

Чаму такая сур'ёзная ўвага была ўдзелена нейкаму галаўному ўбору, праз які ксяндзу пагражала аддача пад суд? Канфедэратка лічыцца нацыянальным галаўным уборам палякаў, і яе нашэнне падчас паўстання лічылася царскай уладай выклікам ёй. На следстве ксёндз Дзіякевіч сказаў, што канфедэратка, па якой яго абвінавачваюць, зусім была не канфедэратка, а начная шапка, якую ён апранаў на ноч. І сапраўды, не стане ж ксёндз, які павінен быў насіць адпавядае яго сану адзенне, насіць відавочна не па форме пашыты галаўны ўбор. Тым больш, што гэтая шапка дасталася яму па латарэі, якая ў 1861 годзе публічна прадавалася для патрэбаў Ваўкавыскага касцёла, а менавіта для збору сродкаў на ўзвядзенне каменнай агароджы вакол касцёла.

Заключэнне віленскай следчай камісіі па справе ксяндза Пісанкі было прадстаўлена на разгляд Мураўёву. Згаджаючыся з камісіяй аб меры пакарання, ён палічыў патрэбным прыняць да ўвагі паказанні Крыцкага. На думку Мураўёва, трэба было прызнаць у садзейнічанні паўстанцам памешчыка маёнтка Харашэвічы – Сасуліча, валаснога пісара Леванчука, удаву дваранку Шышкевіч, эканома фальварка Лескі двараніна Красніка, памешчыка маёнтка Рыскаўшчызна Талішэўскага, жонку памешчыка Сегеня і сына памешчыка Зубялевіча. Гродзенскаму губернатару было прапанавана сабраць звесткі аб названых асобах, падаўшы Мураўёву заключэнне аб іх добранадзейнасці.

Не прамінуў Мураўёў зрабіць заўвагу пробашчу Поразаўскай праваслаўнай царквы: «Як бачна са справы, праваслаўны Поразаўскі блага-

чынны Аляксандр Казлінскі пры вядзенні следства пра ксяндза Баніфацыя Пісанкі, абвінавачаным у палітычных злачынствах, на зроблены яму запыт даў пра яго ілжывы адабральны водгук, якога пасля сам адрокся, то пра гэта паведаміць на меркаванне літоўскага мітрапаліта» [87, с. 145].

14 студзеня 1864 года ваенна-палявы суд, які адбыўся ў Вільні пад старшынствам палкоўніка Глейпіча, прысудзіў ксяндзоў Пісанку (34 гады), Байкоўскага (24 гады), Леапольда Качыньскага (34 гады), Язэпа Дзіякевіча (33 гады), а таксама Караліну Пісанку (37 гадоў) да высылкі на пастаяннае жыхарства ў аддаленыя, акрамя Сібірскіх, губерні пад строгі паліцэйскі нагляд. Пры гэтым пазбавіць першых трох духоўнага сану, усіх асаблівых правоў і пераваг асабіста і па стане ім прысвоеных. Маёмасць ж, якая ў іх акажацца, падвергнуць секвестру для канфіскацыі ў казну [87, с. 153].

У выніку ксяндзы Байкоўскі і Дзіякевіч былі высланы ў Енісейскую губерню, ксёндз Пісанка – у Томскую, яго сястра Караліна – у Аланецкую.

Да верасня 1866 года ксёндз Пісанка не быў адпраўлены ў ссылку, а знаходзіўся на лячэнні ў віленскім турэмным шпіталі [87, с. 177].

18 снежня 1866 года брат Баніфацыя Пісанкі губернскі сакратар Фадзей Леанардавіч Пісанка падаў прашэнне гродзенскаму губернатару. У прашэнні было сказана, што ксёндз Пісанка ў верасні месяцы 1866 года быў высланы на месца ссылкі ў Томскую губерню. З прычыны невылечнай хваробы адпраўка яго была прыпынена ў Маскве, куды ён трапіў па этапе. Далей да месца ссылкі яго патрэбна было везці ў свабоднай і цёплай павозцы і наўрад ці ён прыбудзе туды жывым. Фадзей Пісанка прасіў губернатара вярнуць з ссылкі яго брата і сястру [87, с. 184].

Прашэнне было перанакіравана да самога міністра ўнутраных спраў. У выніку месца ссылкі ксяндзу Пісанку і яго сястры Караліне было заменена на Кастрамскую губерню ў горад Калагрыў. Тут на мясцовых могілках 7 снежня 1870 года і знайшоў свой апошні прытулак былы настаяцель Поразаўскага касцёла ксёндз Баніфацый Пісанка.

Дваранка Караліна Пісанка, прылічаная да віленскага павета, выйшла ў ссылцы замуж за сасланага туды ж віленскага мешчаніна Андрэя Урублеўскага. У 1871 годзе была вызвалена ад паліцэйскага нагляду з забаронай жыхарства ў сталічных і заходніх губернях [87, с. 203].

Праваслаўны святар з Поразава Аляксандр Казлінскі з’явіўся галоўным ініцыятарам закрыцця Поразаўскага касцёла, што і было зроблена ў жніўні 1867 года.

# СПРАВА ДВАРАНКІ СТЭФАНІІ МАЛЕВІЧ

З Ваўкавыскага павета «жандарам-вешальнікам» у паўстанцаў быў 19-гадовы дваранін з мястэчка Лыскава Язэп Малевіч. Следчыя камісіі і ваенныя начальнікі паветаў асабліва заўзята сачылі за такімі людзьмі і нават помсцілі іх сваякам.

Рапартам гродзенскаму губернатару ад 13 красавіка 1864 года Мураўёву паведамляў, што ваўкавыскі ваенны начальнік прадставіў яму справу аб дваранцы, дзяўчыне Стэфаніі Малевіч, абвінавачанай у зносінах з паўстанцамі. З гэтай справы бачна, што прыстаў 2-га стана данёс спраўніку аб дваранцы Стэфаніі Малевіч, якая жыве ў мястэчку Лыскава і якой з месцажыхарства было забаронена выязджаць. Атрымаўшы 12 верасня 1863 года падманным чынам з Лыскаўскага валаснога праўлення білет, яна ездзіла ў маёнтак Ялава. На думку прыстава, паездка была зроблена для спаткання са сваім братам Язэпам Малевічам, які лічыўся ўладай «начальнікам шайкі вешальнікаў», а зараз хаваўся ў лесе, размешчаным паблізу маёнтка Ялава.

Па падазрэнні ў спатканні са сваім братам Стэфанія Малевіч была арыштавана. На допыце паказала, што ездзіла ў Ялава, каб узяць свае рэчы і прадукты па білецe, выдадзенаму ёй пісарам Лыскаўскага валаснога праўлення. Валасны пісар Шарэйка ў сваю чаргу патлумачыў, што квіток Малевіч для праезду ў маёнтак Ялава тэрмінам на 6 гадзін выдаў на падставе вуснага распараджэння ротнага камандзіра паручніка Пальгрыма, рота якога кватаравала ў мястэчку Лыскава.

Шэсць сялян вёскі Апеляновічы, якія жылі каля маёнтка Ялава, пад прысягай паказалі, што Стэфанія Малевіч са сваёй маці прыязджала ў маёнтак Ялава, але пра гэта яны ведаюць толькі па чутках. Пра тое, што Язэп Малевіч хаваўся ў двары маёнтка Ялава, сяляне не чулі. Аднак сяляне вёскі Манцякі бачылі Малевіча ў маёнтку Магілёўцы. Упраўляючы таго маёнтка Пачобут паказаў следству, што Малевіч ў яго маёнтку ніколі не быў. Адмаўлялі наведванне маёнтка Магілёўцы і сяляне, якія працавалі ў гэтым маёнтку.

Гродзенскі губернатар сказаў на заканчэнне, што хоць Стэфанія Малевіч і не выкрыта ў спатканні са сваім братам, але са свайго месца жы-

харства яна адлучалася па білеце, атрыманаму падробленым чынам. Таму пакінуць без пакарання сямейства такога злачынца, якім быў Язэп Малевіч, уяўлялася губернатару шкодным для грамадскага парадку і спакою. Губернатар прапанаваў Мураўёву выслаць сямейства Малевіча на жыхарства ў адну з аддаленых губерняў [113, с. 9].

Сям'я дваран Малевічаў з мястэчка Лыскава складалася з удавы Людвігі Ігнацьеўны Малевіч, 60 гадоў, сына Язэпа, 19 гадоў, які далучыўся да паўстанцаў, дачкі Стэфаніі, 24 гадоў і дачкі Аляксандры, 22 гады [113, с. 7].

Як вынікае з рапарта, гродзенскі губернатар прасіў Мураўёва выслаць усіх трох жанчын усяго толькі за тое, што з'яўляліся блізкімі сваякамі паўстанца. Аднак Мураўёў не задаволіў просьбу цалкам. Рашэннем ад 12 мая 1864 года ён пастанавіў вызначыць Стэфанію Малевіч як нядобранадзейную ў палітычных адносінах і шкодную для знаходжання ў краі. А таму было загадана адправіць яе на пастаяннае жыхарства ў Пермскую губерню пад строгі нагляд паліцыі за свой кошт. У тым выпадку, калі не хопіць сродкаў, – за кошт маёмасці астатніх членаў яе сямейства. Маці Людвігу Малевіч і сястру Аляксандру трэба было пакінуць на ранейшым іх месцы жыхарства пад надзейнае паручыцельства [113, с. 12].

10 кастрычніка 1864 года камендант Гродна ў рапарце губернатару данёс, што дваранка Стэфанія Малевіч адпраўлена з Гродна этапным парадкам у Санкт-Пецярбург для далейшага адпраўлення ў Пермскую губерню [113, с. 31].

Не пазбег пакарання і Лыскаўскі валасны пісар Антон Шарэйка. За выдачу праязнога білета Стэфаніі Малевіч і за падазрэнне ў чытанні маніфеста паўстанцаў ваенна-следчай камісіяй ён быў прызнаны нядобранадзейным і прысуджаны судом да высылкі ў Табольскую губерню [113, с. 11].

# СПРАВА ДВАРАНІНА ЯНА ЕЛЬСКАГА

Яшчэ адным «вешальнікам» у Ваўкавыскім павеце быў прызнаны сын памешчыка маёнтка Косіна Адама Ельскага – Ян (Іван) Ельскі. У паведамленні губернатару ў гродзенскую следчую камісію ад 6 лютага 1864 года гаварылася, што ваенны начальнік Аўгустоўскага аддзела даставіў яму высланага з Прусіі двараніна Ваўкавыскага павета Яна Ельскага, які пражываў за мяжой пад імем Яніцкі. Даведаўшыся, што Ян Ельскі быў памочнікам камандзіра атрада паўстанцаў у Ваўкавыскім павеце і належаў да асобнай «партыі вешальнікаў», губернатар аддаў распараджэнне следчай камісіі аб неадкладным расследаванні гэтай справы. Разам з Ельскім з Прусіі прыбылі дакументы:

1. Паказанні, атрыманыя ад Ельскага ў Сувальскай следчай камісіі.
2. Польскі пашпарт Кандрата Яніцкага, выдадзены 4 снежня ў Канецборы.
3. Копія з пастановай каралеўскага ляндрата аб Яніцкім.
4. Квітанцыя аб задавальненні Ельскага парцыённымі грашыма [114, с. 1].

На допыце ў Сувалках, праведзеным мясцовай следчай камісіяй 27 студзеня 1864 года, Ян Адамовіч Ельскі паказаў, што яму 19 гадоў ад роду, веравызнання рымска-каталіцкага, у споведзі і святым прычасці штогод бываў, выхоўваўся ў Беластоцкай гімназіі, судзімы не быў.

У мінулым 1863 годзе ў маі месяцы яго бацькі мелі намер накіраваць сына ў Канстанцінаўскае ваеннае вучылішча, якое знаходзіцца ў Санкт-Пецярбургу. Для гэтага з маёнтка Косіна Ян Ельскі коньмі бацькі быў адпраўлены ў Гродна на чыгуначную станцыю. У дарозе на ноч спыніўся ў маёнтку Рэпелька ў свайго сваяка Густава Стравінскага, дзе застаў Пятра Радавіцкага – арандатара фермы Міжэвічы. Апошні ўгаварыў Ельскага вярнуць сваіх коней дадому, а з ім разам на яго конях ехаць у Гродна, на што той пагадзіўся.

Не даязджаючы да Гродна 10 вёрст, у лесе іх спыніў атрад з 20 чалавек узброеных паўстанцаў. Ельскага і Радавіцкага гвалтоўна забралі з сабою ў атрад. Ельскі здагадаўся, што ўсё гэта было загадзя падстроена Радавіцкім.

На трэці дзень Ельскага даставілі ў Аўгустоўскі павет у атрад Сузіна, у якім ён знаходзіўся толькі два тыдні. З прычыны захворвання быў пакінуты на лячэнне ў невядомай вёсцы, дзе знаходзілася да 16 чалавек, якія карысталіся нейкім доктарам. Аказалася, што Ельскі захварэў на гарачку з прычыны прастуды ад халодных начэй, праведзеных у лесе.

Пасля выздараўлення ў чэрвені месяцы два таварышы, якія былі з ім і прозвішчы якіх не ведаў, узяліся правесці Ельскага ў Аўгустоў, бо ён расказаў ім пра свой намер з'явіцца да ўладаў з пакаяннем. Але таварышы завялі Ельскага ў Прусію ў вёску Турава, а самі адправіліся па сваіх хатах. Ельскі пражываў у селяніна Бракфугеля толькі два тыдні і ад яго паехаў у горад Алецкі. Калі прыехаў назад у Турава, то быў арыштаваны прускімі войскамі, якія кватаравалі, разам з Ваздзецкім, які толькі што прыбыў у вёску. Арыштаваны былі памылкова прынятыя за нейкіх Кучэўскага і Бяляўскага, што адшукваліся тамтэйшым начальствам па патрабаванні ўладаў Каралеўства Польскага. Знаходзячыся ў Прусіі, Ельскі не меў пры сабе ніякага пашпарта, але незадоўга да арышту селянін Бракфугель перадаў яму чужы пашпарт [114, с. 4].

У следчай справе падшыты рапарт ваўкавыскай следчай камісіі ад 4 снежня 1863 года, у якім паведамлялася інфармацыя аб атрадах паўстанцаў, якія дзейнічалі ў Ваўкавыскім павеце і вакол павета, дзе згадваўся Ян Ельскі. Камісія прадставіла спіс камандзіраў ваўкавыскага, слонімскага і пружанскага партызанскіх атрадаў. У спісе значыліся: Стравінскі – са Слонімскага павета, Хадакоўскі, Сасуліч, Малевіч і Ельскі – з Ваўкавыскага павета, Юндзіл, Лукашэвіч і Градскі – Слонімскага павета, Генюш і Влодэк – Пружанскага павета. Млотак (Стравінскі) – правадыр Ваўкавыскага атрада, а Урублеўскі, Хадакоўскі, Сасуліч камандавалі ў атрадзе падраздзяленнямі, а камандзірамі «вешальнікаў» былі названыя Малевіч, Ельскі і Генюш. Юндзіл – камандзір Слонімскага атрада, а Лукашэвіч, Казеградскі – камандавалі часткамі гэтага атрада. Влодэк – камандзір пружанскага атрада. З паказанага спісу добраахвотна да ўладаў з'явіўся толькі Сасуліч. Аб дзеяннях камандзіраў камісія абапіралася на сведчанні паўстанцаў [114, с. 13].

Далей у справе былі падшыты паказанні сведак, якія выкрывалі Яна Ельскага. Так, селянін Восіп Корвід паказаў, што ён удзельнічаў у падпале трох сялянскіх хат у вёсцы Пенюга [114, с. 23].

З паказанняў паўстанца селяніна вёскі Пічукі Зэльвенскай грамады Івана Крэчка, які добраахвотна з'явіўся, дадзеных ім 25 кастрычніка 1863

года, вынікае, што Іван Ельскі, Кучэўскі і Бяляўскі падпальвалі сялянскія хаты за дапамогу іх гаспадароў уладам у злове паўстанцаў [114, с. 25].

22 красавіка 1864 года паміж Іванам Ельскім і Іванам Крэчко была праведзена вочная стаўка. Ельскі заявіў, што гэтага чалавека, які абвінавачвае яго ў подлых учынках, бачыць першы раз [114, с. 35].

Ваенна-палявы суд над Янам Ельскім пад старшынствам палкоўніка Цінькова, асэсараў падпаручніка Пятрова, прапаршчыка Смірнова, карнета Пацёмкіна, Санкіна, Вясёлага і Блумгрэна адбыўся ў Гродне 10 ліпеня 1864 года ў 9 гадзін раніцы. Былі выкананы ўсе судовыя фармальнасці. Ян Ельскі не прызнаў свайго ўдзелу ў атрадзе Стравінскага, аднак усе суддзі аднагалосна прызналі яго вінаватым «у прабыванні ў шайцы мяцежнікаў і ўцёках за мяжу, дзе хаваўся з чужым пашпартам». Паводле паказанняў сведкі Івана Крэчка ён таксама быў прызнаны вінаватым у камандаванні атрадам «вешальнікаў». Суд аднёс дзеянні Ельскага да злачынстваў па 2-й катэгорыі, па якой ён быў пазбаўлены ўсіх правоў стану і накіраваны на катаржныя працы ў руднікі тэрмінам на 15 гадоў [114, с. 71-75].

Па дарозе на катаргу Ян Ельскі збег і пазней быў знойдзены ў Галіцыі. У гэты час яна з'яўлялася тэрыторыяй Аўстра-Венгрыі, і ў ёй знаходзілі прытулак многія былыя паўстанцы. 17 лютага 1875 года ад губернатара Аляксандра Зурова ваўкавыскаму спраўніку прыйшло ўказанне сабраць і даставіць звесткі аб паходжанні, сямейным становішчы і ранейшых паводзінах Яна Ельскага, які пражывае цяпер у Галіцыі [115, с. 18].

27 лютага быў атрыманы адказ, што Ян Ельскі з'яўляецца сынам уладальніка маёнтка Косіна, Адама Францавіча Ельскага, які з'яўляецца цяпер жывым. У час паўстання быў «жандарам- вешальнікам». У 1864 годзе быў на прускай мяжы схоплены і асуджаны навечна на катаржныя працы, але пры перасылцы ў руднікі збег. За затрыманне ўцекача была прызначаная прэмія [115, с. 19].

У 1890 годзе маёнткам Косіна валодаў другі сын Адама Ельскага – Восіп. Пра далейшы лёс Яна Ельскага вестак у архіўных дакументах не выяўлена.

# СПРАВЫ ІНШЫХ ДВАРАН

## Справа памешчыка Аляксандра Біспінга

Слаўны род дваран Біспінгаў паходзіў з немцаў Вестфаліі, а прадстаўнікі гэтага роду аказаліся на ваеннай службе ў Рэчы Паспалітай у часы караля Стэфана Баторыя. Адзін з іх, Томаш Біспінг, загінуў у 1655 годзе пры абароне Старадуба ад рускіх войскаў. Неўзабаве наследнікі Біспінга сталі ўладальнікамі многіх маёнткаў у Ваўкавыскім павеце, у тым ліку Галоўчыцамі, Струбніцай і Вярэйкамі. Па ўказе расійскага імператара 1 ліпеня 1853 года быў створаны запаведны маёнтак Масаляны, які складаўся з уладанняў Аляксандры Светчынай у Ваўкавыскім павеце: Вярэйкі, Кузьмічы, Мацейкаўшчына, а таксама з маёнткаў Юзэфы Вайчынскай у Гродзенскім павеце: Трэйглі, Скалубава і Верцялішкі. Названыя ўладальніцы маёнткаў з'яўляліся роднымі сёстрамі з роду Біспінгаў і да гэтага часу сталі ўдовамі. Агульны запаведны маёнтак было створаны імі з мэтай накіраваць вялікую частку сродкаў ад гаспадарчай дзейнасці на дабрачынныя справы на карысць сялян, вучылішчаў для сялянскіх дзяцей, касцёла і царквы. Адным з дабрачынных пунктаў з'яўлялася штогадовая раздача 600 рублёў бедным сялянам пры Вярэйкаўскім касцёле на Каляды і Вялікдзень. Незадоўга да паўстання ў 1862 года Аляксандр Камельянавіч Біспінг стаў наследнікам запаведнага маёнтка.

З паведамлення Мураўёва гродзенскаму губернатару ад 15 верасня 1863 года вынікае, што ў асобым аддзеле генерал-губернатарскай канцылярыі была разгледжана следчая справа аб памешчыку Гродзенскага і Ваўкавыскага паветаў Аляксандру Біспінгу, а таксама Андэрсане, які пражывае ў яго ў якасці настаўніка англійскай мовы і называў сябе англійскай духоўнай асобай. Дваране Аляксандр Эйсмант, Восіп Савіцкі і мешчанін Віктар Іваноўскі, якія добраахвотна з'явіліся з атрада паўстанцаў пад правадырствам Духінскага і Лянкевіча, у адкрытых паказаннях аб асобах, якія садзейнічалі паўстанню, паказалі ў іх ліку памешчыка Аляксандра Біспінга. Яны патлумачылі, што ён тры разы прыязджаў у іх атрад, прывозячы з сабою зброю, вопратку, грошы і коней, а адзін раз прывёў у атрад кухара Васільчука і шляхціца Лінгевіча. Дваранін Савіцкі і мешчанін Іваноўскі паказалі, што з Біспінгам прыязджаў два разы ў атрад англічанін Андэрсан.

Біспінг і Андэрсан не прызналіся ў дапамозе паўстанцам нават на вочных стаўках з асобамі, якія на іх указалі. Аднак Мураўёў паведамляў гродзенскаму губернатару, што паказанні сведак заслугоўваюць даверу, таму што яны зроблены імі аднагалосна пры розных допытах і пры шчырым раскаянні ў сваім злачынстве. Таму Мураўёў вызначыў памешчыка Аляксандра Біспінга як цалкам нядобранадзейнага ў палітычных адносінах і шкоднага для далейшага знаходжання яго па месцы пражывання. Па загадзе Мураўёва Біспінга варта было адправіць на жыхарства ў Арэнбургскую губерню і ўстанавіць там за ім строгі паліцэйскі нагляд. Англічаніна Андэрсана было загадана неадкладна выслаць за мяжу і забараніць яму ўезд у Расію [119, с. 28].

29 верасня 1863 года Аляксандр Біспінг пры конвойным жандары быў адпраўлены ў пасажырскім цягніку ў Санкт-Пецярбург у перасыльную турму, адкуль з этапам у прызначанае месца ссыкі – Арэнбургскую губерню [119, с. 47].

Вышэй у главе «Кіраўніцтва паўстаннем» паведамлялася, што грамадзянскі начальнік паўстанцаў Эразм Карлавіч Заблоцкі ў сваіх паказаннях 29 сакавіка 1864 года ў асобай следчай камісіі таксама выкрыў Біспінга і расказаў, што разам з Кастусём Каліноўскім у 1863 годзе яны наведвалі Біспінга ў яго маёнтку Вярэйкі як аднаго з кіраўнікоў паўстанцамі ў Ваўкавыскім павеце. У сувязі з новымі абставінамі для дачы паказанняў Біспінг быў дастаўлены з ссылкі ў Гродна, дзе ён адмаўляўся ад знаёмства з Заблоцкім і Каліноўскім. А для лепшага да сябе даверу адважыўся перайсці з каталіцтва ў праваслаўе. Мабыць, гэта быў адзіны выпадак у Ваўкавыскім павеце здрады сваёй веры памешчыкам-каталіком.

18 мая 1867 года гродзенскі губернатар Скварцоў напісаў Брэсцкаму епіскапу ліст. У ім паведамлялася, што з нагоды смерці ўладальніка запаведнага маёнтка Масаляны Аляксандра Біспінга Мураўёў распарадзіўся і далей кожны год раздаваць сялянам 600 рублёў. Да гэтага часу Вярэйкаўскі касцёл быў перароблены ў царкву і аддадзены праваслаўным. Таму і міласціну было загадана раздаваць бедным выключна праваслаўнага веравызнання. Сам маёнтак Масаляны падлягаў абавязковай продажы рускім асобам на падставе царскага ўказа ад 10 снежня 1865 года [99].

## Справа дваранiна Людвiга Шадурскага

6 жнiўня 1863 года дваранiн маёнтка Харашэвiчы Ваўкавыскага павета Людвiг Восiповiч Шадурскi, паўстанец з атрада Густава Стравiнскага, даў паказаннi ў ваўкавыскай ваенна-следчай камiсii. Паказаннi былi дадзены ў прысутнасцi следчага са Староiнгерманландскага пяхотнага палка штабс-капiтана Тыхова, пры паручнiку таго ж палка Чымбаевiчу i прапаршчыку санкт-пецярбургскай палiцыi Балкiне. Шадурскi паведамiў, што меў 21 год, рымска-каталiцкага веравызнання, абрады выконваў, граматны, пад судом не быў, халасты, выхоўваўся ў Маскоўскiм унiверсiтэце, але курса навук не скончыў, маёнтка ўласнага не меў, за бацькам жа лiчыўся маёнтак Харашэвiчы. Расiйскiя законы ведаў.

23 красавiка ён з фурманам Антонам i лёкаем Iванам Пякарскiм адправiўся з маёнтка Харашэвiчы ў Маскву працягваць навуку. Па шляху ў Лыскаўскiх лясах быў захоплены паўстанцамi i ўзяты сiлком з лёкаем у iх атрад. Фурман з коньмi быў адпушчаны. Шадурскi ўдзельнiчаў у сутычках з рускiмi войскамi пад Мiхалiнам, Мiлавiдамi, у Жаркаўшчыне, пад Савiцкай Карчмой, ва ўрочышчы Вялiкi Вугал каля Лыскава. Ва ўсiх гэтых сутыкненнях атрад Стравiнскага рассейваўся, але неўзабаве збiраўся. 27 лiпеня Шадурскi быў узяты ў палон без зброi, якую кiнуў у лесе, i дастаўлены да маёра Духноўскага. З памешчыкаў i дваран, якiя былi з iм у атрадзе, нiкога не ведаў. Для здабычы харчавання з атрада адпраўлялiся людзi, але адкуль яго прывозiлi i хто – гэтага не ведаў. Адным з дастаўшчыкоў харчавання быў ляснiк Шаршуноў, якi таксама з’яўляўся праваднiком. Ён жа паведамляў пра наблiжэнне рускiх войскаў [120, с. 10].

14 жнiўня 1863 года па справе Шадурскага быў дапытаны селянiн вёскi Майсевiчы Iван Людвiкавiч Пякарскi, 23 гадоў, рымска-каталiцкай веры, халасты, непiсьменны. Пражываў па найме ў маёнтку Харашэвiчы, якi належаў памешчыку Шадурскаму. У канцы красавiка сын Шадурскага Людвiг у 10 гадзiн ночы загадаў свайму фурману запрэгчы коней для паездкi ў Маскву, пасля чаго загадаў i яму рыхтавацца ў дарогу. Калi выехалi, фурман накiраваўся да Янiнскага лесу, у якiм былi сустрэты атрадам паўстанцаў, што размясцiлiся на дарозе. Людвiг Шадурскi застаўся ў атрадзе добраахвотна, а Пякарскi i фурман былi затрыманы камандзiрам атрада. Кучар знаходзiўся ў атрадзе тыдзень, пасля чаго падзеўся невядома куды [120, с. 11].

Суд прызнаў вiнаватым Людвiга Шадурскага ва ўдзеле ў паўстаннi, i ён быў высланы ў адну з аддаленых губерняў Расiйскай iмперыi.

## Справа дваранiна Леанарда Вярцiнскага

6 жнiўнi 1863 года ваенна-палявы суд прызнаў пiсара ваўкавыскага земскага суда, калежскага рэгiстратара, дваранiна Леанарда Вярцiнскага, сына памешчыка маёнтка Юргава, ва ўдзеле ў паўстаннi. На следстве ён паказаў, што 25 красавiка каля мястэчка Рось быў затрыманы паўстанцамi, якiя прывялi яго ў лес, дзе ўтрымлiвалi 6 тыдняў пад арыштам як чыноўнiка суда, а затым адправiлi на фурманцы ў маёнтак Юргава да бацькi. Аднак ваенна-палявы суд не паверыў Вярцiнскаму, таму што пры вобыску ў яго маёнтку былi знойдзены рэвалюцыйны заклiк, забароненыя вершы i лiсты. Сваiм рашэннем суд пазбавiў Вярцiнскага ўсiх правоў стану, саслаўшы на катаргу на руднiкi тэрмiнам на 12 гадоў [121, с. 11].

## Справа ксяндза Iосiфа Мiнчэўскага, дваранiна Мечыслава Вейса i iншых

1 кастрычнiк 1863 года часовы палявы суд разгледзеў ваенна-судовую справу, прадастаўленую гродзенскiм губернатарам Скварцовым. У судзе абвiнавачвалiся: настаяцель Крэмянiцкага касцёла Ваўкавыскага павета ксёндз Iосiф Мiнчэўскi, 51 год; дваранiн Мечыслаў Вейс, 30 гадоў; адстаўны губернскi сакратар Рычард Навiцкi, 35 гадоў; Фелiкс Астроўскi, 43 гады; Iгнат Эйсмант, 67 гадоў i арганiст Крэмянiцкага касцёла з сялян Якуб Паплаўскi, 40 гадоў. Усе названыя падсудныя з'яўлялiся жыхарамi Ваўкавыскага павета, былi заключаны пад варту за ўдзел у паўстаннi. Ксёндз Iосiф Мiнчэўскi абвiнавачваўся ў тым, што, будучы пробашчам касцёла мястэчка Крэмянiца, меў зносiны з паўстанцамi – прымаў iх у сваiм доме атрадамi ад 15 да 20 чалавек, даваў iм сваiх коней i забяспечваў ежаю i боепрыпасамi. Памешчык Вейс i адстаўны губернскi сакратар Навiцкi аказвалi прыём паўстанцам з атрада Лендара. Прычым Вейс даваў тры разы паўстанцам у сваiм маёнтку абед, а Навiцкi частаваў iх у сябе ў маёнтку Марцiновiчы i ездзiў верхам праводзiць iх. Пры допытах як ксёндз Мiнчэўскi, так i Вейс з Навiцкiм у прад'яўленых iм абвiнавачаннях не прызналiся.

Ксёндз Мiнчэўскi растлумачыў, што паўстанцы былi ў яго адзiн раз уначы, калi ён спаў, i сiлаю прымусiлi яго работнiка запрэгчы коней i везцi iх. Навiцкi i Вейс патлумачылi суду, што выконвалi патрабаваннi паўстанцаў

пад пагрозамі Лендара. Аднак тлумачэнне падсудных не былі прынятыя судом, а самі яны, на думку суда, выкрываліся паказаннямі сялян.

Сяляне Прызван і Каласоўскі, якія знаходзіліся на службе ў ксяндза Мінчэўскага, расказвалі суду, што паўстанцы былі ў доме ў Мінчэўскага тры разы, і кожны раз ксёндз добраахвотна прымаў іх у сваіх пакоях. Прычым па загадзе ксяндза яны адвозілі паўстанцаў у лясны лагер. Арганіст Паплаўскі па загадзе ксяндза даў паўстанцам две стрэльбы, якія захоўваліся на званіцы. Ганна Бартноўская, якая загадвала гаспадаркай ксяндза, па яго распараджэнні выдала паўстанцам хлеб і два кумпяка вяндліны. Акрамя таго, Прызван бачыў, як паўстанцы пры ад'ездзе з дома ксяндза паклалі ў свой экіпаж два мяшка з дробам фунтаў у 11, 50 куль і да 7 фунтаў волава.

Дзве сялянкі, якія знаходзіліся на службе ксяндза, таксама пацвердзілі аб сардэчным прыёме Мінчэўскім паўстанцаў і забеспячэнні іх ежаю.

Селянін Бортнік сведчыў супраць Рычарда Навіцкага. Калі ў яго маёнтак Марціновічы прыбылі паўстанцы, то Навіцкі аказаў ім сардэчны прыём, піў разам з імі гарэлку, за якою сам пасылаў яго, Бортніка.

Селянін Прызван паказаў, што падчас знаходжання паўстанцаў у ксяндза Мінчэўскага ён быў пасланы з запіскаю да Навіцкага. Навіцкі распытваў у Прызвана, ці ёсць у Крэмяніцы салдаты, а ноччу прыехаў да Мінчэўскага.

Сяляне Прызван і Каласоўскі паказалі, што Навіцкі браў ад ксяндза Мінчэўскага харчовыя запасы і адвозіў іх у атрад паўстанцаў.

На памешчыка Вейса паказалі яго слугі: кухар і селянін Кучынскі расказвалі суду, што Вейс забяспечваў паўстанцаў прадуктамі. Прычым адзін раз паўстанцы абедалі ў двары Вейса, а два разы ежа для іх адвозілася ў лес.

Арганіст касцёла Паплаўскі абвінавачваўся ў захоўванні на касцельнай званіцы дзвюх стрэльбаў і перадачы іх па загадзе ксяндза Мінчэўскага паўстанцам. Хоць Паплаўскі і не прызнаўся, але наклікаў на сябе падазрэнне згодна з паказаннямі сялян Прызвана і Каласоўскага.

Палявы суд пазбавіў Навіцкага і Мінчэўскага маёмасці, правоў стану, а Мінчэўскага і духоўнага сану. Ксёндз Мінчэўскі быў сасланы ў Томскую, а Навіцкі – у Табольскую губерні. Паплаўскага суд прыгаварыў да высылкі ў Самарскую губерню на казённыя землі. Разам з ім была выслана цяжарная жонка [122, с. 73-77].

Памешчык Вейс быў пакінуты ў сваім маёнтку пад паручыцельствам.

## Сведчанне лекара Канстанціна Сарасека

6 верасня 1863 года следствам былі ўзяты паказанні ў лекара Канстанціна Пятровіча Сарасека, які добраахвотна з'явіўся з атрада паўстанцаў. У прысутнасці ваеннага начальніка Казанлі ён паказаў, што яму 28 гадоў, веравызнання рымска-каталіцкага, у споведзі і прычасці бываў, не жанаты, запісаны ў кнігах дваранства Ваўкавыскага павета, маёмасці ніякай не меў, пад судом і следствам не быў.

У сярэдзіне мая 1863 года да яго ў горад Ваўкавыск прыехаў незнаёмы малады чалавек і прасіў з'ездзіць да хворага. Загадаў узяць з сабою лекарскія інструменты, бо не выключана была аперацыя. Сам жа завёз Сарасека ў лес за мястэчка Лыскава ў атрад паўстанцаў, дзе запатрабаваў агледзець хворага, якому Сарасек зрабіў аперацыю. У атрадзе свайго лекара не было, а таму Сарасека прымусілі застацца ў ім, у адваротным выпадку пагражалі смерцю. Да прысягі не прыводзіўся. У атрадзе камандзірам быў Густаў Стравінскі, потым Лендар, Духінскі і Урублеўскі. Афіцэрамі былі Радавіцкі і Хмура. Хто дастаўляў правізію і хто бываў у атрадзе з леснікоў, лекар не ведаў.

Калі атрад разбілі, Сарасек з адным з паўстанцаў адправіліся да мястэчка Поразава з намерам здацца рускім вайскоўцам. Выходзячы з лесу, падзяліліся. Сарасек прыйшоў у маёнтакВаліцкоўшчына да памешчыка Высоцкага і папрасіў яго перадаць запіску вайскоўцам у Поразава пра свой намер здацца. Сам не пайшоў туды толькі таму, каб не злавілі староннія. Праз паўгадзіны, калі памешчык Высоцкі напісаў ліст, з'явілася войска, камандзіру яго быў уручаны гэты ліст [123, с. 831].

За лекара Сарасека паручыліся памешчыкі Іван Зубялевіч, Самуіл Панцяржыцкі і Канстанцін Галібуртон. 3 лютага 1864 года іх паручыцельства было змацавана ў Ваўкавыску фамільнымі сургучнымі гербавымі пячаткамі і подпісамі. Такім чынам, Сарасеку ўдалося пазбегнуць ссылкі.

# ПАКАЗАННІ СЯЛЯН

## Паказанні Генрыка Скібінскага

18 жніўні 1863 года ў прысутнасці ваўкавыскага ваеннага начальніка Казанлі быў дапытаны ўдзельнік паўстання, селянін рымска-каталіцкай веры, 27 гадоў, халасты, няграматны, ураджэнец і жыхар вёскі Кутнікі Генрык Мікалаевіч Скібінскі. Спачатку Скібінскі служыў лёкаем у маёнтку Пабоева пад мястэчкам Пескі, а пасля акανомам у памешчыка Януарыя Астроўскага. Тут яго ўбачыў памешчык Лявон Булгарын, які ўгаварыў Скібінскага служыць яму. Булгарын павёз яго прама ў лес пад Устронь, дзе прывёў у атрад паўстанцаў колькасцю 50 чалавек. Калі Скібінскі стаў прасіць адпусціць яго, то Булгарын прыгразіў Генрыку пісталетам і загадаў застацца ў атрадзе, якім камандаваў Млотак (Стравінскі). На працягу тыдня знаходжання Скібінскага ў лесе атрад вырас да 300 з лішнім чалавек. У атрадзе знаходзіліся памешчыкі Лявон Булгарын, Сасуліч, ксёндз з мястэчка Лыскава, памешчык Радавіцкі, дваранін Тушынскі. Прадукты ў атрад дастаўлялі памешчыкі Сасуліч і Вага, хто дастаўляў абутак і адзенне – невядома. Скарбнікам быў сам Млотак. Скібінскі ўдзельнічаў у сутычках з рускімі войскамі пад Міхалінам, Савіцкай Карчмой і пад Устронню. Ва ўсіх трох сутычках паўстанцы былі разбіты. З-пад Устроні ён сышоў і два месяцы прахадзіў па пушчы, а потым 17 жніўня прыбыў у Ваўкавыск і з'явіўся да ваеннага начальніка [95, с. 25].

30 жніўня 1863 года Генрык Скібінскі быў адпушчаны ў сваю вёску пад паручыцельства сялянскай грамады.

## Паказанні Ануфрыя Аляшкевіча

12 жніўня 1863 года ваўкавыскаму ваеннаму начальніку даў паказанні селянін мястэчка Пескі Ваўкавыскага павета Ануфрый Паўлавіч Аляшкевіч, паўстанец з атрада Млотка (Стравінскага), які добраахвотна здаўся ўладам. Ануфрый Аляшкевіч быў дапытаны ў прысутнасці ваеннага начальніка і паказаў, што мае ад роду 36 гадоў, веры каталіцкай, у споведзі і св. прычасці штогод бывае, жанаты з Тафіляй Ульдзіновіч, мае трох сыноў: Юзэфа 9 гадоў, Марціна 4 гадоў, Адольфа 2 гадоў і дачку Магдаліну 6 гадоў, грамату па-польску ведае, у штрафах не быў.

Жыў у мястэчку Пескі, працаваў кавалём. У красавіку да Аляшкевіча ўвечары дадому на брычцы прыехаў памешчык Пётр Радавіцкі, які жыў на

казенной мызе за Шылавічамі. Сказаўшы яму, што ў яго дома ёсць праца па рамонту павозкі, папрасіў паехаць на некалькі дзён на яго мызу. Аднак Радавіцкі не павёз Аляшкевіча на мызу, а даставіў прама ў Янінскі лес да паўстанцаў. Аляшкевіч стаў упрошваць Радавіцкага адпусціць яго дадому, дзе засталіся малыя дзеці і жонка. Тады Радавіцкі дастаў пісталет, наставіў на Аляшкевіча, сказаўшы, што адсюль жывы дадому ніхто не выходзіць.

Атрад пад камандаваннем Млотка складаўся спачатку з 200 чалавек, але ўвесь час папаўняўся. Камандзірам над агульным атрадам, які быў разбіты на тры часткі, быў Духінскі. У атрадзе Млотка знаходзіліся памешчыкі: Дамброўскі, касавокі на абодва вочы, нейкі Хмура з братам Феліксам, два брата Лапінскія, Пётр Радавіцкі, памешчыцкі сын Лявон Булгарын, Калупайла, Мечыслаў Сасуліч. З памешчыкаў таксама былі двое братоў Махвіцаў – старэйшы, крыху пабыўшы, з'ехаў, а малодшы застаўся, двое братоў Корсак з мястэчка Лыскава, Ельскі, Шырма. Памешчыкі Хржановіч, Ахрамовіч, Катовіч сышлі з атрада дадому. У атрадзе быў настаўнік Урублеўскі, а таксама малады ксёндз з мястэчка Лыскава. Акрамя названых Аляшкевічам, у атрадзе знаходзілася шмат іншых памешчыкаў, прозвішчы якіх ён не ведаў.

Першы раз атрад меў сутычку з рускімі войскамі пад Міхалінам, дзе быў разбіты. У другі раз сутычка была ў Вялікім Вугле, дзе быў забіты памешчык Пётр Радавіцкі. Усяго было шэсць сутычак, але дзе былі астатнія і ў якіх лясах, Аляшкевіч не згадваў. Атрад забяспечваў харчаваннем і іншымі рэчамі памешчык Сасуліч і нейкі Сняжко з Пружанаў, які быў злоўлены рускімі войскамі. Вярбоўнікамі людзей у атрад былі памешчыкі Пётр Радавіцкі і сын памешчыка Булгарына – Лявон Булгарын. Зборшчыкам грошай быў Млотак. Хто ў атрадзе рабаваў і вешаў – Аляшкевіч гэтага не бачыў і не ведае. Ён паказаў следству, што ў атрадзе было шмат кос, якія закапалі ў зямлю, але не ведае, у якім менавіта лесе.

У атрадзе быў кухар Пётр Каўшун з Ваўкавыска, які служыў раней у Сегеня. З ім Аляшкевіч пасябраваў і згаварыўся пры выпадку бегчы з атрада. Калі ў нейкім вялікім лесе атрад спыніўся на адпачынак, то яны ноччу збеглі. Цэлы тыдзень праходзілі ўскраінамі лесу, каб не трапіць паўстанцам у рукі. Не заходзячы дадому, 9 жніўня прыбылі прама ў Ваўкавыск і з'явіліся да ваеннага начальніка [123, с. 571-572].

## Паказанні Ксаверыя Кавальскага

А вось як расказваў аб знаходжанні ў атрадзе паўстанцаў селянін маёнтка Зэльзін Ваўкавыскага павета Ксаверый Антонавіч Кавальскі, які 11 верасня 1863 года апынуўся ў руках пружанскага ваеннага начальніка маёра фон Крэмэра. Кавальскаму было 17 гадоў ад роду, веравызнання рымска-каталіцкага, халасты, няграматны, селянін памешчыка Бранта маёнтка Зэльзін Ваўкавыскага павета, дзе служыў лёкаем. У маі месяцы добраахвотна пайшоў да паўстанцаў, сярод якіх знаходзіўся ў розных месцах па верасень месяц. Разам з іншымі паўстанцамі добраахвотна з'явіўся ў мястэчка Лыскава Ваўкавыскага павета да атраднага камандзіра падпалкоўніка Гесельберга, якому паказаў схаваную ў лесе зброю: 16 пік, 2 стрэльбы і кварту пораху.

Кавальскі знаходзіўся ў ваўкавыскім атрадзе, якім спачатку камандаваў Млотак, а потым Урублеўскі. Быў у атрадзе ксёндз Манюшка з мястэчка Лыскава. З памешчыкаў у атрадзе былі сын памешчыка Станіслаў Брант, малодшы Калупайла і Сасуліч. Іншых памешчыкаў Кавальскі не ведаў. З арандатараў у атрадзе знаходзіўся Мілевіч з маёнтка Янава. Быў рускі юнкер з артылерыі, па прозвішчы Слабушэвіч.

Харчаванне падчас знаходжання каля Глыбокага Кута атрымлівалі ад памешчыкаў Казерацкага і Скачынскага. Казерацкі прыязджаў у атрад тры разы, прывозіў розныя харчы, віно і гарэлку і дазволіў узяць у сваім маёнтку 5 галоў рагатай жывёлы. Далейшая дастаўка спынілася з-за арышту Казерацкага. Памешчык Скачынскі, акрамя дастаўкі харчавання, даставіў у атрад 15 штуцарных стрэльбаў са штыкамі французскага аздаблення і боты з доўгімі халявамі, але колькі, Кавальскі не запомніў. Селянін з вёскі Пеняшкі Валенцій Меляшчук дастаўляў прадукты харчавання, а потым і сам уступіў у атрад. Ляснік памешчыка Казерацкага, па прозвішчы Ражкоўскі, пасля паражэння агульнага атрада пад Глыбокім Кутом прыбыў у атрад і забраў да сябе хворага паўстанца з кобрынскага атрада, якога называлі афіцэрам.

Паказвалі шлях, паведамлялі аб руху рускіх войскаў, а таксама дастаўлялі прадукты леснікі, якія пражывалі каля Глыбокага Кута, тры браты Шаршуны. Адзін з іх, які пражываў бліжэй да Глыбокага Кута, вазіў запіскі з атрада да памешчыка Казерацкага, іншы з іх купляў і дастаўляў у атрад валы.

Хто ўваходзіў у атрад «вешальнікаў і рабаўнікоў» Кавальскі не ведаў, сказаў толькі, што гэтай справай займаўся ляснік Генюш [124, с. 16].

Дзям'ян Ражкоўскі на допыце ад 16 верасня 1863 года паказаў, што ён рэгулярна, два-тры разы на тыдзень, на конях дастаўляў прадукты харчавання ў паўстанцкі атрад. Атрадам камандаваў спачатку Духінскі, пасля Урублеўскі. Харчаванне, абмундзіраванне і зброю паўстанцам таксама дастаўлялі памешчыкі Казерацкі, Скачынскі, чыноўнік пружанскага суда Сняжко, леснікі Шаршуноў і інш. Зброя і іншыя прыпасы паўстанцы захоўвалі ў лесе пад Мілавідамі.

Па справе быў дапытаны казённы селянін М.І. Бушкоў, які служыў пры двары памешчыка Казерацкага. 22 верасня ён паказаў, што харчаванне паўстанцам дастаўлялася з маёнтка Рудавец і ўсё гэта рабілася па распараджэнні памешчыка Казерацкага. Малако, алей, сыр дастаўляў яўрэй Шмуйла са сваёй сястрой, а таксама вазіў гарэлку ад Казерацкага другі яўрэй Вельвель. З маёнтка Казерацкага раз узялі 2 каровы, якія пасвіліся на полі, потым 3 быка, гароху, бульбы і крупы ячныя. Прадукты гэтыя вазіў сын эканома Ксаверый Жукоўскі, праваднікамі былі леснікі Самсон і Дзям'ян Ражкоўскія. Сын эканома часта знаходзіўся ў атрадзе паўстанцаў [10, с. 384].

## Паказанні Восіпа Кірэнды

1 верасня 1863 года ў прысутнасці ваеннага начальніка селянін Восіп Восіпаў Кірэнда паказаў, што мае ад роду 23 гады, веры праваслаўнай, у споведзі і св. прычасці штогод бывае, ураджэнец Гродзенскай губерні Ваўкавыскага павета вёскі Горна, халасты, граматы не ведае, у штрафах не быў.

Жыў у маёнтку Мазыркоўшчына ў памешчыцы Дзяконскай, дзе служыў фурманам. У гэтай памешчыцы пражываў Завадскі, які часта кудысьці адлучаўся і падбухторваў Кірэнду ісці да паўстанцаў. У маі месяцы, ідучы з Пятровіч у маёнтак Бязводнае, Кірэнда сустрэўся з Завадскім і пісарам Бранавіцкім і яшчэ нейкімі чатырма невядомымі яму людзьмі. Яны паклікалі Кірэнду ў атрад, але калі ён не пагадзіўся, то яны ўзялі яго сілком і павезлі на фурманцы, якая ў іх была, у Лыскаўскі лес. Прыбылі ў атрад Млотка, які складаўся са 100 або 120 чалавек. Кірэнду прызначылі ў стралкі, а потым Млотак загадаў насіць яго рэчы. У атрадзе былі памешчыкі Калупайла, Радавіцкі, Хадакоўскі, Сасуліч, афіцэр Дамброўскі, з Лыскава ксёндз. Хто дастаўляў у атрад харчовыя запасы, Кірэнда не бачыў, таму што іх забіралі самі памешчыкі. Хто быў вярбоўшчыкам у паўстанцы, не

ведае. Зборшчыкам грошай быў сам Млотак, і ён жа іх выдаваў на патрэбы. Хто з ляснічых або іншых асоб паказваў атраду шлях, не ведае. Вопратку і абутак у атрад прывозілі аднадворцы, але адкуль яны і як іх прозвішчы, не ведае. Зброю пры ім не хавалі. У час знаходжання Кірэнды ў атрадзе павешаных і абрабаваных жыхароў не было, але Млоткам былі пасланы невялікія атрады пад камандай Калупайлы і яшчэ невядомых яму памешчыкаў, але куды – не ведае.

У першай сутычцы з рускімі войскамі пад Міхалінам Кірэнда не ўдзельнічаў, таму што яго ў складзе 10 чалавек аддзялілі з фурамі ў пружанскі атрад, якім камандаваў Влодэк, а потым вярнулі зноў у свой атрад. Кірэда прыняў удзел у сутычках пад Савіцкай Карчмой, пад Мілавідамі, у Вялікім Вугле і ў Жаркаўшчыне. У апошняй сутычцы было два атрады – ваўкавыскі і сакольскі. Сутычка адбывалася ў вялікім лесе, назву якога не ведае. У адной з гэтых сутычак быў забіты памешчык Радавіцкі. Пасля апошняй сутычкі атрад адправіўся ў Белавежскі лес, адкуль ён пайшоў, узяўшы з сабой правіянт і хлеб. Праблукаў у лесе чатыры тыдні, баючыся заходзіць начаваць у вёскі. Затым прыйшоў прама ў сваю вёску Горна, з’явіўшыся да сотніка Сымона Самусейка, загадаўшы весці сябе ў горад Ваўкавыск [123, с. 575].

## Паказанні Аляксандра Садоўскага

2 верасня 1863 года ў прысутнасці ваеннага начальніка быў дапытаны селянін Аляксандр Фёдаравіч Садоўскі, які меў ад роду 19 гадоў, веры каталіцкай, у споведзі і святым прычасці штогод бывае, ураджэнец Гродзенскай губерні Ваўкавыскага павета вёскі Краскі, халасты, граматы не ведае, у штрафах не быў.

Жывучы ў маёнтку Краскі ў памешчыка Паўла Булгарына, быў фурманам. Пасля ад'езду памешчыка Булгарына ў горад Санкт-Пецярбург, суседні памешчык Хадакоўскі, які жыў каля Красак, 19 красавіка прыехаў у Краскі. Тут пачаў угаворваць Садоўскага і іншых сялян, якія жылі ў маёнтку, ісці ў атрад да паўстанцаў. 20 красавіка Садоўскі, фурман Іван, сталяр Віктар, Афанасій Бекіш і лёкай Сцяпан пайшлі ў Янінскі лес, дзе знаходзіўся атрад пад правадырствам Млотка. У гэтым атрадзе былі памешчыкі Хадакоўскі, Акінчыц з братам, Сасуліч, з мястэчка Лыскава памешчык Корсак, два брата Калупайлы, Астравух, Ельскі, Малевіч, ксёндз з мястэчка Лыскава, фельдфебель Слабушэвіч з рускага войска і яшчэ шмат іншых памешчыкаў, прозвішчы якіх не ведае. Хто пастаўляў у атрад прадукты харчавання – не

ведае, таму што калі прывозілі прадукты, то іх забіралі на пікеце, а іншых не дапускалі. Узбраенне і адзенне пры Садоўскім не прывозілі. Вярбоўшчыкам людзей у атрад быў Хадакоўскі, зборшчыкам грошай быў сам Млотак. Хто быў правадніком і паведамляў пра набліжэнне войскаў – не ведае. Атрадам «вешальнікаў» загадваў Малевіч. Гэты атрад у колькасці 10 чалавек адпраўляўся ў розныя месцы.

Атрад ўдзельнічаў у сутычках з рускімі войскамі пад Міхалінам, пад Савіцкай Карчмой і пад Жаркаўшчынай. У апошняй сутычцы пад Жаркаўшчынай з Беластоцкім атрадам прыбыў Духінскі і Урублеўскі. Тут атрад быў разбіты.

У атрадзе Садоўскі быў фурманам пры конях, а калі адабралі коней, то насіў правізію ў атрад з-пад Жаркаўшчыны. Садоўскі сышоў з атрада і два тыдні хадзіў па лясах, сілкуючыся бульбай з палёў. Начлег меў у лесе, баючыся заходзіць у вёскі, а потым прама прыбыў у горад Ваўкавыск [123, с. 576-578].

У гэтым сведчанні паказальна тое, што Аляксандр Садоўскі быў з тых адзінкавых паўстанцаў, якія на следстве прама заявілі аб сваім добраахвотным уступленні ў партызанскі атрад паўстанцаў.

## Паказанні Пятра Каляневіча

24 верасня 1863 года ў прысутнасці ваўкавыскага ваеннага начальніка даў паказанні селянін Пётр Базылевіч Каляневіч, які добраахвотна з’явіўся з атрада паўстанцаў. Меў 22 гады, веравызнання праваслаўнага, абрады выконваў, непісьменны, халасты, пад судом не быў, селянін маёнтка Зэльвяны памешчыка Кржывіцкага, лічыўся лесніком над лясамі, якія належалі маёнтку.

У ліпені месяцы пасля абыходу лесу Каляневіч прыбыў дадому, дзе знайшоў на сваё імя ліст, напісаны нейкім Шмыгерам, якога не ведаў. У лісце гаварылася, каб ён абавязкова з'явіўся да Шмыгера на сустрэчу. Сустрэча была прызначана за мостам у лесе Навіна, у адваротным выпадку ў Каляневіча будзе спалены дом, а яго самога заб'юць. Баючыся выкладзеных у лісце пагроз, Каляневіч адправіўся ў прызначанае месца, дзе знайшоў атрад паўстанцаў, які фарміраваўся, пад начальствам таго ж Шмыгера. Хоць Каляневіч прасіў адпусціць яго з атрада, але Шмыгер ні ў якім разе гэта зрабіць не пагадзіўся. Не паслухаўся ён і бацькі Пятра, які прыйшоў на другі дзень у атрад прасіць за сына.

На трэці дзень атрад павялічыўся на 30 чалавек, пасля чаго ён падзяліўся на тры часткі, з якіх дзве часткі сабраліся ў невядомае Каляневічу месца. Трэцяй часткай атрада, у якой знаходзіўся Каляневіч, камандаваў Гзоўскі, а пасля яго адлучкі – Астрога. З Астрогам атрад прыбыў у Каралеўства Польскае. Там адбылася сутычка каля вёскі Сярэі, пасля якой 7 верасня Каляневіч збег з атрада. Бадзяючыся адзін каля паўтара тыдня лясамі і нідзе не заходзячы, 18 верасня з'явіўся добраахвотна да ротнага камандзіра, атрад якога кватараваў у мястэчку Пескі. 19 верасня быў дастаўлены да ваўкавыскага ваеннага начальніка. У час бадзяння харчаваўся печанай бульбай, ягадамі і нікому зла не рабіў. Стрэльба, якая была раней дадзена Шмыгерам, аказалася непрыдатнай, але яе памяняў на лепшую Гзоўскі. Уцякаючы з атрада, стрэльбу Каляневіч выкінуў у лесе ў невядомым яму месцы [123, с. 691-692].

# ІЛЖЭСВЕДКІ

Ва ўсе часы лжэсведчанне лічылася сур'ёзным злачынствам і каралася адпаведным чынам. Нездарма народ напісаў пра паклёпнікаў столькі шмат прыказак: «Бойся паклёпніка, як злога ерэтыка», «Паклёп адрыгваецца», «Паклёпніка на тым свеце за язык вешаюць», «Паклёпнікі на тым свеце распаленыя патэльні ліжуць». Самым справядлівым чынам ілжэсведак каралі ў Вялікім Княстве Літоўскім – выкрыты лжывы сведка павінен быў панесці такое ж пакаранне, якое абвінавачаны панёс б у выніку абгавору. Асабліва квітнела лжэсведчанне ў смутныя часы. Менавіта тады паклёпнікі, скарыстаўшыся спрыяльным момантам, подлым чынам зводзілі рахункі са сваімі ворагамі. У час паўстання 1863 года таксама заквітнела лжэсведчанне. Адным з першых быў абгавораны ваўкавыскі гарадскі лекар Елец Уладзіслаў Адамовіч. 17 жніўня 1863 года ад ваўкавыскага ваеннага начальніка Казанлі быў пасланы рапарт гродзенскаму губернатару Івану Скварцову. У рапарце гаварылася аб нядобранадзейнасці ў палітычным дачыненні да гарадавога лекара Ваўкавыска Ельца. Таму Казанлі прасіў дазволу ў губернатара аб неадкладнай высылцы яго ў аддаленыя ўсходнія губерні [125, с. 1].

Рэакцыя губернатара на рапарт паступіла неадкладна. 20 жніўня ён загадаў гродзенскай урачэбнай управе звольніць Ельца ад пасады, а на яго месца прызначыць іншага лекара [125, с. 2].

Услед за сваім паспешлівым рашэннем лёсу доктара Ельца губернатар Скварцоў, як бы адумаўшыся, у той жа дзень 20 жніўня выслаў указанне ваеннаму начальніку ў Ваўкавыску, папрасіўшы даць яму звесткі аб нядобранадзейнасці ў палітычным дачыненні да гарадавога лекара Ельца [125, с. 3].

29 жніўня Казанлі выслаў тлумачэнне, што паміж іншымі прыкметамі нядобранадзейнасці ў палітычным дачыненні да Ельца яму вядома наступная акалічнасць. На сходзе абывацеляў горада, дзе разглядалася пытанне аб прызначэнні жалавання пісару гарадской кватэрнай камісіі, спадар Елец выказаўся: «Калі ўрад лічыць патрэбным мець пісара, то ён абавязаны і прызначыць яму жалаванне».

Казанлі патлумачыў губернатару, што калі ў іншы час на дадзены выраз можна было не звярнуць увагі, то пры цяперашніх абставінах яго

відавочна можна лічыць асуджэннем дзеянняў урада. Пры цяперашнім настроі людзей гэты выраз сапраўды ўзбуджаў у дэпутатах жаданне супярэчыць уладам у простай і карыснай справе для горада. Толькі пасля прыходу на сход спраўніка жыхары горада пагадзіліся прызначыць найбольш прыдатнае ўтрыманне пісара. Знаёмства лекара Ельца з многімі людзьмі і частае наведванне ім асоб, якія найбольш падазраюцца, нясе небяспеку для ўлады. На думку Казанлі, каб прадухіліць благія наступствы, маецца адзіны сродак – выдаліць яго з Ваўкавыска.

У канцы рапарта Казанлі абмовіўся, сказаўшы, што больш ясных і дакладных доказаў супраць Ельца ў цяперашні час ён прадставіць не можа. Інакш справа Ельца неадкладна была б перададзена ім у ваенна-следчую камісію [125, с. 4-5].

Па цяперашніх паняццях віна доктара Ельца была проста высмактана з пальца. Але расійскія ўлады былі так напалоханы паўстаннем, што нават самае нязначнае пярэчанне супраць сваіх указанняў прымалі за непадпарадкаванне, што раўнасільна было злачынству. Тым больш, калі такое пярэчанне зыходзіла ад аўтарытэтнага і паважанага чалавека ў горадзе, якім ў Ваўкавыску з'яўляўся гарадскі лекар Елец. Таму нічога дзіўнага, што і ўсе вышэйстаячыя начальнікі палічылі справядлівую заўвагу доктара Ельца злачынствам. І вось 18 верасня віленскі генерал-губернатар Мураўёў вынес па справе Ельца сваё канчатковае рашэнне, якое накіраваў гродзенскаму губернатару. У рашэнні прадпісвалася лекара Ельца, які наклікаў на сябе моцнае падазрэнне ў дапамозе палітычным зламыснікам, выслаць на жыхарства пад строгі паліцэйскі нагляд у Арэнбургскую губерню. Варта было таксама паведаміць Арэнбургскаму губернатару ўсе звесткі аб Ельцу [125, с. 13].

Тым часам абгавораны доктар Елец напісаў Мураўёву ў сваё апраўданне ліст, у якім адхіляў усе абвінавачванні ваўкавыскага спраўніка. Трэба аддаць належнае, ліст хутка патрапіў да адрасата, і рэакцыя рушыла ўслед неадкладна. Мала таго, 4 кастрычніка для хутчэйшага прыпынення пакарання Ельца, канцылярыя Мураўёва спачатку выслала гродзенскаму губернатару тэлеграфам дэпешу, а потым і паштовае адпраўленне. У ім Мураўёў паведамляў, што сёння атрымаў ліст ад Ельца, у якім ён прасіў яго аб навядзенні больш дакладных звестак пра яго добранадзейнасць. У сваю чаргу Мураўёў загадаў губернатару ўстрымацца ад высылкі Ельца да ўстанаўлення ступені яго віноўнасці [125, с. 14].

Указанне Мураўёва гродзенскі губернатар адправіў на месца ў горад Ваўкавыск ваеннаму начальніку Казанлі, ад якога 20 кастрычніка атрымаў адказ. Аказалася, што 13 жніўня павятовы спраўнік маёр Радзецкі, сабраўшы найбольш багатых уладальнікаў дамоў горада Ваўкавыска, патрабаваў ад іх згоды на вызначэнне 120 рублёў заробку пісару кватэрнай камісіі. Лекар Елец, які знаходзіўся на сходзе як домаўладальнік, прагаварыў, што калі пісару павінна быць прадастаўлена кватэра, то такую можна яму даць у натуры, а не грашыма. Бачачы да сябе непавагу, спраўнік з лютасцю распусціў сход. Пры гэтых спрэчках лекар Елец не вымаўляў ніякіх дзёрзкіх слоў, з якіх можна было б зрабіць вывад аб яго нядобранадзейнасці ў палітычных адносінах. Між тым, спраўнік за сваё публічнае прыніжэнне вырашыў адыграцца на лекару Ельцу, напісаўшы данос аб яго нядобранадзейнасці ў палітычных адносінах. Спадзеючыся на добрасумленнасць данясення павятовага спраўніка, Казанлі даў даносу належны ход. У сваё апраўданне Казанлі напісаў, што пры тагачасным становішчы спраў і неспакоі ў павеце не было часу глыбока разглядаць справу Ельца і адкладаць яе на потым. Як прызнаў Казанлі, абвінавачванне Ельца спраўнік здзейсніў аабіста з прычыны непрыязнасці да яго, хваравітага стану і нервовага раздражнення, якім ён часта падвяргаўся пры цяперашняй абстаноўцы.

Аб нядобранадзейнасці лекара Ельца ў палітычных адносінах да гэтага часу не аказалася ніякіх фактаў. На лячэнні ў яго падчас апошніх двух месяцаў было каля 150 хворых ніжэйшых чыноў. Паміж хворымі знаходзілася 26 чалавек ніжэйшых чыноў цяжкапараненых, з якіх пры старанным клопаце Ельца і веданні ім сваёй справы памерла толькі двое, а іншыя паправіліся. Ніжэйшыя чыны з асабліваю ўдзячнасцю адклікаліся аб яго адданай працы ў лячэнні і шкадавалі аб непрыемнасцях, якія яго напаткалі. Таму, як лекар і чыноўнік, добрасумленнай і стараннай працай Елец апраўдаў сваю адданасць ураду [125, с. 17-18].

Як гаварыцца, добра тое, што добра заканчваецца. Праўда перамагла. А што за пакаранне панёс ілжывы сведка і паклёпнік павятовы спраўнік маёр Радзецкі? На гэты конт у дадзенай справе маецца дакумент ад 28 кастрычніка, накіраваны губернатарам ваўкавыскаму ваеннаму начальніку. У ім прадпісвалася вызваліць лекара Ельца з-пад арышту пад добранадзейнае паручыцельства да асобага распара-джэння. Загадаць ваўкавыскаму спраўнік Радзецкаму неадкладна прыбыць у Гродна і з’явіцца да губернатара [125, с. 25].

Мяркуючы па тым, што з кастрычніка 1863 года пост ваўкавыскага павятовага спраўніка заняў Рыгор Іпалітавіч Шаншын, Радзецкі быў зняты са сваёй пасады.

Другі выпадак ілжэсведчання таксама, як ні дзіўна, быў звязаны з медыцынай. Аб гэтым выпадку вядома з прашэння жонкі абгаворанага правізара Карла Рыжукевіча, які сядзеў пад вартай. Прашэнне было напісана Міхалінай Рыжукевіч 26 верасня 1863 года на імя гродзенскага губернатара. Яе муж, Карл Рыжукевіч, пасля неабходнага выпрабавання і з дазволу ўрачэбнай управы, атрымаў у горадзе Ваўкавыску пасаду правізара ў аптэцы. Падчас працы выкрыў вучня Стржалкоўскага ў крадзяжы аптэкарскіх медыкаментаў, пра што па абавязку службы давёў да ведама гаспадара аптэкі. Стржалкоўскі, затаіўшы на Рыжукевіча крыўду, паклёпнічаў на яго перад уладамі ў дапамозе паўстанцам. Яго жонка з малалетнім дзіцём пазбавілася ўсіх сродкаў для пражывання, а таму прасіла губернатара загадаць разглядзець каму трэба справу пра мужа. У пацверджанне таго, што яе муж быў добрых паводзінаў, спасылалася на сведчанне аптэкараў Адамовіча і Дзікоўскага, у якіх муж знаходзіўся на практыцы.

Ліст Міхаліны Рыжукевіч быў прынята пад увагу і праведзена расследаванне. Дадзеных расследавання ў справе не маецца, але затое маецца канчатковая рэзалюцыя гродзенскай следчай камісіі па палітычных справах ад 11 кастрычніка 1863 года, прадстаўленая гродзенскаму губернатару. У ёй паведамлялася, што па абвінавачванні падсуднага Рыжукевіча ў аддаванні лекаў для паўстанцаў няма ніякіх дадзеных. Згодна з распараджэннем камісіі Рыжукевіч з-пад арышту быў вызвалены [126, с. 1-3].

Трэці выпадак ілжэсведчання адбыўся ў сельскай мясцовасці, але пра яго вынікі нічога невядома. У справе маецца толькі прашэнне пацярпелай, жонкі вольнага хлебароба Біскупскай сялянскай грамады Мар'яны Лашкевіч, мужа якой Івана Лашкевіча з прычыны паклёпу зайздросных суседзяў-сялян пасадзілі ў астрог. Прашэнне было пададзена ваўкавыскаму павятоваму спраўніку. Па распараджэнні начальства яе муж Іван Лашкевіч утрымліваўся ў астрозе па абвінавачванні ў палітычных справах, а яго маёмасць падвергнулася паліцэйскаму нагляду. У дапамозе паўстанцам яго абвінавацілі суседзі, казённыя сяляне з вёскі Рупейкі: Вікенцій Антончык, Станіслаў Сяменчык і Міхаіл Марцінчык. Яны ж, скарыстаўшыся арыштам Лашкевіча і хваробай яго жонкі, пачалі рабаваць іх маёмасць. Рупейкаўскія сяляне самавольна забралі калоду пчолаў, быка, паўбочкі жыта і паўбочкі

грэчкі, а таксама адабралі ў хворай жонкі Лашкевіча ключы ад замкоў, каб свабодна браць, што ім захочацца. Так забралі бочку грэчкі, аддаўшы яе ў карчму яўрэю ў заклад за набраную імі гарэлку. На гэтыя супрацьзаконныя ўчынкі жонка Лашкевіча паскардзілася станавому прыставу Валашынаву, аднак суседзі нічога з нарабаванага не вярнулі [127, с. 60-61].

Але самы, мабыць, фантастычны выпадак ілжэсведчання адбыўся ў мястэчку Зэльва. 16 лютага 1864 года, калі з паўстаннем фактычна было скончана, жыхар мястэчка Зэльва яўрэй Вольф Левін, 40 гадоў, вырашыў адным махам пакончыць з усімі сваімі шматлікімі ворагамі і нядобразычліўцамі. У прысутнасці ваўкавыскага ваеннага начальніка ён даў абвінаваўчыя паказанні.

Адносна гаспадара казённай фермы пры мястэчку Зэльва Юльяна Германа ён паказаў, што ў таго ў доме з ранняй вясны 1863 года збіраліся суседзі з наваколіц, спявалі абуральныя песні, падгаворвалі сына Германа Льва ісці ў атрад да паўстанцаў, куды яго бацька неўзабаве і адвёз. Гэта было ў маі месяцы, калі атрад паўстанцаў знаходзіўся ў мястэчку Лыскава. Калі ж цесць Германа – Радкевіч, які пражываў у фальварку Князякоўшчына, даведаўся пра адпраўленне да паўстанцаў свайго ўнука Льва Германа, то прымусіў яго бацьку вярнуць Льва з лесу. Леў Герман быў прывезены з лесу бацькам, але прыбыў у дом параненым у зад. Лячыў яго ад ран фельчар, які пражываў у мястэчку Зэльва, казённы селянін Ян Вадановіч. Гэта магла пацвердзіць уся прыслуга з фермы, а таксама жыхары мястэчка Зэльва і вёскі, якія не раз бачылі, як Варановіча прывозілі з мястэчка на ферму да параненага Льва. Сам жа Вадановіч таксама дапамагаў паўстанцам – у яго доме збіраліся бліжэйшыя памешчыкі: Вейс, Навіцкі, старэйшы сын памешчыцы Махвіцавай і ганаровыя мяшчане мястэчка Зэльва. Варановіч быў абраны імі скарбнікам. Да яго прыносілі розныя грашовыя зборы для дапамогі паўстанцам. У яго ж захоўвалася адзенне для паўстанцаў, што могуць пацвердзіць і мяшчане мястэчка, а менавіта: Ясь Купраш, каваль Ян Варштат, Байбус, які пасвіў скаціну, і жонка яго, мяшчанка Балкуніха, адстаўны салдат Маняк, Казлоўскі, Ясь Ленец, а таксама прыслуга Варановіча, якая ўсё бачыла. Калі зрабіць у доме Варановіча вобыск, то ў яго знойдзецца дастатковая колькасць сабранага срэбра для паўстанцаў.

Іншыя мяшчане мястэчка Зэльва: Ян Варштат, брат яго Антон Варштат, швагер іх – арганіст Маліноўскі, Томаш Путра, Міхаіл Ярмола, Конга, сын якога таксама знаходзіўся ў лесе ў паўстанцаў, але вярнуўся дадому параненым і пра якога і дагэтуль не данесена начальству – усе яны дастаўлялі

паўстанцам розныя прадукты, правозячы іх праз вёску Горна. Пра гэта зэльвенскаму яўрэю Ашэру Кузняцу расказваў дзясяцкі вёскі Горна Юрко, а той расказваў Левіну. Гэты ж Юрко аднойчы сказаў Левіну ў карчме ў адстаўнога салдата Міркеля Ратшана ў Зэльве пра атрад паўстанцаў. Быццам бы гэты атрад прыходзіў у маёнтак Горна да памешчыка Навіцкага, пра што Левін далажыў пісару 1-га стана Каржанеўскаму. Ён жа Каржанеўскі падбухторваў Левіна ісці да паўстанцаў, за што на першы выпадак даваў яму са свайго кашалька 10 рублёў, але Левін не пагадзіўся.

Левін данёс і на ключвойта мястэчка Зэльва Яўхіма Іванова, які таксама садзейнічаў паўстанцам, прымаючы іх у сваім доме, частаваў, хадзіў з імі па мястэчку, што бачылі многія жыхары, у тым ліку Янкель Бяркові Нажаніцкі. У летні час, калі ў мястэчку Зэльва сельская варта затрымала аднаго паўстанца, то гэты ключвойт замест таго, каб прадставіць паўстанца начальству, вызваліў яго, а ў сваё апраўданне распусціў слых, што дастаўлены яму паўстанец уцёк. Пра гэта добра ведаў старшыня мястэчка Зэльва Ян Янушкевіч і добрасумленны Міхась Варстак. Калі маёнтак Жорна памешчыка Андржэйковіча за ўдзел у паўстанні быў канфіскаваны, то з гэтага маёнтка да Яхіма Іванова на нанятых фурманках у вёсцы Жорна і Караліно прывозілася сена, салома, жыта і іншыя розныя рэчы і, звыш таго, эканом маёнтка Жорна Запаснік перадаў яму двое коней.

Як сцвярджаў Левін, пра ўсё вышэйсказанае ведалі дзясятнік мястэчка Зэльва Адам Бяляўскі, Ануфрый Варштат і іншыя.

Яўрэй Шымель Салуцкі, які пражываў у мястэчку Зэльва, гаспадар казённага млына, праз сваіх работнікаў Абрама Левіна і Абрама Шмуйловіча неаднаразова адсылаў да паўстанцаў, якія знаходзіліся ў той час за Лыскавым, розныя харчы. Пра гэта могуць паказаць пад прысягай як згаданыя работнікі, так і яўрэі мястэчка Зэльва Шлема Перлін, Арчык Левінсон і Моўша Яноўскі. Тыя ж работнікі прывозілі харчы на мызу Князякоўшчына, верагодна для перадачы тым жа паўстанцам.

Казённы равін мястэчка Зэльва Абрам Вайсбурд таксама ведаў аб усіх абставінах. Левін у канцы свайго абвінавачвання звярнуў увагу ваеннага начальніка на сваё здзіўленне тым, што адбываецца ў Зэльве ў дачыненні да адкрытай дапамогі паўстанцам і што да гэтага часу ніхто не данёс начальству [128, с. 27-30].

Ваенны начальнік Казанлі прыняў паведамленне зэльвенскага яўрэя Левіна з асцярожнасцю і недаверам. Перш чым арыштаваць усіх шматлікіх

нібыта памочнікаў і ўдзельнікаў паўстання ў мястэчку Зэльва, патрабавалася правесці дбайную праверку. Таму ў Зэльву накіраваўся чыноўнік па асаблівых даручэннях Папоў, які на месцы павінен быў высветліць асобу самога Левіна. Неўзабаве па выніках праведзенага расследавання Папоў выслаў ваеннаму начальніку рапарт. У рапарце паведамлялася, што пра асобу Левіна нічога добрага, акрамя дрэнных водгукаў ад мясцовых жыхароў, не пачуў. Левін быў заўважаны ў наступных справах:

1. У крадзяжы грошай і перлаў у адстаўнога салдата мястэчка Зэльва Морхеля Ратнага.

2. У нападзе на дарозе на селяніна Слонімскага павета, маёнтка Пескі, памешчыка Пуслоўскага – Сідара Дудко і аб рабаванні ў яго грошай.

3. У атручванні яўрэйкі Юдэлі Бублядскай, па справе якой на павальным вобыску (больш за 40 чалавек) Левін выказаны самым зламысным чалавекам.

4. У дачы Левіным атруты для забойства плоду цяжарнай ад яго яўрэйкі мястэчка Зэльва Леі Пякольнікавай.

5. У крадзяжы 128 рублёў у селяніна мястэчка Зэльва Івана Варыкава.

6. У пагрозе спаліць яўрэя Шэмеля Салуцкага з атручваннем яго сямейства, пра што ў жніўні 1863 года быў складзены акт станавым приставам і прад'яўлены ў паліцэйскае кіраванне.

Усе названыя справы знаходзіліся на разглядзе ваўкавыскага гарадавога магістрата.

Чыноўнік Папоў устанавіў, што, па-першае, усе бедствы, якія адбыліся ў 1862 годзе, а таксама пажар у мястэчку Зэльва былі з удзелам Левіна. Па-другое, што Левін нічога не меў, нічым не займаўся, акрамя крадзяжу і махлярства. Таму быў зроблены вывад аб Левіне як небяспечнай для грамадства асобы, якая не можа заставацца на ранейшым месцы жыхарства і павінна быць выслана ў аддаленыя губерні. Тым не менш, з усіх згаданых у даносе Левіна асобах было ўзята тлумачэнне [128, с. 32].

2 жніўня 1864 года ваўкавыскі ваенны начальнік Казанлі ў рапарце гродзенскаму губернатару выказаў сваё меркаванне аб Левіне, у якім ахарактарызаваў яго данос на жыхароў мястэчка Зэльва наступнымі словамі: «Левін дзейнічаў з помсты і карысталюбства». Да таго ж па рашэнні ваўкавыскага гарадавога магістрата па некалькіх справах ён быў пакараны на ссылку ў Сібір на пасяленне. Яўрэйская грамада, да якой ён належаў, ведаючы пра яго супрацьзаконныя ўчынкі і рашучасць на іншыя бясчынствы,

папрасіла выдаліць Левіна з жонкаю са свайго асяроддзя ў далёкія сібірскія губерні [128, с. 149-150].

Ваўкавыскі ваенны начальнік пагадзіўся з рашэннямі ваўкавыскага магістрата і Зэльвенскай яўрэйскай грамады.

З другога боку, у паказаннях Левіна шмат такога, што магло быць і на самай справе. Па ўсёй верагоднасці сама яўрэйская грамада прыклала намаганні да таго, каб пазбавіцца ад чалавека, які не пагрэбаваў зрабіць данос на самага паважанага чалавека з яўрэйскай грамады – рабіна. У чым начальства пайшло насустрач, а сам данос Левіна ахарактарызавала паклёпніцкім. Тым больш, што паўстанне завяршылася.

Яшчэ адно лжэсведчанне з боку члена яўрэйскай супольнасці было зафіксавана маёрам Львовым 9 лютага 1863 года, г.зн. у самым пачатку паўстання. Яўрэй Лідскага павета Жалудоцкай грамады Шавель Грынберг паказаў, што яму ад роду 30 гадоў, веры яўрэйскай, у штрафах і пад судом не быў, грамату рускую ведае. Ён абвінаваціў ксяндза Маркевіча з мястэчка Воўпа, што той ездзіць па вёсках і бунтуе народ. Ксёндз з вёскі Рэпля Багдановіч таксама бунтуе сялян, пра што Грынбергу расказалі невядомыя яму яўрэі. У заключэнне Грынберг прапанаваў маёру Львову, што калі яму дадуць грошай на паездку ў Воўпу, то ён бярэцца сам асабіста на месцы пераканацца, ці справядлівыя яго абвінавачванні [129, с. 1].

Тут мы бачым не толькі даносы, але і жаданне за грашовую плату і далей працягваць сачыць і даносіць. Праверыць ксяндза Маркевіча было даручана камандзіру 3-га батальёна Неўскага пяхотнага палка маёру фон Крэмеру, які рухаўся ў Ваўкавыск праз мястэчка Воўпа. 12 лютага фон Крэмер з вялікаю асцярогай і ўтоенасцю збіраў ў хрысціян звесткі пра ксяндза Маркевіча. Аднак не было атрымана ніякіх фактаў па паездках Маркевіча па вёсках і падгаворвання ім сялян. Сумесна з гродзенскім земскім спраўнікам і ротным камандзірам батальёна 16-га лютага ў 12 гадзін ночы фон Крэмер правёў у доме Маркевіча дасканалы вобыск. Былі прагле-джаны ўсе яго паперы і перапіска, а таксама агледжаны ўсе будынкі, якія належаць да хаты: склеп, свіран – словам усё, дзе б можна было захоўваць зброю або забароненыя рэчы.З прычыны таго, што нічога падазронага не аказалася, ксёндз Маркевіч быў пакінуты на волі [129, с. 4].

# ПАКАРАННЕ

Прызначанага на пасаду галоўнага начальніка заходніх губерняў генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва імператар надзяліў неабмежаванымі дыктатарскімі паўнамоцтвамі. Для супакойвання краю Мураўёў пачаў дзейнічаць выключна жорсткімі мерамі. Былі створаны следчыя камісіі і ваенна-палявыя суды. Прыгаворы судоў, пасля зацвярджэння губернатарамі і самім Мураўёвым, выконваліся неадкладна. Прычым смяротныя прыгаворы праводзіліся публічна на гарадскіх плошчах. Усяго ў краі было пакарана больш за 10908 чалавек, з якіх 128 павешаны ці расстраляны, 853 чалавека саслалі на катаргу, 504 чалавекі адпраўлена ў Сібір на вечнае пасяленне, 825 чалавек выслана на пасяленне ў іншыя аддаленыя раёны Расійскай імперыі з паражэннем у правах, 7836 чалавек было выслана ў адміністрацыйным парадку, 320 чалавек адпраўлена ў войска шарагоўцамі, 767 чалавек – у арыштанцкія роты. Акрамя таго, 12355 чалавек былі аддадзены пад нагляд паліцыі па месцы жыхарства. Тут не ўлічваюцца тыя, якія загінулі на полі бою і памерлі ад ран.

Пасля разгрому паўстання ў заходнія краіны эмігравалі каля 7000 паўстанцаў. Палова ўсіх эмігрантаў асела ў Францыі, Швейцарыі і Турцыі, астатнія пасяліліся ў Італіі, Бельгіі, Англіі і Германіі. Частка былых паўстанцаў апынулася ў Злучаных Штатах Амерыкі, дзе прыняла ўдзел у вызваленчай вайне супраць рабства [8, с. 241].

Са 128 чалавек было пакарана: «за здраду абавязку і прысязе ўцёкамі з войскаў і ўступленнем у бунтаўнічыя шайкі» – 24; за ўдзел у мецяжы і здзяйсненне ў ім: рабаванняў – 3; забойстваў – 47; асабліва актыўны ўдзел у мецяжы і доўгатэрміновае прабыванне ў шайцы мяцежнікаў – 6; за правадырства бунтаўнічай шайкай – 24; публічнае чытанне і распаўсюджванне абуральных маніфестаў і падбухторванне жыхароў да паўстання – 7; знаходжанне на чале распарадчыкаў рэвалюцыйнай арганізацыі і вышэйшыя распараджальнікі мяцежным рухам – 6; служэнне рэвалюцыйнаму камітэту ў званні жандараў-вешальнікаў і паліцыянтаў для здзяйснення забойстваў – 11» [10, с. 100].

У цэлым высланыя з заходніх губерняў склалі большасць (57%) усіх рэпрэсаваных удзельнікаў паўстання 1863 года. Высланыя з Каралеўства Польскага склалі 38%, з Паўднёва-Заходняга краю – 5% [130, с. 73].




Мал. 23. Высылка паўстанцаў у Сібір

Публічнасць ажыццяўлення пакарання павінна была падкрэсліць рашучасць улады спыніць крамолу ў краі. Пры гэтым, калі паўстанец займаў высокія пасады ў органах кіравання паўстаннем, пакаранне смерцю праз расстрэл замянялася павешаннем. Тое ж тычылася паўстанцаў, якія здзейснілі падчас паўстання крымінальныя злачынствы. Аднак для павешання патрэбныя былі каты, а іх не хапала, таму Мураўёў дапускаў у некаторых выпадках замену павешання расстрэлам. Месца пакарання акружалася войскамі, вакол якіх выбудоўваўся яшчэ адзін ланцуг з ірэгулярных падраздзяленняў – казакоў і мясцовых апалчэнцаў. У выпадку неабходнасці ачапленне ўзмацнялі жандарамі і іншымі вайскоўцамі. Агнястрэльная зброя ў ачапленні (за выключэннем некалькіх чалавек, якія знаходзіліся непасрэдна пры пакараным) не была зараджана.

Як адбылося першае пакаранне ў Вільні, успамінаў памочнік Мураўёва з канцылярыі – Аляксандр Масолаў. 20 мая, у 10 гадзін раніцы, седзячы ў сябе дома, ён пачуў аддаленыя гукі барабана і трубы. Гук усё набліжаўся, і з ім рос гул натоўпу. Усе спалохаліся і кінуліся да вокнаў: па вузкай Дамініканскай вуліцы набліжалася працэсія: вялі на пакаранне смерцю ксяндза Ішору. Наперадзе ехалі жандары і казакі. Далей, акружаны салдатамі, бадзёра ішоў высокі малады ксёндз прыемнай знешнасці. Ражкі паныла ігралі. Побач з асуджаным ішоў духоўнік, а за працэсіяй і вакол яе кіпеў неабсяжны натоўп народу. Віна пакаранага складалася ў чытанні маніфеста паўстання народу,

што сабраўся ў касцёле. Падобнае чытанне, як пасля выявілася, адбывалася амаль паўсюдна ў заходніх губернях у адзін і той жа дзень 20 студзеня. Ішора быў затрыманы з першых, і таму на яго ўпала жэрабя.

На шырокім полі Лукішкі, дзе адбывалася пакаранне, і на навакольных узвышшах сабралася да 20 тысяч народу. Жанчыны ўсе былі ў чорным і гучна галасілі. Жыхары Вільні не хацелі верыць, што ўрад пойдзе на пакаранне смерцю. Але, калі пачуўся залп, жах быў агульны.

У гэты дзень у горадзе было змрочна. Рускія і палякі пры сустрэчы пазіралі адзін на аднаго коса. Праз два дні адбылася новае пакаранне: расстраляны былі стары ксёндз Зямацкі і малады шляхціц Ляскоўскі. Але гэтае пакаранне ўжо не зрабіла на жыхароў такога ўражання, як першае [26].

Арыштаваных паўстанцаў і тых, якія знаходзіліся пад следствам, у Ваўкавыску ўтрымлівалі ў турэмным астрозе, пабудаваным у 1820 годзе і, вядома, не разлічаным на такі вялікі кантынгент. Таму для іх было дадаткова выдзелена яшчэ адно памяшканне, якое знаходзілася побач з астрогам і было ўзята ў арэнду ў яго гаспадара. У архіўнай справе маецца спіс арыштантаў з указаннем сутак адбыцця зняволення, а таксама колькі грошай было выдадзена на іх ўтрыманне. Спіс складзены ў прамежку часу ад 20 сакавіка 1863 года па 15 лютага 1864 года. Менш за ўсё арыштаваныя знаходзіліся ў няволі адны суткі, а больш за ўсё – 260 сутак. Усяго ў спісе 444 чалавекі. Арыштанту простага звання ў суткі на ўтрыманне належыла 6 капеек, двараніну – 10 капеек, тым, якія служылі чыноўнікамі – 14 капеек [131, с. 159-177]. Усяго з 20 сакавіка 1863 года па 1 верасня 1864 года на арыштантаў, якіх за гэты час утрымлівалася 551 чалавек, было выдаткавана 3488 рублёў 63 капейкі:

1. На ўтрыманне наглядчыкаў і прыслугі – 202 рубля 50 капеек.
2. На ўзмацненне паліцыі – 551 рубель.
3. На пражытак арыштантаў – 2001 рубель 48 капеек.
4. На вопратку і абутак 184 арыштантам – 910 рублёў 71 капейка.
5. На лячэнне 81 арыштанта і іх пражытак – 490 рублёў 99 капеек.
6. На непрадбачаныя выдаткі – 85 рублёў 45 капеек [131, с. 179адв.-180].

З арыштантамі, якія знаходзіліся ў зняволенні, па існуючых законах меў кантакт страпчы, пасада якога адпавядала сучаснай пасадзе адваката. Акрамя таго, арыштаваных маглі наведваць і мясцовыя чыноўнікі з карэнных жыхароў, якія па просьбе сваіх знаёмых і сваякоў імкнуліся рознымі спосабамі палегчыць далейшы лёс заключаных у няволю. Нават своечасова сказанае

арыштанту слова пра тое, як паводзіць сябе на следстве, што варта казаць, а што не трэба, або перададзеная з волі запіска маглі адыграць значную ролю ў вырашэнні ваеннага суда аб прымяненні ступені пакарання. Пракуроры ж па-старому працягвалі прадстаўляць на меркаванне Мураўёва прашэнні палітычных арыштантаў і паўстанцаў, якія ўтрымліваліся пад арыштам у розных гарадах падведамаснага яго кіраванню краю. Усё гэта не магло задаволіць Мураўёва, а таму 31 жніўня ад яго ва ўсе паветы падпарадкаваных яму губерняў на імя ваенных начальнікаў было накіравана сакрэтнае прадпісанне. У ім выразна паказвалася, што 164 і 165 артыкулы 14-га тома Збору Законаў Статута аб арыштантах, якія ўтрымліваюцца пад вартаю, да палітычных арыштантаў выкарыстоўваць нельга. Прымаючы гэта пад увагу, палітычныя арыштанты, як і паўстанцы, узятыя ў палон, падлягаюць ваеннаму суду, а таму павінны знаходзіцца выключна ў вядзенні ваеннага начальніка, а не грамадзянскіх уладаў. Таму, акрамя членаў следчых па палітычных справах камісій, ніякая староння асоба спатканняў і тлумачэнняў з імі мець не павінна.

Мураўёў таксама заўважыў, што вялікая частка страпчых і іншых уладаў у павятовых гарадах належыць да мясцовага дваранства, тых, хто спачувае паўстанню і прымае ў ім прамы ці ўскосны ўдзел. Таму для ліквідацыі беспарадкаў і іншых шкодных наступстваў, якія могуць узнікнуць, ён загадаў ваенным начальнікам строга сачыць, каб да палітычных арыштантаў і паўстанцаў, якія ўтрымліваюцца пад вартаю, ніхто са старонніх асоб як ваеннага, так і грамадзянскага ведамства без іх распараджэння не быў дапушчаны [54, с. 25].

Пасля вынясення прыгавору асуджаныя збіраліся ў этапы для адпраўкі ў ссылку. Спасылаючыся на ўказанне Мураўёва, 31 жніўня гродзенскі губернатар разаслаў на месцы сакрэтны цыркулярны ліст, які вызначаў, як паступаць са сваякамі тых, хто высылаецца. Ён прапаноўваў ваенным начальнікам і павятовым спраўнікам зрабіць распараджэнне, каб сваякам палітычных злачынцаў было дазволена развітвацца з імі напярэдадні іх адпраўлення. Каб затым у дзень ад'езду ніхто не быў дапушчаны на месца адпраўлення, з аб'явай напярэдадні, што той, хто не выканае гэтае распараджэнне, будзе падвергнуты арышту [54, с. 13].

Начальства краю турбавалася нават за знешні выглядам асуджаных, каб расійскія абывацелі ні ў якім разе не пазнавалі ў перасылаемых этапах сярод арыштантаў паўстанцаў. Таму 13 верасня ад гродзенскага губернатара цыркулярны лістом на месцы быў накіраваны загад не адпраўляць арыштантаў

да месцаў прызначэння ў чамарках. Усе яны павінны былі адпраўляцца толькі ва ўстаноўленай законам арыштанцкай вопратцы [54, с. 82].

Аб мерах па адносінах да арыштаваных пастаянна ішлі новыя ўказанні. Так, 6 верасня Мураўёў выдаў сакрэтны ўказ пра паўстанцаў або іх памагатых, якія з'явіліся з павіннай. Гэта адносілася да тых, хто належаў да саслоўя ксяндзоў, дваран, адстаўных чыноўнікаў і іншых важных палітычных злачынцаў. Абапіраючыся на гэты ўказ, 11 верасня 1863 года камандуючы войскамі ў Гродзенскай губерні генерал-маёр Ганецкі накіраваў ваенным начальнікам губерні цыркулярны ліст з указаннем не шкадаваць людзей, якія добраахвотна з'явіліся з паўстанцкіх атрадаў, калі на допытах яны не шчырыя. Ён паведамляў, што некаторыя паўстанцы, якія добраахвотна з'явіліся да начальства, замест шчырага раскаяння ў сваіх памылках, аказваюць на допытах упартасць і не даюць адкрытых адказаў пра абставіны знаходжання іх у партызанскіх атрадах. Таксама не расказваюць пра іншых асоб, якія ўдзельнічаюць у паўстанні. Таму такія паўстанцы не заслугоўваюць літасці і павінны быць асуджаны па ўсёй строгасці закона.

Генерал Ганецкі быў занепакоены і тым, што іншыя паўстанцы выпадкова маглі пазбегнуць пакарання. Таму, каб пазбегнуць памылкі, якая можа быць звязана з памілаваннем палітычным злачынцам вышэйзгаданых саслоўяў, якія не заслугоўваюць літасці, Ганецкі загадаў усім ваенным начальнікам высылаць іх да яго з узятымі паказаннямі [54, с. 68].

Разам з тым Ганецкі цыркулярным лістом ад 18 верасня інструктаваў ваенных начальнікаў пра больш дбайныя і ўважлівыя допыты паўстанцаў, якія добраахвотна вярнуліся. Многія паўстанцы, вяртаючыся добраахвотна з лесу, на допытах паказвалі, што з імі знаходзіліся яшчэ іншыя асобы, якіх яны называлі і паказвалі на іх учынкі. Таму Ганецкі загадваў следчым камісіям завесці алфавітныя спісы ўсіх паўстанцаў, якія з'яўляюцца з лесу, і таксама тых, каго яны называюць. Строга сачыць, каб кожны раз па вяртанні новага паўстанца рабіліся даведкі па алфавітных спісах. Варта было правяраць, ці не ўказаў такога паўстанца кто-небудзь з тых, хто з'явіўся раней, і ці не хавае ён якіх-небудзь сваіх учынкаў.

Прычым Ганецкі абавязваў следчыя камісіі неадкладна праводзіць расследаванне аб усіх асобах, якія яшчэ не арыштаваны, але на якіх будуць указваць паўстанцы, якія вяртаюцца [54, с. 109].

Бліжэй да сярэдзіны верасня з кожным днём дадому з лесу вярталіся паўстанцы, якія паверылі афіцыйна абвешчанаму дараванню цара. Многія

з іх нават не паведамлялі аб сваім вяртанні мясцовай уладзе, спадзеючыся, што імі ніхто не зацікавіцца. З гэтай нагоды ад гродзенскага губернатара 16 верасня на месцы быў разасланы цыркулярны ліст, які паведамляў, што за пратэрміноўку рэгістрацыі з кожнага паўстанца, які вярнуўся, варта спаганяць грашовы штраф ад 25 да 100 рублёў срэбрам. Акрамя таго, такіх паўстанцаў патрабавалася неадкладна браць пад варту. Асобы, якія хаваюць у сябе былых паўстанцаў і не абвясціла аб тым мясцоваму ваеннаму і грамадзянскаму начальству, будуць адказваць па ўсёй строгасці законаў, а таксама будуць пакараныя грашовым штрафам ад 25 да 100 рублёў срэбрам. Пра ўсё гэта ваенным начальнікам прапаноўвалася аб'явіць усім жыхарам горада і павета праз валасныя і сельскія ўпраўленні, а таксама ў цэрквах і касцёлах [54, с. 85].

Усе памілаваныя ўдзельнікі паўстання павінны былі прынесці прысягу на вернасць уладзе, пра што 13 верасня 1863 года Мураўёў паведамляў гродзенскаму губернатару. Так, з прадстаўленай 7 верасня гродзенскім губернатарам следчай справы Мураўёў угледзеў, што дваранін Ваўкавыскага павета Юльян Ігнатовіч, пакінуўшы атрад паўстанцаў, добраахвотна з'явіўся да начальства з чыстасардэчным раскаяннем і з просьбаю аб памілаванні. Мураўёў распарадзіўся аб вызваленні Ігнатовіча з-пад арышту і аб'яўленні яму ўсяміласцівейшага ад імя гасудара імператара памілавання. Аднак запатрабаваў, каб ён быў публічна прыведзены да прысягі на вернападданасць у касцёле праз добранадзейнага ксяндза. Затым быў вернуты на месца жыхарства не інакш, як пад паручыцельствам добранадзейных асоб [132, с. 4].

Такую ж прысягу на вернападданасць прымушалі прымаць і простых сялян. Гэта вынікае з указанняў ваўкавыскага ваеннага начальніка ад 25 верасня 1863 года ў павятовае паліцэйскае ўпраўленне. Сяляне, якія добраахвотна вярнуліся з лесу: вёскі Магілёўцы – Сідар Грынкевіч, з маёнтка памешчыка Адама Быхаўца – Даніла Пракурына, з маёнтка Краскі – Аляксандр Садоўскі, былі прыведзены да прысягі на вернападданасць. З паліцэйскага ўпраўлення яны былі адпраўлены кожны на сваё месца жыхарства за паручыцельствам той грамады, да якой належалі сяляне. Узятае паліцэйскімі паручыцельства прадстаўлялася ваеннаму начальніку [51, с. 93].

Пазбеглі пакарання і тры селяніна, якія пабывалі ў «мецяжы», што працавалі ў фальварку Юзэфполь Адама Быхаўца: селянін вёскі Місевічы – Вікенцій Міхайлавіч Данілевіч, 31 год, каталік; Андрэй Францавіч Жылінскі, 26 гадоў, каталік; селянін вёскі Лаўрыновічы – Станіслаў Іванавіч Шкодыч, 21 год. 6 кастрычніка 1863 года яны паказалі следчай камісіі, што ў красавіку

па падгаворы прыказчыка маёнтка Юзэфполь Адама Касяровіча, які не вярнуўся да гэтага часу з лесу, яны паступілі ў атрад, які фарміраваўся ў лесе каля Лыскава. Прабыўшы ў ім тры дні, вярнуліся ў маёнтак Юзэфполь, дзе пражывалі да запатрабавання атрадным начальнікам з мястэчка Лыскава. Самі ж да начальства не з'яўляліся, бо баяліся пакарання.

Шэсць сялян з вёскі Лаўрыновічы пад прысягай далі паказанні, што яны таксама былі ў атрадзе паўстанцаў толькі тры дні, пайшлі туды з прычыны ўгавораў і пагроз прыказчыка Касяровіча і Антона Грыневіча. Ваўкавыскі ваенны начальнік пакінуў і гэтых сялян на месцы ранейшага жыхарства пад паручыцельства грамады [133, с. 71-72].

Аднак некаторых сялян, якія вярнуліся з лясоў, сялянскія грамады на парукі браць не жадалі. У выпадку якога-небудзь парушэння парадку з боку гэтых сялян, грамада, якая паручылася за іх, несла пакаранне ў выглядзе грашовага штрафу. Характэрна ў гэтых адносінах прашэнне да прыстава 2-га стана Ваўкавыскага павета ад сялян з мястэчка Поразава Сямёна Шалкевіча, Мацвея Бойка, Паўла Раманоўскага, Антона Казюка, Казіміра Перашчакі, Франца Дмухоўскага. У заяве паведамлялася, што сяляне ўсей Поразаўскай грамады на агульным сходзе прачыталі распараджэнне адносна штрафу да тых, хто возьме паручыцельства за паўстанцаў, хто дабравольна вярнуўся з лесу, калі ён у чым-небудзь правініцца перад законам. Зыходзячы з гэтага, спачатку члены грамады поўным складам не пагадзіліся прыняць на паручыцельства селяніна Восіпа Восіпавіча Дмухоўскага, які дабравольна з'явіўся з мястэчка Поразава. Аднак пасля размовы паміж сабою сяляне сталі пакорна прасіць прыстава аб дазволе 6-ці чалавекам узяць Восіпа Дмухоўскага на паручыцельства. На выпадак калі ён, Божа захавай, здзейсніць зноў які-небудзь незаконны ўчынак, яны на выкананне пэўнага 300 рублёвага штрафу былі згодны закласці ўсю сваю рухомую і нерухомую маёмасць, якая складаецца з будынкаў, што знаходзяцца ў мястэчку Поразава, і жывёлу [134, с. 112].

Дадзенае прашэнне засталося без задавальнення, таму што ў спісе высланых у аддаленыя губерні Расіі удзельнікаў паўстання з Ваўкавыскага павета ёсць і Восіп Дмухоўскі з Поразава [135, с. 2].

Адным з відаў пакарання, прычым калектыўнага, з'явілася накладанне грашовай кантрыбуцыі, што прадпісвалася ў інструкцыі аб увядзенні ваеннага палажэння. У інструкцыі падкрэслівалася, што паўстанне ў тутэйшым краі галоўным чынам падтрымліваецца памешчыкамі польскага паходжання, значыць будзе лічыцца справядлівым засцерагчы казну і сялянскія гра-

мады ад страт з нагоды «рабаўніцтва і бясчынства мяцежнікаў» пакрыццём раскрадзеных імі капіталаў з вінаватага ў паўстанні саслоўя памешчыкаў-палякаў. У выпадку, калі хто-небудзь з памешчыкаў не ўнясе да прызначанага тэрміну вызначанай па раскладцы сумы, ён павінен будзе прадаць маёмасць на суму пакладзенага узносу [24, с. 22адв.].

Кантрыбуцыя накладвалася на ўсе заходнія губерні, у тым ліку і на Украіну. Агульная штогадовая сума кантрыбуцый павінна была скласці каля 3 мільёнаў рублёў, а сам зборварта было працягнуць да 1870 года. Збор па Гродзенскай губерні на 1863 год планавалася сабраць у суме 246400 рублёў. Больш за ўсё трэба было сабраць з Валынскай губерні – 419 тысяч рублёў [49, с. 136].

У жніўні 1863 года па загадзе Мураўёва на месцах склаліся спісы ўладальнікам маёнткаў, з якіх неабходна было сабраць грашовы збор (кантрыбуцыю) з гадавога даходу. Спіс разбіваўся на 4 групы ў залежнасці ад ступені ўдзелу ці ступені падазрэння памешчыка ва ўдзеле паўстанцкага руху.

Менш за ўсё збор у 1,5% ад гадавога даходу спаганяўся з уладальнікаў маёнткаў, якія знаходзіліся пад апекай, якіх у Ваўкавыскім павеце аказалася 21. З іх больш за ўсё было ўзята грошай з маёнтка Вярэйкі наследніцы Светчынавай – 87 рублёў 22 капейкі, і з маёнтка Івашкевічы наследнікаў Валяр'яна Астрамецкага – 110 рублёў 50 капеек.

Другі спіс складаўся з 9 маёнткаў, з якіх быў спагнаны 5% збор. Больш за ўсё патрабавалася заплаціць з маёнтка Андрэевічы Якава Тулаўскага – 170 рублёў 55 капеек.

Трэці спіс быў самым вялікім – са 199 маёнткаў, з якіх патрабавалася сабраць 10% збор. Тут прывядзём толькі тыя маёнткі, якім было налічана больш за адну тысячу рублёў: Крэмяніца Тадэвуша Сегеня – 2532 рублёў, Магілёўцы Аляксандра Быхаўца – 2162 рублёў, Вердамічы Івана Талочка – 1528 рублёў, Сямёнаўка Златніцкага – 1024 рублёў, Гарнастаевічы і Богудзенькі Леанціны Андржэйковіч – 1316 рублёў, Нядзвецк Вайтоўскага – 2170 рублёў, Палонка Слізня – 1178 рублёў, Рось графа Патоцкага – 2507 рублёў, Самойлавічы графіні Красіцкай – 1260 рублёў, Міжава Цеханавецкай – 2112 рублёў, Пацавічы Стырпейкі – 1711 рублёў.

Чацвёрты спіс складаўся з 18 маёнткаў, з якіх быў спагнаны 20 і 25% збор. Больш за ўсё была сабрана грошай з маёнтка Пянюга Антона Радзевіча – 1341 рублёў і маёнтка Адамкава з Юзэфполем Адама Быхаўца – 3826 рублёў [54, с. 6-12].




Мал. 24. Знішчаная сяліба паўстанца. Гравюра з французскага тыднёвіка „Le Monde illustre"

Кантрыбуцыя накладвалася не толькі на маёнткі, але і на цэлыя паселішчы. Пра гэта паведамлялася ў загадзе камандуючага войскамі ў Гродзенскай губерні генерал-маёра Ганецкага ваўкавыскаму ваеннаму начальніку Казанлі ад 6 жніўня 1863 года. З атрыманых атрадам войскаў пад начальствам палкоўніка Сямёнаўскага палка Эліса звестках, атрады паўстанцаў мелі пастаянны прытулак у ваколіцы Вераб'і Ваўкавыскага павета. З другой ж ваколіцы Кетурыкі шляхціц Батаровіч дастаўляў паўстанцам правізію. З прычыны гэтага Ганецкі прапаноўваў Казанлі неадкладна правесці суровае дазнанне. З ваколіцы Вераб'і спагнаць кантрыбуцыю ад 5 да 10 рублёў з двара, арыштаваць тых з шляхціцаў, хто дапамагаў паўстанцам, увайшоўшы да яго з прадстаўленнем аб перасяленні іх ва ўнутраныя губерні Расіі [54, с. 102].

11 верасня Ганецкім зноў аддаецца падобнае распараджэнне Казанлі. На гэты раз яму было загадана са шляхецкіх ваколіц Карэвічы з 6 двароў, Вераб'і з 5 двароў і мястэчка Новы Двор, якія садзейнічалі больш за іншых паўстанцам дастаўкай харчоў і розных звестак, спагнаць кантрыбуцыю па 10 рублёў срэбрам з двара. Пры гэтым было напамінанне, што калі ў гэтых ваколіцах ёсць нядобранадзейныя асобы, то варта было ісці да Ганецкага з прапановай аб высяленні іх у Расію [54, с. 62].

Аднак сума кантрыбуцыі з ваколіцы Вераб'і была павялічана, і 21 верасня 1863 года з 15 дваран аднадворцаў было сабрана па 25 рублёў, усяго – 350 рублёў. Тады ж сабралі кантрыбуцыю і з ваколіцы Кетурыкі, дзе з 10 чалавек шляхты было сабрана па 25 рублёў. З ваколіцы Карэвічы з 19 чалавек таксама сабралі па 25 рублёў. З ваколіцы Стокі з 15 чалавек было сабрана 69 рублёў. З ваколіц Яскульды і Ражкі з 15 чалавек было сабрана 85 рублёў. З сялян вёскі Гута з 7 двароў сабралі 15 рублёў [51, с. 153-166].

Трэба заўважыць, што жыхарам названых ваколіц яшчэ пашанцавала. У сваім загадзе наконт шляхты і аднадворцаў, якія найбольш вылучыліся «крамольным духам» у ліпені 1863 года Мураўёў патрабаваў ад гродзенскага губернатара: «Некалькі паселішчаў і асабліва шляхецкіх ваколіц, жыхары якіх будуць вінаватыя ў садзейнічанні мяцежнікам і ўкрывальніцтве іх, знішчыць ... саміх жа жыхароў узяць пад варту для перасялення іх з сем'ямі ў глыб Расіі». Гродзенскі гісторык Аляксандр Радзюк паведамляе пра 7 ваколіц у Гродзенскай губерні, якія падвергліся знішчэнню. У храналагічным парадку знішчэнне шляхецкіх ваколіцаў адбывалася ў наступнай паслядоўнасці: 12-13 ліпеня 1863 г. – Шчука (Гродзенскі павет), 6 жніўня – Яварoўка (Беластоцкі павет), 8 верасня – Пеняшкі (Пружанскі павет), 23 верасня – Лукавіцы і ў сакавіку 1864 г. – Прушанкі-Баранкі (абедзве – Бельскі павет) [136, с. 154-155].

Знішчэнне ваколіц звязана з імем новага гродзенскага губернатара Скварцова, які змяніў незгаворлівага Бобрынскага. У сваю чаргу Скварцоў спускаў указанні на месцы павятовым ваенным начальнікам. Трэба аддаць належнае, што ваўкавыскі ваенны начальнік Казанлі не пагадзіўся пайсці на двухразовую прапанову Скварцова аб прыняцці да ваколіцы Карэвічы больш суворых мер, чым кантрыбуцыя, што мелася на ўвазе спаленне вёскі [54, с. 84].

26 верасня 1863 года быў складзены спіс сялян мястэчка Поразава, якія за дапамогу паўстанцам заплацілі кантрыбуцыю. Грашовая сума кантрыбуцыі налічвалася ў суме 10 ці 15 рублёў з двара. Усяго ў спісе 111 сялян, а выплачаная імі сума склала 1430 рублёў. Са 101 селяніна мястэчка Новы Двор была сабрана кантрыбуцыя ў суме 1265 рублёў [51, с. 153,157].

Аднак аднаразовай кантрыбуцыі (а для некаторых ужо двухразовай) аказалася недастаткова. Каб «абразуміць» некаторых памешчыкаў 13 верасня 1863 года паступіў чарговы загад аб новай кантрыбуцыі, тым разам ад гродзенскага губернатара. Губернатар пісаў, што з данясенняў Казанлі відаць, што ў некаторых мясцовасцях Ваўкавыскага павета паўстанне падтрымліваецца дапамогай памешчыкаў і іншых асоб. Для «абразумлен-

ня падобных асоб і хутчэйшага заспакаення» Ваўкавыскага павета губернатар палічыў карысным сабраць з іх яшчэ 10% звыш спагнаных перш грошай. З прычыны гэтага губернатар загадаў Казанлі прадставіць яму неадкладна спісы памешчыкаў з тых мясцовасцяў, дзе ў апошні час адбываліся беспарадкі [54, с. 80].

20 лістапада 1863 года быў складзены новы спіс уладальнікаў маёнткаў Ваўкавыскага павета, якія падлягалі выплаце чарговага грашовага збору. Выплата на гэты раз складала ад 10 капеек (маёнтак Міткевічы Белакоза) да 110 рублёў 60 капеек (маёнтак Крэмяніца Сегеня). Усяго было налічана 2440 рублёў [88, с. 26].

У 1864 годзе збор кантрыбуцый працягнуўся. У ліпені быў аб’яўлены 5%-ы збор з нерухомай маёмасці памешчыкаў па ўсім павеце. Усяго кантрыбуцыяй было абкладзена 247 маёнткаў на агульную суму 26639 рублёў 46 капеек [137, с. 4-9].

Цікавы той факт, што ваўкавыскі ваенны начальнік сваёй уладай загадаў павятоваму спраўніку скласці спіс памешчыкаў, якіх бы за палітычную нядобранадзейнасць варта было б падвергнуць узмоцненаму збору. На што павятовы спраўнік данёс: «Такіх, на маю думку, не маецца» [137, с. 29].

Як бачым, накладваць кантрыбуцыю мелі права не толькі камандуючы войскамі па губерні і губернатар, але і павятовыя вайсковыя начальнікі. Памер і перыядычнасць кантрыбуцый залежала ад іх свавольства.

Кантрыбуцыя была накладзена і на жыхароў Ваўкавыска, прычым толькі на каталікоў. 27 жніўня 1864 года быў складзены спіс 687 домаўладальнікаў-католікаў з адзнакай аб кошце іх нерухомасці і з якіх быў узяты 1% збор. Сума збору склала 442 рубля 5 капеек срэбрам [138, с. 23].

Многія памешчыцкія маёнткі падлягалі паліцэйскаму нагляду. У красавіку 1865 года ў Ваўкавыскім павеце пад паліцэйскім наглядам знаходзілася 38 маёнткаў [139, с. 103].

Між тым, на памешчыцкія маёнткі накладваліся ўсё новыя кантрыбуцыі. Так, 26 лютага 1865 года гродзенскі губернатар даў указанне ваўкавыскаму ваеннаму начальніку аб накладанні 20% кантрыбуцыі на маёнтак Яцвеск. Указанне аб кантрыбуцыі з’явілася ад новага віленскага генерал-губернатара Патапава, які змяніў Мураўёва. Маёнтак Яцвеск Ваўкавыскага павета належаў высланаму на жыхарства ў Табольскую губерню калежскаму асэсару Ігнату Ляскоўскаму. Збор з маёнтка Яцвеск склаў 1875 рублёў срэбрам [140, с. 7-8]. У лістападзе 1865 года Патапаў распарадзіўся зноў спагнаць 10% кантрыбуцыю

з памешчыцкіх маёнткаў. На гэты раз не з усіх запар, а з тых, хто больш за ўсіх удзельнічаў у дапамозе паўстанцам. Акрамя таго, з маёнткаў дадаткова спаганяюць па 100 рублёў на карысць асоб, якія пацярпелі ад «бунту». Вось спіс гэтых памешчыкаў: Яўген і Артур Ражкоўскія, Андрэй Шульц, Вікенцій Пракаповіч, Франц Другавіла, Траян Гласко, Канстанцін Сарасек, Фартунат Корсак, Антон Гласко, Іосіф Ражкоўскі, Іван Шантыр, Леанард Сівоха, Карл Якутовіч, Казімір Кляпацкі, Канстанцін Аляксандравіч, Марыя Шульц.

Наступны спіс складаюць памешчыкі, з якіх павінны былі сабраць 10% кантрыбуцыю і дадаткова па 150 рублёў: Аляксандр Моль, Антон Корсак, Іосіф Шульц, Адэль Медунецкая, Осіф Длужнеўскі, Франц Беліковіч, Віктар Гедройц, Адам Чашніцкі, Ізабэла Петрашэўская, Актавій Чайкоўскі, Станіслаў і Вячаслаў Вужыцкія, Аўгуст Баршчэўскі, Аліна дэ Ліпэ-Ліпская, Міхаіл Нітаслаўскі [140, с. 20].

Накладанне кантрыбуцый працягвалася і далей. Так, у 1866 годзе па Гродзенскай губерні сума кантрыбуцый склала 139.700 рублёў. Сумы кантрыбуцый былі зніжаны толькі ў 1869 годзе, а канчаткова былі адменены ў 1897 годзе. Вялікая частка сродкаў, сабраных кантрыбуцыяй, расходавалася не на дапамогу пацярпелым ад паўстання, як гэта абяцалася спачатку. Так, 90% ішло на патрэбы адміністрацыйнага апарата, з якіх 50% траціліся на надбаўку заработнай платы чыноўнікам рускага паходжання і на ўтрыманне жандарскай управы [141, с. 86].

Акрамя накладвання на памешчыцкія маёнткі кантрыбуцый, некаторыя з іх і зусім падлягалі секвестру і канфіскацыі. Такі спіс быў складзены ў лютым 1864 года.

Маёнткі, якая падлягалі секвестру:

1. Малалетніх памешчыкаў Махвітцаў маёнтак Міжэрычы, указ гродзенскага губернскага праўлення ад 30 лістапада 1863 года. Варта было вылучыць частку маёнтка Уладзіславу Махвітцу.

2. Дваранiна Уладзіслава Антонавіча Калупайлы зямельны ўчастак у ваколіцы Рудзевічы. Указ ад 30 снежня 1863 года. Перададзена казне 14 лютага 1864 года.

3. Памешчыка Эдуарда Твардоўскага маёнтак Галоўчыцы. Указ ад 9 жніўня 1863 года. Перададзена казне 22 жніўня 1863 года.

4. Памешчыка Мацвея Антонава Шчансноўскага маёнтак Габяты. Указ ад 28 жніўня 1863 года. Перададзена казне 26 кастрычніка 1863 года.

5. Сыноў памешчыка Фелікса і Вільгельма Уладзіслававічаў Болтуць частка маёнтка Заблоць, якая ім належыць. Указ ад 10 лютага 1864 года.

6. Памешчыцы Іаанны Владычанскай і дочкі яе Вікторыі маёнтак Сядзельнікі. Указ ад 15 лютага 1864 года.

Маёнткі, якія падлягалі канфіскацыі:

1. Памешчыка Рычарда Андржэйковіча маёнтак Жэрдна. Указ ад 11 снежня 1863 года.

2. Памешчыкаў Эдуарда і Ксаверыя Сасулічаў маёнтак Харашэвічы. Указ ад 17 лютага 1864 года.

3. Памешчыка Аўгуста Цяльшэўскага маёнтак Грыцкаўшчына. Указ 16 верасня 1863 года.

4. Сына памешчыка Восіпа Кашубы частка маёнтка Рэпелька, якая яму належыць. Указ ад 31 снежня 1863 года.

5. Сына памешчыка Антона Стырпейкі на частку маёнтка Пацавічы, якая яму належыць. Указ 17 лютага 1864 года [142, с. 40-41].

Аб адным памешчыку з дадзенага спіса, а менавіта пра Эдуарда Твардоўскага, расказвала ў сваіх успамінах Наталля Кіцка, уладальніца маёнтка Галоўчыцы ў Ваўкавыскім павеце, які яна прадала ў 1862 годзе свайму сваяку Эдуарду Твардоўскаму. Хоць Кіцка і не паведамляе падрабязнасцяў аб яго ўдзеле ў паўстанні, тым не менш, выпадак цікавы сам па сабе.

Мясцовыя праваслаўныя сяляне раней былі ўніятамі Зэльвенскай парафіі. Іх пастар Тарасевіч адным з першых прыняў праваслаўе і дазволіў сабе розныя злоўжыванні пры поўным даверы і падтрымцы расійскіх уладаў. Так, напрыклад, святар загадваў сваёй пастве бясплатна апрацоўваць царкоўную зямлю. Тыя, хто адмаўляўся, павінны былі як пакаранне ў царкве адбіваць паклоны, пры гэтым біць ілбом аб зямлю да страты прытомнасці. Твардоўскі, заступаючыся за сваіх сялян, падаў у суд на папа скаргу. Тарасевіч, жадаючы адпомсціць, са свайго боку падаў скаргу архімандрыту Сямашку на Твардоўскага, быццам бы ён прыгнятае праваслаўную веру. Скарга ад Сямашкі была перанакіравана Мураўёву. Дарэмна Твардоўскі даказваў сваю нявіннасць, дарма сведкі раскрывалі хлусню папа Тарасевіча: следчая камісія ў Вільні асудзіла Твардоўскага як бунтара на высылку ў Сібір.

Шлях у Сібір пралягаў па чыгунцы праз Пецярбург, дзе Твардоўскі меў час і магчымасць звязацца са сваім сябрам князем А.А. Суворавым, унукам легендарнага генералісімуса, з якім калісьці пазнаёміўся ў Парыжы. Князь Сувораў знаходзіўся на пасадзе генерал-губернатара Пецярбурга, быў блізкі да двара імператара і, абураны несправядлівасцю Мураўёва, паабяцаў Твардоўскаму перадаць ад яго прашэнне самому цару. Сувораў

абяцанне выканаў, аднак прашэнне цар перанакіраваў Мураўёву. Чакаць адказу Твардоўскаму давялося нядоўга: следчая камісія даслала новы прысуд, падпісаны Мураўёвым. У прыгаворы Мураўёў паведамляў, што ён перагледзеў следчую справу бунтара. Той не толькі не ацаніў ласкі Мураўёва, калі за вялікае злачынства быў пакараны лёгка, будучы адасланым на жыхарства ў глыб Расіі, але стаў аспрэчваць яго рашэнне перад самім царом. Таму Мураўёў перагледзеў пакаранне, пазбавіўшы Твардоўскага ўсіх правоў, загадаў пажыццёва пражываць у Табольску, а таксама канфіскаваць яго маёнтак Галоўчыцы, што застаўся жонцы і дзецям [143].

Варта дадаць, што Эдуард Твардоўскі памёр у ссылцы ў 1866 годзе. Пры гэтым урад прызначыў маці Твардоўскага Тэафілі пажыццёвую пенсію ў памеры 375 рублёў у год. У 1868 годзе маёнтак Галоўчыцы выкупіў рускі князь Андрэй Абаленскі. У 1928 годзе маёнтак перайшоў у дзяржаўную ўласнасць, на гэты раз дзяржавы Польшчы.

Вопіс названых маёнткаў адбываўся значна раней іх канфіскацыі з той толькі мэтай, каб уладальнікі азначаных маёнткаў не мелі часу перахаваць сваё дабро. Так, напрыклад, 2 жніўня 1863 года быў праведзены вопіс маёнтка з ацэнкай маёмасці, што належыў двараніну Уладзіславу Антонавічу Калупайлу, які пражываў у ваколіцы Рудзевічы. Спіс уражвае сваёй сціпласцю. Пра такіх людзей кажуць, што бедныя, як царкоўная мыш:

падушка пёравая ў паласатай набойкавай навалачцы – 1, цана 30 капеек;
коўдра старая на ваце – 1, цана 30 кап.;
сяннік стары драхлы, стракаты – 1, цана 10 кап.;
кашуляў палатняных старых – 2, цана 20 кап.;
камізэлька пікавая старая – 1, цана 10 кап.;
штаны летняга корта паласатыя, зусім старыя – 1, цана 10 кап.;
штаны зімовага корта, таксама старыя – 1, цана 15 кап.;
паліто сялянскага шэрага сукна, старое – 1, цана 40 кап.;
стары суконны віцэ мундзір – 1, цана 75 кап.;
чорная шаўковая хустка – 1, цана 3 кап.;
насавая паркалёвая старая хустачка – 1, цана 2 кап.;
суконныя рукавіцы на футры – 1, цана 15 кап.;
стары палатняны ручнік – 1, цана 3 кап.;
чорных лайкавых пальчатак – 3 пары, цана 10 кап.;
летні кісейны гальштук – 1, цана 2 кап.;
шлеек старых – 2 пары, цана 3 кап.;

нагруднік блакітнага колеру – 1, цана 2 кап.;
шчотак для адзення – 2, цана 10 кап.;
шчотак для ботаў – 1, цана 2 кап.;
куфар каваны – 1, цана 50 кап.;
дарожная маленькая чарніліца –1, цана 1 кап.;
бляшаная попельніца – 1, цана 1 кап.;
пацеркавы капшук – 1, цана 15 кап.;
пэндзлік для галення – 1, цана 5 кап.;
брытва з футаралам – 3, цана 30 кап.;
маленькая папяровая скрыня з рознымі гузікамі – 1, цана 5 кап.;
польскіх кніг – 6, цана 20 кап.;
малюнак Касцюшкі ў рамцы за шклом – 1, цана 5 кап.;
папяровыя абразы – 2, цана 5 кап.;
маленькае люстэрка – 1, цана 5 кап.;
у маленькім палатняным мяшочку розныя абрэзкі – 1, цана 1 кап.;
старых зношаных скураных галёшаў – 2 пары, 10 кап.;.
штатная з кукардай шапка – 1, цана 5 кап.

Вопіс складаў і пры ацэнцы прысутнічаў паліцэйскі наглядчык (подпіс нечытальны) [134, с. 183].

Акрамя таго, канфіскоўвалася маёмасць паўстанцаў, якія не былі злоўлены. Іх маёмасць апісвалася і далей праз аўкцыён. У верасні 1863 года так паступілі з маёмасцю двараніна Якава Якімовіча з 5-га стана Ваўкавыскага павета. У вопісе маёмасці прадстаўлена 40 найменняў рэчаў, з якіх самае каштоўнае гэта дзве жарабіцы, ацэненыя ў 18 рублёў, і купленыя з аўкцыёну за 24 рублі. Вось некаторыя з канфіскаваных рэчаў: куфар каваны, дзве падушкі, 12 карцін, 2 медныя кубкі, 2 коўдры, торба, 2 прасціны, малебная кніжка, клубок суконных нітак, тры пары старых ботаў, 2 пары старых штаноў, шапка летняя, цукарніца драўляная, 5 старых кашуль, медны рондаль, 2 шыйныя хусткі, падсвечнік, 5 талерак, чайнік, суконны сурдут, суконная камізэлька, суконныя штаны. Падобная дробязь была ацэнена па ½, 1, 2, 3 і 5 капеек за штуку [80, с. 88].

Канфіскаваная 14 верасня 1863 года маёмасць адміністратара Крэмяніцкага касцёла ксяндза Язэпа Манчэўскага, якая складалася з 89 пазіцый, была куды больш каштоўнай, чым маёмасць двараніна Якімовіча і ацэнена ў 702 рублі 60 капеек. Нават маёмасць арганіста Якава Паплаўскага таго ж касцёла з 25 пазіцый было ацэнена ў 117 рублёў 55 капеек [80, с. 146-151].

Акрамя канфіскацыі маёнткаў, імператарскім указам ад 10 снежня 1865 года прадугледжваўся і прымусовы іх продаж у двухгадовы тэрмін памешчыкам рускага паходжання. Да прымусовага продажу ў Ваўкавыскім павеце было прысуджана 9 маёнткаў. Пра гэта павятовы міравы пасрэднік ад 9 студзеня 1867 года сваім загадам апавяшчаў павятовага спраўніка. Прадпісанне грунтавалася на распараджэнні генерал-губернатара Патапава і гродзенскага губернскага праўлення па сялянскіх справах. Варта было неадкладна прыступіць да складання гаспадарчых апісанняў наступных маёнткаў:

Маёнтак Конна Уладзіслава Тарасовіча

Маёнтак Юзэфполь Адама Быхаўца

Маёнтак Зэльзін Адама Быхаўца

Маёнтак Лесаўшчына Юльяна Малькевіча

Маёнтак Манцякі Яна Ельскага

Маёнтак Пацавічы Антона Стырпейкі (астатняя частка пасля канфіскацыі)

Маёнтак Вярэйкі з фальваркам Аляксандра Біспінга

Маёнтак Яцвеск Ігната Ляскоўскага

Маёнтак Юргава Ігната Вярцінскага [144, с. 5-6].

Прымусоваму продажу падлягаў яшчэ адзін маёнтак Аляксандра Быхаўца – Адамкава. Аднак аказалася, што ён знаходзіўся ў пажыццёвым валоданні яго жонкі Ізабэлы і па законе мог падвергнуцца абавязковаму продажу толькі пасля яе смерці [144, с. 74].

12 сакавіка 1864 года ваўкавыскай ваенна-следчай камісіяй у асобе яе прадстаўніка маёра Гарбачэўскага быў прадстаўлены ваеннаму начальніку спіс памешчыкаў і ўпраўляючых маёнткамі Ваўкавыскага павета, якія з 19 ліпеня 1863 года па 12 сакавіка 1864 года арыштоўваліся за палітычныя злачынствы:

Памешчыкі:

1. Лявон Вярцінскі, сын памешчыка
2. Яфім Булгарын
3. Ксаверый Сасуліч
4. Мечыслаў Вейс
5. Генрык Радзевіч
6. Рудольф Брайчэўскі
7. Мікалай Брайчэўскі
8. Эдуард Твардоўскі

9. Адам Быхавец
10. Рычард Андржэйковіч
11. Яго зяць Андржэйковіч
12. Уладзіслаў Махвітц, сын памешчыка
13. Люцыян Пачобут, сын памешчыка
14. Фадзей Плянскоўскі, сын памешчыка
15. Людвік Шадурскі, сын памешчыка
16. Стравінскі, сын памешчыка
17. Іаанна Владычанская
18. Яе дачка Вікторыя
19. Ігнат Ляскоўскі
20. Рыгор Грахоўскі
21. Фадзей Андржэйковіч
22. Антон Гліндзіч
23. Канстанцін Віславух
24. Станіслаў Радавіцкі
25. Мікалай Клімашэўскі
26. Лізавета Пухальская
27. Вештарт, памешчыца
28. Юльян Малькевіч
29. Пелагея Шабаньская

Упраўляючыя маёнткамі:

1. Фелікс Астроўскі, дваранін
2. Якаў Талачманскі, селянін
3. Міхаіл Косаўскі, дваранін
4. Вікенцій Нятупскі, дваранін
5. Вікенцій Сакалоўскі, дваранін [142, с. 23-24].

Саслоўем, якое прыняло самы актыўны ўдзел у паўстанні, былі каталіцкія святары. 8 сакавіка 1864 года ваўкавыскім рымска-каталіцкім дэканам Язэпам Абелевічам па даручэнні ваўкавыскага ваеннага начальніка быў складзены спіс з 9 арыштаваных у 1863 годзе ксяндзоў Ваўкавыскага павета:

1. Баніфацый Пісанка, адміністратар Поразаўскага касцёла, арыштаваны 27 мая, з дваран, ураджэнец Ковенскай губерні.

2. Іосіф Дзіякевіч, вікарый Ваўкавыскага касцёла, арыштаваны 21 ліпеня, з дваран Ковенскай губерні.

3. Уладзіслаў Байкоўскі, вікарый Поразаўскага касцёла, арыштаваны 21 ліпеня, з дваран Гродзенскай губерні.

4. Іосіф Манчэўскі, адміністратар Крэмяніцкага касцёла, арыштаваны 4 жніўня, з дваран Гродзенскай губерні.

5. Гіляр Ракоўскі, адміністратар Роскага касцёла, арыштаваны 17 жніўня, з дваран Ковенскай губерні.

6. Вікенцій Валовіч, адміністратар Пескаўскага касцёла, арыштаваны 6 верасня, з дваран Ковенскай губерні.

7. Казімір Казлоўскі, віцэ-адміністратар Крэмяніцкага касцёла, манах Дамініканскага ордэна з Трокскага манастыра, пра яго паходжанне звестак няма.

8. Гіляр Быцулевіч, каплан Нарэўскага філіяльнага касцёла, арыштаваны 5 снежня, з дваран Гродзенскай губерні.

9. Рамуальд Цыялковіч, былы настаяцель Зэльвенскага касцёла, арыштаваны 9 студзеня 1864 года, з дваран Гродзенскай губерні [142, с. 14-15].

Колькі ж усяго чалавек у Ваўкавыскім павеце было падвергнута рэпрэсіям за ўдзел у паўстанні? Гэта можна ўбачыць з двух спісаў. Першы з іх быў складзены 25 мая 1867 года і ўключаў высланых за «палітычныя злачынствы» ў аддаленыя губерні Расіі. Другі спіс быў складзены 20 ліпеня 1867 года і ўключаў у сябе асоб, якія знаходзяліся пад наглядам паліцыі і на паруцы (спісы глядзець у дадатку).

У Ваўкавыскім павеце на пасяленне ў Сібір і іншыя аддаленыя месцы Расійскай імперыі было выслана 196 чалавек. З іх: памешчыкаў – 23, дваран – 40, аднадворцаў – 10, ксяндзоў – 5, адстаўных салдат – 1, мяшчан – 3, яўрэяў – 2, сялян – 112 (па прозвішчах спіс глядзець у дадатку) [135, с. 1,17-22].

Неадпаведнасць колькасці арыштаваных і высланых ксяндзоў можна растлумачыць тым, што чатыры ксяндзы былі з-пад арышту вызвалены або панеслі іншае пакаранне.

Як бачым, больш за ўсіх па колькасным складзе ў Ваўкавыскім павеце за ўдзел у паўстанні пацярпелі сяляне. Аднак з гэтага не варта рабіць выснову, што іх больш за ўсё ўдзельнічала і ў партызанскіх атрадах, таму што многія з партызан загінулі, эмігравалі ці былі амніставаныя. А таму ступень удзелу розных саслоўяў у паўстанні застаецца адкрытым.

Аднак спіс са 196 чалавек атрымаўся няпоўным. Так, у 1876 годзе міравымі пасрэднікамі былі прадстаўлены спісы сялян і аднадворцаў Ваўкавыскага павета, якія усё яшчэ знаходзіліся ў ссылцы. Спіс змяшчае 38 прозвішчаў, 16 з якіх адсутнічаюць у вышэйпрыведзеным спісе: Восіп

Ісідараў Сакалоўскі і Людвіг Ісідараў Сакалоўскі, Іосіф Людвікаў Бурда – усе трое з маёнтка Адамкава, Пётр Пятроў Каўшук – з Крэмяніцы, Фелікс Антонаў Емяльянчык – са Свіслацкай грамады, Ігнат Антонаў Лісоўскі – з вёскі Кабылякі, Франц Міхайлаў Жыткевіч – з мястэчка Лыскава, Карп Мартынаў Доўгарт – з вёскі Жорнаўка, Мацвей Мацвееў Гудзель – з Біскупскай грамады, Восіп Сцяпанаў Скаскевіч – эканом з маёнтка Скраблы, Фёдар Нікалаеў Кулікоўскі, Станіслаў Мацвееў Ружэўскі – з мястэчка Новы Двор, Дамінік Віктараў Янкоўскі – ляснік у памешчыка Быхаўца, Томаш Кавальскі, Антон Яцулевіч, Якаў Тадэвуш Лянцэвіч – без указання месца пражывання [62, с. 166].

Акрамя таго, услед за некаторымі мужчынамі высылалі і іх жонак з дзецьмі. Так, за уладальнікам маёнтка Пянюга Генрыкам Радзевічам, асуджаным судом да ссылкі за дапамогу паўстанцам, павінна была рушыць за ім і жонка Амелія з роду Куржанецкіх. Амеліі, якая нарадзіла дачку Марыю 2 лютага 1863 года, улады адтэрмінавалі ссылку да лютага 1864 года, г.зн. да дасягнення дзіцяці года. Марыю і двух іншых дзяцей, каб не весці ў ссылку, Амелія аддала на выхаванне сваякам. Генрык і Амелія Радзевчы вярнуліся з ссылкі па амністыі ў 1871 года. Аднак ім было забаронена пасяліцца на землях, якія дасталіся Расіі падчас падзелаў Рэчы Паспалітай, у тым ліку і на Гродзеншчыне, а таму яны вымушаныя былі пасяліцца ў Варшаве, куды забралі і сваіх дзяцей. Пасля смерці бацькі ў 1881 годзе сям'я перабралася ў маёнтак Грушава на Палессі, які дастаўся ім у спадчыну па матчынай лініі. Марыя Радзевіч стала пасля вядомай польскай пісьменніцай. Іх маёнтак Пянюга падлягаў прымусоваму продажу. Выкупіў маёнтак расіянін Уладзімір Давыдаў за 28724 рублёў. У 1928 годзе зямля маёнтка ў колькасці 508 га была размеркавана Польскай дзяржавай 20 сем'ям ваенных асаднікаў, якія праявілі сябе ў вайне з бальшавікамі ў 1920 годзе. У лютым 1940 года ўсе яны паўтарылі шлях выгнання сям'і Радзевічаў, калі бальшавікі дэпартавалі з Заходняй Беларусі ў Сібір усіх ваенных асаднікаў і леснікоў.

Спіс ссыльных няпоўны і па той прычыне, што ў архіўных дакументах былі выяўлены яшчэ двое ссыльных, якія не ўваходзілі ў вышэйпрыведзеныя спісы. Аднаму з іх, адстаўному тытулярнаму саветніку Вікенцію Карловічу Эйсыманту, 27 лістапада 1876 года было дазволена вярнуцца з высылкі на радзіму [86, с. 188]. 13 снежня гэтага ж года на радзіму было дазволена вярнуцца і двараніну Міхаілу Вярцінскаму [145, с. 182]. Магчыма, гэтыя двое

асоб былі прысуджаны да ссылкі пасля складання асноўнага спісу або, што больш верагодна, былі асуджаны не ў Гродзенскай губерні.

Акрамя таго, на 20 ліпеня 1867 года 132 чалавекі за ўдзел у паўстанні знаходзілася пад паліцэйскім наглядам і на паруцы. Дата ў спісе паказвае час узяцця пад паліцэйскі нагляд. У арыгінале спісу паказваюцца і тыя асобы, якія знаходзіліся пад паліцэйскім наглядам па іншых прычынах, не звязаных з паўстаннем (глядзець спіс у дадатку) [135, с. 1-16].

Некаторыя сасланыя пажадалі ўз'яднання са сваёй сям'ёй. Так, напрыклад, 9 снежня 1865 года з канцыляры гродзенскага губернатара ваўкавыскаму ваеннаму начальніку прыйшоў запыт. Высланы ў Табольскую губерню перасяленец з аднадворцаў Ваўкавыскага павета Вікенцій Ігнатавіч Несцяровіч выявіў жаданне аб высылцы да яго жонкі Юзэфы дзяцей Антаніны, Канстанцыі і пляменніцы Альбярціны, якія жылі ў ваколіцы Боўблі.

На падставе дазволу генерал-губернатара ад 16 мая ваеннаму начальніку загадвалася спытаць жонку Несцяровіча – Юзэфу, ці хоча яна з сямействам адправіцца да мужа. Калі яна згодзіцца і не мае груднога дзіцяці і малалетніх дзяцей, то варта было неадкладна выслаць сямейства ў Гродна ў распараджэнне губернскага ваеннага начальніка [140, с. 45].

Што тычыцца асоб, асуджаных за ўдзел у паўстанні да смяротнага пакарання, то з Ваўкавыскага павета пакаралі смерцю дваіх паўстанцаў – Кастуся Каліноўскага і адстаўнога штабс-капітана Станіслава Завістоўскага. Спачатку ваенна-палявы суд прысудзіў Завістоўскага да 20 гадоў катаргі, але за далучэнне да паўстання і кіраўніцтва асобнай часткай атрада паўстанцаў Мураўёў замяніў меру пакарання на расстрэл. Завістоўскі быў растраляны ў Ваўкавыску 10 ліпеня 1863 года ў прысутнасці жыхароў горада. З журнала гарадской прысутнасці гродзенскага губернскага праўлення ад 23 студзеня 1864 года вынікае, што з дазволу губернатара па просьбе дзяцей падвергнутага смяротнаму пакаранню Завістоўскага праўленне пачало перапіску па пытанні накладання на яго маёмасць секвестра.

З просьбы дзяцей Завістоўскага відаць, што малалетнія дваранкі Ганна і Ванда Завістоўскія ў лістападзе месяцы 1863 года звярнуліся да губернатара з прашэннем. У ім паведамлялася, што пасля смерці іх маці Ядвігі Завістоўскай, народжанай Заржкоўскай, засталася розная маёмасцьу руках іхняга бацькі штабс-капітана Станіслава Завістоўскага, асуджанага да смяротнага пакарання за палітычныя правіны. Гэтая маёмасць знаходзілася ў

мястэчку Зэльва Ваўкавыскага павета, якая па прыгаворы суда падлягала секвестру ў казну. Таму малалетнія дваранкі Завістоўскія прасілі губернатара маёмасць іх маці выдаць ім, круглым сіротам, пад распіску іх дзеда Станіслава Заржкоўскага, пад апекай якога яны былі.

Прашэнне дачок Завістоўскага было перанакіравана да ваўкавыскага ваеннага начальніка для дазнання. Прыстаў 1-га стана Ваўкавыскага павета, якому даручана было зрабіць гэта дазнанне, у акце, складзеным 30 лістапада 1863 года, растлумачыў, што выклiканыя суседзі пакаранага смерцю Завістоўскага, сяляне мястэчка Зэльва аднагалосна пацвердзілі, што жонка Завістоўскага, Ядвіга, памерла 2 гады назад. Апісаныя рэчы, знойдзеныя ў кватэры Завістоўскага, былі ў агульным ўжыванні мужа і жонкі. Але ці былі гэтыя рэчы ўласнасцю маці сірот або пакаранага бацькі, штабс-капітана Завістоўскага, – невядома [146, с. 723-727].

Адным з апошніх пакараных за ўдзел у паўстанні быў Кастусь Каліноўскі, арыштаваны па даносе здрадніка ноччу 29 студзеня 1864 года. Памочнік генерал-губернатара Мураўёва Аляксандр Масолаў успамінаў, што шыфраваная тэлеграма з паведамленнем пра Каліноўскага была атрымана ў Вільні ў 9 гадзін вечара. У ёй былі апісаны прыкметы Каліноўскага і сказана, што ён пражывае з фальшывым пашпартам гродзенскага дваряніна Вітольда Вітажэнца ў Свята-Янскім квартале з каменнымі дамамі, якія раней належалі касцёлу святога Яна. Адным бокам квартал выходзіў да палаца генерал-губернатара. У шырокіх будынках квартала, якія належалі некалі езуіцкай калегіі, а пасля ўніверсітэту, знаходзіліся: гімназія, музей старажытнасцяў, цэнтральны архіў, абсерваторыя, мноства кватэр для служачых і прыватныя кватэры. Змест тэлеграмы быў захаваны ў глыбокай тайне. Паліцмайстару Вільні асабіста было даручана даведацца па дамавых кнігах дакладны адрас Вітажэнца. Аднак у спешцы адрас выяўлены не быў, хоць ён там і прысутнічаў. Таму прыйшлося акружыць увесь Свята-Янскі квартал і зрабіць вобыскі ва ўсіх дамах, для чаго спатрэбіліся дзве роты салдат, падзеленыя на 10 партый пры афіцэрах паліцыі і асобых чыноўніках. Імя асобы, якое трэба было арыштаваць, было ім абвешчана толькі ноччу перад самым вобыскам.

Каліноўскі другі месяц запар здымаў пакой у кватэры аднаго настаўніка гімназіі, які з’ехаў кудысьці ў адпачынак. Яго засталі на пляцоўцы лесвіцы са свечкай у руцэ, і, калі запыталіся прозвішча, ён самаўпэўнена адказаў: «Вітажэнц» – і ў тую ж хвіліну быў затрыманы. Раніцай, нягледзячы на тайну,

якой усё гэта суправаджалася, яўрэі разнеслі паўсюль вестку пра тое, што ўначы ўзялі галоўнага начальніка з кіраўніцтва паўстанцаў, хоць яшчэ не было выяўлена, што арыштаваны сапраўды Каліноўскі. Аляксандр Масолаў паведамляў аб яўрэях, што яны выдатна ведалі ўздоўж і ўпоперак увесь край і кожнага асобна. Шмат што ведалі і пра паўстанне, але моўчкі на ўсё глядзелі, чакаючы, чыя возьме.

Першы дзень пасля арышту Каліноўскі неахвотна адказваў на пытанні, але да вечара назваў сваё сапраўднае імя. Нягледзячы на ўсе намаганні членаў следчай камісіі, ім не ўдалося дамагчыся ад Каліноўскага падрабязных паказанняў аб асобах, якія ўзначальваюць рэвалюцыйную арганізацыю краю. Аднак адкрыта прызнаўся, што быў галоўным у кіраўніцтве. З іншых паказанняў пра яго стала вядома, што Каліноўскі ўмеў падтрымаць рэвалюцыйны дух, які падаў, сярод мясцовага насельніцтва. Памешчыкі яго баяліся, ён свабодна раз'язджаў паміж імі, натхняў нерашучых і запалохваў слабых. Каліноўскаму было 26 гадоў, моцнага складу і з тварам жорсткім і выразным. Кароткія русыя валасы былі зачасаны назад. Такім Аляксандр Масолаў бачыў яго ў турме за некалькі дзён да пакарання смерцю. Каліноўскаму далі пяро і паперу і дазволілі свабодна выкладаць свае думкі. Ён напісаў выдатнай рускай мовай даволі цікавае разважанне аб адносінах рускай улады да польскага насельніцтва Заходніх губерняў. У ім выказваў думку аб нетрываласці ўрадавых дзеянняў і поўную пагарду да рускіх чыноўнікаў, якія прыбылі ў край. Каліноўскі разумеў, што з яго арыштам паўстанне немінуча згасне, але ўрад не здолее скарыстацца набытымі выгодамі.

Пакаранне смерцю Кастуся Каліноўскага адбылося 9 (22) сакавіка 1864 года і было ці ледзь не апошнім у Вільні. Была ясная халодная раніца. Каліноўскі ішоў на пакаранне смела. Прыйшоўшы на плошчу, ён ўстаў прама тварам да шыбеніцы і толькі зрэдку кідаў погляды ў далёкі натоўп. Калі яму чыталі прысуд, ён пачаў быў рабіць заўвагі, так , напрыклад, калі назвалі яго імя – дваранін Вікенцій Каліноўскі, ён усклікнуў: «У нас няма дваран! Усе роўныя!» Паліцмайстар паківаў яму галавой і прасіў замаўчаць. Далей Аляксандр Масолаў не стаў апісваць падрабязнасцяў гэтага сумнага відовішча [26].

# УЗНАГАРОДЫ

Як і ва ўсякіх бітвах, пры падаўленні паўстання сярод салдат і афіцэраў царскай арміі былі свае героі, якія вызначыліся мужнасцю і адвагай. Указанні аб узнагароджанні такіх воінаў аб'яўляліся ў кожным з падраздзяленняў, якія ўдзельнічалі ў ваенных дзеяннях. За «праяўленне сябе ў баях з польскімі мяцежнікамі» ў Пскоўскім пяхотным палку, які ўдзельнічаў у баях з паўстанцамі на тэрыторыі Гродзенскай губерні і ў прыватнасці Ваўкавыскага павета атрымалі ўзнагароды: ордэн св.Ганны і св. Станіслава розных ступеняў 16 афіцэраў. У наступныя чыны былі ўзведзены 7 афіцэраў. Знакі адрознення ваеннага ордэна атрымалі 42 ніжэйшыя чыны. Параненыя ніжэйшыя чыны атрымалі грашыма ў залежнасці ад атрыманых ран ад 4 да 16 рублёў [147, с. 310].

Камандзір Стараінгерманландскага палка ад 30 верасня 1863 года накіраваў указанне камандзіру 3-га батальёна гэтага палка: «З прычыны рапартаў ад 22 і 24 верасня адпраўляю пры гэтым Вашаму Высокаблагароддзю ўзнагародныя лісты на ніжэйшыя чыны даручанага Вам батальёна, якія вызначыліся ў справах з польскімі мяцежнікамі. Прапаную ўвайсці з прадстаўленнем узнагароды гэтых чыноў прама ад сябе і ваеннага начальніка Ваўкавыскага павета да камандуючага войскамі, размешчаных у Гродзенскай губерні, генерал-лейтэнанту Галіцкаму» [51, с. 105].

У іншым дакуменце, пад назвай «Запрашаюцца да ўзнагароды», даецца спіс з 42 чалавек Стараінгерманландскага палка ніжэйшых чыноў і афіцэраў, якія вызначыліся ў барацьбе з паўстанцамі. Са спісу вынікае, што да падаўлення паўстанцкага руху былі прыцягнуты воіны, закліканыя да службы не пазней 1857 года, г.зн. якія праслужылі не менш за 6 гадоў і з'яўляліся дасведчанымі ў воінскай службе. Сярод прадстаўленых да ўзнагароды асоб ёсць і ўраджэнцы Гродзенскай і іншых беларускіх губерняў, у тым ліку і рымска-каталіцкай веры. Усяго з заходніх губерняў Расійскай імперыі было прадстаўлена да ўзнагароды 19 чалавек, або 45%. Калі ўдумацца ў гэтую лічбу, то атрымаецца цікавая выснова: у паўстанні жыхароў заходніх губерняў супраць Расійскай імперыі праявілі геройства палову іх праціўнікаў з тых жа «заходнікаў», якія воляю лёсу трапілі служыць у рускую армію. Практычна паўтарылася тая ж сітуацыя, што і ў вайне 1812 года, калі брат ваяваў супраць брата (спіс узнагароджаных глядзець у дадатку) [51, с. 107-113].




Мал.25. Медаль «За ўціхамірванне польскага мецяжу 1863-1864 гадоў»

Аб тым, якое вялікае значэнне надавалася падаўленню паўстання 1863 года ў самой Расійскай імперыі, сведчыць выпуск у гонар гэтай падзеі спецыяльнай узнагароды. 5 снежня 1864 года імператарам Аляксандрам II былі зацверджаны правілы да атрымання выпушчанай медалі «За ўціхамірванне польскага мецяжу 1863-1864 гадоў». Бронзавы медаль быў прызначаны для ваенных і грамадзянскіх чыноў усіх ведамстваў для нашэння на грудзях на стужцы, складзенай з дзяржаўных колераў: чорнага, аранжавага і белага. Медаль усталёўваўся двух відаў: светлы і цёмны. Светла-бронзавы медаль прызначаўся ваенным і грамадзянскім асобам, якія непасрэдна знаходзіліся пры войсках, а таксама адстаўным ніжэйшым чынам, сялянам і асобам усіх саслоўяў, калі яны ўдзельнічалі ў справах з паўстанцамі са зброяй у руках.

Цёмна-бронзавы медаль выдаваўся асобам, якія знаходзіліся на службе як у ваенным, так і ў грамадзянскім ведамствах, якія прымалі карысны ўдзел у адміністрацыйных распараджэннях урада ў Каралеўстве Польскім і заходніх губернях, асобам духоўнага ведамства ўсіх веравызнанняў, якія актыўна садзейнічалі супакойванню паўстання, сельскім абывацелям, што знаходзіліся ў складзе сельскіх каравулаў у заходніх губернях [148, с. 170-171].

# ПАСЛЯ ПАЎСТАННЯ

Пасля паўстання жыццё для абывацеляў заходніх губерняў карэнным чынам змянілася. Асабліва гэта закранула жыхароў каталіцкага веравызнання, якія былі абмежаваны ў палітычных і грамадзянскіх правах. Пачалося сапраўднае ганенне на польскую мову і культуру з адначасовым узвышэннем рускай мовы, рускай культуры і праваслаўнай веры. Дайшло да таго, што на вуліцах карыстацца польскай мовай лічылася злачынствам. Асаблівым ганенням падвергнулася рымска-каталіцкая царква – касцёл.

6 красавіка 1864 года гродзенскім губернатарам Іванам Скварцовым усім павятовым ваенным начальнікам быў разасланы цыркулярны ліст. Грунтуючыся на загадзе генерал-губернатара, у лісце прадпісвалася неадкладна ва ўсіх гарадах і мястэчках знішчыць польскія надпісы, шыльды, аб'явы, а таксама тракцірныя, магазінныя і аптэкарскія рахункі, цэтлікі на бутэлечках з лекамі і іншае на польскай мове – усё трэба было перарабіць на рускую мову. Тэрмін для замены шыльдаў даваўся 2 тыдні, для рахункаў, ярлыкоў і аб'яў – 7 дзён. Па заканчэнні тэрміну трэба было спаганяць з вінаватых за кожны дзень ужывання польскай шыльды 5 рублёў, польскіх рахункаў і ярлыкоў – 2 рублі [81, с. 59].

28 красавіка 1864 года ваўкавыскі павятовы спраўнік Іван Кісялеўскі даносіў ваеннаму начальніку маёру фон Партэну пра тое, што ў цяперашні час польскіх надпісаў, шыльдаў і аб'яваў, а таксама тракцірных, магазінных і аптэкарскіх рахункаў і цэтлікаў у Ваўкавыскім павеце больш не існуе [81, с. 60].

Нягледзячы на рэпрэсіўныя меры стаўленне мясцовага дваранства, мяшчан і часткі сялянства да расійскай улады заставалася адмоўным. Пра гэта сведчыць у сваіх успамінах рускі афіцэр М.Палявы, які ў 1864 годзе здзейсніў паездку па заходніх губернях па шляху ў Вільню: «Адразу за Смаленскам, як толькі я заехаў у Магілёўскую губерню, я трапіў у новы свет. З’явіліся палякі, беларусы, габрэі з іх чужымі для мяне мовай, звычаямі і варожым да ўсяго рускага настроем. Я рускі гвардзейскі афіцэр, свой формай выяўляў сваю нацыянальнасць і адразу адчуў злосны настрой, варожасць ўсіх гэтых людзей. Яны наўмысна гаварылі са мной па-польску, хоць усе выдатна размаўлялі і разумелі рускую мову. Яны абцяжарвалі мяне ва ўсім: у куплі хлеба, баранак, у падліку грошай, лічачы на злотыя, а часта і зусім адмаўлялі ва ўсім, кажучы: «не разумеем!». … Ужо з самай мяжы Смаленскай губерні, было прыкметна

ваеннае становішча краю. У мястэчках бачныя былі войскі, на паштовай дарозе стаялі месцамі заставы і ваенныя варта пры іх. На станцыях правяралася мая падарожная. Але калі я заехаў у Мінскую губерню, ваеннае становішча убачылася ва ўсёй сваёй сіле і строгасці …» [104, с. 48-49].

Для крытыкі няўдалага паўстання ўладамі былі выпушчаны карыкатуры. 22 чэрвеня 1864 года ў лісце гродзенскага губернатара ваўкавыскаму ваеннаму начальніку паведамлялася, што яму высылаецца 100 экзэмпляраў карыкатур са сцэн былога польскага паўстання. Варта было распаўсюдзіць іх па ўсім уездзе з аплатай 5 капеек за экзэмпляр [77, с. 19].

У барацьбе з усім польскім даходзіла да абсурду. Так, у 1867 годзе было забаронена ўжываць для коней польскую збрую, а фурманаў апранаць у польскую вопратку, прычым ад усіх памешчыкаў прыставамі браліся адпаведныя распіскі. Мала таго, зварот да прадстаўніка ўлады на польскай мове лічыўся злачынствам, за што спаганяўся грашовы штраф. Так, 14 кастрычніка 1867 года з канцылярыі гродзенскага губернатара Скварцова прыйшло ўказанне ваўкавыскаму павятоваму спраўніку Рыгору Шаншыну аб накладанні штрафу на памешчыцу Ганну Сарасек. 16 верасня губернатар атрымаў ад спраўніка паказанне Сарасек адносна яе размовы з міравым пасрэднікам Шчэрбаю на польскай мове. У тым, што яна размаўляла папольску, сведчыў і павятовы спраўнік Рыгор Шаншын, які прысутнічаў пры размове. На падставе цыркуляра віленскага генерал-губернатара ад 8 лютага 1866 года гродзенскі губернатар загадаў ваўкавыскаму спраўніку падвергнуць Ганну Сарасек за парушэнне распараджэння начальства грашоваму штрафу ў суме 10 рублёў [149, с. 26].

Злачынствам лічыліся і публічныя спевы польскіх песень. Так, у 1878 годзе праз 15 гадоў пасля паўстання за спевы польскіх песень былі пакараны жыхары Ваўкавыскага павета. 2 студзеня іншы павятовы спраўнік Іван Сафарэвіч пад грыфам «сакрэтна» даносіў губернатару Аляксандру Зураву, што 26 снежня парабкі маёнтка Мяштовічы памешчыка Бронца – Людвіг Акуловіч, Канстанцін Акуловіч, Віктар Голуб і Бартнюк у карчме гэтага маёнтка спявалі абуральныя гімны «ешчэ польска не сгінэла кеды мы жыемы». Сведкамі спеваў былі сяляне вёскі Шэйкі Міжэрычскай воласці. Спраўнік паведаміў пра гэта гродзенскаму губернскаму пракурору і начальніку гродзенскага жандарскага ўпраўлення.

Начальнік жандарскага ўпраўлення не ўгледзеў у спевах песні ніякай крамолы, аб чым 17 студзеня далажыў губернатару. На яго думку, палажэн-

не аб пакараннях за спевы польскай нацыянальнай песні «ешчэ польска не сгінэла» не прадугледжвала палітычнага злачынства. Таму ён не палічыў магчымым узбуджаць пераследаванне супраць парабкаў маёнтка Мяштовічы.

Аднак справа была прадстаўлена на разгляд самога віленскага генерал-губернатара, які ўгледзеў у спевах крамолу, загадаўшы гродзенскаму губернатару пакараць парабкаў. Такім чынам, кожны з сялян быў падвергнуты грашоваму штрафу ў памеры 25 рублёў. Памешчыку Бронцу загадана было зрабіць заўвагу за яго няўважлівасць да палітычнага настрою служачых у яго маёнтку [150, с. 1-6].

Напісанне афіцыйных папер на польскай мове лічылася як бы выклікам царскаму рэжыму і таксама каралася. Так, 1 чэрвеня 1866 года з канцылярыі гродзенскага губернатара Івана Скварцова паступіла ўказанне ваўкавыскаму ваеннаму начальніку маёру фон Партэну. Памешчыца Ваўкавыскага павета Іаана Владычанская звярнулася ў гродзенскую губернскую па сялянскіх справах прысутнасць з прашэннем, падпісаным на польскай мове. Маючы на ўвазе, што Владычанская ранейшыя свае просьбы пісала па-руску, што даказвае веданне ёю рускай мовы, губернатар прапаноўваў за напісанне просьбы па-польску, насуперак забароне начальства, спагнаць з просьбіткі штраф у памеры 25 рублёў. Грошы трэба было ўнесці ў мясцовае павятовае казначэйства для прылічэння да штрафных сумаў. Затым прапанаваць Владычанскай прыйсці з просьбаю, напісанай па-руску [151, с. 91].

Па-ранейшаму не дазвалялася насіць забароненую раней польскую нацыянальную і рэлігійную вопратку. Так, 5 снежня 1866 года з былой манашкі, па прозвішчы Эйсмант, скасаванага Шчучынскага манастыра за нашэнне ў Ваўкавыску адзення, прысвоенага манашкам, быў спагнаны штраф у памеры 5 рублёў [151, с. 150].

Па-ранейшаму дзейнічала і забарона на розныя сходы. Баючыся якіх-небудзь новых загавараў, урад забараніў памешчыкам усякія зносіны паміж сабой без папярэдняга дазволу на тое ўладаў. За заўважаны сход (з'езд) памешчыкаў, нават калі яны прыедуць адзін да аднаго ў госці па тай ці іншай справе, іх падвяргалі вялізнаму штрафу. 7 снежня 1866 года з канцылярыі гродзенскага губернатара было даслана ўказанне ваўкавыскаму ваеннаму начальніку з нагоды мясцовых памешчыкаў, якія парушылі забарону. Памешчыкі: граф Красіцкі, Пшэмыслаў і Станіслаў Сегені, іх маці, Іван і Іосіф Біспінгі, Антон, Міхаіл і Марыя Стырпейкі, Мацвей Гімбут, яго жонка, жонка памешчыка Ельскага, дзяўчына Ганна Аскерка і Казіміра Лабаноўская

аказаліся вінаватымі ў парушэнні правілаў ваеннага становішча, якія забараняюць сходы без дазволу мясцовага начальства. Гаспадар дома граф Красіцкі, у якога быў сход, быў падвергнуты штрафу ў памеры 100 рублёў, а астатнія асобы па 50 рублёў [151, с. 154].

Спагнанне штрафаў зацягнулася. 2 лютага 1867 года ваўкавыскі ваенны начальнік маёр Леапольд Іванавіч Партэн прадпісваў прыставу 5-га стана даставіць яму выканаўчы рапарт на яго прадпісанне ад 10 снежня аб спагнанні з памешчыкаў Сегеняў і іх маці штрафу 150 рублёў срэбрам. Маёр фон Партэн загадваў прыставу не слухаць ніякіх апраўданняў, а дзейнічаць згодна з правіламі ваеннага становішча. Пры гэтым ён папярэдзіў прystава, што калі ён на працягу трох дзён не атрымае грошы, то пра яго неадпаведнасць будзе даложана начальніку губерні [152, с. 54].

Нават для запрашэння на вяселле сваякоў трэба было браць дазвол самога губернатара. 17 лютага 1867 года фон Партэн паведамляў прыставу 4-га стана, што згодна з тэлеграмай гродзенскага губернатара вяселле Ахрымовічу дазволена на 19 гадзін, на якое могуць прыехаць 10 чалавек. Прыставу прадпісвалася скласці спіс асоб, якія былі на вяселлі. Спіс асоб запрошаных быў прыкладзены: святар Штуковіч, святар Скабалановіч, ксёндз Казлоўскі, Максіміліян Прагалінскі, Сіманоўская, Іосіф Ахрымовіч, станавы прыстаў Слонімскага павета Зайцаў, Франц Даўгяла, Каравай і гарадавы лекар Уладзіслаў Адамовіч Елец.

Цікава тое, што частка названых у спісе гасцей зусім не прыбыла на вяселле, мабыць баючыся непрыемнасцяў [152, с. 105].

1 лістапада 1867 года па тэлеграфе на імя ваўкавыскага спраўніка Рыгора Шаншына ад губернатара Івана Скварцова прыйшла тэлеграма, якая прапаноўвала дазволіць памешчыку Паплаўскаму запрасіць на вяселле 15 сваякоў, спіс якіх патрабавалася прадставіць губернатару [149, с. 54].

У 1868 годзе памешчык Булгарын, які жыў побач з мястэчкам Свіслач, ажаніўся з дзяўчынай Дашкевіч. У адпаведнасці з існуючым парадкам падаў прашэнне спраўніку са спісам запрошаных гасцей. Спраўнік паведаміў яму, што дазвол трэба прасіць у самога губернатара. Тады Булгарын папрасіў спраўніка адправіць яго просьбу па тэлеграфе, у чым было адмоўлена. Прыйшлося Булгарыну пераадолець да Гродна некалькі дзесяткаў вёрст. Каб трапіць на прыём да губернатара, прачакаў аўдыенцыі некалькі дзён [49, с. 248].

Дазвол на сустрэчу памешчыкаў не даваўся нават на такія святыя святы, як Вялікдзень. 5 красавіка 1867 года гродзенскі губернатар генерал-маёр

Скварцоў напісаў з гэтай нагоды ваўкавыскаму ваеннаму начальніку. На аснове рапарта ваеннага начальніка ад 31 сакавіка яму загадвалася даць адказ памешчыку Юльяну Талочку, які хадайнічаў аб дазволе з'езду розных асоб у маёнтку Вердамічы падчас святаў Вялікадня. На падставе існуючых правілаў аб забароне з'ездаў памешчыкаў, губернатар не лічыў магчымым задаволіць хадайніцтва Талочкі [153, с. 33].

Без адпаведнага дазволу па-ранейшаму нельга было перамяшчацца з аднаго населенага пункта ў другі. 7 лютага 1867 года ваенны начальнік фон Партэн паведамляў прыставу 3-га стана, што па дадзеных адстаўны калежскі рэгістратар Высоцкі без усялякага дазволу пражывае ў маёнтку Каласы ў памешчыка Антона Буткевіча, свабодна раз'язджаючы па ўсім 3-м стане. Прыставу загадвалася арыштаваць Высоцкага і пры казаку даставіць у Ваўкавыск [152, с. 80].

На ўсялякія паездкі за межы павета ўладамі выдаваўся спецыяльны білет коштам 40 капеек. На білеце апісваліся прыкметы гаспадара білета, мэта паездкі, месца і тэрмін паездкі. Пасля вяртання з паездкі білет павінен быў быць здадзены назад мясцовым уладам. Так, 22 студзеня 1867 года такі білет ваўкавыскім ваенным начальнікам маёрам фон Партэнам быў выдадзены ксяндзу Коркуцю. У білеце паведамлялася, што выдадзены ён пробашчу Крэмяніцкага касцёла Ваўкавыскага дэканата ксяндзу Адольфу Восіпавічу Коркуцю на падставе дазволу гродзенскага губернатара Скварцова ад 9 студзеня. Ксяндзу была дазволена свабодная паездка па справах службы ў горад Вільню і назад тэрмінам на два тыдні. Па заканчэнні тэрміну ксёндз абавязаны быў вярнуць білет назад і своечасова.

У білеце паведамляліся прыкметы Адольфа Коркуця: гадоў 30, рост – умераны, валасы – светла-русыя, вочы – блакітныя, нос і рот – звычайныя, твар – круглы і чысты, падбародак – гладкі. На левай руцэ на мезенцы трохі распухлы шнар [152, с. 67].

29 снежня 1866 года ксёндз Адольф Куркуць без дазволу прыехаў да свайго калегі ксяндза Даўбора ў Пескаўскі касцёл, які знаходзіўся ў тым жа Ваўкавыскім павеце за пару дзесяткаў кіламетраў ад Крэмяніцкага касцёла. Тут па данясенні прыстава прабыў усяго 5 гадзін. За самавольную адлучку ваенны начальнік фон Партэн загадаў прыставу ўзяць у Куркуця тлумачэнні [152, с. 69].

Акрамя таго, быў выдадзены шэраг указаў самога імператара супраць каталікоў і дваранства. Каб падарваць эканамічны і палітычны ўплыў поль-

скай шляхты ў заходніх губернях, царскі ўрад у 1864 годзе ўвёў новыя правілы пацверджання дваранства. Для доказу дваранства неабходна было прадставіць на працягу трох гадоў дакументы, якія пацвярджаюць права валодання зямлёй з сялянамі або прыналежнасць да шляхецкага саслоўя ў часы Рэчы Паспалітай.

Указам ад 19 студзеня 1866 года ўсе шляхцічы, якія не даказалі свайго дваранства, уключаліся ў склад сялян ці мяшчан. Пераважная большасць дробнай шляхты (больш за 200 тысяч чалавек) такіх дакументаў не здолела даць, а гэта аўтаматычна пераводзіла іх у разрад аднадворцаў або грамадзян.

Указам ад 19 лютага 1868 года было ліквідавана само саслоўе аднадворцаў і грамадзян. Аднадворцы былі прылічаны да сялян, а грамадзянам даваўся год тэрміну, каб прылічыць сябе да сялян ці мяшчан.

Былі прадугледжаны меры і па замене польскіх землеўладальнікаў выхадцамі з Расіі. 10 снежня 1865 года Аляксандр II зацвердзіў закон, паводле якога ўсім высланым з заходніх губерняў памешчыкам прапаноўвалася на працягу 2-х гадоў прадаць або абмяняць свае землі. Гэты ж указ забараняў «палякам», гэта значыць каталікам, купляць маёнткі. Існавалі абмежаванні і для сялян каталіцкага веравызнання. Яны не маглі набываць зямлю звыш 60 дзесяцін на сям'ю. Праваслаўным, якія прыбывалі з унутраных расійскіх губерняў, наадварот, прадстаўляліся розныя льготы на куплю маёнткаў. На льготных умовах ім выдаваліся пазыка і права на вінакурэнне, прадавалася канфіскаваная зямля, прадугледжвалася 50%-ная надбаўка да зарплаты.

Так, на працягу з 1864 па 1870 гады колькасць рускіх землеўладальнікаў у Гродзенскай губерні павялічылася з 30 да 233 чалавек. Такім чынам, прырост склаў каля 770% [141, с. 86].

Неўзабаве некаторыя памешчыкі паспрабавалі выкарыстаць іншы ход, пераходзячы з каталіцтва ў праваслаўе. Але міністэрства дзяржаўных маёмасцяў 10 красавіка 1869 года выдала распараджэнне, у адпаведнасці з якім толькі нашчадкі тых, якія перайшлі ў праваслаўе, лічыліся рускімі і мелі права захоўваць свае землі.

Адначасова пачалося выцясненне каталікоў з мясцовых органаў улады пры выбарах сельскіх старастаў, валасных старшынь і пісараў. Спасылаючыся на ўказ гродзенскага губернатара Уладзіміра Бабрынскага ад 22 чэрвеня 1863 года ваўкавыскі павятовы спраўнік Іван Кісялеўскі 2 ліпеня 1863 года разаслаў станавым прыставам наконт валасных пісараў інструкцыю. У ёй паведамлялася, што народныя вучылішчы былі адкрыты ў 1862 год-

зе, аднак міравыя пасрэднікі, валасныя пісары і старшыні ўсімі мерамі імкнуліся навучаць дзяцей праваслаўнага веравызнання польскай мове. Нягледзячы на гэтыя перашкоды, некаторыя вучылішча паспелі прыгатаваць многіх хлопчыкаў настолькі, што яны маюць дастатковыя ўменні заняць пасады сельскіх пісараў. Таму на выбарах сельскіх службовых асоб, якія маюцца адбыцца, приставы павінны былі звярнуць увагу сялян на падобных выхаванцаў. Рэкамендаваць ж да абрання на пасаду валасных пісараў павінны былі сельскія праваслаўныя святары [65, с. 151].

Новыя выбары на сельскія пасады былі прызначаны на другую дэкаду ліпеня 1863 года. Кандыдатамі на іх была прадстаўлены большасць праваслаўных. Так, напрыклад, у Малалапеніцкай сялянскай грамадзе дзеючым сельскім старастам быў каталік Сцяпан Лешка, а кандыдатам стаў праваслаўны Павел Слесар. У Камянецкай грамадзе старастам быў каталік Восіп Дзенгілеўскі, а кандыдатам стаў праваслаўны Антон Жылінскі. У Вялікалапеніцкай грамадзе старастам быў праваслаўны Сцяпан Лявіцкі, кандыдатам стаў праваслаўны Ігнат Здановіч [65, с. 168].

У Гнезненскім валасным праўленні выбары былі прызначаныя на 11 ліпеня. У Гнезненскай сельскай грамадзе дзеючым старастам быў каталік Станіслаў Аўтух, кандыдатам стаў праваслаўны Міхаіл Аўдзейчык. У Галынкаўскай грамадзе старастам быў каталік Пётр Садоўскі, кандыдатам стаў праваслаўны Павел Гасціловіч. У Андрэеўскай грамадзе старастам быў каталік Юрый Сяўко, кандыдатам стаў праваслаўны Мікалай Філонік. У Калантаеўскай грамадзе старастам быў каталік Сямён Войка, кандыдатам стаў праваслаўны Іван Пелікша. У Яцвезскай грамадзе старастам быў каталік Каспер Ажыгар, кандыдатам стаў Іван Кароль [65, с. 174].

Указ ад 27 мая 1864 года забараняў «палякам» займаць тыя пасады, на якіх чыноўнік уступаў у кантакт з насельніцтвам. Таму ў 1865 годзе практычна ўсе чыноўнікі каталікі са службы былі звольнены ці пераведзены ва ўнутраныя расійскія губерні. Звальняліся нават тыя з праваслаўных чыноўнікаў, якія былі жанаты з каталічкамі. Для іх замены сюды накіроўваліся расійцы, якія атрымлівалі для пераезду і ўладкавання розныя льготы. У многіх выпадках прыязджалі дэградаваныя элементы, які ў сябе ў Расіі атрымаць прыстойнай працы не маглі. Тут жа яны апынуліся на вяршыні ўлады, а таму выкарыстоўвалі падарунак лёсу па поўнай праграме: аддаваліся распусце, п'янцы, картачнай гульні. Наогул паводзілі сябе як часовыя. Мала таго, праз такіх элементаў пагоршылася крымінальная абстаноўка. Калі ра-

ней у заходніх губернях такі від злачынства, як рабаванне, у асяроддзі мясцовых абываценяў амаль не прысутнічаў, то цяпер ён даў пра сябе ведаць. Польскі гісторык Фердынанд Чапліцкі прыводзіць некалькі выпадкаў рабавання ў Гродне, куды з Расіі прыехалі сотні чыноўнікаў. Адзін з іх адбыўся ў 1864 годзе, калі на дачок самога губернатара Скварцова ўвечары напалі рабаўнікі і знялі з іх футра. На крык жанчын своечасова паспела прыбегчы паліцыя, схапіць злачынцаў. Якое было здзіўленне, калі паліцыя прызнала ў іх падуладных губернатару чыноўнікаў. Як аказалася, яны і раней займаліся падобнай здабычай. Зараз жа ў сваё апраўданне ўсе казалі: «Мы памыліліся! Мы думалі, што гэта полькі!» [49, с. 335].

Хапала прайдзісветаў і хабарнікаў і сярод саміх паліцыянтаў. Так, у верасні 1864 года гродзенскі губернатар Скварцоў пісаў ваенным начальнікам паветаў: «Да ведама галоўнага начальства дайшло, што многія з паліцэйскіх чыноўнікаў рускага паходжання, у асаблівасці станавыя прыставы і гарадавыя, дазваляюць сабе розныя злоўжыванні і пераважна аддаюцца хабарніцтву» [154, с. 285].

Далёка не ўсе прыезджыя рускія чыноўнікі былі прафесіяналамі сваёй справы. Таму ўлады сутыкнуліся і з праблемай замяшчэння вакантных пасад, асабліва вышэйшага звяна. Так, у 1865 годзе пасада ваўкавыскага павятовага маршалка (правадыра дваранства) была вакантнай, застаючыся такой да 1867 года, пасля чаго да 1915 года займалася толькі праваслаўнымі расійцамі. Павятовае паліцэйскае ўпраўленне ўзначаліў праваслаўны спраўнік маёр Рыгор Іпалітавіч Шаншын. Праваслаўнымі з'яўляліся яго памочнік і старшы засядацель. З мясцовых застаўся толькі сакратар – каталік Франц Плаўскі. З пяці станавых прыставаў чатыры былі праваслаўныя, пяты – пасада вакантная. У павятовым казначэйстве ўсе 3 чыноўнікі былі каталікамі. У павятовым судзе: праваслаўны суддзя Іван Агаркаў, з трох засядацеляў адзін праваслаўны, адзін каталік і адзін магаметанін, судовы следчы – праваслаўны. Толькі склад гарадавога магістрата, дзе пасады бургамістра і яго памочнікаў былі выбарнымі, знаходзіўся ў руках мяшчан: старэйшы бургамістр – каталік Восіп Пятровіч Шарэйка, ратманы (памочнікі): два каталіка, адзін іудзей, сакратар – праваслаўны [155].

Цяпер усе грамадзяне, якія падавалі ва ўладныя структуры якое-небудзь прашэнне, правяраліся на палітычную добранадзейнасць. Так, 12 лістапада 1865 года з канцылярыі гродзенскага губернатара ваўкавыскаму ваеннаму начальніку прыйшоў запыт аб правядзенні сакрэтнага дазнання пра жонку

калежскага рэгістратара Кузміцкай. Патрабавалася даведацца, ці не прымала яна якога-небудзь удзелу ў палітычных беспарадках, г.зн. ці не насіла жалобы або іншых рэвалюцыйных знакаў, ці не спявала гімнаў, ці не ўдзельнічала ў працэсіі і наогул ці добранадзейная ў палітычных адносінах [140, с. 13].

Выяўленыя нядобранадзейныя заключаліся ў турму. Так, на 12 мая 1866 года ў ваўкавыскім турэмным астрозе знаходзілася 14 чалавек, якія афіцыйна значыліся як палітычныя [156, с. 18-21].

Напалоханая паўстаннем, царская ўлада стварыла ўсялякія перашкоды для атрымання доступу да паляўнічых стрэльбаў. Каб купіць гладкаствольную паляўнічую стрэльбу, патрабавалася кругавая парука. 13 студзеня 1867 года сяляне Гарнастаевіцкай воласці Ляскоўскай сельскай грамады вёсак Лескі і Навасады на агульным сходзе слухалі просьбу селяніна з вёскі Навасады Станіслава Мацвеевіча Навасада. Просьба заключалася ў дачы кругавога паручыцельства Навасаду пры яго хадайніцтве купіць адну паляўнічую стрэльбу. Грамада паведаміла, што Навасад добрых паводзінаў, у дрэнных учынках ніколі не быў заўважаны, падчас мінулага паўстання да яго не датычыўся, веравызнання праваслаўнага, а таму грамада ручаецца за яго ўсёй сваёй маёмасцю.

Пад паручыцельствам свае подпісы паставілі сяляне вёскі Лескі: Іван Навасад, Аляксей Паплаўскі, Антон Патоцкі, Адам Залоска, Вікенцій Бабаш, Іван Макар, вёскі Навасад: Мікалай Корніловіч, Іван Жук, Адам Навасад, Восіп Ламаска, Сямён Навасад, Нікіфар Новік, Андрэй Навасад. Па асабістай просьбе вышэйзгаданых сялян, як непісьменных, распісаўся сельскі стараста Д. Ляванчук.

14 студзеня паручыцельства сялян у Гарнастаевіцкім валасным праўленні засведчыў валасны старшыня С. Шкулепа [157, с. 5-6].

Паручыцельства патрабавалася ва ўсім. Пры прызначэнні эканомаў маёнткамі або пры аддачы маёнткаў у арэнду патрабавалася паручыцельства аб добранадзейнасці эканома або арандатара ў палітычных адносінах. Дваранін Ваўкавыскага павета Эдуард Адамовіч Стравінскі дзейнічаў ад імя памешчыцы Ваўкавыскага павета Лізаветы Шырміной на падставе даверанасці, дасланай яму з горада Дрэздэна. 20 ліпеня 1864 года Стравінскі даў паручыцельства на эканомаў трох маёнткаў Шырмы: Дабрасельцы, Бязводна і Караліно, якімі адпаведна кіравалі: селянін Ваўкавыскага павета Талачманскай воласці Іван Пятроў Качароўскі, мешчанін Ваўкавыска Уладзіслаў Францаў Ейдзятовіч і дваранін Ваўкавыскага павета Іван

Сакалоўскі. У паруцы мелася прыпіска, што калі які з іх акажацца нядобранадзейным у палітычных адносінах, то за яго Стравінскі будзе абавязаны заплаціць штраф не менш за 200 рублёў [86, с. 147].

У Ваўкавыскім павеце некаторае палягчэнне наступіла з выданнем 4 лістапада 1868 года сенацкага ўказа аб зняцці ваеннага палажэння з некаторых паветаў Гродзенскай губерні, у тым ліку і ў Ваўкавыскім павеце [159, с. 394].

Што да ўсіх удзельнікаў паўстання, высланых у далёкія расійскія губерні, то і праз 10 гадоў пасля паўстання царская ўлада не даравала ім зробленага. 26 красавіка 1875 года з канцыляры віленскага генерал-губернатара ваўкавыскаму павятоваму спраўніку Івану Сафарэвічу прыйшоў запыт аб палітычна сасланым двараніне Гродзенскай губерні Леанардзе Вярцінскім, які жыў у Наўгародскай губерні. Ён звярнуўся з хадайніцтвам аб дазволе яму часова прыехаць у Ваўкавыскі павет для спаткання з хворым бацькам Ігнатам Вярцінскім, які жыў у маёнтку Юргава. Палітычнае аддзяленне па загадзе генерал-губернатара прасіла спраўніка даведацца, у якім стане знаходзіцца здароўе Ігната Вярцінскага і колькі яму ад роду гадоў [115, с. 35].

Мабыць, з боку бацькі таксама было пададзена прашэнне аб спатканні з сынам, таму што 7 верасня з Вільні ваўкавыскаму спраўніку Сафарэвічу прый-шло паведамленне. У ім па загадзе генерал-губернатара палітычнае аддзяленне прасіла спраўніка аб'явіць двараніну Ігнату Вярцінскаму на прашэнне яго ад 5-га жніўня, што яго сыну, які знаходзіцца цяпер у Ноўгарадзе, Леапольду Ігнацьеву Вярцінскаму па ступені ўдзелу яго ў апошнім польскім паўстанні прыезд на радзіму дазволены быць не можа. Пры гэтым палітычнае аддзяленне прасіла спагнаць з Ігната Вярцінскага неаплачаны ім пры падачы прашэння збор, а менавіта гербавую марку саракакапеечнай вартасці [158, с. 79].

Становішча ссыльных у Сібіры вызначалася шэрагам маніфестаў. Неабходна ўказаць на самыя высокія загады ад 18 кастрычніцкай 1866 года і 25 мая 1868 года, у адпаведнасці з якімі польскія сасланыя набылі права перасяліцца з месцаў ссылкі на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Еўрапейскую Расію ці атрымлівалі ў Сібіры права прыпісвацца да сельскіх ці гарадскіх грамадаў.

Пачалося паступовае вяртанне ссыльных на радзіму. Спярша такую магчымасць атрымалі ўраджэнцы Каралеўства Польскага, а таксама тыя з ураджэнцаў заходніх губерняў Расіі, хто выказаў жаданне жыць у Каралеўстве Польскім. Першая вялікая партыя такіх ссыльных вярнулася з ссылкі ў 1867 годзе.

Канчатковым спыненнем праследавання ўдзельнікаў паўстання можна лічыць 11 мая 1873 год, калі расійскі імператар Аляксандр II зацвердзіў палажэнне камітэта міністраў аб спыненні канфіскацыі маёнткаў удзельнікаў паўстання 1863 года. У палажэнні ўказвалася:

а) з часу спынення паўстання прайшло 9 гадоў;

б) завочны суд па ваенна-крымінальнаму статуту з гэтага часу не дапускаецца, а, такім чынам, не магчыма і вызначэнне маёмаснай адказнасці асоб, забітых у партызанскіх атрадах або без вестак зніклых падчас і пасля паўстання [148, с. 180-181].

Многія з былых ваўкавыскіх паўстанцаў, адпраўленыя ў ссылку, былі памілаваны і вярнуліся на радзіму. Да 1879 года пад паліцэйскім наглядам па Ваўкавыскім павеце знаходзілася 7 чалавек:

1. Дваранін, эмігрант Восіп Владычанскі з 23 чэрвеня 1872 года, маёнтак Сядзельнікі

2. Аднадворац Вікенцій Пармон з 10 мая 1868 года, мястэчка Зэльва

3. Дачка тытулярнага саветніка Івана Васільева Матышава – Лізавета Іванова Матышава з 20 мая 1879 года, у мястэчку Ізабелін

4. Студэнт Пецярбургскага ўніверсітэта Андрэй Дзмітрыеў Акрэтка з 19 чэрвеня 1879 года, вёска Конна

5. Селянін Вярэйкаўскай воласці Іван Мацвееў Кавальчук з 28 чэрвеня 1878 года, вёска Львоўка.

6. Дваранін Лук'ян Восіпаў Абухоўскі з 14 жніўня 1879 года, мястэчка Свіслач.

7. Былы студэнт Маскоўскага ўніверсітэта Уладзімір Бушкевіч з 25 чэрвеня 1879 года, маёнтак Конна [160, с. 1-5].

Канчатковая амністыя значнай часткі ссыльных была абвешчана Маніфестам ад 15 мая 1883 года, якая здымала апошняе абмежаванне ўказа 1874 года – абмежаванне месца пражывання. Былым удзельнікам паўстання дазвалялася свабоднае паўсюднае пражыванне ў Расіі «без усялякіх абмежаванняў».

Завяршальным ў гісторыі ссылкі паўстанцаў стаў Найвышэйшы маніфест 14 лістапада 1894 года, згодна з якім «усім асобам, якія адбываюць яшчэ пакаранне за ўдзел у польскім мецяжы 1863 года, падаравана вызваленне ад паліцэйскага нагляду з прадастаўленнем ім права паўсюднага жыхарства і з вяртаннем правоў».

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

«Паўстанне 1863 года было адным з нешматлікіх у гісторыі XIX стагоддзя прыкладаў, калі фактычна купка ўзброеных людзей, абараняючы сваю чалавечую і нацыянальную годнасць, паўстала супраць велізарнай імперыі. Тры еўрапейскія народы – беларусы, палякі і літоўцы коштам жыццяў сваіх найлепшых сыноў выказалі пратэст супраць расійскага феадалізму, абсалютызму і дэспатызму, засведчыўшы прыхільнасць канстытуцыйнасці і парламентарызму», – піша ў энцыклапедыі «Краіна Беларусь» пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў.

Паводле сведчанняў сучаснікаў, адзін з кіраўнікоў паўстанцаў Рамуальд Траўгут на трывожнае пытанне жонкі, ці ёсць у паўстанні сэнс, адказаў: «Не ведаю, ці ёсць сэнс. Але ёсць патрэба».

Пра падзеі паўстання 1863 года ў наступныя гады ў Расійскай імперыі было напісана нямала кніг, выдадзена даволі шмат архіўных дакументаў. Аднак даніна павагі памяці саміх паўстанцаў пачалася ў Польшчы з набыццём ёю незалежнасці пасля Першай сусветнай вайны. Яшчэ былі жывымі некаторыя ўдзельнікі тых падзей, якія сталі ў 1917 годзе відавочцамі краху некалі магутнай Расійскай імперыі. Аб адным з такіх апошніх паўстанцаў у 1933 годзе паведаміла сваім чытачам газета «Тыгоднік Ваўкавыскі», якому на момант паўстання не было яшчэ і 13 гадоў: «17 снежня памёр Мацей Грабоўскі – ветэран 1863 года, які жыў у свайго сына Уладзіміра Грабоўскага ў Ваўкавыску па вуліцы Шасейнай 13. Удзельнік гераічных бітваў за свабоду Айчыны нарадзіўся 10 верасня 1850 года і актыўна ўдзельнічаў у паўстанні. Грамадскасць Ваўкавыска аказала апошнюю павагу памерламу герою. Гарадскі савет Ваўкавыска ў пахаванні героя прадстаўляў член гарадской рады Пётр Дружына, які выступіў з прамовай» [161].

Тады ж у Свіслачы па ініцыятыве навучэнцаў Свіслацкай настаўніцкай семінарыі на народныя сродкі быў устаноўлены помнік кіраўніку паўстання на Брэстчыне Рамуальду Траўгуту, выпускніку Свіслацкай гімназіі. У верасні 1939 года з прыходам бальшавікоў помнік быў часткова разбураны і адноўлены толькі праз 50 гадоў па архіўных фотаздымках.

Як жа на гістарычнай Ваўкавышчыне ўшаноўваецца памяць аб паўстанні і яго правадыру Кастусю Каліноўскім? У 1958 годзе ў мястэчку Свіслач на цэнтральнай вуліцы Леніна каля будынка сярэдняй школы быў



Мал. 26. Будынак былой Свіслацкай гімназіі.

усталяваны сціплы бюст Каліноўскага працы вядомага беларускага скульптара Заіра Азгура.

У пачатку 1990-х гадоў у гонар Каліноўскага была названая вуліца ў новым мікраараёне Альшымава горада Ваўкавыска. На вайсковых польскіх могілках, дзе спачываюць тыя, хто загінуў у барацьбе за незалежнасць Польшчы ад бальшавікоў 1919-1920 гадоў, у гонар ваўкавыскіх паўстанцаў у цэнтры могілак устаноўлены сціплы драўляны крыж са скрыжаванымі косамі – зброяй касінераў. Гэта пакуль адзінае месца ў цяперашнім Ваўкавыскім раёне, дзе маецца памятны знак паўстання 1863 года.

У канцы 1980-х гадоў пачаліся раскопкі пад кіраўніцтвам гісторыка Міхася Ткачова ў Якушоўцы (Свіслацкі раён). Тады на месце былога двара маёнтка былі выяўлены падмуркі сядзібы Каліноўскіх. Афіцыйныя ўлады ў 1990-х гадах сабраліся аднавіць сядзібу, у якой меркавалася зрабіць музей. Паспелі ўзвесці толькі падмурак і на гэтым скончылі. Прадстаўнікі грамадскасці 24 кастрычніка 1999 года ўзвялі побач з падмуркам хрысціянскі крыж з жалеза, усталявалі памятную дошку, умацаваную на валуне.

Мал.27.
Бюст Кастусю Каліноўскаму ў г. Свіслач, аўтарства Заіра Азгура






Мал.28. Крыж у гонар паўстанцаў 1863-1864 гадоў у Ваўкавыску на вайсковых могілках



Мал. 29. У Якушоўцы. Ушанаванне памяцці грамадскімі актывістамі. 27 X 2007 г.

У 1996 годзе гродзенскія грамадскія актывісты на могілках у Свіслачы знайшлі месца пахавання Віктара Каліноўскага і паставілі на ім сціплы помнік. У той жа час пачаліся вандроўкі прыхільнікаў беларускай гісторыі ў Свіслач, якія з цягам часу сталі добрай традыцыяй. Кожны год у кастрычніку імі наведваюцца магіла Віктара Каліноўскага, помнік Кастусю Каліноўскаму, Свіслацкая гімназія, «Алея герояў», дзе помнік Рамуальду Траўгуту, апошняму кіраўніку паўстання 1863 года, суседнічае з помнікамі Сталіну і Леніну. Потым за некалькі кіламетраў ад Свіслачы людзі едуць у вёску Якушоўка, дзе побач знаходзіцца радавы фальварак Каліноўскіх. Нарэшце, на ўскрайку Белавежскай пушчы налажваецца неафіцыйная частка вандроўкі – «Паўстанцкае вогнішча». Як заўважыў гродзенкі краязнавец і грамадзкі дзеяч Уладзімір Хільмановіч, «галоўнае ў гэтых вандроўках тое, што кожны год нехта бывае ў Свіслачы ўпершыню – каб пасмакаваць гарачай юшкі каля вогнішча, спець пару песняў пад гітару, не зважаючы на дождж ці снег, адчуць дух мясцінаў, дзе нараджаюцца героі»

# ДАДАТКІ

## Зварот кіраўніцтва Літоўскага камітэта да паўстанцаў

Народны ўрад, а таксама загадчык Літоўскімі правінцыямі.

Ваенным, ваяводскім, павятовым і ўчастковым начальнікам

Да Вас, грамадзяне, якія, уступаючы ва ўзброеную барацьбу з Масквою, прадстаўляючы доказы рэдкай у гісторыі адвагі, звяртаецца Народны ўрад з тым, каб Вы ўсе, дзейнічаючы заадно, хутчэй маглі дасягнуць мэты, дзеля якой народ, заклікаль да паўстання, мужна ўзяўся за зброю.

У такім становішчы сіл паўстання ў краі Вы можаце весці толькі партызанскую вайну і не забывайце ніколі галоўнай задачы партызанскай вайны і галоўныя яе правілы: шкодзіць непрыяцелю на кожным кроку, дзе толькі можна старацца біць непрыяцеля і на вялікую сілу яго не звяртаць увагу. Пазбягаць сустрэчы яго ў адкрытым месцы, рэціравацца ў бяспечныя пазіцыі – словам, заўсёды і ўсюды біць і зусім не дапускаць, каб непрыяцель мог Вас знішчыць.

Барацьба з маскоўскімі войскамі, якія ў цяперашні час яшчэ большыя колькасцю і добра ўзброены, павінна быць працяглай і напорыстай. Таму кожны начальнік павінен берагчы народныя войскі і ніколі іх без патрэбы на сумнеўныя поспехі не наводзіць. Не дазваляць сабе нават захапленняў волатаўскай адвагай і толькі тады шукаць бою, калі можна быць упэўненым у перамозе.

У такім становішчы ўся справа залежыць ад энергіі правадыроў, ад цвёрдасці і паслушэнства шэрагоўцаў. Усё гаворыць аб мужнасці і адвазе Вашай, і сумнявацца аб гэтых доблесцях Вашых ніхто не пасмее.

Першы доўг начальніка – умець загадваць і ўмець слухаць, утрымліваць паслухмянасць у атрадзе, ведаць, што непрыяцель павінен распачаць, куды адправіцца ў выпадку поспеху перамогі і ніколі не забываць аб рэцірадзе і бяспецы прытулку ў выпадку няўдачы.

Што ж тычыцца ўнутранага парадку атрадаў, начальнік павінен памятаць, што толькі пастаянныя практыкаванні шэрагоўцаў робяць іх паслухмянымі, цвёрдымі і да бою здольнымі.

Таму неабходна пастаянна вучыць ваеннаму ладу, каб кожны ведаў дакладна сваё месца і ўмеў спрытна валодаць зброяй.

Цяпер яшчэ барацьба, акрамя вайны, павінна быць і ўзброенай прапагандай, якая павялічвае народныя войскі, памнажае атрады і шэрагоўцаў. Вы не павінны бянтэжыцца відавочнай абыякавасцю некаторых з памешчыкаў, а таксама зласлівасцю сельскага насельніцтва ў некаторых мясцовасцях. Усе яны будуць удзячны пера-

можцам і далучацца да шчаслівага сцяга. Хто здолее пазбегнуць паражэння, той лёгка знойдзе шэрагоўцаў.

Памешчыкаў пераконвайце ў імя любові да радзімы, а ў простым народзе ўзбуджайце адно паняцце аб радзіме, любоў да яе зараз у ім рассеяна. Дзе толькі можна ўтрымацца некаторы час, там варта неадкладна засноўваць народныя ўлады і абнародаваць Маніфест аб даванні сялянам у безумоўную ўласнасць зямлю, якой валодаюць цяпер за павіннасці. Прачытаць, растлумачыць усім сялянам і напісаць акт аб зямлі, але тут жа заклікаць іх да абароны ўласнай зямлі ад непрыяцеля. Калі б хто-небудзь супраціўляўся абнародаванню і прывядзенню гэтага дэкрэта, то такі неадкладна павінен быць аддадзены ваеннаму суду і пакараны смерцю.

З асобамі, абыякавымі да справы, варта абыходзіцца як з чужаземцамі. Браць ад іх усё, што толькі дазваляецца народным правам браць ад мясцовых абывацеляў. Не прымаць ад іх ні гасціннасці, ні ахвяраванняў. Пра імёны іх паведамляць у аддзел з тым, каб гэтыя асобы маглі быць вядомыя як людзі, якія жывуць у краі, але не лічацца палякамі.

Маскоўскія ўлады павінны заўсёды знішчацца, асабліва паліцэйскія ведамствы. Паліцэйскія чыноўнікі, гледзячы на тое, як яны сябе паводзілі да гэтага часу, павінны быць або ўзяты ў лагер са строгім кантролем за імі, або ж пакараныя смерцю, калі яны аказваюцца шкоднымі для народнай справы. Таксама смерці павінны быць падвергнуты ўсе шпіёны і даносчыкі, да якога б саслоўя яны ні належалі, таму што перад законам і ў гэтай сумнай падзеі павінна быць ужыта роўнасць усіх саслоўяў. Таксама павінна быць абвешчана ўсюды свабода веравызнанняў, асабліва ў тых мясцовасцях, дзе народ прагне вяртацца ад ненавіснай яму ерасі на ўлонне каталіцкай царквы па абраду ўніяцкаму або лацінскаму.

Нярэдка ўрад патрабуе ад воінаў, каб яны стаялі да канца пачатай бітвы. Сорам і ганьба таму, хто ўцякае са строю, гонар і хвала таму, хто застанецца на сваім месцы ў хвіліны рашучай перамогі. Кроў Ваша льецца за свабоду і шчасце братоў вашых. Калі зараз павінны Вы часта пераносіць недахоп, то маліце Бога, каб ён Вам дадаў сілы для выгнання непрыяцеля з краю, а радзіма ваша будзе дзякаваць сваім волатам-абаронцам. Хто ж упадзе сярод бою, той набудзе слаўную памяць на зямлі і рай на нябёсах, здабыты пакутніцкай крывёю.

Толькі памятайце польскія воіны, што слухацца начальнікаў ёсць Ваша абавязак і разам з тым адзіная ўмова поспеху ў народнай барацьбе і ўласнай вашай бяспекі. Для непрыяцеля вельмі лёгка развеяць непаслухмяных, бо непаслухмяныя людзі не ўтвараюць войска, а бязладную кучу, якая не здолее ні абараніцца, ні перамагчы.

Навучыцеся зараз жа спрытна валодаць зброяй, хутка зараджаць і хутка ёю ж страляць, мець заўсёды яе ў чыстым выглядзе і ў парадку, бо мужнае сэрца, верная рука і добрая зброя робіць воіна непераможным.

Пра Вас памятае народны ўрад. Усе сілы і запасы краю збіраюцца для таго, каб Вас падтрымліваць. Урад і народ спадзяюцца на Вас, што Вы пераможаце ма-

скаля. Маскаль нападае на абяззброеных, маскаль займаецца крадзяжом і разбоем, а Вы абараняеце нявінныя ахвяры. Вы ўяўляеце сабою ўсяму свету прыклад, як хрысціянскія воіны павінны дзейнічаць. Ужо адным гэтым Вы атрымаеце палову перамогі над маскалямі. Свет абвесціць Вас волатамі, і стагоддзі паўтараць будуць, што няма лепшага воіна, чым польскі.

Гэтая прамова павінна быць прачытана начальнікамі кожнаму атраду

Дакумент не датаваны.

**Крыніца:** НГАБ у Гродне. Ф.3. Воп.1. Сп.16, с.68-71адв.

## Інструкцыя камандзірам атрадаў паўстанцаў

1. Ведаць спосаб думак усіх жыхароў у павеце.

2. Пра шкодныя для народнай справы дзеянні паведамляць ваяводскім камісарам.

3. Сачыць за дакладным выкананнем законаў і дэкрэтаў, выдадзеных Нацыянальным урадам і Выканаўчым аддзелам.

4. Звяртаць пільную ўвагу, каб вёскі, у якіх праведзена надзяленне зямлёй сялян, пасля праходу атрада не вярталіся да сістэмы захопніцкага ўрада.

5. Патрабаваць ад службовых асоб народнай арганізацыі, каб як найхутчэй створана была з пэўных грамадзян пошта ў розных кірунках павета.

6. Службовыя асобы народнай арганізацыі ў павеце павінны быць энергічнымі і самаахвярна займацца абавязкамі, даручанымі ім народнай уладай. Калі акружныя і парафіяльныя начальнікі пазбаўлены гэтых якасцяў, павятовы ўрадавы камісар абавязаны звярнуцца да цывільнага начальніка павета, каб на працягу трох дзён замяніць іх іншымі; адначасова ён павінен паведаміць пра гэта ўрадаваму камісару ваяводства для далейшых захадаў.

7. Назіраць, каб у памешчыцкіх маёнтках былі запасы прадуктаў, адзення, зброі і рыштунку паводле нормы, устаноўленай павятовым камітэтам, з тым, каб можна было лёгка даставіць для забеспячэння атрада.

8. Руплiва сачыць за спагнаннем нацыянальнага падатку паводле прыпнцыпаў абкладання ў павеце, а таксама – ці ахвотна гэты падатак жыхары сплачваюць.

9. Назіраць за ўтварэннем, развіццём і дзеяннямі камітэтаў апекі з польскіх жанчын.

10. Калі селянін, натхненны патрыятызмам, зробіць са сваіх бедных даходаў дабравольную ахвяру на справу вайны з Масквой, павятовы камісар павінен паведаміць пра гэта камісару ваяводства з указаннем імя і прозвішча ахвяравальніка, а таксама месца яго жыхарства.

11. Старацца ўвесці на пасады арганізацыі сялян, што належыць ракамендаваць службовым асобам народнай арганізацыі.

12. Павятовы камісар мае права прызначыць памочнікаў, за якіх асабіста адказвае.

13. Як павятовы камісар, так і ягоныя памочнікі абавязаны быць у пастаянным руху (амаль не злазіць з брычкі).

14. Сродкі на паездкі і асабістае ўтрыманне будзе атрымліваць ад ваяводскага камісара (сёння, аднак, ранейшая сістэма яшчэ застаецца да зацвярджэння штата Нацыянальным урадам).

15. Павятовы камісар павінен прысутнічаць пры фарміраванні атрада і назіраць:

a) каб зброя была як мага лепшай, наколькі гэта дазваляюць мясцовыя ўмовы;

б) каб кожны жаўнер меў пры сабе сама меней 50 зарадаў;

c) каб быў добра адзеты;

d) начальнік атрада павінен добра інструктаваць адносна дысцыпліны;

e) каб не было п'янства і дэмаралізацыі;

f) прымаць захады, каб пры атрадзе быў хірург, інструменты і медыкамэнты;

g) асобная паклажа, якой павінна быць як найменш, запасны рыштунак, сухі паёк павінны змяшчацца на ўючных конях, а не павозках, якія ўскладняюць рух;

h) сухога пайку павінна быць на 4-5 дзён;

i) грошай на выплату жалавання не больш, як на 4-5 дзён.

16. Павятовы камісар прызначае цывільнага службоўца пры атрадзе; абавязкам гэтага службоўца з'яўляецца:

a) весці ўсе рахункі ў атрадзе;

б) здзейсняць кантроль за прадуктамі;

c) складаць акты надзялення зямлёй;

d) старацца, каб у атрадзе пастаянна была аднолькавая колькасць прадуктаў і грошай;

e) пры адсутнасці – звяртацца да службовых асоб мясцовых арганізацый, аднак гэты зварот павінен падпісвацца начальнікам атрада;

f) цывільны службовец у атрадзе падпарадкоўваецца начальніку атрада і павятоваму камісару, якому кожныя 7 дзён абавязаны падаваць рапарт. У пільных выпадках мае права паслаць кур'ера; гэтыя рапарты падпісваюцца толькі ім самым;

g) пра усе, нават найменшыя, сутычкі, павінен неадкладна пасылаць самыя падрабязныя рапарты камісару павета.

17. Камісар павета павінен самым пільным чынам сачыць, каб ва ўсіх маёнтках, дзе праходзіць атрад, абвяшчаўся дакрэт Нацыянальнага ўрада пра надзяленне сялян зямлёй.

18. Гэты дакрэт павінен абвяшчацца і акт надзялення зямлёй складацца ў трох аднолькавых экзэмплярах, адзін з якіх застаецца ў сялян, другі перадаецца начальніку павета, а трэці павінен быць адасланы ваяводскаму камісару.

19. Камісар павета абавязаны раз у 7-10 дзён падаваць ваяводскаму камісару рапарты, а ў пільных выпадках, або калі размова ідзе пра сутычкі – неадкладна са спецыяльным кур'ерам.

20. У тых выпадках, калі да паўнамоцнага камісара Нацыянальнага ўрада бліжэй, чым да камісара ваяводскага, камісар павета пасылае дэпешу паўнамоцнаму камісару, аднačасова паведамляючы камісару ваяводскаму»

**Крыніца:** Кастусь Каліноўскі. Творы і дакументы. Мінск. Беларускі кнігазбор, 1999. с.100-102

## Тэкст звароту кіраўніцтва паўстаннем да рэкрутаў

Таварышы! Вы няшчасны народ! Вы пакідаеце бацьку, маці, братоў, сясцёр, родных, жонку, дзяцей, гаспадарку, бадзяецеся па чужых краях далёка ад радзімы 15, 20 або 25 гадоў, працуеце як коні, губляеце ваша здароўе, маёмасць і жыццё. І якое шчасце будзе вам пасля выслугі гадоў? Зноў бадзяцца і прасіць міласціны, а праз некаторы час класціся ў магілу. Братцы, ні ў якога цара на зямлі няма такой чартоўскай службы: такую службу не чалавек, а чорт прыдумаў. Адны махляры тлумачаць вам, што вы абавязаны служыць і мучыцца. Глупства! Бог не стварыў катаржнай працы для прыгнечанага чалавека. Другія махляры паўтараюць вам, што вы прысягалі. І гэта лухта! Бог сказаў: «Не забівай блізкага!», значыць, чорту прысягалі тыя, якія прысягалі забіваць блізкага хрысціяніна. Іх душы сыдуць у пекла на вечныя пакуты. Палякі, як добрыя хрысціяне, не хочуць вас ні рэзаць, ні крыўдзіць – яны толькі абараняюць сябе, бо яны хочуць жыць у сябе дома са сваім сямействам і займацца сваёй гаспадаркай і не хочуць, каб іх мучылі так, як вас мучыць чартоўскай і спусташальнай службай.

Палякі хочуць, каб ім і вам можна было жыць на свеце так, як Бог загадаў, а не так, як чорту заўгодна. Яднайцеся з палякамі, а лепш будзе вам: не будзеце папустому губляць вашу маёмасць і вашае жыццё ў вечным расстанні з вашай сям’ёй. У іх ужо ёсць многія з вашых, якія зразумелі ў чым справа. Хто да іх пяройдзе са зброяй у руках, атрымае адразу 15 рублёў срэбрам і потым можа ісці куды заўгодна ці заставацца на службе ў іх цара за прыстойны заробак.

**Крыніца:** НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.34. Сп.169, с.159

## Указ аб сялянах Паўночна-Заходняга краю

[...] Прызнаючы цяпер неабходнасць, па мясцовых абставінах азначаных ніжэй губерняў, палегчыць і паскорыць у гэтых спыненне абавязковых адносін паміж памешчыкамі і паселенымі на іх землях часоваабавязанымі сялянамі з дапамогай выкупу гэтымі апошнімі зямель іх надзела з дапамогай ўрада, мы загадваем прыняць для гэтага наступныя меры:

1). У губернях Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай і Мінскай, у Дынабургскім, Дрысенскім, Люцынскім і Рэжыцкім паветах губерні Віцебскай з паверкай

павіннасцяў аб'ядноўваецца і выкуп паселенымі на панскіх землях часоваабавязанымі сялянамі, якія знаходзяцца ў карыстанні гэтых сялян угоддзяў.

2). Усе абавязковыя пазямельныя адносіны паміж памешчыкамі і паселенымі на іх землях часоваабавязанымі сялянамі ў вышэйназваных губернях і паветах спыняюцца з 1 мая гэтага 1863 года.

3). З таго ж 1 мая часоваабавязаныя сяляне ў гэтых губернях і паветах прылічаюцца да разраду сялян-уласнікаў, але надалей да складання выкупных актаў і вызначэння выкупных плацяжоў яны абавязаны за землі, якія знаходзяцца ў іх надзеле, несці грашовую павіннасць на ніжэйпрыведзеных падставах.

4). Усе часоваабавязаныя сяляне ў вышэйзгаданых губернях і паветах, якія знаходзяцца цяпер на здзельнай павіннасці (паншчыне), пераводзяцца з 1 мая гэтага года на павіннасць грашовую (чынш). Памер грашовай павіннасці вызначаецца з дапамогай адымання 20 кап. з рубля супраць таго аброку, які прызначаны ў статутных граматах на выпадак пераходу сялян са здзельнай павіннасці на грашовую па добраахвотным пагадненні. Там жа, дзе сяляне і цяпер ужо знаходзяцца на аброку, грашовая павіннасць застаецца ў памеры, вызначаным статутнымі граматамі.

5). З 1 мая гэтага 1863 года грашовыя плацяжы, якія ідуць з сялян на падставе папярэдняга 4-га артыкула, уносяцца сялянамі прама ў павятовыя казначэйствы, а з гэтага казначэйства выдаюцца памешчыкам па прыналежнасці [...]

6). Праверачныя камісіі абавязаны, удакладніўшы памер усіх наогул павіннасцяў сялянам, скласці па кожным маёнтку асобы акт аб выкупе сялянамі зямлі, якая знаходзяцца ў іх карыстанні, гэтым актам канчаткова вызначаюцца выкупныя плацяжы, што ідуць з сялян [...]

**Крыніца:** Дзмітрыеў С.С. Хрэстаматыя па гісторыі СССР. Т.3. Масква, 1948.

## Аб'ява М.М.Мураўёва насельніцтву Літвы і Беларусі

Надышоў час, калі мяцежнікі павінны пераканацца, што ўрад, які даваў ім да сёння час і сродкі адумацца і вярнуцца да свайго абавязку, вырашыў з непахіснай цвёрдасцю пакласці канец злачынным іх дзеянням. Галоўныя дзеячы бунту і саўдзельнікі іхнія, падбухторваючы ўсе саслоўі да бунту, спусташаючы мірных пасялян, рабуючы іх грамадскую маёмасць і аддаючы пакутлівым пакараннем смерцю людзей, якія з'яўляюцца вернымі свайму гасудару і сумленна выконваць свой Абавязак, нясуць на сабе цяжкую адказнасць перад богам, гасударом, грамадствам і народам і не пазбегнуць правасуднай кары [...]

Такое становішча далей не можа працягвацца. Я заклікаю ўсе саслоўі да выканання свайго абавязку. Кожны член грамадства абавязаны цяпер з цвярозым розумам і сумленна звярнуцца да свайго вернападданніцкага абавязку і з прычыны падзей, якія

адбываюцца і якія пагражаюць незлічонымі бедствамі для цэлай краіны, а асабліва для землеўладальнікаў, садзейнічаць ураду ў аднаўленні ў краі спакою і парадку.

Служыцелі алтара ў абавязковым парадку павінны паўсюдна абвясціць мір і паслухмянасць законнай уладзе, утрымаць легкадумных ад злачыннага захаплення ў мяцеж, а захопленых вярнуць да абавязку сілаю слова Божага і імем святой яго царквы. Бацькі і маці, якія кіраваліся разумнаю любоўю да сваіх дзяцей, абавязаны ахоўваць іх ад згубнага ўплыву зламысных людзей.

Дваране і памешчыкі, пакінуўшы нязбытныя свае надзеі, павінны неадкладна змірыцца і, адказваючы за сваё сямейства і за асобаў, пастаўленых імі для кіравання сваімі маёнткамі, падпарадкавацца законнай уладзе, спыніць усякі ўдзел у бунце і садзейнічанне мяцежнікам як грашыма, так і харчамі, затрымліваць і выдаваць у рукі ўрада зламыснікаў, якія з'яўяцца ў іх маёнтках, лясах і наогул на іх тэрыторыі, у адваротным выпадку вінаватых загадана браць пад варту і перадаваць ваеннаму суду, а на маёнткі іх накладаць секвестр і даходы з гэтых, а таксама з прададзенай рухомай маёмасці выкарыстоўваць на пакрыццё расходаў па ўціхамірванні бунту і на дапамогу тым няшчасным сямействам, якія пацярпелі ад бясчынства мяцежнікаў. Такім чынам, крамольныя ўчынкі памешчыкаў вядуць іх да абсалютнагаа спусташэння, а сямейства іх да галечы з усімі яе кепскімі наступствамі.

Нарэшце, усе наогул грамадзяне і жыхары прызываюцца садзейнічаць ураду ўсімі сродкамі, якія залежаць ад кожнага, да спынення бунту і аднаўлення поўнага спакою ў краі, памятаючы, што, падпарадкоўваючыся ўплыву мяцежнай партыі, яны толькі губяць сябе і свае сямейства, выклікаючы кровапраліцце і бясплодныя ахвяры.

З майго боку прыняты ўжо і прыводзяцца ў выкананне ўсе неабходныя меры па спыненні і папярэджанні бунтаўнічых замахаў.

Забяспечыўшы ваенных начальнікаў паўнамоцтвамі для рашучых дзеянняў адпаведна апублікаванай ужо ў краі інструкцыі для ўпарадкавання ваенна-грамадзянскага кіравання, я даручыў ім прыняць пад сваю апеку ўсіх верных і адданых гасудару і ўраду жыхароў, асабліва сялянскае насельніцтва, адгарадзіўшы яго праз садзейнічанне ваеннай сілы ад замаху мяцежнікаў; заклікаў сялян, як казённых, так і часоваабавязаных, да стварэння ўзброенай сельскай варты для абароны паселішчаў ад рабавання і бясчынстваў бунтаўнічай шаек; на сялян казённых і часоваабавязаных усклаў абавязак не дапускаць у межах іх сялянскіх грамадаў і ў фальварках мяцежных з'ездаў, узбраення і наогул падрыхтоўкі да паўстання; забіраць пад варту усіх, хто ўдзельнічае і хто садзейнічаюць паўстанню, якога б яны звання ні былі, і перадаваць іх бліжэйшым вайсковым камандам.

Урад, не вагаючыся, выканае свой абавязак, каб засцерагчы край ад бедстваў, у якія ўводзіць гэтая мяцежная партыя; ён не пакіне беспакарана ўдзельнікаў і кіраўнікоў бунту, лічачы справядлівым лепш зрабіць строгі прыклад над некаторымі, чым дапусціць кровапраліцце і бескарысныя ахвяры: многія з вінаватых па прысудзе

ваеннага суда ўжо панеслі заслужанае імі пакаранне; сотні асоб, і сярод іх значная колькасць ксяндзоў і памешчыкаў, утрымліваюцца ў крэпасцях і астрогах і па заканчэнні над імі следства і суда будуць пакараны па меры сваіх злачынстваў [...]

1863 Чэрвень. Публікуецца ў скароце.

**Крыніца:** Хрэстаматыя па гісторыі СССР. Т.3. Масква, 1948.

## Загад Літоўскага правінцыйнага камітэта. 11 чэрвеня 1863 года

Прыказ ад ронду польскага над цэлым краем Літоўскім і Беларускім да народу зямлі літоўскай і беларускай.

Вы пэўне зачулі, што цяпер устаноўлены ронд польскі, што гэты ронд польскі аддае вам без ніякага выкупу і чыншоў тую зямлю, на якой сядзелі вашыя бацькі і дзяды, што гэты ронд польскі дае вам праўдзівую вольнасць, як у Французоў, гдзе ніхто не смее крыўдзіць прастога чалавека, што гэты ронд польскі верне яшчэ вашу даўнішнюю справядлівую веру дзядоў і прадзедаў?!

Дурыць вас маскаль, талкуючы вам, што гэта паны падняліся, каб павернуць назад паншчыну – ён хоча воду скаламуціць, каб у вадзе мутнай па старому рыбу лавіці, но дзело нашэ – не дзело панское, а справядлівой вольносці, якой вашыя дзяды ды бацькі здаўна ждалі, а якую маскаль з кровопійцамі вашымі спыніці хочэ!! Дзело нашэ – гэта дзело такой вольносці, якую сам бог, прыйшоўшы на гэты свет, хацеў устанавіці за якую проліў сваю кроў сьвятую і цярпеў крыжовыя мучэньня!

Но мінула ўжэ паншчына, мінула ваша крыўда – і ніякая сіла яе не паверне, ні маскоўска, ні чартоўска! Цяпер то настаў час, што кажному будзе одмерано так, як ён сам сабе намерыць. Пан будзе ліхі – пана павесім як сабаку! Мужык будзе кепскі – то і мужыка павесім, а дворы іх і сёла з дымом пойдуць і будзе справядлівая вольносць – бо гэтага сам бог ужэ хочэ і прэчыстая маці!

За вашую долю кроў праліваюць справядлівыя людзі, а вы – як тыя каіны ды іўды Скарыёты – добрых братоў продавалі ворогам вашым!

Но ронд польскі пытае вас, а якім вы правом смелі помогаці маскалю ў нечыстом дзелі?! Гдзе ў вас быу розум, гдзе ў вас была праўда?

Чы згадалі вы на страшный суд божый? Вы скажэце, што гэта рабілі паневолі – но мы, людзі вольные, немаш у нас неволі! А хто з вас хочэ неволі маскоўскай – тому мы дамо шыбеніцу на галіні!

Еднак справядлівы ронд польскі на Літве і Беларусі, беручы на розум:

што маскаль, пануючы над вамі і дзеручы сам ды пазваляючы кожнаму вас абдзіраці, не ўчыў вас ні чытаці, ні пісаці;

што вы сягодня дурныя як авечкі;

што над вамі няма яшчэ змілаваньня боскага, бо вы адступіліся ад яго праўдзівай веры.

Для таго справядлівый ронд польскі не даходзіць на вас людской крыўды, адно прыказуе вам: не памагаць ужо больш маскалю ні ў чым, бо ён мусіць ужо не дужы, калі просіць вашэй помочы. А калі гдзе маскаль быў дурны да даў вам стрэльбы, то вы ў ночы закалоўшы салдатоў маскоўскіх, у лес уцекайце, бо гэта лепш будзе за ўсё.

Міліцыі і караўлоў па сёлах каб ніякіх нігдзе не было, бо калі зловяць каго ў караулі бо ў міліцыі, то калі не цяпер, то пазьней, без адгаворкі павесіць.

Чыншоў, аброкоў і падаткоў у казну маскоўскую да і панам ніякіх больш не плаціць, бо гэта зямля ўжэ ваша, а вы для ронду польскага належыце і падаткі адно да казны польскай плаціць маеце.

Гэты прыказ мае быць чытаны ў кожнай цэркві да ў кожном косьцелі, по ўсіх сёлах і дворах для ведома ўсего народу. А хто гэтому прыказу спрэчэн будзе, таго – ці ён поп, ці ксёндз, мужык ці пан, усякага данасіць да ронду польскага, каб можна было позьней павесіць або, сазваўшы грамаду і зрабіўшы справядлівы суд, без адгаворкі весьці на шыбеніцу! Бо хто хочэ крыўды людской – той нехай лепш сам марно прападае!

Дан у месці Вільні, у дзень сьвятога Варфаламея лета господня 1863.

**Крыніца:** Восстание в Литве и Белоруссии. 1863–1864 гг. М., 1965, с. 29–30

## Спіс асоб Ваўкавыскага павета, высланых у аддаленыя губерні Расіі

1. Памешчык Рудольф Андржэйковіч, маёнтак Жорна
2. Памешчык Рычард Андржэйковіч, маёнтак Жорна
3. Дваранін Ігнат Айвітонт, мястэчка Свіслач
4. Аднадворац Рафаіл Апацэвіч, мястэчка Свіслач
5. Селянін Восіп Арапіновіч, мястэчка Свіслач
6. Ксёндз Уладзіслаў Байкоўскі, мястэчка Поразава
7. Памешчык Адам Быхавец, маёнтак Адамкава
8. Памешчык Станіслаў Брант, маёнтак Зэльзін
9. Дваранін Войцех Бергель, маёнтак Зэльзін
10. Дваранін Віліцыян Венядзіктаў Болтуць, в. Заблоць
11. Селянін Адам Барташэвіч, 3-ці стан
12. Селянін Восіп Бурба, Міткевічы
13. Селянін Сцяпан Баброўнік, вёска Яніна
14. Селянін Афанасій Бакін, вёска Янін
15. Селянін Фёдар Баброўнік, вёска Асошнікі
16. Селянін Андрэй Барнушка, вёска Лаўрыновічы
17. Ксёндз Вікенцій Валовіч, мястэчка Пескі
18. Дваранін Рыгор Вашчаловіч

19. Дваранін Павел Вінча, 3-ці стан
20. Дваранін Марцін Верашчынскі
21. Дваранін Антон Верашчынскі
22. Дваранін Леанард Вярцінскі
23. Дваранін Казімір Вага, маёнтак Лубянка
24. Дваранін Антон Владычанскі, маёнтак Сядзельнікі
25. Дваранін Іосіф Владычанскі, маёнтак Сядзельнікі
26. Селянін Лукаш Фёдараў Васілюк, Юшкаўскай грамады
27. Селянін Пётр Андрэеў Варановіч, мястэчка Зэльва
28. Селянін Станіслаў Вікенцьеў, вёска Гута
29. Селянін Іван Вікенцьеў, вёска Гута
30. Памешчык Адольф Гундус, маёнтак Лубянка
31. Дваранін Густаў Галіч, Ваўкавыск
32. Селянін Іосіф Гавейко, мястэчка Лыскава
33. Селянін Іосіф Глябовіч, мястэчка Лыскава
34. Селянін Сідар Грынкевіч, вёска Магілёўцы
35. Селянін Васіль Гузік, вёска Навікі
36. Селянін Іосіф Гарбоўскі
37. Селянін Антон Грушэўскі, мястэчка Новы Двор
38. Селянін Міхаіл Грушэўскі, мястэчка Новы Двор
39. Селянін Станіслаў Грушэўскі, мястэчка Новы Двор
40. Селянін Міхаіл Васільеў Ганчарэвіч, мястэчка Новы Двор
41. Селянін Восіп Грушэўскі, мястэчка Новы Двор
42. Адстаўны падпаручнік Яраслаў Дамброўскі, маёнтак Шніпава
43. Ксёндз Іосіф Дзіякевіч, Ваўкавыск
44. Селянін Тамаш Дрока, 3-ці стан
45. Селянін Рамуальд Данілевіч
46. Селянін Восіп Дмухоўскі, мястэчка Поразава
47. Селянін Станіслаў Дмухоўскі, мястэчка Поразава
48. Селянін Іосіф Дмухоўскі, мястэчка Поразава
49. Памешчык Іван Ельскі, маёнтак Монцякі
50. Селянін Франц Язерскі
51. Аднадворац Іосіф Жукоўскі
52. Селянін Антон Сямёнаў Жыневіч, вёска Морачы
53. Селянін Васіль Ігнацьеў Журэвіч, мястэчка Новы Двор
54. Селянін Генрык Зіновіч, мястэчка Лыскава
55. Селянін Бернард Зіновіч, мястэчка Лыскава
56. Селянін Станіслаў Вікенцьеў Зіновіч, мястэчка Лыскава
57. Селянін Пётр Захарчук, 2-гі стан
58. Селянін Станіслаў Зашула

59. Селянін Бернард Зарэцкі, мястэчка Лыскава
60. Селянін Ігнат Іваноў
61. Селянін Лук'ян Ізабялевіч
62. Памешчык Мікалай Клімашэўскі, маёнтак Гродзіск
63. Дваранін Уладзіслаў Калупайла, ваколіца Рудзевічы
64. Дваранін Генрык Калупайла, ваколіца Рудзевічы
65. Дваранін Дамінік Кулікоўскі, маёнтак Бялавічы
66. Дваранін Канстанцін Кулікоўскі, маёнтак Бялавічы
67. Дваранін Уладзіслаў Календа, Ваўкавыск
68. Дваранін Людвіг Краснік, Ваўкавыск
69. Дваранін, калежскі асэсар Альберт Кульбіцкі, Ваўкавыск
70. Мешчанін Міхаіл Коўшун
71. Селянін Васіль Іосіфаў Кароль, вёска Калантаі
72. Селянін Іван Лявонаў Кейноўскі (Кійкоўскі), маёнтак Рэксці
73. Селянін Восіп Кавальскі, мястэчка Лыскава
74. Селянін Рыгор Кудраўцаў
75. Селянін Ксаверый Кавалеўскі
76. Селянін Пётр Кавалевіч, 5-ты стан
77. Селянін Франц Кудрын, 5-ты стан
78. Селянін Антон Касіла, 5-ты стан
79. Селянін Ксаверый Кулакоўскі, вёска Зэльзін
80. Селянін Іван Крэчка
81. Селянін Восіп Кірвід
82. Селянін Іван Кавальскі, мястэчка Лыскава
83. Селянін Ксаверый Каспяровіч, мястэчка Лыскава
84. Селянін Адам Каспяровіч, мястэчка Лыскава
85. Селянін Томаш Кавальскі
86. Селянін Фёдар Кулік, мястэчка Новы Двор
87. Селянін Ігнат Козел, вёска Гута
88. Яўрэй Абрам Краўчык, мястэчка Свіслач
89. Памешчык Ігнат Ляскоўскі, маёнтак Яцвезь
90. Дваранін Казімір Лапінскі, Ваўкавыск
91. Селянін Максім Ліш, вёска Маісевічы
92. Селянін Вікенцій Лашкевіч, вёска Магілёўцы
93. Селянін Юльян Лях
94. Селянін Геранім Лях
95. Селянін Ігнат Іваноў Лашкевіч, вёска Рупейкі
96. Селянін Іван Міхайлаў Лашкевіч, вёска Рупейкі
97. Яўрэй Шамін Леў, мястэчка Свіслач
98. Ксёндз Іосіф Мінчэўскі, вёска Крэмяніца

99. Памешчык Юльян Мількевіч, маёнтак Лесаўшчына
100. Дваранін Уладзіслаў Махвітц, мястэчка Міжэрычы
101. Дваранін Юльян Мільгоф, мястэчка Свіслач
102. Дваранін Язэп Малевіч, вёска Яніна
103. Аднадворац Восіп Мазырка, вёска Дамброўнікі
104. Мешчанін Ціт Місевіч
105. Селянін Людвіг Францаў Магільніцкі, мястэчка Рось
106. Селянін Фларыян Масюкевіч
107. Селянін Іван Мазурчык
108. Селянін Мікалай Мураўскі (Мураўка, Струбніцкай грамады)
109. Селянін Антон Макарэвіч, вёска Крупы
110. Селянін Казімір Мархальчук
111. Селянін Восіп Мархальчук
112. Селянін Аляксандр Марскі
113. Памешчык Уладзімір Навіцкі, Ваўкавыск
114. Памешчык Рычард Навіцкі, Ваўкавыск
115. Селянін Ігнат Несцяровіч, мястэчка Лыскава
116. Дваранін Фелікс Акінчыц, маёнтак Альбінава
117. Дваранін Канстанцін Асташка
118. Дваранін Андрэй Альшэўскі, вёска Мачуліна
119. Дваранін Антон Астроўскі
120. Селянін Станіслаў Альшэўскі
121. Селянін Іван Альшэўскі
122. Селянін Фелікс Амельянчык
123. Ксёндз Баніфацый Пісанка, мястэчка Поразава
124. Памешчык Фадзей Плянкоўскі, маёнтак Дуброўнікі
125. Памешчык Лук'ян Пачобут
126. Памешчык Іосіф Пахнеўскі, маёнтак Мачуліна
127. Дваранін Іосіф Папроцкі, мястэчка Пескі
128. Дваранін Франц Плаўскі
129. Дваранін Эдуард Паланевіч
130. Аднадворац Міхаіл Пацкевіч, ваколіца Боўблі
131. Селянін Даніла Пракурат, вёска Масевічы
132. Селянін Антон Путрэма
133. Селянін Вікенцій Піркевіч
134. Арганіст Якуб Паплаўскі, вёска Крэмяніца
135. Яго жонка Усціння
136. Памешчык Генрык Радзевіч, маёнтак Пенюга
137. Памешчык Адам Радзевіч, маёнтак Пенюга
138. Аднадворац Ігнат Антонаў Рудзіеўскі, ваколіца Стокі

139. Мешчанін Ігнат Раву
140. Селянін Франц Раманоўскі, мястэчка Новы Двор
141. Памешчык Карл Сасуліч, маёнтак Харашэвічы
142. Памешчык Ксаверы Сасуліч, маёнтак Харашэвічы
143. Памешчык Антон Стырпейка, маёнтак Пацэвічы
144. Памешчык Аляксандр Станкевіч, маёнтак Алесіна
145. Дваранін Міхаіл Сабалеўскі, вёска Харужанцы
146. Дваранін Антон Стаскевіч, фальварак Ясенавіцы
147. Дваранін Аўгустын Савашкевіч, мястэчка Свіслач
148. Дваранін Фердынанд Сакалоўскі, мястэчка Свіслач
149. Дваранін Іван Станішэўскі, Ваўкавыск
150. Дваранін Севярын Савашкевіч, мястэчка Свіслач
151. Дваранін Рудольф Савашкевіч, мястэчка Свіслач
152. Аднадворац Іосіф Станішэўскі
153. Селянін Іосіф Скакоўскі, Адамкаўскай грамады
154. Селянін Людвіг Скакоўскі, Адамкаўскай грамады
155. Селянін Якаў Салагубін, 3-ці стан
156. Селянін Марцін Сінкевіч, 5-ты стан
157. Селянін Фларыян Сіневіч, 5-ты стан
158. Селянін Антон Сакалоўскі, вёска Харужанцы
159. Селянін Варфаламей Свістун
160. Селянін Восіп Савіцкі, вёска Верашчакі
161. Яго жонка Амалія
162. Селянін Цімафей Сняжынскі, сяло Гарнастаевічы
163. Селянін Тамаш Свістун, вёска Гута
164. Селянін Адам Сімашкевіч, вёска Магілёўцы
165. Памешчык Уладзіслаў Тарасовіч, маёнтак Конна
166. Памешчык Эдуард Твардоўскі, маёнтак Галоўчыцы
167. Памешчык Вандалін Цяльшэўскі, маёнтак Грыцкаўшчына
168. Дваранін Іван Тушынскі, Ваўкавыск
169. Аднадворац Юльян Трансенберг, маёнтак Ракаўшчына
170. Селянін Пётр Тукальскі
171. Селянін Якаў Талачманскі, вёска Асошнікі
172. Аднадворац Станіслаў Фортман, мястэчка Лыскава
173. Селянін Фелікс Харкевіч
174. Селянін Раман Цяслюк, вёска Магілёўцы
175. Селянін Пётр Цеслюк, вёска Магілёўцы
176. Селянін Ксаверый Цяслюк, вёска Магілёўцы
177. Дваранін Войцех Чайкоўскі, мястэчка Свіслач
178. Дваранін Максіміліян Чайкоўскі, мястэчка Свіслач

179. Дваранін Марцін Чабан
180. Селянін Ігнат Чайкоўскі, вёска Гута
181. Памешчык Людвіг Шадурскі, маёнтак Харашэвічы
182. Дваранін Іван Шмурло
183. Мешчанін Антон Шарэйка
184. Селянін Сямён Шырокі
185. Селянін Антон Шаршуновіч
186. Селянін Аўгустын Шаршуновіч
187. Селянін Лаўрэнцій Шаршуновіч
188. Яго сын Лаўрэнцій Шаршуновіч
189. Селянін Васіль Шастак
190. Селянін Мікалай Шыманюк
191. Селянін Антон Шашаль, мястэчка Поразава
192. Селянін Франц Шырынга, мястэчка Новы Двор
193. Аднадворац Іван Юр'евіч, вёска Гута
194. Аднадворац Вікенцій Юр'евіч, вёска Гута
195. Аднадворац Іван-Рафаіл Баніфацыеў Яніцкі, ваколіца Лаўры
196. Аднадворац Франц Ярашэвіч, мястэчка Новы Двор

**Крыніца:** НГАБ у Гродне. Ф.970. Воп.2. Сп.75, с.17-22.

## Спіс асоб Ваўкавыскага павета, якія знаходзіліся пад наглядам паліцыі. Складзены 20 ліпеня 1867 года

**Першая частка спісу:**

1. Алюскевіч Аўгустын, селянін, 4 кастрычніка 1863 года, вёска Лагвіновічы.
2. Болтуць Феліцыян, дваранін, 11 жніўня 1864 года, маёнтак Самойлавічы.
3. Бабінскі Густаў, дваранін, 6 кастрычніка 1864 года, маёнтак Калосы.
4. Бабінскі Вікенцій, 7 кастрычніка 1863 года, маёнтак Свенціца.
5. Бяляўскі Уладзіслаў, дваранін, 25 жніўня 1864 года, маёнтак Ракаўшчына.
6. Банькоўскі Іван, дваранін, 7 снежня 1863 года, маёнтак Вільчукі.
7. Бако Іван, мешчанін, лістапад 1864 года, маёнтак Бялавічы.
8. Банцар Іван, селянін, 13 жніўня 1864 года, Шылавіцкай грамады, вёска Мацькаўцы.
9. Бучынько Іван, селянін, 6 кастрычніка 1863 года.
10. Вярцінскі Фларыян, дваранін, 7 кастрычніка 1863 года, пераведзены ў Бельскі павет.
11. Ваяводскі Пётр, селянін, 28 верасня 1863 года.
12. Гундзіус Іван, дваранін, 27 лістапада 1863 года.
13. Ганецкі Емяльян, мешчанін Ваўкавыска, 19 кастрычніка 1863 года, мястэчка Дзярэчын.

14. Габрусевіч Васіль, селянін.
15. Данюк Ігнат, селянін, 26 верасня 1863 года, вёска Ціманюкі.
16. Дзярэжка Ксавэрый, селянін, 19 кастрычніка 1863 года.
17. Дзярговец Юрый, селянін, 13 жніўня 1864 года, вёска Гнезна.
18. ЗавадскіВаляр'ян, 11 жніўня 1864 года, мястэчка Зэльва.
19. Зубельскі Восіп, дваранін, 19 сакавіка 1864 года, маёнтак Масушын.
20. Ігнатовіч Юльян, грамадзянін, 20 верасня 1863 года, вёска Рудзевічы.
21. Ідзікоўскі Адам, аднадворац, 26 снежня 1863 года, вёска Рудзевічы.
22. Казлоўскі Вітольд, дваранін, 23 ліпеня 1864 года, мястэчка Міжэрычы.
23. Корсак Мікалай, дваранін, 11 жніўня 1864 года.
24. Каралеўскі Антон, фельчар, 19 кастрычніка 1863 года, вёска Крэмяніца
25. Конік Мікалай, селянін, 26 верасня 1863 года, вёска Бародзічы.
26. Крышчэўскі Аляксандр, ён жа Рошчын, селянін, 26 верасня 1863 года, вёска Краскі.
27. Краўцэвіч Антон, селянін, 26 верасня 1863 года, вёска Крэмяніца.
28. Каладзінскі Адам, селянін, 26 верасня 1863 года, вёска Кватары.
29. Каралеўскі Канстанцін, селянін, 26 верасня 1863 года, вёска Конеўцы.
30. Краўцэвіч Іван, селянін, 26 верасня 1863 года, у вёсцы Крэмяніца ў ксяндза.
31. Кавалеўскі Аляксандр, селянін, 26 верасня 1863 года.
32. Квачанюк Адам, селянін, 24 чэрвеня 1863 года, Ваўкавыск у следчага.
33. Коласаўскі Іван, селянін слесар, снежань 1863 года, вёска Боўблі.
34. Лапінскі Уладзіслаў, дваранін, 11 жніўня 1864 года, Ваўкавыск.
35. Лашкевіч Іван, селянін, 28 верасня 1863 года, вёска Боўблі.
36. Лашкевіч Франц, селянін, 27 жніўня 1864 года, Калінаўшчына.
37. Махвітц Станіслаў, дваранін, 5 снежня 1863 года, мястэчка Міжэрычы.
38. Магільніцкі Франц, селянін, 30 кастрычніка 1864 года, мястэчка Рось.
39. Мандзялеўскі Іван, селянін, 28 верасня 1863 года.
40. Мяланчык Фелікс, селянін, 28 верасня 1863 года.
41. Місевіч Франц, селянін, 29 верасня 1863 года.
42. Макоўскі Іван, селянін, 13 ліпеня 1864 года, Зэльвенскай грамады.
43. Нагорскі Аляксандр, селянін, 7 кастрычніка 1863 года, вёска Міхноўка.
44. Несцяровіч Вікенцій, селянін, 24 верасня 1864 года, Зэльвенская грамада.
45. Альшэўскі Франц, фельчар бальніцы, 26 лістапада 1863 года, Ваўкавыск.
46. Ахрымовіч Калікст, дваранін, 21 лістапада 1863 года, фальварак Дзеляўшчына.
47. Аляшкевіч Аўгустын, селянін, 1 кастрычнік 1863 года, вёска Вайдзевічы.
48. Аляшкевіч Ануфрый, селянін, 3 верасня 1863 года, мястэчка Пескі.
49. Пякарскі Іван, селянін, 2 жніўня 1863 года, вёска Масевічы.
50. ПацкевічВаляр'ян, селянін, 28 верасня 1863 года, ваколіца Боўблі.
51. Пачобут Восіп, селянін, 28 верасня 1863 года, вёска Дзешкаўцы.

52. Пузін Аляксандр, ён жа Трыпуза, 28 верасня 1863 года, вёска Каласы.
53. Паткоўскі Антон, селянін, 7 кастрычніка 1863 года, вёска Бегені.
54. Пратасевіч Іван, селянін, 22 чэрвеня 1864 года, вёска Сядзельнікі.
55. Палех Антон, селянін, 24 верасня 1864 года, Тарнопальская воласць.
56. Раманоўскі Антон, селянін, 9 сакавіка 1865 года, мястэчка Поразава.
57. Рудзяеўскі Антон, памешчык, 27 жніўня 1864 года, маёнтак Стокі.
58. Рафіновіч Восіп, селянін, 26 верасня 1863 года.
59. Сарасек Восіп, былы столаначальнік павятовага суда, 23 ліпеня1864 года, Гродна.
60. Сарасек Канстанцін, вольнапрактыкуючы лекар, у Аўстрыі па пашпарце.
61. Судзік Іван, селянін, 24 чэрвеня 1863 года, вёска Краскі.
62. Скатніцкі Валяр'ян, аднадворац, 7 кастрычніка 1863 года, маёнтак Бязводнае.
63. Свідзерскі Аляксандр, мешчанін, 7 кастрычніка 1863 года, мястэчка Лыскава.
64. Сямёнаўскі Вікенцій ён жа Баярчук, селянін, 26 кастрычніка 1863 года, Вільчукоўская воласць.
65. Сямёнаўскі Уладзіслаў, селянін, 26 кастрычніка 1863 года, Вільчукоўская воласць.
66. Стаўскі Генрык, аднадворац, 28 верасня 1863 года, вёска Вайдзевічы.
67. Садоўскі Аляксандр, селянін, 18 верасня 1863 года, вёска Краскі.
68. Скібінскі Генрык, селянін, 30 жніўня 1863 года, вёска Кутнікі.
69. Сабалеўскі Ігнат, селянін, 2 верасня 1864 года, вёска Майсевічы.
70. Сакалоўскі Канстанцін, дваранін, снежань 1863 года, маёнтак Юзэфполь.
71. Тушынскі Яраслаў, дваранін, 31 кастрычніка 1863 года, Гродна.
72. Тарасевіч Рыгор, селянін, 28 верасня 1863 года, Ваўкавыск.
73. Трэйгель Мацвей, селянін, 2 студзеня 1864 года, вёска Духаўляны.
74. Фальскі Фелікс, мешчанін Ваўкавыска, 21 жніўня 1864 года, вёска Сядзельнікі.
75. Хршановіч Франц, дваранін, 30 кастрычніка 1863 года, ваколіца Лаўры.
76. Хойніцкі Пётр, селянін, 12 снежня 1863 года, вёска Андрэевічы.
77. Хацяноўскі Віктар, селянін, 24 чэрвеня 1863 года.
78. Хаецкі Дамінік, мешчанін Ваўкавыска, 30 кастрычніка 1864 года.
79. Хмялеўскі Франц, былы эканом у памешчыкаў Владычанскіх, 13 жніўня 1864 года, вёска Краскі.
80. Чайкоўскі Ціт, дваранін, 18 верасня 1864 года, у астрозе.
81. Чашэйка Аляксандр, селянін, 26 верасня 1863 года, маёнтак Струбніца.
82. Чупрэта Уладзіслаў, селянін, 28 верасня 1863 года, вёска Цеалін.
83. Шукайла Антон, селянін, 6 верасня 1864 года, вёска Грынявічы.
84. Шчансновіч Яўстафій, дваранін, 14 мая 1864 года, маёнтак Габяты.
85. Эмільянчык Фелікс, селянін, 1 кастрычніка 1863 года.
86. Юшкевіч Людвіг, 2 верасня 1864 года, ваколіца Боўблі.
87. Юркоўскі Вікенцій, дваранін, 4 жніўня 1864 года, ваколіца Боўблі.

88. Юхневіч Уладзіслаў, селянін, 1 кастрычніка 1863 года, мястэчка Воўпа.
89. Яскевіч Мікалай, селянін, 19 кастрычніка 1863 года, вёска Дзеркачы.
90. Якімовіч Адам, мешчанін Ваўкавыска, 21 лістапада 1863 года, маёнтак Струбніца.

**Другая частка спісу:**

1. Амброжка Марцін, селянін, 30 лістапада 1864 года, за садзейнічанне ў мецяжы па справе памешчыка Гліндзіча, вёска Зарэчча.
2. Брайчэўскі Рудольф, адстаўны паручнік, 27 студзеня 1865 года, пад строгім наглядам і на паруцы па падазрэнні ў садзейнічанні паўстанню, штраф 500 рублёў, маёнтак Камары.
3. Брайчэўскі Мікалай, дваранін, 27 студзеня 1865 года, тое ж, што і вышэй, у маёнтак Шыркі.
4. Банцкевіч Ягор, памешчык, на паруцы за адвоз у шайку адной асобы, зносіны з мяцежнікамі і забеспячэнне іх харчамі, штраф 100 рублёў, у маёнтку Мацкеляўшчына.
5. Банцкевіч Маўрыкій, тое ж, што і вышэй, фальварак Крыніца.
6. Булгарын Уладзімір, памешчык, 31 снежня 1864 года, на паруцы за прыняцце да сябе асобы, якая была ў мецяжы, маёнтак Беляўшчына.
7. Блажаеўскі Фелікс, былы павятовы спраўнік, 23 чэрвеня 1865 года, пад наглядам паліцыі за зносіны і дачу мяцежнікам коней мястэчка Свіслач.
8. Бартноўская Ганна, сялянка, 12 снежня 1863 года, на паруцы за садзейнічанне паўстанню, вёска Крэмяніца.
9. Бараноўскі Іван, селянін, 9 сакавіка 1865 года, на паруцы за дачыненне да павешання палясоўшчыка Горбача, мястэчка Поразава.
10. Брустэн Хаім, яўрэй, 4 лютага 1865 года, на паруцы свіслацкіх яўрэяў за адвоз двух мяцежнікаў са Слоніма ў Ваўкавыск.
11. Владычанская Іаанна, памешчыца, 7 жніўня 1864 года, на паруцы за захоўванне ў сябе патрыятычнага крыжа і за недарэчныя выказванні ў дачыненні да павешання Валовіча і Навіцкага ў вёсцы Сядзельнікі.
12. Вейсборт Ефрасіння, памешчыца, удава, 3 кастрычніка 1864 года, на паруцы за прыняцце і пачастунак мяцежнікаў, забеспячэнне іх харчамі, маёнтак Мазуркоўшчына.
13. Вейс Мечыслаў, памешчык, 5 снежня 1864 года, на паруцы за прыняцце да сябе шайкі і неданясенне своечасова начальству, маёнтак Клопаты.
14. Гліндзіч Восіп, памешчык, 12 мая 1865 года, на паруцы па абвінавачванні ў падрыхтоўцы сялян у шайку, маёнтак Вербава.
15. Гліндзіч Тэадора, удава памешчыка, 10 снежня 1864 года, пад наглядам паліцыі і на паруцы за зносіны з мяцежнікамі, дастаўленне ім харчоў і ў падрыхтоўцы сялян да паўстання, маёнтак Кватары.
16. Грушаўская Настасся, сялянка, 7 кастрычніка 1864 года, на паруцы за забеспячэнне мяцежнікаў ежаю, мястэчка Новы Двор.

17. Грушаўская Фларыяна, тое ж, што і вышэй.
18. Горбач Венедыкт, 8 мая 1864 года, на паруцы за служэнне мяцежнікам у якасці фурмана.
19. Губар Якаў, селянін, 18 лістапада 1864 года, на паруцы па абвінавачванні ў захоўванні зброі.
20. Зяновіч Ільдэфонс, селянін, 10 верасня 1864 года, на паруцы па абвінавачванні ў бунтаўнічых дзеяннях, мястэчка Поразава.
21. Каліноўскі Сямён, памешчык, 16 снежня 1864 года, пад строгім паліцэйскім наглядам і на паруцы па справе аб асобах, якія належалі да складу рэвалюцыйнага камітэта, маёнтак Якушоўка.
22. Калупайла Фердынанд, памешчык, 10 снежня 1864 года, пад строгім паліцэйскім наглядам па абвінавачванні ў бытнасць ваенным рэвалюцыйным рэферэнтам, маёнтак Свенціца.
23. Касцюк Сцяпан, былы пісар, 27 жніўня 1864 года, пад наглядам паліцыі і на паруцы па абвінавачванні ў саўдзеле ў мецяжы з недапушчэннем да грамадскіх і пісарскіх пасад ва ўсім краі, мястэчка Свіслач.
24. Кочарскі Іван, селянін, 3 сакавіка 1865 года, на паруцы па абвінавачванні ў дачы мяцежнікам харчавання з забаронай надалей займаць пасаду кіраўніка, Ваўкавыск.
25. Лапінскі Іван, бацька яго, былы сакратар павятовага суда, 30 кастрычніка 1863 года, на паруцы за дапушчэнне сыноў да паўстання, Ваўкавыск.
26. Леановіч Восіп, адстаўны тытулярны саветнік, 10 снежня 1864 года, на паруцы за зносіны з мяцежнікамі, маёнтак Лясоўшчына.
27. Леў Гершка, яўрэй, 20 лютага 1864 года, на паруцы пескаўскага кагалу па абвінавачванні ў аказанні дапамогі мяцежнікам пры праходзе шайкі праз вёску Дабраволя, шынкуе ў Дабраволі. Разам з ім на паруцы яго жонка Эстэрка і сястра Міня.
28. Малевіч Людвіка і яе дачка Аляксандра, дваране, 22 мая 1864 года, на паруцы за зносіны са сваім братам, былым жандарам-вешальнікам.
29. Алендскі Аляксандр, памешчык, 17 студзеня 1864 года, на паруцы па дачыненні да справы аб памешчыку Пахнеўскім, маёнтак Мачуліна.
30. Акінчыц Фадзей, памешчык, 5 студзеня 1864 года, пад наглядам паліцыі і на паруцы за захоўванне ў сябе рэчаў бунтаўнічай формы, маёнтак Альбінава.
31. Плаўскі Даменік, шляхціц, 20 студзеня 1864 года, на паруцы за папраўку стрэльбы з мэтай адправіць мяцежнікам, ваколіца Боўблі.
32. Плаўскі Міхаіл, шляхціц, 20 студзеня 1864 года, на паруцы ў тым, што ведаў пра вяртанне з шайкі мяцежніка і не данёс пра гэта начальству, ваколіца Боўблі.
33. Радавіцкі Станіслаў, памешчык, 10 снежня 1864 года, пад наглядам паліцыі і на паруцы за зносіны з мяцежнікамі, маёнтак Менькі.
34. Радзевіч Іван, былы прыстаў 3-га стана, 23 чэрвеня 1865 года, пад наглядам паліцыі за зносіны і пачастунак мяцежнікаў, дачу ім каня, мястэчка Свіслач.

35. Сакалоўская Канстанцыя, дваранка, 9 студзеня 1865 года, на паруцы за зносіны з мужам, які быў у мецяжы, мястэчка Свіслач.
36. Савіцкая Юлія, сялянка, 30 лістапада 1864 года, пад наглядам паліцыі і на паруцы па справе аб пачастунку з мужам мяцежніка Сідаровіча, вёска Крэмяніца. Муж яе Франц памёр.
37. Тарасовіч Канстанцін, памешчык, 10 снежня 1864 года, пад наглядам паліцыі і на паруцы за прыняцце ў сябе рэвалюцыянераў Заблоцкага і Каліноўскага, маёнтак Гнезна.
38. Трансенберг Мацвей, аднадворац, 27 жніўня 1864 года, на паруцы за дапамогу мяцежнікам, маёнтак Ракаўшчына.
39. Талачманскі Адольф, фельчар, 30 красавіка 1864 года, на паруцы за дапамогу мяцежнікам.
40. Цяльшэўскі Уладзіслаў, памешчык, 19 жніўня 1864 года, на паруцы за дастаўку мяцежнікам харчовых запасаў.
41. Шаршуноў Восіп, селянін, 18 жніўня 1864 года, на паруцы за дастаўку мяцежнікам правізіі, урочышча Горбач.
42. Шабанская Пелагея, памешчыца, 6 мая 1865 года, на паруцы за добраахвотную дачу мяцежнікам харчавання, Ваўкавыск.

**Крыніца:** НГАБ у Гродне. Ф.970. Воп.2. Сп.75 с.1-16адв.

## Спіс расійскіх салдат і афіцэраў Стараінгерманландскага палка, якія вызначыліся ў барацьбе з паўстанцамі і прадстаўленых да ўзнагароды

1. фельдфебель Карл Мацвееў сын Гузоўскі, у службе з 1855 года, з сялян Валынскай губерні;
2. унтэр-афіцэр Фёдар Пятроў сын Козяўка, у службе з 1854 года, з мяшчан Арлоўскай губерні;
3. унтэр-афіцэр Рыгор Цімафееў сын Санатонаў, у службе з 1847 года, з салдацкіх дзяцей Калужскай губерні;
4. унтэр-афіцэр Якаў Фёдараў сын Фёдараў, у службе з 1847 года, з салдацкіх дзяцей Ніжнегародскай губерні;
5. унтэр-афіцэр Іван Максімаў сын Ковэн, у службе з 1855 года, з сялян Мінскай губерні;
6. унтэр-афіцэр Іван Аляксандраў сын Аляксандраў, у службе з 1847 года, з ахрышчаных яўрэяў Гродзенскай губерні;
7. унтэр-афіцэр Артамонаў Пятроў сын Кацельнікаў, у службе з 1851 года, з сялян Маскоўскай губерні;

8. радавы Сямён Анікееў сын Казлоў, у службе з 1855 года, з сялян Віленскай губерні;
9. радавы Артамон Парамонаў сын Смычкоў, у службе з 1854 года, з сялян Уладзімірскай губерні;
10. радавы Аляксандр Аляксееў сын Калмыкоў, у службе з 1855 года, з сялян Уладзімірскай губерні;
11. радавы Яўсей Восіпаў сын Сцяпанаў, у службе з 1855 года, з сялян Смаленскай губерні;
12. радавы Латыб Бексенцьеў сын Бексенцьеў у службе з 1847 года, з татараў Казанскай губерні;
13. радавы Павел Андрэеў сын Куеўскі, у службе з 1855 года, з сялян Гродзенскай губерні;
14. радавы Цярэнцій Астаф'еў сын Астаф'еў, у службе з 1844 года, з сялян С. Пецярбургскай губерні;
15. радавы Дамінік Вінцэнта сын Казевіч, у службе з 1855 года, з сялян Віленскай губерні;
16. радавы Ілья Аляксандраў сын Румянцаў, у службе з 1854 года, з сялян Яраслаўскай губерні;
17. радавы Акім Ануфрыеў сын Цурупа, у службе з 1855 года, з сялян Кіеўскай губерні;
18. фельдфебель Ілья Аляксееў сын Шабаш, у службе з 1855 года, з сялян Кіеўскай губерні;
19. унтэр- афіцэр Пётр Васільеў сын Андрыянаў, у службе з 1949 года, з сялян Віленскай губерні;
20. унтэр- афіцэр Адам Лаўрэнцьеў сын Бушэўскі, у службе з 1855 года, з сялян Віленскай губерні;
21. радавы Аляксей Захараў сын Захараў, у службе з 1855 года, з сялян Смаленскай губерні;
22. юнкер Юзэф Самуэлеў сын Чытбаевіч, у службе з 1855 года, з дваран Каралеўства Польскага;
23. гарніст Фёдар Грыгор'еў сын Грыгор'еў, у службе з 1850 года, з сялянскіх дзяцей Наўгародскай губерні;
24. радавы Васіль Іваноў сын Іваноў, у службе з 1854 года, з сялян Арлоўскай губерні;
25. унтэр-афіцэр Харытон Савельеў сын Камчаткін, у службе з 1848 года, з сялян Яраслаўскай губерні;
26. унтэр-афіцэр Арцём Пятроў сын Коркіна, у службе з 1853 года, з сялян Пензенскай губерні;

27. унтэр-афіцэр Якаў Еўдакімаў сын Еўдакімаў, у службе з 1842 года, з салдацкіх дзяцей Магілёўскай губерні;
28. гарніст Ігнат Ягораў сын Левінчук, у службе з 1855 года, з сялян Гродзенскай губерні;
29. радавы Якаў Паўлаў сын Адзінцоў, у службе з 1855 года, з сялян Мінскай губерні;
30. унтэр-афіцэр Юстын Ягораў сын Русецкі, у службе з 1852 года, з сялян Мінскай губерні;
31. радавы Фёдар Ягораў сын Лукомскі, у службе з 1849 года, з аднадворцаў Кіеўскай губерні;
32. радавы Ціхан Андрэеў сын Казякоў, у службе з 1854 года, з сялян Арлоўскай губерні;
33. радавы Арцём Пятроў сын Шчарбакоў, у службе з 1854 года, з сялян Пскоўскай губерні;
34. радавы Аляксандр Пятроў сын Косыраў, у службе з 1849 года, з сялян Яраслаўскай губерні;
35. радавы Рыгор Сямёнаў сын Буцік, у службе з 1855 года, з сялян Віленскай губерні;
36. радавы Харытон Васільеў сын Шароў, у службе з 1845 года, з сялян Арэнбургскай губерні;
37. радавы Іван Ягораў сын Козубаў, у службе з 1847 года, з сялян Курскай губерні;
38. радавы Дзмітрый Якаў сын Янкоўскі, у службе з 1855 года, з сялян Мінскай губерні;
39. радавы Міхайла Іваноў сын Іваноў, у службе з 1855 года, з сялян Пскоўскай губерні;
40. радавы Ярома Афанасьеў сын Афанасьеў, у службе з 1854 года, з сялян Пскоўскай губерні;
41. радавы Васіль Ягораў сын Ляшкевіч, у службе з 1855 года, з сялян Віленскай губерні;
42. радавы Дзмітрый Яфімаў сын Лаўрэнцьеў, у службе з 1853 года, з сялян Уладзімірскай губерні

**Крыніца:** НГАБ у Гродне. Ф.970. Воп.2. Сп.9, с.107-113

## Імянны паказальнік

# Геаграфічны паказальнік

# Крыніцы

**Скарачэнні:**

НГАБ у Гродна – Нацыянальны Гістарычны архіў у Гродна

ЛДГА ў Вільні – Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў у Вільні

Ф. – фонд, Воп. – вопіс, Сп. – справа


1. Толмачёв Е. П. Александр II и его время. Книга первая. Москва. Терра. 1998 г.
2. Крестьянское движение в Белоруссии после отмены крепостного права (1861-1862). Документы и материалы. Минск, 1959 г.
3. НГАБ у Гродне. Ф.78. Воп.1. Сп.97
4. НГАБ у Гродне. Ф.78. Воп.1. Сп.98
5. Кастусь Каліноўскі. Гісторыка-біяграфічны нарыс. Интернет-сайт «Свіслацкія аркушы»: arkushy.narod.ru
6. НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.22. Сп.1111
7. Виленский временник. Книга 6. Архивные материалы Муравьёвского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863-1864 г.г. в пределах Северо-Западного края. Часть 1. Составитель А.И. Миловидов. Вильна 1913.
8. Гісторыя Беларусі ў шасці тамах. Том 4. Мінск, 2005.
9. Кастусь Каліноўскі. Творы і дакументы. Мінск. Беларускі кнігазбор, 1999.
10. Восстание в Литве и Белоруссии 1863-1864 гг.: материалы и документы. Москва, Наука, 1965
11. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мінск. 1997 г.
12. Kieniewicz S. Powstanie styczniowe. Warszawa, 1983
13. Дайлід Павел. Наш край у паўстанні 1863-1864 гадоў. «Дзедзіч», люты 2010
14. Ражанскі Фелікс. З Гарадзенскага ваяводства // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі. Матэрыялы міжнар. навуковай канферэнцыі. Менск, 25 верасня 2009 г. Мінск, 2011
15. Mironowicz Eugeniusz. Oleg Łatyszonek. Powstanie styczniowe. Интернет-сайт http://kamunikat.fontel.net
16. Кісялёў Генадзь. Сейбіты вечнага. Мінск, 2009
17. Виленский временник. Книга 6. Архивные материалы Муравьёвского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863-1864 гг. в пределах Северо-Западного края. Часть 2. Вильна 1915.
18. Революционный подъём в Литве и Белоруссии в 1861-1862 г.г. Москва, 1964.
19. НГАБ у Гродне. Ф. 1. Воп.34. Сп.186
20. Богданович А. Мои воспоминания//Нёман. 1984. № 5.
21. НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.34. Сп.169
22. Дьяков В.А. Деятели русского и польского освободительного движения в царской армии 1856-1865 годов. Библиографический словарь. Москва, 1967
23. История 10-го пехотного Новоингерманландского полка . Составил подполковник Пирожников. Тула, 1913
24. НГАБ у Гродне. Ф.970. Воп.2. Сп.16
25. НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.34. Сп.223
26. Мосолов Александр. Виленские очерки (1863-1865 гг.) (Из воспоминаний очевидца). Интернет-сайт www.russianresources.lt/archive/.../Mosolov_4.ht...
27. Янушкевіч Язэп. Метрыка Каліноўскага: чаму яго назвалі Кастусём. Интернет-сайт газеты «Наша Нива» от 02.02.2013 http://nn.by
28. Глеб Лободенко. Интервью у Анатоля Грицкевича. «Кастусь Калиновский и польское восстание 1863 года» / Газета «Комсомольская правда в Беларуси» от 26 января 2008 г.
29. НГАБ у Гродне. Ф.3. Воп.1. Сп.40

30. Мысліцелі і асветнікі Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1995
31. Киштымов Андрей (Минск). Отец и сын: семейная биохроника Калиновских // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі. Матэрыялы міжнар. навуковай канферэнцыі. Менск, 25 верасня 2009 г. Мінск, 2011
32. Вячаслаў Шалькевіч. Віктар Отан Каліноўскі (1833-1862) // Славутыя імёны Бацькаўшчыны.Зборнік. Выпуск 2. Мінск, Беларускі фонд культуры. 2003
33. Смалянчук Алесь. Асоба Каліноўскага як даследчая праблема // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі. Матэрыялы міжнар. навуковай канферэнцыі. Менск, 25 верасня 2009 г. Мінск, 2011
34. НГАБ у Гродне. Ф.970. Воп.2. Сп.43
35. Міхась Біч. Паўстанне 1863-1864 гг. Кастусь Каліноўскі // Гістарычны альманах, Т.6, 2002
36. НГАБ у Гродне. Ф.3. Воп.3. Сп.6
37. НГАБ у Гродне. Ф.78. Воп.1. Сп.148
38. Список землевладений в Гродненской губернии. Составил П.Диков. Гродно, 1890
39. Смалянчук А.Ф. Кастусь Каліноўскі ў польскай гістарычнай традыцыі // «Спадчына» №2, 1998
40. НГАБ у Гродне. Ф.3. Воп.1. Сп.40 а
41. Авейде О. Показании и записки о польском восстании 1863 года. Москва, 1961
42. НГАБ у Гродне. Ф.3. Воп.1. Сп.16
43. НГАБ у Гродне. Ф.78. Воп.1. Сп.100
44. НГАБ у Гродне. Ф.970. Воп.2. Сп.2
45. НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.34. Сп.172
46. НГАБ у Гродне. Ф.970. Воп.2. Сп.1
47. Мрачковский К.И. Краткая история 9-го пехотного Староингерманландского генерал-фельдмаршала князя Михаила Галицына полка. Москва, 1892 г.
48. НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.34. Сп.14
49. Czaplicki F. Moskiewskie na Litwie rządy 1863-1869. Kraków, 1869
50. Jodkowski J. W 70 rocznicę powstania styczniowego / Tygodnik Wołkowyski. № 3, 1933 r.
51. НГАБ у Гродне. Ф.970. Воп.2. Сп.9
52. История Псковского пехотного полка, составленная капитаном Гениевым. Москва, 1883
53. НГАБ у Гродне. Ф.3. Воп.1. Сп.20
54. НГАБ у Гродне. Ф.970. Воп.2. Сп.7
55. НГАБ у Гродне. Ф.970. Воп.2. Сп.18
56. НГАБ у Гродне. Ф.970. Воп.2. Сп.33
57. Полное собрание законов Российской империи. Собрание 1825-1881. Том 38. Часть 1
58. НГАБ у Гродне. Ф.3. Воп.1. Сп.31
59. Шалькевіч Вячаслаў. Невядомыя старонкі з жыцця Кастуся Каліноўскага // Сыны і пасынкі Беларусі. Мінск, «Полымя», 1996
60. Гродненские губернаторы (1801-1917). Документально-биографические очерки. Т.Ю.Афанасьева, Р.Ф.Горячева, В.В.Швед. Гродненская типография, 2007
61. НГАБ у Гродне. Ф.970. Воп.2. Сп.2
62. НГАБ у Гродне. Ф.78. Воп.1. Сп.37
63. НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.22. Сп.1385
64. НГАБ у Гродне. Ф.1. Воп.34. Сп.272
65. НГАБ у Гродне. Ф.78. Воп.1. Сп.97
66. Ратч В.Ф. Сведения о польском мятеже 1863 г. Т.1
67. Смирнов А.Ф. Восстание 1863 г. в Литве и Белоруссии. Москва, 1963 г.
68. Миловидов А.И. Перечень боевых столкновений в ходе восстания 1863-1864 г. г. Вильна 1915 г.
69. Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. II: (1772—1903 гг.). Мінск. Выдавецтва АН БССР, 1940
70. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, Т.3. Мінск, 1996 г.

